## — РАЗДЗЕЛ I —

## *Савіная пошта*

Шмат у чым Гары Потэр быў вельмі незвычайным хлапчуком. Па-першае, з усіх часоў года ён люта не любіў летнія вакацыі. Па-другое, ён вельмі імкнуўся зрабіць работу зададзеную на лета, але вымушаны быў рабіць гэта, калі аніхто ня бачыць, глыбокай ноччу. Застаецца дадаць яшчэ адно – ён быў чараўнíком.

Было ўжо далёка за апоўнач. Гары сядзеў на ўскрайку свайго ложку, з галавой накрыўшыся коўдрай, нібы знаходзіўся ў намёце, трымаючы ў адной руцэ ліхтарык, а ў другой вялізную кнігу ў скураной вокладцы (гэта была «Гісторыя Магіі» Батыльды Бэгшат) трымаючы яе адчыненай з дапамогаю падушкі. Гары з пахмурным тварам вадзіў арліным пяром па старонцы шукаючы тое, што дапамагло б яму ў напісанні сачыненне на тэму «Цалкавітая бессэнсоўнасць Вядзмаркаспалення ў чатырнаццатам стагоддзі. Абмеркаванне».

Пяро супынілася ля першага радка найверагодней выглядаючага параграфа. Гары падправіў акуляры на носе, паднёс ліхтарык бліжэй да кнігі і прачытаў наступнае:

*«Не-магічныя людзі (больш вядомыя зараз, як Маглы), асабліва баяліся чараўніцтва падчас Сярэднявечча, але не надта часта прызнаваліся ў гэтым. У тых зарэдкіх выпадках, калі яны лавілі сапраўдную вядзьмарку ці чараўніка, спаленне не прыносіла аніякага выніку. Ведзьмакі скарыстаўшыся элементарнай полымязамарозваючай замовай, рабілі выгляд, што пакутуюць ад нясцерпнага болю, а самі насалоджваліся лагодным казытаннем агню. А Вэндэліне Ракавой, гэта настолькі было да спадобы, што яна дазваляла лавіць сябе пад рознымі абліччамі ня менш за сорак разоў.»*

Гары, заціснуўшы пяро зубамі, выцягнуў з-пад падушкі чарніліцу і скрутак пергаменту. Павольна і вельмі асцярожна, ён пачаў адкручваць накрыўку, Абмакнуў пяро і асцярожна пачаў пісаць, адчасу супыняючыся і прыслухоўваючыся, бо, калі б хтось з сям'і Дурслі на шляху ў ванную, пачуў бы драпанне яго пяра, Гары хутчэй за ўсё правёў бы ўвесь астатні час вакацыяў, замкнутым у каморы пад лесвіцай.

Сям'я Дурслі, што месцілася ў доме нумар 4 па Прайвет Драйв, і была тым самым чыннікам з-за якога Гары ніколі не атрымліваў задавалнення з летніх вакацыяў. Дзядзька Вернан, цётка Пятунья і іх сын Дадлі, былі адзінымі жывымі Гарынымі сваякамі. Адначасова з гэтым яны былі стоадсодкавымі магламі і мелі на чараўніцтва сярэднявечныя погляды. Загінуўшыя бацькі Гары, быўшыя чараўнікамі, ніколі не ўзгадваліся ў дурсяўскай хаце. На працягу шмат год цётка Пятунья і дзядзька Вернан былі ўпэўненыя, што калі будуць з усяе моцы задзюбваць хлопца, гэта дапаможа знішчыць у ім чараўніцкія здольнасці. І як жа ж яны ашалелі, калі пацярпелі паразу. Больш таго, цяпер яны жылі ў незвычайным страху з таго, што хто-небудзь даведаецца, што Гары большую частку з апошніх двух год правёў у Школе Вядзьмарства і Чараўніцтва Хогвартс. Самае большае, што цяпер маглі зрабіць Дурслі, гэта схаваць

найдалей Гарыны кнігі замоваў, чараўніцкую палачку, кацёл і мятлу адразу на пачатку летніх вакацыяў і забараніць яму размаўляць з суседзямі.

Адсутнасць доступу да кнігаў была для Гары рэальнай праблемай, бо яго настаўнікі з Хогвартса паназадавалі шмат работы на вакацыі. Адно з сачыненняў было асабліва небяспечным, яно было прысвечана Памяньшальным Зеллям і было, зададзена самым нянавісным для Гары настаўнікам, прафэсарам Снэйпам, які будзе ў наймацнейшым захапленні, калі будзе мець падставу для затрымання хлопца пасля заняткаў на працягу месяца. Гары скарыстаўся першым жа шанцам, які выпаў у першы тыдзень вакацыяў. Калі дзядзька Вернан разам з цёткай Пятуньяй і Дадлі выйшлі да прысады, каб разам пазахапляцца новай дзядзькавай службовай машынай (а рабілі яны гэта вельмі моцнымі галасамі, каб чулі ўсе суседзі), Гары ціхуценька зпоўз на першы паверх ускрыў замок каморы, схапіў колькі кніг і схаваў іх у сваёй спальне. А так як ён не пакідаў чарнільных пятнах на сваёй прасціне, Дурсі і здагадацца не маглі, что ён па начах вывучае чараўніцтва.

Зараз Гары з усяе сілы імкнуўся не чапляць іх, бо дзядзька з цёткай былі на яго моцна раззлаваныя, у сувязі з тым што у адзін з першых жа дзён вакацыяў да яго патэлефанаваў сябра з чараўніцкай школы.

Рон Візлі, які быў адным з лепшых Гарыных школьных сяброў паходзіў з цалкавіта чараўніцкай сям'і. У сувязі з гэтым, ён ведаў шмат чаго, аб чым Гары нават не здагадваўся, але нават ня ведаў як карыстацца тэлефонам. Да таго ж, на бяду, слухалку падняў дзядзька Вернан.

- Вэрнан Дурслі слухае!

Гары, які выпадкова апынуўся ў пакое у гэты час, ажно анямеў, калі пачуў у адказ голас Рона.

- АЛЁ? АЛЁ? ЦІ ВЫ ЧУЕЦЕ МЯНЕ? Я – ХАЧУ – ПАГАМАНІЦЬ – З – ГАРЫ – ПОТЭРАМ!

Рон галасіў настолькі гучна, што дзядзька ўскочыў на ногі і адсунуў слухалку на цэлы фут ад вуха і пазіраў на яе з тварам на якім адначасова чыталіся шаленства і жах.

- ХТО ГЭТА?- закрычаў ён у слухалку.- ХТО ВЫ ТАКІ?

- РОН – ВІЗЛІ!- загарланіў Рон у адказ, быццам размаўляў з Вернанам з іншага боку вялізнага футбольнага поля. – Я – ШКОЛЬНЫ – СЯБРА – ГАРЫ!

Маленечкія вочы дзядзькі Вернана развярнуліся ў бок Гары, які зкамянеўшы стаяў побач.

- НЯМА ТУТ АНІЯКАГА ПОТЭРА!- закрычаў ён, працягваючы трымаць слухалку на адлегласці выцягнутай рукі, быццам тая магла выбухнуць,- НЯ ВЕДАЮ ПРА ЯКУЮ ШКОЛУ ВЫ КАЖЫЦЕ! І НЕ ТЭЛЕФАНУЙЦЕ МНЕ БОЛЬШ! НАВАТ НЕ НАБЛІЖАЙЦЕСЯ ДА МАЁЙ СЯМ'І!

І ён кінуў слухалку так, як звычайна адкідваюць ад сябе атрутнага павука.

Тое што адбылося пасля, было адным найгоршоршых урадажанняў Гары.

- ЯК ТЫ НАВАТ АСМЕЛІЎСЯ ДАЦЬ ГЭТЫ НУМАР ТАКІМ ЛЮДЗЯМ ЯК... ТАКІМ ЛЮДЗЯМ ЯК ТЫ САМ!- равеў дзядзька Вернан пырскаючы на Гары слінай.

Рон, відавочна, зразумеў, шо з-за яго Гары трапіў у бяду, таму больш не пытаўся яму тэлефанаваць. Гарына сяброўка па Хогвартсе Герміёна Грэйнджер нават не пыталася з ім

скантактавацца. Хлопец падазраваў, што Рон папярэдзіў яе аб наступствах і надта шкадаваў, бо Герміёна была самай разумнейшай вядзьмарачкай сярод яго аднакласнікаў, да таго ж паходзіла з сям'і маглаў і выдатна ведала, як карыстацца тэлефонам. Больш таго, у яе хапіла б розуму не ўзгадваць аб Хогвартсе.

Таму Гары ня меў на працягу пяці тыдняў сувязі ані з водным з сяброў і гэтае лета адбылося амаль гэткім жа дрэнным, як і папярэдняе. Існавала толькі адно значнае паляпшэнне, пасля таго, як хлопец пакляўся не выкарыстоўваць яе для дасылання лістоў сябрам, Гарынай саве Хэдвіг было дазволена вылятаць на вуліцу ў ночы. Дзядзька згадзіўся на гэта праз той лямант, што Хэдвіг падымала, калі ўвесь час сядзела ў клетцы.

Гары скончыў пісаць аб Вэндэліне Ракавой і зноў супыніўся, каб шчэ раз прыслухацца. Цішыню ў ухутаным цемраю доме парушалі толькі рохкаючыя храпакі, яго неверагодна тлустага стрыечанага брата Дадлі. Было ўжо вельмі позна. Вочы хлопца пачалі гарэць ад стомы. Напэўна прыйдзецца дапісваць сачыненне наступнай ноччу...

Гары закруціў накрыўку на чарніліцы, дастаў з-пад ложка старую навалачку, паклаў у яе ліхтарык, Гісторыю Магіі, сваё сачыненне і чарніліцу. Потым апусціўся на падлогу і схаваў ўсё за дрэнна закрэпленнымі масніцамі пад сваім ложкам. Хлопчык падняўся на ногі, пацягнуўся і зірнуў на будзільнік са светлавым цыферблатам, што стаяў на століку ля яго ложку.

Была першая гадзіна па апоўначы. У Гарыным жываце заказытала. Ён ужо цэлую гадзіну, як быў трынаццацігадовым і нават забыўся на гэта.

У Гары была ячшэ адна незвычайная асаблівась, ён ніколі нічога не чакаў ад свайго дня нараджэння. За ўсё сваё жыццё хлопец аніразу не атрымліваў віншавальных паштовак. Дурслі, тыя і ўвогуле праігнаравалі два яго апошніх дня народзінаў і Гары сумняваўся, што прыпомняць нешта ў гэты раз.

Ён прайшоў ўздоўж пакрытага цемраю пакоя, міма пустой клеткі Хэдвіг да адчыненага акна. Хлопец абапёрся на падваконнік, халоднае начное паветра прыемна абдувала яго твар, пасля працяглага часу праведзенага пад коўдрай. Хэдвіг не з'яўлялася другую ноч запар. За яё Гары не турбаваўся, тая і раней адлятала на працяглы час, але ж ён спадзяваўся на яе хуткае аб'яўленне, бо сава была адзінаю жывой істотаю ў хаце, якая не калацілася з жаху, убачыўшы яго.

Гары хаця і быў замалым для свайго ўзросту, тым ня менш за апошні год выцягнуўся на колькі цаляў. Ён меў чорнае, як смала валоссе, што заўсёды знаходзіліся ў даволі бязладным стане, што б хлопец з імі не рабіў. Вочы за круглымі акулярамі былі яскрава зялёнымі, а на ілбе быў тонкі шнар падобны на маланку, выразна бачны за валасамі.

З ўсіх незвычайных асаблівасцяў Гары, шнар быў самым асаблівым. На пряцягу дзесяці год Дурслі сцвярджалі, што хлопец атрымаў яго падчас аўтакатастрофы ў якой загінулі яго бацькі, але ж гэта было лухценню, бо Лілі і Джэймс Потэры ніколі не траплялі ані ў якую аўтамабільную аварыю. Яны былі забіты і зрабіў гэта самы жахлівы з усіх чорных ведзьмакоў за апошнія сто год – Лорд Вальдэморт. Гары ж пазбег смерці падчас той атакі і абыйшоўся толькі шнарам на лбе, калі праклён Вальдэморта замест таго, каб забіць хлопца адскочыў у свайго стваральніка. Сам Вальдэморт ледзве жывы знік...

Але потым Гары не аднаразова сустракаўся з ім пад час навучання ў Хогвартсе. Стоячы ля цёмнага акна і ўспамінаючы іх апошнюю сустрэчу, Гары быў вымушаны прызнаць, што яму надта пашанцавала ўвогуле сустрэць трынаццаты дзень нараджэння.

Ён паглядзеў у поўнае зорак неба, спадзяючыся ўбачыць Хэдвіг, якая мажліва зараз парыла дамоў трымаючы ў дзюбе здохлую мыш, чакаючы пахвалы ад гаспадара. Гары ў разгубленасці глядзеў на вяршыні дамоў і прайшло колькі секунд, каб ён зразумеў тое, што бачыў.

На фоне залатога месяца з’явілася і штоімгненне станавілася ўсё буйней нейкае, неверагодным чынам перакрыўленнае, стварэнне, што ляцела ў напрамку Гары. Хлопец не рухаючыся стаяў і назіраў, як істота спускалася ўсё ніжэй і ніжэй. Дзель секунды Гары хістаўся, трымаючы руку на раме, ці не зачыніць акно, але тут дзівоса праляцела ля аднаго з ліхтароў на Прайвет Драйв і хлопец, зразумеўшы, што ўбачыў, адскочыў у бок.

Праз акно ў Гарын пакой заляцелі тры савы, дзве з якіх падтымлівалі трэццю знаходзячуюся па за прытомнасцю. Совы з мягкім глухім гукам прызямліліся на ложку і сярэдняя - вязізарная і шэрая адразу ж павалілася на правы бок. Да яе ног быў прывязаны аб’ёмісты пакунак.

Гары адразу ж пазнаў непрытомніцу, яе імя было Эрал і яна належыла сям’і Візлі. Хлопец адразу ж кінуўся да яе, адвязаў матузкі з яе лап, зняў пакунак і перанёс Эрал да пустой хэдвігавай клеткі. Эрал адчыніла адно закаламучанае вока, енкнула ў знак падзякі і задыхаючыся пачала піць ваду.

Гары развярнуўся да астатніх птушак, адна з іх вялізная Палярная сава належыла самому Гары. Хэдвіг таксама прынесла пакунак і была вельмі задаволена сабою. Яна ласкава дзюбнула хлопца, калі ён звольніў яе ад грузу і, праляцеўшы праз весь пакой, далучылася да Эрал.

Гары ніколі не бачыў трэцяй савы, буйную цёмна-жоўтага колеру, але адразу ж здарадаўся адкуль яна, таму што ў дадатак да пасылкі, яна прынесла паштоўку з эмблемаю Хогвартса. Калі Гары вызваліў саву ад яе ад пошты, тая шляхетна ўскудлаціла пер’е, расхінула крылы і адляцела праз вакно ў цемру.

Гары прысеў на ложку і схапіў пакунак прынесены Эрал, ён разгарнуў карычневую паперу і знайшоў там падарунак у залатой абгортке і сваю першую ў жыцці віншавальную картку. Дрыжачымі пальцамі ён разарваў канверт з якога выпалі дзве паперкі – ліст і газэтная выразка.

Выразка яўна паходзіла з чарадзейскага выдання «Штодзённы Вяшчун», таму што людзі на чорнабелых выявах рухаліся. Гары разгладзіў выразку і прачытаў наступнае:

*ЧЫНОЎНІК МІНІСТЭРСТВА МАГІІ ВЫЙГРАЎ ГАЛОЎНЫ ПРЫЗ*

*Артур Візлі, Кіраўнік Бюро па Барацьбе са Зламысным ужываннем Магластворанымі рэчамі пры Міністэрстве Магіі атрымаў Галоўны Прыз штогадовай латэрэі «Галеён Штодзённага Вяшчуна»*

*Задаволенны містэр Візлі паведаміў карэспандэнтам газэты: «Свой выйгрыш мы патрацім на летні адпачынак ў Егіпце, дзе наш старэйшы сын Біл працуе над скасаваннем праклёнаў у мясцовым аддзяленні Чараўніцкага банка Грынгатс»*

*Сям’я Візлі правядзе ў Егіпце месяц і вернецца, як раз да пачатка вучэбнага году ў Хогвартсе, дзе вучацца пяцёра іх дзяцей.*

Гары паглядзеў на рухаючуюся выяву і ўсьмешка распаўзлася па яго твары, калі ён убачыў усіх дзевяцёх Візлі шалёна махаючых яму на фоне Вялікай Піраміды. Тоўсценькая місіс Візлі, яе лысаваты муж, шэсць сыноў і дачушка. Усе (хаця на чорна белай выяве гэтага не было відаць) з палымняна рудым валоссем. Прамкі пасярэдзіне здымка стаяў Рон, трымаючы на плячы свайго хатняга звярка – пацука Скаберса, а рукой абдымаючы сваю малую сястрычку Джыні.

Гары нават не думаў аб тым, што хтось заслужыў гэтую купу золата больш за гэткіх любасных, але вельмі бедных Візлі. Хлопец разгарнуў ліст, дасланы яму Ронам.

*Даражэнькі Гары,*

*Віншую цябе з днём народзінаў!*

*Не ўяўляеш, як моцна я шкадую аб тым тэлефонным званку. Спадзяюся гэта не вельмі пашкодзіла тваім зносінам з маглами. Я раіўся з татам і ён вырашыў, што мне трэба было размаўляць крышачку ціхэй.*

*У Егіпце проста неверагодна. Біл правёў нас ўздоўж усіх грабніцаў, не ўяўляеш наколькі моцныя замовы наклалі на іх старажытныя егіпецкія чараўнікі. У апошнюю з іх мама нават забараніла Джыні ўваходзіць. Мы бачылі сапраўды мутантцкія шкілеты маглаў, якія туды забіраліся і ў іх выраслі дадатковыя галовы і шмат яшчэ чаго.*

*Я не паверыў, калі даведаўся, што тата выйграў Прыз ад Штодзённага Вешчуна! Семсот залатых галеёнаў! Большасць з іх канечне пайшла на адпачынак, але мне ўсёроўна абяцалі набыць новую палачку.*

Гары добра памятаў, як была зламана старая палачка Рона. Гэта адбылося падчас аварыі, якую пацярпеў аўтамабіль, на якім яны прыляцелі ў Хогвартс, калі той урэзаўся ў дрэва на тэрыторыі школы.

*Мы вернемся дамоў прыблізна за тыдзень да пачатку заняткаў і паедзем ў Лондан за маёй новай палачкай і новымі падручнікамі. Можа выпадзе шанец на сустрэчу?*

*Не дазваляй маглам задзюбваць цябе!*

*Спадзяюся на сустрэчу ў Лондане,*

*Рон.*

*PS: Пэрсі абралі на старасту школы. Ён атрымаў ліст тыдзень таму.*

Гары другі раз глянуў на фота. Пэрсі, які вучыўся ў сёмым, выпускным класе выглядаў больш чым задаволеным. Свой значок старасты, ён начапіў на феску – нацыянальны егіпецкі капялюшык, што зухавата сядзеў на яго акуратна прычэсанай фрэзуры, а шкельцы яго акуляраў у рагавой аправе блішчэлі ў промнях егіпецкага сонца.

Пасля, Гары абярнуўся ў бок свайго падарунка. У пакунку было нешта накшталт невялічкага шклянога турка́, да якога была дададзена занатоўка Рона.

*Гары – гэта Партатыўны Брыдаскоп. Калі паблізу ад цябе апынецца які злыдзень, ён пачне свяціцца і круціцца вакол сябе. Біл сцвярджаў, што гэта халусце, якое прадаецца чараўнікам-турыстам, бо той свяціўся ўсю таганочную вячэру. Але ж ён ня ведаў, што Фрэд з Джорджам накідалі жукоў у яго суп.*

*Бывай – Рон.*

Гары паклаў Брыдаскоп на столік ля ложку, дзе той ўстаў балансуючы на сваім кончыку і на яго паверхні адлюстроўваліся светлавыя стрэлкі яго будзільніка. Хлопец захопленна паглядзеў на гэта відовішча колькі секунд, а потым звярнуўся да пакунку прынесенага Хэдвіг.

У ім месціліся загорнуты ў паперу падарунак, віншавальная картка і ліст, на гэты раз ад Герміёны.

*Любы Гары,*

*Рон напісаў мне і паведаміў аб тэлефоннай размове з тваім дзядзькам Вернанам. Спадзяюся з табой ўсё добра.*

*Зараз я знаходжуся ў адпачынку ва Францыі і не ведала, як даслаць табе свой падарунак і што адбылося б на мытні, калі б яго раскрылі? Добра, што паблізу аб’явілася Хэдвіг! Пэўна ёй вельмі хацелася, каб дзеля разнастайнасці хаця б у гэтым годзе ты не застался без падарунка. Я набыла яго праз сэрвіс «Тавары Совамі», рэкламу якога пабачыла ў «Штодзённы вяшчуне» (Я атрымліваю яго з дастаўкай, бо так добра заўжды ведаць аб тым што дзеецца ў чараўніцкім свеце). Бачыў фатаздымак Рона з сям’ёй тыдзень таму? Магу паспрачацца, ён там столькі ўсяго панавывучае, я нават пачынаю зайздросціць, бо старажытнаегіпецкія чараўнікі – такія выдатныя.*

*Тут таксама шмат чаго цікавага. Мне нават прыйшлося перапісваць сваё сачыненне па Гісторыі Магіі, бо вельмі хацелася напісаць аб тым, што я тут даведалася. Спадзяюся, яно атрымалася ня вельмі доўгім, я напісала на два скруткі пергаменту больш, чым прасіў прафесар Бінс*

*Рон прапануе сустрэцца ў Лондане на апошнім тыдні перад заканчэннем вакацыяў. А ў цябе ці атрымаецца? Дзядзька з цёткай дазволяць? Спадзяюся што так. Калі не, сстрэнемся першага верасня ля Хогвартс-Экспрэса!*

*З любоўю*

*Герміёна*

*P.S. Рон напісаў, што Персі абралі на Старасту Школы. Трымаю заклад, што той надта задаволены. А вось Рону здаецца, гэта не надта да спадобы.*

Гары зноў усміхнуўся, адклаў у бок паштоўку Герміёны і ўзяўся за яе падарунак. Там было нешта даволі цяжкое і ведаючы Герміёну, хлопец спачатку вырашыў, што гэта таўсценная кніга замудрагелістых замоваў, але ён памыліўся. Яго сэрца пачало шалёна грукатаць, калі ён разгарнуў пакунак і ўбачыў чорны скураны куфэрак на якім срэбнымі літарамі было выціснута «Набор дзеля абслугования мятлы»

- Анішто сабе, Герміёна!- прашапатаў Гары, адчыняючы куфэрачак, каб зазірнуць ў яго.

У ім месцілася вялізная бляшанка высокаякаснай флітвудцкай паліролі для аздаблення тронка, бліскучыя срэбныя абцужкі для даглядання хваста, маленечкі латунны компас з зашчэпкай, які можна ўжываць падчас працяглых вандровак і дапаможнік «Даглядай сваю мятлу самастойна»

Акрамя сяброў, Гары страшэнна не хапала яшчэ аднаго, Квідытча, гульні з якой ён пазнаёміўся ў Хогвартсе і якая да таго ж была вельмі папулярнай у чараўніцкім свеце – надта небясьпечная, але такая захапляльная, бо гуляюць ў яе на мётлах. Высветлілася, што Гары даволі добра гуляе ў гэтую гульню, больш таго, ён апынуўся самым маладым гульцом за цэлае стагоддзе, якога абралі ў каманду аднаго з Дамоў Хогвартса. Адной з самых каштоўных для Гары рэчаў была гоначная мятла Німбус 2000.

Хлопец адклаў скураны куфэрак ў бок і прыняўся за апошні пакунак. Па нязграбных крамзолях на абготцы Гары адразу пазнаў віншавальніка. Гэта быў Хагрыд, хогвартскі ляснічы. Хлопец сарваў верхні слой паперы і пабачыў нешта зялёнае і скурападобнае, але не паспеў ён разгарнуць ўсё належным чынам, як падарунак пачаў дзівосным чынам дрыжэць, а тое што было ўсярэдзіне гучна пстрыкнула, як тыя сківіцы.

Гары змярцвеў. Канечне ён ведаў, што Хагрыд ніколі не дашле яму штось небяспечнае, але ж хлопчык таксама ведаў, што разуменне аб небяспечнасці ў Хагрыда адрозніваецца ад звычайнага чалавека. Агульнавядома што той мог найпроста сябраваць з гіганцкімі павукамі, набыць у выпадковага знаёмага злоснага трохгаловага сабаку ці таямніча пранесці ў сваю хацінку забароненнае законам яйка дракона.

Гары нярвуючыся штурхнуў пакунак. Той зноўку пстрыкнуў. Хлопчык пацягнуўся да лямпы на століку, моцна схапіў яе адной рукою і падняў па над галавою, гатовы у любы момант стукнуць змесціва пакунку. Другой рукой ён схапіў астатнюю абгортку і сцягнуў яе.

Гэта была кніга. Гары хапіла часу толькі, каб заўважыць прыгожую зялёную вокладку і назву «Пачварная кніга аб пачварах» зробленную залатымі літарамі, перш чым кніга самастойна паднялася на рабро і заварушылася ўздоўж ложка, як нейкі дзівосны краб.

- Аёйку, - прамармытаў Гары.

З цяжкім грукатам кніга звалілася на падлогу і панеслася уздоўж пакою.Гары на пальчыках пацягнуўся ўслед. Кніга схавалася ў самы цёмны куток пад пісьмовым сталом. Малячыся, каб Дурслі працягвалі моцна спаць, Гары лёг на падлогу і пацягнуўся за кнігай.

- Вой!

Кніга цапнула яго за руку і няспешна паварушылася міма яго, рухаючыся з дапамогай ўласнай вокладкі. Гары рыўком развярнуўся, кінуўся наперад і схапіў яе. Дзядзька Вернан гучна замармытаў у сне ў суседнім пакоі.

Хэдвіг і Эрал з зацікаўленнасцю назіралі, як Гары працягваючы змагацца з кнігай, прыціснуўшы яе да грудзей, паспяшаўся да камоды і выцягнуўшы з яе дзягу, моцна зацягнуў яе вакол кнігі. «Пачварная кніга» вар'яцкі хісталася, але ўжо не магла ані пстрыкаць, ані цапаць, таму хлопчык кінуў яе на ложак і пачаў чытаць віншаванне ад Хагрыда.

*Даражэнькі Гары,*

*Віншую з днём нараджэння!*

*Лічу, што гэтая кніга надта спатрэбіцца табе ў гэтым годзе. Больш нічога не скажу, паведамлю пры сустрэчы.*

*Маю надзею, што маглы добра з табой абыходзяцца.*

*Усяго найлепшага,*

*Хагрыд.*

Гары падалося што ёсць нейкая злавеснасць ў словах Хагрыда аб тым, што хлопчыку можа спатрэбіцца куслівая кніга, тым ня менш ён паставіў картку Хагрыда да віншаванняў Рона і Герміёны, усміхаючыся яшчэ шырэй. Засталося прачытаць толькі ліст з Хогвартса.

Заўважыўшы, што паштоўка таўсцей чым звычайна, Гары разадраў канверт, выцягнуў з яго першы скрутак і прачытаў:

*Паважаны містэр Потэр,*

*Звяртаем вашу ўвагу на тое, што новы вучэбны год пачнецца першага верасня, Хогвартс-Экспрэс адыходзіць з вакзала Кінг Кросс, ад платформы дзевяць і тры чвэрці аб адзінаццатай гадзіне.*

*Вучням трэцяга году навучэння падчас выходных дазваляецца наведваць вёску Хогсмід. Калі ласка падпішыце ў вашых бацькоў, альбо апекуноў прыкладзены да ліста бланк.*

*Спіс кніг на наступны год прыкладаецца.*

*З шчырай павагай,*

*Прафэсар М. МакГонагал*

*Намесніца Дырэктара.*

Гары выцягнуў бланк дазволу на наведванне Хогсміда і глядзеў на яго больш не усміхаючыся. Як было б хораша наведвацца туды па выходных. Хогсмід - вёска цалкам чараўніцкая і Гары добра пра яе ведаў, але аніразу не наведваў. І як  пераканаць дзядзьку ці цётку падпісаць бланк дазволу?

Ён зірнуў на будзільнік. На ім была ўжо другая гадзіна ночы.

Вырашыўшы, што аб бланку дазвола ён патурбуецца, калі прачнецца, Гары вярнуўся ў ложак і пасьпяшаўся выкрасліць з самаробнага графіку яшчэ адзін прамінулы дзень, які застаеўся яму да вяртання ў Хогвартс. Потым зняў акуляры і лёг з раскрытымі вачыма, гледзячы на ажно тры віншавальных карткі.

І вось такі незвычайны Гары Потэр ў гэты момант адчуваў, як і ўсе астатнія дзеці радасць. Ён першы раз ў жыцці радаваўся свайму дню нараджэння.

## — РАЗДЗЕЛ II —

### *Вялізная памылка цёткі Мардж*

Калі ранніцай Гары спусціўся да сняданку, усе Дурслі ўжо сядзелі за куханным сталом. Яны глядзелі новы брэндавы тэлевізар, які Дадлі атрымаў ў напачаткувакацыйны падарунак, бо Дурслі малойчшы дужа скардзіўся, што ад тэлевізара ў гасцёўне да лядоўні з прысмакамі надта доўга ісці. Большую частку лета Дадлі правёў менавіта на кухні не адрываючы маленькіх свінных вачанятак ад экрана, хістаючы сваімі пяццю падбароддзямі, бо бесперапынна штось жэр.

Гары прысеў паміж Дадлі і дзядзькамі Вернанам, буйным, тлусценным чалавекам з замалой шыяй, але велічэзнымі вусішчамі. Зусім не жадаючыя, каб у Гары быў шчаслівы дзень нараджэння, Дурслі аніякім чынам не паказалі, што заўважылі  яго аб’яўленне ў пакоі, але для Гары гэта было чымсь натуральным. Ён ўзяў сабе кавалак тосту і зірнуў на апошнія тэленавіны, дзе дыктар паведамляў аб уцёках нейкага злачынцы.

- ...грамадскасць папяджана, што Блэк мае зброю і вельмі небяспечны. Была створана гарачая лінія, па якой трэба неадкладна тэлефанаваць, калі вы штось ведаеце аб яго месцазнаходжанні.

- Маглі б нават не паведамляць, што ён злыдзень, - пырхнуў дзядзька гледзячы на фота ўцекача, - Толькі зірніце на яго – гідкі абібок. А яго фрэзура!

Вернан прынізліва кінуў погляд у бок Гары, бязладнае валоссе якога было падставаю да спрадвечнага дзядзькава раздражнення. Але ў параўнанні з калтунамі па локаць даўжынёй атачаюшчымі брыдкі твар зняволеннага, фрэзура Гары выглядала, як звышдагледжаная.

Потым зноў аб’явіўся дыктар.

- Міністэрства Сельхозгаспадарчай і Рыбнай прамысловасці абвесціць сёння...

- А ну, чакай,- зароў дзядзька Вернан, дыктару, - Ты ж не паведаміў адкуль збег гэты маньяк. Ці ж гэта навіны?! Можа гэты вар’ят ўжо ідзе па маёй вуліцы!

Цётка Пятунья - кашчаватая асоба з канячым тварам, імгненны развярнулася і ўперылася ў акно кухні. Гары ведаў, што цётка жарсць як любіць быць першай тэлефанавальніцай на разнастайныя гарачыя лініі, яна ўвогуле была задапытлівейшай жанчынай у свеце і большасць жыцця правяла падглядаючы за сваімі нудотна-законапаслухмянымі суседзямі.

- Калі яны ўжо навучацца, - прамовіў дзядзька Вернан, грукаючы па стале сваім вялізным фіялетавым кулаком, - што шыбеніца – адзіны спосаб мець справу з такімі людзьмі?

- Цалкам згодна, - адказала цётка Пятунья, працягваючы адным вокам глядзець у бок суседскай фасолі

Дзядзька ў адзін глыток дапіў свой кубак і паглядзеўшы на гадзіннік дадаў:

- Я ўжо павінен спяшацца, Пятунья. Цягнік з Мардж прыбывае а дзесятай.

Гары, чыя думкі зараз былі далёка наверсе разам з «Наборам дзеля абслугоўвання мётлаў» імгненна з глухім ударам зваліўся на зямлю.

- Цётка Мардж?-  з жахам вымавіў ён,- Я-яна што, збіралася прыехаць?

Цётка Марджа была сястрою дзядзькі Вернана. І хаця яна не была яго кроўнай сваячкай (бо маці Гары была роднай сястрой цёткі Пятуні), ён ўсё жыццё быў вымушаны называць яе цёткай. Мардж жыла ў вёсцы ў доме з велізарным садам, дзе яна гадавала бульдогаў. На Прайвет драйв яна аб’яўлялася даволі рэдка, бо не магла надоўга развітацца са сваімі каштоўнымі сабакамі. Але ж кожны яе прыезд відавочным жахам застаўся ў свядомасці хлопца.

Калі Дадлі святкаваў пяты дзень народзінаў, цётка Мардж збіла Гары па галёнках сваім кійком, каб той ня смеў перамагаць яе ўлюбёнца ў гульню «Музычныя статуі». Праз некалькі год яна аб’явілася на Каляды і прывезла Дадлі камп’ютэрызаванага робата, а Гары скрынку сабачага печыва. А падчас яе візіта за год да паступлення Гары ў Хогвартс, хлопец выпадкова наступіў на лапу Рыперу, аднаму з яе ўлюбёных бульдогаў. Сабака доўга бегаў за Гары па садзе і ўрэшце загнаў на дрэва. Дык Мардж увяла рыпера толькі па апоўначы. Калі Дадлі прыпамінаў гэты выпадак у яго яшчэ доўга выступалі на вачах слёзы ад смеху.

- Мардж прабудзе тут увесь тыдзень, - раўнуў дзядзька Вернан,- і дарэчы,- ён пагрозліва тыкнуў свой тоўсты палец у Гары,- мы з табой дамовімся а сім-тым, пакуль я за ёй не паехаў...

Дадлі ўсміхнуўся і адарваў вочы ад тэлевізара.

Пазіраць на тое, як бацька запалохвае Гары было ўлюбёнай забавай Дурслі малодшага.

- Па-першае,- рыкнуў дзядзька Вернан,- ты павінен размаўляць з Мардж як цывілізаваныя людзі.

- Добра, - з’едліва адказаў Гары, - але толькі, калі яна гэдак жа будзе размаўляць са мной.

- Па-другое, - працягваў дзядзька зрабіўшы выгляд, што ня чуў яго адказу,- Мардж нічога ня ведае аб тваёй ненармалёвасці і я не жадаю, каб ты дэманстраваў ёй свае вар’яцкія дзівацтвы, ці ты добра мяне зразумеў?

- Калі яна будзе рабіць тое самае, - сціснуўшы зубы адказаў Гары

- І па-трэцяе,- працягваў Вернан, яго вочкі звузіліся і быццам зніклі з яго барвовага твара,- мы паведамілі Мардж, што ты вучышся ў Закрытым Цэнтры Святога Брута для хлопцаў з паталагічнымі схільнасцямі да злачынстваў

- Што?!- прагаласіў Гары.

- І ты будзеш прытрымліватца гэтай гісторыі, ці чакай бяды,- пырснуў слiной дзядзька Вернан.

Гары сядзеў збляднелы і раз’юшчаны і глядзеў на Вернана з цяжкасцю верачы ў тое, што ён казаў. Тыднёвы візіт цёткі Мардж – горшага падарунка ад Дурслі на дзень нараджэння цяжка было ўявіць, нават горшы за старыя дзядзькавы шкарпэткі.

- Добра, Пятунья,- прамовіў Вернан падымаючыся на ногі, - я паехаў на станцыю. А ці ты не жадаеш праехацца, Дадэрс?

- Не, -адказаў Дадлі, зноўку ўперыўшыся ў тэлевізар, калі дзядзька скончыў лаянку з Гары.

- Дадзі трэба падрыхтавацца да візіту любай цётачкі,- прамовіла цётка Пятунья,- гладзячы Дадлі па тоўстай светлавалосай галаве,- Мамачка набыла яму выдатны новы гальштук-бабачку.

Дзядзька Вернан пахлопаў сына па тоўстаму плячу.

- Ну тады, хутка пабачымся,- адказаў ён і пайшоў з кухні.

Гары дзелю секунды сядзеў у стане шоку, але раптам да яго ў галаву прыйшла ідэя. Адкінуўшы свой сняданак, ён шпарка ўскочыў на ногі і дагнаў дзядзьку ля ўваходных дзвярэй.

Той з цяжкасцю нацягваў на сябе паўпаліто.

- Цябе са мной нельга!- раўнуў Вернан, калі павярнуўшыся ўбачыў, як хлопец назірае за ім.

- А я і не збіраўся ехаць,- халодна адказаў Гары, - у мяне да вас невялічкая просьба

Дзядзька Вернан падазрона зірнуў на хлопца.

- Трэцягодкам у Хог... у маёй школе, дазволена адчасу наведваць суседнюю вёску,- паведаміў Гары.

- І?- перабіў яго дзядзька, здымаючы ключы ад машыны з кручка ля дзьвярэй.

- Трэба, каб вы падпісалі бланк дазволу,- шпарка скончыў Гары.

- А мне нашто гэта патрэбна?- здзекліва прамовіў Вернан.

- Ну,- старанна падбіраючы словы аказаў хлопчык, - вы ж разумееце, наколькі цяжка мне будзе рабіць перад цётачкай Мардж выгляд, што я вучуся ў Цэнтры святога Гэтага...

- Закрытым Цэнтры Святога Брута для хлопцаў з паталагічнымі схільнасцямі да злачынстваў!- раўнуў дзядзька, але Гары з палёхкаю адчуў у яго голасе панічныя ноткі.

- А, вось вось,- сказаў Гары, з супакоем гледзячы на тое, як дзядзькін твар пакрываецца барвовымі плямамі,- Такая даўжэзная назва. Мне ж прыйдзецца скарыстать гэткія намаганні, каб гучала праканаўча? А калі я штосьці пераблытаю?

- А ці не павыбіваць гэтыя дурыкі з тваёй галавы, каб усё добра запомніў,- зароў дзядзька Вернан падняўшы да Гарынага твара свой агромісты кулак.

- Колькі не выбівайце, але ж цётачка Мардж не забудзе тое, што я магу сказаць, - змрочна адказаў хлопец.

Дзядзька Вернан супыніўся, але працягваў трамаць кулак паднятым, яго твар набыў амаль што пурпуровы колер.

- Але, калі вы падпішыце дазвол,- шпарка працягваў Гары,- я прыкладу ўсе свае сілы, каб запомніць у якую школу мне трэба хадзіць. І ўвогуле буду разумненькім – нармалёвым і іншае.

Гары быў упэўнены, што дзядзька моцна задумаўся, ня гледзячы на ашчэраныя зубы і пульсуючую на скроне вену.

- Згода,- выпаліў ён нарэшце, - Я буду старанна назіраць за тваімі паводзінамі падчас візіту Мардж. І калі ты не саскочыш з належнай версіі, я падпішу твой дзяблаў дазвол.

Дзядзька развярнуўся, расчыніў дзверы і выйшаўшы настолькі моцна імі ляпнуў, што ад верхняй часткі дзвярного шкла адкалоўся маленечкі кавалак.

Замест таго, каб вярнуцца на кухню, Гары пайшоў наверх у свой пакой. Калі ён жадае выглядаць, як сапраўдны магл, трэба дзейнічаць неадкладна. Ён павольна і маркотна сабраў ўсе свае падарункі і віншавальныя карткі і схаваў у тайніку пад масцінамі разам з хатняй работай. Потым падыйшоў да савінай клеткі. Эрал ўжо папарадкавала і зараз яны з Хэдвіг адпачывалі схаваўшы галовы пад крылы Гары глыбока ўздыкнуў, а потым паштурхаў клетку, каб птушкі абудзіліся.

- Хэдвіг, - змрочна сказаў хлопчык,- Табе трэба знікнуць прыблізна на тыдзень. Ляці разам з Эрал, каб Рон паклапаціўся пра цябе. Зараз я напішу яму тлумачальную цыдулку. І не глядзі на мяне гэдак,- дадаў ён, гледзячы ў поўныя дакорам бурштынавыя вочы савы,- я тут не вінаваты. Але інакш я ня буду мець магчымасці наведваць Хогсмід, разам з Ронам і Герміёнай.

Праз дзесяць хвілінаў Эрал, разам з Хэдвіг (з цыдулкай для Рона на назе) выляцелі ў вакно. А Гары, адчуваючы сябе ўшчэнт пагана, з маркотай паставіў пустую клетку ў шафу для вопрадкі.

Але ж доўга яму сумаваць не далі. Часу амаль не засталося, цётка Петунья ўжо падняла лямант, патрабуючы, каб Гары спускаўся ўніз і быў гатовы павітаць госцю.

- Зрабі што-небудзь са сваёй фрэзурай,- гыкнула яна, калі хлопец аб’явіўся ў гасцёўне.

Гары ня бачыў у гэтым аніякай карысці, бо Мардж настолькі любіла яго крытыкаваць, што чым неахайней, лічыў хлопец, будзе яго выгляд, тым цётка будзе больш добра сябе адчуваць.

Праз імгненне адчулася храбусценне жвіру на дарозе і дзядзькаў аўтамабіль заехаў у двор, адчуўся глухі стук аўтамабільных дзверцаў і крокі па садовай сцежцы.

- Адчыні дзверы, - сыкнула цётка Пятунья Гары.

У душы хлопца ўсё абарвалася, але ён ўзяўся за дзвярную ручку.

На парозе стаяла цётка Мардж. Яна вельмі нагадвала Вернана. Яна была гэткай жа велізарнай, тлусценнай і барвоватварай. У яе нават меліся вусы, хай і не настолькі густыя, як у брата. У адной руцэ цётка Мардж трымала агромістую валізу, а падпахай несла старога злоснага будьдога.

- А дзе мой Дадлінька?- зароўла яна.- Дзе мой пляменюшачка-душачка?!

Дадлі, цяжка перавальваючыся пабег па калідоры. Яго светлыя валасы былі гладзенька залізаны на тлусценнай галаве, а гальштук-бабачка ледзь-ледзь выглядваў з-пад яго шматлікіх падбароддзяў. Цётка Мардж моца пхнула валізу у жывот Гары, так што ў хлопца перахапіла дыханне, моцна сціснула пляменніка рукою і горача пацалавала яго ў шчоку.

Гары добра ведаў, што Дадлі пагаджаецца з такім абыходжаннем з боку цёткі, толькі таму што яму за гэта далі добры хабар. І вядома ж, калі яны расчапіліся адно ад аднаго, хлопец трымаў у сваім тлусценным кулаку дваццаць фунтаў.

- Пятунья, - крыкнула цётка Мардж і ступіла міма Гары, бы той быў стойкай для капелюшоў. Дзве жанчыны расцалаваліся, дакладней цётка Мардж патыцкалася сваімі вялізнымі сківіцамі ў кашчавыя скулы цёткі Пятуны.

Следам увайшоў усміхаючыйся дзядзька Вернан і зачыніў дзверы.

- Ці не жадаеш гарбаты, Мардж, - спытаў ён,- і што будзе Рыпер?

- Рыпер пап’е гарбаты з майго сподку,- адказала цётка Мардж, яны разам адправіліся на кухню, пакінуўшы Гары ў гасцёўне разам з валізаю. Але ж Гары не сумаваў на гэты конт, бо жадаў, як мага менш часу знаходзіцца ў адным месцы з Мардж, таму пакрысе пачаў пхаць яке валізіну на другі паверх, да вольнай спальні.

Калі Гары вярнуўся на кухню, цётка Мардж сядзела за сталом і частавалася гарбатай і арэхавымі кексамі, а Рыпер шумна сёрбаў са споду ў кутку. Гары заўважыў, як цётка

Пятунья ледзь заўважна ўздрыгвала бачачы, як пырсткі гарбаты і сліны ляцелі на яе чыстую падлогу. Яна ненавідзела жывёлаў.

- А хто даглядае астатніх сабак, Мардж? – спытаў дзядзька Вернан.

- Я пакінула іх гадаваць палкоўніку Фабстэру,- прагудзела цётка,- Ён пенсіянер і яму ўсё роўна чым займацца. Але я не магла пакінуць з ім старэнькага небараку Рыпера. Ён марнее без мяне.

Рыпер пачаў рыкаць, калі Гары зноў прысеў да стала. Толькі цяпер Мардж звярнула на яго ўвагу.

- Як,- гыркнула яна,- Ты яшчэ тут?

- Так, -адказаў Гары.

- Не кажы «так» гэткім няўдзячным тонам,- прарыкала Мардж,- Гэта па-дзяблаўску балазе, што Вернан з Пятуньяй трымаюць цябе тут. Я на іх месцы падобнага б не зрабіла. Ты адправіўся прамкі ў дзіцячы дом, калі б я ўбачыла цябе на маім ганку.

Хлопчык хацеў ужо сказаць, што з задавальненнем жыў бы зараз у дзіцячым доме, а не з Дурслі, але парыпомніўшы аб дазволе на наведванне Хогсміда супыніўся. Ён прымусіў свой твар пакутліва ўсміхнуцца.

- І ня трэба мне пасміхацца,- гыркнула Мардж,- Я бачу ты ані на кроплю не стаў лепей за той час, калі я цябе бычыла апошні раз. Я спадзявалася, што ў школе, якую ты наведваеш цябе навучаць, у цябе ўваб’юць правілы паводзін, - яна зрабіла глыбокі глыток гарбаты, выцерла вусы і спыталася,- У якую вы школу яго адправілі Вернан, нагадай?

- Св. Брута,- шпарка адказаў дзядзька,- Першакласнейшая ўстанова ў гэдак безнадзейных выпадках.

- Згодна,- паведаміла цётка Мардж,- А ці карыстаюцца ў вас у Св. Бруце кіём?- раўнула яна Гары праз стол.

- Пам...

Дзядзька ледзь заўважна кіўнуў хлопцу за спіной сястры.

- Так, - адказаў Гары, а потым, адчуўшы што трэба выканаць свой абавязак больш дасканала дадаў,- Толькі гэтым і займаюцца.

- Выдатна, -прамовіла Мардж,- Не разумею гэтыя манерныя сюсі-мусі глупствы аб тым, што нельга лупцаваць тых хто гэта заслугоўвае. Добрая порцыя бярозавай кашы гэта тое што трэба ў дзевяноста дзевяці выпадках са ста. А ці цябе часта лупцуюць?

- Зразумела ж, - адказаў Гары, - шмат разоў

Цётка Мардж пажмурыла вочы.

- Мне ўсё яшчэ не да спадобы твой тон, хлапчына,- заўважыла яна,- Калі ты разважаеш аб пакаранні такім нядбайным чынам, яны напэўна ня надта жорстка вас катуюць. На тваім месцы я б даўно напісала ім, што дазваляю выкарыстоўвання скайніх мераў у адносінах гэтага хлопца.

Магчыма непакоячыся аб тым, што Гары можа забыцца аб іхнім пагадненне, Вернан на ўсялякі выпадак змяніў тэму.

- Ці ты чула раннішнія навіны, Мардж? Аднекуль збег зняволены.

*

Як толькі цётка Мардж пакрысе пачала адчуваць сябе як дома, Гары з тугою заўважыў, што сумуе аб сваім ранейшым жыцці ў доме № 4. Дзядзька Вернан з цёткай Пятуньяй з

большага папярэджвалі Гары, каб ён трымаўся ад Мардж як мага далей, што той з задавальненнем рабіў. Але ж сама цётка жадала ўвесь час трымаць Гары перад вачыма, каб зручней было знаходзіць новыя метады па яго паляпшэнні. Яна з захапленнем параўноўвала Гары з Дадлі і з задавальненнем рабіла ўласнаму пляменніку дарагушчыя падарункі пры гэтым пазіраючы на Гары, быццам жадаючы спытаць, чаму падарунка не атрымаў ён. Таксама, яна апантана кідала цёмныя намёкі на тое, чаму Гары зрабіўся гэткай нікчэмнай істотай.

- Вы не павінны вінаваціць сябе за тое, што ён гэткім вырас, Вернан,- заўважыла яна падчас абеда на трэці дзень свайго гасцявання,- калі штось сампсавалася ўсярэдзіне з гэтым ўжо анічога не паробіш.

Гары паспрабаваў засяродзіцца на ежы, але рукі яго дрыжэлі, а твар палаў ад ашалеласці. «Памятай аб дазволе,- супакойваў ён сябе,- Думай аб Хогсмідзе. Не адказвай. Не ўзбуджайся...»

Цётка Мардж пацягнулася за віном.

- Гэта адно з асноўнейшых правіл сялекцыі жывёлы,- прамовіла яна,-  і вы гэта доба можыце бачыць на прыкладзе сабак. Калі штось не так з сучкай, то й шчаня будзе абыякі...

Раптам келіх, які Мардж трымала ў рукай разляцеўся, аскепкі паляцелі ўва ўсе бакі і цётка пачала мармытаць і адміргівацца, з яе чырвонага твара сцякалі вінныя струменьчыкі

- Мардж,- правішчала Пятунья,- з табой ўсё добра?

- Не хвалюйся, - рохкнула цётка Мардж, выціраючы твар сурвэткай,- Мабыць замоцна сціснула. Нeяк падобнае адбылося, калі я была ў палковніка Фабстэра. Не мітусіся, Пятунья, у мяне папросту моцная хватка...

Але Пятунья з Вернанам неяк падазрона паглядзелі ў Гарын бок, таму хлопец вырашыў не чакаць пудзінга, а сыйсці з-за стала, як мага хутчэй.

Выйшаўшы ў гасцёўню, хлопец цяжка дыхаючы прытуліўся да сцяны. Ён у першыню за доўгі час настолькі страціў самакантроль, каб нешта разруйнаваць. Ён не мог дазволіць, каб нешта падобнае здарылася зноўку. І справа не толькі ў Хогсмідзе, калі ён працягне ў гэткім жа духу, яго чакаюць цяжкасці з Міністэрствам Магіі.

Гары быў шчэ непаўнагадовым, таму па вядзьмарскіх законах ня меў права чараваць па-за межамі школы. Да таго ж яго характарыстыка ўжо была не надта добрай. Мінулым летам ён атрымаў афіцыйнае папярэджанне з Міністэрства, дзе было ясна паведамлена, што, калі на Прайвет Драйв адбудзецца новы выпадак магічнай актыўнасці, хлопцу пагражае выключэнне з Хогвартса.

Ён пачуў, як Дурслі падняліся з-за стала і паспяшаўся наверх.

*

Гары трымаўся на працягу трох дзён, кожны раз пераводзячы свае думкі на дапаможнік па самастойнаму дагляданню мятлы, калі цётка Мардж пачынала задзіраць яго. Гэта працавала даволі добра, але ў гэтыя моманты вочы Гары станавіліся бы шклянымі, таму ў яе галаву прыйшла думка аб разумовай адсталасці хлопца.

Нарэшце наблізіўся апошні дзень цёткінага гасцявання. Пятунья прыгатавала шыкоўную вячэру, а дзядзька адкаркаваў колькі бутэлек віна. Пад час спажывання супа з ласося аніразу не паднялася размова аб ненармалёвасці Гары; калі падалі цытрынавыя безэ дзядзька Вернан пачаў сумную доўгую размове, аб поспехах сваёй кампаніі па

вытворчасці дрыляў, якую ён назваў «Грунінгс», тым часам цётка Пятунья падала каву, а дзядзька адкаркаваў бутэльку брэндзі.

- Ці не спакусішся, Мардж?

Цётка Мардж выпіла ўжо зашмат віна. Яе агромісты твар збарвянеў.

- Толькі крышачку,- усміхнулася яна,- яшчэ ледзь... яшчэ, о, балазе.

Дадлі еў ўжо чацвёрты кавалак торту. Цётка Пятунья піла каву адтапырыўшы мезенец. Гары марыў збегчы ў свой пакой, але сстрэўшыся са злымі вочкамі дзядзькі Вернана зразумеў, што вымушаны сядзець да канца.

- Ах,- прамовіла цётка Мардж і цмокнуўшы вуснамі паклала свой кілішак на стол,- Выдатна пад'елі, Пятунья. Звычайна мне дастаюцца толькі асобныя кавалачкі ежы падчас вячэры, я ж маю дванаццаць сабак...- Яна густа адрыгнула і паляпала па сваім велічэзным жываце,- Вой, пардон. Але ж як мне падабаецца, што ў нашага хлопчыка такая здаровая фігура,- працягнула яна, падморгваючы Дадлі,- Ты вінен быць прыстойнага памеру, Дудерс, як твой бацька. Так, а ці не плюхнеш мне шчэ крышачку брэндзі, Вернан...

- Хвілінку...

Яна тузанула галавой ў Гарын бок і хлопец пачуў, бы нехта сціскае яго страўнік. Ён імгненна перанёсся думкамі да свайго дапаможніку.

- Ён мае страшэнны і заганны знешні выгляд. Тое ж самае і з сабакамі. Я была вымушана папрасіць палкоўніка Фабстэра ўтапіць аднаго ў мінулым годзе. Нейкі дробны, нікчэмны атрымаўся. Няўдалы. Нечыстакроўны.

Гары паспрабаваў прыпомніць змест дванаццатай старонкі свайго падручніка. Раздзел «Замова для ліквідавання дэфектаў вымушанага рэверсу»

- Як я ўжо калісь казала, усё залежыць ад крыві. Благую кроў аніяк не ўтоіш. Канечне, я адразу падтлумачу, што ня маю нічога супраць тваёй сям'і Пятунья,– яна пагладзіла кашчавую руку Пятуні сваёй рыдлёўкападобнай лапішчай,-  але, твая сястра – стухнае яйка. Падобнае здараецца нават ў лепшых сем'ях. Збегла з нейкім валацугай і вось паглядзіце на вынік.

Гары ўперыўся ў сваю талерку, у яго вушах стаяў незразумелы дзвон. «Моцна схапіце хвост сваёй мятлы...»- прыпамінаў ён. Але забыўся, што трэба рабіць далей. Голас Мардж здавалася свірдлаваў яго розум, як адна з дрыляў дзядзькі Вернана.

- Гэты Потэр,- схапіўшы бутэльку брэндзі і наліўшы адначасова ў свой кілішак і на абрус, спыталася цётка Мардж,- чым ён займаўся?

Дзядзька Вернан і цётка Пятунья выглядалі моцна напруджанымі. Дадлі нават адарваўся ад свайго пірага і здзіўлена глядзеў на бацькоў.

- Ён не працаваў,- адказаў дзядзька ў паўвока гледзячы на Гары,- Беспрацоўны.

- Я гэдак і думала,- заявіла Мардж, зрабіўшы вялізны глыток і выцершы падбароддзе рукавом.- Паганец, гультай і паразітуючы абібок, які...

- Ён ня быў гэткім,- нечакана адказаў Гары. За сталом ўсё сцішэла. Гары ўсяго калаціла. Аніколі ў жыцці ён ня быў гэдак раззлаваны.

- ЯШЧЭ БРЭНДЗІ,- крыкнуў дзядзька Вернан, раптам збялеўшы. Ён выліў апошні брэндзі ў кілішак сястры,- А ты хлопец, Вэк у ложак, зараз жа...

- Ой, не, Вернан,- ікнула цётка Мардж, падымаючы руку, яе маленькія налітыя крывёю вочкі ўперыліся ў Гары,- Ідзі, хлопча, ідзі. Ты ганарышся сваімі бацькамі? А яны раз – і загінулі ў аўтакатастрофе (вой, я гэдак напілася)...

- Яны не загінулі ў аўтакатастрофе, - прамовіў Гары, падымаючыся на ногі.

- Загінулі, маленькі гідкі хлус, а цябе кінулі цяжарам на сваіх годных і працавітых сваякоў!- гарлапаніла Мардж набракаючы ад злосці,- Ты, нахабны, няўдзячны, маленькі...

Раптам яна змоўкла. На імгненне здалося, што яна знямела. Здавалася, яна пухне ад невымоўнай лютасці – але ж яе пухліны ўсё павялічваліся. Яе вялізны твар пашырыўся, маленькія вочкі вылупіліся, а рот расцягнуўся настолькі, што размаўляць было немагчыма. У наступную секунду, колькі гузікаў сарваліся з яе твідавага піджаку і прасвісцелі ў напрамку сцяны – яна пачала надзьмувацца як жахлівы паветранны шар, жывот разарваў яе твідавы пас, а пальцы раздуліся да памеру салямі.

- МАРДЖ,- разам закрычалі Вернан з Пятуньей, калі цётка пачала падымацца з крэсла да столі. Яна настолькі скруглела, што пачала нагадваць вязізарны шар са свіннымі вочкамі, а яе рукі і ногі дзівосным чынам тырчэлі паабапал. Яна узнялася ў паветра хваравіта патрэсківаючы.Рыпер насіўся па пакоі, вар'яцкі брахаючы.

- НЕЕЕЕЕЕ!

Дзядзька Вернан схапіў Мардж за нагу спрабуючы падцягнуць яе на месца, але сам ледзь не падняўся з падлогі. У наступную секунду, Рыпер скокнуў наперад і ўпіўся зубамі ў дзядзькаву нагу.

Гары знік з пакою перш, чым хтось яго супыніў і накіраваўся да каморы пад лесвіцай. Дзверы каморы магічным чынам расчыніліся, як толькі хлопец крануў іх. За колькі секунд, ён дацягнуў сваю валізу да уваходных дзвярэй. Пасля Гары кінуўся наверх да свайго ложку, адарваў масніцы, выцягнуў з-пад ніх навалачку поўную кніг і свае падарункі на дзень нараджэння. Выкруціўшыся ён схапіў пустую савіную клетку і пабег ўніз да сваёй валізы, Тут ў гасцёўную ўварваўся дзядзька Вернан, яго калашына была ў крывавых жмутах.

- А НУ, ВЯРНІСЯ!- зароў ён,- ВЯРНІСЯ І ЯЕ ВЯРНІ НАЗАД!

Але Гары ўжо ахапіла безразважная злосць. Ён расчыніў сваю валізу, дастаў з яе сваю чароўную палачку і накіраваў яе на дзядзьку Вернана.

- Яна гэта заслужыла,- хутка дыхаючы адказаў Гары,- І атрымала па заслугах. А вы трымайцеся ад мяне падалей.

Гары наобмац знайшоў ручку дзвярэй.

- Я сыходжу,- сказаў ён, - З мяне годзе!

Праз імгненне ён ўжо быў на цёмнай, ціхай вуліцы. Гары ішоў цягнучы за сабой сваю цяжкую валізу, трымаючы пад пахай савіную клетку.

## — РАЗДЗЕЛ III —

### *Начны Омнібус*

Гары мінуў колькі кварталаў, перш, чым страціўшы сілы не заваліўся на нізенькую сценку на плошчы Магнолій, ён цяжка дыхаў і быў не ў стане далей цягнуць сваю валізу. Ён сядзеў і не рухаўся, слухаючы грукат свайго сэрца, у ім ўсё яшчэ кіпела злосць.

Але праз дзесяць хвілін самотнага прабывання на цёмнай вуліцы, яго ахапіла новае пачуццё – паніка. І з якога боку ён не разважаў аб сваім становішчы, было зразумела, што яно горш, чым колісь у яго жыцці. Хлопец апынуўся кінуты, адзін ў цемры, сярод маглаў і ня ведаючы куды ісці. А горш за ўсё: ён толькі што скарыстался вельмі моцным чараўніцтвам і з большай верагоднасцю будзе выключаны з Хогвартса. Ён настолькі сур'ёзна парушыў Загад аб Абмежаваннях для Непаўнагадовых Чараўнікоў, што быў вельмі здзіўлены, чаму  дагэтуль яго не знайшлі прадстаўнікі Міністэрства Магіі.

Гары ўздрыгануўся і азірнуў Плошчу Магнолій. Ён ня ведаў, што з ім будзе надалей. Ці яго арыштуюць, ці папросту аб'яваць ў Вядзьмарскім Свеце па-за Законам? З нясцерпнаю тугою ў сэрцы ён думаў аб Роне з Герміёнаю. Гары ведаў, што ня гледзячы на тое, ці ён злачынца, ці не, сябры жадалі б яму зараз дапамагчы, але ж яны былі ў іншым Свеце, да таго ж ён застаўся без Хэдвіг і звязацца з імі ня мог.

Хлопец ня меў нават маглаўскіх грошаў. Ён меў у гаманцы крыху чараўніцкіх грошаў, але большасць з багацця пакінутага яму бацькамі знаходзілася ў Грынгатцкім Вядзьмарскім Банку ў Лондане. Яму анізашто не дацягнуць сваю валізу да Лондана, калі толькі...

Гары зірнуў на чароўную палачку, якую ўсё яшчэ трымаў у руцэ. Сэрца яго балюча грукатала, хлопчык вырашыў, што калі ён усё роўна ўжо выключаны з Хогватсу, яшчэ адно чараванне аніпашкодзіць яго стану. Ён меў Мантыю-Невідзімку, пакінутую ў спадчыну бацькам...  Што калі магічным чынам зрабіць валізу лягчэйшай, прывязаць да мятлы і схаваўшыся пад Мантыяй адляцець да Лондану? Тады ён можа забраць са свайго рахунку астатнія грошы і... распачаць жыццё выгнанніка. Перспектыва была жудаснай, але сядзець на месцы ён ня мог, ці прыйдзецца тлумачыць маглаўскай паліцыі, што ён тут забыўся, глыбокай ноччу з поўнай валізай падручнікаў па замовах і мятлой.

Гары зноўку раскрыў валізу і пачаў капацца ў яе змесціве, шукаючы Мантыю-Невідзімку... Але не дасягнуўшы сваёй мэты, раптоўна выпрастаўся і зноў азірнуў Плошчу.

Па дзіўным паскубванні ў патыліцы хлопец адчуў, што за ім сочаць, але ж вуліца казалася пустыннай і ані ў водным са шматлікіх дамоў у наваколлі не ззяла святло.

Гары зноў нахіліўся да валізы, але адразу ж выпрастаўся, сціскаючы палачку ў руцэ. Хлопец не тое, каб пачуў, ці ўбачыў, а нейкім нейкім шостым пачуццём зразумеў, што ззаду яго, у вузкай шчыліне паміж гаражом і плотам нехта стаіць. Гары пакасіўся на цёмны праход. Толькі калі істота варухнецца ён можа зразумець, ці то вулічны кот, ці... хтось іншы.

- Люмас, - прамармытаў Гары і на кончыку яго палачкі загарэўся асляпляльны агенчык. Ён падняў палачку над галавой і пакрытыя галькай сцены навакольных дамоў заззялі;

дзверы гаража пачалі блішчэць, а ля іх, Гары амаль што выразна ўбачыў нязграбную фігуру даволі агромістай істоты з бліскучымі вачыма.

Гары зрабіў крок назад. Яго ногі спатыкнуліся аб уласную валізу і хлопец паваліўся. Яго палачка выпала з рук, ён раскінуў іх, папытаўшыся захаваць раўнаваху, але цяжка зваліўся ў дажджавы сцёк.

Раздаўся аглушальны БУХ і Гары быў вымушаны закрыць рукамі вочы, бо нешта асляпіла яго...

З енкам хлопец адскочыў з дарогі на тратуар і зрабіў гэты даволі сваечасова. Секундаю пазьней на тым месцы, дзе ён толькі што быў  паказаліся фары і пара гігантцкіх колаў завішчала супыняючыся. Калі Гары падняў галаву, ён убачыў, што фары і колы належылі трохпавярховаму пурпурова-фіялетаваму аўтобусу, як узнік з паветра. Над ветравым шклом ззялі залатыя літары «Начны Омнібус».

Дзелю секунды, Гары разважаў, ці не аглушыла яго падчас падзення. Але тут з расчыненых дзвярэй выскочыў кандуктар і пачаў громка казаць у ноч.

«Сардэчна запрашаем вас ў Начны Омнібус, хуткая дапамога для чараўнікоў і ведзьмакоў апынуўшыхся ў цяжкім становішчы. Толькі прагаласуйце стоячы на абочыне сваёй чароўнай палачкай і мы ў стане давесці вас да любога месца ў якое вы пажадаеце. Мае імя Стэн Шунпайк і я ваш кандуктар, гэтым ве...»

Кандуктар раптоўна супыніўся. Толькі зараз ён заўважыў Гары, які працягваў сядзець на зямлі. Хлопчык схапіў сваю палачку і падняўся з зямлі. Падыйшоўшы бліжэй да Стэна Гары заўважыў, што той быў гадоў на пяць старэйшы за яго. На выгляд кандуктару было васямнаццаць ці дзевятнаццаць год, ня больш. Ён меў адтапыраныя вушы і злёгу вуграваты твар.

- Ты што там робіш?- спытаў Стэн, перайшоўшы на звычайную мову.

- Падслізнуўся,- адказаў Гары.

- А якога ты падсізгіваўся?-  пасміхнуўся Стэн.

- Хіба я наўмысна,- раздражнённа адказаў хлопчык. Адно калена на джынсах разарвалося, а бок якім Гары паваліўся на тратуар крывеў. Раптоўна ён ўспомніў прычыну свайго падзення і хутка павярнуўся, каб паглядзець, што там было паміж гаражом і плотам. Фары Омнібуса добра асвятлялі гэтае месца, але там ўжо анікога не было.

- Якога ты там згубіў?- спытаўся Стэн.

- Там быў нехта вялізны,- прамовіў Гары, паказваючы на праход,- Падобны на сабаку, толькі вельмі агромістага.

Хлопчык паглядзеў на Стэна, які стаяў з крыху раскрытым ротам. Раптам ён заўважыў, што вочы кандуктара супыніліся на яго шнары.

- А там ў цябе чаго за халера?- раптам спытаўся Стэн.

- Анічога,- шпарка адказаў Гары, хаваючы шнар за валоссем. Калі Міністэрства Магіі расшуквае яго, ён не жадаў палягчаць гэту справу.

- А як абзываць?- не супыняўся кандуктар.

- Нэвіл Лонгботам,- адказаў Гары, назваўшы першае імя прыйшоўшае да галавы,- А, гэты... ну, гэты аўтобус,- хутка працягвал хлопчык, пытаючыся адцягнуць ўвагу Стэна,- ён што, насамрэч куды заўгодна давязець?

- А то,- ганарліва адказаў кандуктар,- мы завязем куды заўгодна, на любую адлеглась, толькі аніпад вадой. Слухай,- з падазронам гледзячы на хлопца спытаўся Стэн,- А ты ці на самой справе нас вызваў, ці як? Ну там, палачку падняў і... ці не?

- Зразумела,- шпарка адказаў Гары,- Колькі да Лондана?

- Адзінаццаць сіклей,- адказаў Стэн,- за трынаццаць дамо кубак гарачага шакладу, а за пятнаццаць – грэлку і шчотку любога колеру для тваёй пашчы.

Гары пакапаўся ў сваёй валізе, знайшоў там гаманец і працягнуў Стэну колькі срэбнікаў. Потым разам яны пагрузілі ў аўтобус Гарыну валізу і клетку Хэдвіг.

Тут не было месц для сядзення, замест іх ля занавешаных фіранкамі вокан стаялі поўтузіна латунных ложкаў. Ля кожнага з іх гарэлі свечкі, асвятляючы абабітыя дрэвам сцены. Маленечкі вядзьмак ў начным каўпаку перакруціўшыся ў сне прамармытаў: «Не, дзякуй, не зараз. Я пакуль марыную лічынак.»

- Падай сюды,- прашапатаў Стэн запхаўшы Гарыну валізу пад ложак за крэслам кіроўцы, што сядзеў за рулём.- А гэта наш кіроўца Эрні Пранг. Эрныч, пазнаёмся – гэта Нэвіл Лонгботам

Эрні, які быў пажылым ведзьмаком з таўшчэзнымі акулярамі кіўком прывітаў хлопчыка, Гары нервова прыгладзіў сваю фрэзуру і сеў на ложак.

- Паняслісія, дзядзька,- сказаў Стэн, прысеўшы ў крэса ля кіроўцы.

Раздаўся аглушальны БУХ і праз імгненне Гары перакуліла назад і ён апынуўся на ложку з-за неверагоднай хуткасці аўтобуса. Выпрастаўшыся Гары зірнуў у цёмнае акно і ўбачыў, што яны зараз едуць па зусім іншай вуліцы. Стэн паглядзеў на збянтэжаны твар Гары з захапленнем.

- Тутака мы былі, калі ты нас вызваў.- сказаў ён,- Мы дзесь у Вэльсе, Эрныч?

- Ну,- адказаў кіроўца.

- А хіба маглы не заўважаюць аўтобус?-спытаўся хлопчык.

- Хто?- ганарліва адказаў Стэн,- Яны хіба ўвогуле чагось заўважаюць? Анібачаць, анічуюць. Ня ўмеюць.

- Хадзі будзіць мадам Марш, Стэн,- сказаў Эрні,- Мы будзем у Абергэйвене праз хвіліну.

Стэн прайшоў міма ложка Гары і праскочыў па лесвіцы на наступны паверх. Гары працягваў глядзець у вакно ўсё больш і больш нервуючыся. Эрні здавалася ўвогуле не карыстаўся стырном. Начны Омнібус ніколі не прытрымліваўся асфальтавай дарогі, але не наштурхоўвася ані на што, таму што ліхтарныя слупы, паштовыя скрыні і сметнікі адскоквалі ў бакі, калі ён да іх набліжался і толькі потым вярталіся на сваё месца.

Стэн спусціўся ўніз суправаджаючы бледна-зялёную вядзьмарку ў дарожнай мантыі.

- Вось так, мадам Марш,- бадзёра прамовіў Стэн, Эрні націснуў на тормаз, ледзь не згрудзіўшы ложкі ў пярэдняй часцы аўтобуса. Мадам Марш паклыпала на вуліцу прыцiснуўшы рот насоўкаю. Стэн кінуў ёй услед торбу і з грукатам зачыніў дзверы; раздалося моцнае БАХ і яны зноў панесліся наперад прымушаючы дрэвы сустракаючыеся на іх шляху з жахам адскокваць у бок.

Гары ня мог спаць падчас вандравання на аўтобусе, які едзе роўна, не кажучы пра той, які ўвесь час выбухае і робіць стомільныя скокі. Яго ванітавала штораз, калі аўтобус

пачынаў рух. Ён разважаў аб тым, што будзе з ім далей і аб тым, ці атрымалася Дурслі вярнуць цётку ў нармалёвы стан.

Стэн разгарнуў экзэмпляр Штодзённага вяшчуна і пачаў яго чытаць высунуўшы язык між зубамі. Вялізная фатаграфія запалатварага чалавека з доўгім пераблытам валоссем павольна міргнула Гары з галоўнай старонкі. Яна паказалася хлопчыку занадта знаёмай.

- Гэты чалавек!- прамармытаў ён на хвіліну забыўшыся аб сваіх праблемаў,- Яго паказвалі па маглаўскіх навінах!

Стэнлі адвярнуўся ад газэты і ўсміхнуўся.

- Сірыюс Блэк,- прамовіў ён ківаючы галавою,- А то ж, пра яго ня будзе ў маглаўскіх навінах, Нэвіл. Ты што ў пячоры жывеш?

Ён моцна засмяяўся  убачыўшы ушчэнт здзіўленыя вочы Гары і працягнуў яму першую паласу газеты.

- Цябе трэ паболе чытаць прэсу, Нэвіл.

Гары развярнуў газэтны ліст да святла і прачытаў:

*«БЛЭК ПАКУЛЬ НА СВАБОДЗЕ*

*Сірыюс Блэк – напэўна самы сумна вядомы вязень, з тых што месціліся калі-небудзь у крэпасці Азкабан, па-ранейшаму пазбягае затрымання, падцвердзілі сёння прадстаўнікі Міністэрства магіі.*

*«Мы робім ўсё магчымае, каб схапіць Блэка,- паведаміў сённяшняй раніцай у сваім інтэрв'ю міністр па справах магіі Карнэліюс Фадж,- і просім вядзьмарскую супольнасць супакоіцца.»*

*Міністр ужо быў падвергнуты крытыцы з боку Сусветнай Федэрацыі Ведзьмакоў за інфармаванне маглаўскага прэм'ер-міністра аб гэтай праблеме.*

*«Я сапраўды павінен быў гэта зрабіць і вы дастаткова добра ведаеце,- паведаміў раздражнёны міністр.- Блэк- вар'ят. І ён небяспечны для любога чалавека, які сустрэнецца на яго шляху, як для чараўніка, так і для магла.  Са свайго боку прэм'ер упэўніў мяне, што не раскрые сапраўдную сутнасць Блэка. І будзем аб'ектыўнымі, хто яму паверыць, нават калі ён гэта паведаміць?»*

*Маглам паведамілі, што Блэк мае пры сабе стрэльбу (металічная палка з дапамогай якой, маглы забіваюць адно аднаго). Тым ня менш, уся магічная супольнасць жыве ў страху перад новай бойняй, якая можа паўтарыць падзеі дванаццацігадовай даўніны, калі Блэк адной замовай забіў трынаццаць чалавек.»*

Гары паглядзеў у цмяныя вочы Сірыюса Блэка, яго запалы твар толькі часткова выглядаў жывым. Хлопчык ніколі не сустракаў сам насам упіроў, але шмат раз бачыў іх на выявах у кабінеце па Абароне ад Цёмных Мастацтваў і Блэк з яго васкова-белай скурай выглядаў адным з іх.

- Жахлівая істота, ці не так?- спытаўся Стэн, калі Гары скончыў чытанне.

- І што. Ён насамрэч забіў трынаццаць чалавек?- спытаўся Гары аддаючы кандуктару газэту.- І зрабіў гэта адной замовай?

- А то,- адказаў той,- Забіў пры сведках і сёе-тое. Сярод белага дня. Гэта выклікала неблагі перапуд, ці не так, Эрн?

- Ну,- змрочна адказаў кіроўца.

Стэн развярнуўся ў сваім крэсле і сеў паклаўшы рукі на спінку, каб лепш бачыць Гары.

- Блэк, быў адным з самых крутых паплечцаў Сам-Ведаеш-Каго,- паведаміў ён

- Што? Вальдэморта?- не задумваючыся спытаўся хлопчык.

У Стэна на твары збялелі нават вугры, а Эрн тузануў стырно так, што каб ня трапіць пад калёсы аўтобуса ў бок адскочыў фермерскі дом.

- Ты насамрэч дзікун?- уз’енчыў Стэн.- якога, ты называеш яго імя?

- Ой, прабач,- паспешліва адказаў Гары.- Прабач. Я забыўся...

- Забыўся?!- слабым голасам вымавіў Стэн.- Я ледзь уласным сэрцам не рыгануў.

- Так, Блэк быў паплечнікам Самі-Ведаеце-Каго?- быццам просячы прабачэння працягваў Гары.

- Зразумела ж,- адказаў Стэн, працягваючы паціраць грудзі,- Да бабкі не хадзі. Кажуць, быў найбліжэйшым... калі малы Гары Потэр скруціў Сам-Ведаеш-Каму галаву,- хлопчык зноў нервова прыгладзіў сваю чэлку,- Усіх паплечнікаў Сам-Ведаеш-Каго адлавілі, ці не так Эрні? Большасць з іх здагадалася, што з сыходам іх галоўнага, уся казка скончылася і сцішыліся. Алё не Сірыюс Блэк, калі Сам-Ведаеш-Хто дубца даў, ён вырашыў заняць яго месца.

- А калі Блэка нарэшце загналі ў кут пасярод вуліцы, дзе было дахалеры маглаў, ён ня доўга думаючы дастаў сваю палачку і падарваў палову вуліцы. Пацярпелі колькі чараўнікоў і з дзесятак маглаў што трапіліся пад ногі. Ці не жах? Але ці ведаеш як Блэк сябе трымаў?- драматычным шэптам спытаў Стэн.

- Як?- пацікавіўся Гары.

- Рагатаў,- працягваў кандуктар,- Папросту стаяў і рагатаў сабе. Ды калі да яго падляцела падмацоўка з Міністэрства магіі ён пайшоў з імі, бы так і трэба. Ды покі сыходзіў працягваў рагатаць. Таму што ён шалёнец, ці не так Эрн? Хіба не, не шалёнец?

- Нават, калі й ня быў, да таго як пайсці ў Азкабан... дык зараз дакладна,- ціхім павольным голасам адказаў Эрн,- Я лепш бы сябе падарваў, чым туды йсці. Лічу што... пасля таго, што ён зрабіў, так яму і трэба.

- Тады людзей даслалі, каб яго схапаць, ці так, Эрн?- працягваў Стэн,- Тут, бабах і ўся вуліца паперакоцаная і вакол дохлыя маглы. Што яны за прычыну выдумалі, Эрн?

- Выбух газу,- крэкнуў Эрні.

- І ось ён змыўся,- падагульніў кандуктар, яшчэ раз уважліва пагледзеўшы на газэтную выяву са змрочным тварам Блэка.- З Азкабану ані ніхто не змываўся, ці так, Эрн? І хай мяне халера, як ён гэта зрабіў? Жах, ці не? Думаю, яму ані не да спадобы зноўку стрэца з ахоўнікамі Азкабана, а, Эрн?

Эрні раптоўна ўздрыгануўся.

- Давай аб чым яшчэ пагаманім, Стэн, будзь добрым хлопцам. Мяне толькі ад узгадвання азкабанскай аховы, усяго круціць.

Стэн без ахвоты адклаў газэту. Гары глядзеў у вакно Начнога Омнібуса, яму было горш чым калі-небудзь. Ён уяўляў сабе, і нічога не магло адцягнуць яго ад гэтай думкі, як Стэн на працягу колькіх начэй распавядае сваім пасажырам.

- Ці вы чулі аб Гары Потэры? Той, які ўшчэнт раздзьмуў сваю цётку! Ён ехаў тут з намі, на Начным омнібусе, ці не так, Эрн? Змыцца жадаў...

Гары парушыў вядзьмарскія законы, як і Сірыюс Блэк. А хіба не дастаткова выпадку з цёткай Мардж, каб яго накіравалі ў Азкабан? Хлопчык анічога ня ведаў аб вядзьмарскай турме, але ўсе размовы якія чуў на гэты конт, вяліся ў гэткім жа жахлівым тоне. Хогвартскі ляснічы Хагрыд толькі два месяцы правёў там у мінулым годзе. І Гары аніколі ў жыцці не забудзецца на жахлівы выраз яго твару, калі той даведаўся, куды яго накіроўваюць, а Хагрыд быў адным з найсмялейшых людзей, якіх Гары ведаў...

Начны Омнібус каціў сярод цемры пужаючы кусты, слупы, тэлефонныя будкі і дрэвы, а Гары ляжаў у сваім ложку, устрывожаны і няшчасны. Праз колькі часу Стэн успомніў, што хлопчык заплаціў за гарачы шакалад, але выпляскаў яго ўвесь на Гарыну падушку, калі аўтобус зрабіў рэзкі скок з Англсі да Абердзіну. Адно за адным чараўнікі і вядзьмаркі ў халатах і хатніх чаравіках спускаліся з верхніх паверхаў, каб выйсці з аўтобуса. І ўсе яны выглядалі вельмі задаволенымі.

У рэшце рэшт адзіным пасажырам застаўся Гары.

- Ну чаго, Нэвіл,- паціраючы далоні спытаўся Стэн,- куды цябе даставіць ў Лондане?

- На Дыягон Алею,- адказаў хлопчык.

- Няма пытанняў,- сказаў кандуктар,- трымайся крапчэй...

БАХ!

І вось яны ўжо грукочаць па Чарынг Крос Роуд. Гары сядзеў, назіраючы, як будынкі і шапікі разбягаюцца са шляху Начнога Омнібуса. Неба пакрысе святлела. Хлопчык раздумваў дзе б стаіцца на пару гадзін, каб прыйсці ў момант адкрыцця Грынгатса і потым збегчы... куды, ён яшчэ ня ведаў.

Эрні націснуў на тормаз і Начны Омнібус сыпыніўся на прыпынку ля невялічкага і моцна патрапанага пабу «Дзіравы кацёл» за якім быў чароўны праход на Дыягон Алею.

- Дзякуй, - сказаў Гары кіроўцы.

Ён скокнуў з прыступкі і дапамог Стэну спусціць сваю валізу і савіную клетку на зямлю.

- Ну ўсё,- сказаў Гары,- Да наступнай сустрэчы!

Але Стэн не звярнуў на гэта ўвагі. Ён працягваў стаяць ў дзвярах, вытарэшчыўся на пакрыты ценямі ўваход у Дзіравы кацёл.

- Вось ты дзе, Гары,- адчуўся нечый голас.

І перш чым хлопчык паспеў развярнуцца, ён адчыў на сваём плячы руку. У гэты ж момант адчуўся крык Стэна:

- Ліха мяне бадай! Эрн, ходзь сюды! Хутчэй!

Хлопчык азірнуўся, каб пабачыць уладальніка рукі. Раптам ўсярэдзіне яго ўсё заільдзянела – ля яго стаяў уласнай персонай Карнэліюс Фадж – Міністр па магічных справах.

Стэн скокнуў на тратуар побач з імі.

- Як вы абазвалі Нэвіла, Міністр?- усхвалявана спытаў ён..

Фадж, невялічкага росту ладны чалавек апрануты ў доўгую мантыю у тонкую палоску, выглядаў змёрзлым і моцна стомленым.

- Нэвіл?- сувора паўторыў ён.- Гэта Гары Потэр.

- Я гэта ведаў,- у захапленні закрычаў Стэн.- Эрн! Эрн! Ці ты ведаеш, як сапраўднае імя Нэвіла?! Гары Потэр! Я ж бачыў яго шнар!

- Так,- раздражнённа сказаў міністр,- і я вельмі ўдзячны, што Начны Омнібус давёз Гары, але зараз, і мне, і яму трэба пайсці ўсярэдзіну Дзіравага катла.

Фадж, узмацніў ціск на плячо Гары і той быў вымушаны накіравацца да пабу. Калі яны ўвайшлі, з-за дзвярэй паказалася і накіравалася да барнай стойкі сгорбленая фігура, трымаючая ліхтар. Гэта был Том, зморшчаны і бяззубы гаспадар Дзіравага катла..

- Вы знайшлі яго, Міністр!- прамовіў Том,- Ці не жадаеце чагось? Піва? Брэндзі?

- Калі ласка, кубачак гарбаты,- адказаў Фадж, дагэтуль не адпускаючы Гары.

Раздалося гучшае шкрабанне і пыхценне, і ўслед за першымі наведвальнікамі ўсхвалявана азіраючыся аб’явіліся Стэн і Эрні, несшыя Гарыну валізу і клетку Хэдвіг.

- А што ты не сказаў нам, хто ты насамрэч, а, Нэвіл?- прамяніста ўсміхаючыся Гары, спытаў Стэн, а савіны твар Эрні з зацікаўленасцю глядзеў праз сябрава плячо.

- І прыватны кабінэт, калі ласка, Том.- шматзначна прамовіў Фадж.

- Пакуль,- бездапаможна сказаў Гары, Стэну і Эрну, калі Том паклікаў Фаджа ісці за ім за межы бара.

- Бывай, Нэвіл,- крыкнуў Стэн.

Фадж павёў Гары ўслед за Томавым ліхтаром па вузкаму праходу, а адтуль у невялічкую гасцёўню. Том шчоўкнуў пальцамі і ў каміне само сабою запалілася вогнішча. Гаспадар пакланіўся і выйшаў.

- Сядай, Гары,- сказаў Фадж і паказаў на крэсла ля каміну.

Хлопчык прысеў, адчуваючы, як па яго руках,  ня гледзячы на агонь у каміне, паўзуць дрыжыкі. Фадж зняў сваю танюткую мантыю і адкінуў яе ў бок. Потым паправіў штаны свайго бутэлькава-зялёнага строю і прысеў насупраць Гары.

- Маё імя Карнэліюс Фадж. І я міністр па справах магіі.

Хлопчык вядома ж ведаў сваго суразмоўцу, таму што бачыў яго ранней; але тады ён быў схаваны пад Мантыяй-Невядзімкай свайго бацькі і Фадж ня ведаў аб гэтым.

Зноў аб’явіўся Том, апрануты ў фартук над начной кашуляй, які прынёс гарбату і блюда з аладкамі. Ён паставіў паднос, паміж міністрам і хлопчыкам і пакінуў пакой зачыніўшы за сабою дзверы.

- Ну, Гары,- сказаў Фадж разліваючы гарбату па кубках, - добра ж ты, па сакрэту паведамлю табе, прымусіў нас папанікаваць, калі збег з дому сваіх дзядзькі і цёткі! Я ўжо пачаў думаць... але цяпер ты ў бяспецы і непакоецца няма аб чым.

Фадж взяў сабе колькі аладак, а талерку з астатнімі дзвінуў бліжэй да Гары.

- Бяры, Гары, ты выглядаеш, як блукаючы мярцвяк. Дык вось... Пэўна табе прыемна будзе ведаць, што з гаротна-раздзмутай міс Марджары Дурслі была праведзена праца. Мы накіравалі на Прайвет Драйв двух чальцоў Каманды па Выпраўленню Наступстваў Выпадковага Чараўніцтва, колькі гадзін таму. Яны зрабілі міс Дурслі пракол і правялі мадыфікацыю яе памяці. Яна ня памятае інцэдэнта. Так што ніхто не пацярпел.

Фадж усміхнуўшыся паглядзеў на Гары з-за краю сваго кубачка, быццам дзядзька на любага пляменніка. Хлопчык ня верачы ўласным вушам, раскрыў ужо рот, каб штось сказаць, але амаль адразу закрыў яго, бо аніводнай думкі не прыйшло да галавы.

- Пэўна ты турбуешся аб тым, як адрэагавалі твае дзядзька з цёткай?- выказаў здагадку міністр.- Так. Яны вельмі раз’юшчаны, Гары, але гатовы прыняць цябе да сябе, падчас летніх вакацыяў, але калядныя і велікодныя табе прыйдзецца правесці ў Хогвартсе.

Да Гары вярнуўся голас.

- Я заўжды праводжу ў Хогвартсе калядныя і велікодныя вакацыі,- адказаў ён,- і мне б вельмі не хацелася ўвогуле вяртацца на Прайвет Драйв.

- Ну, ну, я думаю ты будзеш лічыць інакш, калі супакоішся,- усхваляваным тонам прамовіў Фадж,- Яны твая сямья, і ў рэшце рэшт, я думаю вы любіце адно аднаго... ммммм... у глыбіні душы.

Нават не згаджаючыся з Фаджем, Гары вінен быў яго слухацца. Але зараз яго больш цікавіла, што з ім адбудзецца надалей.

- І апошнее, што засталося вырашыць,- сказаў міністр, узяўшы яшчэ аладак,- дзе ты збіраешся правесці апошнія тры тыдні вакацыяў. Я прапаную табе, зняць пакойчык непасрэдна тут, у Дзіравам Катле і...

- Чакайце,- выпаліў Гары, - а што наконт майго пакарання?

Фадж залыпаў вачыма.

- Якога пакарання?

- Я ж парушыў закон!- адказаў хлопчык,- Загад аб Абмежаванні Чараўніцтва сярод Непаўнагадовых!

- А маё ты дзіця, мы не збіраемся караць цябе за падобныя дробязі!- усклікнуў Фадж і нетрывальна патрос сваёй аладкай.- Гэта быў няшчасны выпадак! Мы не адпраўляем людзей у Азкабан, толькі таму што яны надзьмулі сваю цётку!

Але гэта ўсё не надта вязалася з колішнімі адносінамі Гары і Міністэрства Магіі.

- У мінулым годзе я атрымаў з Міністэрства афіцыйнае папярэджанне, толькі таму,- панура заўважыў Гары,- што хатні эльф разбіў блюда з пудынгам на кухні маіх дзядзькі з цёткай. І тады ж мне паведамілі, што я буду выключаны з Хогвартса, калі ў доме хоць раз адбудзецца магічная актыўнасць!

Калі вочы не падманвалі хлопца, Фадж выглядаў, быццам трапіў у цяжкое становішча.

- Абставіны змяніліся, Гары... і мы павінны прыняць да ўвагі... у цяперашніх абставінах... Няўжо ты так жадаеш, каб цябе выключылі?

- Зразумела ж, не,- адказаў ён.

- Ну і ў чым справа,- нядбайна засмяяўся міністр.- Так, а цяпер даеш аладкі, а пайду спытаюся ў Тома, ці не знойдзецца для цябе лішні пакой.

Фадж пакінуў кабінэт, а Гары глядзеў яму ў след. Тое што адбылося было па-за межамі яго розуму. Нашто міністр чакаў яго, калі не збіраўся пакараць? Паступова Гары прыйшоў да думкі, хіба гэта звычайна для Міністра па справах магіі вырашаць пытанні непаўнагадовага чараўніка?

Фадж вярнуўся суправаджаемы гаспадаром паба Томам.

- Адзінаццаты пакой вольны, Гары,- паведаміў ён,- Я лічу, што цябе ў ім будзе дастаткова камфортна. І яшчэ адно, думаю цябе ня трэба валэндацца па маглаўскім Лондане, добра? Трымайся Дыягон Алеі. І штовечар вяртайся сюды да надыходу цемры. Упэўненны, што ты разумееш чаму. Я папрасіў Тома, каб ён на ўсялякі выпадак сачыў за табой.

- Добра, - адказаў хлопчык,- але чаму..?

- Не хачу, каб ты зноў згубіўся, разумееш?- сардэчна засмяяўшыся сказаў Фадж.- Не, не... лепш, калі мы будзем ведаць дзе ты ёсць... я маю на ўвазе што...

Ён гучна пракашляўся і падняў сваю мантыю.

- Ну, я пайду, шмат спраў.

- А як ідзе справа наконт Блэка?- спытаўся Гары.

Пальцы міністра саслізнулі з срэбнай зашпількі, яго мантыі.

-Што? А, ты ведаеш... не пакуль нічога, але гэта пытанне часу. Ад азкабанскай аховы, яшчэ ніхто не збягаў... і цяпер яны жудасна злуюцца.

Фадж злёгку ўздрыгануўся.

- Ну, цяпер бывай!

Ён працягнуў хлопцу руку і калі Гары паціскаў яе, яму ў галаву прыйшла думка.

- Ммм, міністр? Я магу ў вас нешта спытаць?

- Вядома ж,- усміхнуўся Фадж.

- Хм, трэцягодкам Хогвартса дазваляецца наведваць вёску Хогсмід, але мае цётка з дзядзькам так і не падпісалі бланк дазволу. Ці вы не маглі б гэта зрабіць ?

Фадж чарговы раз збянтэжыўся.

- Ах,- адказаў ён.- Не, нажаль не. Бо я не з’яўляюся ані тваім бацькам, ані апякуном.

- Але ж вы Міністр Магіі,- нецярпліва прамовіў Гары,- і, калі б вы далі мне дазвол...

- Не, мне вельмі шкада, мае дзіця, але правілы ёсць правілы,- катэгарычна адказаў Фадж,- Можа ў цябе атрымаецца наведаць Хогсмід у наступным годзе. Насамрэч я думаю гэта й да лепшага, калі ты... так... Ну, мне ўжо трэба ісці. Жадаю прыемнага адпачынку, Гары.

Апошні раз усміхнуўшыся і паціснуўшы хлопчыку руку ён выйшаў з пакою. Том праціснуўся ў гасцёўню іззяючы глядзеў на Гары.

- Хадземце за мной, містэр Потэр,- сказаў ён,- вашы рэчы я ўжо занёс...

Гары рушыў ўслед за гаспадаром, яны прайшлі наверх па прыгожай драўлянай лесвіцы і апынуліся перад дзярмі з меднай шыльдаю з лічбаю адзінаццаць на ёй, Том павярнуў ключ і адамкнуў пакой.

Усярэдзіне стаяў вельмі камфортна выглядаючы ложак, колькасць мэблі з паліраванага дуба, у каміне палаў агонь і нешта сядзела на дзверцы шафы...

- Хэдвіг!- здзіўлена ўсклікнуў хлопчык.

Палярная сава шчоўкнула дзюбай і зпланіявала на руку Гары.

- У вас вельмі разумная сава, містэр Потэр,- усміхнуўся Том, яна прыляцела сюды праз пяць хвілін пасля вашага аб’яўлення. Калі яшчэ штосьці трэба, не саромейцеся пытацца.

Ён пакланіўся і сыйшоў з пакою.

Гары напрацягу доўгага часу сядзеў і рассеяна гладзіў Хэдвіг. Тым часам неба за акном змяніла колер з глыбокага аксамітна сіняга на халодны сталёва шэры, а потым, пакрысе на ружовы з залатым. Гары ня мог паверыць, што ён толькі некалькі гадзін таму пакінуў Прайвет Драйв, што яго не выгналі з школы і што ён мае цэлых тры тыдні вольных ад Дурслі.

- Гэта была вельмі дзіўная ноч, Хэдвіг,- пазіхаючы прамовіў ён.

І нават не зняўшы акуляры, Гары паваліўся на падушку і заснуў.

## — РАЗДЗЕЛ IV —

## *Дзіравы Кацёл*

На працягу колькіх дзён Гары абвыкаўся са сваім новым свабодным становішчам. Ён ніяк не мог уявіць, што можа прачынацца, калі пажадаецца і есці тое, што падабаецца. Хлопчык нават мог пайсці куды заўгодна, калі гэтае месца знаходзілася на Дыягон Алеі. Гэта даўжэзная  брукаваная вуліца была набіта такой колькасцю самый найвыдатнейшых чарадзейных крам, што Гары нават і ў галаву не прыходзіла парушыць загад Фаджа і пайсці на шпацыр у маглаўскі свет.

Шторанніцы Гары снедаў у Дзіравым Катле, бо яму падабалася назіраць за іншымі наведавальнікамі: смешнымі маленькімі вядзьмаркамі з вёсак, прыляцеўшымі па шопінг; чараўнікоў глыбокапажнага выгляду, спрачаючыхмся наконт чарговага артыкула з «Ператвораў Сёння»; дзікавата-выглядаючых ведзьмакоў, хрыплых гномаў і падобную ж публіку. А аднойчы яму на вочы трапілася нешта, падазронна нагадваючае старую вядзьмарку, якая заказала сабе з-пад звязанага з тоўстай воўны шлема, талерку сырой печані.

Пасля сняданку Гары выходзіў на задні двор, даставаў сваю чароўную палачку, націскаў на трэццю цагліну ля сметніка і адчыняў праход на Дыягон Алею.

Доўгія сонечныя дні хлопчык праводзіў за вывучэннем асартыменту разнастайных крам, ці седзячы пад яскравымі парасонамі вулічных кавярняў, дзе наведвальнікі дэманстравалі адно аднаму свае бягучыя набыткі («гэта лунаскоп, хлопча – цяпер не трэба будзе губляць час з месяцовымі дыяграмамі, разумееш?»), ці абмяркоўвалі становішча з Сірыюсам Блэкам («што датычыцца мяне, я не адпушчу анікога са сваіх дзетак шпацыраць сам-насам, пакуль Блэка не вярнуць у Азкабан»). Гары ня трэба было больш вучыць дамашнюю работу па начах, схаваўшыся пад коўдру; ён меў магчымасць рабіць гэта седзячы пад сонцам на верандзе Салона Марозева, які належаў Фларыяну Фартэск’ю. Часам Гары, які ўжо амаль скончыў працу над сачыненнямі, дапамагаў сам гаспадар Салону, які шмат чаго ведаў аб сярэднявечных вядзьмаркаспаленнях і кожныя поўгадзіны частаваў хлопчыка бясплатным марозевам.

Калі Гары, папоўніў у Грынгатскім банку свае запасы залатых галеёнаў, срэбных сікеляў і бронзавых кнютаў, яму спатрэбілася шмат самавалодання, каб не страціць ўсё адразу. Ён стала нагадваў сабе, што яму яшчэ пяць ход вучыцца ў Хогвартсе і як ён будзе адчуваць сябе, пытаючыся грошаў на новыя прылады і кнігі замоваў у Дурслі. Аднойчы, ён амаль што не набыў сабе набор Плявакаменчыкаў з чыстага золата (гэта чарадзейская гульня нагадвае звычайныя маглаўскія шарыкі, але гэтыя пстрыкалі суперніку ў твар вадкасцю з непрыемным пахам, калі гублялі сваю кропку). Таксама Гары не паддаўся спакусе, ўбачыўшы рухомую мадэль галактыкі ў вялізным крышталёвым шары, набыццё якой абяцала назаўжды пазбавіцца неабходнасці пасячаць урокі астраноміі. Але наймацнейшае выпрабаванне чакала Гары ў яго самай ўлюбёнай краме «Найякаснейшыя Прылады для Квідытча» напрыканцы першага тыдня побыту ў Дзіравым Катле.

Зацікаўлены натоўпам згрудзіўшымся ў краме, Гары праціснуўся праз купу ўзбуджаных вядзьмарак і ведзьмакоў і заўважыў свежаўзведзены подыюм на якім убачыў самую найвыдатнейшую мятлу ў сваім жыцці.

- Толькі што з’явілася... прататып...- распавядаў нейкі чараўнік з квадратным падбароддзем свайму суразмоўцы.

- Хіба гэта не самая хуткая мятла ў свеце, татачка?- піскнуў хлопчык маладзейшы за Гары выкручваючыся з рукі сайго бацькі.

- Ірландская Зборная дзеля ўдзелу ў Чэмпіянаце Свету замовіла сем гэткіх прыгажунь,- распавёў натоўпу гаспадар крамы,- А яны фаварыты Сусветнага Кубку!

Высокая вядзьмарка, што стаяла перад Гары, урэшце адыйшла і ён змог прачытаць анатацыю

*ВОГНЕННАЯ СТРАЛА*

*Ультрасучасная спартовая мятла з палепшанай аэрадынамікай. Супер-тонкі тронак з ясеня, адпаліраваны на алмазным круге. Кожная мятла мае індывідуальны нумар. Дзякуючы таму, што кожны дубчык хваста падабраны індывідуальна, нашая мятла мае непераўзойдзеную аэрадынамічную дасканаласць, непераўзойдзены баланс і выразнасць арыентацыі. Вогненная Страла з лёгкасцю разганяецца з 0 да 150 міль за гадзіну на працягу 10 секунд і забяспечана сістэмай абароны ад стопарных замоваў. Кошт па дамоўленасці.*

Кошт па дамоўленнасці... Гары нават не хацеў думаць аб тым колькі галеёнаў спатрэбіцца аддаць за Вогненную Стралу. Ён нічога не жадаў так моцна за ўсё сваё жыццё, як толькі гэтую мятлу. Алё хлопчык памятаў, што не прайграў аніводнага матчу па квідытчу са сваім Німбусам 2000 і лічыў, што ня трэба спусташаць свой рахунак у Грынгатсе, калі ўжо мае дастаткова добрую мятлу. Тым ня менш Гары не пытаючыся аб кошце, штодня прыходзіў, каб паглядзець на Вогненную Стралу.

Але ж былі таксама і неабходныя набыткі. Першым чынам Гары зайшоў да аптэкара, каб папоўніць свае запасы інгрэдыентаў для стварэння зелляў. Таксама заўважыўшы, што крыху падрос і старая школьная вопрадка стала закароткай, Гары наведаў краму Мадам Малкін «Вопрадка на Любы Выпадак» і набыў сабе новую. Найбольш важным было набыць новыя падручнікі, тым больш што ў праграме з’явіліся дзве новыя дысцыпліны: «Дагляданне за Магічнымі істотамі» і «Вяшчунста».

Зазірнуўшы ў вітрыну кнігарні, Гары моцна здзівіўся. Замест стоса новенькіх кніг па замовах з залатым цісненнем, памерам з добрую тратуарную пліту ён заўважыў жалезную клетку ў якой месцілася каля стотні Пачварных кніг аб пачварах. Паўсюль лятали адарваныя старонкі, бо кнігі адчасу кідаліся адно на адну, счапляліся ў бойках, ці стоячы ў баку агрэсіўна пстрыкалі.

Гары выцягнуў з кішэні спіс неабходных падручнікаў і ў першыню за увесь час зірнуў у яго. «Пачварная кніга» была сярод абавязковых дзеля Догляду за Магічнымі істотамі. Толькі зараз хлопчык зразумеў словы Хагрыда, наконт таго, што кніга яму шчэ

спатрэбіцца і адчуў палёгку бо дагэтуль лічыў, што палясоўшчык завёў сабе новага жахлівага гадаванца і цяпер яму была неабходна дапамога.

Калі Гары зайшоў усярэдзіну «Флорыш і Блотс» да яго адразу падскочыў мэнэджер.

- Хогвартс?- нечакана выпаліў ён.- Па навыя падручнікі?

- Так,- адказаў хлопчык,- мне патрэбна...

- Адсунся,- з нецярплівасцю прамовіў мэнэджер і штурхнуў Гары ў бок. Потым начапіў пару таўшчэзных пальчатак, схапіў грудкаваты кіёк і рушыў да клеткі з Пачварнымі кнігамі.

- Чакайце,- супыніў яго Гары,- такі падручнік я ўжо маю.

- Няўжо?- на твары мэнэджэра з’явіўся выраз невымоўнай удзячнасці,- Хвала Нябёсам, ці то мяне кусілі ўжо пяць разоў толькі за сёння...

У паветры адчуўся рэзкі трэск, гэта дзве Пачварныя кнігі схапілі трэццю і пачалі рваць яе напалам.

- А ну супыніліся! До!- закрычаў менеджер, стукаючы па кнігах кійком скрозь краты.- Хай мяне халера, калі я яшчэ займуся іх продажжу! Гэта ж сапраўдны вэрхал!Думаў горш за той выпадак, калі мы набылі за вялізныя грошы 200 асобнікаў «Нябачнай кнігі аб Нябачнасці» і так і не знайшлі ані воднай, ужо ня будзе... Чымсь яшчэ магу дапамагчы?

- Так,- адказаў Гары, зірнушшы ў спіс,- мне патрэбна «Развуаляванне Будучыні» Касандры Ваблацкай.

- А, будзеш вывучаць «Вяшчунства»?- спытаў мэнэджер і зняўшы пальчаткі павёў хлопчыка ў заднюю частку крамы, дзе быў аддзел з кнігамі аб вяшчунстве. Невялічкая паліца была застаўлена кнігамі, такімі як «Прадказанне непрадказальнага: Захавай сябе ад Шакавання» ды «Удары лёсу: Калі вы згубілі Шчасце».

- Вось, яна,- падняўшыся па лесвіцы да верхняй паліцы і зняўшы адтуль «Развуаляванне будучыні», кнігу з чорнай вокладкай – вельмі добрае кіраўніцтва па ўсіх асноўных метадах варажбавання – хірамантыя, крышталёвы шар, птушыныя вантробы...

Але Гары не слухаў. Яго вочы ўперыліся ў іншую кнігу, што была сярод выстаўленных на рэкламнай паліцы: «Прадвеснікі Смерці: Што рабіць, калі ўбачыў Благі Канец»

- На тваім месцы, я б не чытаў,- прамовіў мэнэджэр, прасачыўшы на што глядзіць хлопчык,- будзеш бачыць прыкметы смерці паўсюль, а гэтага дастаткова, каб і самому да смерці перапужацца.

Тым ня менш, Гары працягваў глядзець на вокладку, дзе быў намаляваны чорны сабака з бліскучымі вачыма вялічынёю з мядзведзя. Гэта яму штось нагадвала...

Мэнэджэр, цісну Гары ў рукі «Развуаляванне будучыні».

- Штось яшчэ?- спытаў ён.

- Так,- з цяжкасцю адарваўшы свае вочы ад сабакі і зірнуўшы ў спіс падручнікаў прамовіў Гары,- Хм... «Прамежкавыя ператварэнні» і «Стандартная кніга замоваў для трэццяга класа».

Гары выйшаў з «Флорыш і Блотс» праз дзесяць хвілін трымаючы новыя кнігі ў руках і рушыў назад, да Дзіравага Катла, ледзь заўважаючы куды ісці і паспеўшы наштурхнуцца на колькі чалавек.

Ён падняўся па лесвіцы, зайшоў у свой пакой і перакуліў стос кніг на ложак. Пакуль яго не было ў пакоі нехта прыбраўся; вокны былі адчынены і пакой залівала сонечнае

праменне. Гары чуў, як па нябачнай з пакоя маглаўскай вуліцы едуць аўтобусы, а па Дыягон Алеі праходзіць гэдак жа нябачны, але гучны натоўп. Ён паглядзеў на сябе ў люстэрка ў ванным пакоі.

- Гэта ня мог быць Прадвеснік смерці,- сказаў Гары свайму адлюстраванню.- Я быў запанікаваны, калі трапіў на Плошчу Магнолій. А сам хутчэй за ўсё бачыў бяздомнага сабаку...

Ён аўтаматычна падняў руку і прыгладзіў свае непаслухмянае валоссе.

- Цяпер ты вядзеш бойку ў якой прайграешь, любы мой,- хрыпла адказала хлопчыку люстэрка.

*

Мінулі дні, Гары пачаў уважліва сочыць за натоўпам, пытаючыся адшукаць у ім Рона ці Герміёну. Набліжаўся пачатак семестра і на Дыягон Алее сям-там траплялiся вучні з Хогвартса. Ля «Найякаснейшых Прылад для Квідытча» Гары сустрэў Шымаса Фінігана і Дына Томаса, сваіх сувучняў па Грыфіндоры, якія з захапленнем глядзелі на Вогненую Стралу; а на выхадзе з Флорыш і Блотс сутыкнуўся з Нэвілам Лонгботамам, безуважлівым круглатварым хлопцам. Гары не супыніўся паразмаўляць з ім, бо хлопец пэўна страціў свой спіс падручнікаў і цяпер меў непрыемную размову са сваёй вельмі сувора выглядаючай бабуляй. Гары спадзяваўся, што яна ніколі не даведаецца аб тым, што ён хаваўся за імем Нэвіла, калі ўцякаў ад Міністэрства Магіі.

Гары прачнуўся ў апошні дзень вакацыяў, спадзяючыся, што магчыма будзе мець задавальненне ўбачыцца з Ронам і Герміёнай заўтра, ля Хогвартс-Экспрэса. Ён падняўся, апрануўся і апошні раз пайшоў зірнуць на Вогненную Стралу. Потым хлопец пачаў разважаць, дзе б з'есці свой абед і тут нехта паклікаў яго імя, Гары азірнуўся.

- Гары! ГАРЫ!

Яны ўсе разам сядзелі за столікамі на верандзе Салону Марозева Фларыяна Фартэск'ю, Рон – неверагодна зарабаціні́ўшы, а Герміёна ўся збарвянеўшая ад адчайнага махання рукамі.

- Нарэшце!- прамовіў Рон і ўсміхнуўся, калі Гары прысеў.- Мы пайшлі ў Дзіравы Кацёл, але там сказалі, што ты ўжо сыйшоў, потым зазірнулі ў Флорыш і Блотс, да Мадам Малкін ды...

- Я набыў усё неабходнае яшчэ на мінулым тыдні,- растлумачыў Гары,- А адкуль вы ведаеце, што я жыву ў Дзіравым Катле?

- Тата,- прастадушна адказаў Рон.

Містэр Візлі, што працаваў у Міністэрстве Магіі, пэўна ўжо ведаў аб тым, што здарылася з цёткай Мардж.

- Ты сапраўды надзьмуў сваю цётку Гары?- вельмі сур'ёзным голасам спытала Герміёна

- Я не жадаў гэтага,- адказаў ён, а Рон са смеху пакаціўся з крэсла на зямлю.- Я згубіў кантроль над сабой.

- Тут няма анічога смешнага, Рон,- рэзка прамовіла дзяўчынка.- Я шчыра кажучы вельмі здзіўлена, што Гары не выкінулі са школы.

- Я таксама,- прызнаўся Гары.- і якое там выключаць, я вырашыў, што мяне наогул арыштуюць,- ён зірнуў на Рона,- Твой бацька ведае чаму Фадж не зрабіў гэтага?

- Напэўна таму, што ты - гэта ты,- паціснуўшы плячыма адказаў Рон, усё яшчэ не супыніўшы да канца свой смех,- Той самы Гары Потэр і гэдак далей. Я нават ўяўляць не хачу, што б міністэрства зрабіла са мной, калі б я надзьмуў цётку. Толькі ім прыйшлося доўга шукаць мяне пад зямлёю, таму што маці хутчэй за ўсё забіла б мяне. Але ты можаш запрасіць бацьку зайсці да цябе ўвечары. Мы сёння таксама застаемся ў Дзіравым Катле! І на Кінг Крос ты можаш паехаць з намі! Герміёна таксама застаецца тут!

Герміёна заззяўшы хістнула галавой.

- Мама з татам прывезлі мяне сюды сёння з усімі Хогвартскімі рэчамі.

- Выдатна,- заўважыў Гары,- так, вы маеце ўсе новыя кнігі і іншае.

- Зірні на гэта,- сказаў Рон, выцягнуў са сваёй торбы тонкую і доўгую скрыначку і адчыніў,- навенечкая палачка, чатырнаццаць цаляў, вярбовая са стрыжэнем з воласа з хваста аднарога. А яшчэ ў нас з сабой новыя падручнікі,- ён штурхнуў вялізную торбу пад сталом,- Як табе дарэчы «Пачварная Кніга»? Прадавец ледзь не ўз’енчыў, калі даведаўся, што нам патрэбны дзве.

- А гэта што такое, Герміёна?- спытаўся Гары выявіўшы не адну, а тры таўсценныя торбы, побач з яе крэслам.

- Ну я ж запісалася на большую колькасць новых дысцыплінаў, -адказала дзяўчынка,- тут мае падручнікі па Нумералогіі, Догляду за Магічнымі Істотамі, Вяшчунству, Вывучэнню Старажытных рун і Маглазнаўству...

- За якім бесам табе Маглазнаўства?- вылупіўшы вочы ў бок, прамовіў Гары,- Ты ж магланароджанная! Твая маці і бацька – маглы! Ты выключна ўсё ведаеш аб маглах!

- Але будзе даволі цікава даведацца аб іх з чарадзейскага пункту гледжання,- спакойна адказала Герміёна.

- А ці плануеш ты есці ці спаць у гэтым годзе?- спытаўся Гары, а Рон фыркнуў. Але Герміёна праігнаравала іх абодвух.

- А яшчэ я маю дзесяць галеёнаў,- працягвала яна, праверыўшы свой кашэль,- Мой дзень нараджэння ў верасні і мама з татам загадзя далі мне грошы на падарунак.

- Як наконт выдатнай кнігі?- нявінным голасам прамовіў Рон.

- Не, не зараз,- спакойна адказала Герміёна,- Шчыра кажучы, я хачу набыць саву. Бо Гары мае Хэдвіг, ты – Эрал...

- Не я,- адказаў Рон,- Эрал, сямейная сава. А ўсё што я маю – гэта Скаберс,- ён выцягнуў свайго ўлюбёнага пацука з кішэні.- Яго трэба камусці паказаць,- дадаў ён, кладучы Скаберса на стол,- Я лічу, што Егіпет дрэнна на ім адбіўся.

Пацук быў худнейшым, чым калі-небудзь раней і ў яго апусціліся вусы.

- Там ёсць крама магічных істотаў,- паведаміў Гары, які за апошні час добра вывучыў Дыягон Алею.- Ты можаш паглядзець там, штось для Скаберса, а Герміёна набыць саву.

Яны расплаціліся за сваё марозева і рушылі уздоўж вуліцы да «Чарадзейскага звярынца.»

Усярэдзіне было не зашмат вольнай прасторы, бо амаль кожная цаля была занята клеткамі. Крама была бруднай і вельмі шумнай, бо адусюль даносіліся віск, квохканне, балбатанне, ці шыпенне. Вядзьмарка за прылаўкам кансультавала нейкіх чараўнікоў, як даглядаць падвойнахвостых трытонаў, а Гары, Рон і Герміёна чакалі, вывучаючы клеткі.

Пара пурпуровых жаб прагна глыталі вільгаць і піравалі дохлымі мухамі. Гіганцкая чарапаха з панцырам інкрустраваным дыяментамі блішчэла на сонцы ля вакна. Атрутныя памаранчавыя слімакі павольна паўзлі ўздоўж свайго рэзервуара, а тоўсты белы трус з моцным чмякаючым гукам ператвараўся на чорны шоўкавы цыліндр і назад. Потым ішлі коткі ўсіх колераў, шумлівыя клеткі з крумкачамі, кошыкі са смешнымі пухоўкамі, што гучна гулі. А на прылаўку стаяла вялізная клетка з чорнымі бліскучымі пацукамі, якія гулялі ў нешта нагадваючае скокі праз скакалку, карыстаючыся пры гэтым уласнымі лысымі хвастамі.

Чараўнікі з падвойнахвостымі трытонамі адыйшлі і Рон рушыў да прылаўка.

- Мой пацук,- прамовіў ён вядзьмарцы,- ён нешта хваравата выглядае з тых пор, як мы павярнуліся з Егіпту.

- Пакладзі яго на прылавак,- папрасіла вядзьмарка выцягваючы акуляры ў цяжкай чорнай аправе са сваёй кішэні.

Рон выцягнуў Скаберса з унутраняй кішэні і паклаў на прылавак, ля клеткі з яго субраццямі, якія адразу ж скончылі гуляць і нават пабіліся, каб медзь лепшы агляд.

Як і большасць з маёмасці Рона, Скаберс дастаўся яму з другіх рук (раней ён належыў яго старэйшаму брату Персі) і быў троху патрапаны. А ў параўнанні з чорнымі пацукамі ўвогуле выглядаў асабліва журботна.

- Хм, прамовіла вядзьмарка, падымаючы Скаберса ўгору,- колькі год гэтаму пацуку?

- Нават ня ведаю, - адказаў Рон,- але вельмі стары, ранней ён належыў майму брату.

- А якой сілаю ён валодае?- пільна разглядаючы Скаберса, спыталася прадаўшчыцца.

- Мм?- не зразумеў Рон. Па праўдзе кажучы Скаберс ніколі не дэманстраваў, хоць бы наймаленечкія магічныя здольнасці. Вочы вядзьмаркі варухнуліся спачатку на яго ірванае левае вуха, потым на пярэднюю лапу з адсутным пальцам, нарэшце яна гучна вохнула.

- Напэўна ён трапіў у млын,- сказала яна.

- Ён ужо быў такім, калі Персі аддаў мне яго,- абараняўся Рон.

- Звычайныя, шэрыя ці садавыя пацук жывуць не даўжэй за тры гады, ці накшталт таго,- прамовіла прадаўшчыца.- Калі зараз ты шукаеш штосьці больш трывалае, можаш абіраць аднаго з гэтых...

Яна паказала на чорных пацукоў, якія адразу ж прыніліся зноўку гуляцца адно з адным.

- Позеры,- прамармытаў Рон.

- Ну, а калі ты не жадаеш замены, можаш паспарабаваць гэты Пацучыны Тонік,- яна паварушыла пад прылаўкам і паклала перад хлопцам маленькую чырвоную бутэлечку.

- ДОБРА!- адказаў Рон.- Колькі гэта будзе... АЁЙКУ!

Рон быў вымушаны прыхіліцца, бо нешта вялізнае і памаранчавае скокнула з вяршыні самай верхняй клеткі, прызямлілася на яго галаву, адтуль на прылавак і вар'яцкі зашыпела на Скаберса.

- НЕ, КРУКШАНС, НЕ!- завішчала вядзьмарка, але Скаберс праслізнуў між яе рук, як кавалак мыла прызямліўся на падлогу на ўсе чатыры лапы і даў драла ў напрамку дзвярэй.

- Скаберс!- закрычаў Рон, выбягаючы з крамы за сваім пацуком; Гары рушыў услед.

Ім спатрэбілася хвілін дзесяць, каб адшукаць Скаберса, што хаваўся за грудай мукулатуры ля «Найякаснейшых Прыладаў для Квідытча». Рон паклаў пакрытага дрыжыкамі пацука назад у кішэню і выпрастаўся паціраючы галаву.

- Што гэта было?

- Ня ведаю, - адказаў Гары,- альбо занадта вялікі кот, альбо маленечкі тыгр.

- А дзе Герміёна?

- Верагодна, засталася, каб набыць саву!

Яны рушылі назад у напрамку Чароўнага Звярынца. З дзвярэй крамы ім насустрач выйшла Герміёна, але ў рукай яе была не клетка з савой. Яна заціснула ў іх вялізарнага рудога ката.

- Ты набыла гэту пачвару?- адкрыўшы рот спытаўся Рон.

- Але ж ён гэткі пышны, няўжо не?- ззяючы адказала дзяўчынка.

Гэта ўсё справа густу, вырашыў Гары. Кот быў рудым, тоўстым і пухнатым, але быў крыху крывалап, а яго мыска была нейкай змрочнай і дзівавата сплясканай, нібы той з разбегу стукнуўся аб цагляную сцяну. Зараз, калі Скаберс быў па за вачыма, кот задаволена варкатаў на руках у Герміёны.

- Герміёна, ён жа ледзь не скальпаваў мяне,- заўважыў Рон.

- Ты ж не збіраўся гэтага рабіць, Крукшансік?- спыталася ў ката Герміёна

- А як наконт Скаберса?- не супімаўся Рон, кажучы на камяк ў нагруднай кішэні.- Яму трэба супакоіцца і адпачыць! І як у яго гэта атрымаецца ў падобнай кампаніі?

- Нешта нагадвае мне, што ты забыўся пра свой Пацучына Тонік,- адказала Герміёна, шпуляючы чырвоную бутэлечку ў рукі Рона.- І не хвалюйся. Крукшанс будзе спаць у маім пакоі, а Скаберс у вашым. Ці ж гэта праблема? Бедны Крукшансянятка, вядзьмарка паведаміла, што ён месціўся ў краме амаль што вечнасць: ніхто яго не набываў.

- Цікава чаму,- пасміхнуўся Рон, калі яны ўваходзілі ў Дзіравы Кацёл.

Увайшоўшы яны ўбачылі містэра Візлі, што сядзеў у бары, чытаючы Штодзённага вяшчуна.

- Гары!- падняўшы ўгору вочы і пасміхнуўшыся сказаў ён.- Як маешся?!

- Усё добра, дзякуй,- адказаў хлопчык, далучаючыся разам з Ронам, Герміёнай і ўсімі іх набыткамі да містэра Візлі.

Мужчына паклаў на стойку газэту на старонцы якой, Гары заўважыў знаёмую выяву Сірыюса Блэка, што пазірала на яго.

- Ён дагэтуль не спайманы?- спытаўся хлопчык

- Ані,- адказаў містэр Візлі са зазмрочным поглядам.- Яны адцягнулі нас усіх ад асноўнай працы ў Міністэрстве, каб разам паспрабаваць знайсці яго. Але пакуль ніякай карысці.

- А ці не будзе ўзнагароды таму, хто спаймае яго?- спытаўся Рон.- Было б выдатна атрымаць яшчэ больш грошаў...

- Не будзь блазням, Рон,- адказаў містэр Візлі, які зблізу выглядаў моцна напружаным,- Каб Блэка схапіў трынаццацігадовы вядзьмак?! Хто гэта зробіць, дык толькі азкабанскія ахоўнікі, паверце маім словам.

Тут у бар увайшла місіс Візлі нагружаная купаваннем, разам з ёй ішлі двайняты Фрэд і Джордж, што збіраліся вучыцца ў Хогвартсе ўжо пяты год. За імі рушыліся Пэрсі, абраны Старастай Школы і Джыні – самая малодшая з усіх і адзіная ў сям'і дачка.

Джыні, якая і раней моцна захаплялася Гары, цяпер здавалася мацней чым колісь збянтэжанай пры позірку на хлопца; магчыма таму што той выратавал яе жыццё падчас іх апошняга семестра ў Хогвартсе

- Прывітанне,- прамармытала дзяўчо, парайшоўшы міма Гары са счырванелым тварам, нават ня гледзячы на яго. Персі ж наадварот афіцыйна, бы ён і Гары не былі знаёмы, працягнуў таму руку.

- Гары,- прамовіў ён,- як прыемна цябе ўбачыць!

- Вітаю, Персі,- імкнучыся не засмяяца сказаў Гары.

- Спадзяюся з табой ўсё балазе?- напышліва спытаўся Персі, працягваючы пацiскаць руку хлопчыку, як быццам вітаўся з самім мэрам.

- Усё вельмі выдатна, дзякуй...

- Гары!- адштурхнуўшы старэйшага брата локцем, пакланіўся Фрэд,- Як файна цябе зноў бачыць, дзядзька...

- Шыкоўна,- мовіў Джордж, пхнуўшы Фрэда ў бок і хапаючы руку Гары,- Невычарпальна пышна!

Персі спахмурнеў.

- Ну ўсё, годзе,- сказала місіс Візлі.

- МАМА!- усклікнуў Фрэд, бы толькі што заўважыў яе і схапіўшы матулю за руку прамовіў.- Як жа, сапраўды найцудоўна бачыць цябе...

- Я кажу, годзе,- прамовіла жанчына, паклаўшы свае набыткі на вольнае крэсла.- Прывітанне, Гары, любы мой. Спадзяюся ты ўжо пачуў нашы неверагодныя навіны?- яна прадэманстравала навенечкі срэбны значык на грудзях Персі.- Другі Стараста Школы ў нашай сям’і!

Яна здавалася перапoлненай гонарам.

- І апошні,- прамармытаў сабе пад нос Фрэд.

- Нават не сумняваюся. - заўважыла місіс Візлі,- І спадзяюся ім не прыйшо на галаву зрабіць вас дваіх прэфектамі.

- Прэфектамі?- усхамянуўся Джордж, з абурэннем гледзячы нават на саму гэту ідэю.- І згубіць апошняе задавальненне ад жыцця.

Джіні пасміхнулася.

- Мог бы падаваць сястры лепшы прыклад!- адрэзала маці.

- Джыні можа браць прыклад з іншых братоў, мам,- пагардліва заўважыў Персі.- Пайду пераапрануся для вячэры...

Калі той знік з вачэй, Джордж з палёгкай уздыхнуў.

- Мы хацелі замураваць яго ў адной з пірамід,- падзяліўся ён з Гары,- але гэта заўважыла маці.

*

Вячэра адбылася найвыдатнейшай. Гаспадар Катла Том, склаў разам тры сталы за якімі селі сямёра Візлі, Гары і Герміёна. Кожны атрымаў па пяць найсмачнейшых страў.

- Як мы заўтра дабярэмся да Кінг Кросс, тат,- спытаўся Фрэд, падчас пажадлівага спажывання шакаладнага пудынгу.

- З Міністэрства дашлюць пару машын,- адказаў містэр Візлі.

Усе хто знаходзіўся за сталом здзіўленна зірнулі на яго.

- Навошта?- з зацікаўленнасцю спытаўся Персі.

- Дык ўсё ж з-за цябе, Персі,- сур'ёзным тонам заўважыў Джордж.- І на кожнай з машын будуць месціцца сцяжкі з літарамі СШ...

-... Сапраўдны Шляхцюк,- працягнуў Фрэд.

Усе, акрамя Персі і місіс Візлі пырснулі ў свае пудынгі.

- А што на самой справе, тата?- спытаўся Персі не губляючы годнасці.

- Ну, як. Мы ж не маем уласнай,- адказаў містэр Візлі,- таму на працы, мне аказалі ласку...

Голас містэра Візлі быў спакойны і нязмушаны, але Гары заўважыў, што вушы яго счырванелі, як у Рона, калі той бывае моцна напружаным.

- Ну вось і добра, - хуценька прамовіла місіс Візлі,- Вы разумееце колькі рэчаў мае кожны з вас? І як бы вы з ўсім гэтым выглядалі б у маглаўскім метро? Між іншым, ці вы ўсе сабраліся?

- Рон пакуль не сабраў свае рэчы ў валізу,- найпакутлевым голасам прамовіў Персі,- ён папросту скінуў іх на маім ложку.

- Табе лепш пайсці і запакавацца, Рон, ранніцай у нас ня будзе надта шмат часу,- выгаварыла яму місіс Візлі. Рон сувора глянуў на Персі.

Пасля вячэры ўсе адчулі сытасць і санлівасць. Адно за адным усе разышліся па сваіх пакоях, каб яшчэ раз праверыць свае рэчы. Рон і Персі былі суседзямі Гары. Ён толькі ўдакладніў, ці ўсё сабрана ў валізе, як пачуў раз'юшчаныя галасы з суседняга пакою і пайшоў паглядзець, што адбываецца.

Дзверы дванаццатага пакою былі праадчыненны.

- Менавіта тут на століку я яго і пакінуў, каб адпаліраваць...- крычаў Персі.

- Я нават не дакранаўся да яго,- крычаў Рон у адказ.

- Што здарылася?- спытаў Гары.

- Знік мой значык школьнага старасты,- сказаў Персі азірнуўшыся на Гары.

- І Пацучыны Тонік Скаберса,- дадаў Рон, вытрахаючы змесціва сваёй валізы.- Я нават пачаў думаць, ці не забыўся я яго ў бары...

- Ты нікуды не пойдзеш, пакуль ня знойдзеш мой значык,- зароў Персі.

- Я пашукаю лекі Скаберса, бо ўжо ўпакаваны, - прамовіў Гары Рону і пайшоў уніз.

Гары быў на поўдарогі да бару, які цяпер быў пакрыты цемраю, калі пачуў яшчэ пару разлютаваных галасоў, што раздаваліся з гасцёўні. Праз імгненне ён пазнаў іх уладальнікаў, гэта былі містэр і місіс Візлі. Ён вагаўся і не жадаў, каб яны ведалі, што ён чуў іх лаянку, калі гук уласнага імя не прымусіў яго падыйсці да дзвярэй і прыслухацца.

- ... ня мае сэнсу не казаць яму анічога,- з запалам казаў містэр Візлі,- Гары мае поўнае права ўсё ведаць. Я размаўляў з Фаджам на гэты конт, але ён лічыць, што з Гары трэ апекавацца, як з малым дзіцём. Але ж яму ўжо трынаццаць год і...

- Артур, праўда можа яго напалохаць!- пранізліва казала місіс Візлі.- Няўжо ты жадаеш адправіць Гары ў школу з гэткім навіслым грузам? Сапраўды кажу табе, ён шчаслівы пакуль ня ведае анічога!

- Я не жадаю, каб ён быў няшчасным, але жадаю, каб ён быў асцярожным!- запярэчыў містэр Візлі.- Ты ж ведаеш наколькі падобныя Гары і наш Рон, яны нават блукаючы разам, патрапілі ў Забаронены Лес! Але ж Гары не павінен рабіць анічога падобнага ў гэтым

годзе! Калі я думаю, што магло здарыцца з ім у тую ноч, як ён збег з хаты... Калі б Начны Омнібус не падхапіў яго, гатовы біцца аб заклад, што калі б Міністэрства знайшло яго, ён быў бы ўжо мёртвым...

- Але ж не памёр і ўвогуле выдатна выглядае, так што...

- Молі, адны кажуць, што Сірыюс Блэк – вар'ят, другія, не... У любым выпадку яму хапіла розуму, каб збегчы з Азкабана, што ў прынцыпу не магчыма. І ўжо месяц мінуў, а ніхто нічога не бачыў і нават на волас не наблізіўся да месца яго схованкі. Мяне не хвалюе тое, што Фадж рэгулярна паведамляе Штодзённаму Вяшчуну, мы не бліжэй да яго злову, чым да вынаходніцтва самазаклённай палачкі. Адзінае у чым мы дакладна ўпэўнены, гэта ў тым, што Блэк пасля...

- Гары будзе добра ахоўвацца ў Хогвартсе.

- Мы лічылі, што і Азкабан добра ахоўваецца. А, калі Блэк змог вырвацца з Азкабана, ён можа пранікнуць і ў Хогвартс.

- Але ж дагэтуль ніхто не ўпэўнены, што Блэку патрэбны менавіта Гары...

Адчуўся нейкі грукат, хлопчык быў упэўнены, што містэр Візлі грукнуў кулаком па сталу.

- Молі, колькі разоў я павінен казаць табе, што ані аб усім паведамляюць ў газэтах! Фадж не казаў ім аб гэтым, але я ведаю, што ён хадзіў у Азкабан, адразу пасля таго як Блэк уцёк. Ахова паведаміла яму, што Сірыюс увесь час размаўляў у сне, і кожны раз казаў адно і тое ж: «Ён у Хогвартсе... ён у Хогвартсе». Блэк – зшалелы і ён жадае забіць Гары. Ты спытаешся ў мяне чаму? Адкажу! Пэўна Сірыюс лічыць, што забойства Гары, павярне да ўлады яго гаспадара. Блэк страціў усё той ноччу, калі Гары перамог Сама-Ведаеш-Каго і ўсе дванаццаць год месцішча ў Азкабане разважаў аб гэтым...

Запанавала цішыня. Гары памкнуўся да дзвярэй, адчайна спрабуючы пачуць больш.

- Добра, Артур, рабі тое, што лічыш правільным. Але й не забывайся аб Альбусе Дамблдоры. Я не думаю, што ў Хогвартсе штосьці можа пашкодзіць Гары, пакуль ён там кіруе. Спадзяюся ён аб ўсім ведае?

- Вядома ж не. Мы толькі загадалі яму размясціць вакол школы азкабанскую ахову. Ён ня быў у захапленні ад гэтага, але пагадзіўся.

- Ня быў у захапленне? Чаму яму ня быць задаволеным з той думкі, што яны там, каб схапіць Блэка?

- Дамблдор, ня любіць азкабанскую ахову,- з цяжкасцю ў голасе прамовіў містэр Візлі,- і шчыра кажучы, я таксама... Але ж, калі гаворка ідзе аб такім чараўніку як Блэк, тут патрэбна аб'яднаць свае намаганні і з тымі, каго лепш пазбягаць.

- Калі яны выратуюць Гары...

-... аніхто, нічога супраць іх ня скажа,- стомленна прамовіў містэр Візлі.- Ужо запозна, нам трэба ісці...

Гары адчуў, як рухаюцца крэслы. Як мага цішэй ён паспяшаўся па калідоры ў бар і схаваўся. Грукнулі дзверы гасцёўні. А праз колькі секунд рыпаючыя прыступкі паведамілі хлопчыку, што містэр і місіс Візлі падымаюцца на другі паверх.

Бутэлечка з Пацучыным Тонікам ляжала пад столікам дзе яны раней сядзелі падчас вячэры. Гары пачакаў, пакуль не грукнуць дзверы пакою містэра і місіс Візлі і паспяшаўся наверх разам з бутэлечкай.

Фрэд і Джордж стаіліся ў цені на лесвічным маршы і душыліся са смеху, слухаючы, як Персі перакопвае іх з Ронам пакой у пошуках значыка.

- Ён у нас,- прашапатаў Гары Фрэд.- глядзі, як мы яго ўдасканалілі.

На значыку цяпер ззяў надпіс «Шкодны Стараста».

Гары натужна хмыкнуў, зайшоўшы аддаў Рону Пацучыны Тонік, потым зачыніўся ў сваім пакоі і паклаўся на ложык.

Так Сірыюсу Блэку патрэбен ён. Гэта ўсё тлумачыць. Фадж быў гэткім паблажлівым, таму што ўзрадаваўся, што Гары жывы. Ён загадаў Гары заставацца на Дыягон Алеі дзе заўжды было шмат чараўнікоў, якія маглі сачыць за ім. І ён заўтра дасылае дзве машыны з Міністэрства, каб Візлі маглі назіраць за ім пакуль ён не сядзе на цягнік.

Гары ляжаў, слухаючы воклічы ў суседнім пакоі і пытаўся сам у сябе, чаму яму больш не страшна. Сірыюс Блэк забіў адной замоваю трынаццаць чалавек; містэр і місіс Візлі пэўна вырашылі, што ён Гары запанікуе, калі даведаецца праўду. Але ён сапраўды шчыра лічыў, што місіс Візлі мела рацыю, месца дзе паблізу ёсць Альбус Дамблдор самае бяспечнае на зямлі. Не здарма людзі кажуць, што адзіны чалавек, які ніколі не баяўся Лорда Вальдэморта быў менавіта Дамблдор. Няўжо ж дырэктар спужаецца яго правай рукі?

А гэтыя ахоўнікі з Азкабану аб якіх усе кажуць. Яны пужаюць значную большасць народу і калі іх размесцяць вакол ўсёй школы, шанцы Блэка будуць аніякімі.

У цэлым, Гары турбавала толькі адно, шанцы на наведванне ў гэтым годзе Хогсміда раўны нулю. Ніхто б не дазволіў Гары пакінуць межы замка, пакуль Блэка ня схопяць. Да таго ж хлопчык падазраваў, што за кожным яго крокам будуць уважліва сачыць.

Ён пахмурна глядзеў на пакрытую цемраю столь. Няўжо яны лічаць, што Гары не ў стане сам аб сабе паклапаціцца? Ён ўжо тройчы перамагаў Лорда Вальдэморта, і быў не такі ўжо нягодны...

Нечакана ён прыпомніў выяву дзіўнага звера, які хаваўся ў цені на Плошчы Магнолій.

Што рабіць, Калі ўбачыў Благі Канец...

- Я не жадаю быць забітым,- ўголас прамовіў Гары.

- Малайца,- сонна прамовіла яму ўласнае адлюстраванне.

## *Дэментар*

Наступнай раніцай Том, як заўжды разбудзіў Гары, бяззуба ўсміхаючыся і трымаючы ў руках кубак гарбаты. Гары апрануўся і ледзь пераканаў незадаволеную гэтым Хэдвіг, вярнуцца ў сваю клетку, калі Рон пастукаў у яго пакой. Ён нацягваў швэдар і быў раздражнёным.

- Вох, хутчэй бы трапіць на цягнік,- прамовіў Рон,- У Хогвартсе, я нарэшце змагу пазбавіцца ад Персі. Цяпер ён абвінавачвае мяне ў тым, што я закапаў гарбатай фота Пенелопы Клірвотар,- Рон скрывіў морду,- яго дзяўчыны. Яна схавала твар па-за рамкай, таму што яё нос запрышчавіў...

- Мне трэба сёе-тое табе сказаць,- пачаў Гары, але быў перапынены тупатам блізнятаў, якія падскочылі, каб павіншаваць Рона за тое, што той чарговы раз разлютаваў Персі.

Яны спусціліся да сняданку. Містэр Візлі, нахмурыўшы бровы, чытаў першую старонку Штодзённага Вяшчуна. Місіс Візлі распавядала Герміёне і Джэні аб тым як варыла Любоўнае зелле, калі была дзяўчынкай, ўсе тры гігікалі.

- Ты штось, хацеў мне сказаць,- заўважыў Рон, калі яны прыселі за стол..

- Пасля,- прамармытаў Гары, а тым часам у гасцёўню ўварваўся Персі.

У Гары так і не атрымалася паразмаўляць з Ронам, альбо Герміёнай падчас хаатычных збораў; усе былі занятыя перацягваннем сваіх рэчаў па вузкай лесвіцы Дзіравага Катлу з другога паверха да дзвярэй. Клеткі Хэдвіг і малай вушастай савы Персі, якую клікалі Гермес стаялі зверху, а побач з валізамі гучна шыпеў маленькі куфар.

- Усё добра, Крукшанс,- буркавала Герміёна з куфрам.- Я выпушчу цябе ў цягніку.

- Ты не зробіш гэта!- запратэставаў Рон.- Як наконт беднага Скаберса?

Ён паказаў на сваю нагрудную кішэню, дзе абаранкам скруціўся яго пацук.

Містэр Візлі, які звонку чакаў машыны з Міністэрства, прасунуў галаву ў дзверы.

- Яны ўжо тут,- сказаў ён,- хадзем, Гары.

Разам яны прайшлі па невялічкаму тратуару да першай з двух старамодных цёмна зялёных аўтамабіляў у кожным з якіх за рулём сядзела па чараўніку-агенту, апранутых ў аксамітную вопрадку смарагдавага колеру.

- Гары, паедзе з вамі,- прамовіў містэр Візлі аглядзеўшы вуліцу зправа і злева.

Хлопчык сеў на задняе сядзенне, а да яго неўзабаве далучыліся Герміёна, Рон, і на раздражненне Рона, яго брат Персі.

У адрозненні ад Начнога Омнібуса, машыны Міністэрства магіі ехалі загладка. Самі яны выглядалі, як звычайныя аўтамабілі, але мелі асаблівасць працісківацца ў самыя невялічкія шчыліны між іншымі машынамі, чаго аніколі б не атрымалася ў службовага аўто дзядзькі Вернана. Калі яны прыехалі на Кінг Крос у іх ў запасе было дваццаць хвілін; кіроўцы Міністэрства згрудзілі іх рэчы на вазкі, якія самі ж даволі хутка адшукалі, развіталіся з містэрам Візлі, крануўшы свае капелюшы і пахіліўшыся, а потым ад’ехалі, незразумелым чынам скокнуўшы ў самы пачатак нерухомай чаргі машын ля светлафора.

Містэр Візлі суправаджаў Гары увесь шлях да станцыі, трымаючы хлопца за локаць.

- Адразу ж прапаную,- сказаў ён, азірнуўшыся па баках,- рухацца парамі, як шмат хто акрамя нас. Я пайду першым разам з Гары.

Містэр Візлі павольна пайшоў, штурхаючы Гарын вазок між платформамі дзевяць і дзесяць і паглядаючы, так бы вельмі зацікаўлены, на толькі што падыйшоўшы да дзевятай платформы цягнік ІнтэрСіці 125. Потым шматзначна пазірнуў на Гары і быццам бы выпаткова знік за бар’ерам, хлопчык рушыў ўслед зрабіўшы ўсё па яго прыкладу.

Праз імгненне, яны ўжо празлізнулі праз цэльнаметалічны бар’ер на платформу дзевяць і тры чвэрці, дзе ўбачылі Хогвартс Экспрэс. Гэта быў пунсовы цягнік з паравым рухавіком, які стаяў і пыхкаў дымам па над платформай забітай ведзьмаркамі і ведзьмакамі, што праваджалі сваех дзяцей у школу.

Персі і Джыні аб’явіліся следам за Гары і былі моцна запыхаўшыеся, таму што напэўна міналі бар’ер бегам.

- Аёй, Пенелопа тут!- сказаў Персі, прыгладжваючы сваю фрэзуру і чырванеючы. Джыні ўхапіла позірк Гары і яны абодва былі вывушаны адвярнуцца, каб схаваць свой смех, калі Персі пачаў кружляць, выставіўшы свае грудзі з ззяючымі на іх значыкам, вакол дзяўчыны з доўгім хвалістым валоссем.

Пасля таго, як да іх далучыліся ўсе астатнія Візлі і Герміёна, Гары з Ронам рушылі ў канец цягніка, ўздоўж напоўненных навучэнцамі вагонаў, пакуль не знайшлі больш менш пусты. Яны загрузілі ў яго ўсе свае рэчы, паставілі клетку Хэдвіг і куфар Крукшанса ў багажную сетку і выйшлі, каб развітацца з містэрам і місіс Візлі.

Місіс Візлі перацалавала ўсех сваіх дзяцей, потым Герміёну і напрыканцы Гары. Той моцна вагаўся, але на самой справе быў вельмі рады, калі яна зверх таго, яшчэ й абняла яго.

- Сцеражы сябе, Гары, добра?- прамовіла яна выпрастоўваючыся, яе вочы дзівосна заблішчэлі. Потым яна раскрыла сваю вялізную торбу.- Я зрабіла вам ўсім сэндвічаў у дарогу. Гэта твае, Рон... не, яны без без саланіны... Фрэд? Ты дзе, Фрэд? Вось ты, мой любы...

- Гары, - ціха прамовіў містэр Візлі,- адыйдзем на хвілінку.

Ён штурхнуў галавой ў бок слупа і Гары рушыў ўслед за ім, пакінуўшы натоўп згрудзіўшыйся вакол місіс Візлі.

- Я вінен, аб нечым паведаміць табе, пакуль ты не з’ехаў,- напружана прамовіў ён.

- Усё балазе, містэр Візлі,- сказаў Гары.- Я ўжо ўсё ведаю.

- Ведаеш? Адкуль ты можаш ведаць?

- Я... мммм... я выпадкова пачуў вашую з місіс Візлі размову ўчора ўвечары. Яе цяжка было не пачуць,- хлопчык хуценька дадаў.- Прабачце, калі ласка...

- Не разлічваў, што ты даведаешся аб усім гэткім чынам,- трывожна гледзячы прамовіў містэр Візлі.

- Не... Але насамрэч, так нават лепш,- вы не парушылі слова дадзенае Фаджу і я аб ўсім ведаю.

- Табе, напэўна, вельмі жахліва, хлопча...

- Ані,- шчыра прамовіў Гары, але адчуўшы недаверлівы погляд містэра Візлі дадаў,- Насамрэч, я не жадаю геройстваваць, але ж ці можа Сірыюс Блэк быць жахлівейшым за Вальдэморта?

Містэр Візлі ўздрыгануўся пачуўшы гэта імя, але перасіліў сябе.

- Гары, я ведаў, што ты зроблены са значна мацнейшага матэрыяла, чым лічыць Фадж і я безумоўна рад, таму, што ты не баішся, але...

- Артур!- паклікала місіс Візлі, якая засталася чакаць ля цягніка.- Артур, ну што ты кешкаешся? Цягнік хутка адыходзіць!

- Ён ужо ідзе, Молі!- крыкнуў містэр Візлі, а потым зноў абярнуўшыся да Гары, працягваў, зусім ціха і вельмі шпарка.- Слухай, я хачу, каб ты нешта паабяцаў мне...

-... што я буду добрым хлопчыкам і буду ўвесь час знаходзіцца ў Хогвартсе,- змрочна сказаў Гары.

- Не зусім,- прамовіў містэр Візлі, у гэты момант ён выглядаў сур'ёзней чым калі-небудзь за ўвесь час знаёмства з ім Гары.- Пакляніся мне, што ты не будзеш шукаць сустрэчы з Блэкам.

- Што?- вытарапіўся на яго Гары.

Адчуўся гучны свіст. Кандуктары пайшлі ўздоўж цягніка, зачыняючы дзверы.

- Паабяцай мне, Гары,- сказаў містэр Візлі, кажучы яшчэ хутчэе,- што б не здарылася...

- Навошта мне, шукаць сустрэчы з тым, хто жадае мяне забіць?- абыякава прамовіў Гары.

- Паабяцай мне, што б не здарылася...

- Артур, хутчэй!- закрычала місіс Візлі.

Пара ахутала вагоны і цягнік паволі пачаў рухацца. Гары пабег да дзвярэй вагона, Рон адсунуў іх і дапамог Гары ўскочыць. Яны высунуліся з вокан і махалі містэру і місіс Візлі на развітанне, ажно пакуль цягнік не заехаў за кут і тыя не зніклі з вачэй.

- Мне трэба пагаманіць з вамі сам-насам,- прамармытаў Гары Рону і Герміёне, калі цягнік набраў хуткасць.

- Джыні, пакінь нас,- папрасіў Рон.

- Ах, зразумела ж,- пакрыўджана прамовіла дзяўчо і адыйшла.

Гары, Рон і Герміёна рушылі па калідоры ў пошуках вольнага купе, але ўсе яны былі занятыя, за выключэнне аднаго ў самым канчатку цягніка.

У купэ месціўся толькі адзін пасажыр, мужчына, што сядзеў ля вакна і моцна спаў. Сябры супыніліся ля ўваходу. Звычайна Хогвартс Экспрэс перавозіў толькі навучэнцаў, а дарослых ніхто з іх аніразу не бачыў. За выключэннем вядзьмаркі, што гандлявала прысмакамі.

Незнаёмец быў апрануты ў значна патрапаную чараўніцкую вопрадку, цыраваную ў колькіх месцах. І сам ён выглядаў даволі хваравіта і зняможана. Ня гледзячы на яшчэ дастаткова малады ўзрост, яго светла-каштанававыя валасы сям-там месцілі сівізну.

- Цікава, хто ён такі,- прашыпеў Рон, калі яны зачыніўшы дзверы селі як мага далей ад вакна.

- Прафэсар Р. Дж. Люпін,- неадкладна прашапатала Герміёна.

- А ты ўжо адкуль ведаеш?

- Прачытала на яго валізе,- адказала Герміёна і паказала на багажную паліцу па над галавой мужчыны, дзе месцілася маленькая зазношаная валіза, не развальваючаяся толькі таму, што была ўшчэнт перавязана почапкай. Вакол аднаго з куткоў валізы, паўсцёртымі літарамі было напісана «Прафэсар Р. Дж. Люпін».

- Цікава, што ён будзе выкладаць?- спытаўся Рон, пазіраючы на абяскоўлены твар прафэсара.

- Хіба не відавочна, заўважыла Герміёна.- У школе толькі адно вакантнае месца, памятаеш? «Абарона ад Цёмных Мастацтваў».

За той час пакуль Гары, Рон і Герміёна вучыліся, у іх змянілася ўжо два настаўнікі па Абароне ад Цёмных Мастацтваў, кожны з якіх навучаў роўна год. Былі нават чуткі, што гэтая пасада клятая.

- Спадзяюся, ён здатны на гэта,- з некаторым сумневам прамовіў Рон.- выглядае ён так, бы яго можна забіць адным добрым праклёнам. Але ж...- ён развярнуўся да Гары.- Ты хацеў аб нечым пагаманіць з намі?

Гары паведаміў усё аб спрэчцы містэра ды місіс Візлі і аб тым, што яму паведамілі сам-насам. Калі ён нарэшце скончыў, Рон выглядаў бы аглушаны, а Герміёна заціснула рот рукамі. Але нарэшце яна апусціла іх.

- Сірыюс Блэк збег, каб дабрацца да цябе? Ёечку, Гары... табе трэба быць вельмі вельмі асцярожным. І не лезці у сіло...

- Я ніколі не шукаю бяды,- разлютавана прамовіў Гары,- але што рабіць, калі бяда звычайна шукае мяне!

- Гары, якім жа ёлупам трэба быць, каб самому шукаць, вар’ята які жадае цябе забіць?- пагушкваючыся прамовіў Рон.

Сябры ўспрынялі навіны, горш чым разлічваў Гары.Здавалася Рон з Герміёнай разам страшыліся Блэка больш, чым ён сам.

- Ніхто ня ведае, якім чынам ён збег з Азкабана,- устрывожана прамовіў Рон.- Аніўкога ранней гэта не атрымлівалася. Да таго ж ён быў звышмоцна ахоўваемым вязнем.

- Але ж яны зловяць яго?- сур’ёзным голасам спыталася Герміёна.- То бок, яны ж далучылі да яго росшукаў нават маглаў...

- Што гэта за гукі?- раптоўна спытаўся Рон.

Аднекуль раздаваўся слабы бляшаны свіст. Яны азірнуліся навокал.

- Гэта з тваёй валізы, Гары,- сказаў Рон, падняўся і палез ў багаж. Праз імгненне ён выцягнуў з Гарынага адзення Партатыўны Брыдаскоп. Ён шалёна круціўся на далоні Рона і яскрава свяціўся.

- Брыдаскоп?- падняўшыся на ногі, каб лепш бачыць прамовіла Герміёна.

- Ага... але майце на ўвазе, што ён вельмі танны,- сказаў Рон,- і паводзіў сябе гэдак жа, калі я прывязваў яго да нагі Эрал, каб даслаць яго Гары.

- Ты рабіў штось благое ў гэты час?- пранікліва спыталася Герміёна.

- Ані! Папросту... Карацей, мне нельга было выкарыстоўваць Эрал, яна ня здольна для падарожжаў на падобныя адлегласці... але ж трэба было неяк перадаць яго Гары?

- Пакладзі яго назад,- параіў Гары, калі Брыдаскоп засвістаў асабліва пранізліва,- ён можа яго абудзіць.

Хлопчык штурхнуў галавой у бок прафэсара Люпіна. Рон запхнуў прыладу ў адну з жахлівых шкарпэтак дзядзькі Вернана, якая значна патупіла гук і зачыніў валізу.

- Трэба будзе праверыць яго ў Хогсмідзе,- сядаючы на месца заўважыў Рон,- Фрэд з Джорджам казалі мне, што брыдаскопы прадаюцца ў краме «Чараўніцкія інструменты і матэрыялы Дэрвіша і Бэнша».

- А ці ты шмат ведаеш аб Хогсмідзе,- зацікаўлена спыталася Герміёна,- бо я сама толькі чытала аб ім ў даведніку па немаглаўскіх паселішчах у Брытаніі...

- Лічу што так,- не задумваючыся адказаў Рон,- але я хачу трапіць туды з іншай мэтай: каб нарэшце траціць да «Мядовага Герцага».

- А што гэта?- спыталася Герміёна.

- Кандытарская,- замроена адказаў Рон,- у якой маюцца ўсе слодычы свету: Перачныя Шатанята – ад якіх дым з рота валіць... ці вязізарныя Шакаладныя яйкі поўныя трускаўковага муса і ўзбітай сметанкі, ці цукровыя пер'і, якія можна смактаць у класе, робячы выгляд што думаеш, аб чым пісаць надалей...

- Але, ці няўжо сам Хогсмід для цябе менш цікавае месца?- папыталася перавесці тэму Герміёна.- У «Паселішчы ў Гісторыі Чараўніцтва» напісана, што ў 1612 годзе, тамтэйшы шынок быў штаб-кватэраю гоблінскага паўстання, а Лямантуючая Халупа, лічыцца адным з самых небяспечных з зачараваных дамоў ува ўсёй Брытаніі...

-... і вялізарныя шэрбетавыя шары, якія прымушаюць табе падымацца на колькі цаляў у паветра, пакуль ты іх смактуеш,- працягваў Рон, папросту ігнаруючы тое, што гаманіла Герміёна.

Дзяўчынка азірнулася на Гары.

- Ах, як будзе выдатна выбірацца адчасу са школьнага будынку і вывучаць Хогсмід

- Пэўна так,- маркотна прамовіў Гары,- а як вернешся, будзеш расказваць мне, што ўбачыла.

- Ты гэта аб чым?- спытаўся Рон.

- Таму што сам анікуды не пайду. Дурслі не падпісалі мой дазвол і Фадж адмовіўся.

Рон быў шакаваны.

- Табе не дазволена туды хадзіць? Але... анізашто... МакГонагал, ці хтось яшчэ дасі табе дазвол.

Гары шчыра засмяяўся. Прафесарка МакГонагал – Галава Дому Грыфіндор была самай суворай ў выкананні закону настаўніцай.

-... а яшчэ мы можам спытацца ў Фрэда з Джорджам, яны ведаюць усе патаемныя выхады з замку...

- Рон!- рэзка абарвала яго Герміёна.- Я лічу што Гары ня трэба ўпотай знікаць з школы пакуль Блэк на волі...

- Так, я ўяўляю адказ прафесаркі МакГонагал, калі я ў яе спытаюся,- тужліва мовіў Гары.

- Пакуль мы з ім,- зухавата сказаў Рон Герміёне,- аніякі Блэк не асмеліцца...

- Вох, Рон, не гавары лухты,- гыркнула Герміёна.- Блэк забіў купу людзей пасярод ажыўленнай вуліцы, дык няўжо ты лічыш, што ён будзе тужыцца падчас нападу на Гары, калі паблізу будзем мы з табой?'

Кажучы гэта, яна пачала развязваць раменчыкі на куфру з Крукшансам.

- Не рабі гэтага!- закрычаў Рон, але было ўжо запозна. Крукшанс скокнуў вонкі, пацягнуўся, пазяхнуў і забраўся на калені да Рона. Камяк ў яго кішэні пачаў дрыжэць і хлопец злютавана адштурхнуў Крукшанса.

- А ну, вэк!

- Рон, ня трэба!- раззлавалася Герміёна.

Рон ўжо збіраўся штось адказаць, але тут прафесар Люпін заварушыўся. Усе засцярожана зірнулі на яго, але прафесар толькі павярнуўся на іншы бок. Ён працягваў спаць, злёгку прыадкрыўшы вусны.

Тым часам Хогвартс Экспрэс мерна павярнуў на поўнач і пейзаж за вакном стаў больш дзікім і цёмным, а аблокі ў небе згусцелі. Вучні гойсалі сюды-туды па вагоне міма дзвярэй іх купэ. Крукшанс знайшоў сабе вольнае месца і сеў звярнуўшы сплясканую мыску да Рона, утаропіўшы свае жоўтыя вочы на яго нагрудную кішэню.

А першай гадзіне ў дзверы пагрукала ведзьмарка, гандлюючая з вазка прысмакамі і ежай.

- Мо нам разбудзіць яго?- абыякава спытаўся Рон хістнуўшы галавою ў бок прафесара Люпіна.- Выглядае ён так, бы яму не пашкодзіла пад’есці.

Герміёна асцярожна наблізілася да прафесара Люпіна.

- Гэ-эй, містэр прафесар,- прамовіла яна.- Прабачце, містэр прафесар...

Той нават не варухнуўся.

- Не турбуйся, маё дзіця,- сказала ведзьма, выдаваючы Гары вялізную груду Шакаладных Кацялкоў,- калі раптам ён згаладаецца, я буду наперадзе цягніка, разам з кіроўцам.

- Спадзяюся ён ўсё ткі спіць?- прашапатаў Рон, калі ведзьма зачыніла дзверы іх купе.- У тым сэнсе, а ці ён часам не памёр?

- Не, не, дыхае,- прашапатала Герміёна, беручы з Гарыных рук Шакаладны Кацялок.

Канечне, спячы прафесар быў ня надта добрай кампаніяй, але ў яго наяўнасці ў купэ былі свае прывілеі. У сярэдзіне дня, распачаўся дожджык і прыняўся размываць пагоркі за вакном, а ў калідоры адчуліся нечыя крокі. Дзверы адчыніліся і на парозе ўзніклі тры самых найнелюбімейшых Гары, Ронам і Герміёнай чалавека: Драко Малфой і яго сябрукі Вінцэнт Крэйб і Грэгары Гойл.

Драко Малфой і Гары варагавалі з часоў іх сустрэчы ў першым для іх Хогвартс Экспрэсе. Малфой, які меў бледнаскуры, востры, яхідны твар, быў з Дому Слізэрына. Больш таго ён, як і Гары ў Грыфіндоры быў Паляўнічым у слізэрынскай камандзе па квідытчу. Крэйб і Гойл здавалася былі народжаны толькі дзеля выканання яго загадаў. Абодва былі шырачэннымі і мускулістымі; Крэйб меў высокі рост, фрэзуру пад гаршок і вельмі тоўстую шыю; у Гойла было кароткае жорсткае валоссе і доўгія гарылападобныя рукі.

- А вы ж паглядзіце, хто тут,- як заўжды лянотна расцягваючы словы прамовіў Малфой адчыніўшы дзверы іх купэ,- Гарунік з Ронікам.

Крэйб з Гойлам троліявата зарагаталі.

- Я чуў ў твайго бацькі нарэшце з’явілася крышачку золата, Візлі?- спытаўся Малфой.- Твая маці пэўна памёрла ад здзіўлення?

Рон усхамянуўся настолькі хутка, што перакуліў куфар Крукшанса на падлогу. Прафесар Люпін даў хропу.

- Хто гэта?- аўтаматычна адскочыўшы назад і убачыўшы Люпіна спытаўся Малфой.

- Новы настаўнік,- адказаў Гары, таксама падымаючыся, каб пры неабходнасці дапамагчы Рону.- Што ты там гамоніў, Малфой?

Драко звузіў свае цмяныя вочы, ён не настолькі сшалеў, каб біцца пад носам настаўніка.

- Ходзьма,- пакрыўджана прамармытаў Малфой Крэйбу і Гойлу і яны зніклі.

Гары з Ронам паселі на месца, Рон масіяваў касцяшкі пальцаў.

- У гэтым годзе я не збіраюся цярпець здзекі Малфоя з маёй сям'і,- раз'юшана прамовіў ён.- І папярэджваю, яшчэ адзін жарт на гэты конт, я схаплю яго галаву і...

Рон стукнуў у паветра кулаком.

- Рон,- шыкнула Герміёна паказваючы на Люпіна,- цішэй...

Але той працягваў моцна спаць.

Дождж узмацніўся. Калі цягнік паскорыўся, працягваючы ехаць на поўнач; вокны засціла суцэльная мігатлівая шэрань, паступова запаліліся бляклыя ліхтары, якія асвятлілі калідоры і багажныя паліцы. Цягнік грукатаў па рэльсах. За вокнамі лютавала залева, роў вецер, а прафесар Люпін працягваў спаць.

- Хутка будзем на месцы,- заўважыў Рон і перахіліўшыся праз прафесара паглядзеў у стаўшае чорным вакно.

Ён нават не паспеў дагаварыць, як цягнік пачаў запавольвацца.

- Супэр,- сказаў Рон і папытаўся перайсці міма прафесара бліжэй да вакна, каб лепш разглядзець тое, што звонку,- Я моцна згаладаўся і жадаю святочнага банкетавання...

- Мы пакуль яшчэ не даехалі,- прамовіла Герміёна пазіраючы на свой гадзіннік.

- А чаму мы тады супыняемся?

Цягнік тым часам сцішаў свой рух ўсё больш і больш. Шум поршняў знік і вецер з дажджом за вакном сталі яшчэ гучней.

Гары, які быў бліжэй да дзвярэй падняўся і высунуўся ў калідор, дзе ўбачыў высунутыя з усіх купэ зацікаўленныя галовы пасажыраў.

Цягнік рэзка спыніўся поўнасцю і па ўсяму калідору адчулася бумканне падаючага багажу. Потым без папярэджання цмяныя ліхтарыкі асвятляўшыя цягнік згаслі і ўсё акунулася ў непраглядную цемру.

- Што здарылася?- Гары адчуў голас Рона за сваёй спіною.

- Ёйку!- усклікнула Герміёна. - Рон, ты ступіў мне на нагу.

Гары навобмацак вярнуўся на сваё месца.

- Мо якая аварыя?

- А халера яго ведае...

Нешта рыпнула і Гары убачыў цёмны сілуэт Рона, які працёр вакно і ўтаропіўся ў яго.

- Там нехта варушыцца,- адчуўся Ронаў голас.- Здаецца нехта заходзіць ў вагон...

Тут дзверы купэ раптоўна адчыніліся і нехта балюча ступіў Гары на нагу.

- Прашу прабачэння! Ці тут хто ведае што здарылася? Ёйку! Выбачце...

- Здароўку, Нэвіл!- прамовіў Гары і навобмацак знайшоўшы Лонгботама зацягнуў яго за мантыю ўсярэдзіну.

- Гары? Гэта ты? Што здарылася?

- Ня маю разумення. Сядай...

Адчулася громкае шыпенне і лямант ад болю, Нэвіл паспрабаваў сесці на Крукшанса.

- Я збіраюся пайсці спытацца ў кіроўцы, што здарылася,- сказаў голас Герміёны. Гары адчуў, як дзяўчынка прайшла міма яго, пачуў раскрываючыеся дзверы і два пранізлівых віску болю.

- Хто тут?

- А тут хто?

- Джыні?

- Герміёна?

- Што ты тут робіш?

- Я шукала Рона...

- Заходзь і сядай...

- Сюды не атрымаецца!- паспешліва прамовіў Гары.- Тут я сяджу!

- Аёечку!- адчуўся голас Нэвіла.

- Ціха!- нечакана прамовіў хрыплы голас.

Праферар Люпін, здаецца нарэшце прачнуўся. Гары адчуў рух ў яго кутку. Усе сціхлі.

Адчуўся мягкі, чыркаючы гук і дрыготкае святло заліло купэ. Здавалася, прафесар трымае жменю агеньчыкаў. Яны асвятлілі яго стомлены шэры твар з усхваляванымі і насцярожанымі вачыма.

- Заставайцеся на месцы,- прамовіў ён ужо знаёмым хрыплым голасам і падняўся на ногі, трымаючы жменю з агенчыкамі перад сабою.

Але дзверы адчыніліся раней, чым ён дасягнуў іх.

У дзвярах стаяла, уздымаючыся да столі і асвятляемая дрыгокім полымям у руцэ Люпіна, фігура, захутаная ў плашч. Яе твар быў цалкам схаваны пад капотам. Гарыны вочы зірнулі ўніз і аб гэтага гледзішча ўсё ў яго ўлонні зжалася. Рука што выглядала з-пад плашчу была бліскучай, шэрай, склізкай і шалудзівай, нібы ў нябожчака, які доўга праляжаў у вадзе...

Руку было бачна толькі дзелю секунды. Істота бы злавіўшы позірк Гары, схавала руку ў зморкі свайго чорнага плашчу.

Адразу ж істота зрабіла доўгі, павольны, шумлівы ўдых, бы імкнулася засмактаць значна больш чым паветра з наваколля.

Моцны холад ахапіў прысутных. Гары адчуў, як подых затрымаўся ў яго грудзях. Холад.

Яго вочы закаціліся і ён перастаў штось бачыць. Хлопчык паглыбляўся ў гэты холад. Нешта пачало шумець у вушах быццам вада. Гучны, узмацняючыйся гуд здавалася цягнуў яго ўніз...

Потым, недзе здалёк ён адчуў крык; жудасны, трывожлівы, умольваючы лямант. Гары збіраўся кінуцца да невядомага, але паспрабаваўшы паварушыць рукамі, ён зразумеў што не ў стане гэта зрабіць... густая белая смуга ахутала яго звонку і ва ўлонні...

- Гары! Гары! Ты як?!

Нехта пляскаў яго па шчоках.

- Ш-што?

Гары расплюшчыў вочы. Над галавой бліщчэлі ліхтары, а падлога дрыжэла – Хогвартс Экспрэс зноў рухаўся і быў заліты святлом. Гары ляжаў на падлоге. Рон і Герміёна стаялі перад ім на каленях, а за іх спінамі стаялі Нэвіл і прафесар Люпін. Гары адчуваў сябе

вельмі хворым, а калі ён падняў руку, каб паправіць акуляры, хлопчык адчуў, што яго твар пакрыты халодным потам.

Рон з Герміёнай дапамаглі яму сесці на месца.

- З табой ўсё добра?- знервавана спытаўся Рон.

- Так,- прамовіў Гары, пазіраючы на дзверы купэ, істота ў плашчы знікла.- А куды яно знікла... Хто гэта быў? Хто крычаў?

- Ніхто не крычаў,- адказаў Рон, усё больш нервуючыся.

Гары азірнуў асвятленнае купэ. Джыні і Нэвіл, абодва збляднелыя сядзелі побач і глядзелі на яго.

- Але ж я чуў крык...

Гучны трэск прымусіў усіх падскочыць. Гэта прафесар Люпін разламаў вялізную шакаладную плітку на кавалачкі.

- Трымай,- сказаў ён, і працягнуў Гары самы вялікі кавалак.- З’еш. Гэта табе дапаможа.

Гары прыняў шакалад, але не стаў есці.

- Што гэта за істота?- спытаўся ён у Люпіна.

- Дэментар,- адказаў той, раздаваючы шакалад астатнім прысутным.- Адзін з дэментараў Азкабана.

Дзеці паглядзелі на яго. Люпін змяў пустую абгортку ад шакалада і сунуў яе ў кішэню.

- Еш. Гэта дапаможа цябе, - паўтарыў прафесар,- а мне трэба паразмаўляць з кіроўцам. Прашу прабачэння...

Ён прайшоў міма Гары і знік ў калідоры.

- Ты ўпэўнены, што з табой ўсё добра?- спыталася Герміёна, трывожна пазіраючы на хлопчыка.

- Не надта разумею... што здарылася?- спытаўся ён, выціраючы з твара халодны пот.

- Ну... гэты... дэментар... ён стаяў і азіраўся. Насамрэч я ня ведаю, бо не бачыла яго твара... а ты... ты...

- Я вырашыў, што ў цябе прыпадак, ці што падобнае,- ўсё яшчэ напалохана сказаў Рон,- ты бы скамянеў, зваліўся на падлогу і пачаў торгацца...

- Прафесар Люпін прайшоў міма цябе да дэментара і выцягнуў сваю палачку,- працягнула Герміёна.- Ён сказаў ім: «Аніхто з іх не трымае пад сваёй вопрадкай Сірыюса Блэка. Прэч!» Але дэментар не варушыўся, тады Люпін прамармытаў нешта і штось срэбнае вырвалася з яго палачкі на дэментара, ён развярнуўся і заслізгаў вонкі...

- Гэта было жудасна,- прамовіў Нэвіл, вышэйшым чым звычайна голасам.- А ці вы адчулі, як адразу стала халодна, калі ён увайшоў?

- Я адчуваў сябе дзіўна,- сказаў, устрывожана варушачы плячыма, Рон,- Быццам ніколі не буду больш радасным...

Джыні што забілася ў куток і выглядала гэдак жа дрэнна, як і Гары, пачала ціха плакаць; Герміёна падыйшла і абняла яе, каб суцешыць.

- А ці ніхто больш з вас... не падаў са свайго месца?- незграбна спытаўся Гары.

- Не, - адказаў Рон, устрывожана пaглядаючы на Гары,- Джыні калацілася бы ашалелая, але...

Гары нічога не разумеў. Ён адчуваў слабасць і дрыжыкі, нібы пасля вельмі моцнага грыпу; а яшчэ яму было вельмі крыўдна. Чаму ён ледзь не загінуў, а з іншымі нічога не сталася?

Тым часам прафесар Люпін вярнуўся. Увайшоўшы ён зрабіў невялічкую паўзу і злёку ўсміхаючыся прамовіў:

- Між іншым, гэты шакалад не атручаны...

Гары адкусіў крышачку і да свайго здзіўлення адчуў, як цяплыня распаўсюджваецца па усяму целу ажно да пальцаў рук і ног.

- Праз дзесяць хвілін будзе Хогвартс,- паведаміў прафесар,- з табою ўсё добра, Гары?

Хлопчык нават не пытаўся, адкуль Люпін ведае яго імя.

- Так,- збянтэжана прамармытаў ён.

Увесь застаўшыйся час ніхто з іх не размаўляў. Нарэшце цягнік спыніўся на станцыі Хогвартс і ля выхадаў пачалася вялізная таўханіна; вухкалі совы, мяўкалі коткі, а жаба Нэвіла гучна квакала з-пад яго капелюша. На невялічкай платформе было даволі марозна, дождж рухаўся ільдзяной заслонай.

- Першагодкі, вэк за мною!- адчуўся знаёмы голас. Гары, Рон і Герміёна абярнуліся і ўбачылі гіганцкі абрыс Хагрыда на іншым канцы платформы, той гнаў перапужаных пачаткоўцаў наперад дзеля традыцыйнага шляху праз возера.

- Гэй, як ма’цеся, вы троя?- крыкнуў Хагрыд сябрам праз галовы натоўпу. Яны памахалі яму ў адказ, але шанцу пагаманіць не атрымалася, бо вакол іх вялікая колькасць вучняў ішла прэч з платформы. Гары, Рон і Герміёна апошнімі трапілі на грубую земляную дарогу, дзе для астатніх вучняў стаяла ня менш за сто карэтаў, якія, вырашыў Гары, цягнулі нябачныя коні, бо як толькі яны падняліся на адзін з экіпажаў і зачынілі дзверы, ён паехаў сам па сабе, падскокваючы і калыхаючыся ў агульнай працэсіі.

У карэце пахла цвіллю і саломай. Гары пасля шакаладу адчуваў сябе значна лепш, але быў яшчэ занадта слабы. Рон з Герміёнай збоч паглядалі на яго, быццам палохаючыся, каб той зноўку не зваліўся ў дрыготках.

Калі іх карэта праяжджала велічную каваную браму, па баках ад якой былі каменныя калоны, месціўшыя на сабе фігуры крылатых дзікаў, Гары заўважыў яшчэ дзве апранутыя ў плашчы з капотамі высачэзныя фігуры дэментараў, што стаялі на варце ля ўваходу. Адчуўшы хвалю хваравітага холаду, якая была гатова праглынуць яго зноў, Гары адкінуўся на грудкаватае сядзенне, зачыніў вочы і сядзеў гэдак пакуль яны не праехалі праз браму. Карэта набрала хуткасць на доўгай, спусцістай сцежцы да замку; Герміёна высунула галаву ў маленечкае акенца, назіраючы, як набліжаюцца шматлікія вежачкі і вежы. Тым часам іх карэта кіўнулася на прыпынку і Рон з Герміёна выскачылі вонкі.

Не паспеў Гары выйці, як адчуў над вухам працяглы, узрадаваны голас:

- Ты знепрытомліваў, Потэр? Лонгботам ня брэша? Ты сапраўды прытомнасць губляў?

Малфой лакцём адштурхнуў Герміёну ў бок, каб заблакаваць Гары шлях на прыступкі замку, яго твар ззяў радасцю, а кволыя вочы зламысна blішчэлі.

- Знікні, Малфой!- сціснуўшы сківіцы прамовіў Рон.

- А ты часам не губляў прытомнасць, Візлі,- гучна спытаўся Драко.- Няўжо стары жахлівы дэментар не напужаў цябе, га?

- Маюцца праблемы?- спытаўся мягкі голас, гэта прафесар Люпін выйшаў з наступнай карэты.

- Вой, не... эээ...прафесар,- азірнуўшы цыраваную мантыю і старую валізу Люпіна нахабным поглядам, адказаў з лёгкім сарказмам ў голасе Малфой. Пасля чаго ўсміхнуўшыся Крэйбу і Гойлу ён павёў сябрукоў уверх па замкавай лесвіцы.

Герміёна пхнула Рона ў спіну, каб той паспяшаўся і яны ўтраіх далучыліся да натоўпу, што цёк ўверх па лесвіцы праз гіганцкія дубовыя дзверы ўсярэдзіну пячорападобнага Вестыбюлю, што быў асветлены палаючымі паходнямі і меў пышную мармуровую лесвіцу, якая вяла наверх.

Справа былі адчыненныя дзверы ў Галоўную Залу; Гары ўжо збіраўся ўвайсці ў іх, але толькі паспеў ўбачыць зачараваную столю, якая сёння была згодна з вонкавым надвор’ем чорнай і пахмурнай, як адчуўся голас:

- Потэр! Грэйнджэр! Я жадаю бачыць вас абодвух!

Гары і Герміёна здзіўлена азірнуліся. Прафесарка МакГонагал, настаўнік па Ператварэніях і Галава Грыфіндору, клікала іх па над натоўпам. Яна была сувора выглядаючай вядзьмаркай, што завязвала сваё валоссе ў тугі пук, а вострыя вочы хавала за квадратнымі акулярамі. Гары працісківаўся да яе з прадчуваннем, што прафесарка збіралася паведаміць яму, што ён зноў зрабіў нешта благое.

- Няма прычыны, каб выглядаць гэдак занепакоена... Я просту хачу паразмаўляць з вамі ў маім кабінэце,- паведаміла яна.- Візлі ты можаш ісці далей.

Рон бачыў, як прафесарка МакГонагал выцягнула Гары і Герміёну з гаманлівага натоўпу і павяла з Вестыбюлю ўверх па мармуровай лесвіцы, а потым уздоўж калідора.

Калі яны ўвайшлі ў яе кабінэт, невялічкі пакой асветлены колькасцю гасцінных агенчыкаў, прафесарка жэстам наказала Гары і Герміёне сесці. Сама яна абыйшла вакол стала, таксама прысела і рэзка спытала:

- Прафесар Люпін даслаў наперад саву, каб паведаміць, што з вамі здарылася блага ў цягніку, Потэр.

Перш, чым Гары паспеў штось адказаць ў дзверы мягка пастукалі і ў кабінет увайшла мадам Помфры – галоўная лекарка.

Гары адчуў, што пачынае чырванець. Пэўна ён зрабіў нешта зверхблагое, што страціў прытомнасць, альбо што там яшчэ, але ж не ён зладзіў гэтую мітусню.

- Са мной ўсё добра,- сказаў ён,- ня трэба турбавацца...

- А, гэта ты?- прамовіла лекарка, праігнараваўшы яго словы, яна нахілілася да яго бліжэй і ўважліва паглядзела на Гары.- Зноў трапіў у нешта небяспечнае?

- Гэта быў дэментар,- паведаміла прафесарка МакГонагал.

Яны змрочна пазірнулі адна на адну і мадам Помфры асуджальна пырхнула:

- Атачыць школу дэментарамі,- прамармытала яна, адштуркнуўшы яго валасы і памацаўшы лоб.- Ён анібудзе апошняй ахвярай. Так, ён ўвесь схаладзелы. Жах поўны, яны і іх уплыў на людзей, якія яшчэ настолькі далікатныя...

- Я не далікатны,- сярдзіта сказаў Гары.

- Ты канечне ж не,- рассеяна прамармытала мадам Помфры, правяраючы яго пульс.

- Што вы яму параіце,- рашуча прамовіла МакГонагал,- Ложак? Можа яму правесці ноч ў шпітальным крыле?

- Я ў парадку,- падскочыўшы сказаў Гары. Адна толькі думка, што сказаў бы Малфой, калі б Гары пайшоў бы ў шпіталь была для яго пакутай.

- Перш-наперш, яму неадходна з'есці крышачку шакаладу,- мармытала мадам Помфры, якая зараз углядалася ў вочы хлопчыка.

- Я ўжо з'еў,- адказал Гары.- Прафесесар Люпін даў мне шакаладу. Дакладней, ён нам усім яго даў.

- Ён сам даў?- ухвальна прамовіла лекарка.- Нарэшце, мы атрымалі Прафесара па Абароне ад Цёмных Мастацтваў, які ведае, як трэба рабіць сваю справу.

- Потэр, вы ўпэўнены, што з вамі ўсё добра?- рэзка спыталася МакГонагал.

- ТАК,- адказаў Гары.

- Выдатна. А зараз пачакайце, калі ласка ў калідоры, я хачу абмеркаваць з міс Грэйнджэр яе графік заняткаў. А потым мы з вамі разам спусцімся да банкетавання.

Гары выйшаў у калідор разам з мадам Помфры, якая адразу ж адправілася да сябе ў шпітальнае крыло, штось мармочучы сабе пад нос. Пачакаўшы колькі хвілінаў, ён ўбачыў вельмі шчаслівую Герміёну, якая выходзіла з кабінэта МакГонагал. Крыху пазней выйшла і сама прафесарка і яны ўтраіх адправіліся ў Галоўную Залу.

Цэлае мора навучэнцаў у востраканцовых капелюшах, стаяла ля даўжэзных сталоў сваіх Дамоў, а іх твары бы асвятляліся мігцеючым святлом тысяч свечак, якія лёталі ў паветры па над сталамі. Прафесар Флітвік, маленечкі вядзмак з копай сівых валасоў на галаве, выносіў з залы трыножак з чорным капелюшом на ім.

- Шкада,- ціха прамовіла Герміёна.- Мы прапусцілі Размеркаванне па Дамах.

На кожнага з новых навучэнцаў Хогвартса апранalі Капялюш Размеркавальнік, які і выкрыківаў назву аднаго з чатырох  Дамоў, які лепш для яго падыходзіць. Усяго Дамоў было чатыры і яны атрымалі свае назвы згодна з прозвішчам чараўніка, які яго заснаваў: Грыфіндор, Рэйвенкло, Хафлпаф і Слізэрын. Прафесарка МакГонагал прайшла за настаўніцкі стол і заняла там вольнае месца, а Гары з Герміёнай, як мага цішэй адправіліся ў іншы бок, да стала Грыфіндора. Калі яны праходзілі ўздоўж сцяны людзі азіраліся на іх, а некаторыя казалі пальцам на Гары. Няўжо чутка, аб яго знепрытомленні перад дэментарам разнеслася па школе гэдак хутка?

Гары з Герміёнай селі паабапал Рона, які трымаў для іх месцы.

- Што там было?- шэптам спытаў ён у Гары.

Ён пачаў было штось шэптам тлумачыць Рону, але тут са свайго месца, для таго, каб сказаць прадмову падняўся Дырэктар і хлопчык сціх.

Прафесар Дамблдор быў надта старым, але заўжды выглядаў вельмі энэргічным. Ён меў па калена даўжынёй срэбныя валасы і бараду, насіў акуляры ў форме дзюух паўмесяцаў і меў незвычайна крывы нос. Шмат хто часцяком называў яго найвялікшым чараўнікам стагоддзя, але Гары паважаў яго не за гэта. Яму немагчыма было не давяраць і, гледзячы, як Альбус Дамблдор прамяніста ўсміхаецца навучэнцам, Гары, упершыню з часоў напада на яго дзементара адчуў сябе спакойна.

- Запрашаем!- пачаў Дамблдор, а святло ад свечак мігцела на яго барадзе.- Сардэчна запрашаем вас на новы навучальны год у Хогвартсе! Я павінен сказаць вам аб сіх-тых рэчах, кожная з якіх вельмі сур'ёзная і паведаміць іх трэ датуль пакуль вас не саб'е са штыху наша банкетаванне...

Прафесар пракашляўся і працягнуў.

- Як вы ўжо даведаліся, пасля ператрусу ў Хогвартс-Экспрэсе, па загадзе Міністэрства Магіі ля нашай школы цяпер будуць месціцца колькі Дэментараў Азкабана.

Ён зноў супыніўся і Гары прапомніў словы містэра Візлі, наконт таго, што Дамблдор не ўхвальваў вырашэнне аб ахове школы дэментарамі.

- Яны размешчаны ля кожнага ўваходу па-за межы Хогвартса, - працягваў дырэктар,- і пакуль яны тут, я павінен даць вам зразумець, што аніхто не павінен пакідаць межы школы без дазволу. Дэментараў немагчыма ашукаць з дапамогаю хітрыкаў ці маскіявання і нават Мантыі Невядзімкі,- ветліва дадаў ён, а Гары з Ронам паглядзелі адно на аднаго,- Дэментары па сваёй прыродзе не здольны ўспрыняць таксама мольбы і апраўданні. Таму папярэджваю кожнага з вас, не даваць ім нагоды прынесці вам шкоду. Я паклапачуся аб тым, каб прэфекты Дамоў і нашы новыя Старасты зрабілі ўсё магчымае, каб аніводзін з навучэнцаў не заканфліктаваў з імі.

Персі, які сядзеў праз колькі месцаў ад Гары, зноўку выпукліў свае грудзі са значыкам і азірнуў усіх прысутных навучэнцаў з самым ганарлівым выглядам. Дамблдор зноў зрабіў паўзу; ён аглядзеў Залу з суворасцю ў вачах, у зале сціхлі ўсё размовы і ніхто не варушыўся.

- А цяпер радасная навіна,- працягнуў ён,- я рады вітаць адразу двух новых настаўнікаў. Першы з іх прафесар Люпін, які будзе выкладаць Абарону ад Цёмных Мастацтваў.

Раздаліся крыху безладныя і нават стрыманыя апладысменты і толькі тыя, хто быў з ім у адным купэ падчас барацьбы з дементарам і Гары ў тым ліку пляскалі шчыра і буйна. На фоне астатніх настаўнікаў, старая цыраваная вопрадка Люпіна выглядала яшчэ больш паношана.

- Зірні на Снэйпа,- прашапатаў Рон на вуха Гары.

Прафесар Снэйп, займаўшы пасаду настаўніка па Зелляварству вытарапіў вочы ў напрамку сядзеўшага за настаўніцкім сталом прафесара Люпіна. Усім было вядома, што Снэйп даўно жадаў стаць настаўнікам па Абароне ад Цёмных Мастацтваў, але нават Гары, які шчыра палаў нянавісцю да яго, быў надта здзіўлены ўбачыўшы наколькі скрывіўся яго тонкі, бледны твар. На Снэйпавам твары палала пачуццё большае за злосць, гэта была агіда. Гары вельмі добра ведаў гэты выраз; ён з’яўляўся на твары Снэйпа штораз, калі яму на вочы трапляўся Гары.

- Што датычыцца другой пасады,- працягваў Дамблдор, калі сціхлі абыякавыя апладысменты.- З тугою паведамляю, што прафесар Кетэльбёрн, які навучаў Догляду за Магічнымі Істотамі, напрыканцы мінулага навучальнага году сыйшоў на пенсію, каб насалоджвацца наяўнасцю, як мага большай колькасці пакінутых на месцы канечнасцяў. Але я рады паведаміць, што на гэтай пасадзе будзе выкладаць ані хто іншы, як Рубеюс Хагрыд, які будзе сумяшчаць працу настаўніка са сваёй звычайнай пасадай палясоўшчыка.

Гары, Рон і Герміёна ашаломлена перазірнуліся. Пасля чаго сябры далучыліся да грукочушчых апладысментаў, асабліва бурлівых сярод грыфіндорцаў. Гары пахільнуўся наперад, каб лепей разглядзець Хагрыда, які схаваў стаўшы лалава-чырвоным твар ў свае найвялізнейшыя рукі, пасярод яго кудлатай чорнай барады ззяла ледзь прыкметная, але шырачэзная усмешка.

- Мы павінны былі здагадацца,- равеў Рон барабанячы па сталу.- Хто б яшчэ здагадаўся навучаць нас па драпежных падручніках?

Гары, Рон і Герміёна былі апошнімі хто скончыў пляскаць, а калі прафесар Дамблдор зноў падняўся, дзеля працягвання сваёй прадмовы, сябры ўбачылі, як Хагрыд выцірае вочы абрусам.

- Ну, лічу што ўсё важнае я паведаміў, - сказаў Дамблдор. - Няхай распачнецца свята!

Залатыя блюда і кубкі з разнастайнай ежай і напоямі з'явіліся на стале. Тут Гары адчуў сябе моцна згаладалым, ён наклаў сабе пакрысе ўсяго да чаго змог дацягнуцца і пачаў есці.

Банкет, як і заўжды быў вельмі смачным, а па над усімі сталамі панаваў шум галасоў, смех і звон нажоў ды відэльцаў. Гары, Рон і Герміёна гатовы былі чакаць да самога канца банкетавання, каб паразмаўляць з Хагрыдам. Яны ведалі, колькі для яго можа азначаць пасада настаўніка. Хагрыд ня стаў цалкам кваліфікаваным вядзмаком, бо быў выключаны з Хогвартса за чужое злачынства яшчэ на трэцім годзе навучання. І менавіта з іх дапамогаю год таму, яго імя было абелена.

У рэшце рэшт, калі апошнія кавалачкі гарбузовага пірага зніклі з залатых блюдаў, Дамблдор паведаміў, што надыйшоў час скончыць свята і ісці ў свае ложкі. Вось тут Гары, Рон і Герміёна атрымалі шанец на размову.

- Мае віншаванні, Хагрыд!- завішчала дзяўчынка, калі яны падыйшлі да стала настаўнікаў.

- А ўсё дзякі вашай тройцы,- прамовіў Хагрыд, выціраючы сурвэткаю зіхочучы твар.- Як гэткае ўявіць... такі вялікі чалавек, як Дамблдор... зазірнуў у маю хаціну, пасля таго, як прафесар Кетэ'бёрн заявіў, што с'ходзіць... я ж гэтага ўсё жыццё жадаў...

Ад хвалявання Хагрыд схаваў свой твар ў сурвэтку, таму прафесарка Макгонагал загадала ім сыйсці.

Гары, Рон і Герміёна далучыліся да плыні грыфіндорцаў, што падымаліся па мармуровай лесвіцы, а потым, ня гледзячы на стому, па шматлікіх калідорах і сходах, пакуль не трапілі да таямнічага ўвахода ў грыфіндорскую вежу.

- Пароль?- спытаў у іх вялізны партрэт Тлустай Пані.

- Праходзце усярэдзіну, праходзце!- крыкнуў Персі з-за натоўпу.- Новы пароль: «Фартуна Маёр»!

- Вой, не!- маркотна прамовіў Нэвіл Лонгботам. Для яго заўжды запамінанне пароляў было значнай цяжкасцю.

Прайшоўшы праз адтуліну за партрэтам і Гасцёўню, хлопчыкі і дзяўчынкі падняліся па лесвіцах ў свае асобныя пакоі. Гары падымаўся па шрубавых прыступках, у яго галеве не было аніводнай думкі, акрамя радасці ад вяртання. Хлопчыкі дабраліся да сваёй добра знаёмай спальні з пяццю ложкамі пад балдахінамі. Гары азірнуўся і зразумеў, што ён нарэшце трапіў дамоў.

## — РАЗДЗЕЛ VI —

### *Кіпцюры і Гарбата*

Калі Гары, Рон і Герміёна наступным ранкам спусціліся ў Галоўную залу на сняданак, першы, каго яны заўважылі, быў Драко Малфой, які, здавалася, распавядаў згуртаваўшымся вакол яго слізэрынцам нейкую надта пацешную гісторыю. А калі сябры праходзілі міма, Малфой быццам анекдатычна згубіў прытомнасць, што вызвала новы прыступ рогата ў яго паплечнікаў.

- Ігнаруй яго,- прамовіла Герміёна павярнуўшыся да Гары.- Проста ігнаруй яго, ён не варты увагі...

- Гэй, Потэр!- віскнула Пансі Паркінсон, слізэрынка з мопсападобным тварам.- Потэр! Дэментар набліжаецца, Потэр! Вуууууууууууу!

Гары паваліўся на крэсла за грыфіндорскім сталом, побач з Джорджем Візлі.

- Трымай, расклад заняткаў для трэццягодкі,- сказаў Джордж працягваючы лісток.- Што здарылася, Гары?

- Малфой, - прамовіў Рон, сядаючы па другім боку ад Джорджа і люта паглядаючы за стол слізэрынцаў.

Джордж азірнуўся туды і ўбачыў, як Малфой ў чарговы раз губляе прытомнасць з жаху.

- Ось жа ж гнуюса кусок,- спакойна прамовіў Джордж.- Учора ў цягніку ён быў ані такім гуморным. Прыляцеў ў нашае купэ, ці памятаеш, Фрэд?

- Ледзве не абмачыўшыся,- адказаў Фрэд, грэбліва зірнуўшы на Драко.

- Я і сам быў ня надта шчаслівы,- заўважыў Джордж.- Яны жах што такое, гэтыя дэментары.

- Яны быццам замарожваюць усё ўнутры цябе,- дадаў Фрэд.

- Але ж ніхто з вас прытомнасці не згубіў?- пацішыўшы голас, спытаўся Гары.

- Забудзся на гэта, Гары,- падбадзёрліва сказаў Дордж.- Нияк, тата вінен быў ехаць туды па справах, ці памятаеш Фрэд? Калі ён вярнуўся, сказаў што горшага ў свеце месца ён аніразу ня бачыў. Ён прыехаў адтуль саслабеўшы і яго ўсяго калаціла... Дэментары высмокваюць у чалавека ўсё шчасце. Большасць са зняволенных там вар'яцеюць.

- Паглядзім колькі нахабства застанецца ў Малфоя, пасля першага матчу па Квідытчу,- заўважыў Фрэд. Ці ты не забыўся, што першая гульня сэзону - Грыфіндор супраць Слізэрыну?

Калі аднойчы Гары з Драком супрацьстаялі адно аднаму ў матчы па квідытчу, Малфой атрымаў надзвычайна адмоўны поспех. Адчуўшы сябе крышачку весялей, Гары наклаў ў сваю талерку сасісак ды смажаных памідораў і прыняўся есці.

Герміёна аглядала свой новы расклад.

- О! Супэр! Ужо сёння пачынаюцца новыя дысцыпліны!- шчаслівa прамовіла яна.

- Герміёна,- спытаўся Рон, зірнуўшы праз плячо дзяўчынкі на яе расклад,- А ці яны нічога не пераблыталі з тваім графікам? Зірні - тут па дзесяць урокаў на дзень. У цябе ж часу ня хопіць.

- У мяне ўсё пад кантролем. І я аб ўсім дамовілася з МакГонагал.

- Але глядзі,- усміхнуўся Рон,- вось табе сённяшняя раніца. А дзевятай – Вяшчунства. Крыху ніжэй: а дзевятай – Маглазнаўства і...- Рон, нават нахіліўся бліжэй, ня верачы ўласным вачам.- Зірні, яшчэ ніжэй: Нумералогія – дзевятая ранніцы. Я ведаю, ты самая разумнейшая сярод нас, але ж, Греміёна, ці хопіць тваіх знольнасцяў на гэты раз. Як ты збіраешся быць адначасова на трох занятках?

- Не кажы ерунды,- хутка прамовіла Герміёна.- Вядома ж я не буду адначасова на трох занятках.

- Тады...

- Падай джэму, калі ласка,- папрасіла дзяўчынка.

- Але...

- Рон, што табе з таго, што мой расклад крышачку шчыльны?- адрэзала Герміёна.- Я ж кажу, што аб усім дамовілася з прафесаркай МакГонагал.

У гэты момант у Галоўную залу завітаў Хагрыд. Ён быў апрануты ў свой звычайны шынелак з кратовага фунтра, а ў велічэзнай руцэ нёс здохлага тхара.

- Ну вы як тут?- нецярпліва спатаўся ён, супыніўшыся па дарозе да стала настаўнікаў.- Сяння ў мяне першыя заняткі! Адраз’ пасля абеду! Я сяння аж а пятай прач’уўся, гатуюся... спадзююся, што ўсё будзе добранька... я – настаўнік.. шляхетна кажучы...

Ён шчыра ўсміхнуўся грыфіндорцам і накіраваўся, працягваючы размахваць тхорам, да настаўніцкага стала.

- Цікава,- з турботай ў голасе прамовіў Рон,- што ён там рыхтаваў?

Зала пакрысе пачала пусцець, бо вучні паспяшаліся на першыя ўрокі. Рон паглядзеў на свой расклад.

- Нам трэ ўжо ісці. Кабінэт Вяшчунства на самым версе Паўночнай Вежы. Туды дзесяць хвілінаў ходы...

Яны хуценька скончылі свой сняданак і, развітаўшыся з Фрэдам і Джорджам, пайшлі да выхаду. Калі яны праходзілі ля стала слізэрынцаў, Драко, чарговы раз паказальна знепрытомеў. слізэрынскія крыкі і смех Гары чуў ажно ў Вестыбюле.

Падарожжа ў Паўночную Вежу здалося вельмі доўгім. За два гады сябры не вывучылі ўсе хады ў Хогвартскім замку, а ў Паўночнай Вежы ўвогуле ніколі не былі.

- Тут... недзе... вінен... быць... кароткі... шлях,- задыхаўшыся сказаў Рон, калі яны падняліся па сёмай даўжэзнай лесвіцы і трапілі на незнаёмую пляцоўку, дзе не было анічога акрамя вялізнай карціны на якой была намалёвана зарослая травою каменная сцяна.

- Упэўнена нам ў той бок,- прамовіла Герміёна кажучы ў правы бок.

- Немагчыма,- адказаў Рон,- гэта паўднёвы напрамак, можаш сама ўпэўніцца, вунь з таго акна вінен быць бачны кавалачак возера...

Ты часам Гары пазіраў на карціну. На яе толькі што выйшлаў шэрая ў яблыках і даволі тлустая лашадка і пачала нядбайна аб’ядаць траву. Гары ўжо прызвычаўся, што прадметы і аб’екты на хогвартскіх карцінах жывуць ўласным жыццём і часценька кідаюць сваю раму, каб завітаць ў госці да кагось на суседніх карцінах, але тым ня менш вельмі любіў на іх пазіраць. Праз імгненне на карціне аб’явілся нізенькі каржакаваты вершнік у поўным панцырным уборы, які ляскаючы накіраваўся да сваёй лашадкі. Судзячы па травяных плямах на металічных каленях, ён толькі што зваліўся.

- Ага!- уз’енчыў вершнік пабачыўшы Гары, Рона і Герміёну.- Што, злыдні гэткія, парушаеце межы майго фальварку? А можа з’явіліся паздзекавацца з майго падзення? Падыходзце бліжэй, вы злодзеі, вы сабакі!

Яны са здзіўленнем глядзелі на тое, як маленькі вершнік выцягнуў свой меч і прыняўся апантана падскокваць і размахваць ім ува ўсе бакі. Але меч быў задоўгі для яго, таму вершнік на чарговым дзікім крутку згубіў раўнавагу і прызямліўся тварам у траву.

- Ці з вамі ўсё добра?- спытаўся Гары, набліжаючыся да карціны.

- Не набліжайся, гідкі хвалько! Вэк, валацуга!

Вершнік падняўся абапіраючыся на свой меч, але той ўрэшце настолькі зсадзіўся ў зямлю, што колькі б намаганняў не рабіў вершнік, выцягнуць яго назад не атрымалівалася. Нарэшце, ён бухнуўся на траву, падняў забрала і выцер свой ўзапрэлы твар.

- Слухайце,- прамовіў Гары, карыстаючыся знясіленнем ваяра,- мы шукаем Паўночную Вежу. Ці вы ня ведаеце дзе яна знаходзіцца?

- Пошук прыгодаў!- усклікнуў вершнік, яго лютасць імгненна знікла, ён ляскаючы падняўся на ногі.- Хадзема за мной, мае любыя сябры! Мы дасягнем нашай мэты, ці адважна загінем!

Ён шчэ раз безвынікова паспрабаваў выцягнуць свой меч. Спроба забрацца вершку на сваю тлустую лашадку яму таксама не ўдалася. Таму ўрэшце ён крыкнуў:

- Пешшу, мае яснавельможныя паны і паненкі, наперад!

І ён пабег ў левы бок сваёй карціны моцна ляскаючы панцырам і схаваўся з вачэй.

Яны паспяшаліся за ім па калідоры, рухаючыся па гуку яго даспехаў. Час ад часу яны заўважалі, як ён пранасіўся па чарговай карціне.

- Узмацніце свае сэрцы, самае небяспечнае яшчэ наперадзе!- крычаў рыцар, калі прабег па карціне, што вісела ля вузкіх спіральных сходаў, напалохаўшы гурток жанчын у крыналінавый сукнях.

Гучна пыхкаючы, Гары, Рон і Герміёна падымаліся па вітых сходах з кожным крокам адчуваючы, як круціць іх галовы. Нарэшце яны пачулі зверху нечый гоман і зразумелі што дасяглі класы.

- Бывайце!- усклікнуў вершнік, высоўваючы сваю галаву з карціны, на ягой месціліся злавесныя з выгляду манахі.- Бывайце, мае браты па зброі! Памятайце, што калі вам раптам спатэбіцца хтось шляхетны сэрцам і сталёвы жыламі, сэр Кэдаган заўжды да вашых паслугаў!

- Так, мы абавязкова паклічам вас,- прамармытаў Рон, калі сэр Кэдаган знік з вачэй,- Калі нам раптоўна спатрэбіцца нехта зшалеўшы.

Яны падняліся апошнія некалькі крокаў і выйшлі да невялічкай пляцоўцы, дзе ўжо месцілася большасць класы. Але там не было ані водных дзвярэй; раптам Рон штурхнуў Гары і паказаў яму на столю, дзе існаваў люк з латунный таблічкай.

- Сібіла Трэлані, Настаўнік Вяшчунства,- прачытаў Гары.- Але як мы туды трапім?

Нібы ў адказ на яго словы люк адчыніўся і зверху пад ногі Гары спусцілася срэбная вераўчаная лесвіца. Усе сціхлі.

- Пасля цябе,- выскаліўшыся сказаў Рон і Гары першы пачаў падымацца ўгору.

Падняўшыся ён трапіў у самы дзівоснавыглядаючы класны пакой, які колісь бачыў; ён больш нагадваў нешта сярэдняе паміж паддашкам і старамоднай кавярняй. Усярэдзіне

невялічкага пакою месцілася ня менш за дваццаць круглях сталоў, абстаўленных навокал паркалёвымі крэсламі і пухлымі пуфікамі. Вокны былі занавешаны фіранкамі, а шматлікія лямпы задрапіраваны цёмна-чырвоным кашнэ, таму ў пакоі панавала бляклае барвяное святло. У кабінэце было задушліва-спякотна, у коміне палаў агонь, а грэючыйся ў ім вялізны медны імбрык выдзяляў цяжкі ванітны пах. Паліцы, што віселі на круглых сценах былі ушчэнт забітыя пыльным пер'ем, недагаркамі свечак, шматлікімі пакетамі з разарванымі ігральнымі картамі, срабрыстымі магічнымі крышталямі і масіўнымі кубкамі.

Хутка з-за пляча Гары паказаўся Рон, а пасля і ўвесь клас. Вучні перашэптваліся.

- Дзе яна?- спытаўся Рон.

Аднекуль з цені раздаўся мягкі містычны голас:

- Вітаю,- прамовіў ён.- Як добра, нарэшце ўбацыць вас у плоці.

Гары раптоўна заўважыў у кутку нейкую велізарную інсэкту. Але тут прафесарка Трэлані выйшла ў святло коміна, і ўсе ўбачылі вельмі хударлявую жанчыну ў вялізных акулярах у некалькі разоў павялічваючых памер яе вачэй, загорнутую ў тонкі паўпразрысты зіхацеючы шаль. Незлічоная колькасць ланцужкоў і караляў абвівала яе танюткую шыю, а рукі былі упрыгожаны безліччу бранзалетаў і кольцаў.

- Сядайце, мае вы дзіцянятачкі, сядайце,- прамовіла яна і вучні прыняліся ўсаджвацца на крэслы ці пуфікі вакол сталоў. Гары, Рон і Герміёна селі разам.

- Запрашаю на заняткі па Вяшчунсту,- працягвала яна, прысаджваючыся ў старажытае крэсла паблізу ад коміна.- Я прафесар Трэлані. Мы ніколі не бачыліся ранней. Я лічу, што празмернае спусканне да штурханіны і мітусні асноўнай школы засцілае мае Ўнутраннае Вока.

Ніхто нічога не адказаў ёй на гэтую незвычайную заяву, таму Трэлані далікатна паправіла свой шаль і працягвала:

- Дык вось, вы абралі для вывучэння самае складанае з магічных мастацтваў. Але вымушана вас адразу папярэдзіць, калі вы не маеце Унутраннага Зроку, я замала чаму магу навучыць вас. Толькі таму, што напісана на гэты конт у падручніках...

Пры гэтых словах Гары з Ронам усміхаючыся паглядзелі на Герміёну, напалоханую весткай аб тым, што ў Вяшчунстве кнігі будуць для яе слабымі памочнікамі.

- Шмат хто з чараўнікоў і вядзьмарак здольны вызываць гучныя выбухі, таямнічыя водары ці раптоўна знікаць, але ніхто з іх ня ў стане прыўзняць вэлюм з таямніц будучыні.- прафесарка Трэлані рушыла свае вочы ўздоўж знерваваных тварыкаў вучняў.- Ані кожнаму даецца падобны Дарунак. Вось ты, хлопчык,- прамовіла яна Нэвілу, які амаль што зваліўся са свайго пуфіка,- ці ў цябе добрая бабуля?

- Лічу што так,- калоцячыся адказаў Нэвіл.

- Я ў гэтым не ўпэўнена. Ува ўсялякім выпадку ў яе адносінах да цябе, любы мой,- сказала прафесарка, яе доўгія смарагдавыя завушніцы ззялі ў святле полымя. Нэвіл зглынуў, а прафесарка спакойна працягвала.- У гэтым годзе мы будзем разглядаць асноўныя метады варажбавання. Першай нашай тэмай будзе чытанне па гарбаце, а потым мы перайдзем да хірамантыі. Дарэчы, мае дзіцятка,- звярнулася Трэлані да Парваці Пацiл,- сцеражыся рудавалосага.

Парваці з жахам паглядзела на Рона, што сядзеў за яе спіною і адсунула сваё крэсла.

- У летнім семестры,- працягвала прафесарка,- мы перайдзем да крышталёвага шару... калі скончым вывучаць агнявыя азнакі. Нажаль ў лютым заняткі прыйдзецца прыпыніць з-за эпідэміі на грып. Я сама тады згублю голас. А на пасхальных вакацыях адзін з нас пакіне заняткі назаўжды.

У класе запанавала напружаная цішыня, якая быццам таксама была адкрыта для настаўніцы.

- Я буду вельмі ўдзячна, любая,- звярнулася яна да Лавендры Браўн, якая заціснулася ў спінку свайго крэсла,- калі ты перадаш мне вунь той вялізны срэбны імбрык.

Лавендра з палёгкай на твары паднялася, зняла з паліцы імбрык і паклала яго на стол перад Трэлані.

- Дзякуй, мае дзіця. А то чаго ты страшышся... адбудзецца ў пятніцу шастнаццатага кастрычніка.

Лавендра ўздрыганулася.

- А цяпер, я б хацела, каб вы падзяліліся на пары. Здыміце кубкі з паліцы і падыходдзце да мяне, каб я іх напоўніла гарбатай. Затым сядайце на свае месцы і піце пакуль не застанецца толькі крышачку на дне. Пасля пракруціце іх тры разы ў левы бок і развярніце дном угору на спадак, пачакайце калі сцячэ апошняя гарбата і перадайце кубкі сваім паплечнікам дзеля чытання. Узоры для чытання вы знойдзеце на старонках пять і шэсць «Развуалявання будучыні». Я буду рушыць між вамі і даваць сія-тыя падказкі і інструкцыі. А яшчэ, даражэнькі...- перахапіла яна руку Нэвіла, калі той падняўся,- пасля таго, як разаб’еш першы кубак, ці не зробіш ласку ўзяць адзін з блакітных. Ружовыя – мае ўлюбёныя.

І ўсамрэч не паспеў Нэвіл дацягнуцца да паліцы з кубкамі, як адчуўся грукат разбіваючагася парцаляну. Прафесарка Трэлані схапіла савок і венік, каб прыбрацца.- Адну з блакітных, калі ты ня супраць, сонейка... дзякуй...

Гары і Рон запоўніўшы свае кубкі, вярнуліся на месца і паспрабавалі, як мага хутчэй выпіць сваю, абпаляючую гарбату. Пракруцілі кубкі тры разы, як раіла настаўніца, пачакалі пакуль сальюцца рэшткі і перадалі кубкі адно аднаму.

- Так,- спытаўся Рон, калі яны адчынілі падручнікі на адпаведных старонках,- што ты там бачыш у маім кубку?

- Купу вільготнай карычневай рэчавіны,- адказаў Гары. Моцны пах духмянасцяў у пакоі прымушаў яго адчуваць сябе сонным і дурным.

- Пашырце вашу свядомасць, мае дзіцяняткі, і дазвольце вашым вачам бачыць праз будзённасць,- усклікнула прафесарка Трэлані скрозь змрок.

Гары паспрабаваў узяць сябе ў рукі.

- Так, я бачу нешта нагадваючае скажонны крыж,- прамовіў ён і пракансультаваўшыся з «Развуаляваннем Будучыні» адказаў,- «Крыж» азначае, што ты будзеш мець «выпрабаванні і пакуты»... прабач канечне... але тут ёсць нешта нагадваючае сонца, гэта... «Сонца» азначае «вялізнае шчасце»... так што, будзеш ты мець, як выпрабаванні з пакутамі, так і моцнае шчасце...

- Лічу што цябе тэрмінова патрэбна тэставанне Ўнутранняга Вока,- прамовіў Рон і яны абодва ледзь не задушыліся ад смеха, бо прафесарка нават паглядзела ў іх бок.

- Мая чарга...- Рон зірнуў у Гарын кубак, на яго твары з’явіліся зморшкі намаганняў.- Я бачу кроплю з нейкай рысачкай, выглядае нібы галава ў кацялку,- прамовіў ён,- Магчыма ў будучым ты будзеш працаваць у Міністэрстве магіі...

Ён развярнуў кубак іншым бокам.

- Але ж калі паглядзець з гэтага боку, больш падобна на жолуд... як? - ён зірнуў у свой экзэмпляр «Развуалявання Будучыні».- «Спадчына, нечаканая груда золата». Выдатна, потым пазычыш мне крашачку. А тут што?- ён развярнуў кубак яшчэ раз,- выглядае, як нейкая жывёліна. Так, гэта яго галава... падобна на гіпапатама... не на аўцу...

Прафесарка Трэлані круцілася паблізу, калі Гары чарговы раз пырхнуў ад смеху.

- Дазволь мне зірнуць, мой любы,- яна перагнулася праз плячо Рона і схапіла з яго рук Гарын кубак. Усе сціхлі і пачалі ўважліва назіраць на яе.

Прафесарка Трэлані уважліва глядзела ў кубак паварочваючы яго супраць гадзіннікавай стрэлцы.

- Сокал... мой даражэнькі, ты маеш смяротнага ворага.

- Але аб гэтым і так ўсе ведаюць,- прамовіла Герміёна гучным шэптам. Прафесарка са здзіўленнем утаропілася на яе.

- Зразумела ж,- працягвала Герміёна,- усе ведаюць аб Гары і Самі-Ведаеце-Кім.

Гары і Рон ўтаропіліся на яе адначасова здзіўленна і захоплена, яны аніразу ня бачылі, каб Герміёна падобным чынам размаўляла з настаўнікам. Прафесарка не звярнула на яе аніякай увагі. Яна яшчэ раз паглядзела ў Гарын кубак і працягвала.

- Булава... атака. А маё ты дзіця, гэта вельмі не шчаслівы кубак...

- А я лічыў, што там кацялок,- сарамліва сказаў Рон.

- Чэрап... на тваім шляху небяспека, мой любы...

Усе суцішыліся і паглядзелі на яе, яна чарговы і апошні раз развярнула кубак, войкнула, а потым закрычала.

Раздаўся дзвон разбіваючагася парцаляну; гэта Нэвіл разбіў чарговы кубак. Трэлані заняла вольнае крэсла і сваімі бліскучымі рукамі схапілася за сэрца, заплюшчыўшы вочы.

- А мой ты любы, мой бедны хлопчык... не... лепш нічога не казаць... не пытайце мяне...

- Што вы там бачыце, прафесарка?- спытаўся Дын Томас. Усе імгненна падняліся на ногі і схапіўшы свае падручнікі накіраваліся да стала Гары і Рона, з ўсіх бакоў абляпіўшы крэсла настаўніцы і пазіраючы ў Гарын кубак.

- А мой ты ж даражэнькі,- вялізныя вочы прафесаркі драматычна расплюшчыліся,- у тваім кубку Грым.

- Хто?- спытаўся Гары.

Гары ўпэўніўся, што аніадзін ён нічога не зразумеў; Дын Томас стаяў пацiскаючы плячыма і Лавендра Браўн глядзела збянтэжана, але ўсе астатнія прыціснулі ў жаху рукі да ртоў.

- Грым, мой любы, Грым,- ўсклікнула прафесарка, якая была сшакаваная тым, што Гары яе не зразумеў.- Вялізны Сабака-Здань, які часта наведвае цвінтары! Мой любы, ён – прадвеснік... самы горшы прадвеснік... прадвеснік смерці!

Унутры Гары ўсё павалілася. Сабака якога ён бачыў у кнізе «Прадвеснікі Смерці» у краме «Флорыша і Блотса»... сабака ў цяні на Плошчы Магнолій... Лавендра Браўн

таксама прыціснула, як і астатнія рукі да роту. Усе азіраліся на Гары; акрамя Герміёны, якая паднялася са свайго месца і рушыла да крэсла на якім сядзела Трэлані.

- Я лічу што гэта не Грым,- рашуча прамовіла яна.

Прафесарка Трэлані глядзела на Герміёну з ўсёўзвышаючайся агідай.

- Канечне прабач мяне, мая даражэнечкая, але я бачу, што твая аўра заслабая. Ты маеш занадта малую адкрытась да вібрацый будучыні.

Шымас Фініган стаяў схіляючы галаву ці то ў адзін, ці то ў другі бок.

- Гэта канечне вельмі падобна на Грыма, але толькі, калі нахіліць галаву ўправа,- прамовіў ён жмурачы вочы,- але калі нахіліць галаву ў левы бок, фігура больш падобна на асла.

- Ну ці вы вырашылі нарэшце, памру я альбо не?- прамовіў Гары сам здзівіўшыся падобным словам. Але ўсе вакол стараліся не глядзець на яго.

- Так, думаю час скончыць ўрок,- містычным голасам прамовіла Трэлані.- Калі ласка прыбярыце за сабой...

Класа моўчкі аддала кубкі назад настаўніцы і сабралі падручнікі ў торбы. Нават Рон стараўся не глядзець Гары ў вочы.

- Пакуль мы не сустрэліся зноў,- слабым голасам прамовіла Трэлані,- спадзяюся фартуна будзе спрыяць вам. А ты, мой любы...- звярнулася яна да Нэвіла,- у наступны раз моцна спазнішся, так што, каб не адстаць ад усіх астатніх пазаймайся дадаткова.

Гары, Рон і Герміёна спусціліся па вяровачнай, а потым і вінтавой лесвіцы, працягваючы маўчаць.

Наступным быў урок Ператварэнняў які вяла прафесарка МакГонагал. Ім спатрэбілася амаль столькі часу, які і на пошукі кабінэта па Вяшчунству, але да пачатку занятку яны паспелі ў адпаведны час.

Гары сеў на самай апошняй парце, але адчуваў сябе нібы пад промнем пражэктара; увесь клас ўпотай пазіраў на яго, бы чакаючы, што ён вось-вось імгненна памрэць. Ён амаль ня чуў, тое што прафесарка МакГонагал распавядала аб Анімагах (чараўніках, якія здольны ператварацца на жывёл) і амаль ня глядзеў на тое, як прафесарка пры вучнях ператварылася на паласатую кошку з адметнымі плямамі вакол вачэй.

- Што з вамі, даліпан, сёння тварыцца?- з лёгкім хлапком вярнуўшы сабе чалавечае аблічча і азірнуўшы сабраўшыхся, спыталася МакГонагал.- Ня тое, каб для мяне гэта было важкім, але ўпершыню мае ператварэнне не вызвала ў вас грукату апладысментаў.

Усе галовы развярнуліся на Гары, але прысутныя працягвалі маўчаць. Тады руку падняла Герміёна.

- Прабачце, мадам МакГонагал, але першым урокам ў нас было Вяшчунства, мы пілі гарбату і чыталі...

- А, зразумела ж,- перапыніла яе прапфесарка, нахмурыўшыся,- далей можаце не працягваць, міс Грэйнджер. Толькі паведамте, хто з вас памрэ летась?

Усе галовы імгненна развярнуліся на прафесарку МакГонагал.

- Я,- нарэшце адказаў Гары.

- Зразумела,- прамовіла прафесарка, супыніўшы на хлопцы свае маленькія вочкі.- Але, каб вы ведалі, Потэр, Сібіла Трэлані прадказвае штогод смерць аднаго з вучняў з тых часоў як яна тут працуе. І, што цікава, аніхто з іх пакуль не памёр. Уява прадвесніцта

смерці, гэта яе ўлюбёны спосаб прывітання новых вучняў. І калі б у мяне не было асаблівасці не казаць анічога дрэннага аб калегах...- МакГонагал перарвала сваю гаворку, дзеці ўбачылі, як пабялелі яе ноздры. Урэшце крыху супакоіўшыся яна працягвала.- Варажба з’яўляецца адной з самых недасканалейшых галін у магіі. Канечне я павінна прызнацца, што ня надта памяркоўна адношуся да яе. Праўдзівыя прароцтвы вельмі рэдкая з’ява і прафесарка Трэлані...

Яна зноў спыніла размову, а потым працягнула вельмі нудным тонам:

- З майго пункту гледжання, вы, Потэр, выглядаеце дастаткова здаровым, так што прабачце але хатняе заданне вам прыйдзецца зрабіць. Аднак, запэўніваю вас, што калі вы памрэце, патрабаваць яго выканання я ня буду.

Герміёна пачала смяяцца. Гары ж адчуваў сябе значна лепш. Напэўна ўсеагульны спалох здарыўся з-за цмянага барвянога святла і адурманьваючых пахошчаў у кабінэце прафесаркі Трэлані. Але ня ўсе былі ў гэтым упэўнены. Рон выглядаў ўсхваляваным, а Лавендра шапнула:

- А што наконт кубка Нэвіла?

Калі Ператварэнні скончыліся яны далучыліся да натоўпу вучняў, што грукочучы нёсся ў Галоўную залу на абед.

- Рон, узбадзёрся,- прамовіла Герміёна штурхаючы да яго блюда з тушаным мясам.- Ці ты не чуў, што сказала прафесарка МакГонагал.

Рон наклаў сабе мяса, але есці не пачынаў.

- Гары,- спытаўся ён ціхім, сур’ёзным голасам,- ты калі-небудзь бачыў вялізнага чорнага сабаку?

- Так, бачыў аднаго,- адказаў Гары.- Той ноччу, калі збег ад Дурслі.

Рон з грукатам упусціў свой відэлец з рук..

- Пэўна лацужная,- спакойна прамовіла Герміёна.

Рон паглядзеў на Герміёну, быццам раптам звар’яцеў.

- Герміёна, калі Гары бачыў Грыма, гэта... будзе бяда,- прамовіў ён.- Мой... мой дзядзька Біліюс аднойчы ўбачыў аднаго і... і ён памёр праз дваццаць чатыры гадзіны!

- Супадзенне,- бестурботна адказала Герміёна, наліваючы сабе крыху гарбузовага соку.

- Ты ня ведаеш, што нясеш,- пачаў злавацца Рон,- Грымаў страшэнна баяцца большасць чараўнікоў!

- Я й думаю,- з ганарлівасцю ў голасе прамовіла Герміёна.- Яны бачаць Грыма і паміраюць з жаху. Грым не прадвеснік, а чыннік смерці! А наш Гары не настолькі дурны, каб ўбачыўшы сабаку вырашыць: «Усё. Час вечкам накрывацца»!

Рон знямеўшы глядзеў на Герміёну, а яна спакойна адкрыла сваю торбу, дастала з яе новы падручнік па нумералогіі і адкрыла яго абапёршы на збан з сокам.

- Лічу, што Вяшчунства, вельмі цмяністая навука,- прамовіла дзяўчынка, шукаючы адпаведную старонку.- З майго пункту гледжання, яна з большага пабудавана на здагадках.

- Я нічога цмянага ня бачыў ў тым кубку!- апантана заявіў Рон

- Ты ня быў у гэтым настолькі ўпэўнены, калі сцвярджаў што бачыш там авечку,- абыякава адказала Герміёна.

- Прафесарка Трэлані сказала, што ў цябе аніякая аўра. Наколькі я памятаю, ты моцна ня любіш, калі апыняешся ў нечым аніякавай!

Рон крануў бальную тэму. Герміёна зачыніла падручнік гэдак моцна, што кавалкі мяса і морквы разляцеліся па наваколлі.

- Калі быць дасканалай у Вячшунстве – значыць, бачыць ў камяку гарбаты прадвесце смерці, я ня ўпэўнена, што буду вывучаць гэтую навуку занадта доўга! І гэты ўрок быў неверагодна пустым у параўнанні з маімі заняткамі па Нумералогіі!

Яна схапіла сваю торбу і рушыла прэч.

Рон, надзмуўшыся глядзеў ёй услед.

- Аб чым гэта яна?- спытаўся ён у Гары.- Мы ж яшчэ не займаліся Нумералогіяй.

*

Гары быў вельмі шчаслівы пакінуўць межы замка пасля абеду. Учорашні дождж скончыўся; неба было чыстым, бледна шэрым, а трава вільгацела і спружыніла пад нагамі, калі яны ішлі на свае першыя заняткі па Догляду за Магічнымі Істотамі.

Рон і Герміёна на працягу ўсяго шляху не размаўлялі адно з адным, Гары моўчкі рушыў побач. Яны ўжо спускаліся па адхонным лужку да хаціны Хагрыда на ўскрайку Забароненага Лесу, калі Гары раптоўна заўважыў наперадзе тры знаёмыя спіны і зразумеў што займацца яны будуць разам са слізэрынцамі. Малфой нешта распавядаў Крэйбу і Гойлу і нават ня чуючы іх размовы, а толькі гледзячы, як тыя смяюцца, Гары ўжо ведаў аб чым ідзе гаворка.

Хагрыд чакаў вучняў ля дзвярэй сваёй хаціны. Ён, які заўжды, быў апрануты ў свой кратовы шынэлак, ля яго ног ляжаў Фанг і па Хагрыдзе было бачна, што яму ня церпіцца распачаць заняткі.

- Хуценька, хуценька, вар'шыцеся!- крыкнуў ён набліжаючымся вучням.- Сяннь вы атрыма'це неблагую асалоду ад заняткаў! Выдатны ўрок набліжаецца! Усе сабраліся? А цяпер за мной!

У першы момант, Гары з непрыемным пачуццём на сэрцы вырашыў, што Хагрыд вядзе іх ў Лес; бо хлопчык ўжо меў пару непрыемных вопытаў у мінулыя гады. Але той давёўшы вучняў да дрэваў павёў іх ускрайкам і праз пяць хвілін яны апынуліся ля чагосці нагадваючага загароджу. Аднак там быццам нічога не было.

- Усім сабрацц' тут, ля плоту,- паклікаў Хагрыд.- Ну вось... Пагляньце, каб ўсім было бачна. А цяперча давайце адкрыйце свае кніжачкі...

- Як?- сваім абыякава-цягучым голасам спытаўся Драко Малфой.

- Ммм?- у адказ спытаўся Хагрыд.

- Як нам раскрыць нашыя кнігі?- ўдакладніў сваё пытанне Малфой. Ён выцягнуў з торбы свой асобнік Пачварнай кнігі аб Пачварах, якая была перавязана даўжэзнай почапкай. Следам за ім пачалі выцягваць падручнікі і іншыя: нехта з іх, як і Гары перацягнуў іх дзягай, іншыя запхалі іх ў тугія мяшкі, а трэцці счапілі іх вялізнымі сашчэпкамі.

- Што... ня'жо аніхто ня змог адчыніць сваю кнігу?- у маркоце спытаўся Хагрыд.

Усе разам пахісталі галавамі.

- А не спраб'валі прылашчыць яе,- прамовіў Хагрыд, бы гэта было відавочным.- Бачце...

Ён узяў асобнік Герміёны, сарваў чараскотч, якім той была счэплены. Падручнік паспрабаваў кусіць яго, але Хагрыд правёў сваім вялізным указальным пальцам па яе карашку. Кніга ўсхамянулася, раскрылася і працягнула ляжаць гэдак на яго руцэ.

- А якія ж мы дурні!- усміхнуўся Малфой,- Іх жа папросту трэба было прылашчыць! А мы і не здагадаліся!

- Я... я вырашыў, што гэт' пацешна,- з сумневам сказаў Хагрыд Герміёне.

- Пацешней няма!- заявіў Драко.- Сапраўды, вельмі дасціпна, прапанаваць нам кнігі, якія пытаюцца адкусіць гаспадару рукі!

- Сціхні, Малфой,- спакойна прамовіў Гары. Хагрыд стаяў апусціўшы галаву, а Гары моцна жадаў, каб першыя заняткі палясоўшчыка мелі поспех.

- Ну вось,- распачаў зноў Хагрыд, але было заўважна, что ёе згубіў сваю думку,- цяперча... вы ўрэшце раскрылі свае кнігі і... і... вам 'трэбны магічныя істоты. Вось. Пайду і прывяду іх...

Ён пайшоў прэч ад іх і схаваўшыся з вачэй у лесе.

- Божачкі, гэтае месца скацілася сабаку пад хвост,- гучна прамовіў Драко.- Нейкі ёлуп зрабіўся настаўнікам, мой тата разбярэцца з ім, калі я папрашу...

- Сціхні, Малфой,- паўтарыў Гары.

- Сцеражыся, Потэр! За табой дэментар...

- Ёечкууууууууу!- віскнула Лавендра Браўн, паказваючы ў супрацлеглы бок загароджы.

У іх напрамку тупаў тузін самых дзівосных істот якіх толькі бачыў Гары. Яны мелі тулавы, заднія ногі і хвасты ад каней, але іх пярэднія ногі, галовы і крылы належылі бы гіганцкім арлам. Істоты мелі жахлівыя сталёвага колеру дзюбы і памаранчавыя вочы. Кіпцюры на пярэдніх нагах істот былі ўпалову фута даўжынёй і выглядалі смяротна небяспечнымі. На шыі жывёлы мелі тоўстыя скураныя аброжкі, да якіх былі прымацаваны даўжэзныя ланцугі другія канцы якіх трымаў у сваіх руках Хагрыд, што бег па загароджы ззаду істот.

- Нoooo, пайшла!- равеў палясоўшчык, патрасаючы ланцугамі і падвозячы істот да плоту, дзе стаялі вучні. Яны крышачку адступіліся, калі Хагрыд падвёў істот да загароджы і прывязаў іх там.

- Гэт' гіпагрыфы!- шчасліва пракрычаў ён, кажучы рукой на істот.- Хіба не красуны?

Гары толькі часткова бачыў, што той меў на ўвазе. Але як толькі прайшоў першы шок, усе пачалі ацэньваць прыгажосць гэтых паўканей, паўптушак. Гіпагрыфы мелі бліскучае пер'е паступова пераходзячае да гэткай жа бліскучай шэрсткі. Ля плоту стаялі гіпагрыфы рознай масці: буйна шэрыя, гнядыя, ізабэлавыя, саврасыя і вараныя.

- Ну!- прамовіў Хагрыд паціраючы рукі і з ззяннем ў вачах пазіраючы на вучняў,- калі хто хочыць мож' падыходзіць...

Але ніхто здавалася не пажадаў. Толькі Гары, Рон і Герміёна асцярожна наблізіліся да загароджы.

- А, таперча, уцямце сабе, гіпагрыфы фанабэр'кі якіх свет ня бачыў,- казаў Хагрыд далей,- і надт' крыўдлівыя. Ніколі не абража'це іх, ці гэта можа быць апошняй рэччу, што вы зроб'це ў жыцці.

Малфой, Крэйб і Гойл не слухалі яго, а ў поўголаса аб нечым разважалі і ў Гары з'явілася непрыемнае адчуванне, што яны рыхтавалі план найлепшага зрыву заняткаў.

- Запамятайце, першы крок ‘вінен зрабіць гіпагрыф,- працягваў палясоўчшык,- вось гэт’ ён вітае вас, бачце? Цяперча падыйдзіць да яго на кольк’ крокаў і схіліць галаву. Калі ён кланецца вам ў адказ смела мож’це падыйсці і дакрануцца да яго, а калі не, хуценька цякайць, бо яго кіпцюры надта небяспечныя.

- Ну, ці хто смелы?

Большасць вучняў у адказ адыйшла яшчэ далей. Нават Гары, Рон і Герміёна былі насцярожаны. Гіпагрыфы матлялі сваімі лютавыглядаючымі галовамі і выгібалі свае магутныя крылы, было заўважна, што ім надта не падабаецца быць прывязанымі да загароджы.

- Хіба ніхто?- прамовіў Хагрыд з пытаннем у вачах.

- Я пайду,- заявіў Гары.

Усе сгрудзіўшыеся разам дыхнулі, а Лавендра з Парваці гучна зашапталі:

- Вой, не, Гары, хіба не памятаеш, што сказала гарбата!

Гары праігнараваў іх папярэджанне і пералез праз загароджу.

- Малайчын’ Гары!- зароў Хагрыд.- Ну давай... пагледзьма, як ты зладзіш з Бакбікам.

Ён развязаў адзін з ланцугоў і, вывеўшы са статка шэрага гіпагрыфа, зняў з яго аброжак. Класа знатоўпіўшаяся ля загароджы здавалася зусім не дыхала. Вочы Малфоя злосна прыжмурыліся.

- А цер супакойся Гары,- кіраваў ім Хагрыд спакойным голасам.- Старайсь не лыпаць вачыма... гіпагрыфы надта ня давяраюць тым хто зашмат лыпае...

Вочы Гары хутка пачалі слязіцца, але ён на заплюшчваў іх. Бакбік павярнуў да яго сваю вялізную раздражнённую галаву і зірнуў на хлопчыка адным разлютаваным памаранчавым вокам.

- Ага,- працягваў Хагрыд,- усё добра, Гары... цер, схіліся...

Гары не надта падабалася тое, што прыйдзеца паказаць патыліцу Бакбіку, але зрабіў усё згодна са словамі Хагрыда. Ён хутка хільнуў галавою і зноў падняў вочы на гіпагрыфа.

Той працягваў з пагардай глядзець на хлопчыка, але не рухаўся.

- Ага,- усхвалявана прамовіў палясоўшчык.- Так... цер, Гары, пакрысе адыходзь...

Аднак тут адбылося, штось нечаканае для Гары, гіпагрыф раптоўна схіліў перад ім свае пярэднія лускаватыя калені і апусціў галаву ў непаўторным паклоне.

- Добра, Гары!- у захапленні ўсклікнуў Хагрыд.- Выдатна... церча можаш дакрануц да яго! Пагладзь яму дзюбу!

Адчуваючы, што лепш за ўсё зараз, было б адступіць, Гары тым ня менш павольна падыйшоў да гіпагрыфа і дакрануўся да яго. Хлопчык колькі раз папляскаў яго дзюбу і гіпагрыф гультаявата заплюшчыў вочы, здавалася ён адчувае ад Гарыных дотыкаў найвялікую асалоду.

Увесь клас заняўся апладысментамі. Не пляскалі толькі Малфой, Крэйб і Гойл, якія здавалася былі моцна расчараваныя.

- Выдатна, хлопча,- заўважыў Хагрыд,- думаю, церча ён дазволіць табе сесць на яго вершкі!

Гэта было большым, чым разлічваў Гары. Канечне ён ужо лятаў на мятле, але ня быў упэўнены, што з гіпагрыфам будзе тое ж самае.

- Так, сядай на яго спіну адраз’ за крыллем,- кіраваў Хагрыд,- але, барані Бог, не чапай яго пер’е, ён гэтага надт’ ня любіць...

Гары паставіў нагу на вяршыню крыла і забраўся на спіну Бакбіка. Тойпадняўся на ногі. Хлопчык азірнуўся па баках не разумеючы за што трымацца, спіна перад ім была пакрыта пер’ем.

- Нооо, пайшоў!- зароў Хагрыд, пляснуўшы гіпарыфа па крыжы.

Бакбік без папярэджання расхінуў свае дванадцаціфутавыя крылы і Гары ледзь паспеў скапіць яго за шыю, перш чым той узняўся ў паветра. Гіпагрыф падчас палёту быў зусім не падобны на мятлу, да якой Гары прызвычаўся і якой аддаваў перавагу; Бакбік вельмі няёмка размахваў крыламі па абодвух баках ад хлопца, чапляючы яго за ногі і Гары ўвесь час баяўся што той яго незнарок скіне. Яго пальцы слізгалі па ільсцяному пер’ю, але хлопчык не адважваўся схапіць іх мацней. Пасля гладкага палёту Німбуса 2000, Гары усім целам адчуваў гайданне гіпагрыфа, калі яго крыж апускаўся і падымаўся разам з крыламі.

Бакбік зрабіў кола ў межах загароджы, а потым накіраваўся на зямлю. Гэта крыху напужала Гары, ён прыхіліўся да гладкай спіны гіпагрыфа адчуваючы, як спаўзае ў напрамку яго жахлівай дзюбы. Але тут хлопчык адчуў як чатыры несумяшчальныя нагі гіпагрыфа цяжка стукнуліся аб зямлю, Гары ледзь стрымаўся на месцы і толькі тут зноўку выпраміў спіну.

- Выдатна, Гары!- прароў Хагрыд і ўсе, акрамя Малфоя, Крэйба і Гойла пачалі радасна пляскаць ладкамі.- Добранька, ці хто шчэ жадае?

Падбадзёрыўшыся поспехам Гары, астатнія вучні пачалі пакрысе пералязаць праз плот. Хагрыд адвязваў аднаго гіпагрыфа за другім і хутка па ўсёй загароджы стаялі кланяючыеся вучні. Нэвіл колькі разоў збягаў ад свайго гіпагрыфа, які не жадаў згінаць перад ім калені, Рон і Герміёна практыкаваліся з гнядым, а Гары назіраў за імі стоячы ля загароджы.

Малфой, Крэйб і Гойл згрудзіліся вакол Бакбіка. Ён ужо пакланіўся Драко, які стаяў і з пагардай паляпваў яго па дзюбе.

- Тут усё зусім проста,- гучна цягнуў Малфой, каб Гары пачуў яго.- Я ведаю, што гэдак яно і ёсць, калі нават Потэр з ім управіўся... Іду ў заклад, што ты цалкам бяспечны,- прамовіў Драко гіпагрыфу,- звычайнае пачварнае вялізнае быдла, ці я не правы?

У адказ ён ўбачыў бляск сталёвых кіпцюроў. Малфой пранізліва ўскрыкнуў, Хагрыд імгнення кінуўся Бікбіку на спіну, накінуў таму аброжак на шыю і адцягнуў ад Малфоя, які зваліўся на траву. На яго вопрадцы зацямнелася кроў.

- Я паміраю!- енчыў Драко перад запанікаванымі вучнямі.- Глядзіце, я паміраю! Гэта пачвара забіла мяне!

- Не паміраеш ты!- адказаў Хагрыд, яго твар збялеў.- Гэй дапамажыць мне... трэб’ аднесці яго да шпіталю...

Герміёна пабегла адчыняць веснічкі, а Хагрыд з лёгкасцю падняў Малфоя. Калі яны праходзілі ля яго, Гары ўбачыў на руцэ ў Драко доўгую глыбокую рану; на тым месцы дзе ён ляжаў трава была заліта крывёю. Хагрыд шпарка бег па схіле ў напрамку Хогвартса.

Вучні вярталіся з заняткаў па Догляду за Магічнымі Істотамі моцна калоцячыся. Слізэрынцы голасна разважалі аб Хагрыдзе.

- Яго неадкладна трэба звольніць!- заходзячыся ў слязах крычала Пансі Паркінсон.

- Малфой сам вінаваты!- адрэзаў Дын Томас. Крэйб і Гойл пагрозліва сагнулі свае цяглiцы.

Вучні падняліся па каменных прыступках у апусцелы Вестыбюль.

- Я збіраюся даведацца, як ён маецца!- усклікнула Пансі і ўсе ўбачылі, як яна пабагла па мармуровых сходах угору. Слізэрынцы працягваючы мармытаць аб Хагрыдзе рушылі ў падзямелье, дзе знаходзілася іх Гасцёўня, а Гары, Рон і Герміёна паспяшалі ў Грыфіндорскую Вежу.

- Як вы лічыце, з ім будзе ўсё добра?- знервована спыталася Герміёна.

- Вядома ж, Мадам Помфры здольна імгненна вылекаваць яго,- адказаў Гары, якому хогвартская лекарка загойвала і не такія раны.

- І трэба ж было, каб гэдак здарылася на першым жа ўроку Хагрыда?- усхвалявана сказаў Рон.- Мяркую Малфой падыме на гэты конт такі шум...

Яны былі першымі хто трапіў у Галоўную залу на вячэру, спадзяючыся ўбачыць там Хагрыда, але яго не было.

- Яны ж не звольняць яго?- непакоілася Герміёна, якая нават не кранулася сваёй мясной запяканкі.

- Спадзяюся, что не,- адказаў Рон, які таксама быў ня ў стане штось з’есці.

Гары паглядзеў на слізэрынскі стол і ўбачыў там сярод згрудзіўшыхся Крэйба і Гойла, якія аб нечым паглыбленна разважалі. Хлопчык быў упэўненны, што яны рыхтуюць сваю версію здарэння з Малфоем.

- Хтось лічыць, што першы дзень заняткаў прайшоў не цікава?- змрочна спытаўся Рон.

Пасля вячэры яны рушылі да Грыфіндорскай вежы, дзе седзячы ў Гасцёўні паспрабавалі зрапіць хатняе заданне, што дала ім прафесарка МакГонагал, але ўсе трое былі ў разгубленым стане і пазіралі ў вакно вежы.

- У хаціне Хагрыда гарыць вакно,- раптам заўважыў Гары.

Рон зірнуў на гадзіннік.

- Калі паспяшаемся, можам пайсці да яго, пакуль ёсць час да сну...

- Я ня ведаю,- ціха прамовіла Герміёна, і Гары ўбачыў, што яна зірнула на яго.

- У межах замка, я магу рухацца смела,- дэманстратыўна сказаў ён,- Сірыюс Блэк наўрацці пройдзе праз дэментараў.

Яны кінулі свае падручнікі і сшыткі і накіраваліся ў адтуліну за партрэтам, спадзяючыся ня стрэць анікога на шляху да ўвахода ў замак, бо не былі цалкам ўпэўнены, што ім дазволена быць знадворку.

Трава была ўсё яшчэ вільготнай і ў прыцемках здавалася чорнаю. Яны дабраліся да хаціны Хагрыда, пастукалі і пачулі яго роў:

- Заходзць.

Хагрыд сядзеў у адной кашулі за сваім абскубаным драўляным сталом; яго сабака Фанг паклаў галаву на калені гаспадара. З першага погляду было бачна, што палясоўшчык быў моцна п’ян. Перад Хагрыдам на стале стаяў алавяны куфаль, памерам з добрае вядро і ў яго здавалася былі цяжкасці з разуменнем, хто да яго завітаў.

- Увага – рэкорд,- прахрыпеў ён, калі ўрэшце пазнаў гасцей.- Хіба ж быў у свець яшчэ адзін настаўнік заняткі яког’ доўжыліся ня больш за дзень.

- Цябе пакуль яшчэ не звольнілі, Хагрыд!- задыхаючыся сказала Герміёна

- Пок’ не,- маркотна адказаў Хагрыд і адным глытком выпіў усё, што заставалася ў куфлі.- Але гэт’ справа часу, пасля Малфоя та...

- Між іншым як ён?- спытаўся Рон, калі ўсе прыселі.- Няўжо штось сур’ёзнае?

- Мадам Помфры зрабіла ўсё як заўжды пышна,- абыякава адказаў Хагрыд.- Але ён кажа што ўсёшч’ невыносна пакутуе... увесь у бінтах... ляжыць стогне...

- Ён сымулюе,- імгненна сказаў Гары.- Мадам Помфры ў стане загаіць што заўгодна. У мінулым годзе яна нанова вырасціла косткі ў маёй руцэ. А Малфой збіраецца зняць ўсю сметанку з гэтага здарэння.

- Школьнай радзе распавялі, вядома ж,- пакутліва прамовіў Хагрыд.- Яны лічаць, што я закрут’ распачаў. Гіпагрыфаў трэ было даваць потым... з пачат’ вывучаць чарвямляваў, ці нешт’ падобнае... а я ж хацеў, каб першы занятак быў пышным... Гэт’ я вінен ува ўсім...

- Ува ўсім вінаваты толькі Малфой,- сур’ёзна сказала Герміёна.

- Мы сведкі,- дадаў Гары.- Ты ўсім казаў, што гіпагрыфаў небяспечна крыўдзіць. А калі Малфой не слухаў, яго праблемы. Мы распавядзем Дамблдору, як ўсё было насамрэч.

- Не тужліся, Хагрыд, мы падтрымаем цябе,- падагульніў Рон.

Слёзы пацяклі са зморшчаных куткоў яскрава чорных вачэй Хагрыда. Ён схапіў Гары і Рона і сціснуў так, бы збіраўся зламаць ім косткі.

- А яшчэ, Хагрыд, думаю цябе на сёння до піць,- цвёрда прамовіла Герміёна, схапіла куфаль са стала  і выйшла вонкі, каб выліць тое, што засталося.

- Га, мож’ яна мае рацыю,- сказаў палясоўшчык і адпусціў Гары і Рона, які адыйшоў у бок хістаючыся і пацiраючы бок. Хагрыд ускінуўся са свайго крэсла і кволай хадой пайшоў за Герміёнай. Праз імгненне Гары з Ронам пачулі гучны пляск.

- Што ён зрабіў?- нервуючыся спытаўся Гары у Герміёны, якая вярнулася ў хаціну з пустым кубкам.

- Сунуў галаву ў бочку з вадою,- адказала Герміёна, кладучы куфаль у шафу.

Хагрыд, пацiраючы вочы, вярнуўся ў хаціну. З яго барады і валасоў лілася вада.

- Гэдак лепш будзе,- прамовіў ён, хістаючы валоссем і пырскаючы на сваіх гасцей вадой, як сабака.- Слухайць, як добра, што вы віталі да мяне, я насамрэч...

Хагрыд супыніўся і ўтаропіўся на Гары, бы толькі што зразумеў, што той у яго ў хаціне.

- А ТЫ ТУТ ШТО РОБІШ, ГА?- зароў Хагрыд настолькі нечакана, што яны ажо падскочылі.- ТАБЕ Ж ЗАБАРОНЕНА ВАЛЭНДАЦ’ ПАСЛЯ ПРЫЦЕМКАЎ! І ВЫ ДВОЯ! ДАЗВОЛІЛІ ЯМУ?!

Хагрыд падыйшоў да Гары, схапіў яго за руку і павёў да дзвярэй.

- Ходзьма!- разлютавана сказаў палясоўшчык.- Я адвяду вас да школы і, барані Бог, каб я вас шчэ стрэў валэндаючыміся пасля прыцемак. Я не такая ўжо каштоўнасць!

# — РАЗДЗЕЛ VII —

## *Богарт у шафе*

Малфой не аб'яўляўся на заняткаж ажно да ранніцы чацверга, калі ён меў ласку прыйсці на другую палову супольнага між грыфіндорцамі і слізэрынцамі ўрока Зелляварства. Ён фанабэрліва прайшоўся перад вучнямі дэманструючы сваю забінтаваную правую руку вісячую ў тальмаху, быццам, па меркаванні Гары, паўдзельнічаў у тузіне лютых боек.

- Ну як ты, Драко?- манерна спыталася Пансі Паркінсон.- Ці яшчэ моцна баліць?

- Так,- адказаў Малфой, скрывіўшы зухаўскую міну. Але Гары заўважыў, як той падміргнуў Крэйбу і Гойлу, калі Пансі адвярнулася.

- Супакойся, сядай, Малфой,- абыякава прамовіў Снэйп.

Гары і Рон пахмурліва зірнулі адно на аднаго; калі б хто з іх гэдак бы валэндаўся па кабінэце Снэйпа, ён бы ані не абмежаваўся бы «Супакойся», а пакінуў бы іх пасля заняткаў. Але Малфою на яго занятках ўсё дарма праходзіла, бо Снэйп быў Галавою слізэрынскага Дому і заўжды патураў сваім гадаванцам, больш чым іншым вучням.

Сёння яны праходзілі новае зелле – «Маладзільную настойку» і Малфой адмыслова паставіў свой кацёл разам з Гары і Ронам, каб працаваць з імі за адным сталом.

- Сэр,- паклікаў Малфой,- прабачце, але з маёй рукой мне цяжка рэзаць карані стакроткі...

- Візлі,- нават не падымаючы вачэй загадаў Снэйп,- парэж карані Малфою.

Рон збарвянеў ад абурэння.

- З тваёй рукою ўжо даўно ўсё добра,- прашыпеў ён Малфою.

Мальфой усміхнуўся яму праз стол.

- Візлі, ты хіба ня чуў прафесара Снэйпа, давай рэж.

Рон схапіў свой нож, узяў карані Малфоя і груба пачаў секчы іх на кавалкі рознага памеру.

- Прафесар,- расцягваючы словы прамовіў Малфой,- Візлі папсаваў усе мае карані.

Снэйп падыйшоў да стала, глянуў на карані, апусціўшы да стала свой нос з гарбінкай і адараваў Рона непрыемнай ўсмешкай з-пад сваіх доўгіх чорных валасоў.

- Памяняйся карэннем з Малфоем.

- Але, сэр!

Апошнія чвэрць гадзіны Рон старанна драбіў свае карані стакроткі на кавалачкі адпаведнага памеру..

- Зараз жа,- надта пагрозлівым голасам крыкнуў Снэйп.

Рон з тугою сунуў свае прыгожае карэнне Малфою і ўздыхнуўшы зноўку ўзяўся за нож.

- І яшчэ, сэр,- голасам поўным злаўмыснай радасці працягнуў Малфой,- мне цяжка зладзіць са скурай шрывельфігі.

- Потэр,- абдаўшы Гары, сваім агідскім позіркам, якім глядзеў толькі на яго, загадаў прафесар,- пачысці Малфою шрывельфігу.

Малфоеву шрывельфігу прыйшлося ўзяць Гары, бо Рон змагаўся з упарадкаваннем каранёў стакроткі. Ён як мага хутчэй ачысціў яе скуру і моўчкі шпульнуў яе Малфою праз стол. Малфой усміхуўся так шырока, які толькі мог.

- Ці не наведваліся вы апошнім часам да свайго сябра, Хагрыда?- інтрэганцкі спытаў ён.

- Не твая справа,- не падымаючы галавы, адрывіста адказаў Рон.

- Я лічу, што ня доўга яму настаўнічаць,- насмешліва-пакутлівым тонам сказаў Малфой.- Бацька ня надта абрадваўся маёй траўме...

- Яшчэ слова, і ты будзеш мець, сапраўдную траўму, Малфой,- гыркнуў Рон.

-... ён паскардзіўся школьнай радзе. І ў Міністэрства Магіі. А вы ведаеце, які ўплыў ён мае. А тут яшчэ падобная траўма...- ён зноў фальшыва войкнуў,- і хто ведае, ці будзе мая рука працаваць, як ранней?

- Дык вось, навошта табе гэты цырк,- прамовіў Гары, выпадкова адрэзаўшы галаву мёртваму вусеню, бо рукі яго калаціліся ад гневу,- Каб паспрабаваць звольніць Хагрыда.

- Ну,- панізіўшы голас да шэпту, сказаў Малфой,- часткова так. Але ёсць і іншыя выгоды. Візлі, парэж мне вусеня.

Сядзеўшы ў колькіх катлах ад іх, Нэвіл чарговы раз трапіў у бяду. Ён рэгулярна трапляў у неспадзяванкі на Зеллеварстве, бо з усіх прадметаў яно у яго атрымлівалася горш за ўсё, і ён, смяротна напужаны перспектывай гневу прафесара Снэйпа, зрабіў усё горш, чым мог. Яго настойка замест яскравага кіслотна-зялёнага колеру апынулася...

- Памаранчавая, Лонгботам,- прафесар ўзяў крыху, яго настойкі і струменем, каб ўсім было бачна выліў назад у кацёл.- Памаранчавая. Скажы мне, мой хлопчык, якім чынам мне прабіцца ў тваю галаву. Хіба ты ня чуў, калі я ўсім дастаткова ясна паведаміў, што трэба класці толькі адну пацуковую селязёнку? Ці можа мяне дрэнна было чуваць, калі я казаў, што дастаткова адной кропелькі п’яўкавага соку? Што мне трэба з табой рабіць, каб ты ўрэшце ўсё зразумеў, Лонгботам?

Нэвіл пачырванеў і весь калаціўся. Ён выглядаў так, бы зараз пачне плакаць.

- Прабачце, сэр,- сказала Герміёна,- калі ласка, я магу дапамагчы Нэвілу...

- Не памятаю, каб прасіў вас выбэндывацца, міс Грэйнджер,- халодна прамовіў Снэйп, а Герміёна ў момант пачырванела, як і Нэвіл.- Лонгботам, напрыканцы ўрока мы дадзім колькі кропляў гэтай настойкі, тваёй жабе і паклядзім што з ёй адбудзецца. Можа хоць гэта прастымулюе цябе рабіць ўсё правільна.

Снэйп пайшоў прэч, пакінуўшы задыхаючагася ад жаху Нэвіла.

- Дапамажы мне!- хныкаючы папрасіў ён Герміёну.

- Гэй, Гары,- сказаў Шымас Фініган, нахіліўшыся, каб пазычыць ў яго шалі,- ці чуў ты? Ранкам у «Штодзённым вяшчуне» паведамілі, што, магчыма знайшлі месца схованкі Сірыюса Блэка.

- Дзе?- разам спыталіся Гары і Рон, а на іншым кутку стала Малфой падняў голаву, каб падслухаць.

- Не надта далёка адсюль,- выглядаючы ўсхваляваным паведаміў Шымас.- Яго заўважыла нейкая жанчына з маглаў. Вядома ж ім не казалі хто ён насамрэч, маглы лічаць, што ён звычайны злачынца. І вось, яна пабачыла яго і патэлефанавала на гарачую лінію, але да таго часу, як аб’явіліся агенты Міністэрства Магіі, ён ужо знік.

- Не надта далёка адсюль...- паўтарыў Рон, шматзначна гледзячы на Гары. Тут ён развярнуўся і заўважыў, што Драко іх уважліва падслухвае.- Што, Малфой? Трэба яшчэ што-небудзь пачысціць?

Вочы Малфоя злаcліва заззялі і былі прыкаваны да Гары. Ён нахіліўся праз стол.

- Ці не думаеш ты злавіць Блэка самастойна, Потэр?

- Зразумела ж, не,- нядбайна адказаў Гары

На тонкіх вуснах Малфоя з’явілася усмешка.

- Я б на тваім месцы,- ціхінька прамовіў ён,- даўно б штосьці ўжо пачаў рабіць. Не сядзеў бы цацаю ў школе, а паўсюль шукаў бы яго.

- Што ты гародзіш, Малфой?- аскабліўся Рон.

- Хіба ня ведаеш, Потэр?- Драко перайшоў на ціхі шэпт, а яго бледныя вочы звузіліся.

- Што, ня ведаю?

Малфой ціха, пагардліва засмяялся.

- Пэўна не жадаеш рызыкаваць сваёй шыяй,- працягваў ён.- Вырашыў пакінуць яго на дэментараў? Калі б ён паляваў на мяне, я бы ўжо даўно адпомсціў яму, я распачаў бы паляванне ў адказ.

- Што ты гародзіш?- раззлавана прамовіў Гары, але тут пачаў размаўляць Снэйп:

- Да гэтага часу, уся падрыхтоўка, павінна быць скончана. Няхай ваша настойка пакіпіць крыху на павольным агні, а вы пакуль прыбярыцеся. Затым мы паглядзім што атрымалася ў Лонгботама...

Крэйб і Гойл голасна смяяліся, гледзячы, як Нэвіл ліхаманкава памешвае сваю настойку. Тым часам Герміёна аднымі толькі вугалкамі вуснаў, каб не заўважыў Снэйп, падказвала Нэвілу, што трэба рабіць далей. Гары з Ронам сабралі не выкарыстаныя інгрэдыенты са стала і пайшлі ў куток да каменнага басейна мыць рукі і лыжкі.

- Што Малфой меў на ўвазе?- прамармытаў, сунуўшы рукі пад ледзяны струмень, Гары Рону.- Чаму я павінен помсціць Блэку. Ён жа мне пакуль нічога не зрабіў...

- Ён правакуе цябе,- жорстка адказаў Рон.- Прымушае зрабіць глупства...

Калі заняткі былі амаль што скончаны,  Снэйп падыйшоў да скурчыўшагася перад сваім катлом Нэвіла.

- Згрудзіцеся ўсе вакол мяне,- прамовіў ён бліснуўшы сваімі чорнымі вачамі,- і пагледзем, што адбудзецца з жабай Лонгботама. Калі б ён зрабіў ўсё правільна Настойка ператварыць яго жабу на апалоніка. Але, у чым я не сумняваюся, ён ўсё наблытаў і лічу, што яго жаба рызыкуе быць атручанай.

Грыфіндорцы стаялі, не дыхаючы ад жаху. Слізэрынцы назіралі на ўсё з захапленнем. Снэйп на левай руцэ падняў Трэвара (так клікалі жабу Нэвіла) і пырснуў ёй ў горла колькі кропель настойкі, якая была ўжо зялёнага колеру.

Колькі часу пасля таго, як Трэвар праглынуў настойку ў класе панавала цішыня, але потым адчуўся гучны воплеск і ён ўжо выгінаўся апалонікам на далоні Снэйпа.

У адказ на гэта з боку грыфіндорцаў адчулася гучнае апладыяванне. Прафесор з кіслым выразам на твары дастаў са сваёй кішэні нейкую бутэлечку, пырснуў колькі кропляў на апалоніка і праз колькі імгненняў той зноў ператварыўся на Трэвара.

- Грыфіндор губляе пяць балаў,- прамовіў Снэйп, сцёршы усмешкі з ўсіх твараў.- Я казаў вам, міс Грэйнджэр, не дапамагаць яму. Усе могуць быць вольныя.

Гары, Рон і Герміёна падняліся па прыступках да Вестыбюля. Гары працягваў сам-намам разважаць аб словах Малфоя, а Герміёна кіпела злосцю на Снэйпа.

- Пяць балаў з Грыфіндору за добра зробленную настойку! Чаму ты не не абдурыла яго, Герміёна? Сказала б, што Нэвіл сам усё зрабіў?

Але Герміёна анічога не адказала. Рон азірнуўся.

- Куда яна падзелася?

Гары таксама азірнуўся. Яны былі на апошняй прыступцы сходаў якія вялі з падзямелля ў Вестыбюль і цяпер назіралі, як астатнія вучні міналі іх спяшаючыся ў Галоўную Залу на абед.

- Яна ж ўвесь час ішла за намі,- нахмурыўшыся сказаў Рон

Міма іх рушыў Малфой, а з абодвух бакоў ад яго ішлі Крэйб з Гойлам. Ён ухмыльнуўся Гары і пайшоў далей.

- Тут, яна,- паведаміў Гары.

Герміёна крыху запыхаўшыся спяшалася па сходах, у адной руцэ трымаючы сваю торбу, а другой нешта запіхваючы пад сваю мантыю.

- Як у цябе гэта атрымалася?- спытаўся Рон.

- Што?- далучыўшыся да Гары і Рона спыталася дзяўчынка.

- Хвіліну таму ты рушыла разам з намі, а цяпер зноўку спяшаешся з самога падзямелля.

- Што?- выглядаючы крыху збянтэжана спыталася Герміёна.- А... Мне прыйшлося вярнуцца за сім-тым у класс. Вой, не...

Яе торба нечакана разарвалася па шву. Гары зусім не здзівіўся,, калі ўбачыў што там было ня менш за тузін вялізных і цяжкіх кніг.

- Навошта,- спытаўся Рон,- ты цягаеш іх усе з сабой?

- Ты ж ведаеш, колькі дысцыплінаў я вывучаю адначасова,- запыхваючы адказала Герміёна.- Ці не патрымаеш сеё-тое?

- Але...- гледзячы на вокладкі падручнікаў якія дала яму дзяўчынка, паведаміў Рон,- ты ня маеш столькі заняткаў сёння. Толькі Ахова ад Цёмных Мастацваў пасля абеду.

- Ну, так,- прамармытаўшы адказала яна, збіраючы падручнікі назад ў торбу.- Я спадзяюся, што на абед будзе штось смачнае, я галодная,- дадала яна і накіравалася ў Галоўную залу.

- Ці ты не адчуваеш, што Герміёна нам штось не дагаворвае?- спытаўся Рон у Гары.

*

Калі яны з’явіліся на свае першыя заняткі па Абароне ад Цёмных Мастацтваў прафесара Люпіна ў кабінэце не было. Усе селі, дасталі свае скруткі, пёры, падручнікі і пачалі размаўляць між сабой і тут ён нарэшце аб’явіўся ў класе. Прафесар ціхінька ўсміхнуўся вучням і паклаў свой пашарпаны стары партфель на настаўніцкі стол. Яго вопрадка, як і раней была старой і зацыраванай, але сам прафесар выглядаў ужо не такім хворым, як у цягніку і здавалася за апошнія колькі дзён крыху патлусцеў.

- Дабрыдзень,- прамовіў ён,- можаце пакласці свае рэчы назад ў торбы, сёння будуць практычныя заняткі. Вам будзе дастаткова адных палачак.

Пакуль дзеці прыбіралі свае скруткі, падручнікі і пер’е ў торбы, сёй-той з іх зацікаўлена пераглянуўся з суседзямі. Звычайна па Абароне ў іх не было практычных заняткаў на першым жа ўроку, часцей яны паўтарлі тое, што вывучалі ў мінулым годзе. Гэта канечне,

калі не лічыць выпадак год таму, калі тагачасны настаўнік прывалок з сабой вялізную клетку з піксі і прымудрыўся іх выпусціць.

- А цяпер,- паведаміў прафесар Люпін, калі ўсе былі гатовы,- прашу ісці за мной.

Збянтэжаны, але паміраючы ад цікавасці клас падняўся на ногі і рушыў за прафесарам. Спачатку яны ішлі па бязлюдному калідору, потым завярнулі за кут і тут першае, што яны заўважылі быў полтэргейст Піўз, які сюды-туды хістаўся ў паветры, замазваючы бліжэйшую замочную шчыліну гумкай.

Піўз нічога не заўважаў, пакуль прафесар не апынуўся ў двух кроках ад яго, а ўбачыўшы прафесара, пачаў круціць сваім крывымі нагамі і заліўся песенькай:

- Лунацік, лупацік, Люпін! Лунацік, лупацік, Люпін...

Дзікі і не кіравальны, як і заўжды, Піўз звычайна з некаторай павагай адносіўся да настаўнікаў. Таму ўсе разам хуценька зірнулі на прафесара Люпіна, каб паглядзей як той адрэдагуе; да іх здзіўлення, той працягваў усміхацца.

- На тваім месцы, Піўз,- прамовіў ён,- я б прыбраў гумку з шчыліны. Ці містэр Філч ня будзе здольны трапіць да сваіх мётлаў.

Філч быў хогвартскім вартаўнікам, злым і ня здольным чараваць, які вёў з мясцовымі навучэнцамі даўнюю вайну. Але Піўз ніяк не адрэагаваў на словы настаўніка, калі не лічыць непрыстойнага гука, які ён зрабіў вуснамі.

Прафесар Люпін выдаў кароткі ўздых і дастаў сваю палачку.

- Зараз будзе невялічкая, але вельмі карысная замова,- прамовіў ён праз плячо,- Увага!

Ён падняў палачку на ўзровень плячэй, усклікнуў «Вадзівэйсі» і накіраваў яе на Піўза.

З сілаю кулі гумка выляцела з замочнай шчыліны і заляцела ў левую ноздру Піўза. Таго далёка адкінула ў правы бок; ён адлятаў па калідоры, сыплючы праклёнамі.

- Крута, сэр!- у здзіўленні прамовіў Дын Томас.

- Дзяк, Дын,- адказаў Люпін, паклаў палачку назад ў кішэню і прамовіў.- Ну, працягнем!

І яны рушылі далей, класа з захапленнем глядзела на свайго пашарпанага настаўніка. Яны прайшлі ўніз, па наступным калідоры і супыніліся ля дзвярэй настаўніцкай..

- Заходзце, калі ласка,- прамовіў ён, адчыніўшы дзверы і даўшы ім дарогу.

Настаўніцкая была доўгім абшытым драўлянымі панэлямі пакоем, поўным старымі не спалучаючыміся адно з адным крэсламі. Тут нікога не было, за выключэннем аднаго настаўніка. Ён сядзеў на нізкім крэсле і азіраў ўвайшоўшы ў сярэдзіну пакоя клас. Яго вочы блішчэлі, а на вуснах гуляла непрыемная ўсмешка. Калі прафесар Люпін увайшоў у пакой і ўжо збіраўся яго зачыніць, Снэйп прамовіў:

- Пакінь дзверы адчыненымі, Люпін. Я не збіраюся быць сведкам таго, што тут адбудзецца,- ён падняўся на ногі і рушыў да дзвярэй, яго чорная мантыя ўздымалася ззаду яго.- Да, яшчэ. Магчыма цябе не папярэдзілі, але ў гэтым класе ёсць такі Нэвіл Лонгботам. Я бы параіў табе не даручаць яму, штось больш-менш цяжкое. Калі толькі міс Грэйнджэр не будзе падказваць яму на вуха інструкцыю.

Нэвіл збарвянеў. Гары люта зірнуў на Снэйпа; ён чапляўся да Нэвіла на ўласных занятках, што ўжо было благім учынкам, а што казаць аб гэткім прыніжэнні ў прысутнасці іншага настаўніка.

Прафесар Люпін здзіўлена падняў бровы.

- Шляхетна кажучы, я ўжо разважаў ці не зрабіць Нэвіла сваім асістэнтам у першай частцы гэтага уроку,- адказаў ён,- і лічу што ён здолее зрабіць гэта звыш чым выдатна.

Твар Нэвіла збарвянеў яшчэ больш, што здавалася неверагодным. Вусны Снэйпа скрывіліся і ён сыйшоў прэч разлютавана грукнуўшы дзвярыма..

- Хадзем,- прамовіў прафесар Люпін, паманіўшы вучняў у самы канец пакою, дзе не было анічога, акрамя старой шафы з запасной вопрадкай настаўнікаў. Калі ён падыйшоў да шафы і стаў ля яе, тая раптоўна штурхнулася, стукнуўшыся аб сцяну.

- Нічога жудаснага,- супакоіў дзяцей прафесар, калі колькі з іх, спужаўшыся адскочылі назад,- там сядзіць звычайны богарт.

Аднак большасць згрудзіўшыхся адчувала, што там нешта, чаго трэба страшыцца. Нэвіл зірнуў на Люпіна вачыма поўнымі чысцейшаха жаху, а Шымас Фініган з асцярогай паглядзеў на бразгочушчую ручку шафы.

- Богарты аддаюць перавагу цёмным, замкнутым месцам,- растлумачыў прафесар,- такім, як шафы, прастора пад ложкамі, паліцы пад ракавінамі... Я аднойчы сстрэў аднаго, што жыў у падлогавым гадзінніку. Гэты аб’явіўся ўчора па апоўдні і я папрасіў дырэктара, калі іншыя настаўнікі не супраць, пакінуць яго, дзеля практыкавання трэццягодак.

- А цяпер, прапаную адказаць вас на пытанне: хто такі богарт?

Угору знялася рука Герміёны.

- Пераварацень,- адказала яна.- Ён прымае форму таго, што палохае чалавека больш за усё.

- Нават я б не сказаў лепей,- пахваліў яе прафесар Люпін, а Герміёна працягвала:

- Пакуль богарт знахозіцца сам-насам у цемры, ён яшчэ не мае формы, бо ня ведае чым будзе пужаць таго, хто знаходзіцца па іншы бок ад яго схованкі. Ніхто нават ня ведае, як ён выглядае насамрэч, але як толькі яго знайшлі, ён адразу ператвараецца на тое, што прывядзе чалавека да найбольшага жаху.

- Такім чынам,- працягваў прафесар, нават не звяртаючы ўвагу на грукочушчыя ад жаху зубы Нэвіла,- мы маем перад ім значную перавагу. Ці не падкажаш якую, Гары?

Адказваць на нейкае пытанне, калі побач знаходзіцца Герміёна, якая цягнула руку ўгору гэдак, што нават падпрыгвала, бы на шарнірах, справа цяжкая, але Гары паспрабаваў.

- Ну... нас тут шмат і ён ня будзе ведаць на што пераварочвацца.

- Менавіта,- адказаў Люпін, рука, выглядаючай крыху засмучанай Герміёны, апусцілася ўніз.- Калі вы маеце справу з богартам, заўсёды лепей мець з сабой паплечніка-другога. Богарт тады заблытваецца, ён ня ведае на каго пераварочвацца – на безгаловага мерцвяка, ці драпежнага смоўжа. Я аднойчы бачыў богарта, які зрабіў вязізную памылку, паспрабаваў напужаць адразу двух чалавек. У выніку ён пераварацілся на палову смоўжа, ані кроплі не жудасна.

- Замова, якая сапраўды даволі проста адштурхоўвае богарта, патрабуе значнай напругі розума. Справа ў тым, што ёсць нешта, што сапраўды забівае богарта – смех. Адзінае што трэба зрабіць, гэта прымусціць яго перавараціцца не нешта смешнае.

- А цяпер, паспрабуем без палачак патрэніявацца вымаўляць саму замову. Паўтарайце за мной... Рыдзікулюс!

- Рыдзікулюс!- паўторылі следам вучні.

-Добра,- прамовіў прафесар Люпін,- Надта добра. Але да жалю, гэта самая лёгкая частка. Справа ў тым, што адной замовы не дастаткова. І тут надыходзіць чарга Нэвіла.

Шафа зноў падскочыла, але яшчэ мацней падскочыў Нэвіл, які выглядаў так, бы ішоў на шыбеніцу.

- Добра, Нэвіл,- спытаўся прафесар,- перш-наперш: ці не падкажаш, чаго ты баісся больш за ўсё ў свеце?

Вусны хлопчыка заварушыліся, але гуку не было чуваць.

- Не разумею, што ты казаў, Нэвіл?- вясёла прамовіў Люпін.

Нэвіл з дзікімі вачыма, азірнуўся навокал, бы патрабуючы ў сувучняў дапамогі, а потым вымавіў крыху грамчэй чым шэптам:

- Прафесар Снэйп.

Амаль ўсе прысутныя засмяяліся. Нават Нэвіл і той вінавата ўсміхнуўся. Толькі Люпін выглядаў задумліва.

- Прафесар Снэйп... хммм... Нэвіл, я ведаю ты жывеш разам з бабуляй?

- Ну...так,- нервова прамовіў Нэвіл,- але мне не хачацца, каб богарт пераварацiўся і на яе.

- Не, не, ты аніправільна мяне зразумеў,- усміхнуўся прафесар.- Ці не мог бы ты паведаміць нам, што звычайна носіць твая бабуля?

Нэвіл моцна здзівіўся, але адказаў:

- Ну... яна заўжды носіць капялюш. Высокі такі з пудзілам каршака на вяршыні. У доўгую сукенку... часцей зялёную... і адчасу шалік-лісу.

- А торбачка?- падказваючы, спытаўся Снэйп.

- Адна, вялізная, чырвоная.

- Добра,- прамовіў прафесар Люпін.- А ці добра ты памятаеш, як выглядае гэтая вопрадка? Ці зможаш яе ўявіць ў сваім розуме?

- Так,- няўпэўненна адказаў Нэвіл, значна зацікаўлены тым, што будзе далей.

- Калі богарт вырвецца з шафы і пабачыць табе, ён адразу ператварыцца на прафесара Снэйпа,- тлумачыў Люпін.- Ты павінен будзеш ускінуць сваю палачку... вось гэдак... і ўсклікнуць «Рыдзікулюс»... а потым цвёрда сканцэнтравацца на адзенні сваёй бабулі. Калі ўсё будзе, як трэба, прафесар Снэйп будзе вымушаны апрануцца ў капялюш з каршаком, зялёную сукню і ўзяць ў рукі чырвоную торбачку.

Адчуўся грымотападобны рогат. Шафа заварушылася мацней.

- Калі ў Нэвіла ўсё атрымаецца, богарт прымецца па чарзе за кожнага з нас,- дадаў Люпін.- Таму зараз я жадаю, каб кожны з вас хуценька прыпомніў, чаго ён баіцца больш за ўсё ў свеце і ўявіце, якім чынам, вы б прымусілі ператварыць яго на смешнае...

У пакоі запанавала цішыня. Гары пачаў разважаць... А чаго ён баіцца больш за усё?

Першы, хто прыйшоў на яго думку быў лорд Вальдэморт... Вальдэморт, які вярнуў сабе сапраўдную моц. Але не паспеў ён пачаць планаваць контратаку на богарта-Вальдэморта, як жахлівы вобраз усплыў на паверхні яго розуму...

Гніючая, бліскучая рука, слізгаючая ў рукаў чорнага плашчу... доўгі засмоктваючы ўздых нябачных вуснаў... пранiклівы холад і адчуванне патанання...

Гары ўздрыгануўся і азірнуўся, спадзяючыся што аніхто не заўважыў. Большасць вучняў стаялі заплюшчыўшы вочы. Рон мармытаў сабе пад нос: «Няхай у яго адарвуцца

ногі». Гары быў ўпэўнены, што ведае аб чым зараз думае яго сябра. Той жудасна баяўся павукоў.

- Ці вы гатовы?- спытаўся прафесар.

Гары адчуў, што яго хістае ад жаху. Ён ня быў гатовы. Ён ня мог уявіць, як зрабіць дэментара менш жудасным. Але пасаромеўся папрасіць больш часу, таму разам з усімі хістнуў галавою, падкасваючы рукавы.

- Нэвіл, мы зараз адыйдзем,- падтлумачыў прафесар Люпін.- Ты будзеш стаяць самотна, добра? Я буду клікаць кожнага па чарзе... так, ўсім адыйсці, каб было бачна толькі Нэвіла...

Усе прысутныя адступілі, прытуліўшыся да сцяны і пакінуўшы ля шафы аднаго Нэвіла. Той выглядаў бледным і напалоханым, але падкасаў свае рукавы і ўзняў палачку у стане гатовасці.

- На лік «тры», Нэвіл,- паказваючы палачкай на ручку шафы, усклікнуў прафесар.- Раз... два... тры... давай!

Струмень іскраў стрэліў з палачкі Люпіна і націснуў на ручку. Шафа адчынілася. З яе выйшаў гарбаносы і пагрозлівы прафесар Снэйп і бліснуў вачыма на Нэвіла.

Нэвіл ўскінуў палачку, але ня змог вымавіць ані гука. Снэйп кінуўся на яго, выцягваючы нешта са свайго адзення.

- Р-р-рыдзікулюс!- прапішчаў Нэвіл.

Адчуўся нейкі шум, накшталт свісту бізуна. Снэйп спатыкнуўся. На ім была доўгая зялёная сукунка з карункамі, вялізны капялюш з пакоцаным моллю каршаком на вяршыні, а у руке хісталася вялізная барвяная торба.

Адчуўся рогат, богарт збянтэжана супыніўся.

- Парваці! Пайшла!- крыкнуў прафесар.

Парваці рушыла наперад, сціснуўшы зубы. Снэйп развярнуўся на яе. Зноў адчуўся свіст і на яго месцы апынулася загорнутая ў акраваўленыя бінты мумія; яе сляпы твар павярнуўся да Парваці і мумія рушыла да дзяўчынкі, вельмі павольна перасоўваючы свае ногі і цягнучы да яе туга забінтаваныя рукі...

- Рыдзікулюс!- усклікнула Паціл.

Бінты на нагах муміі раскруціліся, яна заблыталася ў іх і павалілася тварам на падлогу, а яе галава адляцела вонкі.

- Шымас!- прароў Люпін.

Фініган імгненна памяняўся месцамі з Парваці.

Зноўку свіснуў бізун! Там дзе імгненне таму ляжала мумія, паўстала страшэнна худая жанчына з валоссем да падлогі і тварам зялёнага адцення. Гэта была Бэншы. Яна адчыніла свае вусны і пакой напоўніўся доўгім незямным лямантам, што прымусіў уздыбіцца валасы Гары...

- Рыдзікулюс!- крыкнуў Шымас

Бэншы выдала рыпучы хрып і схапілася за горла, яе голас знік.

Свіст! Бэншы ператварылася на пацука, які ганяўся па коле за ўласным хвастом, потым... Свіст! І гэта ўжо грымучая змяя, што ізгінаючыся паўзла наперад... свіст!... і на падлозе ляжала толькі налітае крывёю вока.

- Ён заблытаўся!- крыкнуў Люпін.- Хто наступны! Дын!

Той паспяшаўся наперад.

Свіснуў бізун і вока ператварацілася на адрэзаную руку, якая развярнулася і папаўзла да Дына, рухаючыся пальцамі, бы краб нагамі.

- Рыдзікулюс!- уз’енчыў Томас

Адчуўся пстрык і рука трапіла ў пастку.

- Выдатна! Рон, ты наступны!

Той рушыў наперад.

Зноўку свіснуў бізун!

Даволі шмат людзей усклікнула ад жаху, калі на падлозе апынуўся вялізны пакрыты валасамі шасціфутавы павук, які рушыў ў бок Рона, пстрыкаючы клюшнямі. На дзелю секунды Гары вырашыў, што Рон застыў з жаху. Але...

- Рыдзікулюс!- прароў Рон і ногі павука кудысь зніклі, ён скочыў і пакаціўся да Лавендры, якая віскнула і адбегла ў бок. Павук спыніўся ля ног Гары, ён падняў сваю палачку, але...

- Я тут!- спяшаючыся наперад усклікнуў прафесар Люпін.

Свіснуў бізун!

Бязногі павук знік. Секунду-другую усе азіраліся навокал, каб пабачыць, куды той падзеўся. Потым яны заўважылі срабрыста-белы шар, што лунаў ў паветры перад Люпіным.

- Рыдзікулюс!- амаль што абыякава ўсклікнуў ён.

Ізноў адчуўся свіст!

- Давай, Нэвіл! Дабі яго!- калі богарт прусаком зваліўся на падлогу. Свіст! Зноў ў пакоі стаяў Снэйп увесь ў чорным. На гэты раз Нэвіл рушыў на перад пошны рашучасці.

- Рыдзікулюс!- крыкнуў ён і праз дзелю секунды Лонгботам і, апрануты ў карункавую сукенку, Снэйп глядзелі адно на аднаго. Потым Нэвіл пачаў гучна рагатаць і богарт выбухнуў, ператварыўшыся на тысячы маленечкіх струменьчыкаў дыму, а потым знік.

- Выдатна!- уклікнуў прафесар Люпін і класа вылілася гучным апладыяваннем.- Выдатна, Нэвіл! Усе малайцы. Так, дайце падумаць... пяць балаў Грыфіндору за кожнага чалавека прыняўшага удзел у барацьбе з богартам... дзесяць Нэвілу, бо ён зрабіў гэта двойчы... і па пяць балаў Герміёне і Гары.

- Але я анічога не зрабіў,- прамовіў Гары.

- Ты і Герміёна верна адказалі на мае пытанні на пачатку заняткаў, Гары,- не задумваючыся сказаў Люпін.- Усе выдатна сябе паказалі, добры ўрок. Хатняе заданне, уважліва прачытайце ў падручніках раздзел аб богартах, перакажыце сваімі словамі і здайце мне... у панядзелак. На сёння ўсё.

Усхвалявана перагаворваючыся вучні пакінулі настаўніцкі пакой. Але Гары не адчуваў весялосці. Прафесар Люпін наўмысна спыніў яго атаку на богарта. Чаму? Няўжо з-за яго знепрытомлення ў цягніку? Можа ён палічыў, што з Гары можа стацца штось падобнае і сёння?

Але астатнія здавалася, не заўважылі гэтага..

- Ці бачылі вы што сталася з маёй бэншы?- крычаў Шымас.

- А рука!?- мовіў Дын размахваючы ўласнымі.

- А Снэйп у капелюшы!?

- А мая мумія!?

- А я вось думаю, цікава чаму прафесар Люпін баіцца крыштальных шароў?- задумлена прамовіла Лавендра.

- Ці гэта былі не лепшыя заняткі па Абароне ад Цёмных Мастацтваў за усе часы?- усхвалявана спытаўся Рон, калі яны вярнуліся ў класу, каб забраць свае торбы.

- Ён, здаецца найвыдатнейшы настаўнік,- ухвальна прамовіла Герміёна,- але я нажаль так і не пазмагалася з богартам...

- А які твой самы наймацнейшы жах?- хіхікнуў Рон.- Атрымаць за хатняе заданне дзевяць балаў замест дзесяці?

## — РАЗДЗЕЛ VIII —

### *Знікненне Тлустай Пані*

Праз колькі часу Абарона ад Цёмных мастацтваў апынулся самай улюбёнай дысцыплінай сярод большасці навучэнцаў. Толькі Драко Малфой і яго слізэрынская банда працягвала казаць аб Люпіне толькі ў негатыўным тоне.

- Зірніце на яго адзенне,- гучным шэпрам прамовіў ён, калі прафесар прайшоў міма яго ў калідоры,- ён апранаецца, як наш колішні дамовы эльф.

Але акрамя яго нікому не перашкаджала яго старая зацыраваная вопрадка. Больш таго, яго наступныя заняткі былі гэдак жа цікавымі, як і самы першыя. Пасля богартаў, яны пачалі вывучаць крывавакалпачнікаў, брыдкіх гоблінападобных істот, што хаваліся там, дзе колісь адбываліся буйныя кровапраліцці – у падзямеллях старажытных замкаў, ці ў ямах на палях бітвы. Крывакалпачнікі сядзелі ў сваіх схованках з дубінай ў руках і чакалі заблукалых вандроўнікаў. А пасля трэццягодкі ўзяліся за вывучэнія капаў – істотаў якія нагадвалі малпаў, пакрытых чашуёй і з перапончатымі лапамі, якім заўжды свярбіла задушыць і ўцягнуць пад воду тых, хто выпадкова трапляў у іх сажалкі.

Адзінае, чаго зараз хацелася Гары, каб і падчас некаторых іншых дысцыплінах, ён быў гэдкім жа шчаслівым. Горш за ўсё было на Зеллеварстве. Снэйп знаходзіўся ў надта мсцівым настроі і аніхто не сумняваўся чаму, бо гісторыя аб богарце, прыняўшым яго аблічча, якога Нэвіл апрануў у вопрадку сваёй бабулі разенеслася па школе з хуткасцю ляснога пажару. Снэйп не лічыў гэты выпадак смешным і яго вочы шторaз пагрозліва ўспыхвалі, пры адным толькі ўзгадванні імя прафесара Люпіна. А што датычыцца Нэвіла, яму на Снэйпавых занятках было значна горш, чым калі-небудзь.

Таксама Гары адчуваў павялічваючыйся жах, калі знаходзіўся ў задушлівай прасторы вежы прафесаркі Трэлані, расшыфроўваючы скрыўленныя формы і сымбалі. Хлопчык імкнуўся ніколі не глядзець на настаўніцу, чые вялізарныя вочы імгненны напаўняліся слязьмі, шторaз калі яна глядзела на Гары. У адрозненні ад колькіх іншых вучняў, якія ставіліся да прафесаркі з павагай, хлопчык яе не любіў. Сярод тых, хто шанаваў Трэлані, асабліва выдзяляліся Парваці Паціл і Лавендра Браўн, якія часцей за астантніх наведвалі яе вежу падчас абедзеннага перапынку і заўсёды вярталіся адтуль з надта непрыемнымі выразамі на тварах, быццам ведалі нешта такое, да чаго ня маюць доступу іншыя. А шторaз, калі яны пачыналі размаўляць аб Гары, іх галасы станавілія прыглушанымі, бы той знаходзіцца на смяротным ложы.

А самай горшай з навук быў Догляд за Магічнымі Істотамі, які пасля першага насычанага дзеяннем занятку ператварылася на сапраўдную нудоту і здавалася што Хагрыд страціў былую самаўпэўненнасць. Цяпер яны ўвесь час вывучалі догляд за чарвямлявамі, напэўна самымі сумнымі істотамі ў свеце.

- Навошта іх наогул даглядаць?- заўважыў Гары, пасля чарговага занятку на якім ён увесь час пытаўся запхаць ў чарвямляўскае горла цёрты салат.

Але на пачатку кастрычніка адбылося нешта такое, што з лішкам кампенсавала цяжкасці ад незадавольваючых заняткаў. Набліжаўся чарговы квідытчны сязон і Олівер

Вуд, капітан грыфіндорскай каманды, ужо склікаў іх тыдзень таму, каб абмеркаваць новую тактыку, якой каманды будзе прытрымлівацца.

Кожная квідытчная каманда мела сем гульцоў: тры Пераследнікі, задачай якіх было забіваць галы з дапамогай квафла, чырвонага мяча, маючага памер футбольнага, які трэба было зашпуліць ў адно з трох колаў-варотаў, што стаялі на пятнаццаціфутавых слупах з абодвух бакоў ад поля; двух Бітакоў, што былі экіпіраванымі цяжкімі бітамі, каб адбіваць бладжэры (два цяжкіх чорных мяча, што насіліся па полі, спрабуючы атакаваць гульцоў); Наглядчыкаў, якія абараняюць колы-вароты і Паляўнічага, праца якога цяжэй за ўсе, ён павінен злавіць залаты сніч, маленькі памерам толькі з арэх мяч, лоўля якога гарантуе камандзе Паляўнічага дадатковыя сто пяцьдзесят балаў і перамогу.

Олівер быў каржакаватым семаццацігадовым юнаком, які вучыўся сёмы, апошні год у Хогвартсе. З нявыкруткай ў ціхім голасе ён звярнуўся да астатніх шасці гульцоў сваёй каманды, калі яны знаходзіліся ў халоднай распранальне на ускрайку цёмнага квідытчнага поля..

- Гэта наш... гэта мой апошні шанец атрымаць Кубак,- прамовіў ён ходзячы з боку ў бок перад камандай.- Калі не атрымаецца і ў гэтым годзе, другой спробы ў мяне ня будзе.

- Грыфіндор не выйграваў ужо сем год і гэта самая працяглая няўдаласць за ўвесь час... ці то траўмы... ці адменены турнір у мінулым годзе...- Вуд зглынуў, бы ўспамін пра гэта камяком паўстаў у яго горле.- Але мы ведаем, што маем лепшую... і злую... каманду... у... школе,- прамовіў ён, стукаючы кулаком у далонь, а ў яго вачах запалаў былы апантаны бляск.

- Мы маем трох найлепшэйшых Пераследніц.

Вуд зірнуў на Алісію Спінэт, Анджэліну Джонсан і Кэці Бэл.

- У нас два непрабіўнейшых Бітака.

- Годзе, Олівер, ты нас бянтэжыш,- разам прамовілі блізняты Фрэд і Джордж Візлі, робячы выгляд, што чырванеюць

- А наш Паляўнічы аніразу не зганьбіў нас падчас гульні!- Забурчаў Вуд, гледзячы на Гары з нейкім шалёным гонарам.- Ну і я,- праз некаторы час дадаў ён.

- Мы таксама лічым, што ты вельмі добры,- прамовіў Джордж.

- Заўзяты Наглядчык,- дадаў Фрэд.

- Справа ў тым,- працягваў Вуд, зноў пачаў хадзіць сюды-туды,- што вось ўжо два гады, як Кубак Квідытча павінен быць нашым. З таго часу, як да нас далучыўся Гары, я лічыў што перамога ў нашых руках. Але дагэтуль яе ў нас няма і ў гэтым годзе мы маем апошні шанец. Мы павінны нарэшце ўбачыць нашыя імёны на Кубку...

Вуд сказаў гэта настолькі маркотна, што нават блізняты паглядзелі на яго са спачуваннем.

- Олівер, гэта будзе наш год,- адказаў Фрэд.

- Мы зробім гэта!- дадала Анджэліна.

- Бясспрэчна,- прамовіў Гары.

Поўная рашучасці каманда распачала свае трэніроўкі тры разы на тыдзень. Надвор'е было халодным і волкім, ночы цёмнымі, але колькасць бруду, ці наяў'насць дажджу не павінны былі спрыяць страце бляску ў дзівосных вачах Гары, падчас фінальнай бойцы за срэбны Кубак Квідытчу.

Гары вярнуўся ў агульную гасцёўню Грыфіндора схаладзелы і здзервянелы, але задаволены тым як прайшла трэніроўка і знайшоў, што пакой усхвалявана гудзіць..

- Што здарылася?- спытаўся ён у Рона і Герміёны, што сядзелі ля коміна ў двух лепшых крэслах і складалі зорныя мапы для ўрока Астраноміі.

- Першыя выходныя ў Хогсмідзе,- адказаў Рон, паказваючы на апавяшчэнне, што з'явілася на старой і пабітай дошцы аб'яў.- Канец кастрычніка. Хэлоўін.

- Выдатна,- прамовіў Фрэд, што прайшоў следам за Гары ў адтуліну за партрэтам.- Мне тэрмінова трэба наведаць Зонка, бо ў мяне амаль што скончыліся смуродныя кулі.

Гары паваліўся на суседняе з Ронам крэсла, яго добры настрой выпадкова кудысь знік. Герміёна здавалася прачытала яго думкі.

- Гары, я ўпэўнена, што ў наступны раз у цябе таксама атрымаецца пайсці,- паспрабавала яна сусешыць хлопца.- Блэка хутка зловяць, яго ж аднойчы ўжо заўважылі.

- Блэк не настолькі дурны, каб паспрабаваць зрабіць нешта ў Хогсмідзе,- заўважыў Рон,- Спытайся ў МакГонагал, ці атрымаецца ў цябе пайсці ў гэты раз, а то наступны будзе праз цэлую вечнасць...

- Рон!- сказала Герміёна.- Гары павінен заставацца ў школе...

- І заставацца без перавагі трэццягодкі,- адказаў Рон.- Гары, ідзі да МакГонагал...

- Так, я пайду і спытаюся,- адказаў Гары, вырашыўшыся.

Герміёна паспрабавала было адчыніць рот, каб штось запярэчыць, але тут на яе калені скокнуў Крукшанс, трымаючы ў пашчы вялізнага здохлага павука.

- Хіба ён збіраецца есці гэта перад намі?- злосна спытаўся Рон.

- Які малайчына, Крукшансік, ты яго сам злавіў?- ласкава спыталася ў ката Герміёна.

Крукшанс павольна жаваў павука, нахабна пазіраючы жоўтымі вачыма на Рона.

- Калі ласка,- раздражнённа прамовіў Рон, вяртаючыся да сваёй зорнай мапы,- трымай яго ля сябе. У маёй торбе зараз спіць, Скаберс.

Гары пазяхнуў. Зараз яму сапраўды вельмі хацелася спаць, але ён яшчэ не зрабіў сваю зорную мапу. Ён выцягнуў сваю торбу, дастаў з яе пергамент, чарніліцу, пяро і распачаў працу.

- Калі жадаеш, можаш спісаць маю,- сказаў Рон, ён размашыста намаляваў апошнюю зорку і штурхнуў мапу Гары.

Герміёна, якая надта не паважала спісванне, сціснула вусны, але нічога не сказала. Крукшанс працягваў не міргаючы глядзець на Рона, махаючы сваім пухнатым хвастом, а потым нечакана кінуся наперад.

- ЁЙК!- зараўеў Рон, схапіўшы сваю торбу, Крукшанс запусціў у яе кіпцюры ўсіх чатырох лапаў і пачаў люта раздзіраць.- ПРЫБЯРЫ СВАЮ ДУРНУЮ ЖЫВЁЛІНУ!

Рон паспрабаваў стрэсці ката з торбы, але ж той добра ўхапіўся, пырхаючы і драпаючы.

- Рон, не пашкодзь яму!- вішчала Герміёна. Увесь пакой сабраўся, каб паглядзець на гэты; Рон круціў торбу вакол сябе, Крукшанс працягваў чапляцца за яе, а Скаберс выскочыў вонкі...

- ЛАВІЦЕ КАТА!- галасіў Рон, Крукшанс адчапіўся ад падзёртай торбы, ускочыў на стол, а потым пагнаўся за перапужаным пацуком.

Джордж Візлі скокнуў на Крукшанса, але прамахнуўся; Скаберс мільгануў ля дваццаці пар ног і заляцеў пад старую камоду. Крукшанс праслізнукў за ім не прыпыняючыся, сеў

на свае крывыя лапы і пачаў з дапамогай пярэдняй люта вычэпліваць пацука з-пад камоды.

Рон і Герміёна паспяшаліся за імі; дзяўчынка схапіла ката абедзвума рукамі і з вялікай цяжкасцю знесла прэчкі; Рон кінуўся на жывот і насілу выцягнуў Скаберса за хвост.

- Паглядзі на яго!- разлютавана крычаў Рон, паказваючы Герміёне вісячага ў яго руках пацука.- Адны скура ды косткі! Так што трымай свайго ката далей ад яго!

- Ну ён жа не разумее, што гэта дрэнна!- дрыжачым голасам адказала Герміёна.- Усе каты ганяюцца за пацукамі, Рон!

- З гэтай істотай, ня ўсё чыста!- прамовіў хлопец, пытаючыся запхаць хістаючагася Скаберса ў кішэню.- Ён пачуў мае словы, аб тым што Скаберс у торбе!

- Што за лухцень,- нецярпліва заўважыла Герміёна.- Крукшанс знюхаў яго пах, Рон, а не то што ты лічыш...

- Гэты кот, мае закалец на Скаберса!- працягваў Рон не звяртаючы ўвагі на прысутных, якія пачалі гігікаць.- Але Скаберс быў тут першым і зараз ён хварэе!

Хлопец прайшоў уздоўж гасцёўні, падняўся па сходах і знік у пакоі для хлопцаў.

*

Рон працягваў дзмуцца на сяброўку ўвесь наступны дзень. Ён нават амаль не размаўляў з ёй на Зёлазнаўстве, не гледзячы на тое, што ён, Герміёна і Гары разам працавалі з адной пуфаподай..

- Як там Скаберс?- нясмела спыталася дзяўчынка, калі яны лушчылі тлустыя ружовыя струкі пуфаподы і скідвалі яе бліскучыя бабы ў драўлянае вядро.

- Схаваўся ў маім ложку пад коўдрай і дрыжыць,- раздражнённа адказаў Рон, выпусціў вядро і рассыпаў бабы па падлозе.

- Асцярожна, Візлі, асцярожна!- ускрынула прафесарка Спроўт, калі бабы пачалі з невялічкімі выбухамі квітнець на іх вачах.

Наступным урокам у іх раскладзе былі Ператварэнні. Гары вырашыў спытацца ў прафесаркі МакГонагал пасля заняткаў, ці атрымаецца ў яго разам з астатнімі наведаць Хогсмід. Далучыўшыся да шэрагу вучняў, чакаючых прафесарку перад дзвярмі пакою, ён спрабаваў прыдумаць добрыя аргументы. Але яго увагу адцягнула нейкая неспакойная размова ў непасрэднай блізкасці ад кабінета.

Лавендра Браўн выглядала заплаканай, а Парваці стаяла абняўшы яе і размаўляла аб нечым з Шымасам Фініганам і Дынам Томасам, якія слухалі яе з сур’ёзнымі тварамі.

- Што з табою, Лавендра?- занепакоена спыталася Герміёна, калі яна разам з Гары і Ронам наблізілся.

- Яна атрымала з дому ліст,- прашапатала Парваці,- яе ўлюбёны трусік Бінкі. Яго забіла ліса.

- Ёечку,- прамовіла Герміёна,- прабач мяне, Лавендра.

- Я павінна была здагадацца,- трагічна прамовіла тая.- Ці вы памятаеце, які сёння дзень?

- Мммм?

- Шастнаццатага кастрычніка! «А то чаго ты страшышся адбудзецца шастнаццатага кастрычніка!» Ці памятаеце? Яна... яна мела рацыю!

Цяпер вакол Лавендры згрудзілася ўся класа. Шымас сур'ёзна ківаў галавой. Герміёна вагалася колькі секунд, а потым спыталася:

- Ты... ты сапраўды баялася, што Бінкі будзе забіты лісой?

- Ну не абавязкова лісой,- адказала Лавендра, гледзячы на Герміёну заплаканымі вачыма.- Я ўвогуле безумоўна баялася, што ён памрэ. Разумееш?

- Вох,- прамовіла Герміёна і зноў доўга маўчала. Потым, яна нарэшце працягнула.- А хіба, Бінкі быў старым трусам?

- Не!- загаласіла Лавендра.- Ё-ён быў шчэ зусім маленечкім!

Парваці мацней сціснула руку вакол пляча Лавендры.

- Але чаму тады ты баялася яго смерці?- спыталася Герміёна.

Парваці зыркнула на яе вачыма.

- Але ж паглядзім на гэта лагічна,- звярнулася Герміёна да астатніх вучняў.- Я вось аб чым. Бінкі ж ня сёння памёр, сёння Лаведра атрымала звестку аб гэтым... Лавендра гучна лямантавала...- і яна не магла настолькі баяцца гэтага, бо здарыўшаеся было для яе сапраўдным шокам...

- Не звяртай увагі на Герміёну, Лавендра,- гучна прамовіў Рон,- з яе пункту гледжання хатнія ўлюбёнцы іншых людзей нічога не значаць.

У гэты момант на агульнае шчасце, бо Рон з Герміёнай пачалі ваўкавата глядзець адно на аднаго, прафесарка МакГонагал адчыніла дзверы свайго пакою. І калі яны ўвайшлі ў кабінет Рон з Герміёнай селі паабапал ад Гары і не размаўлялі да канца заняткаў.

Гары ня вырашыў пакуль, што будзе казаць прафесарке, калі адчуўся званок, але добра ведаў, што менавіта яна ёсць тым, з кім трэба пагаманіць наконт Хогсміда ў першую чаргу.

- Калі ласка, яшчэ хвілінку!- паклікала яна, калі вучні ўжо збіраліся сыходзіць.- Пакуль вы не сышлі, нагадваю, вы патрэбны аддаць мне бланкі дазволу да Хэлаўіна. Няма дазволу, няма наведвання вёскі!

Нэвіл падняў руку.

- Прабачце, калі ласка... але я здаецца яго згубіў...

- Ваша бабуля, містэр Лонгботам,- сказала прафесарка,- даслала дазвол асабіста мне. Мабыць вырашыла, што гэдак будзе больш надзейна. А цяпер можаце ісці.

- Давай спытайся ў яе,- прашыпеў Рон.

- Але...- пачала Герміёна.

- Давай,- упарта мовіў Рон.

Гары пачакаў, калі астатнія вучні пакінуць пакой, а потым рушыў да стала прафесаркі.

- Вам штось патрэбна, Потэр?

Гары глыбока ўздыхнуў.

- Прабачце,- пачаў ён,- ну... мае дзядзька з цёткай... яны не падпісалі дазвол.

МакГонагал зірнула на яго скрозь свае квадратныя акуляры, але нічога не сказала.

- Так... ммм... вы лічыце, што ўсё добра... я маю на ўвазе, што мне дазволена... наведваць Хогсмід з астатнімі?

Прафесарка зірнула ўніз і пачала перасоўваць паперы на сваім стале.

- Баюся што не, містэр Потэр,- адказала яна,- вы чулі, што я казала: «Няма дазволу, няма Хогсміду». Гэта правіла.

- Але... мадам прафесар, вы ж ведаеце, мае дзядзька з цёткай... яны маглы, яны сапраўды анічога ня ведаюць аб Хогвартскіх парадках і правілах,- працягваў Гары, падбухторваемы ківаннем Ронавай галавы,- Калі б вы дазволілі мне пайсці...

- Але дазваляю не я,- адказала прафесарка, паднялася на ногі і акуратна склаўшы свае паперы, кінула іх ў шуфляду стала.- На бланке было дакладна напісана, што дазвол можа даць толькі бацькі ці апекуны.- яна зірнула на яго з нейкім дзіўным выразам на твары. Магчыма гэта было спачуванне.- Мне вельмі шкада, Потэр, але гэта маё апошняе слова. І вам лепей спяшацца, ці вы спазніцеся на наступны ўрок.

*

Нічога не паробіш. Рон са злоснасці называў МакГонагал шэрагам мянушак, якія вельмі раздражнялі Герміёну; сама яна пыталася пераканаць Гары, што можа ўсё да лепшага, чым яшчэ больш раззлавала Рона. А самому Гары прайшлось пераЖыць громкія і радасныя размовы іншых вучняў, аб тым, што яны зробяць ў першую чаргу трапіўшы да Хогсміду.

- Там заўсёды свята,- прамовіў Рон, спрабуючы развесяліць сябра.- Ці ты памятаеш, аб банкеце ў хэлоўінскі вечар?

- Так,- маркотна алказаў Гары.-

Банкет на Хэлоўін праходзіў заўжды добра, але здавалася, што стравы на ім былі б смачней, калі б ён спажываў іх пасля сумеснага наведвання Хогсміду. І ніякія словы суцяшэння не дазвалялі яму забыцца на гэта. Дын Томас, які добра валодаў пяром, прапанаваў падрабіць яго подпіс, на што Гары заўважыў яму, што прафесарка МакГонагал ужо ведае, што дзядзька не падпісаў дазволу і ад падробкі ня будзе карысці. Рон нерашуча прапанаваў скарыстацца мантыяй-невядзімкай, але Герміёна супыніла яго нагадаўшы словы прафесара Дамблдора, аб тым што дэментары здольны бачыць скрозь яе. Але найменш прыязныя словы суцяшэння ён пачуў ад Персі.

- Яны тут ўсе падымаюць шум пра гэты Хогсмід, а было б з чаго,- сур’ёзным тонам прамовіў ён.- Ну добра, кандытарская – неблага, але напрыклад Жартоўная Крама Зонкі, нешта сапраўды небяспечнае, ну можа яшчэ Лямантуючую Халупу заўсёды добра паглядзець. А так, запэўніваю цябе ты анічога карыснага не прапусціш.

*

Раніцай на Хэлоўін ён прачнуўся пазней астатніх і спускаўся ўніз да сняданку ў звышмаркотным настроі, хаця рабіў усё магчымае, каб выглядаць звычайна.

- Мы абавязкова прывязем цябе груду прысмакаў ад Мядовага Герцага, сказала Герміёна, гледзячы на яго шалёна выбачаючыміся вачыма.

- Так зразумела,- адказаў Рон. Агульна спачуваючы Гарынай бядзе, ён і Герміёна нарэшце забыліся аб сваёй сварцы з-за Крукшанса.

- Не турбуйцеся пра мяне,- адказаў Гары, спадзяючыся, што яго голас выглядае абыякавым.- Я пабачу вас на банкеце. Жадаю добра правесці час.

Ён праводзіў іх да Вестыбюля, дзе ля дзвярэй стаяў Філч, наглядчык Хогвартса і ставіў галачкі насупраць прозвішчаў у спісе. Ён доўга і старанна ўзіраўся ў кожны падазроны твар, гледзячы, каб ніхто не праслізнуў ля яго ўпотай.

- Што застаешся тут, Потэр?- крыкнуў Малфой, стоячы ў чарзе разам з Крэйбам і Гойлам.- Баісся ісці міма дэментараў?

Гары праігнараваў яго, развярнуўся і пусціўся ў свой самотны шлях ўверх па мармуровых сходах і пустым калідоры назад у Грыфіндорскую Вежу.

- Пароль,- прамовіла Тлустая Пані, усхамянуўшыся ад сну.

- Фартуна Маёр,- апатычна адказаў хлопчык.

Партрэт адсунуўся і Гары пралез праз адтуліну ў агульны пакой. Ён быў забіты гамонячымі навучэнцамі першага і другога году, а таксама колькімі старэйшымі вучнямі, якія пэўна столькі раз наведвалі Хогсмід, што не адчувалі ад гэтага аніякага ўраджэння.

- Гары! Гары! Прывітанне, Гары!

Гэта быў вучань другагодка Колін Крыві, які быў у моцным захапленні ад хлопца і аніколі не выпускаў магчымасці пагаманіць з ім.

- Хіба ты не ідзеш у Хогсмід, Гары? Чаму? Гэй...- Колін нецярпліва азірнуўся на сваіх сяброў.- Калі жадаеш, можаш прысесці з намі, Гары!

- Эммм... не, дзякуй, Колін,- адказаў Гары. Яму не карцела сядзець сярод купы навучэнцаў, што прагна б азіралі яго шнар.- Мне... мне трэба завітаць ў бібліятэку, дарабіць сюю-тую працу.

Пасля гэтага, яму нічога не заставалася, каб развярнуцца і зноў рушыць скрозь адтуліну за партрэтам.

- Што за манэра ўвесь час мяне будзіць?- прабурчала Тлустая Пані, калі ён сыйшоў.

Гары маркотна пацягнуўся ў бок бібліятэкі, але на поўдарозе передумаў працаваць. Ён развярнуўся і носам да носу сутэкнуўся з Філчам, які напэўна ўжо праводзіў апошніх наведвальнікаў у Хогсмід.

- Што ты тут робіш?- з падазронам гыркнуў Філч.

- Нічога,- адказаў праўду Гары.

- Нічога!- пырснуў слюною Філч, яго шчокі гідка дрыжэлі.- цікавая гісторыя! Крадзешся тут употай і чаму ты не ў Хогсмідзе. Чаму не купляеш там Смуродныя Кулі, Ванітавы парашок і Свісцячых чарвей, як астатніе твае малапрыемныя сябры?

Гары пацiснуў плячыма.

- Тады вяртайся ў сваю гасцёўню і сядзі там, дзе табе трэба быць!- адрэзаў Філч і стаяў люта зыркаючы, пакуль хлопчык ня знік з вачэй.

Але Гары не збіраўся вяртацца ў грыфіндорскую гасцёўню. Ён падняўся па сходах магчыма вырашыўшы наведаць савятню і пабачыцца з Хэдвіг. Ён ўжо ўвайшоў у наступны калідор, калі голас з аднаго з пакояў паклікаў яго:

- Гары?

Хлопчык развярнуўся, каб ўбачыць размаўлялага і сстрэўся вачыма з прафесарам Люпіным, вяглядаючым з дзвярэй свайго кабінэта.

- Што ты тут робіш?- задаў ён тое ж што і Філч пытанне, але з іншай інтанацыяй.- А дзе Рон з Герміёнай?

- У Хогсмідзе,- адказаў Гары, фальшыва-абыякавым голасам.

- Аа,- прамовіў Люпін. Ён уважліва паглядзел на Гары імгненне-другое.- Ці не жадаеш зазірнуць? Я толькі што атрымаў дзеля нашага наступнага занятку грындзілоў.

- Каго?- спытаўся Гары.

Ён увайшоў у кабінэт прафесара. У кутку стаяў вялізны акварыюм поўны вады ў якім сядзела , прыціснуўшы мысу да шкла і курчачы морды, хваравіта зялёнага колеру істота з маленечкімі рожкамі і гнуткімі, доўгімі, тонкімі пальцамі.

- Гэта вадзяны дэман,- прамовіў Люпін, уважліва назіраючы за грыдзілоў.- Мы не будзем мець з імі асаблівых цяжкасцяў, асабліва пасля капаў. Уся справа ў тым, што трэба ўсяго ткі разарваць яго захоп. Ці ты бачыш яго анамальна доўгія пальцы? Яны вельмі моцныя, але і вельмі далікатныя.

Грындзілоў ашчэрыў свае зялёныя зубы і схаваўся ў кутку акварыюму, сярод водарасцяў.

- Ці не жадаеш гарбаты?- спытаўся прафесар, зірнуўшы на свой імбрык,- я як раз збіраўся выпіць кубачак-другі.

- Добра,- нясклaдна адказаў Гары.

Прафесар пастукаў па імбрыку сваёй палачкай і з носіка раптоўна пачаў ісці пар.

- Сядай,- прамовіў Люпін, здымаючы накрыўку з запыленай банкі.- у мяне нажаль гарбата толькі ў пакецiках, але мяркую, што ліставой гарбаты з цябе пакуль што годзе.

Гары зірнуў на прафесара. Той падміргнуў яму.

- Як вы даведаліся пра гэта?- спытаўся хлопчык.

- Мне паведаміла прафесарка МакГонагал,- адказаў настаўнік, працягваючы Гары шчарбаты кубачак.- Табе нешта турбуе?

- Не,- адказаў Гары.

Хлопчык вагаўся, ці не распавесці прафесару аб сабаку, якога ён бачыў на Плошчы Магнолій, але вырашыў што ня трэба. Гары вельмі не жадаў, каб той палічыў яго баязліўцам, тым больш Люпін ужо аднойчы сумняваўся, ці зладзіць Гары з богартам.

Напэўна непакой Гары адлюстроўваўся на яго твары, таму прафесар спытаў:

- Усё-ткі тебе нешта турбуе, Гары?

- Ані.- схлусіў хлопчык. Ён зрабіў глыток і зірнуў у бок грындзілоў, які зараз казаў яму кулак.- Так,- зняназку прамовіў ён, паставіўшы кубак на стол.- Ці вы памятаеце той дзень, калі мы змагаліся з богартам?

- Так,- павольна адказаў прафесар.

- Чаму вы не дазволілі мне змагацца з ім?- раптоўна спытаўся хлопчык.

Люпін здзіўленна падняў брыві.

- Я лічыў што гэта відавочна, Гары,- здзіўлена прамовіў ён

Гары, які чакаў, што прафесар пачне адмаўляцца, што ў яго і ў думках анічога такога не было, разгубіўся.

- Ч-чаму?- ўрэшце вымавіў хлопчык.

- Ну,- з лёгку пахмурыўшы брыві адказаў прафесар,- я палічыў, што калі ты сстрэнешся з богартам, той прыме аблічча Лорда Вальдэморта.

Гары вытарапіў вочы. Акрамя таго, што гэта быў апошні адказ, які ён чакаў пачуць, Люпін уголас назваў імя Вальдэморта. Адзіным, акрамя яго самога, чалавекам, які не баяўся вымаўляць гэтае імя, быў толькі прафесар Дамблдор.

- Канечне, я зрабіў дрэнна,- працягваў Люпін, усё яшчэ хмурна пазіраючы на Гары,- але ўяві сабе, што было б, калі Вальдэморт матэрыялізаваўся ў цэнтры настаўніцкай. Адразу б пачалася моцная паніка.

- Я насамрэч і думаў з пачатку ад Вальдэморце,- шляхетна адказаў Гары,- але потым прыпомніў... гэтых дэментараў.

- Зразумела,- у задумленасці адказаў прафесар.- Ну, добра... я ўраджаны.- ён злёгку пасміхнуўся здзіўленаму твару хлопца.- Адзіная рэч, якой ты насамрэч баішся – гэта баяцца. Гэта вельмі мудра.

Гары нават ня ведаў што адказаць, таму зноў пачаў піць гарбату.

- А ты напэўна вырашыў, што я сумняваюся, ці здольны ты зладзіць з богартам?- пранікліва спытаў Люпін.

- Ну... так,- адказаў хлопчык. Ён раптоўна адчуў сябе значна шчаслівей.- Прафесар Люпін, а гэтыя дэментары...

Гары не паспеў скончыць, бо ў дзверы нехта пастукаў.

- Заходзце!- адказаў настаўнік.

Дзверы адчыніліся і ў пакой увайшоў Снэйп. У руках ён нёс кубак, які ледзь бачна курэў. Убачыўшы Гары, Снэйп спыніўся і сашчурыў свае чорныя вочы..

- А, Северус,- усміхнушся Люпін.- Вялікі дзякуй. Ці не мог бы ты пакінуць кубак тут, на маім стале?

Снэйп паставіў курэўшы кубак на стол, зыркаючы вачыма то на хлопца, то на Люпіна..

- А я тут дэманструю Гары, свайго грындзілоў,- прыязна прамовіў гаспадар пакою.

- Выдатна,- адказаў Северус ня гледзячы на яго.- Ты павінен выпіць гэта неадкладна, Люпін.

- Так, так, я ведаю,- адказаў той.

- Я зрабіў поўны кацёл,- працягвал Снэйп,- калі цябе яшчэ спатрэбіцца.

- Верагодна, заўтра яшчэ крыху спатрэбіцца. Вялікі дзякуй, Северус.

- Няма за што,- адказаў Снэйп, але нешта ў яго позірку Гары вельмі не спадабалася. Той выйшаў не усміхаючыся і насцярожана.

Гары з зацікаўленасцю паглядзел на кубак. Прафесар Люпін ўсміхаўся.

- Прафесар Снэйп ласкава прыгатаваў для мяне зелле,- прамовіў ён.- Я ніколі ня быў майстрам у зеллеварстве, а гэтае яшчэ і асабліва складанае.- ён падняў кубак і панюхаў.- Шкада што цукар робіць яго бескарысным.- дадаў ён, зрабіў маленькі глыток і уздрыгануўся.

- А чаму...?- пачаў Гары, але адзін погляд на прафесара прымусіў яго супыніцца.

- Я адчуваю сябе крыху нездаровым,- прамовіў той,- адзінае, што мне дапамагае, гэтае зелле. Мне вельмі пашанцавала працаваць разам з прафесарам Снэйпам; ня шмат чараўнікоў здольныя прыгатаваць яго.

Прафесар зрабіў яшчэ адзін глыток, у галаве хлопчыка аб’явілася думка тэрмінова выбіць кубак з яго рук.

- Прафесар Снэйп вельмі цікавіцца Цёмнымі Мастацтвамі,- ляпнуў Гары.

- Няўжо?- спытаўся Люпін, выглядаючы толькі крыху зацікаўленным і зрабіў чарговы глыток.

- Сёй-той лічыць...- Гары крыху павагаўся, а потым выпаліў як той кулямёт.- некаторыя лічаць, што ён зробіць, што заўгодна за месца настаўніка па Абароне ад Цёмных Мастацтваў.

Прафесар дапіў зелле і паморшчыўся.

- Брыдота,- прамовіў ён.- Добра, Гары, мне трэба вяртацца да працы. Пабачымся крыху пазней, падчас банкету.

- Добра,- адказаў хлопчык, кладучы на стол пусты кубак.

Той па ранейшаму працягваў курэць.

*

- А вось і мы,- прамовіў Рон.- Вось, прынеслі столькі, колькі атрымалася.

Залева яскравых ласункаў палілася на калені Гары. Надыходзілі прыцемкі. Рон з Герміёнаю толькі што вярнуліся ў гасцёўню. Іх тварыкі расчырванеліся ад халоднага паветра, а самі яны выглядалі так, бы бавілі лепшы час ў сваім жыцці.

- Дзяк,- сказаў Гары, адчыняючы пакунак з маленькімі чорнымі Перачнымі Шатанятамі.- Ну, ці спадабаўся вам Хогсмід? Дзе былі?

Але хутчэй за ўсё – паўсюль. І ў Чараўніцкіх інструментах і матэрыялах Дэрвіша і Бэнша, і ў Жартоўнай Краме Зонкі, і ў Трох Мётлах, каб выпіць па куфліку гарачага пеністага вяршковага піва і шмат яшчэ дзе.

- Уяві мясцовае паштовае аддзяленне, Гары! На паліцах сядзяць каля двухсот соваў, кожная мае свой асабісты каляровы код, у залежнасці ад таго, як далёка і як хутка табе трэба адправіць паштоўку!

- А ў Мядовага Герцага новая фішка, яны пачалі выдаваць бясплатныя ўзоры сваёй прадукцыі, мы ўзялі крышку, зірні...

- А яшчэ, мы па-мойму бачылі огра, наогул у «Трох Мётлах « такая збіраецца публіка...

- Шкада, што немагчыма было прынесці табе вяршковага піва, яно б цябе сагрэла...

- А ты чым займаўся?- турбочыся спыталася Герміёна.- Мо урокамі?

- Не,- адказаў Гары,- піў гарбату ў кабінеце Люпіна, а потым з’явіўся Снэйп з...

Ён распавёў ім пра кубачак. Рон стаяў адкрыўшы рот.

- І Люпін піў гэта?- ледзь дышучы ад здзіўлення спытаўся Рон.- Ён зшалеў?

Герміёна пазірнула на гадзіннік.

- Нам лепей спускацца, банкет пачнецца праз пяць хвілін...- яны паспяшаліся скрозь адтуліну за партрэтам і далучыліся да натоўпу вучняў, працягваючы разважаць аб Снэйпе.

- А калі раптам ён... ну...- сцішыўшы голас і нервова абярнуўшыся па баках прамовіла Герміёна,- калі раптам ён жадаў... атруціць Люпіна... наўрацці ён зрабіў бы гэта пры Гары.

- Мабыць так,- адказаў Гары. Яны дасягулі Вестыбюлю, а праз яго трапілі ў Галоўную Залу. Яна была ўпрыгожана сотнямі гарбузоў са свечкамі ўсярэдзіне, а вакол лёталі купы жывых кажаноў і мноства палаючых слупоў паўночнага ззяння, што гультаявата лятал пад столяй, як бліскучыя вадзяныя змеі.

Стравы былі настолькі смачнымі, што нават Рон з Герміёнай, якія падчас наведвання Хогсміда дабра падсілкаваліся ласункамі з Мядовага Герцага, паспрабавалі ўсяго што было на стале. Гары зірнуў на стол настаўнікаў. Прафесар Люпін выглядаў бадзёрым, як ніколі, ён жыва размаўляў аб нечым з маленечкім прафесарам Флітвікам, настаўнікам чараўніцтва. Гары перавёў вочы на тое месца дзе сядзеў Снэйп. Гары быў ня ўпэўнены, але здавалася што той часцей касіў вочы ў бок прафесара Люпіна, чым гэта было звычайна.

Свята скончылася паказам ў выканнані мясцовых прывідаў. Яны скочылі са сцен ды сталоў і згрудзіўшыся ў неверагодныя фігуры круціліся ў паветры; а Амаль Безгаловы Нік - прывід Грыфіндору, меў шалёны поспех, рэканстуюючы сваё няўдалае катаванне.

Вечар настолькі ўдаўся, што Гарын настрой ня змог згубіць нават Малфой, які крыкнуў яму праз натоўп, калі яны выйшлі з Залы:

- Дэментары дасылаюць табе сардэчнае прывітанне, Потэр!

Гары, Рон і Герміёна рушылі разам з астатнімі грыфіндорцамі звычайшым шляхам да сваёй Вежы. Але калі яны дасягнулі калідора, што скончваўся партрэтам Тлустай Пані, яны заўважылі, што весь ён быў забіты навучэнцамі.

- Чаму ніхто не праходзіць ўсярэдзіну?- не разумеючы спытаўся Рон.

Гары зірнуў праз галовы стаяўшых наперадзе. Партрэт быў закрыты.

- Калі ласка, дайце прайці,- адчуўся голас Персі, які хціва рухаўся праз ажыўлены натоўп.- Чаму вы все тут? Няўжо ніхто не памятае пароль... прабачце, я Стараста Школы...

А потым па над натоўпам запанавала цішыня, якая здавалася пачалася з першых радоў і халодным струменнем пранеслася па калідоры. Потым яны пачулі нечакана рэзкі голас Персі:

- Хто-небудзь, праклічце Дамблдора. Хутчэй.

Вучні пачалі азірацца, а тыя хто стаяў ззаду падняліся на пальчыкі.

- Што тут дзеецца?- спыталася Джыні, якая толькі што падыйшла.

У наступны момант аб’явіўся прафесар Дамблдор, які хутка падбег да партрэта. Натоўп вучняў расступіўся, каб даць яму дарогу, тады Гары, Рон і Герміёна наблізіліся бліжэй, каб паглядзець што здарылася.

- А мамка ж...- усклікнула Герміёна, схапіўшы Гары за руку.

Тлустая Пані знікла з партрэта, які быў жорстка распаласаваны; падлога была засцелена палоскамі палатна, а некаторыя кавалкі былі адарваны цалкам.

Дамблдор хутка паглядзеў на знявечаную карціну і развярнуўся, пахмурна гледзячы да набліжаючыхся на дапамогу прафесароў МакГонагал, Люпіна і Снэйпа.

- Мы павінны знайсці яе,- прамовіў дырэктар.- Мадам прафесар, калі ласка перадайце містэру Фільчу, каб ён неадкладна пачаў шукаць Тлустую пані на ўсіх карцінах у замку.

- Жадаю поспеху!- прамовіў гігікаючы голас.

Гэта быў полтэргейст Піўз, які лятаў па над натоўпам і быў у вялікім захапленні, як і кожны раз, калі бачыў якуюсь аварыю ці неспакой.

- Што ты маеш на ўвазе, Піўз?- спакойна спытаўся ў яго Дамблдор і ухмылка полтэргейста пакрысе саслабела. Ён ня смеў дражніць Дамблдора. Яго голас ператварыўся на ліслівы, што было не нашмат прыемней, чым яго гогат.

- Ёй сорамана, Вашае Вяршынства, сэр. Яна не жадае, каб яе бачылі. Яна ў жахлівым стане. Я бачыў, як яна праходзіла праз пейзаж на чацьвёртым паверсе, хаваючыся за дрэвамі. Енчыла нешта жудаснае,- шчасліва прамовіў ён,- Бедная, няшчасная,- дадаў ён непераканаўча.

- Яна сказала, кто гэта зрабіў?- спакойна прамовіў Дамблдор.

- Так, канечне, містэр Галоўны Прафесар,- адказаў Піўз, з выглядам чалавека трымаючага ў руках вялізную бомбу.- Ён вельмі раззлаваўся, калі яна не пусціла яго.- Піўз

развярнуўся ў паветры і ўсміхнуўся Дамблдору між уласных ног.- Вох і люты характар ў гэтага Сірыюса Блэка.

## — РАЗДЗЕЛ IX —

## *Няўмольная параза*

Прафесар Дамблдор павеў грыфіндорцаў назад у Вялікую залу, дзе хвілін праз дзесяць да іх далучыліся вучні з астатніх дамоў Хафлпафа, Рэйвенкло і Слізэрына, якія выглядалі моцна разгубленымі.

- Мне і іншым настаўнікам неабходна, дбайна аглядзець ўвесь замак,- распавёў Дамблдор вучням, калі прафесары МакГонагал і Флітвік зачынялі ўсе дзверы ў Галоўную Залу.- Баюся, што для вашай уласнай бяспекі вам прыйдзецца правесці гэтую ноч тут. Пакідаю ля кожнай з дзвярэй прэфектаў, а за агульную бяспеку будуць адказваць школьныя старасты. Аб любым здарэнні дакладаць мне неадкладна,- дадаў ён Персі, які зухавата і ганарліва крочыў між вучняў,- дашлеш мне паведамленне праз кагось з прывідаў.

Прафесар Дамблдор спыніўся і ўжо збіраўся пакінуць Залу, але нешта прыпомніў:

- Ага, вам будзе сёе тое трэба...

Ён абыякава ўзмахнуў сваёй палачкай і шыкоўныя доўгія сталы адляцелі ў баках і ўсталі ўздоўж сцен; яшчэ адзін мах і падлога макрылася сотнямі мягкіх фіялетавых спальнікаў.

- Дабранач,- прамовіў прафесар і зачыніў за сабой дзверы.

Зала адразу ж ўсхвалявана загудзела, а грыфіндорцы пачалі распавядаць астатнім вучням што здарылася.

- Усім заняць свае спальнікі!- крыкнуў Персі.- Скончваем размовы! Праз дзесяць хвілін, адбой!

- Хадзем,- прамовіў Рон Гары і Герміёне. Яны схапілі тры спальнікі і пацягнулі іх ў кут.

- Вы мяркуеце, Блэк яшчэ ў замку?- занепакоена прашапатала Герміёна.

- Відавочна, Дамблдор лічыць што так,- адказаў Рон.

- Як добра, што ён прабраўся сюды менавіта сёння,- прамовіла Герміёна, калі яны цалкам апранутыя забраліся ў свае спальнікі і прыпадняліся на лакцях, каб працягнуць размову,- у адзіную ноч, калі нас не было ў Вежы...

- Магчыма, ён страціў адчуванне часу, калі знаходзіўся ў бягах,- меркаваў Рон,- і забыўся што сёння Хэлоўін. Інакш бы ён уварваўся сюды.

Герміёна ўздрыганулася.

Усіх прысутных цікавіла толькі адно пытанне, якім чынам ён сюды трапіў.

- Мо, ён валодае апарыяваннем,- выказаў здагадку нехта з Рэвенкло ў некалькіх футах ад іх.- Папросту аб’яўляецца з паветра.

- Ён напэўна пераапрануўся,- прамовіў нейкі пяцігодка з Хафлпафа.

- Мо проста прыляцеў,- дадаў Дын Томас.

- Пэўна з усіх прысутных, я адзіная, хто здагадаўся прачытаць Гісторыю Хогвартса?- сказала Герміёна Рону і Гары.

- Ну ня ведаю,- адказаў Рон.- А з чаго ты так вырашыла?

- Таму што замак абараняюць ані толькі муры,- растлумачыла Герміёна.- На яго накладзены шмат разнастайных замоў, каб спыніць таго, хто паспрабуе трапіць сюды

крадком. Ты не зможаш раптоўна апарыяваць сюды. І я б жадала ведаць, якім чынам можна пераапрануцца, каб падмануць гэтых, дэментараў. А ўжо яны ахоўваюць тут кожную нару ў зямлі. І праляцець праз іх не так ўжо проста. Тым больш, што Філч ведае тут ўсі патаемныя хады, каб паставіць ля іх ахову...

- Зараз выключыцца святло!- крыкнуў Персі,- я жадаю каб ўсе схаваліся ў свае спальнікі і супынілі размовы!

Усе свечкі імгненна стухлі і Зала засталася асветленнай толькі прывідамі лунаючымі сюды-туды, ля аб нечым сур'ёзна размаўляючых прэфектаў Дамоў і столяй, якая як і неба звонку была абсыпана яскравымі зоркамі. Перапоўненная Зала працягвала аб нечым шапатаць і Гары здавалася, што ён засынае на вуліцы пры лёгкім ветрыку.

Штогадзіны хтось з настаўнікаў прыходзіў высветліць, ці ўсё добра. Прыблізна а трэццей гадзіне ночы, калі большасць навучэнцаў нарэшце заснула, у Галоўную залу завітаў сам Дамблдор. Гары назіраў, як той падыйшоў да Персі, што блукаў між спальнікамі штохвіліны загадваючы вучням супыніць размову. Ён быў у колькіх кроках ад Гары, Рона і Герміёны, якія хутка прыкінуліся спячымі, калі да Персі наблізіліся крокі дырэктара.

- Знайшлі што-небудзь, прафесар?- спытаўся шэптам хлопец.

- Ані, а ў цябе як?

- Усё пад кантролем, сэр.

- Добра. Думаю ўжо ня мае сэнсу будзіць іх зараз. Я знайшоў часовага апекуна для Грыфіндорскай Вежы. Заўтра з ранку адвядзеш іх туды.

- А Тлустая Пані, сэр?

- Хаваецца ў мапе Эгрылшыра на другім паверсе. Магчыма яна не пусціла Блэка ў Вежу без паролю, таму ён атакаваў. Яна зараз вельмі апанурана, але як толькі супакоіцца, я папрашу містэра Філча адрэстаўраваць яе.

Гары адчуў, як уваходныя дзверы расчыніліся і ў Зале адчуліся нечыя крокі.

- Містэр дырэктар?- адчуўся голас Снэйпа. Гары ляжаў не варушачыся і прыслухоўваўся.- Мы перагарнулі ўвесь трэцці паверх, там яго няма. Філч пераглядзеў усі падзямеллі, таксама ані.

- А як з астранамічнай вежай? Пакоем прафесаркі Трэлані? Савятняй?

- Абшукалі...

- Добра, Северус. Насамрэч я і не чакаў што яго зловяць.

- А у вас маюцца меркаванні наконт таго, як ён сюды трапіў,- спытаўся Снэйп.

Гары крышачку адняў галаву ад рукі, каб чуць абедзвюма вушамі.

- Шмат, Северус. І кожнае наступнае неверагодней за папярэдняе.

Хлопчык на дзелю адчыніў вочы і зірнуў туды, дзе стаялі суразмоўцы; ён ўбачыў спіну Дамблдора, твар Персі і профіль Снэйпа, які выглядаў разлютаваным.

- Ці памятае містэр дырэктар нашу размову... эээ... на пачатку году?- ледзь раскрываючы вусны, быццам жадаючы, каб яго не пачуў Персі, прамовіў Снэйп.

- Так, Северус,- адказаў Дамблдор і ў яго голасе адчуліся ноткі непакою.

- Мне здаецца... практычна немагчымым... каб Блэк трапіў у школу без дапамогі адсюль. Я выказаў сваю заклапочанасць, калі вы прапанавалі...

- Я ня веру, каб гэты чалавек дапамог Блэку трапіць ў замак.- адказаў Дамблдор і зрабіў гэта такім тонам, што адразу было зразумела – тэма закрыта.- А цяпер мне трэба спусціцца да дэментараў. Я абяцаў паведаміць ім, калі наш пошук будзе завершаны.

- А хіба яны не пажадалі вам дапамагчы, сэр?- спытаўся Персі.

- Зразумела ж,- халодна адказаў Дамблдор,- Але, кажу вам, што ані водзін з іх не ступіць у межы замку, пакуль я дырэктар.

Персі выглядаў злёгку збянтэжаным. Дамблдор рушыў з Залы хуткімі і ціхімі крокамі. Прафесар Снэйп пастаяў, крыху незадаволена гледзячы яму ўслед, а потым таксама рушыў вонкі.

Гары зірнуў у бок Рона і Герміёны, іх вочы таксама былі расплюшчаны і адлюстроўвалі зорнуў столю.

- Што вы думаеце на гэты конт?- ледзь раскрываючы рот спытаўся Рон.

*

Наступныя колькі дзён ў школе адзінай тэмай для размоваў быў Сірыюс Блэк. Тэорыі, яго пранікнення ў замак былі адна дзічэй за другую; Ханна Эбат з Хафлпафа распавядала на Зёлазнаўстве, усім жадаючым, што Блэк трапіў у Хогвартс ператтварыўшыся на квітнеючы куст.

Карціну Тлустай пані знялі са сцяны і замянілі на сэра Кэдагана з яго тлустай шэрай лашадкай. Але ніхто ня быў шчаслівы з гэтай нагоды. Палову часу Кэдаган праводзіў запрашаючы вучняў на бойку, а другую ў выдумленні недарэчных складаных пароляў, якія мяняў двойчы на дзень.

- Ён шаленца кусок,- люта выказваўся Шымас Фініган Персі,- ці нельга яго замяніць?

- Нажаль ніхто з карцін не пажадаў гэтым займацца,- адказаў Персі,- напалохаліся здарэння з Тлустай Пані. Сэр Кэдаган, быў адзіным хто меў адвагу і сам вызваўся добраахвотнікам.

Але сэр Кэдаган непакоіў Гары значна менш. Цяпер за ім паўсюль уважліва сачылі. Хтось з настаўнікаў увесь час знаходзіў прычыну, каб прайсці з ім па калідоры, а Персі Візлі бегаў за ім хвастом (хутчэй за ўсё, лічыў Гары, па загадзе сваёй маці), як вельмі ганарысты вартаўнічы сабака. У рэшце рэшт, яго выклікала ў свой кабінэт прафесарка МакГонагал і глядзела на яго з такім змрочным тварам, быццам хтосьці вінен быў памерці.

- Няма сэнсу хаваць гэта ад вас далей, містэр Потэр,- пачала яна вельмі сур’ёзным тонам,- я ведаю, што для вас гэта будзе сапраўдным шокам, але Сірыюс Блэк...

- Я ведаю, што ён палюе на мяне,- стомлена адказаў Гары.- Я выпадкова чуў размову бацькоў Рона. Вы ж ведаеце містэр Візлі працуе ў Міністэрстве Магіі.

Прафесарка МакГонагал здавалася, моцна здзівілася. Яна глядзела на Гары секунду-другую, а потым прамовіла:

- Так, зразумела! Тады вы мяне зразумееце, Потэр, чаму я не думаю, што вашыя вечаровыя трэніроўкі па квідытчу добрая ідэя. Выходзіць на поле, толькі з чальцамі вашай каманды, гэта вельмі небясьпечна, Потэр...

- Але ў суботу ў нас першы матч!- абурана заявіў Гары.- Я павінен трэніравацца, мадам.

Прафесарка МакГонагал пільна паглядзела на яго. Гары добра ведаў, што яна глыбока зацікаўлена ў будучай перамоге грыфіндорскай каманды. І гэта яна ў рэшце рэшт прапанавала яго на пасаду Паляўнічага. Ён чакаў сцішыўшы дыханне.

- Хммм...- прафесарка МакГонагал устала і пачала глядзець ў вакно на квідытчнае поле, добра бачнае праз дождж.- Добра... хто яго ведае. Канечне я б хацела, каб мы нарэшце выйгралі Кубак... але ўсёроўна Потэр... я буду вельмі задаволена, калі на трэніроўках будзе прысуцтваваць хтось з настаўнікаў. Я папрашу мадам Хуч паназіраць за вамі.

*

Па меры набліжэння першага матча, надвор'е ўстойліва пагоршвалася. Пад наглядам мадам Хуч, бесстрашная грыфіндорская каманда трэніравалася больш жорстка чым звычайна. На апошнюю трэніроўку перад суботнім матчам Олівер Вуд прынёс непрыемную навіну.

- Мы не граем са Слізэрынам!- выглядаючы моцна разлютаваным, прамовіў ён.- У мяне быў Флінт. Замест іх будзе Хафлпаф.

- Чаму?- хорам спыталіся астатнія чальцы каманды.

- Флінт сцвярджае, што ў іх Паляўнічага яшчэ не загоілася рука,- адказаў Вуд скрыгацеючы зубамі ад злосці.- Але чаму яны робяць гэта, цалкам відавочна. Не жадаюць гуляць ў гэткае надвор'е. Мяркуюць, што гэта пагоршыць іх шанцы...

На працягу дня лілі моцныя дажджы і дзьмулі моцныя вятры, а падчас гаворкі Олівера, чуліся аддаленыя выбухі грому.

- З рукою Малфоя ўсё балазе!- люта прамовіў Гары.- Ён выбэндываецца!

- Ведаю, але мы ня можам даказаць гэта,- тужліва адказаў Вуд.- Усе нашыя мінулыя трэніроўкі вяліся з разлікам на тое, што мы будзем граць са Слізэрынам, а замест гэтага будзе Хафлпаф з зусім іншым стылем. Да таго ж яны ўзялі новага Паляўнічага і капітана Сэдрыка Дзігары...

Анджэліна, Алісія і Кэці раптоўна загігікалі.

- Што?- пахмурліва адрэагаваў Вуд на іх несур'ёзныя паводзіны.

- Гэта такі прыгожы і высокі?- спыталася Анджэліна.

- Такі магутны і маўклівы,- дадала Кэці і яны зноў пачалі гігікаць.

- Ён маўклівы таму, што настолькі тупы, што не ў стане звязаць і дзвюх слоў,- маментальна сказаў Фрэд.- Ня ведаю чаму ты турбуешся, Олівер.Мы злёку іх параможам. Памятаеш, як вы гулялі з імі ў мінулы раз? Гары злавіў сніч праз пяць хвілінаў, апасля пачатку гульні.

- Мы гралі ў іншых умовах!- крычаў Вуд, злёкку вытарапіўшы вочы.- Дзігары склаў даволі моцную каманду! І ён выдатны Паляўнічы! Мы не павінны расслабляцца! Наадварот, нам трэба засяродзіць сваю ўвагу! Слізэрын спрабуе заспець нас знянацку! Таму мы павінны перамагчы!

- Олівер, супакойся!- выглядаючы злёгку ўстрывожаным прамовіў Фрэд.- Мы сур'ёзна аднясемся да гульні з Хафлпафам. СУР'ЁЗНА.

*

За дзень да гульні вецер дасягнуў свайго максімума, а залева была мацней чым калі-небудзь. У класах і калідорах было настолькі цёмна, што па загадзе Дамблдора запалілі

дадатковыя паходні. Слізэрынская каманда выглядала вельмі задаволенай, а мацней за ўсіх Малфой.

- Ах, калі б мая рука была ў крыху лепшым становішчы!- уздыхаў ён, гледзячы на шторм за вокнамі.

Гары ня ў стане быў думаць не аб чым, акрамя надыходзячага матчу. Олівер лавіў яго ў калідорах і даваў разнастайныя парады. Калі гэта здарылася ў трэцці раз, Вуд размаўляў настолькі доўга, што Гары раптоўна зразумеў, што ўжо хвілін на дзесяць спазняецца на Абарону ад Цёмных Мастацтваў. Ён шпарка пабег па калідоры, а Олівер крычаў яму ўслед:

- Дзігары вельмі хутка адхіляецца, так што, Гары, паспрабуй кружляць вакол яго...

Гары ледзь не праслізнуў міма кабінета па Абароне, ён шпарка адчыніў дзверы і кінуўся ў сярэдзіну.

- Прабачце за спазненне, прафесар Люпін, я...

Але замест Люпіна, за сталом настаўніка сядзеў Снэйп.

- Заняткі пачаліся дзесяць хвілінаў таму, Потэр, таму думаю трэба будзе пазбавіць Грыфіндор дзесяці балаў. Сядай.

Але Гары не рухаўся.

- Дзе прафесар Люпін?- спытаўся ён.

- Ён паведаміў, што адчувае сябе захворым, каб выкладаць сёння.- з крывой усмешкай прамовіў Снэйп.- Я мяркую, што табе трэба сесці.

Але Гары працягваў стаяць.

- Што з ім?

Чорныя вочы Снэйпа люта бліснулі.

- Яго жыццю анічога не пагражае,- зірнуўшы на хлопца так, бы жадаў сцерці яго з зямлёй, прамовіў Снэйп.- Яшчэ пяць балаў з Грыфіндора і калі я яшчэ раз папрашу цябе сесці, пазбаўлю пяцідзесяці балаў.

Гары павольна рушыў да свайго месца. Снэйп азірнуў вучняў.

- Як я ўжо паведамляў вам, пакуль не ўварваўся Потэр, прафесар Люпін не пакінуў аніякіх запісаў наконт тэмаў, якія ён з вамі праходзіў...

- Калі ласка, сэр. Мы ўжо прайшлі богартаў, крывавакалпачнікаў, капаў і грындзілоў,- хутка прамовіла Герміёна,- і павінны былі пачаць...

- Замаўчыце,- халодна сказаў Снэйп.- я не прасіў вас паведамляць аб мінулых тэмах. Я толькі меў на ўвазе, што прафесар Люпін занеарганізаваны.

- Ён лепшы настаўнік па Абароне ад Цёмных Мастацтваў з тых, што ў нас былі,- смела заявіў Дын Томас і астатні клас згаджаючыся загудзеў. Снэйп пазіраў пагрозлівей чым калі-небудзь.

- Вас вельмі лёгка задаволіць. Пэўна Люпін не надта часта пытаецца аб вашых ведах... З майго пункту гледжання вам яшчэ год трэба пачакаць перш чым вывучаць крывавакалпачнікаў і грындзілоў. А тэмай сённяшнега ўроку будуць...

Гары пазіраў за тым, як той перагартаў падручнік да самага апошняга раздзелу, які яны вядома ж не праходзілі.

- ... ваўкалакі,- скончыў Снэйп.

- Але, сэр,- не ў сілах стрымаць сябе, прамовіла Герміёна,- мы павінны былі вывучаць не ваўкалакаў, а блукаючыя агеньчыкі...

- Міс Грэйнджэр,- знішчальна спакойным голасам паведаміў Снэйп,- пакуль што заняткі тут вяду я, а не вы. Я папрашу ўсіх знайсці старонку нумар трыста дзевяноста чатыры.- ён яшчэ раз азірнуў клас.- Усе гатовы! Пачынаем!

З горач'ю кідаючы на яго касыя погляды і мармучучы сабе пад нос, вучні раскрылі падручнікі.

- Хто можа паведаміць, якім чынам можна адрозніць сапраўднага волка ад ваўкалака?- спытаўся прафесар.

Усе маўкліва сядзелі, акрамя Герміёны, чыя рука, як і заўсёды узнялася ў гору.

- Аніхто?- прамовіў Снэйп, цалкам ігнаруючы Герміёну і на яго твар вярнулася крывая ўсмешка.- Гэта кажа мне аб тым, што прафесар Люпін нават не вучыў вас прынцыповай розьніцы паміж імі...

- Мы ўжо казалі вам, што не дайшлі да ваўкалакаў,- раптоўна прамовіла Парваці,- але ж мы...

- МАЎЧАЦЬ!- агрызнуўся Снэйп.- Так, так, так, ніколі не думаў, што сстрэну трэцягодак, якія не ў стане распазнаць ваўкалака. Я абавязкова паведамлю прафесару Дамблдора, як добра вас...

- Сэр, можна мне,- сказала Герміёна, усё яшчэ працягваючы трымаць руку ў паветры.- Ваўкалак адрозніваецца ад сапраўднага воўка колькімі дробнымі дэталямі. Яго пашча...

- Вы ўжо другі раз кажыце без дазволу, міс Грэйнджэр,- халодна прамовіў Снэйп.- З Грыфіндора знята яшчэ пяць балаў з-за нашай невыноснай усяведы.

Герміёна густа счырванела, апусціла руку і ўтаропілася ў падлогу вачыма поўнымі слёз. Гэта вызвала сярод вучняў хвалю моцнай нянавісці да Снэйпа, ня гледзячы на тое, што кожны з іх хаця б аднойчы называў Герміёну падобным чынам. Нават Рон, які называў сяброўку ўсяведай не радзей двух разоў на тыдзень ускрыкнуў:

- Вы задалі пытанне, на якое яна ведае адказ! Навошта пытацца, калі вы не жадаеце, каб вам адказалі?'

Вучні імгненна зразумелі наколькі далёка зайшоў хлопец. Снэйп падняўся і павольна рушыў да Рона. Увесь клас сядзеў ня дыхаючы.

- Пакаранне, Візлі,- лісліва прамовіў Снэйп усутыч прыхіліўшы свой твар да Ронавага.- А калі ты яшчэ дазволіш сабе, крытыкаваць маё выкладанне, сапраўды пашкадуеш.

Ніхто нават не піснуў на працягу ўсяго астатняга часу. Усе моўчкі сядзелі і перапісвалі з падручніка раздзел аб ваўкалаках, а прафесар хадзіў паміж радамі і правяраў тое, што яны вывучалі з Люпіным.

- Вельмі дрэннае вытлумачэнне... да таго ж ня вернае, капы часцей сустракаюцца ў Манголіі... прафесар Люпін паставіў вам дзесяць балаў? Я б за гэта і трох не даў...

Нарэшце празвінеў званок, але Снэйп затрымаў іх.

- Вы павінны будзеце напісаць сачыненне аб метадах распазнавання і забойства ваўкалакаў на два скруткі пергаменту і здаць яго да ранніцы панядзелка. Гэта навучыць вас трымаць сябе ў руках. Візлі застанься, Я вырашу, якім чынам цябе пакараць.

Гары і Герміёна выйшлі з класа аднымі з апошніх, крыху пачакалі пакуль астатнія вучні адыйдуць па-за межы чутнасці і разразіліся на Снэйпа лютай тырадай.

- Снэйп ніколі не дазваляў сабе падобных выказванняў аб іншых настаўніках Абароны ад Цёмных Мастацтваў, ня гледзячы на тое, што вельмі жадае атрымаць гэтую пасаду,- сказаў Гары Герміёне.- Чаму ён так уз’еўся на Люпіна? Лічыш з-за таго богарта?

- Я ня ведаю,- маркотна адказала Герміёна,- але жадаю, каб Люпін хутчэй паправіўся...

Праз пяць хвілін іх дагнаў моцна разлютаваны Рон.

- Ведаеце, што гэты...- Рон назваў прафесара такім словам, што Герміёна пагрозліва перапыніла яго,- што ён загадаў мне зрабіць? Я павінен вычысціць усе вуткі ў шпітальным крыле, не карыстаючыся магіяй!- ён глыбока ўздыхнуў і сціснуў кулакі.- Чаму Блэк не схаваўся ў яго кабінеце? Мог бы забіць яго дзеля нас!

*

Наступнай раніцай Гары прачнуўся настолькі рана, што была яшчэ цёмна. Першы час ён лічыў, што яго разбудзіла равенне ветра за вакном, але тут адчуў халодны ветрык на патыліцы і выпрастаўся на ложку... над ім плаваў полтэргейст Піўз і настойліва дзьмуў яму ў вуха.

- Навошта ты гэта зрабіў?- раззлавана спытаўся Гары.

Піўз надзьмуў шчокі і працягваў настойліва дзьмуць павялічваючы моц, а потым развярнуўся і рагочушы адляцеў прэч.

Гары адшукаў свой будзільнік і паглядзеў на яго. Было а палове на пятую. Праклінаючы Піўза, ён павярнуўся на іншы бок і паспрабаваў зноў заснуць, але ў яго гэта не атрымалася. Яму перашкаджалі грукат грымотаў, удары ветра аб замкавыя муры і далёкае рыпенне дрэў у Забароненным лесе. Праз колькі гадзінаў яму прыйдзецца змагаючыся з гэтым надвор’ем гуляць на квідытчным полі. У рэшце рэшт Гары адмовіўся ад далейшых спробаў зануць, апрануўся, ўзяў свой Німбус 2000 і ціхінька выйшаў з пакою.

Як толькі Гары адчыніў дзверы, нешта злёгку кранууўшыся яго нагі праслізнула ў пакой. Ён хутка развярвярнуўся і зрабіў гэта свайчасова, паколькі паспеў схапіць Крукшанса за яго пухнаты хвост і выкінуць назад у гасцёўню.

- Ведаеш, я мяркую Рон меў рацыю адносна цябе.- падазрона прамовіў Гары кату.- Тут хапае мышэй звонку, ідзі і лаві іх, уперад.- дадаў ён і штурхнуў Крукшанса нагою ўніз па вінтавой лесвіцы.- Пакінь Скаберса ў супакоі.

У гасцёўне шум буры чуўся яшчэ мацней. Гары дакладна ведаў што матч адбудзецца, бо па такіх дробезях як навальніца з грымотамі матчы па квідытчу не адмянялі. Да таго ж ён пачаў адчуваць сябе вельмі засцярожаным. Нейк Вуд паказаў яму Сэдрыка Дзігары ў калідоры, той быў пяцігодкам і значна вялічэзней за Гары. Звычайна Паляўнічыя лёгкія і хуткія, але ў падобнае надвор’е Дзігары меў несумненную перавагу, таму што ў яго было менш шанцаў згубіць курс.

Гары правёў астатні час да світання седзячы ў крэсле ля коміна, адчасу падымаючыся, каб спыніць Крукшанса, які зноўку краўся па лесвіцы да пакою хлопцаў. Нарэшце Гары вырашыў што самы час спусціцца да сняданку, так што ён у адзіноце прайшоў праз адтуліну за партрэтам.

- Супыніся і абараняйся, брудны сабака!- ускрыкнуў сэр Кэдаган.

- Вой, змоўкні,- пазіхнуў Гары.

Ён падсілкаваўся вялізнаю талеркаю аўсянкі і калі прыняўся за тост за сталом аб’явіліся іншыя чальцы каманды.

- Гульня абяцае быць цяжкою,- прамовіў Вуд, які нічога ня еў.

- Кідай турбавацца, Олівер,- занепакоена сказала Алісія,- мы нічога ня маем супраць невялічкага дожджыка.

Але дождж быў зусім не невялічкі. Толькі папулярнасцью гульні, тлумачылася тое, што уся школа з’явілася глядзець матч. Людзі беглі да квідытчнага полю супыніўшы галовы, ад лютага ветру, які вырываў парасоны з іх рук. Перш чым зайсці ў распранальню, Гары ўбачыў на трыбуне Малфоя, Крэйба і Гойла, якія сядзелі разам пад вялізным парасонам і казалі на яго пальцам.

Каманда пераапранулася ў сваю пунцовую форму і стала чакаць традыцыйнай падбадзёрваючай дух гаворкі Вуда, але ў таго анічога не атрымалася. Ён колькі раз папытаўся пачаць размову, але толькі выдаваў дзіўныя глытаючыя гукі. Нарэшце ён безнадзейна пахістаў сваёй галавой і паклікаў іх рушыць за сабою на поле.

Вецер быў настолькі моцным, што па полі яны ішлі хістаючыся, а радасныя воклічы натоўпу, не было чуваць з-за выбухаў грымотаў. Дождж моцна заліў акуляры Гары і яму было не зразумела, якім чынам у яго атрымаецца ўбачыць Сніч.

З супрацлеглага боку на поле выйла каманда Хафлпафу апранутая ў канарэечна-жоўтую вопрадку. У цэнтр поля выйшлі капітаны і паціснулі адно аднаму рукі. Дзігары ўсміхнуўся Вуду, але ў таго быццам бы звяло сківіцы і ён абмежаваўся простым паклонам. Гары па рухам вуснаў зразумеў, што мадам Хуч загадала гульцам сядаць на мётлы, таму з лясканнем выцягнуў правую нагу з бруду і перакінуў яе праз свой Німбус 2000. Суддзя паклала свісток у свае вусны і парыў ветру данёс да Гары пранізлівы і далёкі свіст – гульня пачалася.

Хлопчык хутка ўзляцеў, але яго Німбус хутка губляў напрамак пад моцным ветрам. Таму сабраўшы ўсе сілы ён як мог затрымаў яго на месцы і развярнуўся.

Праз пяць хвілінаў Гары ўшчэнт прамок і змерз. Ён быў ня ў стане бачыць ня тое, каб маленькі Сніч, але нават іншых гульцоў сваёй каманды. Хлопчык лётаў сюды-туды праз поле, гледзячы, як міма яго праносяцца чырвоныя і жоўтыя фігуры, нават не ўяўляючы, што тварыцца ў іншай частцы поля, бо з-за ветру ня чуў каментароў. Гледачы схаваліся пад плашчы і мора прыціснутых адно да аднаго парасонаў. Двойчы, Гары ледзь ня быў скінуты са сваёй мятлы бладжэрам, бо дождж настолькі заліў яго акуляры, што ён ня ведаў адкуль іх чакаць.

Хлопчык страціў лік часу і яму ўсё цяжэй і цяжэй было трымаць сваю мятлу прамкі. Неба пацямнена настолькі, што здавалася, бы ноч вырашыла прыйсці крыху ранней. Двойчы Гары ледзь не сутыкнуўся з іншым гульцом, нават не разумеючы, ці то быў супернік, ці чалец яго каманды, бо ўсе былі настолькі мокрыя, а дождж настолькі шчыльны, што ён ледзь адрозніваў адных ад другіх...

Пасля першага ўсполаху маланкі адчуўся свісток мадам Хуч; Гары заўважыў контуры Олівера Вуда, які паказваў, каб хлопчык ляцеў да зямлі. Праз колькі імгненняў уся каманда плюхнулася назад на бруднае поле.

- Я папрасіў тайм аўту!- раўнуў Вуд сваёй камандзе.- Усе сюды...

Яны згрудзіліся на ўскрайку поля пад вялізным парасонам, Гары зняў свае акуляры і шпарка працёр іх аб сваю мокрую вопрадку.

- Які лік?

- Мы вядзем на пяцьдзесят ачкоў,- адказаў Вуд.- Але калі ты ня зловіш сніч у бліжэйчы час, нам прыйдзецца гуляць ў цемры.

- З гэтым ў мяне цяжкасці,- заўважыў Гары, раздражнённа памахаўшы акулярамі.

Тут з-за Гарынага пляча аб’явілася Герміёна, хаваючая галаву пад плашчом і незразумела чаму ззяючая.

- У мяне ёсць ідэя, Гары!- прамовіла яна.- Дай ка мне свае акуляры, хуценька!

Хлопчык аддаў акуляры Герміёне, астатняя каманда здзіўлена назірала за тым што будзе. Тая кранулася акуляраў сваёй чароўнай палачкай і прамовіла: «Імпэрвюс!»

- Трымай!- прамовіла Герміёна, вяртаючы акуляры Гары.- Цяпер яны будуць адштурхоўваць воду!

Вуд выглядаў так, бы гатоў быў расцалаваць яе.

- Шыкоўна!- хрыпла крыкнуў ён, пасля таго, як Герміёна знікла ў натоўпе.- Добра, Грыфіндор! Наперад!

Замова Герміёны зрабіла сваю справу. Гары па ранейшаму пакутваў ад холаду і вымак так, як ніколі ў жыцці, але ён мог бачыць. Поўны аднаўленнай рашучасці ён вёў сваю мятлу праз турбулентныя патокі, шукаючы вачыма сніч, пазбягаючы бладжэраў і падныраваючы праз Дзігары, які нёсся ў супрацьлеглым кірунку...

Адчуўся новы выбух грому і адразу пасля гэтага зямлю працяла маланка. Далейшая гульня станавілася небяспечнай. Гары вінен быў як мага хутчэй знайсці сніч...

Ён развярнуўся, маючы намер зноўку ляцець ў сярэдзіну поля, калі чарговы сполах маланкі асвятліў трыбуны. І тут хлопчык убачыў нешта, што цалкам авалодала яго ўвагай. На фоне неба быў выразна бачны сілуэт вялізарнага чорнага сабакі, які стаяў на самым верхнім, пустым радку сядзенняў.

Гарыны знямелыя рукі саслізнулі па мятле і яго Німбус адразу снізіўся на колькі футаў. Гары хістнуў галавою, каб прыбраць прамоклы чубок з вачэй і зноўку зірнуў на трыбуны. Сабака знік.

- Гары!- адчуўся пакутлівы крык Вуда ад самога месца Наглядчыка.- Гары, за спіной!

Гары дзіка азірнуўся. Сэдрык Дзігары рэзка рынуўся ўгору, а прамкі паміж ім і Гары, у ступенях дажджу мігцела нешта залатое...

Гары моцна сціснуў ручку мятлы і панічна адштурхнуўшыся ад паветра, кінуўся на сніч.

- Давай!- гыркнуў ён свайму Німбусу, а дождж сек яго па твары.- Хутчэй!

Але раптам пачало адбывацца нешта дзіўнае. Панад усім стадыёне запанавала жудасная цішыня. Нават вецер, якім моцным ня быў, нібыта забыўся равець. Быццам нехта выключыў гук, ці быццам Гары аглох... што здарылася?

А потым ўнутры яго пракацілася жудасна знаёмая хваля холаду, калі ён адчуў як нехта рухаецца ўнізе па полі...

Перш, чым Гары паспеў нешта вырашыць, вочы самі перавяліся са Сніча на тых хто рухаўся ўнізе.

Там стаяла ня менш за сотню дэментараў і іх схаваныя пад пад каптурамі твары глядзелі на яго. Як быццам ільдзяная вада праціяла яго грудзі і рвала вантробы. І ён, як некалі ў цягніку... адчуў нечый крык, крык ў сваёй галаве... крык жанчыны...

«Не, толькі не ён, не Гары, калі ласка не Гары!»

«Прэч дурная дзеўка... адыйдзі, зараз жа...»

«Не Гары, калі ласка, не, забяры мяне, забі мяне, але не...»

Дранцвеючая, бурлюючая смуга напаўняла мозг Гары... Што яму рабіць? Куды ляцець? Ён павінен дапамагчы ёй... альбо яна хутка памрэ... будзе забіта...

Ён пачаў падаць, падаць праз ільдзяную смугу.

«Не Гары, Калі ласка... змілуйся... змілуйся над ім...

Пранізлівы голас смяяўся, жанчына крычала і больш нічога Гары ня змог зразумець.

*

- На шчасце, зямля была мягкая.

- Я нават вырашыў, што ён памёр.

- Але ў яго нават акуляры не зламаліся.

Гары чуў шэпт галасоў, але іх размова ня мела для яго сэнсу. Ён ня меў анінайменшага разумення дзе знаходзіцца, як сюды трапіў і што рабіў да таго як сюды трапіць. Ён ведаў толькі тое, што кожная цаля яго цела моцна балела, як быццам ён быў жорстка пабіты.

- Гэта было самае жудаснае, што я бачыў у сваім жыцці.

Жах... жахлівыя фігуры... постаці ў чорных каптурах... крык...

Гары рэзка расплюшчыл вочы. Ён ляжаў у шпітальным крыле. Вакол яго згрудзілася ўся грыфіндорская каманда з галавы да ног запэцканая брудам. Тутай жа сядзелі Рон з Герміёнай, выглядаючыя так, быццам толькі што вылезлі з басейна.

- Гары!- спытаўся Фрэд, нават праз слой бруду было бачна, як збляднеў яго твар.- Як ты сябе адчуваеш?

Быццам яго памяць пачала перамотвацца назад. Усполах маланкі... Грым... сніч... дэментары...

- Што здарылася?- спытаўся ён, падняўшыся настолькі нечакана, што ўсе спужаліся.

- Ты ўпаў,- адказаў Фрэд.- Магчыма... недзе... з пяцідзесяці футаў.

- Мы вырашылі, што ты памёр?- прамовіла Алісія, якую ўсю калаціла.

Герміёна выдала ціхі рыпучы гук. Яе вочы былі мочна счырванелымі.

- А што з матчам,- спытаўся Гары,- як справы? Перагульване будзе?

Ніхто не адказаў. Жудасная праўда апусцілася на грудзі хлопца, нібы камень.

- Няўжо мы... прайгралі?

- Дзігары злавіў сніч,- адказаў Джордж.- Але ён зрабіў гэта пасля таго, як ты зваліўся на зямлю. Ён нават не зразумеў, што здарылася. А калі злавіў сніч і ўбачыў цябе на зямлі паспрабаваў адмяніць рэзультат. Патрабаваў перагульвання. Але яны выйгралі сумленна і справядліва... нават Вуд гэта прызнаў.

- А дзе Олівер?- спытаўся Гары, раптоўна ўсядоміўшы што яго няма сярод прысутных.

- Яшчэ ў душы,- адказаў Фрэд.- Мы вырашылі, што ён спабуе ўтапіцца.

Гары паклаў свой твар на калені, схапіўшыся рукамі за валасы. Фрэд схапіў яго за плячо і груба патрос.

- Ды ладна табе, Гары, ты ж аніколі раней не ўпускаў сніч.

- Трэба ж хоць раз на жыццё, не зрабіць гэтага,- дадаў Джордж.

- Яшчэ ня ўсё скончана, мы адстаем толькі на сто ачкоў, ці не так?- сказаў Фрэд.- Калі Хафлпаф прайграе Рэйвенкло, а мы паб’ем Рэйвенкло са Слізэрынам...

- Хафлпафу трэба толькі прайграць з розніцай ў дзвесці ачкоў,- працягнуў Джордж.

- А што будзе, калі яны паб’юць Рэйвенкло...

- Рэйвенкло занадта моцныя, іх цяшка абыграць. А вось, калі Хафлпафу прайграе Слізэрын...

- Усё залежыць ад балаў... сотня сюды, сотня туды...

Гары ляжаў не кажучы ані слова. Яны прайгралі... упершыню на яго памяці яны прайгралі ў матчы.

Хвілін праз дзясяць, ці каля таго ў пакой ўвайшла мадам Помфры і загадала камандзе, пакінуць Гары ў спакоі.

- Мы прыйдзем да цябе яшчэ раз, пазней,- сказаў яму Фрэд.- У любым выпадку, ты лепшы Паляўніцы з тых, каго мы калісь мелі, Гары.

Каманда строем выйшла з пакою, пакідаючы за сабою брудныя сляды. Мадам Помфры зачыніла за імі дзверы, асуджальна гледзячы ім ўслед. Ля яго ложку засталіся толькі Рон з Герміёнай.

- Дамблдор моцна раззлаваўся,- прамовіла Герміёна з дрожжу ў голасе,- я ніколі раней ня бачыла яго такім. Калі ты пачаў падаць ён шпарка выбег на поле, узмахнуў палачкай і ты быццам запаволіўся, перш чым зваліцца на зямлю. Потым ён развярнуўся да дэментараў. Прафесар ўзмахнуў сваёй палачкай і з яе выляцела нешта срэбранае. Яны адразу ж зніклі з поля... Ён быў ўшчэнт на іх злютаваны, мы чулі як ён...

- Ён начараваў табе насілкі,- сказаў Рон,- і увесь час ішоў ля іх да самой школы. Мы ўсе вырашылі што ты...

Яго голас аслабеў, але Гары гэтага амаль не заўважыў. Ён разважаў аб тым, што дэментары рабілі з ім... пра голас, што крычаў. Ён падняў галаву і ўбачыў усхвалявана гледзячых на яго Рона з Герміёнай. Таму ён вырашыў змяніць тэму, на нешта больш празаічнае.

- А ў каго зараз мой Німбус?

Рон і Герміёна раптоўна зірнулі адно на аднаго.

- Ну...

- Што здарылася?- спытаўся Гары па чарзе гледзячы то на Рона, то на Герміёну.

- Ну... калі ты зваліўся на зямлю, яго адняло ветрам,- не рашуча прамовіла дзяўчо.

- І?

- І ён... ён трапіў, Гары, ён трапіў да Лупцуючай Вярбы.

У Гарыным нутры ўсё перакруцілася. Лупцуючая Вярба была вельмі магутным дрэвам, што стаяла ў самай сярэдзіне фальварку.

- І?- спытаўся ён, загадзя пужаючыся адказу.

- Ну, ты ж ведаеш Лупцуючую Вярбу,- прамовіў Рон,- і як ёй не падабаецца, калі нешта б’ецца аб яе.

- Прафесар Флітвік прынёс яе назад, як раз перад тым, як ты прыйшоў у сябе,- ціха прамовіла Герміёна.

Яна павольна сунула руку ў торбу, што стаяла ля яе ног, пашукала ў ёй і выцягнула адтуль тузін драўляных трэскаў і пруткоў, якія паклала на Гарын ложык. Гэта ўсё, што засталося ад яго вернай, але ўшчэнт разбітай мятлы.

## *Мапа Паскуднікаў*

Мадам Помфры настаяла на тым, каб Гары праляжаў у шпітальным крыле да канца тыдня. Ён не спрачаўся з ёй і не скардзілся, адзінае, што хлопчык не дазволіў ёй зрабіць – выкінуць рэшткі яго Німбуса 2000. Канечне Гары разумеў, што гэта поўная дурота, але нічога не мог з сабой зрабіць і Німбус немагчыма адрэмантаваць; хлопчыку папросту здавалася, што ён назаўжды згубіў аднаго са сваіх найлепшых сяброў.

Каб падбадзёрыць яго, да Гары ракою шлі новыя і новыя візітоўшчыкі. Хагрыд прывалок яму ахапку кветак-скуракрылак, а Джыні Візлі, страшэнна чырванеючы, падаравала яму паштовую картку з пажаданнем акрыяння, якая настолькі пранізліва нешта спявала, што хлопчык быў вымушаны пастаянна трымаць яе пад місай з садавінаю. У нядзелю раніцай да яго другі раз завітала грыфіндорская квідытчная каманда, на гэты раз на чале з капітанам. Вуд, пустым, змярцвелым голасам супакоіў Гары, што вінаваціць яго за пройгрыш у апошнюю чаргу. Рон з Герміёнаю сядзелі ля яго ложку да самой ночы. Але аніўкога з іх не атрымлівалася словам ці ўчынкам прымусіць Гары адчуваць сябе лепш, бо аніхто акрамя яго ня ведаў і папловы таго што турбавала хлопца.

Ён нічога не паведаміў ім аб Грыме, бо ведаў што Рон пачне панікаваць, а Герміёна смехі правіць. Але было відавочна, Грым аб’яўляўся ўжо другі раз і ў абодвух выпадках, Гары ледзь не сканаў: у першы раз, амаль што трапіў пад Начны Омнібус, а ў другі зваліўся са сваёй мятлы з пяцідзесяціфутавай вышыні. Няўжо ён збіраецца пераследваць Гары, пакуль той насамрэч не памрэ? Няўжо яму прыйдзецца ўсё астатняе жыццё глядзець праз плячо, ці не наблізіцца гэты звер?

А дэментары. Гары адразу ж пачынаў сябе хворым і зняслаўленным, штораз, калі нават думаў аб іх. Усе іх вельмі жахаліся, але ніхто не губляў пры іх з’яўленні прытомнасці і... ня чуў у галаве галасы сваіх паміраючых бацькоў.

Так, цяпер ён дакладна ведаў каму належыў гэты голас. І што раз, калі ён ляжаў бяз сну ў сваім ложку ў шпітальным крыле і назіраў за палоскамі месяцовага святла на столі, ён зноў і зноў чуў яе словы. Калі дэментары наблізіліся да яго, ён пачуў тое, што тварылася ў апошнія хвіліны жыцця яго маці, яе спробы абараніць сына ад Лорда Вальдэморта і вальдэмортаў смех перад тым, як ён забіў Лілі Потэр... Гары драмаў ўрыўкамі, бо кожны раз калі ён паглыбляўся сон, яго пераследвалі халодныя ліпкія рукі працягнутыя ў яго бок і быццам застылыя ў маленні, а калі ён з жахам прачынаўся толькі праз некаторый час ён пераставаў чуць матчын голас.

*

Вяртанне ў панядзелак да шуму і мітусні школьнага жыцця, сапраўды дапамагло Гары, бо яму прыйшлося думаць аб іншых рэчах, нават, калі пры сустрэчы прыходзілася цярпець дражненні Малфоя. Той ледзь не з’ехаў з глузду ад радасці пры паразе Грыфіндору. Ён нарэшце пазбавіўся ад сваёй падвязкі і, святкуючы разам з астатнімі пры дапамозе абедзвюх рук імітаваў падзенне Гары з мятлы. Большую частку сумеснага занятку па Зеллеварстве Малфой імітаваў дэметнараў, а калі Рон не вытрымаўшы

шпульнуў у яго склізкім кракадзілавым сэрцам, трапіўшы Драко ў твар, той гучна запатрабаваў у Снэйпа зняць з Грыфіндора пяцьдзесят балаў.

- Калі і ў гэты раз Абарону ад Цёмных Мастацтваў будзе весці Снэйп, я прыкінуся хворым, прамовіў Рон, калі пасля абеду яны ўтраіх ішлі да кабінэту прафесара Люпіна.- Герміёна, правер, хто там.

Дзяўчынка зірнула ў клас праз дзверы.

- Усё добра.

Прафесар Люпін вярнуўся да працы. Ён выглядаў моцна хворым, яго старая вопрадка вісела на ім больш свабодна, а пад вачыма былі цёмныя колы. Тым ня менш, ён шчыра усміхнуўся, калі вучні нарэшце занялі свае месцы і адразу раздаўся выбух скаргаў на паводзіны Снэйпа падчас хваробы Люпіна.

- Гэта несправядліва, ён толькі замяшчаў вас, навошта ён паназадаваў нам хатняй работы?

- Мы нічога ня ведаем аб ваўкалаках...

- ... даў нам сачыненне на два скруткі пергаменту!

- Вы казалі яму, што мы іх пакуль не праходзілі?- крыху хмурачыся, спытаўся Люпін.

Гуд распачаўся ізноў.

- Так, а ён сказаў, што мы ані на што не здольныя...

-... ён нават не хацеў слухаць...

-... два скруткі пергаменту!

Прафесар Люпін усміхнуўся, гледзячы на абурэнне на тварах вучняў.

- Добра, не хвалюйцеся. Я пагаманю з прафесарам Снэйпам. І сачыненне не патрэбна.

- А, божачкі, не,- ледзь не плачучы, прамовіла Герміёна.- А я яго ужо скончыла!

Урок быў вельмі прыемным. Прафесар Люпін прынёс з сабою шкляначку у якой месціўся блукаючы агенчык. Гэта была невялічкая аднаногая істота, якая здавалася была зроблена з невялічкіх струменчыкаў дыму і выглядала вельмі далікатнай і бяскрыўднай.

- Ён прываблівае спадарожнікаў ў багну,- распавядаў прафесар, канспектуючым вучням.- вы бачыце ў яго руцэ нешта накшталт ліхтара? Ён скочыць па балотах трымаючы яго запаленым... людзі рушаць на святло... і тады...

Блукаючы агенчык выдаў са сваёй шклянцы жахлівы сёрбаючы гук.

Калі празвінеў званок, усе склалі свае рэчы і накіраваліся да выхаду, гэта ж зрабіў і Гары, але...

- Адну хвілінку, Гары,- паклікаў Люпін.- Мне трэба перакінуцца з табой парай слоў.

Гары вярнуўся ў кабінет і пачаў назіраць як прафесар закрываў тканінай шклянку з агенчыкам.

- Я чуў пра матч,- сказаў Люпін, збіраючы кнігі ў свой стары партфель,- і вельмі шкадую аб тваёй мятле. Ёсць якісь шанец яе адрэмантаваць?

- Ані,- адказаў Гары,- Вярба разкалаціла яе ўшчэнт.

Люпін уздыхнуў.

- Лупчуючую Вярбу пасадзілі ў тым жа годзе, у якім я паступіў у Хогвартс. Дзеці выдумалі гульню, па ўмовах якой, трэба было падбегчы як мага бліжэй і дакрануцца да ствала. У рэшце рэшт, хлопчык якога клікалі Дэйві Гаджэн ледзь не залішыўся аднаго вока і нам забаранілі набліжацца да яе. Так што ў мятлы небыло аніякага шанца.

- Пра дэментараў вы таксама чулі?- з цяжкасцю вымавіў Гары.

Люпін хутка зірнуў на яго.

- Так, зразумела. І мяркую мала хто не заўважыў як раззлаваўся прафесар Дамблдор. Занепакоенасць дэментараў расце... яны лютуюць з-за таго, што ім забаронен уваход на тэрыторыю школы... Часам не з-за ніх ты трапіў у аварыю?

- Так.- адказаў Гары і перш чым ён паспеў спыніць сябе ў хлопчыка вырвалася.- Але чаму? Чаму толькі на мяне яны гэдак ўплываюць? Чаму я...?

- Гэта ня мае нічога агульнага са слабасцю.- перарваў яго прафесар Люпін, быццам прачытаўшы яго думкі.- Дэментары маюць на цябе большы ўплыў таму, што ты ў сваім жыцці перажыў тое, чаго не здаралася з іншымі вучнямі – сапраўдны Жах.

Праменчык зімовага сонца ўварваўся у кабінет Люпіна, асвятліўшы яго сівые валасы і зрабіўшы палоскі на яго маладым твары.

- Дэментары – адны з самых гнюсных істот, якія толькі ходзяць па зямлі. Яны жывуць у цёмных і брудных месцах, яны шануюць толькі занядбанне і адчай. Дэментары спустошваюць супакой, надзею і шчасце вакол сябе. Нават маглы, якія ня ў стане іх бачыць, адчуваюць прысутнасць гэтых істот. Калі ты апынешся паблізу ад дэментара, ён высмактае з цябе ўсе добрыя пачуцці, усе шчаслівыя ўспаміны. Калі ў яго будзе магчымасць сілкавацца тваімі пачуццямі дастаткова доўга, ён ператварыць цябе на нешта падобнае самому сябе – бяздушную і злую істоту. Унутры цябе застануцца толькі пустата і самыя найгоршыя ўспаміны. Таго, што здарылася з табой ў маленстве дастаткова, каб каго заўгодна скінуць з мятлы. Так што цябе няма чаго сароміцца.

- Калі яны побач са мною...- прамовіў Гары, утаропіўшыся ў прафесарскі стол, у яго перахапіла горла,- я чую, як Вальдэморт забівае маю маці.

Люпін зрабіў рукою жэст, як быццам пажадаў схапіць хлопчыка за плячо, але перадумаў. Некаторы час ў пакоі панавала цішыня, але яе скасаваў Гары...

- Чаму яны аб’явіліся на матчы?- пакутліва спытаўся Гары.

- Яны вельмі згаладаліся,- халодна адказаў Люпін зачыняючы свой партфель.- Дамблдор не дае ім ўваходзіць ў школу і іх запасы чалавечых эмоцыяў вычарпаліся... Думаю, яны не выстаялі перад такой спакусай, як матч па квідытчу. Усе гэтыя хваляванні... эмоцыі... для іх гэта найфантастычнае свята.

- Азкабан, пэўна найжахлівейшае месца,- прамармытаў Гары. Люпін змрочна кіўнуў у адказ.

- Крэпасць знаходзіцца на маленькай выспе, з усіх бакоў аточанай вадою. Але насамрэч яна ня мае патрэбы ані ў сценах, ані ў вадзе, бо зняволеныя знаходзяцца ў пастцы, якая месціцца ў іх ўласнай галаве, ня здольныя ані на адну шчаслівую думку. Большасць іх вар’яцее праз колькі тыдняў.

- Але у Сірыюса Блэка гэта атрымалася,- павольна прамовіў Гары.- Ён збег адтуль...

Партфель Люпіна выслізнуў з яго рук і ён быў вымушаны нахіліца, каб падхапіць яго.

- Так,- адказаў ён, выпрастоўваючыся.- магчыма ён знайшоў нейкі спосаб змагацца з імі. Бо з майго пункту гледжання гэта наўрадці магчыма... Лічыцца, што дэментары высмактоўваюць з чараўніка, усю яго моц, калі той застаецца з імі працяглы час...

- Але ж вы нейяк прымусілі дэментара адступіць, там ў цягніку,- раптам прамовіў Гары.

- Існуюць сякія-такія метады абароны,- сказаў Люпін.- Але ў цягніку быў адзін дэментар. Калі іх больш змагацца нашмат цяжэй.

- А што за метад?- імгненна спытаўся Гары.- Ці вы не навучыце мяне яму?

- Ну, Гары не такі ўжо я і майстар у змаганні з дэментарамі... хутчэй наадварот...

- Але я павінен мець магчымасць змагацца з імі, калі яны аб'явяцца на чарговым матчы...

- Ну...- Люпін зірнуў на рашучы твар Гары і крыху павагаўшыся прамовіў,- добра. Я паспрабую табе дапамагчы. Але баюсь, што прыйдзецца пачакаць да наступнага семестра. Я павінен зрабіць столькі ўсяго пакуль не пачнуцца вакацыі. Я абраў самы незручны час, каб захварэць.

*

Чакаючы абяцаных антыдэменторскіх урокаў ад прафесара Люпіна, Гары спадзяваўся ніколі больш ня чуць перадсмяротных енкаў сваёй маці, а разгром Хафлпафа камандай Рэйвенкло напрыканцы лістапада канчаткова палепшыў яго настрой. Грыфіндор атрымаў шанец выйграць, але ж цяпер яны не маглі прайграць аніводнага матчу. Да Вуда вярнулася яго маніякальная энэргія і каманда ўпарта працавала, ня гледцячы на халодныя дробныя дажджы, якія захаваліся і ў снежні. Гары ня бачыў на зямле нават намёкаў на дэментараў. Здавалася, гнеў Дамблдора моцна стрымліваў іх на сваіх месцах ля ўваходу.

За два тыдні да канца семестра, неба афарбавалася ў апалава-белы колер, а брудная зямля з ранку пакрылася шацью. У замку ўсё гудзела ў прадчуванні Калядаў. Прафесар Флітвік, настаўнік чараўніцтва нават ўпрыгожыў свой кабінет зіготкімі агенчыкамі, якія насамрэч былі маленечкімі пархаючымі феямі. Навучэнцы радасна абмяркоўвалі свае планы на вакацыі. Рон з Герміёнаю вырашылі застаца ў Хогвартсе. І ня гледзячы на завярэнні Рона аб тым, што ён папросту жадае правесці два тыдні без Персі і паведамленне Герміёны пра то, што ёй неабходна шмат папрацаваць ў бібліятэцы, Гары ведаў, сябры на самой справе вырашылі саставіць яму кампанію і быў вельмі ўдзячны ім за гэта.

Да ўсеагульнага задавальнення аб'явілі, што ў апошнія выходныя перад вакацыямі адбудзеца чарговы паход у Хогсмід, куды адправяцца ўсе, за выключэннем Гары.

- Набудзем нашы калядныя падарункі там!- прапанавала Герміёна.- Мама з татам папросту закахаюцца ў мятную зубную ніць ад Мядовага Герцага!

Змірыўшыся з тым, што яму зноў прыйдзецца, як і заўжды бавіць час аднаму, Гары запазычыў у Вуда каталог «Мётлы на Любы густ» і вырашыў правесці гэты дзень у прагляданні разнастайных марак. Цяпер ён трэніяваўся на старажытным Метэоры, але ён быў занадта павольны ды дрыготкі, таму хлопцу дакладна была патрэбна новая мятла.

Суботнім ранкам Гары праводзіў накіраваўшыхся ў Хогсмід і апранутых у плашчы ды шалікі Рона з Герміёнай, да дзвярэй замку, а сам ціхінька вярнуўся па мармуровай лесвіцы ў Грыфіндорскую Вежу. За вакноў пачаў падаць снег, у замку было ціха і спакойна.

- Тссссс – Гары!

Хлопчык развярнуўся на палове дарогі да калідоры на чацьвёртым паверсе і ўбачыў Фрэда з Джорджам, якія выглядалі з-за статуі аднавокай гарбатай вядзьмаркі.

- Што вы тут робіце,- зацікавіўся Гары,- няўжо не збіраецеся ісці ў Хогсмід?

- Мы тут, каб падзяліцца з табою крышачкай святочнага настрою, перш чым ісці туды.- таямніча падміргнуўшы прамовіў Фрэд.- Ходзь сюды...

Ён штурхнуў галавою ў бок пустой класы, ля якой стаяла аднавокая статуя. Гары паследаваў у пакой разам з блізнятамі. Джордж зачыніў дзверы, павярнуўся і пасміхаючыся паглядзеў на Гары.

- Табе перадкалядны падарунак, Гары,- прамовіў ён.

Фрэд рухава выцягнуў нешта з пад сваёй мантыі і паклаў на адным са сталоў. Гэта быў квадратны і вельмі стары скрутак пергаменту на якім небыло анічога напісана. Гары, вырашыў, што гэта чарговы жарт блізнятаў тым ня менш уважліва паглядзеў на скрутак.

- І што мне з ім рабіць?

- Гэта, Гары і ёсць галоўны сакрэт нашага поспеху,- прамовіў Джоррдж, далікатна паляпаўшы скрутак.

- Каб ты ведаў, гэта сапраўдная пакута з ёй развітвацца,- дадаў Фрэд,- але мы ўчора вырашылі, што табе гэта нашмат патрэбней чым нам.

- Тым больш мы ўжо вывучылі яе на памяць,- сказаў Джордж,- і таму перадаем табе ў спадчыну. Тым больш, што мы насамрэч не маем ў ёй патрэбы.

- Але ж тут толькі кавалак старога пергаменту, што мне з ім рабіць?- спытаўся Гары.

- Кавалак пергаменту!- прамовіў Фрэд звузіўшы вочы і скрывіўшы морду, як быццам Гары смяротна абразіў яго.- Растлумач яму, Джордж!’

- Ну... гэта адбылося, калі мы вучыліся ў Хогвартсе толькі першы год, Гары... мы былі юныя, бесклапотныя і беззаганныя...

Гары рохкнуш са смеху. Ён сумняваўся што блізняты увогуле калісь былі беззаганымі.

-... ува ўсялякім выпадку значна беззаганнейшыя чым зараз... і вось мы трапілі ў моцны швах з Філчам.

- Мы кінулі гноебомбу ў калідоры, а яму гэта чамусь не спадабалася...

- Ну ён завёў нас ў свой пакой і пачаў, як заўжды пагражаць што ён...

-... затрымае нас пасля заняткаў...

-... вытрыбушыць нам усе вантробы...

-... а мы не маглі не заўважыць у адной з шафаў скрынку адмаркіяваную, як «Канфіскавана і Асабліва небяспечна»

- Хіба я яе і сам ня бачыў,- усміхнуўшыся заўважыў Гары.

- І што тады зрабіў?- спытаўся Фрэд.- А вось Джордж тады адцягнуў яго ўвагу, кінуўшы другую гноебомбу, а я кутка падняў накрыўку і схапіў... гэта.

- Усё было не настолькі дрэнна, як гучыць,- працягваў Джордж.- І ўвогуле мяркуем, што Філч ўсё роўна не здагадался бы, як яна працуе, аднак ён падазраваў што гэта, інакш бы ён наурацці яе канфіскаваў.

- А вы здагадаліся?

- Вох, так,- ухмыльнуўся Фрэд.- І гэты маленечкі кавалачак прывабнасці навучыў нас большаму, чым усе настаўнікі разам.

- Вы мне галаву дурыце,- сказаў Гары, гледзячы на стары, крыху пакоцаны скрутак.

- Хто, мы?- спытаўся Джордж.

Ён злёгку крануўся пергаменту сваёй палачкай і прамовіў:

«Урачыста прысягаю рабіць выключна брыдоту і анічога больш.»

Ад таго месца да якога кранулася палачка Джорджа, імгненна папаўзлі быццам павуцінне тонкія лініі чарнілаў. Яны краналіся адна да адной, перакрыжоўваліся, распаўзаліся па кутках скрутку; нарэшце ў версе пачалі праступаць фігурныя словы напісаныя зялёнымі чарніламі, якія абвясцілі:

*«Яснавельможныя паны Лунацік, Галахвост, Мягкалап і Рагач*
*Распаўсюднікі прыладаў дзеля магіннага шалапуцтва*
*З гонарам прэзэнтуюць*
*МАПУ ПАСКУДНІКАЎ»*

Гэта была падрабязная мапа Хогвардса, як самога замку, так і фальварку. Але ж самым выдатнам было тое, што па мапе рухаліся чарнільныя кропкі з падпісаныя маленечкімі літаркамі імёнамі. Гары ўражана схіліўся над ёй. Кропка ў верхнім куце паказвала, што Альбус Дамблдор пакінуў свой кабінэт, другая паведамляла аб тым што па другім паверсе гойсала місіс Норыс, котка вартаўніка Філча. А полтэргейст Піўз валэндаўся па трафейным пакоі. А калі Гары прабег сюды-туды вачыма па знаёмых месцах, ён заўважыў штось іншае.

На мапе месцілася колькасць праходаў аб якіх Гары і не здагадваўся і частка з іх вяла...

- Да Хогсміду,- сказаў Фрэд, вядучы па мапе пальцам,- вядуць сем хадоў. Філч ведае аб гэтых чатырох, але мы упэўнены, што вось гэтыя, - ён кранаў мапу ў колькіх месцах,- яму не знаёмы. Аб вось гэтым, за люстэркам на чацвёртым паверсе не думай, мы карысталіся ім мінулай зімой, але зараз ён прасеў і цалкам заблакаваны. Яшчэ над адным пасаджана Лупцуючая Вярба і ня думаю, што ім нехта будзе карыстацца. Аднак ёсць адзін, які вядзе адразу ў склеп Мядовага Герцага і мы праходзілі праз яго шмат разоў. Ён знаходзіцца адразу ж за гэтым пакоем у гарбе статуі аднавокай вядзьмаркі.

- Лунацік, Галахвост, Мягкалап і Рагач,- ўздыхнуў Джордж паляпваючы па загалоўку мапы.- мы перад імі ў неперавержаным доўге.

- Яны найшляхетнейшыя асобы, што нястомна дапамагаюць новымі пакаленням свавольнікаў,- урачыста дадаў Фрэд.

- Добра,- бадзёра прамовіў Джордж,- самае галоўнае не забудзься знішчыць сляды, пасля скарыстання мапай...

-... каб хтось з чужынцаў яе не выявіў,- перасцярог Фрэд.

- Дакраніся да яе шчэ раз і вымаві: «Шалапутства здейснілася!» і яна зноў ператварыцца на чысты скрутак.

- Што ж, юны, Гары,- прамовіў Фрэд, карыкатурна строячы з сябе Персі,- паводзь сябе тут прыстойна!

- Сстрэнемся ў Мядовым Герцагу,- падміргнуў Джордж.

Блізняты ўсміхаючыся выйшлі з пакою, і з задаволенным выглядам рушылі прэч.

Гары зноўку зірнуў на чароўную мапу. Ён ўбачыў як чарнільная кропка місіс Норыс завярнула налева і супынілася, прынюхваючыся да нечага на падлозе.

Калі Філч сапраўды ня ведае аб гэтым праходзе... і калі ня трэба праходзіць праз дэментараў...

Але ня гледзячы на моцнае захапленне ахапіўшые хлопчыка, яму ў галаву прыйшлі перасцерагаючыя словы містэра Візлі:

«Ніколі не давярай таму што мае розум, калі не бачыш дзе знаходзіцца яго мозг.»

Мапа была адной з самых Асабліва небяспечных магічных прыладах і калі б містэр Візлі ведаў пра яе ён пэўна б дадаў... «І прыладамі дзеля магічнага шалапутства»..., але Гары спакушаў сябе тым, што толькі жадае трапіць у Хогсмід, а не скрасці штось, ці напасці на каго-небудзь... да таго ж Фрэд з Джорджам карысталіся ёй шмат год і анічога жудаснага з імі не здарылася...

Гары прасачыў па сакрэтнаму праходу ў Мядовага Герцага пальцам.

Пасля, ён хутка, быццам выконваючы нечый захад выпрастаўся, скруціў мапу і схаваў яе пад сваёй мантыяй і паспяшаў да дзвярэй. Ён прыадчыніў іх, каб упэўніцца, што звонку анікога няма і праслізнуў за статую аднавокай вядзьмаркі.

І што рабіць далей? Ён зноўку выцягнуў мапу і на сваё здзіўленне ўбачыў там новую невялічкую чарнільную кропачку, надпіс ля якой казаў «Гары Потэр». Яго чарнільная копія стаяла менавіта там, дзе знаходзіўся і сам Гары, пасярэдзіне калідора на чацвёртым паверсе. Фігура на мапе рушыла да статуі і выцягнуўшы палачку дакранулася да яе гарба. Хлопчык хутка выцягнуў уласную палачку і зрабіў тое ж самае, але нічога не адбылося. Ён зноўку зірнуў на мапу. На той, побач з чарнільным Гары праступілі драбнюткія літары, якія абвяшчалі «Дысэндзіюм».

- Дысэндзіюм!- прашаптаў хлопчык і зноў дакрануўся да статуі.

Адразу ж ў гарбе адчыніўся праход, дастаткова шырокі, каб праз яго мог прайсці даволі хударлявы чалавек. Гары хутка азірнуўся па баках, сунуў мапу пад мантыю і, праціснуўшы галаву ў праход, кульнуўся наперад.

Ён слізгануў па праходзе адчуваючы спачатку каменны схіл, а потым халодную сырую зямлю. Гары выпрастаўся і азірнуўся. Але вакол была адна толькі цемра. Хлопчык выцягнуў палачку і прашапатаў «Люмос!». На кончыке яго палачкі ўзнікла святло і Гары ўбачыў, што знаходзіцца ў вельмі вузкім і нізкім земляным ходзе. Ён падняў мапу, дакрануўшся да яе сваёй палачкай і прамармытаў: «Шалапутства здейснілася!» і ўсе надпісы на мапе адразу ж зніклі. Хлопчык асцярожна склаў мапу, сунуў яе сабе пад мантыю і адчуваючы, як ад усхвалявання і неспакою б’ецца яго сэрца, рушыў наперад.

Праход віхляў, выкручваўся і больш нагадваў нару вязізарнага труса, чым на штосьці іншае. Гары спяшаўся наперад, штохвіліны спатыкаючыся на няроўнай падлозе, трымаючы палачку перад сабой.

Хлопчык рухаўся так даволі працяглы час, але яго падтрымлівалдзі думкі аб Мядовым Герцагу. Дзесь праз гадзіну праход пачаў расшырацца. Гары паскорыўся, яго твар ўзапрэў, а ногі моцна змерзлі.

Мінула яшчэ дзесяць хвілін калі Гары апынуўся ля падножжа даволі абвятшалай каменнай лесвіцы. Намагаючыся не шумець хлопчык пачаў падымацца. Сто, дзвесці прыступак... ён збіўся з ліку і проста рушыў наперад гледзячы на свае ногі... Раптам ён стукнуўся галавой аб нешта цвёрдае.

Уверсе быў люк. Гары стаяў паціраючы сваю патыліцу і ўважліва прыслухоўваючыся, але ня чуў аніякіх гукаў за ім. Вельмі асцярожна хлопчык прыпадняў люк і зірнуў праз край.

Гэта быў склеп да столі застаўлены ўсемагчымымі куфэрачкамі і скрынкамі. Гары вылез з люку і зачыніў яго, той выдатна зліўся з пыльнай падлогай і было немагчыма заўважыць ці быў ён там. Гары пачаў павольна красціся па драўляных сходах наверх. Цяпер ён выдатна чуў гукі галасоў і званочку над адчыняючыміся і зачыняючыміся дзвярмі.

Вагаючыся, што яму рабіць далей Гары раптоўна пачуў гук адчыняючыхся дзвярэй. Нехта спускаўся ў склеп.

- І захапі яшчэ каробку Мармеладавых смоўжняў, даражэнькі, а то яны амаль што скончыліся,- адчуўся жаночы голас.

Нечыя ногі пачалі спускацца па прыступках. Гары хутка схаваўся за вялізарным стосам скрынак і пачакаў пакуль гаспадар міне яго. Ён чуў, як той рушыў да куфэркаў, што стаялі ля супрацлеглай сцяны. Лепшага шанца ў яго не было...

Хутка і бясшумна хлопчык выскачыў са сваёй схованкі і пабег па сходах, азірнуўшыся назад, ён заўважыў нечую лысіну і зад вытыркаючыеся між стосаў каробак. Гары адчыніў дзверы і праслізнуў праз іх, апынуўшыся за прылаўкам Мядовага Герцага. Ён схіліўся, хутка адбег у бок і выпрастаўся.

Крама была ўшчэнт перапоўнена вучнямі Хогвартса і на Гары ніхто не звяртаў увагі. Хлопчык абмінаў іншых вучняў, азіраючыся навокал. Яго пачаў душыць смех, калі ён паспрабаваў уявіць сабе выраз на свінячым тварам Дадлі, калі б ён змог убачыць дзе цяпер знаходзіўся Гары.

Паўсюль на вочы трапляліся паліцы месціўшыя найсмачнейшыя з ласункаў, якія толькі мажліва ўявіць. Тут былі кавалкі сметанкавай нугі, пераліваючыеся квадраты ружовага какосавага лёду; тлустыя, мядовага колеру ірыскі; сотні відаў ўсемагчымага шакаладу складзенага ў роўныя радочкі; паблізу стаялі вялізная бочкі з цукеркамі ўсіх смакаў ды свісцячымі пчолкамі – шэрбетавымі шарамі, якія прымушаюць вас левітаваць, аб якіх некалі распавядаў Рон. На суседняй сцяне былі размешчаны Прысмакі са Спецэфэктамі: Найлепшая Гумка ад Дробла, бірузовыя бурбалкі ад якой ня лопаліся колькі дзён; дзіўныя, разлятаючыеся на аскепкі мятныя зубныя ніці; маленечкія чорныя перачныя шатанята («Дыхні вагнём на свайго сябра!»); мышарозева («Пачуйце ў сваім роце мітусню і піск!»); жабкі з мятнага крэму («Сапраўдныя скокі ў вашым страўніку!»); далікатныя цукровыя пёры і выбухаючыя ляндрынкі.

Гары праціснуўся ў іншы бок крамы праз натоўп шасцігодак дзе месціўся ласункі «Незвычайных Смакаў». Ля прылаўку стаялі Рон з Герміёнай і разглядалі латок ляндрынак са смакам крыві. Гары ціхенька падкраўся ззаду.

- Бррр, не, Гары напэўна не пажадае гэта есці, тым больш здаецца гэта тавары для упіроў,- прамовіла Герміёна.

- А вось гэта?- спытаўся Рон падсоўваючы пад нос Герміёне слоік Прусачыных Гронак.

- Вызначана, не,- прамовіў Гары.

Рон ледзве на выпусціў слоік з рук.

- ГАРЫ!- узвіскнула Герміёна.- Ты што тут робіш? Як... як ты тут..?

- Вох,- прамовіў Рон у моцным захапленні,- Ты навучыўся апарыяванню!

- Пэўна ж не,- адказаў Гары, а потым сцішыўшы голас, каб не пачуў хтось з шасцігодак распавёў ім аб Мапе Паскуднікаў.

- Цікава чаму Фрэд з Джорджам не перадалі яе МНЕ!- абурана сказаў Рон.- Я ж іх брат.

- Але ж Гары пэўна не збіраецца трымаць яе ў сябе!- выказала смяхотную думку Герміёна.- Ты ж аддаш яе прафесарке МакГонагал?

- Канечне ж, не,- адказаў Гары.

- Ці ты звар'яцела?- вытарапіўшыся на Герміёну, спытаўся Рон.- Аддаваць гэтую карысную рэч?

- Калі б я аддаў яе, мне прыйшося расказаць, адкуль яна ў мяне і тады б Філч даведался б, што Фрэд з Джорджам скралі яе.

- А як жа Сірыюс Блэк?- прашыпела яна.- Што калі ён скарыстаўся адным з праходаў, якія ёсць на мапе. Настаўнікі павінны аб гэтым ведаць!

- У яго гэта наўрацці б атрымалася,- хутка прамовіў Гары.- Глядзі. На мапе ёсць сем сакрэтных праходаў, так? Фрэд з Джорджам сказалі, што аб чатырох Філч ведае. Засталіся тры. Адзін прасеў і ім немагчыма скарыстацца. Яшчэ над адным пасадзілі Лупцуючую Вярбу і выйсці з яго будзе немагчыма. А той якім карыстаўся я... ну... гэта цяжка ўявіць, ён выходзіць у склеп Мядовага Герцага і калі ня ведаць, што ён там ёсць...

Гары завагаўся. А што калі Блэк ведае аб праходзе? Але тут Рон шматзначна кхекнуў і паказаў на аб'яву наклееную на ўнутранным шкле кандытарскай.

*«МІНІСТЭРСТВА МАГІІ ПАВЕДАМЛЯЕ:*

*Даводзім да звесткі пакупнікоў, што кожны вечар пасля заходу сонца вуліцы Хогсміда патрулююцца дэментарамі. Гэтая мера была ўведзена дзеля бяспекі жыхароў і гасцей Хогсміда і будзе скасавана пасля затрымання Сірыюса Блэка. Таму пажадана, каб усе гандлёвыя аперацыі былі завершаны задоўга да заходу сонца.*

*З Божым Нараджэннем!*

- Бачыш?- ціха прамовіў Рон.- Хацеў бы я пабачыць, якім чынам Блэк паспрабуе пранікнуць у Мядовага Герцага праз вёску перапоўненную дэментарамі. Да таго ж, Герміёна, ці чула ты, каб гаспадары Мядовага Герцага скардзіліся на тое, што нехта пытаўся ўламіцца ў краму? А яны жывуць адразу па над ёй!

- Так, але... але...- Герміёна з усіх сілаў пыталася знайсці хоць якую прычыну.- Глядзі, Гары ўсё ткі забаронена знаходзіцца ў Хогсмідзе, бо ён ня мае падпісанага дазволу! І калі хто даведаецца ў яго будзе купа праблемаў! Да таго ж зараз не вечар... і што калі Сірыюс Блэк з'явіцца сёння? Зараз?

- Але ж цяжка яму будзе выявіць тут Гары,- сказаў Рон, ківаючы на густы снег, які падаў за ваконнай рамай.- Годзе, Герміёна, надыходзяць Каляды, Гары гэтага заслугоўвае.

Герміёна сціснула вусны, але працягвала глядзець з турботай.

- Ты мне хочаш нешта сказаць?- усміхнуўшыся спытаўся Гары.

- Вох... ня тое каб... але, шчыра кажучы, Гары...

- Набудзем свісцячых пчол, Гары?- сказаў Рон, схаіўшы яго за рукаў і пацягнуўшы да бочак.- А мармеладавых смоўжняў? Можа кіслотных цукерак? Фрэд неяк даў мне адну такую, калі мне было сем год... і яна пражгла мне дзірку ў языку. Я памятаю, як маці потым лупцавала яго сваёй мятлою.- Рон задумліва глядзеў на пакунак з кіслотнымі

цукеркамі.- Як вы лічыце, ці з'ясі Фрэд крыху прусачыных гронак, калі я скажу яму, што гэта арахіс?

Рон з Герміёнай заплацілі за ўсе свае прысмакі і тройца пакінула Мядовага Герцага і выйшла на завейную вуліцу.

Хогсмід нагадваў калядную картку: маленечкія хаткі і крамкі былі ўкрытыя коўдраю свежага снега, на дзвярах віселі калядныя вяночкі, а між дрэвамі лунала гірлянды зачараваных свечак.

Гары калаціла ад холаду, бо ў адрозненні ад сваіх сяброў ён быў без плашчу. Яны ішлі па вуліцы схіліўшы галовы супраць ветру і Рон з Герміёнай штохвіліны крычалі праз свае шалікі.

- Вось мясцовая пошта...

- А там крама Зонкі...

- Давайце пойдзем да Лямантуючай халупы...

- Маю лепшую прапанову,- стукаючы зубамі прамовіў Рон.- А ці не пайсці нам у Тры Мятлы па вяршковае піва?

Гары быў больш чым згодны – яго рукі змерзлі пад шалёным ветрам, таму яны перайшлі праз дарогу і праз колькі хвілін апынуліся ля невялічкага шынку.

Усярэдзіне было вельмі цесна, шумна, горача і задымлена. За барнай стойкай стаяла пышнацелая жанчына з прыгожым тварам і абслугоўвала купу вядзмакоў.

- Гэта мадам Размерта,- паведаміў Рон.- Пайду набуду напой,- дадаў ён і пайшоў крыху чырванеючы.

Гары з Герміёнай прабраліся на задкі шынку, дзе між акном і елкай, стаялай ля коміна, быў невялічкі свабодны столік. Праз пяць хвілінаў да іх падыйшоў Рон, трымаючы ў руках тры пеністых куфлі гарачага вяршковага піва.

- Шчаслівых Калядаў!- прамовіў ён падымаючы свой куфаль.

Гары зрабіў вялізны глыток. Ён не спрабаваў у сваім жыцці анічога больш смачнага і здавалася, кожная клетачка яго цела напоўнілася цяплынёй.

Ратам лёгкі ветрык узварушыў яго чубок. Дзверы ў Тры Мятлы расчыніліся, Гары паглядзеў праз край свайго куфля і ледзве не захлынуўся.

У шынок, упусціўшы купу сняжынак завіталі прафесары МакГонагал і Флітвік, а за імі ўслед рушыў Хагрыд, пагружаны ў размову з мажным мужчынаю ў лаймава-зялёным кацялку і паласатай мантыі – Карнэліюсам Фаджам, міністрам па магічных справах.

Імгненна рукі Рона і Герміёны апынуліся на Гарынай патыліцы і запхалі яго з крэсла пад стол. Узапрэўшы ад вяршковага піва, хлопчык прыпаў да зямлі, сціснуўшы пусты куфаль у руках. Ён убачыў як ногі Фаджа і настаўнікаў рушылі да бару, супыніліся, а затым накіраваліся за суседні з тройцай столік.

Дзесь па над ім Герміёна прашапатала «Мабілярбус!

Елка паднялася на колькі цаляў над зямлёю, абляцела столік і з мягкім стукам прызямлілася з іншага боку століка, хаваючы сяброў ад чужых вачэй. Гледзячы праз густыя ніжнія галінкі, Гары ўбачыў адсоўваючыеся ножкі чатырох крэслаў ля суседняга століку і пачуў кхеканне і уздыхі прысеўшых міністра і настаўнікаў.

Потым да століку падыйшла яшчэ пара ног абутых у бліскучыя бірузовыя чаравікі з высокімі абцасамі і пачуў жаночы голас.

- Шклянка джылевага напою...

- Мне,- прамовіў голас прафесаркі МакГонагал

- Чатыры пінты гарачага мядку...

- Дзяк, Размерта,- адказаў Хагрыд.

- Газаваная вада з вішнёвым сіропам, льдом і парасонікам...

- Ммм!- прамовіў прыцмокваючы Флітвік.

- Такім чынам парэчкавы ром вам, міністр.

- Дзякуй, Размерта, даражэнькая,- адказаў Фаджаў голас.- Прыемна табе зноўку пабачыць. А хіба сама нічога не жадаеш? Давай, далучайся да нас...

- Вялікі вам дзякуй, міністр.

Гары ўбачыў, як бліскучыя абцасы сыйшлі кудысь, а потым вярнуліся зноўку. Ад напружання да яго горла падкаціўся камяк. Чаму ён забыўся аб тым што ў настаўнікаў таксама апошнія выходныя ў гэтым семестры? І ці доўга яны збіраюцца тут сядзець? Яму быў патрэбен час, каб вярнуцца да Мядовага Герцага, калі ён жадае трапіць ў Хогвартс сённяшнім вечарам... Нага Герміёны нервова стукала аб падлогу побач з Гары.

- І які лёс прынёс вас да нашых глухменяў, міністр?- спытаўся голас мадам Размерты.

Гары ўбачыў, як тоўсты зад міністра павярнуўся сюды туды ў крэсле, бы той правяраў, ці не падслухоўваюць іх. Потым раздаўся яго ціхі голас:

- Што ж яшчэ, акрамя Сірыюса Блэка, даражэнечкая? Мяркую ты чула аб тым што здарылася ў школе на Хэлоўін?

- Нешта да мяне дайшло,- прызналася мадам Размерта.

- Ты распавёў аб гэтым усяму шынку, Хагрыд?- раздражнённа спыталася МакГонагал.

- І ці вы мяркуеце Блэк яшчэ тут паблізу?- шэптам пацікавілася мадам Размерта.

- Упэўнены ў гэтым,- не задумваючыся адказаў Фадж.

- Ці вы ведаеце,- з лёгкім надрывам ў голасе прамовіла мадам Размерта,- дэментары ўжо двойчы рабілі перatрус ў маім шынку? Мае кліенты вельмі спалоханы... а гэта надта дрэна ўплывае на бізнэс, міністр.

- Размерта, даражэнечкая, мне яны не даспадобы нават больш чым вам,- з няёмкасцю ў голасе паведаміў Фадж,- але гэта неабходныя меры засцярогі... шкада, але ж так склаўся лёс... Я толькі што сстракаўся з іх прадстаўнікамі. Яны страшэнна разлютаваны на Дамблдора, бо ён не пушчае іх у межы школы.

- І я з ім цалкам згодна,- рэзка заўважыла прафесарка МакГонагал.- Як нам вучыць дзяцей, калі паблізу слізгаюць гэтыя жахлівыя істоты?

- Слушна!- піскнуў маленечкі прафесар Флітвік, чые ногі боўталіся над падлогай.

- Але ж,- запратэставаў Фадж,- яны тут каб абараніць вас ад чагось нашмат горшага... мы ведаем што Блэк здольны...

- Ведаеце, мне дагэтуль цяжка паверыць,- задуліва прамовіла мадам Размерта.- З усіх хто мог перайсці на Цёмны Бок, Блэк самая неверагодная кандыдатура... У тым сэнсе што, я памятаю Сірыюса, калі ён шчэ вучыўся ў Хогвартсе. Калі б вы тады мне сказалі пра яго штось падобнае, я б вырашыла, што вы выпілі зашмат мядку.

- Вы ня ведаеце нават паловы з яго злачынстваў,- змрочна адказаў Фадж.- Самае горшае, не з’яўляецца агульнавядомым.

- Горшае?- спыталася мадам Размерта з моцным здзіўленнем.- Вы ведаеце нешта горшае за смерць тых нявінных людзей?

- Так, я ведаю.- адказаў Фадж.

- Не магу паверыць. І што ён шчэ зрабіў?

- Вы кажыце, што памятаеце яго яшчэ вучнем, Размерта,- прамармытала прафесарка МакГонагал.- А ці вы памятаеце, хто быў яго найлепшым сябрам?

- Вядома ж,- прамовіла шынкарка з лёгкай ўсмешкай.- Ці бычыў хто калісь аднаго без другога? Колькі разоў я бачыла іх тут... і кожны раз яны вызывалі ўва мне ўсмешку, бы які камічны дуэт - Сірыюс Блэй і Джэймс Потэр!

Гары з гучным стукам упусціў свой куфаль. Рон штурхнуў яго.

- Натуральна,- сказала прафесарка МакГонагал.- Блэк і Потэр. Завадатары іх мінібанды. Абодва вельмі яскравыя, выключна яскравыя асобы і гэта факт... Мяркую што наўрацці знойдзейцца яшчэ такая пара парушальнікаў спакою...

- Ды няўжо ж,- усміхнуўся Хагрыд.- Блізнят' Візлі могуць даць ім перца з імберцам.

- Можна было б вырашыць, што яны былі роднымі братамі,- далучыўся да размовы Флітвік.- Неразлукі!

- Так, цалкам згодзен, былі,- прамовіў Фадж.- Потэр давяраў Блэку больш чым астатнім сябрам, так было ў школе і так было пасля яе заканчэння. Сірыюс быў шаферам на іх з Лілі вяселлі, а пасля таго, як нарадзіўся Гары, яго запрасілі ў якасці хроснага бацькі. Хлопчык вядома ж анічога ня ведае, уявіце сабе, як бы ён пакутаваў з гэтага.

- Таму што Блэк перайшоў на бок Самі-Ведаеце-Каго?- шэптам спыталася шынкарка.

- Яшчэ горш за гэта, даражэнечкая...- Фадж сцішыў свой голас настолькі, што ён больш нагадваў нізкі гуд.- Ня шмат хто ведае аб тым што Потэры здагадваліся аб тым, што Самі-Ведаеце-Хто палюе за імі. Дамблдор, які быў адным з нестомнейшых барацьбітаў з Самі-Ведаеце-Кім, меў шэраг карыснейшых шпіёнаў. Адзін з тых інфарматараў адразу ж папярэдзіў Джэймса з Лілі і параіў ім схавацца. Вядома ж ад Самі-Ведаеце-Каго ня надта лёгка ўкрыцца, тваму Дамблдор прапанаваў ім лепшае, што быў у стане зрабіць – замову Фідэліюс.

- І як яна дзейнічае?- задыхаючыся ад зацікаўленнасці спыталася мадам Размерта. Прафесар Флітвік адкашляўся.

- Гэта надзвычайна складаная замова,- павісківаючы прамовіў ён,- Сутнасць яе ў тым, што сакрэт аб нечым месцазнаходжанні захоўваецца ў душы жывой істоты. І калі гэты чалавек, называны яшчэ Сакрэтным ахоўцам дабрахвотна не выдасць яго, месцазнаходжанне немагчыма будзе выведаць. Калі б сакрэт не быў выдадзены, Лілі з Джэйсам маглі б гадамі жыць у той мясціне і Самі-Ведаеце-Хто ніколі б іх самастойна не знайшоў, нават калі б яны ўвесь час сядзелі прыціснуўшы насы да вокан!

- І Блэк быў Сакрэтным ахоўцам Потэраў?- прашапатала мадам Размерта.

- Натуральна ж,- сказала прафесарка МакГонагал.- Джэймс пераканаў Дамблдора, што Блэк аніколі не выдасць іх, нават пад пагрозай смерці, тым больш што ён сам збіраўся схавацца... але ж Дамблдор працягваў непакоіцца. Я памятаю, як ён прапаноўваў сабе на месца Сакрэтнага ахоўцы Потэраў.

- Ён падазраваў Блэка?- вохнула шынкарка.

- Ён быў ўпэўненны, што нехта надта блізкі да Потэраў паведамляе Самі-Ведаеце-Каму, аб іх рухах,- змрочна прамовіла МакГонагал.- Так, на працягу некаторага часу, ён меў падазрон, аб тым што нехта з нас перайшоў на бок Самі-Ведаеце-Каго і перадае яму шмат якую інфармацыю.

- Але Джэймс Потэр настаяў на ўдзеле Блэка?

- Так,- з цяжкасцю ў голасе адказаў Фадж.- І не прайшло тыдня, як Фідэліюс быў накладзены...

- І Блэк іх выдаў?- ледзь дыхаючы спыталася мадам Размерта.

- На самой справе, так. Блэк магчыма стаміўся ад ролі двайнога агента і планаваў адкрыта паведаміць аб сваёй падтрымцы Самі-Ведаеце-Каго пасля смерці Потэраў. Але як мы ведаем Самі-Ведаеце-Хто пацярпеў паразу ад малога Гары Потэра. Згубіўшы сваю моц і жудасна саслаблены ён збег і Блэк застаўся ў вельмі непрыемным становішчы. Яго гаспадар прайграў у той самы момант, калі той збіраўся паказаць сваё сапраўднае аблічча - аблічча здрадніка. І ўсё што яму заставалася, гэта бегчы за сваім гаспадаром...

- Брудны, смярдзючы здраднік!- раўкнуў Хагрыд так громка, што палова шынку сціхла.

- Шшш!- шыкнула прафесарка МакГонагал.

- Я тады ‘го і пабачыў!- бурчаў Хагрыд.- Гэт’ было’шчэ да таго як ён забіў тых людзей! Тольк’ я выцяг’ Гары з руінаў дому дзе з’білі яго бацькоў. Маленечкага з касым шнарам на ‘лбе - сірату... і тут зверху аб’явіўся Блэк на сваім матацыкле. Мне і ў г’лаву не пры’шло спытаць, што ён тут’ка робіць. І ня ведаў што ён Сакрэтны ‘хоўца Лілі і Джэймса. Думаў ён той давед’ся што іх хата была атакавана Сам’-Веда’це-Кім і пры’мчаўся, каб неч’ дапамагчы. Ён ‘весь зблядлнеў і кал’ціўся. А веда’це што рабіў я? С’ЦЯШАЎ ГЭТАГА ЗАБОЙЦУ І ЗДРАДНІКА!- праравеў Хагрыд.

- Хагрыд, май ласку!- прамовіла прафесарка МакГонагал.- Кажы цішэй!

- Калі я быў там, я не сумняваўся, што ён смуткуе аб Лілі і Джэймсе. А ён ж думаў толькі аб Сам’-Веда’це-Кім! Ён мне кажа: «Дай мне Гары, Хагрыд, я яго хросны і буду клапаціц’ аб ім...» Ха! Але ж я ‘трымаў загад ад Дамблдора, з’несці хлопца да яго цёткі з дзядзькам і адмовіў. Блэк настойваў, але нарэшт’ здаўся і на’т даў свой матацыкл, каб завесці Гары туды. Казаў, што ‘му ён больш ня ‘трэбнен.

- Я ‘вінен быў здагадац’, што тут нешта ня то’. Ён ж гэдак любіў свой матацыкл, а тут аддае, кажа ня ‘трэбны больш. Але, факт, яго была злёгк’ па ім злавіць. Дамблдор ведаў, што ён потэрскі Сакрэтны ‘хоўца. Блэк здагадваў’, што яму трэб’ бегчы менавіт’ ў тую ж ноч, што ‘куль за ім пусцяцяц’ людзі з міністэрства пройдзе кольк’ гадзінаў.

- А што было б, як я ‘ддаў яму Гары? Ён пэўн’ кінуў яго недзь’ на паўдароге праз мора. Сына сва’го лепшага сябра. Але калі чараўнік пера’шоў на Цёмны Бок, дзеля’го ўжо няма ан’чога больш важкага...

Пасля апавядання Хагрыда нейкі час панавала цішыня.

- Але ж,- з некаторым задавальненнем прамовіла шынкарка,- яму не ўдалося сыйсці далёк? Блэка ж на наступны ж дзень затрымалі людзі з міністэрства?

- Нажаль гэта зрабілі не мы,- горка заявіў Фадж.- Не мы знайшлі яго. Гэта быў маленькі Пітэр Пэцігру – яшчэ адзін з сяброў Потэраў. Звар’яцеўшы ад гора, ня сумняваючыся ані ў чым і ведаючы, што менавіта Блэк быў Сакрэтным ахоўцам Джэймса і Лілі, Пэцігру пайшоў па яго следу.

- Пэцігру... гэта той маленечкі тлусты хлопчык, што як той хвосцік бегаў за імі ў Хогвартсе?- спыталася шынкарка.

- Ён абагаўляў Блэка і Потэра,- прамовіла прафесарка МакГонагал.- І ён ніколі не выдзеляўся якімісь талентамі. Я даволі шмат разоў была рэзкай з ім. Ці вы ведаеце як я... як я зараз аб гэтым шкадую.

Прафесарка прамовіла гэта так, бы моцна застудзілася.

- Ну годзе, Міневра,- ласкава сказаў Фадж.- Пэцігру памёр смерцю героя. Відавочцы з ліку маглаў, мы вядома пазней сцерлі іх успаміны, казалі што ён загнаў Блэка ў кут. Пітэр стаяў і енчыў: «Лілі і Джэймс, Сірыюс! Як ты мог!» Ён выцягнуў сваю палачку, але Блэк быў хутчэй. Ён разнес Пэцігру ўшчэнт...

- Неразумны хлапчына...- высмаркаўшыся прамовіла МакГонагал ледзь варухаючымся языком.- Дурны... ён заўсёды цярпеў паразу падчас дуэляў... Трэба было пакінуць гэта міністэрству...

- Шкада, што ‘го знайшоў Пэцігру, а не я...- буркнуў Хагрыд,- кажу вам, я б не важдаўся з палачкамі... я б разарваў яго напалам.

- Ты ня ведаеш аб чым кажаш, Хагрыд,- рэзка перапыніў яго Фадж.- Ніхто акрамя спецназу з Атраду Магічнай Правааховы не ў стане былі зладзіць з Блэкам загнаным у кут. Я ў той час быў малойдшым міністрам у дэпартаменце катастроф і быў адным з першых, хто прыбыў на месца, пасля здарэння. Я... я ніколі не забудуся на гэта. Дагэтуль яшчэ бачу, тое, што там адбылося, у кашмарах. Пасярод вуліцы кратэр, глыбокі, ажно бачна разбітыя трубы каналізацыі. Паўсюль целы. Маглы крычаць. А Блэк стаіць і смяецца над тым, што засталося ад беднага Пэцігру... купка скрываўленнага адзення і колькі... колькі кавалачкаў цела...

Фадж рэзка спыніўся. Было чутна толькі дыханне пяці насоў.

- Што было далей, Размерта,- ледзь разборліва працягваў Фадж,- вы добра ведаеце. Блэк быў схоплены дванаццацю супрацоўнікамі патрулю Магічнай Правааховы, а Пэцігру атрымаў Ордэн Мэрліна першай ступені, гэта было хоць якім суцяшэннем для яго беднай маці. А Блэк быў у Азкабане, да апошняга часу.

Мадам Размерта выдала працяглы ўздых.

- А ці праўда, што ён вар’ят, міністр?

- Хутчэй сказаць быў вар’ятам,- павольна прамовіў Фадж.- Мяркую, што пасля паразы свайго гаспадара ён на некаторы час звар’яцеў. Забойства Пэцігру і маглаў гэткім жорсткім спосабам... было бессэнсоўным... і ажыцявіў яго чалавек у адчаі... загнаны ў кут. Падчас маёй апошняй інспекцыі ў Азкабане я сстрэў яго. Ці вы ведаеце, што большасць са зняволеных сядзяць і мармоча нешта сабе ў цемры... але я быў шакаваны наколькі НАРМАЛЁВЫМ выглядаў Блэк. Ён размаўляў са мной цалкам зразумела. Гэта занепакоіла мяне. Мажліва было б вырашыць, што ён папросту смуткуе... ён спытаў у мяне, ці не дачытаў я сваю газэту, ласкава папрасіў паглядзець, маўляў у яго з’явіліся сія-тыя праблемы ў вырашэнні крыжаванкі. Я быў ўраджанны, наколькі малае ўздзеянне аказваюць на яго дэментары... а ён быў адным з наймацней ахоўваючыхся злачынцаў, каб вы ведалі. Дэментары былі за яго дзвярмі ўдзень і ўночы.

- Але што ён будзе рабіць зараз, пасля ўцёкаў?- спыталася мадам Размерта.- Божачкі, міністр, ці не паспрабуе ён ўваскрасіць Самі-Ведаеце-Каго?

- Мяркую што... эээ... гэта яго канчатковы план,- няўпэўнена адказаў Фадж.- Але я спадзяюся мы зловім яго нашмат ранней. Тым больш, што адна справа паспрабаваць адрадзіць Самі-Ведаеце-Каго ў адзіноце... Аднак, калі да яго вярнуцца самыя яго адданыя слугі, я з дрогатам уяўляю, як хутка Самі-Ведаеце-Хто ўваскрэсне...

Адчуўся ціхі стук шкла па дрэве. Нехта паставіў на стол свой куфаль.

- Ведаеш, Карнэліюс,- прамовіла прафесарка МакГонагал,- калі ты жадаеш паспець на вячэру з дырэктарам, табе лепш паспяшацца назад у замак.

Адна за адной пары ног перад Гарынымі вачыма пакінулі свае месцы, хістнуліся крысы плашчоў і абцасы мадам Размерты зноў схаваліся за барнай стойкай. Дзверы ў Тры Мятлы расчыніліся, пусціўшы ў шынок крышачку завірухі і настаўнікі зніклі.

- Гары?

Твары Рона і Герміёна імгненна апынуліся пад сталом. Яны разам глядзелі на свайго сябра страціўшы мову.

## *Вогненная Страла*

Гары вельмі цмяна памятаў, як дасягнуў склепу Мядовага Герцага, як рушыў па пераходзе і як зноў апынуўся ў Хогвартсе. Яму нават падалося, што зваротны шлях увогуле не заняў у яго часу. Хлопчык нават не заўважаў таго што робіць, бо галава яго была занята толькі адным, думкамі аб падслуханай размове.

Чаму ніхто не казаў яму аб гэтым? Ані Дамблдор, ані Хагрыд, ані містэр Візлі, ані Карнэліюс Фадж... Чаму яны ніколі не казалі аб тым, што яго бацькі загінулі праз здраду лепшага сябра?

Рон з Герміёнаю падчас вячэры нервова пазіралі на Гары, не адважваючыся пачаць размову аб пачутым у Трох Мётлах, бо паблізу ад іх сядзеў Персі. Калі яны дасягнулі Грыфіндорскай гасцёўні, яны знайшлі там Фрэда і Джорджа, якія, святкуючы заканчэнне семестра, падарвалі з паўтузіна гноебомб. Не гледзячы на тое, што блізняты вельмі цікавіліся ці дабраўся ён да Хогсміда, Гары адразу ж рушыў да спальні і кінуўся да сваёй камоды. Ён адштурхнуў у бок падручнікі, шукаючы падараваны два года таму Хагрыдам альбом, поўны фотакартак яго бацькоў. Хлопчык прысеў на ложку і пачаў гартаць старонкі альбому, акуль на адной іх не знайшоў...

Гары глядзеў на картку з бацькоўскага вяселля. З яе хлопцу махаў рукой тата, з непаслухмянымі чорнымі валасамі тапырачыміся ў розныя бакі, гэткімі ж як тыя, што дасталіся ў спадчыну яго сыну. Маці палаючая ад шчасця трымала за руку сваёго бацьку. А... паблізу ад бацькоў... Іх шафер... Як гэта раней не прыйшло ў галаву Гары.

Калі б ён дакладна ня ведаў, ніколі не здагадаўся, што чалавек на старой фатакартке і Блэк адна і тая ж асоба. На здымку ён ня меў васкавой скуры, а твар быў не запалы, а прыгожы і поўны радасці. Ці Блэк ужо працаваў на Вальдэморта падчас фатаграфавання? Ці планаваў ўжо забойства двух людзей, што стаялі побач? Ці рабіў ўжо тое, за што правядзе дванаццаць год у Азкабане? Дванаццаць год, што зменяць яго да непазнавальнасці.

«Шкада, што дэментары не ўплываюць на яго»,- думаў Гары,- «што ён не ў стане пачуць перадсмяротныя енкі маёй маці...»

Гары зачыніў альбом і сунуў яго назад у камоду, потым распрануўся, зняў акуляры і лёг ў ложык, пераканаўшыся, што знайшоў выслізнуўшае з-пад яго ўвагі.

Дзверы пакою адчыніліся.

- Гары?- няўпэўнена паклікаў Рон.

Але Гары ляжаў не варушачыся, быццам спаў. Ён дачакаўся пакуль Рон сыйдзе, развярнуўся на спіну і лёг шырока раскрыўшы вочы.

Нянавісць, якой ніколі ў жыцці ён не адчуваў бяжала праз яго кроў, быццам атрута. Гары бачыў Блэка, які смяяўся над ім, быццам на Гарыны вочы начапілі картку з фотаальбому. Ён бачыў бы ўрывак з нейкага фільму, як Блэк выбухам разносіць Пітэра Пэцігру (які вельмі нагадваў Нэвіла Лонгботама) на тысячу кавалкаў. Ён чуў (хаця ня ведаў сапраўднага голасу Блэка) нізкае мармытанне: «Мой Лорд... гэта здейснілася...

Потэры зрабілі мяне сваім Сакрэтным ахоўцам...» А потым іншы голас, што смяяўся... гэдак жа, як той, які Гары чуў штораз, калі да яго набліжаліся дэментары...

*

- Гары, ты... ты выглядаеш жахліва.

Хлопец заснуў толькі перад самым світанкам. Калі ён расплюшчыў вочы ў пакоі ўжо нікога не было, ён хутка апрануўся і спусціўся, каб нечым паснедаць і знайшоў толькі Рона, які даядаў мятную жабку, паціраючы сабе жывот і Герміёну, якая гатавала хатнее заданне, расклаўшы яго ажно на трох сталах.

- А дзе ўсе астатнія?- спытаўся Гары.

- З’ехалі! Ці ты памятаеш, што сёння першы дзень вакацыяў?- спытаўся Рон, уважліва пазіраючы на Гары.- Зараз час абеду, я ўжо збіраўся ісці, каб будзіць табе.

Гары паваліўся на крэсла паблізу ад коміна. За вокнамі падаў снег. Крукшанс разлёгся перад агнём, нагадваючы вялізны руды дыванок.

- Ты сапраўды не надта добра выглядаеш,- прамовіла Герміёна неспакойна гледзячы на яго твар.

- Са мной ўсё добра,- адказаў Гары.

- Паслухай,- суворым тонам сказала Герміёна, абменьваючыся позіркамі з Ронам.- Мы разумеем, што ты надта засмучаны тым, што учора пачуў. Але галоўнае, каб ты цяпер не нарабіў глупстваў.

- Напрыклад якіх?- спытаў Гары.

- Напрыклад, паспрабаваць знайсці Блэка!- рэзка прамовіў Рон.

Гары вырашыў, што яны адрэпетыявалі гэтую размову пакуль ён спаў. Гары сядзеў не кажучы ані слова.

- Ты не зробіш гэтага Гары?- спыталася Герміёна.

- Блэк не варты таго, каб з-за яго памерці,- дадаў Рон.

Гары пазіраў на іх. Здавалася, яны не разумелі ўсяго.

- Ці вы ведаеце, што я чую штораз, калі ля мяне апыняюцца дэментары?- Рон і Герміёна, баязліва пазіраючы на яго, захісталі галовамі.- Я чую крыкі і мольбы маёй маці, якую вось вось павінен забіць Вальдэморт. Калі б вы чулі перадсмяротныя енкі сваіх маці, вы б не разважалі аб гэтым настолькі лёгка. А калі б, да таго, ведалі, хто быў сябрам, які здрадзіў іх і аддаў Вальдэморту...

- З гэтым ўжо нічога не зробіш!- уразліва прамовіла Герміёна.- Але няхай Блэка зловяць дэментары і адправяць назад у Азкабан і... гэта будзе найлепей за ўсё!

- Вы чулі, што казаў Фадж. Азкабан не дзейнічае на Блэка так, як на астатніх людзей. Гэта ня будзе для яго пакараннем.

- І што?- выглядаючы занапружана спытаўся Рон.- Ты вырашыў забіць Блэка... ці як?

- Не будзь ёлупам,- запанікавана прамовіла Герміёна.- Гары, ты ж не збіраешся анікога забіваць?

Гары ізноў анічога не адказаў. Ён ня ведаў, чаго жадае. Але дакладна ведаў гэта тое, што не падумае стаяць ў баку, пакуль Блэк на волі.

- Малфой ведае,- раптоўна прамовіў ён.- Памятаеце, на Зеллеварстве? «Калі б ён паляваў на мяне... я распачаў бы паляванне ў адказ»

- Ты збіраешся прымаць парады Малфоя, а не нашы?- раз'ючшыўся Рон.- Ты ведаеш... што атрымала маці Пэцігру, пасля таго як Блэк забіў яго? Тата распавядаў мне... Ёй даслалі ордэн Мэрліна першай ступені і палец яе сына ў скрыначцы. Гэта быў самы вялізны кавалак, які ад яго застаўся. Блэк вар'ят Гары і ён небяспечны...

- Напэўна Малфою распавёў аб гэтым бацька,- праігнараваўшы Рона, працягваў Гары,- ён жа быў сярод прыбліжаных да Вальдэморту...

- Прашу, кажы «Самі-Ведаеце-Хто»?- сярдзіта прамовіў Рон.

-... відавочна, Малфой быў знаёмы з Блэкам, калі працаваў на Вальдэморта...

-... а яго сынок зшалее ад шчасця, калі цябе разарве на мільён кавалачкаў, як таго Пэцігру! Супакойся, Малфой папросту спадзяецца, што цябе заб'юць ранней, чым яму прыйдзецца супрацьстаяць з табой на квідытчным поле!

- Гары, калі ласка,- прамовіла Герміёна, яе вочы напоўніліся слязьмі,- будзь разумнейшым. Блэк зрабіў жудаснейшыя рэчы, але... але ня трэба з-за гэтага ставіць сябе ў небясеку, Блэк гэтага і жадае... ах, Гары, ты здзейнічаеш яму на руку, калі пойдзеш шукаць яго.Твае бацькі вельмі не хацелі б, каб ты пацярпеў, ці не так? Яны б не пажадалі, каб ты шукаў Блэка!

- Я ніколі не даведаюся аб тым, чаго б яны пажадалі, таму што дзякуючы Блэку, ніколі не размаўляў з імі,- суха адказаў Гары.

Запанавала цішыня, падчас якой Крукшанс пышна пацягнуўся, выпусціўшы свае кіпцюры. Ронава кішэня шалёна задрыжэла.

- Слухайце,- сказаў Рон, каб хоць нейкім чынам змяніць тэму размовы,- зараз вакацыі. Ужо амаль надыйшлі Каляды! Прапаную... прапаную спусціцца і наведаць Хагрыда. Мы не рабілі гэтага напэўна ўжо сто год!

- Не!- імгненна вымавіла Герміёна.- Рон, Гары нельга пакідаць замак...

- Так, пойдзем,- працягваючы сядзець, сказаў Гары.- Я, між тым, спытаюся ў яго, чаму ён аніколі не ўзгадваў Блэка, калі распавядаў аб маіх бацьках!

Але напэўна Рон меў на ўвазе зусім не працяг размовы аб Сірыюсе Блэке.

- А яшчэ мы б маглі згуляць ў шахматы,- паспешліва заўважыў ён, - ці ў плявакаменьчыкі. У Персі...

- Не, мы пойдзем да Хагрыда,- цвёрда прамовіў Гары.

Яны апранулі свае плашчы, прайшлі праз адтуліну за партрэтам, які адразу ж прапанаваў ім супыніцца і пачаць змаганне, абазваўшы пры гэтым баязлівымі дварнякамі, потым рушылі па мармуровым сходам ўніз да дубовых дзвярэй уваходу.

Яны крочылі ўніз па некалі травяністым схіле, пакідаючы на бліскучым рассыпістым снезе дробныя разоры, іх шкарпэткі і падолы плашчоў прамоклі і змерзлі. Забаронены лес выглядаў так, бы нехта яго зачараваў, дрэвы пакрыліся срэбрам, а хаціна Хагрыда нагадвала ільдзяны торт.

Рон пастукаў у дзверы, але адказу не было.

- Няўжо ён кудысць сыйшоў?- спыталася Герміёна, хутаючыся ад холаду у плашч.

Рон прыцiснуў вуха да дзвярэй.

- Там нейкі дзіўны шум,- прамовіў ён,- можа гэта Фанг?

Гары з Герміёнаю таксама прыцiснуліся да дзвярэй. Усярэдзіне адчуўся шэраг нізкіх пульсуючых стогнаў.

- Можа нам пайсці і паклікаць каго-небудзь?- знервавана спытаўся Рон.

- Хагрыд!- клікнуў Гары, грукочучы ў дзверы.- Хагрыд, ці ты там?

Адчуўся гук цяжкіх крокаў, затым дзверы рыпнулі. На ганак выйшаў Хагрыд, яго вочы былі апухлымі і чырвонымі, а на скураную камізэльку працягвалі каціцца слёзы.

- Вы чулі!- раўнуў ён і кінуўся на шыю да Гары.

Хагрыд быў прынамсі ў двая больш за звычайнага чалавека і Гары было зусім не да смеху. Ён ўжо быў гатовы рынуцца пад Хагрыдавым цяжарам на зямлю, але яго ўратавалі Рон з Герміёнаю, якія схапілі Хагрыда за рукі і адарвалі ад Гары, а потым з яго дапамогай адвялі таго назад ў пакой. Палясоўшчык накіраваўся да сталу, сеў на крэсла і схаваў свой пакрыты слязмі твар ў руках, працягваючы безкантрольна енчыць.

- Што здарылася, Хагрыд?- жахаючыся прамовіла Герміёна.

Гары заўважыў на стале раскрыты ліст, які выглядаў, як афіцыйны.

- Што гэта, Хагрыд?

Хагрыд пасіліў свае енкі, слёзы залілі нават яго бараду, але працягнуў ліст Гары і той прачытаў уголас:

*«Паважаны містэр Хагрыд,*

*Мы прынялі да ўвагі ў нашым даследаванні аб нападзе на аднаго з навучэнцаў гіпагрыфа, запэўненні прафесара Дамблдора аб тым, што вы не маеце аніякага дачынення да гэтага сумнага інцыдэнта.»*

- Дык гэта ж добра, Хагрыд!- прамовіў Рон і папляскаў Хагрыда па плячы. Але той працягваў енчыць і махам сваёй вялічэзнай рукі прапанаваў Гары чытаць далей.

*Тым ня менш мы павінны заўважыць нашую моцную заклапочанасць з нагоды гэтага гіпагрыфа. Мы вырашылі падтрымаць скаргу містэра Люцыюса Малфоя і перадаць справу пад кантроль Камітэту па знішчэнню небяспечных істотаў. Слуханні адбудуцца 20 красавіка і мы запрашаем вас разам з вашым гіпагрыфам наведаць ў гэты дзень офіс Камітэту ў Лондане. Гіпагрыф павінен быць закаваны і сядзець ў клетцы.*

*З павагаю ...*

Далей следаваў спіс чальцоў школьнай рады.

- Аёйку,- прамовіў Рон.- А ці ты ім казаў, што Бакбік не благі гіпагрыф, Хагрыд. Іду ў заклад, яны...

- Ты ня веда’ш, што за злыдні ся’ць ў Камітэце па знішчэнню нябяспечных ’стотаў!- давячыся слязмі і выціраючы твар рукавом, прамовіў Хагрыд.- Ім пакаж’ яку’-небудзь любу’ зверанятку і яны ’дразу кінуцца яе катаваць!

Раптоўна адчуўся гук, які прымусіў Гары, Рона і Герміёну пужліва азірнуцца. У кутку ляжаў гіпагрыф Бакбік і нешта жаваў, а падлога ля яго была заліта крывёю.

- Я ня мог кінуці ’го ў снезе!- усхліпваў Хагрыд.- У самоце! На Бож’нараджэнне!

Гары, Рон і Герміёна пераззірнуліся. Яны аніразу шчэ ня чулі, каб палясоўшчык называў любай зверняткаю, істоту, якую іншыя людзі палічылі б за жахлівую пачвару. З іншага

боку, Бакбік быў не такі ўжо і небяспечны. А з пункту гледжання Хагрыда, даволі прыгожы.

- Табе прыйдзецца знайсці моцныя аргументы дзеля яго абароны, Хагрыд,- прамовіла, сядаючы паблізу ад палясоўшчыка і кладучы далонькі на яго перадплечча, Герміёна.- Я ўпэўненна, што ў цябе атрымаецца даказаць, што ён бяспечны.

- Гэт’ ня мае сэнсу!- ўз’енчыў Хагрыд.- Гэты’ злыдні з камітэту, яны ’се ў кішэні Люцуса Малфоя! Жахаюцца ’го! І калі я пра’граю справу Бакбіка...

Хагрыд правёў рукою па горле, выдаў вялізны лямант і зноўку схаваў твар ў рукі.

- А што наконт Дамблдора, Хагрыд?- спытаўся Хагрыд.- звярніся да яго.

- Ён і так зрабіў дзеля м’не замнога,- прастагнаў той.- А ц’ерча ’му хапае праблемаў з дэментарамі, што ’ховаюць замак і ’мкнуца сюды трапіці, ды Сірыюсам Блэкам, што шлэндае вакол...

Рон з Герміёнаю хутка зірнулі на Гары, чакаючы, што тот пачне наракаць Хагрыду, пра тое, што ён не распавёў яму праўду аб Блэку. Але хлопчык быў не ў стане зрабіць гэтага, калі бачыў Хагрыда гэткім няшчасным і напалоханым.

- Слухай, Хагрыд,- прамовіў ён,- ты ня можаш задкі ісці. Герміёна мае рацыю, трэба добра падрыхтавацца да абароны. Ледзь што выклікай нас у якасці сведкаў...

- Я дзесь чытала аб падобным выпадку з гіпагрыфам,- задумліва прамовіла Герміёна.- І там ён быў уратаваны. А пашукаю ў сваіх кніжках падрабязнасці, Хагрыд.

Хагрыд пачаў лямантаваць яшчэ мацней. Гары з Герміёнаю зірнулі на Рона.

- Ммм... а ці не папіць нам гарбаты?- прамовіў той.

Гары здзіўлена ўтаропіўся на сябра.

- Мая маці,- пацісnуў плячыма Рон,- робіць гэдак штораз, калі хтось засмучаны.

Нарэшце, пасля колькіх запэўніваннях аб дапамозе і трымаючы ў руках дымлівы кубак, Хагрыд супакоіўся і дастаўшы насоўку памерам з абрус, высмаркаўся і прамовіў:

- Вы правы. Я не ’вінен губляць кантроль. Трэб’ узяць сабе ў рукі...

Яго сабака Фанг нясмела рушыў пад сталом і паклаў сваю галаву Хагрыду на калені.

- ’пошнім часам я быў, як ня свой,- прамовіў Хагрыд, гладзячы адной рукой галаву Фанга, а другой выціраючы слёзы.- Непакоіў’ аб Бакбіку і аб тым што ніхто не’падабаў мае заняткі...

- Нам яны вельмі падабаюцца!- імгненна схлусіла Герміёна.

- Так, яны самыя файныя!- падтрымаў яе Рон, скрыжаваўшы пальцы пад сталом.- Між іншым.. як там маюцца чарвямлявы?

- Падохлі,- змрочна адказаў Хагрыд,- аб’еліся салаты.

- Вой, не!- усклікнуў Рон, ледзь стрымліваючы ўсмешку.

- І гэты дэментары прым’шаюць м’не чырванець ад жаху,- працягваў ён раптоўна ўздрыгнуўшы.- Штораз, як я рушу ў Тры Мятлы, каб выпіць сяг’таго і ’ходжу праз іх, а’чуваю бы зноўку ў Азкабане...

Ён замоўк, глытаючы гарбату. Гары, Рон і Герміёна не дыхаючы назіралі за ім. Яны ніколі ня чулі, каб Хагрыд раней узгадваў сваё кароткае перабыванне ў Азкабане.

- Там насамрэч настолькі жахліва?- пасля некаторай паўзы нясмела спыталася Герміёна.

- На’т не ’яўляеце,- спакойна прамовіў Хагрыд.- Гэт’ наўрат’ хто спадабае. Я думаў, што еду з глузду. Я прыпомніў самыя найвялікі’ жахі, што сталіся са мной. Той дзень, як мяне ’ключылі з Хогвартсу... як ’мёр мой татка... як пры’шлося развітацца з Норбертам...

Яго вочы зноўку напоўніліся слязьмі. Норберт быў дракончыкам, яйка з якім ён колісь выйграў у карты.

- Праз які’ час вы ўжо ня ’стане прыпомніць хто вы ё’. І наогул ня бачыць далей’ сэнс жыцця. Тольк’ спадзяёце’ ’мерці ў сне... Калі м’не выпусцілі гэт’ быў, ніб’ другі дзень народзінаў. Зноўк, нахлынулі ш’аслівы’ успаміны. Гэт’ было лепшым ’чуццём у жыцці. Але мяркую дэментары вельмі не хацелі мяне ’пускаць.

- Але ж ты быў ня вінны!- сказала Герміёна.

Хагрыд гмыкнуў.

- А ці гэт’ іх цікавіць? Яны маюць пару сотняў чалавек, што з’ходзяцца пад іх ’хаваю, з якіх ’ны бы тыя п’яўкі смокчуць ш’асце. Ім не цікава хто з іх ’вінен, а хто не.

Хагрыд зноў замаўчаў, гледзячы ў свой кубак.

- Я на’т думаў,- ціха працягваў ён,- ’пусціць Бакбіка... але ж, як па’тлумачыць гіпагрыфу, што яму трэб’ хавацца? І... і шчэ я баюся парушыць закон.- ён зноўку зірнуў на іх вачыма поўнымі слёз.- Я не хачу зноў ’авярнуцца ў Азкабан.

*

Хаця паход да Хагрыда атрымаўся ня надта вясёлым, ён цалкавіта зрабіў тое, на што і спадзяваліся Рон з Герміёнаю. Гары не забыўся аб Блэке, але перастаў увесь час разважаць аб помсце, бо моцна жадаў дапамагчы Хагрыду выйграць у Камітэта па знішчэнні небяспечных істотаў. У наступны дзень ён разам з Ронам і Герміёнаю ўжо сядзелі ў бібліятэцы, абклаўшыся кнігамі, якія маглі б дапамагчы ім падрыхтавацца для абароны Бакбіка. Тройца сядзела ў грыфіндорскай гасцёўне перад камінам, павольна гартаючы пыльныя тамы аб найвядомейшых выпадкаў нападу звяроў, паведамляючы астатнім, калі хтось знаходзіў нешта падобнае.

- Ага вось... выпадак адбыўся ў 1722 годзе... але гіпагрыф быў асуджаны... а мамка ж... глядзіце, што яны з ім зрабілі. Якая гідкасць...

- Вось, гэта можа дапамагчы... У 1296 годзе адбыўся напад мантыкоры і яны дазволілі ёй... ёечку... не... гэта адбылося таму, што ніхто не адважыўся падыйсці да яе...

А па ўсім замку тым часам развешвалі калядныя ўпрыгожванні, нават ня гледзячы на тое, што засталося замала навучэнцаў, каб насаладзіцца іх выглядам. Ува ўсіх калідорах сям-там вяселі калядныя вяночкі з падубу ці амелы, усярэдзіне кожнага даспеху свяціліся таямнічыя агенчыкі, а Вялікая Зала, як і заўжды месціла ажно дванаццаць елак упрыгожаных зіготкімі залатымі зорачкамі. Густы смачны пах прыгатаванай ежы, што лунаў па калідорах замку, на куццю настолькі ўзмацніўся, што нават Скаберс высунуўся з Ронавай кішэні і пачаў радасна нюхаць паветра.

Калядным ранкам, Гары быў разбуджаны падушкай, якую кінуў у яго Рон.

- Прачынайся, час глядзець падарункі!

Гары надзеў акуляры і сеў на ложку жмурачыся праз паўзмрок і памацаў невялічкую купку падарункаў, што стаяла побач. А Рон ўжо шпарка разгортваў паперу на сваіх.

- Чарговы швэдар ад маці... зноў бардовы... пабачыш яшчэ адзін будзе ў цябе.

Гэдак і было. Гары атрымаў у падарунак ад місіс Візлі швэдар пунцовага колеру з грыфіндорскім ільвом на грудзях і тузін слодычаў хатняга вырабу, а таксама калядны пірог і скрыначку гарэхавых ляндрынак. Але калі ён адсунуў усё гэта ў бок ён пабачыў доўгі і тонкі пакунак, які ляжаў за імі.

- Што гэта?- спытаўся Рон трымаючы ў руках толькі што выцягнутыя з пакунку бардовыя шкарпэткі.

- А я ведаю...

Гары разарваў пакунак і на яго ложак павалілася найпрыгажэйшая і найбліскучая мятла ў свеце. Рон кінуў свае шкарпэткі і падбег да Гарынага ложку, каб лепей разглядзець.

- Я не веру ў гэта?- хрыплым голасам вымавіў ён.

Гэта была Вогненная Страла, такая ж самая, як і тая мятла на якую Гары зачаравана глядзеў шпацыруючы па Дыягон Алее. Тронак мятлы зіхацеў, калі Гары падняў яе. Ён адчуў як мятла завібравала і адпусціў руку, Вогненная Страла завісла ў паветры без аніякай падтрымцы на належнай вышыні, каб на яе было зручней сесці. Вочы хлопцаў перамясціліся на залаты рэгістрацыйны нумар, а адтуль на абцякальны хвост, зроблены з падагнаных адзін да аднаго бярозавых пруткоў.

- А хто табе яе даслаў?- ціхім голасам спытаўся Рон.

- Паглядзі, ці есць картка,- прамовіў Гары.

Рон разарваў пакунак Вогненнай Стралы.

- Няма! Але ж хто мог змарнаваць гэткія грошы?

- Ну,- ашаломлена прамовіў Гары,- магу спрачацца, што гэта дакладна не Дурслі.

- Закладаюся, што гэта Дамблдор,- сказаў Рон, ходзячы вакол мятлы, усхалявана вывучаючы кожную яе цалю.- Ён жа даслаў табе Мантыю-Невядзімку ананымна...

- Але ж яна была маёмасцю майго бацькі,- адказаў Гары,- Дамблдор толькі перадаў яе мне. Аднак ён бы не стаў марнаваць дзеля мяне колькі сотняў галеёнаў. Дамблдор ня пойдзе на тое каб падараваць навучэнцу штось падобнае...

- Таму і не сказаў, што гэта ад яго!- прапанаваў Рон.- Брыдотнікі, накшталт Малфоя, называюць гэта фаварытызмам. А мамка ж мая, Гары...- ён пачаў шалёна смяяцца.- Малфой! Ён ашалее, як той дзік! Гэта ж мятла міжнароднага ўзроўню!

- Не магу ў гэта паверыць,- мармытаў Гары праводзячы рукою па Страле, пакуль Рона круціла ад смеха.- Але ж хто..?

- Я ведаю,- узяўшы сабе ў рукі сказаў Рон.- Мяркую, што гэта мог зрабіць Люпін!

- Хто?- спытаўся Гары, сам пачаўшы смяяцца.- Люпін? Слухай, калі б у яго было столькі золата, ён перш за ўсё набыў бы сабе новую вопрадку.

- Так, але ён моцна любіць цябе,- адказаў Рон.- І калі адбылося здарэнне з тваім Німбусам, ён быў ў ад'ездзе. Можа калі ён даведаўся аб гэтым, ён зазірнуў на Дыягон Алею і набыў Стралу дзеля цябе...

- Што ты маеш на ўвазе пад ад'ездам?- спытаўся Гары.- Калі адбываўся матч ён хварэў.

- Але ў шпітальным крыле яго не было,- заўважыў Рон.- Ці памятаеш, я там быў, калі чысціў начныя гаршкі ў якасці пакарання ад Снэйпа?

Гары пахмурліва зірнуў на Рона.

- Не чакаў ад Люпіна анічога падобнага.

- Над чым вы тут смеяцёся?

У пакой зазірнула Герміёна, яна была апранута ў хатні халат, а ў руках трымала надта разлютаванага Крукшанса, які быў абвіты вакол шыі мішурой.

- Не пушчай яго сюды!- прамовіў Рон, выхапіў Скаберса з глыбіні свайго ложку і схаваў у кішэню піжамы. Але Герміёна не слухала яго. Яна пусціла Крукшанса на пусты ложак Шымаса і раззявіўшы рота паглядзела на Вогненную Стралу.

- Аёечку, Гары! Хто ж табе гэта падараваў?

- Не ведаю,- адказаў той,- у пакунку не было карткі.

Да яго вялікага здзіўлення Герміёна не была ўзбуджана ці заінтрыгавана гэтай навіной. Наадварот яна зблажэла і закусіла губу.

- Што з табой?- спытаўся Рон.

- Ня ведаю,- павольна адказала дзяўчынка,- але ўсё гэта вельмі дзіўна, ці не так? То бок, гэта ж наколькі мне вядома самая новая мятла?

Рон раздражнённа ўздыхнуў.

- Так, гэта самая лепшая мятла, Герміёна,- адказаў ён.

- І яна павінна каштаваць сапраўды задорага...

- Напэўна значна больш, чым ўсі слізэрынскія мётла разам,- шчасліва прамовіў Рон.

- Так... і нехта даслаў настолькі дарагі падаругак Гары і нават не назваўся?- працягвала яна.

- А каго гэта хвалюе?- нецярпліва прамовіў Рон.- Гары, ты ж даш мне на ёй пакатацца?

- Мяркую, пакуль на гэтай мятлой не трэба лятаць,- пранізліва сказала Герміёна.

Гары і Рон зірнулі на яе.

- А што Гары з ёй рабіць? Падлогу падмятаць?- спытаў Рон.

Але перш чым дзяўчынка паспела адказаць, Крукшанс саскочыў з ложку Шымаса і кінуўся Рону на грудзі.

- ЗАРАЗ... ЖА... ЗАБЯРЫ... ЯГО... АДСЮЛЬ!- заравеў Рон, якому Крукшанс разарваў піжаму сваімі кіпцюрамі, а Скаберс выскачыў з кішэні і паспрабаваў уцячы праз Ронава плячо. Рон схапіў пацука за хвост і паспрабаваў стукнуць Крукшанса, але няўдала. Хлопчык трапіў нагою ў валізу, што стаяла ля Гарынага ложку і пачаў скакаць на адной назе лямантуючы ад болю.

Каціная поўсць раптам ўздыбілася. Пакой напоўніўся пранізлівым бляшаным свістам. Кішэнны брыдаскоп выскочыў са старой шкарпэткі дзядзькі Вернана і пачаў шалёна круціцца і яскрава свяціцца.

- Я зусім забыўся аб іх!- прамовіў Гары і нахіліўся, каб падабраць брыдаскоп з падлогі.- Я не карыстаюся гэтымі шкарпэткамі, калі ёсць магчымасць...

Брыдаскоп працягваў круціцца на яго далоні, Крукшанс шыпеў і фыркаў на прыладу.

- Занясі ты ўжо яго адсюль, Герміёна,- разлютавана прамовіў Рон, седзячы на ложку і паціраючы сваю нагу.- Ці ты ня мог бы суцішыць яго?- дадаў ён Гары, калі Герміёна выходзіла з пакою трымаючы Крукшанса, які працягваў злосна таропіць свае жоўтыя вочы на Рона.

Гары запхнуў брыдаскоп назад ў шкарпэтку і кінуў у валізу. Усё што было зараз чутна, прыглушаныя Ронавы стогны ад болю і злосці. Скаберс пытаўся схавацца ў яго руках. Ён у першыню за доўгі час пабачыў пацука па-за межамі кішэні Рона і быў непрыемна

здзіўлены, пабачыўшы, што некалі тлусты Скаберс, зараз выглядаў вельмі схуднелым, а яго поўсць здавалася была месцамі пакрыта праплешынамі.

- Ён выглядае не надта здаровым,- прамовіў Гары.

- Гэта ад стрэсу!- сказаў Рон.- Калі б гэты дурны кавалак поўсці пакінуў яго ў супакоі, Скаберс выглядаў значна лепш!

Але Гары памятаў словы прадаўшчыцы з Чарадзейскага звярынца аб тым што пацукі жывуць ня больш за тры гады. Ён лічыў, што нават, калі ў пацука і ёсць нейкія звышнатуральныя сілы, яго жыццё падыходзіць да свайго завяршэння. Таксама Гары ведаў, што ня гледзячы на вечныя скаргі Рона аб надакучлівасці і някчэмнасці Скаберса, ён будзе вельмі сумаваць, калі той памрэ.

Гэтай раніцай калядны дух слаба адчуваўся ў Грыфіндорскай вежы. Герміёна закрыла Крукшанса ў дзявочай спальне, але надта была раззлавана на Рона за тое, што той паспрабаваў стукнуць яе ўлюбёнца. Рон працягваў кіпець з-за новай спробы Крукшанса з'есці яго пацука. Гары адмовіўся ад спробы памірыць іх і зараз займаўся вывучэннем Вогненнай Стралы, якую выцягнуў у гасцёўню. Герміёну гэта здавалася моцна раздражняла, але яна не казала аніслова і толькі змрочна пазірала на мятлу, быццам тая таксама пагражала яе кату.

Яны спусціліся на абед у Вялікую Залу. Усе сталы ў ёй былі прыціснуты да сценаў і толькі адзін стаяў пасярэдзіне. За ім сядзелі прафесары Дамблдор, МакГонагал, Снэйп, Спроўт і Флітвік, да якіх далучыўся нават наглядчык Філч, апрануты замест звычайнай карычневай курткі ў вельмі стары і моцна зацвілы фрак. Акрамя грыфіндорцаў за сталом месціліся толькі тры вучні, два надзвычайна знерваваных першагодкі і слізэрынец з панурым тварам, што вучыўся ў Хогвартсе пяты год.

- З Божым нараджэннем!- усклікнуў Дамблдор, калі Гары, Рон і Герміёна наблізіліся да сталу.- Я палічыў што нас надта замала, і будзе дуротай выкарыстоўваць больш за адзін стол... сядайце, сядайце!

Грыфіндорцы селі побач адзін да аднаго ў самым куточку стала.

- Печыва!- з энтузіязмам прамовіў Дамблдор, працягваючы талерку Снэйпу. Той неахвотна узяў адно. У той жа момант печыва з трэскам разляцелася і ператварылася на вядзьмарскі капялюш з пудзілам карчака на верхавіне.

Гары адразу прыпомніў богарта і злавіў позірк Рона. Яны абодва ўсміхнуліся. Снэйп скрывіў рота і штурхнуў капялюш прафесару Дамблдору, які імгненна надзеў яго замест свайго.

- Сквапна есці!- прамовіў дырэктар, ззяючым поглядам абводзячы прысутных.

Толькі Гары паклаў сабе ў талерку смажанай бульбы, як дзверы ў Вялікую Залу расчыніліся. Гэта была прафесарка Трэлані. Яна плаўна бы мела колы, рушыла да сталу. У гонар свята яна апранула зялёную сукенку з бліскаўкамі, што зрабіла яе яшчэ больш падобнай да бліскучую, не натуральных памераў стракозу.

- Сібіла, вось гэта прыемны сурпрыз!- падымаючыся прамовіў Дамблдор.

- Я глядзела ў магічны крышталь, дырэктар,- прамовіла Трэлані сваім звычайным містычна далёкім голасам,- і да свайго здзіўлення ўбачыла, што буду абедаць не ў самоце, таму паспяшалася далучыцца да вас. Хто я такая, каб спрачацца з загадамі лёсу? Таму я пакінула сваю вежу і прашу прабачэння за некаторае спазненне...

- Вядома, вядома,- прамовіў Дамблдор, падміргіваючы.- Дазвольце запрапанаваць вам крэсла...

І сапраўды, дастаўшы сваю палачку, ён папросту ў паветры намаляваў крэсла. Палачка некаторы час круцілася ў паветры, перш чым з глухім стукам упасці паміж прафесарамі Снэйпам і МакГонагал. Трэлані аднак не спяшалася садзіцца, яе вялізныя вочы азірнулі стол і тут яна нечакана выдала нешта накшталт ціхага віска.

- Я не сяду сюды, дырэктар! Тады за сталом нас будзе трынаццаць! Гэта вельмі не паспяхова! Калі за сталом сядзяць трынаццаць чалавек, той хто першы падымецца, першым жа і памрэць!

- Мы рызыкнем, Сібіла!- нецярпліва прамовіла прафесарка МакГонагал.- Сядай, ці індык будзе зусім халодным.

Прафесарка Трэлані пахісталася, затым моцна заплюшчыўшы вочы і рот, быццам чакала што са стала выбухне маланка, села на пустое крэсла. Прафесарка МакГонагал ткнула вялізную лыжку ў бліжэйшую міску.

- Ці не жадаеш рубца, Сібіла?

Прафесарка Трэлані праігнаравала яе словы. Яна раскрыла вочы, зноўку азірнулася і спыталася:

- Але ж дзе наш даражэнькі прафесар Люпін?

- Баюся небарака зноў захварэў,- прамовіў Дамблдор, паказваючы іншым, каб абслугоўвалі сябе.- Вельмі шкада, што гэта адбылося на Каляды.

- Але ж ты павінна была гэта ведаць, Сібіла?- падняўшы брыві сказала МакГонагал.

Трэлані адаравала прафесарку МакГонагал надта халодным позіркам.

- Зразумела ж я ведаю, Мінерва,- ціха адказала яна.- Але не хвалюся гэтым. Я ўвогуле часцей паводжу сябе так, быццам ня маю Трэццяга Вока, каб не нерваваць людзей.

- Гэта шмат што тлумачыць,- з’едліва адказала МакГонагал.

Голас прафесаркі Трэлані раптоўна стаў менш цмяным.

- Калі жадаеш ведаць, Мінерва, я бачыла, што бедны прафесар Люпін ня будзе з намі доўга. І здаецца ён сам гэта ведае. Ён імгненна збег, калі я прапанавала зірнуць па яго лёс ў магічны крышталь...

- Уяўляю сабе,- суха прамовіла МакГонагал.

- Сумняваюся,- прамовіў прафесар Дамблдор, вясёлым, але значна больш громкім голасам, каб супыніць спрэчку паміж дзвюма прафесаркамі.- што прафесару Люпіну штось моцна пагражае. Северус, ты ж зрабіў яму шчэ зелля?

- Так, прафесар,- адказаў Снэйп.

- Вось і добра,- сказаў Дамблдор,- гэта падыме яго на ногі ў імгненне вока... Дэрэк, ці каштаваў ты якусь з гэтых сардэлек? Яны даволі смачныя.

Хлопчык-першагодка густа пакрыўся барвянымі плямамі гледзячы на дырэктара, потым дрыготкімі рукамі ўзяў адну сардэльку з місы.

Прафесарка Трэлані паводзіла сябе амаль нармалёва на працягу астатніх дзвюх гадзінаў каляднага абеду. З перапоўненымі ўшчэнт жыватамі і апранутыя ў капелюшы з’явіўшыеся з выбухаючых печывак, Гары з Ронам першыя падняліся з-за стала і тут прафесарка раптоўна залямантавала.

- А мае ж вы даражэнькія! Хто з вас падняўся з-за стала першым? Хто?

- Не звярнулі ўвагі,- адказаў Рон знервавана глянуўшы на Гары.

- Гэта ня мае асаблівага сэнсу,- халодна прамовіла прафесарка МакГонагал.- Калі толькі за дзвярмі іх не чакае вар’ят з сякераю, каб забіць Вестыбюле першага хто падняўся.

Засмяяўся нават Рон. Прафесарка ж Трэлані выглядала вельмі абражанай.

- Хадзем!- паклікаў Герміёну Гары.

- Не,- прамармытала дзяўчынка,- мне шчэ трэба аб сім-тым пагаманіць з прафесаркай МакГонагал.

- Пэўна вырашыла высветліць, ці можа яна ўзяць яшчэ заняткаў,- пазіхаючы прамовіў Рон, калі разам з Гары выходзіў у вестыбюль, дзе зразумела ж не было аніякага вар’ята.

Дабраўшыся да партрэта закрываючага ўваход у вежу, яны ўбачылі, што сэр Кэдаган святкаваў Божае нараджэнне ў кампаніі двух манахаў, некалі быўшых дырэктарамі Хогвартсу і сваёй лашадкай. Ён адштурхнуў забрала свайго шалому і піў мядок са збану.

- З Нараджэннем... ік... Хрыстовым! Пароль!

- Злыдзень злы,- адказаў Рон.

- Што вы сказалі, сэр?!- заравеў рыцар, калі партрэт ад’ехаў угору.

Гары рушыў да спальні, узяў адтуль Вогненную Стралу і Набор дзеля абслугоўвання мятлы, які Герміёна падаравала яму на дзень народзінаў і спусціўся ў гасцёўню. Ён паспрабаваў знайсці штось, што патрабавала догляду, але ў мятлы не было аніводнага пагнутага прутка, а тронак ззяў так, што было бессэнсоўным яго паліраванне. Яны з Ронам папросту сядзелі і захоплена аглядалі Стралу з усіх бакоў. Раптам партрэт зноўку ад’ехаў угору і на ганку аб’явіліся Герміёна і суправаджаючая яе прафесарка МакГонагал.

Не гледзячы на тое, што прафесарка была Галавою Грыфіндорскага Дому, за ўвесь час свайго перабывання ў Хогвартсе, Гары бачыў яе ў гасцёўне толькі адзін раз, калі яна рабіла вельмі сур’ёзную аб’яву. Хлопцы вытарапіліся на яе, працягваючы трымаць мятлу ў руках. Герміёна абыйшла іх колам, села і ўзяўшы ў рукі бліжэйшую ж кнігу, схавала за ёй твар.

- Гэта яна і ёсць?- прыжмурыўшы свае маленькія вочы спыталася МакГонагал, яна падыйшла да каміна і паглядзела на мятлу.- Міс Грэйнджэр паведаміла мне, што вы атрымалі яе ў падарунак, Потэр.

Гары і Рон зірнулі на Герміёну, але толькі ўбачылі яе зчырванелы лоб ўзвышаючыйся па над трымаемай дагары нагамі кнігай.

- Ці можна?- спыталася прафесарка і не дачакаўшыся адказу працягнула руку за Стралой. Яна старанна аглядзела яе з тронка да пруткоў хваста.- Хмм. І не было аніякай паштоўкі, Потэр? Картка? Можа ліст?

- Ані,- разгублена адказаў Гары.

- Зразумела...- адказала прафесарка МакГонагал.- Ну, баюся мне прыйдзецца забраць яе ў вас, Потэр.

- Я-як?- спытаўся Гары падымаючыся на ногі.- Навошта?

- Яе неабходна праверыць на сурокі,- адказала прафесарка МакГонагал.- Я канечне не эксперт у гэтым, але, адважуся вас запэўніць, мадам Хуч і прафесар Флітвік здолеюць зняць іх...

- Зняць?- перапытаў Рон прафесарку, бы тая сшалела.

- Гэта зойме ўсяго ткі колькі тыдняў,- прамовіла прафесарка.- Мы павінны быць ўпэўнены, што на ёй няма праклёну.

- На ёй няма аніякага праклёну!- усклікнуў Гары дрыготкім голасам.- Калі шчыра казаць...

- Вы не можаце ведаць гэтага, Потэр,- мягка адказала МакГонагал,- ува ўсялякім выпадку, пакуль не сядзіце на яе і не паспрабуеце ўзляцець, але баюся, што пакуль аб гэтым не можа быць і гаворкі. Я буду трымаць вас у справе.

Прафесарка развярнулася на абцасах і праз адтуліну сыйшла вонкі несучы Вогненную Стралу ў руках. Гары стаяў і разгублена глядзеў ёй ў след працягваючы трымаць ў руках скрынку высокаякаснай паліролі. Рон развярнуў галаву ў бок Герміёны.

- Ты дзеля гэтага засталася гаманіць з МакГонагал?

Дзяўчынка адкінула кнігу ў бок. Яе тварык ўсё яшчэ быў зчырванелым, але яна паднялася і абуральна паглядзела ў твар Рону.

- Так, бо я вырашыла... і прафесарка МакГонагал пагадзілася са мной... што хутчэй за ўсё адзіны чалавек, які мог зрабіць Гары падобный падарунак - Сірыюс Блэк!

## — РАЗДЗЕЛ XII —

## *Патронус*

Гары разумеў, што Герміёна жадала зрабіць, як лепей, аднак гэта не бракавала хлопцу злавацца на яе. Колькі кароткіх гадзін ён быў уладаром лепшай мятлы ў свеце, а цяпер з-за Герміёнінага ўмяшальства, хлопчык ня ведаў, ці пабачыць Вогненую Стралу колісь яшчэ. Ён быў упэўнены, што з мятлою ўсё было добра, але баяўся, што анты-сурочныя тэсты могуць пашкодзіць Страле.

Рон таксама злаваўся на Герміёну. Ён быў ўпэўнены, што разборка зусім новай мятлы, нішто іншае, як злаўмысная шкода. Герміёна, якая па ранейшаму была пераканана, што зрабіла правільна, пачала пазбягаць грыфіндорскай гасцёўні. Гары з Ронам былі ўпэўнены, што яна сядзіць ў бібліятэцы, але нават не збіраліся ўгаворваць яе вярнуцца. І яны былі вельмі рады таму, што пасля новага году ў школу пачалі вяртацца людзі і ў гасцёўне зноўку стала шумна.

Вуд знайшоў Гары ў ноч перад пачаткам сэместра.

- Як адсвяткаваў Божае нараджэнне?- спытаўся ён і не дачакаўшыся адказу прысеў і зцішыўшы голас прамовіў.- Слухай, я тут паразважаў падчас вакацыяў, Гары. Пасля апошняга матчу... Калі дэментары аб’явяцца зноў... разумееш аб чым я... мы не можам дазволіць, каб ты... ну...

Вуд супыніўся, паязліва гледзячы на хлопца.

- З гэтым усё добра,- хутка адказаў Гары.- Прафесар Люпін паабяцаў навучыць мяне замове, якой можна адагнаць дэментараў. На гэтым тыдні мы з прафесарам пачнем вывучаць яе, ён паабяцаў, што мы пачнем пасля калядных вакацыяў.

- Уфф,- прамовіў Олівер, імгненна супакоіўшыся.- Ну, калі так... я сапраўды не хачу страціць такога Паляўнічага, як ты Гары. А ці ты ўжо замовіў сабе новую мятлу?

- Ані,- адказаў хлопчык.

- Што! Табе трэба паспяшацца... Ты ж сам разумееш, што не зможаш змагацца супраць Рэйвенкло на Метэоры!

- Яму падаравалі на Каляды Вогненную Стралу!- паведаміў Рон.

- Вогненную Стралу? Не! Сур’ёзна? Сапраўдную... Вогненную Стралу?

- Няма з чаго радавацца, Олівер,- змрочна прамовіў Гары,- яе ў мяне ўжо няма. Стралу канфіскавалі.- і ён распавёў Вуду аб тым, што зараз Вогненную Стралу правяраюць на адсутнасць сурогаў.

- Сурогі? Хто мог сурочыць яе?

- Сірыюс Блэк,- маркотна адказаў Гары.- Мяркуюць, што зараз ён палюе на мяне. Прафесарка МакГонагал лічыць, што ён мог сурочыць мятлу.

- Але ж Блэк не ў стане набыць Вогненную Стралу,- усхваляваны навіною, аб тым, што за яго Паляўнічым віжуе знакаміты злачынца.- Ён жа ўва ўцёках! Яго шукае ўся краіна! Ня мог жа ён вось так вось зайсці ў Найякаснейшыя Прылады для Квідытча і набыць яе?

- Ведаю,- адказаў Гары.- Але прафесарка МакГонагал ўсё-ткі жадае разабраць яе...

Вуд збляднеў.

- Я паразмаўляю ў ёй, Гары,- паабяцаў ён.- Я пераканаю яе... Страла... сапраўдная Вогненная Страла ў нашай камандзе... калі яна жадае перамогі Грыфіндору, так як мы... Я дакладна пераканаю яе... Вогненная Стала...

*

Наступным днём пачаліся заняткі. Апошняе, чаго хацелася вучням халоднай студзеньскай раніцай, гэта правесці дзве гадзіны на вуліцы, але да іх задавальнення, Хагрыд развёў вялізнае вогнішча поўнае саламандраў і яны ўвесь урок правялі за зборам сухой лістоты для падтрымання полымя па якому сюды-туда бегалі гэтыя вагнелюбівыя яшчаркі. Але першы занятак па Вяшчунству быў зусім не такім задавальняльным. Прафесарка Трэлані пачала вучыць іх хірамантыі і не губляючы шмат часу паведаміла, што ў Гары самая закароткая лінія жыцця з тых, што яна калісь бачыла.

Гары жадаў, каб як мага найхутчэй пачаліся новыя заняткі па Абароне ад Цёмных Мастацтваў, а пасля размовы з Вудам, з яшчэ большай ўпартасцю жадаў як мага найхутчэй распачаць свае анты-дэментараўскія заняткі.

- Так, я памятаю,- паведаміў Люпін, калі пасля яго першага ў гэтым сэместры ўроку, Гары нагадаў яму аб абяцанке.- Дай падумаць... як наконт сстрэцца а восьмай вечара ў чацвер? Кабінэт па Гісторыі Магіі, як раз прыдатны дзеля гэтага з-за сваіх вялізных памераў... І трэба будзе вырашыць як мы будзем трэніявацца... Не прыводзіць жа для практыкавання сапраўднага дэментара...

- Ён выглядае даволі хваравіта,- заўважыў Рон, калі яны разам рушылі па калідоры на абед.- Як думаеш, што з ім насамрэч сталася?

- Вууух!- раптоўна пачулі яны за сваёй спіной. Гэта была, Герміёна, якая сядзела на падлозе, каля нейкіх даспехаў і імкнулася зачыніць перапоўненную падручнікамі торбу.

- А хто тут у нас вухае?- нахіляючыся, спытаўся Рон.

- Аніхто!- фанабэрыста адказала дзяўчынка кідаючы цяжкую торбу праз плячо.

- А, гэта ты,- прамовіў Рон.- А мы тут разважалі, што здарылася з Люпіным, як лічыш...

- Хіба, гэта не відавочна?- адказала тая, выглядаючы бы з’яжджае з глузду ад перавагі.

- Не жадаеш размаўляць, ня трэба,- адгыркнуўся Рон.

- Супэр,- напышліва паведаміла Герміёна і рушыла прэчкі.

- Яна ня ведае,- абурана гледзячы ёй ў след, сказаў Рон.- Папросту прымушае нас, зноў распачаць з ёй размаўляць.

*

У чацвер, а восьмай вечара, Гары пакінуў Грыфіндорскую вежу і накіраваўся да кабінэту па Гісторыі Магіі. Усярэдзіне было цёмна і пуста, таму ён запаліў святло і прыняўся чакаць. Не мінула і пяці хвілінаў, як у кабінэт завітаў і прафесар Люпін несучы ў руках вялізную скрыню, якую ён паклаў на стол прафесара Бінса.

- Што там?- спытаўся Гары.

- Яшчэ адзін богарт,- адказаў прафесар Люпін, здымаючы плашч.- я пачаў прачэсваць замак яшчэ з моманту той нашай размовы ў аўторак і па шчасці знайшоў яго ў адной з шаф у каморы містэра Філча. Гэта самая падобная да дэментара істота, дакладней стане такой, калі ўбачыць цябе і мы зможам папрактыкавацца. А яго можна ў мяне ў кабінэце, думаю адна з шуфлядак майго стала яму вельмі спадабаецца.

- Выдатна, адказаў Гары, робячы выгляд, што наогул не баіцца, а толькі рады, што прафесар знайшоў гэткую добрую замену сапраўднаму дэментару.

- Добра...- прафесар Люпін выцягнуў з кішэні сваю палачку і знакам паказаў Гары зрабіць тое ж самае.- Замова, якой я паспрабую цябе зараз навучыць належыць да галіны прасунутай магіі, Гары і далёка выходзіць па-за межы ўзроўню звычайнага чарадзейства. Гата замаўленне Патронуса.

- А як яна працуе?- знервавана спытаўся Гары.

- Ну, калі ты зробіш ўсё правільна, гэта прывядзе да з’яўлення Патронуса,- адказаў Люпін,- які з’яўляецца своеасаблівым... ахоўнікам супраць дэментара і дзейнічае бы шчыт паміж ім і табой.

Гары раптоўна ўявіў сабе седзячым па-за спіною ў істоты памерам з Хагрыда, якая трымала ў руках вялізную доўбню.

- Патронус,- працягваў прафесар,- з’яўляецца чымсь накшталт светлай сілы, своеасабовай праекцыяй таго, чым сілкуюцца дэментары - шчасця, надзеі, жадання выжыць і ў адрозненні ад жывых людзей, яна не ў стане пакутаваць, таму дэментары і не могуць пашкодзіць ёй. Але адразу павінен папярэдзіць табе, што гэтая замова можа быць заскладанай для цябе. З ёй мае праблемы шмат хто з высокакваліфікаваных чараўнікоў.

- А як выглядае Патронус?- зацікаўлена спытаўся хлопчык.

- Кожны з іх ўнікален і залежыць ад чараўніка, які яго выклікаў.

- А як яго выклікаць?

- Замова спрацуе толькі ў тым выпадку, калі ты з усяе моцы засяродзішся на якімсь найшчаслівейшым моманце ў тваім жыцці.

Гары пачаў прыпамінаць свае самыя шчаслівыя ўраджанні. Вядома ж гэта не было чымсьці звязаным з Дурслі. Нарэшце, ён вырашыў засяродзіцца на сваім першым палёце на мятле.

- Гатовы,- прамовіў ён, пытаючыся, як мага дакладней прыпомніць прыемнае адчуванне ў жываце ад рэзкага пад’ёму.

- А цяпер паўтарай...- Люпін прачысціў горла.- Экспекта Патронум!

- Экспекта Патронум,- прамармытаў Гары сабе пад нос.- Экспекта Патронум.

- Ты моцна сканцэнтраваўся на сваім шчаслівым успаміне?

- А... так...- адказаў Гары, хутка прымусіўшы свае думкі вярнуцца да свайго першага палёту.- Экспекта патрона... аёйку, Патронум... прабачце... экспекта патронум, экспекта патронум...

Нешта падобнае на пучок срэбнага газу выслізнула з кончыку яго палачкі.

- Ці вы бачылі гэта?- усхвалявана прамовіў Гары.- У мяне нешта атрымалася!

- Выдатна,- усміхаючыся адказаў Люпін.- А цяпер... ці ты гатовы паспрабаваць з дэментарам?

- Так,- прамовіў Гары і шчыльна сціснуўшы палачку рушыў на сярэдзіну пакою. Ён з ўсёй сілы стараўся трымаць у сваім розуме думку аб палёце, але нейкі іншы ўспамін пранікаў ў яго розум... у любое імгненне ён мог пачуць лямант сваёй маці... але ён не павінен думаць аб гэтым... ён не жадае гэтага... ці жадае?

Люпін схапіў скрыню за вечка і рэзка адчыніў.

Дэментар павольна падняўся са скрыні і павярнуў да Гары свой схаваны пад каптуром твар, схаваўшы ў рукаве склізкую  шалудзівую руку. Лампы, што асвячалі пакой пачалі мігацець, а потым увогуле згаслі. Істота выйшла са скрыні і паслізгацела ў Гарыным напрамку, робячы глыбокі бразгочучы подых. Над хлопцам пралунала хваля холаду...

- Экспекта Патронум!- загаласіў Гары.- Экспекта патронум! Экспекта...

Але нечакана клас і дэментар растварыліся... Гары зноўку падаў у густую белую смугу, а ў галаве гучней чым калісь пачуўся лямант яго маці...

«Не яго! Не Гары! Калі ласка... я ўсё зраблю...»

«Адсунься... адсунься, дзеўка...»

- Гары!

Гары штуршком павярнуўся да жыцця. Ён ляжаў спіной на падлоге. Лямпы зноўку яскрава гарэлі. Гары ня трэба было пытацца, што здарылася.

- Прабачце,- замармытаў ён сядаючы, па яго твары цяклі струменчыкі халоднага поту.

- З табою ўсё добра?- спытаўся Люпін.

- Так...- Гары ўзняўся на ногі і прытуліўся да аднаго са сталоў.

- Трымай...- Люпін працягнуў яму шакаладную жабку.- з’еш перш чым мы паспрабуем зноў. Я і не чакаў, што ў цябе з першага разу штось атрымаецца. Я б моцна здзівіўся, калі б гэтак сталася.

- З кожнам разам ўсё яшчэ больш згоршваецца,- прамармытаў Гары, адкусваючы галаву жабке.- Я чуў яе голас гучней чым ў мінулы раз... і яго... Вальдэморта таксама...

Люпін выглядаў блядней, чым звычайна.

- Гары, калі ты не жадаеш працягваць, я цябе больш чым разумею...

- Не, я буду працягваць!- люта прамовіў Гары, кідаючы ў рот рэшткі шакаладнай жабкі.- Я павінен гэта зрабіць! Што калі дэментары зноўку аб’явяцца падчас нашай гульні супраць Рэйвенкло? Я не магу дазволіць сябе шчэ раз зваліцца з мятлы. Калі мы прайграем гэту гульню, мы прайграем Кубак Квідытча!

- Балазе...- сказаў прафесар.- магчыма ты пажадаеш засяродзіца на якімсь іншым моманце, я маю на ўвазе шчаслівы момант... папярэдні, здаецца, быў не настолькі моцным...

Гары задумаўся. Ён вырашыў, што ўяўленне канчатковага выйгрыша Грыфіндорскага Дому напрыканцы года, будзе самымай найшчаслівейшай з яго думак. Ён зноў шчыльна схапіў сваю палачку і заняў сваё месца пасярэдзіне пакою.

- Гатовы?- спытаўся Люпін трымаючы за вечка скрыні.

- Гатовы,- адказаў Гары, з усёй моцы імкнучыся засяродзецца на мрое аб перамозе Грыфіндору, а не цёмных думках аб тым, што здарыцца, калі адкрыецца вечка.

- Пайшоў!- крыкнуў прафесар, выпускаючы богарта. Пакой зноўку напоўніўся холадам і цемрай. Дэментар зноў слізгануў наперад з бразгатаннем ўцягваючы ў сабе паветра і накіраваўшы на Гары сваю гнілую руку...

- Экспекта Патронум!- крыкнуў хлопец.- Экспекта Патронум! Экспекта пат...

Белая смуга зноўку ахутала яго свядомасць... вялізныя, размытыя абрысы рухаліся вакол Гары... потым адчуўся новы голас, мужчынскі, ён панікуючы крычаў...

«Лілі, вазьмі Гары і бяжы! Ён тут! Спяшайся! Я паспрабую стрымаць яго...

Нехта спатыкаючыся выбег з пакою... потым з грукатам адчыніліся дзверы... і нехта пранізліва зарагатаў...

- Гары! Гары... ачуняй...

Люпін моцна пляскаў яго па твары. У гэты раз мінула хвіліна пакуль хлопчык зразумеў, што ляжыць на пыльнай падлозе класнага пакою.

- Я чуў тату,- прамармытаў Гары.- Гэта быў першы раз, калі я яго пачуў... ён спрабаваў засяродзіць Вальдэморта на сабе, каб даць маці час на ўцёкі...

Гары раптам зразумеў, што пот на яго твары змяшаны са слязмі. Ён на колькі гэта было магчыма схіліўся і выцер іх аб сваю мантыю, пры гэтым робячы выгляд, што завязвае матузок, каб не заўважыў Люпін.

- Ты чуў Джэймса?- дзіўным голасам спытаўся настаўнік.

- Так...- твар ўрэшце стаў сухім, Гары падняў вочы.- А чаму... Хіба вы ведалі майго тату?

- Я... я ведаў,- адказаў Люпін.- Мы былі сябрамі пад час вучобы ў Хогвартсе. Слухай, Гары... можа годзе на сёння. Гэтая замова неверагодна складаная... я не павінен быў праводзіць табе...

- Не!- адказаў Гары. Ён зноўку выпрастаўся.- Я хачу паспрабаваць яшчэ раз! Можа справа ў тым, што я не думаю аб шчаслівых думках... дастаткова шчаслівых...

Ён напружыў свой розум. Самая, самая шчаслівая думка... хоць адна, з якой мог бы атрымацца добры, моцны Патронус...

Момант, калі ён ўпершыню даведаўся, што з’яўляецца чараўнікам і пакіне Дурслі, каб накіравацца ў Хогвартс! Калі гэты ўспамін не самая шчаслівая думка ў яго жыцці, то што ж яшчэ... Ён наймоцна засяродзіўся, успамінаючы свае пачуцці, калі ён зразумеў, што пакідае Прайвет Драйв. Гары моцна ўстаў на ногі і паглядзеў на скрыню.

- Гатовы?- спытаўся Люпін, выглядаючы ў гэты момант так, бы рабіў нешта супрацлеглае цвярозаму розуму.- Моцна сканцэнтраваўся? Добра... пайшоў!

Ён ў трэці раз зняў вечка са скрыні, у пакоі зноў стала цёмна і халодна, а са скрыні аб’явіўся дэментар...

- ЭКСПЕКТА ПАТРОНУМ!- зароў Гары.- ЭКСПЕКТА ПАТРОНУМ! ЭКСПЕКТА ПАТРОНУМ!

У галаве Гары зноў адчуліся крыкі... але ў гэты раз быццам даносіліся з дрэнна наладжанага радыё. Цішэй, мацней, зноўку цішэй... ён ўсё яшчэ мог бачыць дэментара... той спыніўся... потым штось накшталт срэбранай цені вырвалася з Гарынай палачцы і залунала паміж хлопцам і пачварай. Гары адчуваў, быццам яго ногі сталі ватнымі, але ён ўсё ткі трымася на іх, хаця не быў упэўнены, ці доўга так будзе...

- Рыдзікулюс!- зароў Люпін, саступаючы наперад.

Адчуўся свіст бізуна і Гарын хмарны Патронус знік разам з дэментарам. Хлопчык апусціўся на крэсла, адчуваючы сябе настолькі стомленным, бы толькі што прабег цэлую мілю, яго ногі дрыжалі. Краешкам вока ён бачыў, як прафесар прымушае сваёй палачкай богарта, які на гэты раз ператварыўся на срэбраны шар, залезці назад у скрыню.

- Выдатна!- прамовіў Люпін ідучы туды, дзе сядзеў Гары.- Выдатна, Гары! Гэта быў ашаламляльны пачатак!

- Ці можам мы паспрабаваць яшчэ раз? Хоць крышачку?

- Ані.- цвёрда сказаў прафесар.- На сёння табе до. Трымай...

Ён працягнуў хлопцу вялізную плітку лепшага шакаладу з Мядовага Герцага.

- З’еш ўсё, ці мадам Помфры павыпівае ўсю маю кроў. Праз тыдзень ў гэты ж час, згода?

- Угу,- сказаў Гары. Гледзячы на то, як Люпін гасіць святло, запаліўшаеся пасля знікнення фальшывага дэментара, ён адкусіў ад пліткі кавалачак. Раптоўна ў яго галаву прыйшла думка.

- Прафесар?- спытаўся ён,- калі вы ведалі майго бацьку, вы павінны былі таксама ведаць і Сірыюса Блэка.

Люпін, хутка развярнуўся ў яго бок.

- Чаму ты так вырашыў?- рэзка прамовіў ён.

- Не, нічога... то бок... яны ж былі сябрамі, калі вучыліся ў Хогвартсе...

Прафесар імгненна супакоіўся.

- Так, я ведаў яго,- хутка сказаў ён.- Дакладней казаць, думаў, што ведаў яго. Табе лепей ісці, Гары, ўжо запозна.

Гары пакінуў кабінет і рушыў ўздоўж калідору, завярнуў за вугал і прысеўшы на пастаменце на якім стаялі нейкія даспехі, прысеў, каб дакончыць свой шакалад. Калі б ён не ўзгадваў аб Блэку, Люпін адразу ж рабіў выгляд, што яго не цікавіць гэтая тэма. Потым думкі хлопца зноў перайшлі да бацькоў...

Ён адчуваў смагу і дзікі голад, ня гледзячы на тое, што толькі што з’еў вялікую колькасць шакаладу. Кашмар падчас якога ён чуў галасы бацькоў ў апошнія хвіліны іх жыцця, пэўна былі ўспамінам, аб перажытым у той час, калі ён быў яшчэ немаўлём. Але ён ніколі ў жыцці не вызаве добрага Патронуса, калі коць на хвіліну пажадае пачуць іх ізноў...

- Яны памерлі,- сувора прамовіў ён сам сабе,- і слухаючы рэха іх галасоў, ты не ўваскасіш іх. А калі жадаеш атрымаць квідытчны кубак, табе трэба трымаць над сабою кантроль.

Ён падняўся, запхнуў у рот апошні кавалачак шакаладу і накіраваўся ў Грыфіндорскую вежу.

*

Гульня Рэйвенкло са Слізэрынам адбылася праз тыдзень апасля пачатку сэместра і слізэрынцы, хай і з невялічкай перавагаю, але выйгралі. Паводле слоў Вуда, гэта было добрай навіною для Грыфіндора і яны абавязкова займуць другое месца, калі таксама абыграюць Рэйвенкло. Ён павялічыў колькасць трэніровак да пяці на тыдзень. А ў купе з антыдэментараўскімі заняткамі з прафесарам Люпіным, атрымоўвалася, што шэсць дзён тыдня Гары траціў на падрыхтоўку да квідытчнага матчу і толькі адзін вечар на падрыхтоўку свайго хатняга задання. Ня гледзячы на гэта, яго нагрузкі былі нашмат меншыя чым у Герміёны, якая ледзь спраўлялася са сваімі дадатковымі заняткамі. Штовечары яе можна было заўважыць седзячай дзесь ў куточку ў грыфіндорскай гасцёўне, расклаўшай адразу на некалькіх сталах падручнікі, скруткі пергаменту, нумералагічныя карты, слоўнікі рун, схематычныя выявы спосабаў пад’ёму цяжкіх прадметаў ужываемых магламі, а таксама стосамі агульных сшыткаў. Яна ані з кім не размаўляла і гыркала, калі хтось адцягваў яе ўвагу.

- Як ў яе гэта атрымліваецца?- спытаўся Рон ў Гары, які седзячы ў гасцёўне пісаў дзеля Снэйпа сачыненне аб невыяўляемых атрутах. Гары падняў вочы. Дзяўчынку было ледзве бачна за хістаючыміся стосамі кніг.

- Атрымліваецца што?

- Быць на ўсіх гэтых занятках!- адказаў Рон.- Гэтай раніцай я чуў, як яна размаўляе з прафесаркай Вектар, якая выкладае Нумералогію. Яны абмяркоўвалі ўчорашні ўрок, але яна не магла там быць бо ў гэты ж самы момант яна была з намі на Доглядзе за Магічнымі Істотамі! А Эрні МакМілан, кажа, што яна заўжды прысутнічае на занятках па Маглазнаўству, але ж палова з іх ідзе адначасова з Вяшчунствам, а яна не прапускала ані аднаго ўроку!

У Гары не было часу на тое, каб разважаць над таямніцамі неверагоднага графіку Герміёны, бо яму неабходна было скончыць сачыненне для Снэйпа. Але ўжо праз дзве секунды, ён быў перапынены Вудам.

- Благія навіны, Гары. Я толькі што размаўляў з прафесаркай МакГонагал пра Вогненную Стралу. Яна... эээ... размаўляла са мною крыху раздражнёным тонам. Казала, што я не правільна расстаўляю прыярытэты і, што я болей клапочуся аб выйгрышы Кубку, а не аб тваім жыцці. Усё таму, што я сказаў ёй, што мне ўсёроўна скіне цябе мятла ці не, калі раней ты зловіш сніч.- Вуд здзіўлена пахістаў галавою.- А як, яна крычала на мяне... быццам я сказаў ёй нешта жахлівае. Тады я спытаўся ў яе, як доўга яна шчэ будзе трымаць яе на тэставанні.- Олівер зморшчыўся і капіруючы голас прафесаркі прамовіў.-»Столькі, колькі будзе патрэбна, Вуд!»... Здаецца, Гары, табе прыйдзецца замаўляць іншую мятлу. Вось тут на зваротным баку «Мёцел на Любы густ» ёсць бланк замовы. Як наконт Німбуса 2001, як у Малфоя?

- Я не буду лятаць на тым жа, што і Малфой, згода,- адрэзаў Гары.

*

Студзень незаўважна перайшоў у люты, што аніяк не паўспрыяла на жахліва халоднае надвор'е. Набліжалася гульня з Рэвенкло, а Гары так і не замовіў сабе новай мятлы. Таперча ён пытаўся ў прафесаркі МакГонагал аб навінах пра Вогненную Стралу пасля кожнага занятку па Ператварэннях, Рон з надзеяй у вачах стаяў за яго спіною, а Герміёна не падымаючы вачэй рушыла міма іх.

- Ані, Потэр,- нават не дачакаўшыся пытання адказала прафесарка, калі яны падыйшлі да яе ў дванаццаты раз,- пакуль вы не можаце яе забраць. Мы ўжо праверылі яе на большасць звычайных праклёнаў, але прафесар Флітвік мяркуе, што на яе маглі накласці Скідавальны Сурог. Я паведамлю вам, калі мы скончым праверку. А зараз, калі ласка кінце даймацца да мяне.

Да таго ж яго антыдэментараўскія заняткі ішлі не настолькі добра, як ён таго жадаў. На працягу ўсіх заняткаў, адзінае чаго ён мог дасягнуць - невыразны срабрысты цень, які ўзнікаў штораз, калі богарт-дэментар набліжаўся да яго, але гэты Патронус, быў надта слабы, каб адагнаць пачвару. Ён папросту вісеў у паветры ў выглядзе паўпразрыстай хмаркі і неверагодна стачваў Гарыну энэргію. Да таго ж хлопчык злаваўся сам на сабе, абвінавачваючы ў тым, што ўпотай жадае зноў пачуць галасы бацькоў.

- Ты чакаеш ад сябе зашмат.- сувора прамовіў прафесар Люпін на чацвёртым занятку.- Для трынаццацігадовага чараўніка, нават недакладны Патронус – гэта вялізарнае дасягненне. Ты больш не губляеш прытомнасць?

- Я думаў што Патронус... атакуе дэментара,- маркотна сказаў Гары,- ці робіць нешта падобнае. Я хачу, каб яны зніклі...

- Сапраўдны Патронус гэдак і робіць,- адказаў Люпін.- Але ты і так дасягнуў значных поспехаў, за даволі кароткі час. Калі дэментары з'явяцца на полі ў чарговы раз, нават гэтага хопіць, каб на працяглы тэрмін напужаць іх, а ты тым часам, паспееш вярнуцца на зямлю.

- Вы казалі, што калі іх шмат гэта зрабіць значна цяжэй,- сказаў Гары.

- Я веру ў цябе,- усміхнуўся Люпін.- Вось, трымай... ты заслужыў напой, які гатуюць у Трох Мётлах і табе гэтага шчэ не даводзілася спрабаваць...

Ён выцягнуў са свайго партфеля дзве бутэлькі.

- Вяршковае піва!- не задумваючыся прамовіў Гары.- Яно мне вельмі падабаецца!

Люпін здзіўлена падняў адну броў.

- Так... Рон з Герміёнаю прыносілі мне яго,- імгненна схлусіў Гары,- калі былі ў Хогсмідзе.

- А, ну так,- прамовіў прафесар, але было бачна, што ён па ранейшаму, крыху сумняваецца.- Тады... давай вып'ем за перамогу Грыфіндора над Рэйвенкло. Хаця я, як настаўнік не павінен прымаць нечый бок...- паспешліва дадаў ён.

Яны моўчкі пілі вяршковае піва колькі часу пакуль Гары не закарцела задаць пытанне, што заўжды цікавіла яго.

- А што ў іх пад каптуром?

Прафесар Люпін задумліва апусціў бутэльку.

- Хммм... тыя людзі, якія дакладна гэта ведаюць, ня ў стане аб чымсці паведаміць. Справа ў тым, што дэментар здымае свой каптур, толькі каб скарыстацца самым найжахлівейшым з катаванняў.

- Якім?

- Яны называюць гэта Пацалункам дэментара,- з крывой усмешкай паведаміў Люпін.- Дэментары робяць так з тымі, каго жадаюць знішчыць цалкова. Мяркую, што там павінна быць нешта накшталт рота, бо яны прыціскаюць свае сківіцы да вуснаў ахвяры каб... каб высмактаць яе душу.

Гары незнарок выплюнуў крыху вяршковага піва.

- Яны... яны іх забіваюць..?

- Ані,- адказаў прафесар.- Значна горш. Ты можаў існаваць без душы, пакуль працуе твой мозг і сэрца. Але ты больш не будзеш мець ані пачуццяў, ані ўспамінаў, ані... чагось іншага. І не будзеш мець шанцу вылекавацца. Ты папросту будзеш... існаваць. Як пустая абалонка. А твая душа будзе згублена... назаўжды.

- Гэта лёс,- зрабіўшы яшчэ невялічкі глыток піва паведаміў Люпін,- які чакае Сірыюса Блэка. Сёння ранніцай у Штодзённым Вяшчуне напісалі, што міністэрства магіі дало дазвол дэментарам на скарыстанне гэтага катавання, калі яны зловяць яго.

Гары сядзеў ашаломлены адной толькі думкаю пра тое, што ў кагось могуць высмактаць душу праз рот. Але тут ён падумаў аб Блэку.

- Ён заслугоўвае гэта,- раптоўна сказаў хлопчык.

- Мяркуеш?- не задумваючыся спытаўся прафесар.- Лічыш, што хтосьці можа заслугоўваць гэтага?

- Так,- абурана адказаў Гары.- За... тыя яго дзеянні...

Ён хацеў распавесці прафесару Люпіну аб тым, што пачуў у Трох Мётлах, пра здраду Блэкам яго бацькоў, але гэта прывяло б да раскрыцця таго, што ён ўпотай наведваў Хогсмід і ведаў, што настаўнік ня будзе гэтым надта ўражаны. Таму ён дапіў сваё вяршковае піва, падзякваў Люпіну і паспяшаўся пакінуць кабінет.

Гары часткова пашкадаваў, што задаў прафесару пытанне аб тым, што знаходзіцца пад каптуром у дэментараў. Адказ быў настолькі жахлівым, што ўвесь час, што ён рушыў з класу па Гісторыі Магіі хлопчык разважаў, як будзе адчуваць сябе той у каго высмакталі душу і нават не заўважыў як натрапіў галавою на прафесарку МакГонагал, калі падымаўся па сходах.

- Ці не маглі б вы глядзець, куды ідзецё, Потэр?

- Прабачце, мадам прафесар...

- Я ўжо збіралася ісці, шукаць вас ў грыфіндорскай гасцёўне. Дык вось, мы зрабілі ўсё, што змаглі прыпомніць і мяркуем, што нічога дрэннага там няма... у вас аб’явіўся нейкі надта добры сябра, Потэр...

Гары раззявіў рота. Прафесарка трымала ў руках Вогненную Стралу і выглядала напышлівай, як ніколі.

- Я магу яе забраць?- ціха мовіў Гары.- Насамрэч?

- Насамрэч,- усміхаючыся адказала МакГонагал.- І адважуся нагадаць, што табе яшчэ трэба прызвычацца да яе, перад суботнім матчам, згодзен? І яшчэ, Потэр, зрабіце ўсё магчымае, каб перамагці. Ці мы застанемся без Кубку восьмы год запар, як мне ўчора ўвечары ласкава нагадаў прафесар Снэйп...

Знямеўшы, Гары узяў Вогненную стралу і панёс ў Грыфіндорскую Вежу. Калі ён завярнуў за вугал ён ўбачыў Рона, які кінуўся да яго, усміхаючыся ад вуха да вуха.

- Яна вярнула яе? Выдатна! Слухай, а ці можна я таксама паспрабую яе? Заўтра.

- Так... канечне ж,- адказаў Гары, на яго сэрцы запанавала палёгка, упершыню з мінулага месяца.- Ведаеш... нам трэба памірыцца з Герміёнаю. Яна жадала зрабіць, як лепей...

- Так, зразумела,- адказаў Рон,- яна зараз ў гасцёўне. Бавіць час за працай.

Яны рушылі па калідоры да Грыфіндорскай Вежы і заўважылі перад ўваходам Нэвіла Лонгботама, які ўмольваў сэра Кэдагана прапусціць яго.

- Я запісаў іх усе,- ажно плакаў Нэвіл,- але напэўна дзесь згубіў!

- Цікавая казачка!- равеў сэр Кэдаган. Тут ён пабачыў Гары і Рона.- Дабравеч, мае юныя дружакі! Дапамажыце мне запраторыць гэтага дзецюка ў кайданы, ён спрабаваў ўварвацца ўсярэдзіну!

- Вох, змоўч!- прамовіў Рон, калі яны з Гары падыйшлі да Нэвіла.

- Я згубіў усе паролі!- тужыў Нэвіл.- Я здабыў у яго ўсе паролі на тыдзень, бо ён іх штораз мяняе, а цяпер ня ведаю, куды іх падзеў!

- Шыла Божае!- сказаў Гары сэру Кэдагану, які быў злёгку расчараваны і неахвотна ад’ехаў, каб прапусціць іх у гасцёўню. Па пакоі пранесся ўсхваляваны шоргат

павяртаючыхся ў іх бок галоў і ў наступнае імгненне Гары быў абступлены іншымі вучнямі, які ўсклікаючы пазіралі на яго Вогненную Стралу.

- Дзе ты яе ўзяў, Гары?

- А палётаць даш?

- Ты ўжо спрабаваў яе?

- Рэйвенкло са сваімі Перамогамі 7 ані ня маюць шанцу!

- А ці можна яе патрымаць, Гары?

Мінула хвілінаў дзесяць, пакуль ўсе жадаючыя, якія павыскоквалі з кожнага кутку, надзівіліся на Вогненную Стралу. Калі натоўп рассеяўся Гары і Рон нарэшце заўважылі Герміёну. Яна не падбегла ў захапленні на іх, а не падымаючы вочы схілілася над працай. Толькі пасля таго, як хлопцы наблізіліся да яе стала, яна падняла вочы.

- Мне вярнулі яе,- усміхаючыся прамовіў Гары, трымаючы Стралу перад сабой.

- І ці ведаеш, Герміёна, з ёй не было анічога благога,- дадаў Рон.

- Так, але магло быць,- адказала Герміёна.- Я маю на ўвазе, што цяпер ты дакладна ведаш, што яна бяспечная!

- Дзяк, я лічу, што ты зрабіла ўсё правільна,- адказаў Гары,- а цяпер я лепей пакладу яе ў сваім пакоі...

- Я закіну!- з імпэтам прапанаваў Рон.- Мне як раз трэба даць Скаберсу, яго пацучыны тонік.

Ён ўзяў Вогненную Стралу і, трымаючы яе так, нібы мятла была шкляной, падняўся па сходах у хлапчыную спальню.

- Ці можна мне прысесці?- спытаў у Герміёны Гары.

- Мяркую што так- адказала Герміёна прымаючы з крэсла вялізную груду пергаменту.

Гары азірнуў загрувашчаны стол на якім ляжала даўжэзнае сачыненне па Нумералогіі, якое яшчэ дагэтуль паблісківала чарніламі; на яшчэ больш доўгае сачыненне па Маглазнаўству «Навошта маглам патрэбна электрычнасць» і на пераклад з Рунаў над якім зараз разважала дзяўчынка.

- Як у цябе атрымліваецца ўсё гэта рабіць?- спытаўся Гары.

- Ну... ведаеш... я шмат працую,- адказала яна. Зірнуўшы на яе, хлопчык заўважыў, што Герміёна выглядае настолькі ж стомленай, як і прафесар Люпін.

- Чаму б цябе не адмовіцца ад пары прадметаў?- прамовіў Гары, назіраючы, як Герміёна перакладвае кнігі ў пошуках слоўніка рун.

- Я не магу гэтага зрабіць!- сшакавана гледзячы на яго адказала Герміёна.

- Нумералогія – сапраўдны жах,- сказаў Гары, трымаючы ў руках вельмі складана выглядаючую дыяграму.

- Аёйку, не, яна цудоўная!- шчыра адказала дзяўчынка.- Гэта ўвогуле мой ўлюбёны прадмет. Яна...

Але даведацца чым так цікава Нумералогія Гары не паспеў. Бо у гэты момант задушлівы лямант рэхам данесся з хлапчынай спальні. Усе прысутныя моўчкі ўтаропіліся на ўваход да пакою. Адчуліся таропкія крокі, гучней, яшчэ гучней... і тут з пакою выскочуў Рон трымаючы ў руках прасціну.

- ЗІРНІ!- заравеў ён, накіроўваючыся да стала за якім сядзела Герміёна.- ЗІРНІ!- залямантаваў ён трасучы прасцінаю перад яе тварам.

- Рон, што..?

- СКАБЕРС! ГЛЯДЗІ! СКАБЕРС!

Герміёна разгублена адхілілася ад Рона. Гары зірнуў на прасціну, якую трымаў у руках Рон, тая была заляпана нечым чырвоным. І гэта нешта выглядала жахліва, як...

- КРОЎ!- у аглушальнай цішыні раздаваліся ляманты Рона.- ЁН ЗНІК! І ЦІ ВЕДАЕШ, ШТО ЛЯЖАЛА НА ПАДЛОЗЕ?

- Н-не,- з жахам ў голасе прамовіла дзяўчынка.

Рон нешта кінуў ўніз на Герміёнін пераклад з рун. Гары і яна нахіліліся. На пергаменце дзіўнай, востраканцовай фігурай ляжалі колькі доўгіх рудых кацiных валаскоў.

## — РАЗДЗЕЛ XIII —

## *Грыфіндор супраць Рэйвенкло*

Складалася ўражэнне, што сяброўству Рона і Герміёны надыйшоў канец. Абодва настолькі люта глядзелі адно на аднаго, што Гары і спадзявацца кінуў, што яны калі-небудзь памірацца.

Рон быў раззлаваны на Герміёну за тое, што яна абыякава ставілася да спробаў Крукшанса з'есці Скаберса і не пільнавала яго досыць добра. Больш таго нават зараз рабіла выгляд, што анічога не здарылася і прапаноўвала Рону ўважліва пашукаць пацука пад ложкамі ў іх спальне. Герміёна ж з адваротнага боку злавалася на Рона і абвінавачвала яго ў тым, што той ня мае надзейных доказаў супраць Крукшанса, што яго поўсць магла застацца там яшчэ з Калядаў і ў тым, што той блага ставілся да ката з тых самых часоў, як Крукшанс прызямліўся яму на галаву ў Чарадзейным звярынцы.

Гары і сам быў ўпэўнены, што Крукшанс скаштававаў Скаберса, але калі ён спрабаваў паведаміць Герміёне, што ёсць ўсе доказы кацінага злачынства, у адказ Герміёна таксама абурылася і на яго.

- Добра, я ведаю, што ты на адным баку з Ронам!- пранізліва сказала яна.- Спачатку Вогненная Страла, потым Скаберс, добра я ўва ўсім вінавата! І пакінь мяне ў супакоі, Гары, мне трэба зрабіць шмат якой працы!

Рон сапраўды вельмі цяжка перажыў страту свайго ўлюбёнца.

- Годзе, Рон,- спрабаваў падбадзёрыць яго Фрэд,- ты ж сам жаліўся, што Скаберс стаў нейкім маркотным, згубіў свой колер ад узросту і пачаў чэзнуць. Мо і да лепшага, што ён памёр гэдак хутка, адзін глыток і... яго няма.

- Фрэд!- абурана ўсклікнула Джыні.

- Ты сам казаў,- дадаў Джордж,- што ён толькі і рабіў, што еў ды спаў.

- Неяк ён кусіў Гойла!- сумна прамовіў Рон.- Ці ты памятаеш, Гары?

- Так, зразумела,- адказаў Гары.

- Гэта быў яго зорны час,- заўважыў Фрэд, з усяе моцы намагаючыся захаваць спакойны твар.- Хай шнар на пальцы Гойла паслужыць трывалай данінай яго памяці. Ёйку, Рон, калі ў наступны раз будзеш наведваць Хогсмід набудзеш сабе новага пацука. Годзе стагнаць.

Нарэшце, адчаяўшыся падняць настрой Рону іншым спосабам, Гары перакапаў яго наведаць апошнюю трэніроўку Грыфіндора перад змаганнем з Рэйвенкло, каб апасля палятаць на Вогненнай Страле. Здавалася на імгненне, гэта адарвала яго ўвагу ад туге па Скаберсу

- Файна! І што ты дасі мне пакатацца?

І вось яны разам рушылі на поле для квідытча.

Мадам Хуч, якая наглядала за грыфіндорскай камандай падчас трэніяваня і ўважліва сачыла за Гары, была як і астатнія моцна ёй ўражана. Напачатку трэніроўкі яна ўзяла яе ў рукі і дала колькі прафісійных меркаванняў.

- Зірніце на яе баланс! У Німбусаў ёсць адзін недахоп, вельмі тонкая завязка на метлавішчы... таму пруткі за колькі год трэплюцца. Яшчэ яны паднавілі тронак і зрабілі

яго танчэйшым, чым ў тых жа Перамогаў, яна нагадвае мне старую Срэбную Стралу... добрыя былі мётлы, шкада іх кінулі выпускаць. Я сама вучылась лятаць на адной з іх, яна была вельмі старой, але ж вельмі добрай...

Настаўніца працягвала ў гэткім жа духу яшчэ колькі часу, акуль яе не перарваў Вуд.

- Ээээ... мадам Хуч. Ці вы вы не маглі б вярнуць мятлу Гары? Нам трэ патрэніявацца...

- А... так... трымайце, Потэр,- адказала мадам Хуч,- а тут пасяжу, разам з Візлі...

Яна прысела на трыбуне паблізу ад Рона, а каманда згрудзілася вакол Олівера ў сярэдзіне поля, каб атрымаць апошнія інструкцыі перад заўтрашнім матчам.

- Так, Гары, я толькі што даведаўся, хто гуляе за Паляўнічага ў рэйвенклоскай каманцё. Гэта Цёў Чан. Яна чацвёрагодка і даволі добра грае... Але ж я спадзяюся што яна будзе не ў форме, бо мела ў апошні час колькі траўмаў...- Вуд спахмурнеў пры адной толькі думке, што Цёў Чан ачуняла, але працягваў.- З іншага боку, яна лятае на Камеце 260, а ў параўнанні з Вогненнай стралой, гэта дзіцячая цацка.- ён абдараваў Гарыну мятлу захопленым поглядам.- Добра, годзе, паехалі...

Нарэшце Гары асядлаў сваю Вогненную Стралу і адштурхнуўся ад зямлі.

Адчуванне ад палёту пераўзыйшло ўсе яго мроі. Страла разварочвалася ад лёгкага дотыку і здавалася, падпарадкоўвалася не яго рухам, а толькі думкам. Мятла няслась праз поле з такой хуткасцю, што яно ператварылася на зялёныя і шэрыя плямы; Гары настолькі рэзка развярнуўся, што Алісія Спінэт закрычала, калі ён распачаў цалкам кантраляванае падзенне і злёгку крануўся пальцамі травы на полі, перш чым ізноў падняцца на трыццаць, сорак, пяцьдзесят футаў над зямлёю...

- Гары, я выпускаю Сніч!- крыкнуў Вуд.

Хлопчык, развярнуўся і кінуўся за Бладжэрам, які ляцеў ў напрамку калаў-варот, злёгку абагнаў яго, заўважыў Сніч, што вылятаў з рук Олівера і дзесяццю секундамі пазней моцна трымаў яго ў руке.

Каманда шалёна заапладыявала. Гары зноў пусціў Сніч, пачакаў хвіліну, потым рвануўся з месца віхляючы сюды-туды між іншымі гульцамі, заўважыў Сніч, які хаваўся недалёк ад калена Кэці Бэл, вільнуў ў яе напрамку і лёгка абагнуўшы дзяўчыну зноўку моцна трымаў Сніч ў далоні.

Гэта была іх найлепшая трэніроўка за ўвесь час існавання каманды, гульцы натхнённые прысутнасцю сярод іх мёцел Вогненнай Стралы бездакорна выконвалі самыя найскладанейшыя хады. Калі яны ўрэшце рэшт апусціліся на поле, Вуд ня меў аніякіх заўваг, што па словах Джорджа было з ім ў першыню.

- Нават ня ведаю, што нас заўтра зможа супыніць!- прамовіў Олівер.- калі толькі... Гары, ты вырашыў сваю праблему з дэментарамі?

- А то,- адказаў Гары, прыпамінаючы свой слабенькі Патронус і з усяе сілы жадаючы каб ён быў мацней.

- Дэментары не аб’явяцца,- упэўненна заўважыў Фрэд.- Дамблдор аб гэтым паклапоціцца.

- Будзем спадзявацца што так,- прамовіў Вуд.- Ува ўсялякім выпадку... папрацавалі добра. А цяпер хадзема назад у Вежу... трэ сяння раней легчы спаць...

- Я яшчэ на колькі часу застануся тут, абяцаў Рону даць пракаціцца на Страле,- сказаў Гары Оліверу. Астатнія гульцы адправіліся ў распранальню, а Гары рушыў да Рона, які

ўжо пералез праз агароджу трыбунаў і пайшоў Гары насустрач. Мадам Хуч паснула ў сваім крэсле.

- Трымай,- сказаў Гары працягваючы Вогненную Стралу сябру.

Рон з выразам экстазу на твары асядлаў мятлу і ўзляцеў у надыходзячую цемру, а Гары пайшоў скрайкам поля ўважліва назіраючы за ім. Калі ўжо надыйшла глыбокая ноч, мадам Хуч нарэшце прачнулася і наракаючы хлопцам на тое, што яны ляталі без яе нагляду, загадала ім ісці назад да замку.

Гары паклаў Стралу на пляча і яны накіраваліся прэч з ухутанага цемраю стадыёну, абмяркоўваючы па дарозе раскошнае слізгаценне мятлы, яе фенаменальнае паскарэнне і дакладныя развароты. Яны былі ўжо на паўшляху да замку, калі Гары зірнуўшы ў левы бок, пабачыў нешта, ад чаго яго сэрца пачало шалёна калаціцца... з цемры на яго глядзела пара бліскучых вачэй.

Гары замер, яго сэрца моцна стукалася аб рэбры.

- Што здарылася?- спытаўся Рон.

Гары паказаў на вочы. Рон выцягнуў сваю палачку і прамармытаў «Люмос!»

Прамень святла кінуўся на траву і асвятліў ніжнюю частку дрэва, дзе на галінцы сярод набухаючых пупышак сядзеў Крукшанс.

- Вэк адсюль!- зараўеў Рон, нахіляючыся, каб схапіць з зямлі камень. Але перш чым ён паспеў яго кінуць, Крукшанс знік у цемры рассекшы паветра сваім доўгім рудым хвастом.

- Бачыш?- люта прамовіў Рон, кідаючы камень на зямлю.- Яна ўсё шчэ дазваляе яму валэндацца дзе заўгодна... верагодна, каб кампанію Скаберсу саставіла пара птушак...

Гары не адказаў яму. Ён глыбока ўздыхнуў, адчуваючы, як па целу разліваецца палёгка. Хвіліну таму, ён быў упэўненны, што вочы належаць Грыму. Яны зноўку накіраваліся ў бок замка. Гары маўчаў і не глядзеў па баках, ажно пакуль яны не дайшлі да Вестыбюлю.

*

Натупным ранкам Гары спускаўся на сняданак разам з астатнімі грыфіндорскімі хлопцамі, якія здавалася неслі ганаровую варту ля трымаемай ім у руках Вогненнай Стралы. Калі ён ўвайшоў у Вялікую Залу ўсе галовы развярнуліся у яго бок, а па сталах пранесліся ўзбуджаныя шэпты. Гары з вялізарным задавальненнем зірнуў на каманду Слізэрына, гульцы якой выглядалі бы маланкай ляснутыя.

- Ці ты бачыш яго твар?- радасна прамовіў Рон, гледзячы на Малфоя.- Ён ня можа ў гэта паверыць! Супэр!

Вуд таксама купаўся ў праменні славы Стралы.

- Пастаў яе тут,- сказаў ён і, паклаўшы мятлу ў цэнтры стала, асцярожна развярнуў яе назваю ўгору. Вучні з Рэйвенкло і Хафлпафа падыходзілі да іх, каб зірнуць на Стралу бліжэй. Сэдрык Дзігары павіншаваў Гары з гэткай найгоднейшай заменай яго Німбусу, а Пенелопа Клірвотар персіна дзяўчына з Рэйвенкло, папрасіла патрымаць у руках сапраўдную Вогненную Стралу.

- Так-так, Пенелопа, глядзі не нарабі шкоды!- у захапленні прамовіў Персі.- Мы з ёй пабіліся ў заклад на тое, хто выйграе,- растлумачыў ён гульцам,- дзесяць галеёнаў!

Пенелопа паклала Вогненную стралу на месца, падзяквала Гары і вярнулася за свой стол.

- Гары... паабяцай мне што выйграеш,- хуткім шэптам папрасіў Персі.- У мяне няма дзесяці галеёнаў. Так ўжо іду, Пэні!- ён кінуўся даганяць Пенелопу, трымаючы ў руках кавалак тоста.

- А ці ты здатны ёй кіраваць, Потэр?- адчуўся халодны працяжны голас.

Драко Малфой аб’явіўся, каб пільней разгледзіць Стралу. Разам з ім, як і заўжды былі Крэйб з Гойлам.

- Мяркую, так,- абыякава адказаў Гары.

- Яна ж мае купу дадатковых прыстасаванняў?- спытаўся Малфой, злосна паблісківаючы вачыма.- Як шкада, што сярод іх няма парашута, на той выпадак... калі паблізу ад цябе аб’явяцца дэментары.

Грэйб і Гойл загігікалі.

- Шкада, што твая не мае дадатковай рукі,- адказаў Гары,- якая б лавіла Снічы замест цябе.

Грыфіндорцы гучна разрагаталіся, Малфой звузіў свае бледныя вочы і адыйшоў прэчкі. Усе ўважна назіралі, як Драко рушыў да астатніх гульцоў слізэрынскай каманды, якія згрудзіліся вакол яго, без сумневу пытаючыся, ці сапраўды Гары мае Вогненную Стралу.

У бяз чвэці аб адзінаццатай каманда Грыфіндору накіравалася ў распранальню. Надвор’е значна адрознівалася ад таго, што было падчас гульні з Хафлпафам. Гэта быў ясны, прахадодны дзень, дуў лёгкі ветрык і на гэты раз не было аніякіх праблемаў з бачнасцю. Ня гледзячы на знэрваванасць, Гары пакрысе пачаў адчуваць знаёмае ўзбуджэнне, якое бывала ў яго падчас кожнай гульні. Ён чуў, як астатнія вучні, разам з настаўнікамі рушылі на стадыён. Гары зняў форменную школьную мантыю і сунуў чароўную палачку ў тэніску, якую насіў пад квідычнай формай, але спадзяваўся, што ў ёй ня будзе патрэбы, бо раптам вырашыў, што прафесар Люпін можа глядзець на гульню разам з астатнімі.

- Усе ведаюць, што мы павінны зрабіць,- прамовіў Вуд, камандзе, якая ўжо збіралася рушыць на поле.- Калі мы прайграем гэты матч, мы вылятаем. Проста... проста лятайце так, як рабілі гэта падчас ўчорашней трэніроўкі і ўсё будзе файна!

Яны выйшлі на поле пад гул апладысментаў. Іх супернікі з Рэйвенкло, у сініх мантыях ўжо стаялі у сярэдзіне поля. Паляўнічая Цёў Чан, была адзінай дзяўчынкай ў іх камандзе. Яна была ніжэй за Гары прыкладна на галаву і ён не мог не заўважыць, што Цёў нэрвавалася як і ён, а да таго ж была вельмі прыгожанькай. Яна ўсміхнулася Гары, калі каманды развярнуліся адна да адной разам са сваімі капітанамі. Хлопец адчуў лёгкае дрыжанне ў нізе жывата, але яно аніяк не было павязана з яго нэрвовай напругай.

- Вуд, Дэвіс, пацісніце рукі адно аднаму,- загадала мадам Хуч і капітаны наблізіўшыся абмяняліся поцыскамі.

- Падрыхтавалі мётлы... па маім свістку... тры, два, адзін...

Гары адштурхнуўся ад зямлі і Вогненная Страла ўзляцела вышэй па над ўсімі астатнімі мётламі. Ён пачаў жмурачыся лятаць вакол стадыёну ў пошуках Сніча, ўвесь час слухаючы каментары, якія забяспечваў Лі Джордан сябра блізнятаў Візлі.

- Яны ўзляцелі і ўсе прысутныя з моцным захапленнем утаропілі свае вочы на грыфіндорца Гары Потэра які карыстаецца Вогненнай Стралой. Лепшай мятлой, якую

абіраюць гульцы ўсіх нацыянальных каманд на Чэмпіянаце Сувету, як нам паведамляе часопіс «Усё аб Мётлах»...

- Джордан, а ці не маглі бы вы лепш паведамляць аб тым, што адбываецца на полі?- перапыніў яго голас прафесаркі МакГонагал.

- Маеце рацыю, мадам Прафесар... толькі ячшэ крыху дадатковай інфармацыі. Вогненная Страла дарэчы мае ўбудаваны аўтаматычны тормаз і...

- Джордан!

- Добра, добра! Сітуацыяй завалодаў Грыфіндор, гулец гэтай каманды Кэці Бэл нясецца ў напрамку варот...

Гары прамінуў Кэці ў супрацлеглым кірунку,назіраючы навокал, ці не блісне там штосьць залатое, а на яго хвост ўжо села Цёў Чан. Яна несумненна лятала найвыдатнейшым чынам... бо ўвесь час апынялася перад ім, прымушаючы змяніць кірунак.

- Пакажы ёй сваю хуткасць, Гары!- крыкнуў яму Фрэд, кружлянуўшы, каб адбіць Бладжэр, што нёсся ў напрамку Алісіі.

Гары паскорыў Стралу ў напрамку рэйвенклоскіх колаў у супрацлеглым канцы стадыёну і Цёў адстала. У гэты ж момант Кэці забіла першы гол у матчы і грыфіндорская трыбуна пачала шалець. Тут... Гары заўважыў Сніч, які пырхаў вельмі блізка ад зямлі ля адной з загародж.

Гары зрабіў нырок. Цёў заўважыла яго манэўр і накіравалася насустрач. Гары паскорыўся, яго захапіла ўзбуджэнне, ныркі былі яго ўлюбёным манэўрам. Ён ужо быў на адлегласці дзесяці футаў ад Сніча...

Але тут на яго шляху апынуўся Бладжэр кінуты адным з супернікаў, Гары збочыў на колькі цаляў, аднак гэтага часу хапіла, каб Сніч адляцеў прэчкі.

Адчуўся гуд расчаравання ад прыхільнікаў Грыфіндору і разам з ім апладыяванне рэйвенклоскай трыбуны свайму Бітаку. Джордж Візлі даўшы волю эмоцыям накіраваў другі Бладжэр у крыўдзіцеля і той быў вымушаны зрабіць неверагоднае ўхіленне ў бок, каб пазбегнуць удару.

- Грыфіндор перамагае з лікам восемьдзесят на нуль, але ж вы паглядзіце на Вогненную Стралу, як яна ляціць! І якую хуткасць развівае на ёй Гары. Камеце, якой карыстаецца Чан папросту не атрымаецца анічога падобнага. Сапраўды дакладны баланс Вогненнай Стралы ажыцяўляецца з-за гэтых доўгіх...

- ДЖОРДАН! ЦІ ТАБЕ ЗАПЛАЦІЛІ ЗА РЭКЛАМАВАННЕ ВОГНЕННАЙ СТРАЛЫ?! КАМЕНТУЙ МАТЧ!

Рэйвенкло пакрысе даганялі іх. Яны забілі тры галы запар і цяпер розніца ў ліку была толькі пяцьдзесят балаў... калі б зараз Цёў злавіла Сніч, яны б перамаглі. Гары імгненна знізіўся, ледзь пазбегнуўшы сутыкненне з рэйвенклоскім Пераследнікам... які шалёна зыркаў вачыма на хлопца. Раптам Гары заўважыў залаты бляск і трапяценне маленькіх крылак... Сніч кружляў ля грыфіндорскіх варот...

Хлопчык паскорыўся, не адводзячы вачэй ад залатой плямкі наперадзе... але ў наступную секунду, невядома адкуль аб'явілася Цёў, якая неслася блакуючы яго...

- ГАРЫ, ЦЯПЕР НЯ ЧАС ДЛЯ ДЖЭНТЛЬМЕНСТВА,- заравеў Вуд, калі той адхіліўся, каб пазбегнуць сутыкнення.- КАЛІ ПРЫЙДЗЕЦЦА МОЖАШ НАТ СПІХНУЦЬ ЯЕ З МЯТЛЫ!

Гары развярнуўся і ўбачыў пасміхаючуюся Цёў. Сніч зноўку адляцеў. Гары развярнуў Вогненную Стралу ўгору і неўзабаве апынуўся ў дваццаці футах па над полем. Крайком вока ён ўбачыў, як Цёў рушыла за ім. Напэўна, яна вырашыла шпіёніць за ім, замест таго, каб шукаць Сніч самастойна. Балазе... калі яна вырашыла сесці яму на хвост... хай сама адказвае за наступствы...

Ён зноўку нырнуў, Цёў вырашыўшы, што ён зноўку заўважыў Сніча, кінулася следам за ім.  Гары пад вельмі вострым вуглом паляцеў уніз, суперніца паспяшала за ім. І тут Гары зноўку рэзка ўзляцеў угору і ўжо трэці раз пабачыў Сніч – той блішчэў ледзь вышэй рэйвенклоскай трыбуны.

Гары паскорыўся, тое ж зрабіла знаходзіўшаяся значна ніжэй Цёў. Гары перамагаў, з кожнай секундай набліжаючыся да Сніча... ну...

- Ай!- раптоўна закрычала Цёў кажучы кудысь.

Занепакоены Гары зірнуў уніз..

Тры дэментара, тры вялізных дэментара ў плашчах з каптурамі глядзелі на яго.

Хлопчык не разважаў ані секунды. Ён імгненна палез па-за тэніску, выцягнуў адтуль палачку і заравеў: «Экспекта Патронум!»

Нешта срэбнае і агромістае выляцела з яго палачкі. Гары ведаў, што трапіў у дэментараў, але не супыніўся паглядзець, што будзе, яго розум працягваў быць дзіўна ясным, Гары глядзеў наперад... ён быў амаль што там. Хлопчык выцягнуў руку, якая ўсё яшчэ сціскала палачку і ледзь паспеў самкнуць пальцы на маленькім трапяткім Снічы.

Прагучаў свісток мадам Хуч, Гары разгарнуўся ў паветры і ўбачыў шэсць пунсовых фігур якія несліся ў яго бок. Праз імгненне каманда абдымала яго настолькі моцна, што ледзь не скінулі з мятлы. А ўнізе сярод натоўпу чуліся крыкі грыфіндорцаў.

- А мой жа ты хлопча!- не супыняючыся енчыў Вуд. Алісія, Анджэліна і Кэці цалавалі Гары, а Фрэд абняў яго настолькі моцна, што Гары здавалася, быццам у яго зараз адарвецца галава. У поўным бязладдзі каманда нарэшце апынулася на зямлі. Гары злез з мятлы і падняўшы вочы ўбачыў, як да яго несся статак грыфіндорскіх фанатаў на чале з Ронам, але перш чым ён гэта зразумеў, яго акружыў натоўп.

- Так!- лямантаваў Рон, торгаючы Гарыну руку ў паветра.- Так! Так!

- Малайчына, Гары!- выглядаючы надта захопленым прамовіў Персі.- Дзесяць галеёнаў мае! Прабач, але мне трэ знайці Пенелопу...

- Ай, малайца, Гары!- равеў Шымас Фініган.

- Найневера’одна!- прагудзеў Хагрыд па над галавамі грыфіндорцаў.

- Гэта быў выдатны Патронус,- прамовіў нехта ў самае вуха Гары.

Гары развярнуўся і ўбачыў прафесара Люпіна, які выглядаў узрушаным і задаволеным.

- Дэментары аніяк не паўплылі на мяне!- усхвалявана мовіў Гары.- Я нават не адчуў іх!

- Гэта адбылося, таму што... эээ... гэта былі не дэментары,- адказаў Люпін.- Хадзем...

Ён рушыў разам з Гары, пакуль яны не дасягнулі ўскрайку поля.

- Ты моцна напалохаў містэра Малфоя,- прамовіў прафесар.

Гары вытарапіў вочу. Скамячанай горкай на зямлі валяліся Малфой, Крэйб, Гойл і капітан слізэрынскай каманды Маркус Флінт, спрабуючы вылезці з доўгіх чорных плашчоў з каптурамі. Малфой здавалася сядзеў на гойлавых плячах. А па над імі з выразам наймоцнай лютасці стаяла прафесарка МакГонагал.

- Нікчэмная мана!- лямантавала яна.- Нізкая і труслівая спроба пашкодзіць грыфіндорскаму Паляўнічаму! Усім затрыманне і пяцьдзесят балаў са Слізэрына! І я абавязкова пагаманю на ваш конт з прафесарам Дамблдорам! Між іншым, а вось і ён!

Калі было нешта ўзмацняюе перамогу Грыфіндору, дык толькі гэтая сцэна. Рон, пазіраючы праз Гарына плячо курчыўся са смеху, гледзячы, як Малфой спрабуе выблытацца з плашчу ў якім ўсё яшчэ працягвала знаходзіцца галава Гойла.

- Хадзем, Гары!- крыкнуў Джордж, адцягваючы яго ад месца здарэння.- У нас вечарына! У Грыфіндорскай гасцёўне, зараз!

- Ужо!- адказаў Гары, ён адчуваў сябе шчаслівей, чым калісь за усё жыццё, узначальвая астатак каманды якая ўсё яшчэ была апранута ў пунцовыя мантыі, ён рушыў у напрамку замку.

*

Складалася ўражанне, бы Грыфіндор ўжо выйграў Кубак Квідытчу, вечарына доўжылася да позняй ночы. Блізнюкі Візлі зніклі на колькі гадзін, а потым аб’явіліся трымаючы ў акрэмках бутэлькі з вяршковым півам, гарбузовую шыпучку і колькі мяшкоў з прысмакамі ад Мядовага Герцага.

- Як у вас гэта атрымалася?- завішчала Анджэліна Джонсан, калі Фрэд з Джорджам пачалі кідаць ў натоўп Мятных жабак.

- З невялічкай дапамогаю Лунаціка, Галахвоста, Мягкалапа і Рагача,- шапатнуў Фрэд Гары на вуха.

І толькі адзін чалавек не браў удзелу ў святкаванні. Герміёна, што было нечувана, сядзела ў куточку і намагалася чытаць вялізны том «Хатняе жыццё і Сацыяльныя звычаі брытанскіх маглаў». Калі Фрэд з Джорджам прыняліся жангляваць бутэлькамі з вершковым півам, Гары сыйшоў са стала і накіраваўся да яе.

- Ці была ты на матчы?- спытаўся ён.

- Зразумела ж,- адказала з напругаю ў голасе дзяўчынка, нават не падымаючы вачэй.- Я вельмі задаволена тым, што мы перамаглі, мяркую, што гэта сапраўды выдатна, але мне трэба дачытаць гэтую кнігу да панядзелка.

- Не кажы ерунды, Герміёна, давай далучайся да нас, пад’еш,- прамовіў Гары, ўскрайкам вока пазіраючы на Рона і разважаючы, ці ён у настолькі добрым настроі, каб зарыць сякеру вайны.

- Ані, Гары, мне яшчэ трэба прачытаць 422 старонкі!- крыху гістэрычна адказала Герміёна і, зірнуўшы на Рона, дадала.- Тым больш... там ёсць людзі, якія не жадалі б прыняць мяне ў сваю кампанію.

Быццам ў падтрымку яе слоў за сталом прагучаў голас Рона.

- А калі б тут быў яшчэ і Скаберс, ён бы са здавальненнем пакаштаваў гэтых сметанкавых мушак, а як ён іх любіў...

Герміёна заплакала. І перш чым Гары паспеў што-небудзь зрабіць ці сказаць, яна схапіла свае кнігі пад паху і не спыняючы ўсхліпваць кінулася па лесіцы ў сваю спальню.

- Ці не мог бы ты кінуць яе шпыняць?- спытаўся Гары ў Рона.

- Ані,- катэгарычна заявіў Рон.- Калі б яна хоць зрабіла выгляд, што шкадуе... але Герміёна не робіць гэтага. Яна ўсё шчэ старанна паводзіць сябе так, бы Скаберс дзесь адпачывае ці нешта накшталт гэтага.

Грыфіндорская вечарына скончылася толькі тады, калі а першай гадзіне ночы ў гасцёўню завітала прафесарка МакГонагал у халаце з шатландкі і сетачкай дзеля валос на галаве, ды загадала ўсім зараз жа класціся спаць. Гары з Ронам падняліся ў сваю спальню ўсё яшчэ працягваючы абмяркоўваць матч. Нарэшце, змучаны Гары забраўся ў свой ложак і штуршком зачыніўшы фіранкі свайго балдахіна, каб уратавацца ад месяцовага святла, лёг на спіну і адчуў, як амаль імгненна праваліўся ў сон...

Ён сніў нешта надта дзіўнае. Быццам ён рушыў праз лес, трымаючы на плячы сваю Вогненную Стралу за чымсці срабрыста-белым. Істота плазавала між дрэваў дзесці на перадзе і Гары мог бачыць толькі яе водбліскі. Хлопчык імкнуўся дагнаць яе, ён паскорыўся, але тое ж самае зрабіла і сама істота. Гары пабег яшчэ хутчэй і пачуў гук паскараючыхся капытоў, які імгненна перайшоў на галоп. Потым чарговы раз павярнуўшыся гары трапіў на паляну і...

- ХААААААААААЛЛЛЛЛЕЕЕЕЕЕЕЕЕЕРРРРРАААА! НЕЕЕЕЕЕЕЕЕЕЕЕЕЕЕЕЕЕЕЕ!

Гары бы ад аплявухі імгненна прачнуўся. Дэзарыентаванны з-за цемры, Гары паспрабаваў намацаць фіранку. Ён чуў, як па пакоі нехта бегае, а потым голас Шымаса Фінігана ў імшым куце пакоя спытаў.

- Што здарылася?

Гары адчуў як ляпнулі дзверы пакою. Нарэшце ён знайшоў край фіранкі і расчыніў яе, у той жа момант Дын Томас запаліў лямпу.

Рон сядзеў з жахам на твары, а адна з фіранак яго ложку была разадраная.

- Блэк! Сірыюс Блэк! З нажом!

- Штоооооо?

- Вось тут! Хвіліну таму! Ён разрэзаў фіранку і пабудзіў мяне!

- Ты ўпэўнены, што не прысніў яго?- спытаўся Дын.

- Зірні на балдахін! Я кажу, ён быў тут!

Усе хлопцы пакінулі свае ложкі, Гары першым дабег да выхаду, а за ім ўсе астатнія спусціліся па сходах у гасцёўню. Са сваіх спален пачалі выглядаць астатнія вучні і пытацца соннымі галасамі.

- Хто крычаў?

- Што вы тут робіце?

Гасцёўня была асветлена толькі дагараючым вогнішчам каміна і па ранейшаму была завалена смеццем застаўшымся пасля вечарыны. Але там ужо нікога не было.

- Ты дакладна ўпэўнены, Рон, што гэта ня быў сон?

- Я кажу вам, што бачыў яго на ўласныя вочы!

- Што за шум?

- Прафесарка МакГонагал загадала ўсім спаць!

- Колькі дзяўчынак нацягваючы халаты і пазіхаючы спускаліся па сходах. Крыху пазней пачалі спускацца хлопцы.

- Выдатна, мы збіраемся працягваць?- узрушана прамовіў Фрэд.

- Зараз жа ўсе па пакоях!- ўскрыкнуў Персі на хаду прымацоўваючы значык старасты да піжамы.

- Перс... там быў Сірыюс Блэк!- ледзь чутна заявіў Рон.- Ён прабраўся ў наш пакой! З нажом! Ён пабудзіў мяне!

У гасцёўне запанавала цішыня.

- Глупства!- выглядаючы напалохана прамовіў Персі.- Ты шмат з’еў падчас вечарыны, Рон... і прысніў кашмар...

- Я бачыў яго...

- Ну ўсё, з мяне годзе!

Адчыніўшы адтуліну за партрэтам прамовіла прафесарка МакГонагал. Яна стаяла люта азіраючыся на прысутных.

- Я ня менш за вас рада перамоге Грыфіндору, але гэта пераходзіць ўсе магчымыя межы! А ад вас, Персі, я чакала большага!

- Вядома ж я не дазваляў ім анічога падобрага, мадам прафесар!- сапя ад абурэння мовіў Персі.- Я загадаў усім адпраўляцца па ложках! Мой брат Рон ўбачыў кашмар...

- ГЭТА НЕ БЫЛО КАШМАРАМ!- залямантаваў Рон.- МАДАМ ПРАФЕСАР, Я ПРАЧНУЎСЯ, А НАДА МНОЙ, ТРЫМАЮЧЫ НОЖ СТАЯЎ СІРЫЮС БЛЭК!

Прафесарка вытарапілася на яго.

- Не кажыце ерунды, Візлі, як ён мог трапіць сюды праз партрэт?

- Спытайце ў яго!- дрыжачым пальцам кажучы на карціну адказаў Рон.- Спытайце, ці не бачыў ён кагось...

Падазрона бліснуўшы вачыма на Рона, прафесарка адштурхнула карціну і выйшла з пакою. Увесь пакой сцішыўшы дыханне ўважліва сачыў за размовай.

- Сэр Кэдаган, ці пускалі вы каго-небудзь колькі хвілін таму?

- Зразумела ж, васпані!- усклікнуў сэр Кэдаган.

Разгубленая цішыня запанавала, як усярэдзіне так і звонку пакоя.

- Ч-чаму вы гэта... зрабілі?- спыталася МакГонагал.- Дзеля... дзеля гэтага ж неабходна мець пароль!

- Ён меў!- ганарыста прамовіў сэр Кэдаган.- На увесь тыдзень, мая ледзі! Яны былі запісаны на паперцы!

Прафесарка МакГонагал зноўку вярнулася ў пакой да ашаломленых вучняў. Яе твар быў бялее за крэйду.

- Хто з вас,- спыталася яна дрыготкім голасам,- які ў вышэйшай ступені дурны бот запісаў паролі на ўвесь тыдзень і кінуў іх абы дзе?

Запанавалая цішыня адчасу пачала перарывацца кароткімі ўзвіскамі. Потым ў паветра павольна паднялася пухлая ладка Нэвіла Лонгботама.

## — РАЗДЗЕЛ XIV —

### *Снэйпава абраза*

У гэтую ноч у Грыфіндорскай Вежы аніхто не спаў. Замак зноўператрушвалі і грыфіндорцы сабраліся разам у сваёй гасцёўне, чакаючы звестак, ці злавілі нарэшце Блэка. Але на досвітку ў пакой завітала Прафесарка МакГонагал, каб паведаміць аб тым, што той зноўку уцёк.

Калі на наступны дзень вучні пакінулі свой пакой, яны адразу забачылі прыкметы ўзмацнення аховы. Прафесар Флітвік стаяў ля ўваходных дзвярэй, навучаючы іх распазнаваць Сірыюса Блэка па яго вялізным партрэце. Філч нечакана аб’яўляўся сям-там у калідорах, забіваючы дошкамі мышыныя норы і самыя найдрабнейшыя шыліны ў сценах. Сэр Кэдаган быў звольнены з пасады і вярнуўся на сваё папярэдняе месцазнаходжанне на сёмым паверсе, а на свой пост вярнулася Тлустая Пані. Яе партрэт быў па майстэрску адноўлены, але сама Пані выглядала па ранейшаму вельмі знерваванай і вярнулася на сваю працу з ўмоваю ўзмацнення сваёй абароны. Таму для яе бяспекі былі наняты колькі панурых троляў-ахоўнікаў. Яны бадзяліся па калідоры пагрозлівай кампаніяй, размаўляючы між сабой буркатаннямі і хвалячыся адно перад адным памерамі сваіх доўбняў.

Гары не мог не заўважыць, што статуя аднавокай вядзьмаркі на чацвёртым паверсе засталася без нагляду і блакавання. Ён зразумеў, што блізняты Фрэд і Джордж мелі рацыю - толькі яны... а цяпер яшчэ Гары, Рон і Герміёна ведалі аб наяўнасці ў ёй патайнога прахода.

- Як лічыш, ці павінны мы сказаць каму аб гэтым?- спытаўся Гары ў Рона.

- Мы ведаем, што ён не ішоў праз Мядовага Герцага,- пагрэбліва адказаў Рон,- бо калі б там адбыўся ўзлом мы адразу б пазналі аб гэтым з навінаў.

Гары быў задаволены падобным адказам Рона. Бо, калі б праход ў аднавокай вядзьмары быў заблакаваны, ён ніколі не змог наноў трапіць ў Хогсмід.

Рон жа імгненна стаў знакамітасцю. У першыню за ўвесь час яго перабывання ў Хогвартсе, больш ўвагі звярталі на яго, а не на Гары. Тым ня менш, было зразумела, што Рон атрымлівае з гэтага моцную асалоду. І хаця ён ўсё яшчэ быў надта ўзрушаны падзеямі той ночы, калі хто пытаўся ў яго, са здавальненнем у дэталях распавядаў аб здарэнні.

-... Я ўжо спаў і тут адчуўся нейкі незвычайны шум, я вырашыў што сню яго, таму працягваў дрыхаць далей. І тут нечакана адчуў скразняк... Прачнуўся... бачу адна з фіранак на балдахіне быццам адсунута... развярнуўся... бачу нада мной стаіць ён... як той шкілет з кучмай брудных доўніх валасоў... і вялізны нож трымае, цаляў напэўна дваццаць даўжынёй... Ён глядзіць на мяне, я на яго. Я тут, як закрычу, а ён, як дасі драла.

- А на самрэч чаму?- спытаўся Рон у Гары, калі гурток дзяўчынак-другагодак, што слухалі яго апавяданне адыйшоў.- Чаму ён збег?

Гары самога гэта надта цікавіла. Чаму Блэк, памыліўшыся ложкам не прымусіў Рона маўчаць, каб далей шукаць Гары? Блэк, які дваццаць год таму не разважаючы забіў купу нявінных людзей, на гэты раз спужаўся, трапіўшы на пецярых беззбройных хлопцах чацвёра з якіх спалі.

- Напэўна, яму каштавала значных намаганняў трапіць ўсярэдзіну, а калі ты закрычаў, ты пабудзіў увесь Дом.- разважаў Гары.- Яму напэўна прыйшося забіць ўвесь Грыфіндор, каб дабрацца да адтуліны... а тут бы і настаўнікі падаспелі...

Нэвіл быў усеагульна зганьблены. Прафесарка МакГонагал была настолькі разлютавана на яго, што забараніла ўсе яго будучыя візіты ў Хогсмід, наклала на яго пакаранне і забараніла даваць яму пароль ад уваходу. Цяпер Нэвіл быў вымушаны штораз доўга чакаць ля ўваходу ў Вежу, каб разам з кімсьці трапіць ў гасцёўню, вытрымліваючы на сабе непрыемныя касыя погляды троляў-ахоўнікаў. Аднак аніводнае з пакаранняў не было горшым за то, што аб здарэнні паведамілі яго бабулі. Мінула два дні і Нэвіл атрымаў тое, чаго баяліся ўсе хогвартскія студэнты – лямантоўку.

Шторанку, совы, як і заўжды заляцелі ў Вялікую Залу, каб даставіць ўсім вучням пошту. І тут Нэвіла пачало душыць, вялізная сіпуха, якая прызямлілася ля яго, трымала ў дзюбе пунсовы канверт. Гары з Ронам, сядзеўшыя насупраць, адразу прызналі ў ім лямантоўку -  два гады таму, падобную ж Рон атрымаў ад сваёй маці.

- Цікай, Нэвіл,- параіў Рон.

Лонгботаму ня трэба было казаць двойчы. Схапіўшы лямантоўку і трымаючы яе перад сабой нібы бомбу, ён ашалела кінуўся з Вялікай Залы, а слізэрынскі стол выбухнуў ад смеху, гледзячы на гэту выяву. Але ня гледзячы на тое, што Нэвіл раскрыў канверт у Вестыбюле... ўсе вучні пачулі голас нэвілавай бабулі з дапамогай магіі ўзмоцненный ў сто разоў. Бабуля лямантам наракала Нэвілу, што той нанёс ганьбу на шляхетнае імя сваёй сям’і .

Уся ўвага Гары была зараз направлена на шкадаванне Нэвіла, таму ён не адразу пабачыў, што і сам атрымаў паштоўку. Але Хэдвіг нагадала яму аб гэтым, колькі разоў каротка падзюбаўшы яго па запясці.

- Аёй! А... дзякуй, Хэдвіг...

Гары разарваў канверт, а яго сава адыйшла ў бок, каб падсілкавацца кукурузнымі хлапякамі, пакінутыя на стале Нэвілам. У паштоўке быў ліст ад Хагрыда.

*«Даражэнькія Гары і Рон,*

*Як вы наконт папіць разам гарбаты сёння а шостай вечара? Я зайду за вамі і забяру. ЧАКАЙЦЕ МЯНЕ У ВЕСТЫБЮЛЕ, ВАМ САМІМ АНІХТО НЕ ДАЗВОЛІЦЬ ПАЙСЦІ.*

*Забачымся,*

*Хагрыд»*

- Пэўна хоча пачуць новыя звесткі аб Блэку!- прамовіў Рон.

А шостай вечара Гары і Рон пакінулі Грыфіндорскую Вежу, прайшлі міма троляў-ахоўнікаў і спусціліся ў Вестыбюль.

Хагрыд ўжо чакаў іх там.

- Здароўку, Хагрыд!- прывітаўся Рон.- Ты напэўна жадаеш пачуць падрабязнасці таго, што адбылося ў суботу ноччу?

- Я ’жо чуў,- адказаў Хагрыд і адчыніўшы ўваходныя дзверы павёў іх па-за межы замку.

Рон толькі злёгку збянтэжана вохнуў.

Першае, што яны заўважылі завітаўшы ў Хагрыдавую халупу быў Бакбік. Ён ляжаў у куточку на лапікавай коўдры, шчыльна прыціснуўшы свае вялізныя крылы да бакоў і ласаваўся дохлымі тхарамі з вялізнай місы. Адвярнуўшы галаву ад гэтага жахлівага гледзішча, Гары ўбачыў велізарыны карычневы касцюм з грубай тканіны і жахлівы жоўта-памаранчавы гальштук, што віселі на дзверцах шафы.

- Навошта яны табе?- спытаўся хлопчык.

- Трэб’ ехаць на разгляд бакбікавай справы ў Камітэт па зніш’энню ня’спечых ’стотаў,- адказаў Хагрыд.- У гэт’ пятніцу. Загадалі пад’ехаць мне і яму, разам. Я ’жо замовіў месц’ ў Начным Омнібусе...

Гары адчуў непрыемныя дакоры сумлення. Ён зусім забыўся аб набліжаючымся судзе над Бакбікам і Рон, як Гары зразумеў, глянуўшы ў яго бок, таксама. Больш таго, яны прыпомнілі, што абяцалі Хагрыду падрыхтаваць штось для абароны гіпагрыфа, але захапіўшыся Вогненнай Стралой на ўсё забыліся.

Хагрыд наліў ім гарбаты і прапанаваў блюда са здобнымі булкамі, аднак, маючы досвед аб кухарскіх здольнасцях палясоўшчыка, яны не надта спяшаліся імі пачаставацца.

- Я ж’даў бы пагутарыць аб сім-тым з вамі двума,- сказаў Хагрыд, сядаючы паміж імі і выглядаючы надзвычай сур’ёзна.

- Аб чым?- спытаўся Гары.

- А’ Герміёне,- адказаў той.

- А што з ёй?- спытаўся Рон.

- З ёй ’сё добра. Але ёй вельмь самотна. Пасля К’лядаў, яна шмат разоў ’жо прыходзіла сюды. Яна сумуе па вас. Зпачатк’ вы не гаманілі з ёй з-за Стралы, ц’ер з-за таго, што яе кот...

-... зжэр Скаберса,- люта дадаў Рон.

- Таму што яе кот павёў сябе, як і трэба паводзь кату,- упарта пацягнуў Хагрыд.- Яна ўжо кольк’ разоў плакала тут ад гэт’ несправядлівасці. А ў яе зараз над’шлі цяжкія часы. Яна кусіла больш чым можа праж’ваць і ўвесь час змуш’на працаваць. Але ’сёроўна выня’шла хвілінку - другую, каб дапагчы мне ў справе Бакбіка, ці ведаець... яна адшукала сё’тое... лічу, што ц’ерча Бакбік мае маленечкі шанц...

- Хагрыд, мы таксама абяцалі табе дапамагчы... прабач але...- разгублена казаў Гары.

- Та я це’ не вінавачу!- адмахнуўся ад яго прабачэнняў Хагрыд.- Бог ведае, у це’ не было анівольнае хвіліначкі. Я бачыў, як ты трэніяваў у квідыч і ў дзень і ўночы... але веда’ш, я думаў, што дзель вас сябры важэйшыя за мётлы і пац’коў. Вось.

Гары з Ронам няёмка зірнулі адно на аднаго.

- А шчэ больш, Герміёна была ‘смучана, калі Блэк ледзь не збіў це’, Рон. Яна мае такое вялікае сэрцанька, а вы з ёй не размаўляець...

- Калі б яна пазбавілася ад гэтага ката, я б зноў пачаў бы з ёй размаўляць!- люта прамовіў Рон.- Але яна ўвесь час бароніць яго! Ён сапраўдны маньяк, але яна не жадае нічога чуць аб гэтым!

- Ну, людзь заўжды без глузду ставяцца да сваіх ’любёнкаў,- адказаў палясоўшчык, за яго спіною Бакбік выплюнуў колькі тхарыных костак на ягоную падушку.

Астатні час яны правялі абмяркоўваючы, наколькі палепшыліся ў грыфіндорцаў шанцы на атрыманне Кубку Хогвартса. А дзевятай вечара Хагрыд адвёў іх назад ў замак.

Калі яны вярнуліся ў гасцёўню ім на вочы трапіла вялізная купа людзей, што згрудзіліся ля дошкі аб’яў.

- У наступные выходные наведванне Хогсміда!- выцягнуўшы шыю прачытаў на дошцы Рон.- Што думаеш?- спытаўся ён у Гары, калі яны прыселі на крэслы.

- Ну, Філч пакуль ня ведае аб праходзе да Мядовага Герцага...- надта спакойным голасам прамовіў Гары.

- Гары!- адчуўся голас над яго правым вухам. Хлопчык ўздрыгануўся і развярнуўшыся ўбачыў Герміёну, што сядзела за сталом адразу за ім. Яна зрабіла адтуліну ў стосах кніг за якімі хавалася.

- Гары, калі ты зноўку пойдзеш у Хогсмід... я раскажу аб мапе прафесарцы МакГонагал!- сказала яна.

- Ты штось чуў, Гары?- гыркнуў Рон, нават ня гледзячы на Герміёну.

- Рон, ты ня можаш запрашаць Гары з сабою. Асабліва пасля таго, што Сірыюс Блэк ледзь не зрабіў з табою. Вось аб чым я, я скажу...

- Ты жадаеш, каб Гары выключылі!- люта адказаў Рон.- Ці ня шмат шкоды ты ўжо зрабіла ў гэтым годзе?

Герміёна ўжо раскрыла рота, каб нешта адказаць, але тут з мягкім шыпеннем на яе калені скокнуў Крукшанс. Яна напалохана зірнула на выраз Ронава твару, падхапіла ката і паспяшалася ў свой пакой на дзявочым баку.

- Ну дык што?- спытаўся Рон ў Гары, быццам у іх размова і не перапынялася.- У мінулы раз ты амаль нічога ня бачыў. Нават ня быў у Зонкі!

Гары азірнуўся, каб пераканацца, што Герміёна яго ня чуе.

- Згода,- адказаў ён.- Але ў гэты раз, думаю трэба будзе ўзяць Мантыю-Невядзімку.

*

Суботняй ранніцай, Гары паклаў Мантыю-Невядзімку ў торбу, сунуў у кішэню мапу паскуднікаў і спусціўся разам з астатнімі да сняданку. Герміёна кідала на яго падазроныя погляды, але Гары імкнуўся пазбягаць яе вачэй і быў вельмі асцярожным, каб не даць ёй анічога заўважыць. Ён паслухмяна рушыў угору па мармуровых сходаў, калі астатнія вучні згрудзіліся перад уваходам.

- Бывай!- крыкнуў ён Рону.- Пабачымся пасля таго, як павярнешся!

Рон усміхнуўся і падміргнуў яму.

Гары паспяшаў на чацвёрты паверх, дастаючы на хаду мапу паскуднікаў. Пракраўшыся за статую аднавокай вядзьмаркі ён разгладзіў яе. У яго бок рушыла невялічкая кропачка. Гары нахіліўся бліжэй да мапы. Маленечкі надпіс ля кропачкі абвяшчаў аб набліжэнні Нэвіла Лонгботама.

Гары хутка выцягнуў палачку, прамармытаў «Дысэндзіюм!» і кінуў торбу ў раскрыўшыйся горб. Але не паспеў нырнуць туды сам, бо з-за вугла выйшаў Нэвіл.

- Гары! А я й забыўся, што ты таксама ня ідзеш у Хогсмід!

- Здароўку, Нэвіл!- прамовіў Гары, хутка адыйшоўшы ад статуі, па дарозе запіхаўшы мапу ў кішэню.- Што ты тут робіш?

- Анічога,- паціснуў Нэвіл плячыма.- Ці не жадаеш згуляць у выбухаючыя карты?

- Мммм... не, не зараз... мне трэба зайсці ў бібліятэку, зрабіць сачыненне аб упірах для Люпіна...

- Я з табою!- вясёла прамовіў Нэвіл.- я таксама анічога яшчэ не зрабіў!

- Вой... я забыўся... так, я скончыў яго яшчэ ўчора ўвечары!

- Супэр, можа дапаможаш мне!- сказаў Нэвіл і на яго круглым твары адлюстравалася туга.- Я не зразумеў, якім чынам дзейнічае часнык... яны павінны з'есці яго ці...

Нэвіл прыпыніўся на поўслове і сцішыўшы дыханне зірнуў праз Гарына плячо.

На іх глядзеў Снэйп. Нэвіл хутка схаваўся за Гары.

- Што вы двое тут робіце?- спытаўся прафесар, падыходзячы да іх і пазіраючы то на аднаго то на другога.- Даволі дзіўнае месца для сустрэчы...

Гары значна занепакоіўся, калі чорныя вочы Снэйпа зірнулі на дзверы з абодвух бакоў ад іх, а потым на статую аднавокай вядзьмаркі.

- Мы не дамаўляліся аб... сустрэчы,- адказаў Гары.- Мы сутыкнуліся... выпадкова.

- Няўжо?- спытаўся прафесар.- Ты маеш звычку аб'яўляцца ў самых нечаканых месцах і вельмі рэдка гэта здараецца выпадкова... Я прапаную вам абодвум зараз жа рушыць ў Грыфіндорскую Вежу, дзе вы і павінны быць.

Гары і Нэвіл моўчкі пайшлі да Вежы. Калі яны заварочвалі за вугал, Гары азірнуўся назад. Снэйп стаяў ля статуі і круціў рукамі па над яе галавой, уважліва разглядаючы яе.

Гары адвязаўся ад Нэвіла толькі ля партрэта Тлустай Пані, ён сказаў яму пароль, а сам зрабіўшы выгляд бы забыў сваё сачыненне аб упірах у бібліятэцы рушыў назад. Калі ён апынуўся па-за межамі позірку троляў, ён зноўку выцягнуў мапу і паднес яе да носу.

Здавалася, што калідор на чацьвёртым паверсе спусцеў. Гары ўважліва аглядзеў мапу і з палёгкаю заўважыў, што кропачка пазначаная як «Северус Снэйп» зноўку сядзела ў сваім кабінэце.

Ён зноўку пабег да статуі аднавокай вядзмакі, адкрыў яе горб, з цяжкасцю перакуліўся праз адтуліну і слізгануў уніз, сстрэўшыся са сваёй торбаю на дне каменнага жолабу. Ён выцер мапу паскуднікаў і рушыў па праходзе.

*

Гары, цалкам схаваўшыся пад Мантыяй-Невядзімкай, выслізнуў на вуліцу з дзвярэй Мядовага Герцага і штурхнуў Рона ў спіну.

- Гэта я,- прамармытаў ён.

- Чаму ты затрымаўся?- шыкнуў Рон.

- Снэйп круціўся паблізу...

Яны рушылі на галоўную вуліцу вёскі.

- Ты дзе?- ускрайкам вуснаў прамармытаў Рон.- Ты яшчэ тут? Гэта ўсё вельмі дзіўна...

Яны ўвайшлі на пошту. Рон зрабіў выгляд быццам вывучае кошты на соў, каб адаслаць паштоўку ў Егіпет свайму брату Білу, а Гары тым часам меў магчымасць уважліва азірнуцца. На жэрдачках пад столлю сядзела ня менш за трыста разнастайных соў ад агромістых няясыцяў да маленечкіх сплюшак для мясцовых перавозак, тыя былі настолькі крыхуткімі, што маглі б памясціцца ў Гарынай далоні.

Потым яны наведалі краму Зонкі, якая была настолькі моцна забіта навучэнцамі, што Гары трэба было быць вельмі асцярожным, каб не наштурхнуцца на кагось з іх і не вызваць панікі. Тут прадаваліся разнастайныя штукі і прылады з дапамогай якіх мажліва было выканаць самыя смелыя мроі Фрэда і Джорджа. Гары шэптам прамовіў Рону заказы і перадаў з-пад Мантыі крыху грошаў. Яны пакінулі Зонку са значна палягчэўшымі

гаманцамі, але іх кішэні былі забітыя гноебомбамі, ікаўковымі слодычамі, мылам з жабінай ікрой і носакуснымі філіжанкамі.

Дзень быў ясным і свежым, таму ім не хацелася заходзіць ў якіясь памяшканні. Гары з Ронам абмінулі Тры Мятлы і рушылі да Лямантуючай Халупы, самага вядомага ўва ўсёй Брытаніі дома з прывідамі. Халупа з яе забітымі дошкамі вокнамі і запусцелым садам стаяла крыху наводдаль ад астатняй вёскі і нават пры дзённым святле выглядала крыху жудаснай.

- Нават хогвартскія прывіды амінаюць яе,- прамовіў Рон, калі яны стаялі і глядзелі на яе абапёршыся аб плот.- Я пытаўся ў Амаль безгаловага Ніка... ён паведаміў што тут месціцца надта небяспечная талака. І аніхто ня можа трапіць ўсярэдзіну. Фрэд з Джорджам неяк спрабавалі, аднак усе ўваходы ў яе былі моцна забітыя.

Пасля пад'ёму Гары невыносна ўзапрэў і нават вырашыў на колькі хвілін скінуць з сябе Мантыю-Невідзімку, але непадалёк адчуліся набліжаючыеся галасы. Нехта падымаўся да Халупы з іншага боку ўзгорку. Праз колькі імгненняў яны ўбачылі Малфоя, за якім рушылі Крэйб і Гойл. Драко аб нечым распавядаў ім.

- ... у любы момант я магу атрымаць саву ад свайго бацькі. Ён павінен быў распусціць чуткі пра маю руку... аб тым, што я ня мог ёй карыстацца ажно тры месяцы...

Крэйб з Гойлам загігікалі.

- Мне было вельмі гідка слухаць, як гэты вялізны ёлуп, пытаўся яго абараніць... «Ён ня мае нячог' благога...»... добры гіпагрыф – мёртвы гіпагрыф...

Раптам, Малфой заўважыў Рона. Яго бледны твар злавесна ашчэрыўся.

- Што ты тут робіш, Візлі?

Драко заўважыў трухлявы дом за Ронавай спіной.

- Выкажу здагадку, што ты вырашыў перабрацца сюды, Візлі? Марыш аб ўласным пакоі? Я чуў вы ўсе спіце ў адным... гэта праўда?

Гары схапіў Рона, які ўжо збіраўся кінуцца на Малфоя, за край вопрадкі і супыніў яго.

- Пакінь яго мне,- шыкнуў ён на вуха сябру.

Нельга было страчваць гэткую цудоўную магчымасць. Гары крадком амінуў Малфоя, Крэйба і Гойла па дарозе зачарпнуўшы поўныя жмені бруду.

- А мы тут якраз абмяркоўвалі твайго сябра Хагрыда,- паведаміў Малфой Рону.- Толькі ўяві сабе, што ён гаманіў, перад камісіяй Кабінэта па знішчэнні небяспечных істотаў. Думаеш, ён будзе плакаць, калі яго гіпагрыфу адсякуць...

ПЛЯСЬ!

Галава Малфоя ад удара тузанулася на перад, а з яго срабрыста-белага валосся пачаў крапаць бруд.

- Што за..?

Рон смяяўся настолькі моцна, што быў вымушаны ўхапіцца за плот, каб не паваліцца. Малфой, Крэйб і Гойл найдуротнейша тупаліся на месцы, шалёна азіраючыся навокал. Драко спрабаваў адчысціць свае валасы ад бруду.

- Што гэта было? Хто гэта зрабіў?

- Хібы ня ведалі, што тут жывуць вельмі небяспечныя прывіды?- паведаміў ім Рон з тварам дыктара распавядаючага аб надвор'і.

Крэйб і Гойл перапужана азірнуліся. Іх накачаныя цягліцы анічога не маглі зрабіць супраць зданяў. Малфой ашалела азірнуў пустэльны краявід.

Гары ціхінька прамінуў ўздоўж сцежкі на месца дзе былі асабліва вялізныя лужыны з самым смуродным зялёнага колеру глеем.

ПЛЯЯЯЯЯЯСЬ!

Крэйб з Гойлам таксама апынуліся запэцканымі. Гойл люта клыпаў на адным месцы, спрабуючы адцерці бруд са сваіх маленькіх цмяных вочак.

- Гэта кінулі адтуль!- выціраючы твар і гледзячы кудысьці ў шасці футах лявей Гары, ускрыкнуў Малфой.

Крэйб спатыкаючыся рушыў наперад, выцягнуўшы перад сабой свае даўжэзныя рукі, як той зомбі. Гары скокамі абыйшоў яго ззаду і шпульнуў яму ў спіну палку. Ён сагнуўся ў бязгучным гогаце ўбачыўшы, як Крэйб паспрабаваў крута развярнуцца ў паветры, каб пабачыць хто яе кінуў. Адзіным чалавекам, якога той заўважыў быў Рон, таму Крэйб накіраваўся ў яко бок, але Гары паставіў на яго шляху ногу. Крэйб спатыкнуўся... і яго велічэзная плоская ступня зачапілася за падол Гарынай Мантыі. Гары адчуў, як нехта моцна тузануў Мантыю-Невідзімку, якая саслізнула з яго галавы.

Дзелю секунды Малфой стаяў, утаропіўшыся на галаву, што ўзнікла ў паветры.

- ААААА, МААААМКА!- узенчыў Драко, кажучы на Гарыну галаву, потым развярнуўся і з небяспечнай хуткасцю даў драпака са ўзгорка, а следам за ім паімчаліся Крэйб і Гойл.

Гары зноўку накінуў Мантыю на галаву, але шкода была нанесена.

- Гары!- усклікнуў Рон і спатыкаючыся пабег наперад, гледзячы ў напрамку ў якім зніклі Малфой з паплечнікамі.- Табе лепш спяшацца! Калі Малфой паведаміць каму... табе лепш вяртацца ў замак, шпарчэй...

- Пабачымся,- кінуў яму Гары і без лішніх словаў пабег назад у Хогсмід.

Ці паверацць Малфою, што ён бычыў Гары. Наогул, хто яму можа паверыць? Аб Мантыі-Невідзімцы ня ведае ніхто... акрамя Дамблдора. У Гары перакруцілася ў жываце... калі Драко распавядзе яму, Дамблдор адразу ж здагадаецца, што здарылася...

Гары хутка заскочыў у Мядовага Герцага, шпарка спусціўся ў склеп, тузануў люк, скінуў Мантыю, запхаў яе пад паху і вопцас пабег па праходзе... Калі Малфой вернецца першым, колькі часу яму спатрэбіцца, каб знайсці каго-небудзь з настаўнікаў? Гары задыхаўся ад вострай болі ў баку, тым ня менш не змяншаў хуткасці ажно пакуль не дабег да каменнага жолабу. Трэба было схаваць недзе тут Мантыю-Невідзімку, бо калі Малфой каму паведаміць, яна выдасі Гары. Хлопчык схаваў яе ў нейкім цёмным кутку і хутка, наколькі дазвалялі спатнелыя рукі, пачаў падымацца па жолабе. Ён выцягнуў наперад руку з чароўнай палачкай, пастукаў ёй па гарбе вядзьмаркі і выслізнуў праз адтуліну. Толькі Гары вылез са статуі і зачыніў горб, як адчуў у калідоры хуткія крокі.

Гэта быў Снэйп. Ён хутка, так што яго чорная вопрадка свісцела ў паветры наблізіўся да Гары.

- Так,- прамовіў ён.

Задыхаючыся ў прадчуванні трыўмфу, Снэйп зірнуў на Гары. Ён паспрабаваў зрабіць нявінны выгляд, але яго маглі выдаць ўзапрэлы твар і брудныя рукі, якія ён схаваў у кішэні.

- Хадзем за мною, Потэр!- сказаў прафесар.

Гары рушыў за ім ўслед па сходах, спрабуючы незаўважна выцерці свае рукі аб ўнутранні бок вопрадкі. Яны спусціліся ў падзямелье і зайшлі ў кабінэт Снэйпа.

Гары быў тут толькі аднойчы і таксама з-за таго, што трапіў у сур’ёзнуў непрыемнасць. З таго часу Снэйп паспеў набыць яшчэ колькі жахліва гідкіх рэчавін, што стаялі на паліцах за яго сталом і слізгацелі ў святле агню, дадаючы атмасферы ў кабінэце пагрозлівасці.

- Сядай,- загадаў Снэйп.

Хлопчык прысеў. Але сам прафесар працягваў стаяць на нагах.

- Містэр Малфой толькі што паведаміў мне цікавую гісторыю, Потэр,- прамовіў Снэйп.

Але Гары нічога не адказаў яму на гэта.

- Ён распавёў мне, што шпацыраў паблізу ад Лямантуючай Халупы і сустрэў там Візлі... быццам самотнага.

Гары працягваў маўчаць.

- Містэр Малфой сцвярджае, што стаяў і размаўляў з Візлі, калі яму на патыліцу хтосьці кінуў вялізную жменю бруду. Як думаеш, што здарылася?

Гары паспрабаваў выглядаць злёгку збянтэжаным.

- Ня ведаю Прафесар. Ані.

Снэйп свірдлаваў Гары вачыма, як колісць рабіў тое самае з Бакбікам. Гары не міргаючы глядзеў на яго.

- Містэр Малфой сцвярджае, што ўбачыў дзіўную здань. Ці ня ведаеш, што гэта было, Потэр?

- Ані,- адказаў Гары, імкнучыся зрабіць гэта нявінна-абыякава.

- Твая галава, Потэр. Якая лятала ў паветры.

На доўгі час у кабінэце запанавала цішыня.

- Можа яму лепей падыйсці да мадам Помфры,- адказаў Гары,- калі ён бачыць нешта, накшталт...

- Што твая галава рабіла ў Хогсмідзе, Потэр?- ціха спытаўся Снэйп.- Ёй забаронена там знаходзіцца. Аніводная частка твайго цела не павінна быць ў вёсцы.

- Ведаю,- адказаў Гары намагаючыся, каб на яго твары не адбіўся выраз жаху ці віны.- Гучыць так, бы ў Малфоя была галюцы...

- У яго не было галюцынацыі,- гыкнуў Снэйп, ён нахіліўся, паставіўшы рукі на падлакотнікі Гарынага крэсла, так, што між іх тварамі была адлеглысць ня больш за фут.- Калі твая галава была ў Хогсмідзе, там было і астатнее.

- Я быў у Грыфіндорскай Вежы,- адказаў Гары, як вы мне і загадалі...

- Гэта можа хтось пацвердзіць?

Гары не адказаў. Тонкі рот Снэйпа скруціла жахлівая ўсмешка.

- Дык вось,- зноўку выпрастаўшыся працягваў ён.- Усе, пачынаючы ад міністра па справах магіі і ніжэй, робяць ўсё магчымае, каб захаваць знакамітага Гары Потэра ад небяспекі ў асобе Сірыюса Блэка. Але знакаміты Гары Потэр сам сабе закон. Хай аб яго бяспецы думаюць абывацелі! Знакаміты Гары Потэр будзе хадзіць там, дзе яму заўгодна не думаючы аб наступствах.

Гары маўчаў. Снэйп спрабаваў падбухторыць яго сказаць праўду. Але Гары не збіраўся гэтага рабіць. Бо ў Снэйпа не было аніякіх доказаў... пакуль.

- Ты неверагодна падобны на свайго бацьку, Потэр,- раптоўна прамовіў Снэйп і яго вочы пачалі зіхацець,- ён таксама быў занадта саманадзейным. Невялічкія поспехі на квідытчнам поле, прымусілі яго лічыць, што ён вышэй за ўсіх астатніх. Ён хадзіў тут як тая цаца, разам са сваімі сябрамі і прыхільнікамі... Паміж вамі небяспечнае падабенства.

- Мой бацька ня быў пыхліўцам,- перш чым паспеў спыніць сябе прамовіў Гары,- і я таксама.

- Твой бацька не прызнаваў аніякіх правілаў,- працягваў Снэйп, націскаючы на Гары сваёй перавагай, а яго хударлявы твар напоўніўся злосцю.- Правілы былі створаны для абываталяў, а не дзеля пераможцаў Кубку Хогвартса. Яго пыха была...

- ЗАТЫКНІЦЕСЯ!

Гары выпрастаўся. Яго апанавала лютасць, якую апошні раз ён адчуваў толькі ў той вечар на Прайвет Драйв. Ён не звяртаў увагу на тое, што твар Снэйпа знерухоміў, а чорныя вочы небяспечна заміргалі.

- Што ты сказаў, Потэр?

- Я сказаў, каб вы не неслі лухты аб маім бацьку!- узʼенчыў Гары.- Я ўсё ведаю! Ён уратаваў вам жыццё! Дамблдор распавёў мне аб гэтым! Вас наогул не было бы тут, калі б не мой бацька!

Снейпава скура замест жоўтай стала колеру кіслага малака.

- А ці распавёў табе дырэктар пра тыя абставіны падчас якіх твой бацька выратавал маё жыццё?- прашаптаў ён.- Ці вырашыў, што падрабязнасці занепрыемныя для далікатных вушак каштоўнага Потэра?

Гары закусіў губу. Ён не ведаў аб тым, што тады здарылася і не жадаў у гэтым прызнавацца... але Снэйп сам здагадаўся аб гэтым.

- Не жадаў бы, каб ў цябе засталося ілжывае ўяўленне аб асобе твайго бацькі, Потэр,- прамовіў Снэйп і яго твар жахліва ашчэрыўся.- Пэўна вырашыў, што гэта было нейкае хвалебнае геройства? Тады дазволь паправіць цябе... твой цнатлівы бацька і яго сябры вельмі пацешным чынам разыгралі мяне і гэта скончылася маёй смерцю, калі б твой бацька не здрэйфіў у апошні момант. У гэтым не было аніякай адвагі. Твой бацька перш за ўсё ратаваў сваю скуру, а не мяне. Бо, калі б іх жарт здейсніўся, яго б выключылі з Хогвартсу.

Снэйп агаліў свае няроўныя жаўтлявыя зубы.

- Выверні кішэні, Потэр!- нечакана выпаліў ён.

Гары не варушыўся. У яго вушах грукатала.

- Выверні кішэні, Потэр, ці мы адразу пойдзем да дырэктара! Варушыся!

Халадзеючы ад жаху, Гары выцягнуў з кішэняў мяшок з зонкаўскімі жартамі і мапу паскуднікаў.

Снэйп зірнуў на зонкаўскую торбу.

- Мне іх прынёс Рон,- сказаў Гары, употай молячыся, што ў яго атрымаецца папярэдзіць аб гэтым Рона, пакуль яго не сстрэне Снэйп.- Ён прынес іх, калі быў у Хогсмідзе мінулы раз...

- Няўжо? І ты дагэтуль не скарыстаўся імі? Як люба... а што гэта?

Снэйп ўзяў ў рукі мапу. Гары з усяе моцы намагаўся захаваць твар абыякавым.

- Пергамент на празапас,- паціснуў Гары плячыма.

Снэйп круціў мапу ў руках, пазіраючы на хлопца.

- Нашто табе спатрэбіўся гэткі стары кавалак пергаменту?- спытаў ён.- Можа выкінуць яго?

Снэйп працягнуў сваю руку да каміну.

- Не!- хутка прамовіў Гары.

- Што!- пагрозліва сказаў Снэйп, яго ноздры трымцелі.- Яшчэ адзін каштоўны падарунак ад містэра Візлі? Не... штось выбітнейшае? Можа ліст, напісаны нябачнымі чарніламі? А можа... інструкцыя, як трапіць у Хогсмід, не трапіўшы на дэментараў?

Гары залыпаў. Вочы Снэйпа замігацелі.

- Так, так, дай падумаць...- замармытаў ён, дастаючы чароўную палачку і разгладжваючы пергамент на стале.- РАСКРЫЙ МНЕ СВАЮ ТАЯМНІЦУ!- прамармытаў Снэйп і крануў мапу палачкай.

Нічога не адбылося. Гары сціснуў рукі, каб перапыніць іх дрыгаценне.

- ПАКАЖЫ СЯБЕ!- зноўку прамовіў ён і рэзка стукнуў па пергаменце.

Той заставаўся пустым. Гары глыбока заспакаяльна ўздыхнуў.

- ПРАФЕСАР СЕВЕРУС СНЭЙП, МАГІСТР ГЭТАЙ ШКОЛЫ, ЗАГАДВАЕ ТАБЕ, РАСКРЫЙ ЗВЕСТКІ ЯКІЯ ТЫ ХАВАЕШ!- Снэйп зноўку стукнуў мапу сваёй палачкай.

На паверхні пергамента з’явіліся словы, якія быццам бы пісала нябачная рука.

«Містэр Лунацік, сведчыць аб сваёй пашане прафесару Снэйпу і просіць яго не саваць свой анамальна вялізный нос не ў свае справы.»

Снэйп знерухоміў. Гары знямела вытарапіўся на паведамленне. Але мапа на гэтым не супакоілася. Пад першым паведамленне аб’явілася другое, напісанае іншым почыркам.

«Містэр Рагач далучаецца да містэра Лунаціка і жадае дадаць, што прафесар Снэйп гідкі вырадак.»

Гэта было б вельмі смешна, калі б не было гэдак сур’ёзна, а мапа працягвала...

«Містэр Мягкалап наогул здзіўляецца, што падобнага ёлупа нехта зрабіў Прафесарам.»

Гары ад жаху заплюшчыў вочы, калі ён адважыўся зноўку іх раскрыць мапа вывозіла:

«Містэр Галахвост шчыра развітваецца з прафесарам Снэйпам і раіць яму нарэшце памыць сваю мярзотную фрэзуру.

Гары з жахам чакаў, што будзе далей.

- Эгэ...- ціха прамовіў Снэйп,- Зараз мы даведаеся, што гэта...

Ён крочыў да свайго каміна, схапіў жменю бліскучага парашка з прыадчыненай скрыначцы, што стаяла на паліцы і кінуў яе ў агонь.

- Люпін!- прамовіў у камін Снэйп.- Трэба пагаманіць!

Збіты з панталыку Гары утаропіўся ў вогнішча. Там аб’явілася нейкая вялізная здань, якая пачала хутка круціцца. Праз колькі секунд з каміна вылез прафесар Люпін, абтрасаючы попел са сваёй зношанай вопрадцы.

- Ты клікаў мяне Северус?- лагодна спытаў ён.

- Зразумела,- , падыходзячы да свайго стала  і крывячыся ад лютасці прамовіў Снэйп.- Я папрасіў Потэра вывернуць кішэні і знайшоў там вось гэта.

Снэйп сунуў Люпіну пергамент на якім па ранейшаму ззялі паведамлення ад Лунаціка, Галахвоста, Мягкалапа і Рагача. На твары Люпіна з'явіўся дзіўны замкнёны выраз.

- Ну?- спытаўся Снэйп.

Люпін працягваў глядзець на мапу. У Гары стварылася ўражэнне, што той аб нечым хутка разважаў.

- НУ?- зноўку спытаўся Снэйп.- Гэты пергамент папросту перапоўнены чорнай магіяй. Мяркую, што гэта ў тваёй кампітэнцыі, Люпін. Дзе з твайго пункту гледжання Потэр мог яе здабыць?

Люпін падняў вочы і крайком вока зірнуўшы на Гары, папярэдзіў яго не ўблытвацца.

- Перапоўнены чорнай магіяй?- лагодна перапытаў ён.- Ты сапраўды гэдак лічыш, Северус? А маё меркаванне, гэта папросту кавалак пергаменту, які абразіць кожнага, хто паспрабуе яго прачытаць. Шалапутства, але вядома ж ня маючае аніякай небяспекі. Лічу, што Гары набыў яго ў якойсьці краме-жартаў...

- Няўжо?- спытаўся Снэйп, яго скіўіцы сціснуліся ад гневу.- Думаеш у жартоўных крамах прадаецца нешта падобнае? А ці не думаеш ты, што ён мог атрымаць яе непасрэдна ад ВЫТВОРЦАЎ?

Гары не разумеў, аб чым кажа Снэйп. Люпін відавочна таксама.

- Маеш на ўвазе ад Галахвоста ці кагось з узгаданых?- спытаўся ён.- Гары, ці ведаеш ты каго з гэтых асоб?

- Ані,- адразу ж адказаў хлопец.

- Чуў, Северус?- звяртаючыся да Снэйпа спытаўся Люпін.- Я ж кажу, гэта было набыта ў Зонкі...

Быццам па загадзе ў кабінэт уварваўся Рон. Ён быў ўшчэнт задыханы і ледзь трымаючыся на нагах ўстаў ля стала прафесара Снэйпа. Ён стаяў прыціснуўшы руку да грудзей і спрабаваў размаўляць

- Гэта... я... даў... гэта... Гары,- задыхаючыся прамовіў Рон.- Набыў... ў мінулы... раз... у Зонкі...

- Ну вось!- пляскаючы далонямі і весела азіраючыся прамовіў Люпін.- Здаецца мы ўсё высветлілі! Я вазьму гэта ў цябе, Северус?- дадаў ён, складваючы мапу і кладучы яе ў сваю вопрадку.- Гары, Рон, хадземце за мной, мне трэба задаць вам колькі пытаннях па вашым сачыненням аб упірах. Прабач нас, Северус.

Гары не рызыкнуў паглядзець на Снэйпа, калі яны пакідалі яго кабінэт. Ён, Рон і Люпін не размаўляючы рушылі ажно да Вестыбюлю. Толькі тады Гары звярнуўся да настаўніка.

- Прафесар, я...

- Не жадаю слухаць аніякіх тлумачэнняў,- імгненна паведаміў ён. Люпін азірнуў пусты Вестыбюль і сцішыўшы голас дадаў.- Я ведаю, што шмат год таму, гэтую мапу канфіскаваў містэр Філч. Так, я ведаю, што гэта мапа,- сказаў ён здзіўленна гледзячым на яго Гары і Рону.- Я не жадаю ведаць, як яна трапіла да вас. Але ж я здзіўляюся, чаму вы не аддалі яе. Асабліва пасля таго выпадка з паролямі. Прабач, Гары, але я не вярну яе табе.

Гары чакаў чагось падобнага і быў надта напружаны для пратэставання.

- А чаму Снэйп вырашыў, што я мог атрымаць яе ад вытворцаў?

- Таму што...- Люпін завагаўся.- Таму што гэтыя мапастворнікі пажадалі выманіць цябе з замку. Яны лічаць, што гэта надта вясёла.

- Вы іх ведаеце?- уражана спытаўся Гары.

- Мы сустракаліся,- шпарка прамовіў Люпін. Ён глядзеў на Гары, больш сур'ёзна чым калі-небудзь

- І не разлічвай на то, што ў наступны раз я гэдак жа прыкрыю цябе, Гары. Я не магу прымусіць цябе сур'ёзна ставіцца да Сірыюса Блэка. Але я вырашыў, што тое, што ты адчуваеш, калі паблізу ад цябе апыняюцца дэментары, будзе мець на цябе большы ўплыў. Твае бацькі загінулі, каб урававаць тваё жыццё, Гары. Ты абраў надта кепскі спосаб аддзячыць ім... прамяняўшы іх ахвяру на мяшок з жартамі.

Ён сыйшоў, Гары адчуваў сябе горш, чым тады, калі знаходзіўся ў кабінэце ў Снэйпа. Яны з Ронам павольна пачалі падымацца па мармуровых сходах. Калі яны міналі статую аднавокай вядзьмаркі, Гары прыпомніў, што Мантыя-Невідзімка ўсё яшчэ знаходзіцца ў праходзе... але не адважыўся спусціцца па яе.

- Гэта я вінаваты,- раптоўна прамовіў Рон.- Гэта я пераканаў цябе пайсці. Люпін правы, гэта было вельмі бязглузда. Мы не павінны былі...

Ён супыніўся. Гары і Рон дасягнулі калідора па якім хадзілі тролі-ахоўнікі, ім насустрач рушыла Герміёна. Адзін погляд на яе пераканаў Гары, што яна аб ўсім ведае. Яго душа самлела... а што калі яна аб усім распавяла прафесарцы МакГонагал?

- Прыйшла, каб пазлараднічаць?- разлютавана спытаўся Рон, калі дзяўчынка супынілася ля іх.- Пэўна ўжо аб усім расказала?

- Не,- адказала Герміёна. Яна трымала ў руках ліст, а яе вузны дрыжалі.- Я вырашыла вы павінны ведаць... Хагрыд прайграў справу. Бакбіку прысудзілі смяротнае пакаранне.

## — РАЗДЗЕЛ XV —

### *Фінал спаборніцтва*

- Ён... ён даслаў мне вось гэта,- прамовіла Герміёна, працягваючы ім ліст.

Гары ўзяў яго ў рукі. Пергамент быў вільготным, а чарніла на ім былі сям-там размыты вялізнымі слёзнымі плямамі, таму чытаць было даволі цяжкавата.

*«Даражэнькая Герміёна,*

*Мы прайгралі. Адзінае, мне дазволілі адвезці яго ў Хогвартс. Дату катавання скажуць пазней.*

*Бікі насалоджваецца Лонданам.*

*Ніколі не забудуся на тваю дапамогу.*

*Хагрыд.»*

- Яны ня могуць гэтага зрабіць,- прамовіў Гары.- Бакбік не небяспечны.

- Малфоеў бацька напалохаў ім чальцоў Камітэта,- паціраючы вочы сказала Герміёна.- Хіба вы яго ня ведаеце. Ён ушчэнт перапужаў гэту купу старых дрыготкіх ёлупней. Канечне, як заўжды будзе магчымасць падаць апеляцыю. Але на яе нельга спадзявацца... яна анічога ня зменіць.

- Мы ўсёроўна паспрабуем,- апантана прамовіў Рон.- І на гэты раз табе не прыйдзецца рабіць ўсё самастойна. Я дапамагу табе.

- Вох, Рон!

Герміёна абхапіла Рона за шыю і ўшчэнт згубіла волю. Рон спалохана пазіраючы вакол, вельмі няёмка паляпаў яе па патыліцы. Нарэшце яна адсунулася.

- Рон,- працягваючы плакаць прамовіла яна,- я сапраўды вельмі шкадую аб Скаберсе...

- Ай... кінь... ён быў стары,- адказаў Рон, калі Герміёна адпусціла яго, той стаў выглядаць цалкам заспакоеным,- і з большага бескарысным. Хто ведае, можа атрымаецца прымусіць маму з татам набыць мне саву.

*

Меры бяспекі ўведзеныя пасля другога нападу Блэка зрабілі немагчымым для сяброў наведванне Хагрыда па вечарах. Адзіны шанец было пагаманіць з ім пасля заканчэння ўрока па Догляду за Магічнымі Істотамі.

Ён здаваўся здранцвелым ад шоку з падобнага вердыкта суда.

- Гэт’ мая віна. Усё мая гаркавасць. Яны сядзелі такія ў чорных мант’ях, а я забыўся што трэб’ казаць, пераблыт’ даты, якія мне дала ты, Герміёна. А пот’ падняўся Люц’юс Малфой, сказаў два словы і тыя зрабілі так, як ён з’гадаў...

- Падавай на апеляцыю!- апантана прамовіў Рон.- Нельга здавацца, мы ўжо працуем над гэтай справай!

Яны рушылі да замку з астатнімі вучнямі. Наперадзе яны бачылі Малфоя, які крочыў разам з Крэйбам і Гойлам і азіраючыся назад, пыхліва пасміхаўся.

- Гэт’ дарма, Рон,- адказаў Хагрыд, калі яны ўжо набліжаліся да ганку.- Ты з кам’тэту, яны ў кішэні Люц’юса Малфоя. Адзіна што мне ‘стаецца, зрабіць так, каб апошні дні Бікі былі нашчасліўшымі за ўсё ’го жыццё. Я абавязан гэт’ зрабіць...

Хагрыд развярнуўся і паспяшаўся назад, уторкнуўшы твар у насоўку.

- Зірніце на гэту плачку!

Малфой, Крэйб і Гойл стаялі ў дзвярах замку, уважліва прыслухоўваючыся.

- Ці вы бачылі калісь большага нікчэму?- прамовіў Малфой.- і яго лічаць настаўнікам!

Гары з Ронам разлютавана кінуліся ў яго бок, але іх апярэдзіла Герміёна...

ПЛЯСЬ!

З усяе моцы, на якую яна толькі была здольна, яна закаціла Малфою аплявуху. Той захістаўся. Гары, Рон, Крэйб і Гойл ашаломлена стаялі на месцы. Герміёна зноўку падняла руку.

- Ня смей называць Хагрыда някчэмаю, ты гідкі... злосны...

- Герміёна!- квола сказаў Рон і спрабаваў схапіць яе за руку, калі яна адводзіла яе назад.

- Знікні, Рон!

Герміёна выцягнула палачку. Малфой адступіўся. Крэйб і Гойл ашалела глядзелі на яго чакаючы загадаў.

- Ходзьма!- прамармытаў Малфой і ўсе трое рушылі па калідоры ў сваё падзямелле.

- ГЕРМІЁНА!- зноўку паклікаў Рон, яго голас быў ашалела-уражаным.

- Гары, лепш пабей яго, падчас квідытчнага фіналу!- пранізліва сказала Герміёна.- Адбяры ў яго перамогу, бо калі выйграе Слізэрын, я не вытрымаю!

- Мы ўжо павінны быць на Замовах,- працягваючы таропіцца на Герміёну, прамовіў Рон.- Нам лепей ісці.

Па мармуровых сходах яны паспяшаліся ў напрамку кабінэта прафесара Флітвіка.

- Спазняецеся хлопцы!- з дакорам заўважыў Флітвік, калі Гары прыадчыніў дзверы яго класа.- Хуценька даставайце свае палачкі. Сёння мы эксперыментуем з Узбадзёрваючымі Замовамі. Мы ўжо падзяліліся на пары...

Гары з Ронам паспяшаліся да вольнага стала і раскрылі свае торбы. Тут Рон азірнуўся.

- А куды падзелася Герміёна?

Гары таксама паглядзеў навокал. Дзяўчынкі ў класе не было, хаця Гары дакладна ведаў, што яна стаяла разам з імі, калі ён адчыняў дзверы пакою.

- Дзіўна,- прамовіў звяртаючыся да Рона Гары.- Можа... можа яна адыйшла ў прыбіральню, ці кудысь яшчэ?

Але Герміёна так і не аб’явілася на ўроку.

- Ёй бы зусім не пашкодзіла пазаймацца Ўзбадзёрваючымі Замовамі.- прамовіў Рон, калі вучні пасля занятку гуртом рушылі на абед... пасля Замоваў усе яны былі ў звышвясёлым настроі.

На абедзе Герміёны не было таксама. Пасля таго, як хлопцы скончылі абедаць і перайшлі да яблычнага пірагу, дзеянне Ўзбадзёрваючых Замоў, пакрысе пачало адступаць і яны злёгку занепакоіліс.

- Не думаеш, што Малфой мог штосьць зрабіць з ёй?- устрывожана прамовіў Рон, калі яны разам спяшалі да Грыфіндорскай Вежы.

Яны прайшлі праз троляў-ахоўнікаў, сказалі Тлустай Пані пароль - «Пляткарка» і праз адтуліну за партрэтам завіталі ў гасцёўню.

Герміёна сядзела на сваім звычайным месцы за сталом і моцна спала, паклаўшы галаву на разгорнуты падручнік па Нумералогіі. Гары і Рон падыйшлі да яе і селі паабапал. Гары злёгку штурхнуў яе.

- А... што?- імгнення прачнуўшыся прамовіла Герміёна, дзіка пазіраючы навокал.- Ужо час ісці? Я-які зараз будзе урок?

- Вяшчунства, але да яго яшчэ дваццаць хвілінаў.- адказаў Гары.- Герміёна, чаму цябе не было на Замовах?

- Што? Божачкі, не!- віскнула дзяўчынка.- Я забылася, што трэба было ісці на Замовы!

- Але як ты магла забыцца?- спытаў Гары.- Ты ж была з намі, калі мы рушылі на ўрок!

- Ня веру!- ускрыкнула Герміёна.- Прафесар Філтвік пэўна страшэнна злаваўся. Гэта ўсё Малфой, я увесь час думала аб ім і зусім заблыталася!

- Ведаеш што, Герміёна? - прамовіў Рон, пазіраючы на вялізарны падручнік па Нумералогіі, які тая выкарыстоўвала ў якасці падушкі.- Здаецца, што ты ўжо на пшык з’ехала. Ты спрабуеш зрабіць больш, чым магчыма.

- Не, зусім не!- адказала Герміёна, адштурхнуўшы лезучае на вочы валоссе і перапухана гледзячы на сваю торбу.- Я проста заблыталася і ўсё! Зараз пайду і папрашу прабачэння ў прафесара Флітвіка... Убачымся на Вяшчунстве!

Герміёна далучылася да іх ля падножжа кабінэта прафесаркі Трэлані праз дваццаць хвілін, яна выглядала незвычайна стомленай.

- Не магуць паверыць у тое, што прапусціла Ўзбадзёрваючыя Замовы! Я ўпэўнена, што яны будуць на іспытах. І прафесар Флітвік намякаў на гэта!

Разам яны падняліся па лесвіцы ў задушлівы і цмяны круглы кабінэт прафесаркі Трэлані. На кожным століку зіхацелі крыштальныя шары, поўныя жамчужна белай смугі. Тройца прысела разам за адзін з хісткіх столікаў.

- Я я лічыў, што мы не будзем займацца крышталёвымі шарамі да пачатку наступнага сэместра,- прамармытаў Рон, асцярожна пазіраючы навокал у пошуках прафесаркі Трэлані, на той выпадак, калі яна схавалася непадалёк.

- Не жалься, гэта ўсё таму, што мы нарэшце скончылі херамантыю, - прамармытаў у адказ Гары.- Я ўжо пачаў дрыжаць да ванітаў, кожны раз, калі яна мінаючы мяне, пазірала на мае рукі.

- Дабрыдзень усім!- прагучаў знаёмы цмяны голас і прафесарка Трэлані, як заўжды бліскуча выйшла аднекуль з ценяў. Парваці і Лавендру закалаціла ад узбуджэння, а іх тварыкі асвятляліся малочным святлом з крышталёвага шару.

- Я вырашыла распачаць выкладанне крышталёвых шароў крыху раней, чым планавала,- прамовіла Трэлані, прысядаючы на крэсла, спіною да каміна і пазіраючы навокал.- Фатум паведаміў мне, што шары будуць ўваходзіць ў вашыя чэрвеньскія іспыты і вырашыла даць вам дадаткова папрактыкавацца.

Герміёна пырхнула.

- Але ж, кажучы шчыра... «Фатум ёй паведаміў»... а хто будзе рыхтаваць іспыты? Ці ж не яна? Дзівацкае прадказанне!- не турбуючыся, каб сцішыць голас заўважыла Герміёна.

Цяжка было зразумець, ці пачула прафесарка словы Герміёны і як на гэта адрэагавала, бо яе твар знаходзіўся ў прыцемках. Але працягвала яна сваю гаворку так, быццам анічога не здарылася.

- Крышталавізія, з’яўляецца асабліва вытанчаным мастацтвам,- замроена сказала Трэлані,- і я не чакаю, што хтось з вас штось Забачыць зазірнуўшы ўпершыню ў бясконцую глыбіню Шара.Мы распачнем з вамі з расслаблення вашага розуму і знешніх вачэй...- Рон пачаў бескантрольна гігікаць і быў вымушаны заціснуць рот кулаком, каб сцішыць шум...- такім чынам, каб ачысціць прастору для Ўнутранняга Вока і звышсвядомасці. І калі вам моцна пашанцуе вы што-небудзь Забачыце напрыканцы занятку.

Усе кінуліся выконваць заданне. Гары адчуваў сябе сапраўды па-дурацку. Ён бездапаможна глядзеў у шар і як не імкнуўся спустошыць свой розум, гэта было вельмі цяжка, бо праз яго галаву пралятаў шэраг думак, такіх як «Лухцень поўная!» і падобных. Яшчэ менш яму дапамагала прыдушанае гігіканне Рона і ціхія шкадаванкі Герміёны.

- Хто-небудзь штось заўважыў?- спытаўся Гары, калі мінула чвэрць гадзіны сузірання.

- Ага, васкавую пляму на стале,- кажучы пальцам, прамовіў Рон,- хтось апракінуў на яго свечку.

- Гэта марная страта часу,- сыкала Герміёна,- я магла заняцца чымсьці карысным. Магла б паспрабаваць дагнаць вас па Ўзбадзёрваючым Замовам...

Міма іх прашаргацела прафесарка Трэлані.

- Камусці патрэбна дапамога ў інтэрпрытацыі пакрытых ценем папярэжванняў, якія паказвае Шар?- прамармытала яна дзвякаючы бранзалетамі.

- Мне дапамога не патрэбна,- прашапатаў Рон,- і так ўсё зразумела. Сёння ў вечары з надворку будзе туман.

Гары з Герміёнаю зарагаталі.

- Ну, насамрэч!- прамовіла Трэлані, паварочваючы галаву ў іх бок. Парваці з Лавендрай зласліва азірнуліся.- Вы руйнуеце вібрацыі празорлівасці!- Яна падыйшла да іх стала і зазірнула ў крышталёвы шар. Гары адчуў, як яго сэрца перахапіла. Ён быў упэўнены ў том, што зараз пачуе...

- Што ў вас тут?- прашапатала яна, нахіляючы свой твар да Шара, так што на ім адлюстраваліся яе ўдвая павялічыўшыеся акуляры.- Нешта рухаецца... але што?

Гары быў гатовы паставіць у заклад ўсё што заўгодна, у тым лікі і сваю Вогненную Маланку, што пачуе зараз не самую добрую навіну. І сапраўды...

- А мой ты любы...- глуха выдавіла прафесарка, пазіраючы на Гары.- Мой ты даражэ-эне-ечкі. Я бачу... ясней чым колісь... да цябе нехта падкрадаецца... і ён ўсё бліжэй... Гэта Гр...

- А, Магутны Божа!- гучна прамовіла Герміёна.- Гэта ўжо ня смешна, зноўку Грым!

Прафесарка падняла свае вязізныя вочы і паглядзела на Герміёну. Парваці нешта шапнула Лавендры і яны разам таксама ўтаропіліс на дзяўчынку. Трэлані выпрасталася, працягваючы пазіраць на Герміёну з непераважнай разлютаванасцю на твары.

- Мне вельмі шкада за словы, якія я вымушана сказаць, але мне з самога пачатку твайго аб’яўлення на маіх занятках было відавочна, што ты, мая даражэнечкая, не маеш Таго,

што патрабуе высакароднае мацтацтва Вяшчунства, ані. І насамрэч, мне цяжка прыпомніць вучня, чый розум быў настолькі безнадзейна Будзёны.

На хвіліну запанавала маўчанне. А пасля...

- Выдатна!- раптоўна прамовіла Герміёна, падымаючыся і запіхваючы свае Развуаляванне Будучыні ў торбу.- Выдатна!- паўтарыла яна і перакінула торбу праз плячо, ледзь пры гэтым не скінуўшы Рона з крэсла.- Я абмываю рукі! Я сыходжу!

Пад здзіўленыя позіркі астатніх вучняў, Герміёна падыйла да люку, адштурхнула яго і спусцілася па лесвіцы ўніз.

Мінула колькі хвілін перш, чым вучні нарэшце супакоіліся. Прафесарка Трэлані здавалася забылася аб сваім Грыме, яна рэзка развярнулася і, цяжка дыхаючы, адашла ад стала Гары і Рона, мацней захутваючыся ў сваю празрыстую хустку.

- Ооооо!- нечакана прамовіла Лавендра, прымусіўшы ўсіх усхамянуцца.- Оооооо, мадам прафесар, я толькі што прыпомніла! Вы ж прадбачылі яе сыход? Ці не так? «А на пасхальных вакацыях адзін з нас пакіне заняткі назаўжды!» Вы казалі гэта на пачатку навучальнага году, прафесар!

Прафесарка Трэлані адаравала яе блішчалай усмешкай.

- Так, мая даражэнечкая, зразумела ж я прадбачыла, што міс Грэйнджэр пакіне нас. Я канечне, шчыра спадзявалася, што гэта памылковы прагноз... каб вы ведалі, які гэта цяжар мець Унутранняе Вока...

Лаведра і Парваці з глыбокім ўражаннем пагглядзелі на прафесарку і пасунуліся, каб яна магла прысесці за іх столік.

- Ці ты колісь бачыў яе такой?- з пачцівым жахам сытаўся Рон у Гары.

- Ну...

Гары зноўку зірнуў у свой крышталёвы шар, але ня ўбачыў там анічога акрая белай смугі. А што калі прафесарка Трэлані зноўку бачыла Грыма? Апошнее, што яму было патрэбна падчас фінальнага матчу па квідытчу, гэта смяротны зыход.

*

Нават Велікодныя вакацыі не прынеслі палёгкі. Трэццягодкі не маглі прыпомніць, каб колісь мелі столькі хатняй работы. Нэвіл Лонгботам увогуле быў блізкі да нэрвовага зрыву і ён такі быў не адзін.

- Нехта называе гэта вакацыямі!- ўзенчыў неяк Шымас Фініган у гасцёўне.- Да іспытаў яшчэ сто гадоў, якой халеры яны ад нас хочуць?

Але ж анікому не было гэдак цяжка, як Герміёне. Нават пазбавіўшыся заняткаў па Вяшчунству, яна атрымала болей заданняў чым хтось іншы.Штоночы, яна апошняй пакідала гасцёўню. А шторанку прачыналася самай першай, каб ісці ў бібліятэку. І цяпер мела гэткія ж кругі пад вачыма, як прафесар Люпін і здавалася, што яна ў любы момант была гатова расплакацца.

Рон ўзяў на сябе апеляцыю Бакбіка. Калі ён не займаўся сваімі хатнімі заданнямі, ён дэталёва вывучаў вязізарнейшыя тамы з назвамі накшталт «Даведнік па псіхалогіі гіпагрыфаў», ці «Улюбёнцы ці шалёнцы? Даследванне жорсткасці ў гіпагрыфаў». Ён быў настолькі паглыблёны ў свой занятак, што нават забываўся кпіць Крукшанса.

Тым часам, Гары старанна пытаўся сумясціць неабходнасць выконваць свае шматлікія хатнія заданні з штодзённымі квідытчнымі трэніроўкамі, не кажучы яшчэ аб бясконцых

абмеркаваннях тактыкі з Вудам. Матч Грыфіндор – Слізэрын павінен быў прайсці ў першую суботу апасля вялікодных вакацыяў. Слізэрынцы вялі ў ліку на двесці ачкоў і гэта азначала, што дзеля перамогі ў турніры, Грыфіндору патрэбна будзе абыграць іх на колькасць балаў перавышаючых дзвесці, аб чым Олівер не стамляючыся нагадваў сваім гульцам. Гэта ў тым ліку адзначала, што асноўны цяжар будзе пакладзены на плечы Гары, бо гулец, які зловіць Сніч, заробіць для сваёй каманды сто пяцьдзесят ачкоў.

- Толькі ты павінен будзеш злавіць яго,- пры кожнай раптоўнай сустрэчы казаў яму Вуд, калі мы будзем перамагаць з розніцай больш за пяцьдзесят ачкоў. Толькі, калі будзем выйграваць з вялікай розніцай, Гары, ці мы выйграем матч, але прайграем Кубак. Ці ты зразумеў? Зладзі Сніч, калі мы...

- Я ПАМЯТАЮ, ОЛІВЕР!- уз’енчыў Гары.

Увесь Грыфіндор памяшаўся на маючым адбыцца матчы, бо грыфіндорскі Дом не выйграваў Кубка ажно з тых часоў, калі за Паляўнічага у камандзе гуляў легендарны Чарлі Візлі, які прыходзіўся Рону другім па старшынстве братам. Але Гары, сумняваўся, што хоць хтосці з яго судамоўцаў, нават сам Вуд, жадаў гэтай перамогі так, як яе жадаў сам Гары. Яго суварожасць з Малфоем дасягнула найвышэйшай кропкі за ўвесь час іх знаёмства. Драко працягваў кіпець ад лютасці аб тым выпадку глеезакідвання ў Хогсмідзе і апантана шалеў з таго, што Гары здолеў пазбегнуць нават найменшага пакарання. Гары ж ў сваю чаргу не забыў аб спробе Малфоя нарабіць яму шкода падчас гульні з Рэйвенкло. А справа Бакбіка канчаткова ўпэўніла Гары ў неабходнасці перамогі над Драко на вачах ува ўсёй школы.

Ніколі, на пямяці навучэнцаў перад матчам не было настолькі напружанай атмасферы. А пасля вакацыяў напружанасць у адносінах паміж дзвума хогвартскімі Дамамі дасягла сваёй мяжы. Узмацнілася колькасць невялічкіх сутычак паміж асобнымі навучэнцамі, якая дасягнула кульмінацыі, калі ў шпітальным крыле апынуліся грыфіндорскі чатырохгодка і слізэрынскі шасцігодка ў якіх з вушэй вырас парэй.

Але ж асабліва дрэнныя часы наступілі для Гары. Ён і кроку не мог прайсці без таго, каб нейкі слізэрынец не падставіў яму нагу, а ўжо Крэйб з Гойлам тыя і ўвогуле нейкім чынам аб’яўляліся там дзе быў Гары, аднак адразу ж камлюкавата спяшалі прэч, калі бачылі, што яго атачалі іншыя вучні. Вуд ў сваю чаргу даў заданне іншым, паўсюль суправаджаць Гары, каб пазбегнуць выпадкаў нападу на хлопчыка з боку слізэрынцаў. Грыфіндорцы ўспрынялі гэты загад з энтузіязмам і цяпер Гары ўвесь час спазняўся на заняткі, бо паўсюль яго атачаў вялізарны галосна размаўляючы натоўп. Сам жа хлопчык непакоіўся больш не аб ўласнай бяспецы, а аб захаванасці Вогненнай Стралы. Калі ён ня лётаў на ёй, ён зачыняў яе ў сваёй валізе і ўвесь час імкнуўся вярнуцца ў Грыфіндорскую Вежу, каб паглядзець ці там яна.

*

У ноч перад матчам ніхто і не думаў, дакранацца да сваіх хатніх заданняў. І нават Герміёна не адкрывала падручнікаў.

- Я зараз ня здольная працаваць,- нярвуючыся сказала яна.- Не магу сканцэнтравацца.

У гасцёўне стаяў звышнатуральны глум. Блізняты Візлі здымалі напругу з падвоенай сілай туляючы на усе застаўкі. Олівер Вуд стуліўся ў куточку з мадэлью квідытчнага поля і штурхаў фігуркі сваёй палачкай, увесь час мармочучы нешта сабе пад нос. Анджэліна,

Алісія і Кэці смяяліся над жартамі Фрэда і Джорджа. Гары сядзеў у далечыні ад ўсіх разам з Ронам і Герміёнаю, імкнучыся не думаць аб заўтрашнім матчы, бо што раз, калі ён гэта рабіў у яго адразу ж ўзнікала адчуванне бы нешта вялізнае са змаганнем пытаецца вылезці з яго страўніка.

- З вамі ўсё будзе добра,- папыталася падтрымаць яго Герміёна, якая сама была безумоўна перапужанай.

- Ты ж маеш Вогненную Стралу!- дадаў Рон

- Так...- згадзіўся Гары, а яго страўнік зноўку пачало курчыць.

- Каманда! Па ложках,- сапраўдай палёкай прагучаў для Гары загад Вуда.

*

Гары вельмі дрэнна спаў. Спачатку ён прысніў, што праспаў і Вуд крычаў яму

- Гары, дзе ты швэндаўся? Нам прыйшлося паставіць замест табе Нэвіла!

Потым ён прысніў, што Малфой і астатняя слізэрынская каманда аб’явіліся на матчы драконна і яму прыйшлося лётаць з шалёнай хуткасцю, каб пазбегнуць выплескаў полымя з рота малфоеўскага дракона. Тут Гары ўсведаміў, што забыўся на сваю мятлу. Ён пачаў падаць і уздрыгануўшыся прачнуўся.

Колькі секундаў яму спатрэбілася, каб ўсведаміць, што матч яшчэ не пачынаўся, а сам ён у поўнай бяспецы ляжыць у сваім ложку, а камандзе Слізэрыну безумоўна аніхто не дазволіць лётаць на драконах. Гары адчуў моцную прагу. Як мага цішэй ён вылез з пад свайго балдахіну і падыйшоў да срэбнага збаночка, што стаяў на падваконні.

Знадворку было ціха і спакойна. Вяршыні дрэваў у Забароненнам лесе не калыхаў ані найменшы павеў, а Лупцуючая Вярба не варушылася і выглядала зусім нявінна.Здавалася, што ўмовы да надыходзячага матчу былі ідэальнымі.

Гары вярнуў келіх на месца і ўжо збіраўся вярнуцца ў ложак, калі нешта звонку прыцягнула яго ўвагу. Нейкая жывёліна гойсала па срабрысным траўніку.

Гары кінуўся да сваёй камоды і схапіўшы акуляры вярнуўся да вакна. Гэта не магло быць Грымам... не зараз... не перад матчам...

Ён зноўку зірнуў на траўнік, хвіліну апантана шукаючы істоту. Цяпер яна сядзела ля ўзлеску... але гэта быў не Грым... гэта быў кот. Гары з палёгкаю абапёрся на падваконне, спазнаўшы ёршыкападобны хвост. Гэта быў усяго толькі Крукшанс...

Але ці толькі ён? Гары прыжмурыўся і прытуліўся носам да шкла. Здавалася Крукшанс спыніўся. Гары мог спрачацца, што ён бачыў яшчэ нейкія рухі ў ценю дрэў.

У наступны момант істота выйшла на святло. Гэта быў агромісты, кудлаты, чорны сабака. Ён крадком рушыў ўздоўж траўніка, а Крукшанс трушком спяшаў з другога боку. Гары ўтаропіўся на іх. Што гэта магло значыць? Калі Крукшанс мог бачыць сабаку, ці мог той быць Прадвеснікам Гарынай смерці?

- Рон!- прасыкаў Гары.- Рон, прачніся!

- А?

- Мне неабходна, каб ты сказаў, ці бачыш ты нешта!

- Цяпер цёмна, Гары,- неразборліва прамармытаў Рон,- Што ты ад мяне хочаш?

- Падыміся...

Гары зноўку хутка павярнуўся да вакна.

Крукшанс і сабака зніклі. Гары забраўся на падваконні і зірнуў у цень замку, але там іх таксама не было. Куды яны маглі падзецца?

Гучны хроп падказаў яму, што Рон зноўку заснуў.

*

Наступным ранкам Гары і астатняя грыфіндорская каманда ўвайшлі ў Вялікую Залу пад бурлівыя апладысменты. Хлопчык не мог не ўсміхнуцца, калі ўбачыў, што навучэнцы за рэйвенклоскім і хафлпафскім сталамі таксама пляскалі ладкамі. Грыфіндорскі стол гучна прашыпеў, калі яны праходзілі міма. Гары заўважыў, што Малфой выглядаў бляднейшым, чым звычайна.

Вуд правёў амаль увесь сняданак заклікаючы, каб хто-небудзь пад'еў, сам ані да чога не дакранаючыся. А потым не даўшы анікому даесці, пачаў запрашаць іх рушыць, каб ён мог паведаміць ім аб сваіх новых прапановах. Калі яны пакідалі Вялікую Залу зноўку адчуўся выбух апладыявання.

- Жадаю поспеху, Гары!- усклікнула Цёў Чан і хлопчык адчуў, што чырванее.

- Балазе... знадворку поўны штыль, так што... ну канечне сонца крыху заяскравае і зрок можа крыху пагоршыцца і будзе цяжка сачыць за... зямля даволі цвёрдая, добра, гэта дазволіць нам хутчэй узляцець...

Вуд напружана мераў крокамі поле, азіраючыся на сваю каманду. Нарэшце ён заўважыў як цэнтральныя дзверы адчыніліся і адтуль струменем хлынуў натоўп навучэнцаў.

- У пераапраналку,- суха загадаў ён.

Ніхто з гульцоў не размаўляў, пакуль яны пераапраналіся ў свае пунсовыя мантыі. Гары адчуваў сябе так, бы з'еў на сняданак нейкую тограючуюся істоту і яму было цікава, ці адчуваюць астатнія гульцы нешта падобнае. Час праляцеў імгненна і вось ўжо Олівер загадаў усім ісці на поле.

Калі яны выйшлі на поле раздаўся гуд з галасоў і апладысментаў. Тры чвэрці вучняў мелі на сваёй вопрадцы пунсовыя ружачкі і размахвалі пунсовымі сцягамі з залатым грыфіндорскім ільвом, альбо плакатамі з надпісамі «ДАВАЙ, ГРЫФІНДОР!» ці «КУБАК ТОЛЬКІ ЛЬВАМ!» Толькі за слізэрынскімі варотамі можна было ўбачыць навучэнцаў у зялёных мантыях і размахваючых зялёнымі сцягамі са срэбнай змяёй. У першам шэрагу сядзеў прафесар Снэйп, апрануты, як і вучні яго Дому ў зялёнае, а на яго твары лунала бязлітасная ўсмешка.

- А вось і грыфіндорцы!- загаласіў Лі Джордан, што як заўсёды каментаваў гульню.- Гэта Потэр, Бэл, Джонсан, Спінэт, Візлі, Візлі і Вуд. Шырока прызнаная лепшай камандай Хогвартса за шмат папярэдніх год...

Каментар Лі быў заглушаны абуранымі воклічамі з боку слізэрынцаў.

- А вось на поле выходзіць каманда Слізэрына на чале з іх капітанам Флінтам. Ён зрабіў сякія-такія змены ў складзе каманды і здаецца зрабіў стаўку не на майстэрства гульцоў, а на іх памер...

Зноў раздаліся абураныя воклічы слізэрынцаў. Але Гары зірнуўшы ўбачыў, што Лі меў рацыю – акрамя маленькага Малфоя, астатнія гульцы слізэрынскай каманды нагадвалі волатаў.

- Капітаны, пацісніце адно аднаму рукі!- загадала мадам Хуч.

Флінт і Вуд наблізіліся і паціснулі адно аднаму  рукі настолькі шчыльна, як быццам збіраліся паламаць суперніку пальцы.

- Сядайце на мётлы!- усклікнула мадам Хуч.- Тры... два... адзін...

Гук яе свістка патануў у рове трыбунаў, калі чатырнаццаць гульцоў узвіліся ў паветра. Гары адчуў, як вецер прыгінае яго валоссе назад і што ўсё яго нерваванне знікла, калі ён адчуў узбуджэнне палёта. Ён азірнуўся назад і ўбачыўшы, як за ім следам ляціць Малфой, рынуўся ўздоўж поля ў пошуках Сніча.

- Грыфіндор адразу ж рынуўся ў гульню. Алісія Спінэт з гэтай каманды завалодала Квафлам і цяпер нясецца ў бок слізэрынскіх кольцаў, добра выглядаеш Алісія! Ай, не... Квафл перахапіў Ворынгтан і нарэшце ў бой кінуўся Слізэрын... БАМ... добры Бладжэр пушчаны Джорджам Візлі і Ворынгтан губляе Квафл, які імгненна падхоплівае Джонсан. Грыфіндорцы зноў на гульне, давай Анджэліна... яна прыгожа аблятае вакол Мантэгю... ныраей, Анджэліна, гэта Бладжэр! ... КІДОК ПА КОЛЬЦАХ! ГОЛ! ДЗЕСЯЦЬ – НУЛЬ НА КАРЫСЦЬ ГРЫФІНДОРА!

Анджэліна ўскінуўшы кулак ў паветра праляцела  вакол поля, а ў нізе ўражана роў пунсовы натоўп...

- УУУУУУ!

Анджэліна ледзь не звалілася з мятлы, калі ў яе на поўнай куткасці ўрэзаўся Флінт.

- Прабачце!- крыкнуў Флінт, калі ўнізе абурана засвісталі.- Я нажаль не ўбачыў яе!

У наступны момант, Бітак з грыфіндорскай каманды Фрэд Візлі стукнуў Флінта сваёй бітаю па патыліцы. Той дзюбнуўся носам ў ручку сваёй мятлы і ў яго адразу пацякла юшка.

- Парушэнне!- віскнула мадам Хуч, наблізіўшыся да іх.- За несправакаваны напад на слізэрынскага Перасledніка, Грыфіндору прызначаецца пенальці. Пенальці таксама прызначаецца Слізэрыну за пашкоджанне Перасledніка з грыфіндорскай каманды!

- Кінце, міс!- прастагнаў Фрэд, але мадам Хуч ужо дала сігнал сваім свістком і Алісія паляцела наперад, дзеля выканання пенальці.

- Давай, Алісія!- загаласіў Лі ў запанавалай сярод натоўпа цішыні.- ТАК! ЯНА АБХОДЗІЦЬ НАГЛЯДЧЫКА! ДВАЦЦАЦЬ – НУЛЬ НА КАРЫСЦЬ ГРЫФІНДОРА!

Гары развярнуў сваю Вогненную Стралу, каб паглядзець, як Маркус Флінт, які ўсё шчэ сцякаў крывёю, паляцеў наперад, каб прабіць пенальці на карысць Слізэрына. Перад грыфіндорскімі кольцамі, сціснуўшы сківіцы, насіўся Вуд.

- Зразумела ж, Вуд найдвыдатнейшы Наглядчык!- паведаміў Лі прысутным, пакуль Флінт, чакаў сігналу ад мадам Хуч.- Найраскошнейшы! Яго будзе вельмі цяжка абыйсці... вельмі цяжка... ТАК! Я НЕ ВЕРУ! ЁН ЗЛАВІЎ КВАФЛ!

Гары з палёгкаю адвярнуўся і зноўку прыняўся шукаць вачыма Сніч, адначасова ловячы кожнае слова Лі.Трэба было не толькі самому знайсці Сніч, але не даць тое ж самае зрабіць Малфою, пакуль Грыфіндор не павядзе ў ліку больш за пяцьдзесят ачкоў...

- Квафлам завалодаў Грыфіндор, не, Слізэрын... не! Квафл зноў вярнуўся да грыфіндорцаў, ён ў руках Кэці Бэл, яна маланкаю нясецца праз поле трымаючы квафл у руках... НАЎМЫСНЫ НАПАД!

Мантэгю – адзін са слізэрынскіх Параследнікаў перарэзаў шлях Кэці, але замест таго, каб выхапіць ў яе квафл, ён папытаўся схапіць дзяўчыну за галаву. Кэці закруціла ў паветры, яна цудам ўсядзела на мятле, але згубіла квафл.

Мадам Хуч зноў засвісцела і з крыкам падляцела да Мантэгю. Хвіліну пазней Кэці прабіла пенальці міма слізэрынскага Наглядчыка.

- ТРЫЦЦАЦЬ – НУЛЬ! ВОСЬ ВАМ, ВЫ БРЫДКІЯ ШЭЛЬМЫ...

- Джорджан, калі ласка, каментуй неперадузята..!

- Я гэдак і раблю, мадам прафесар!

Гары адчуў моцны штуршок хвалявання. Ён убачыў Сніч... ён мігацеў ля падножжа адной са стоек грыфіндорскіх калец... але яму пакуль нельга было яго лавіць. А калі яго заўважыць Малфой...

Нацягнуўшы на твар выраз фальшывай сканцэнтраванасці, Гары развярнукў мятлу і памчаўся да слізэрынскіх кольцаў. Гэта спрацавала. Малфой кінуўся следам, вырашыўшы, што Гары ўбачыў там Сніч...

ШШШШШ.

Раптам міма правага вуха Гары прасвісцеў Бладжэр, пушчаны слізэрынскім Бітаком Дэрыкам. Праз дзелю секунды...

ШШШШШ.

Яшчэ адзін Бладжэр, пушчаны другім Бітаком слізэрынцаў Боўлам, праляцеў міма яго локця.

Гары крайком вока ўвачыў, як Боўл з Дэрыкам набліжаюцца да яго падняўшы біты...

У адошнюю секунду ён рэзкка накіраваў Вогненную Стралу ўгору і слізэрынскія бітакі з гідкім хрустам сутыкнуліся адно з адным.

- Бугагаааа!- залямантаваў Лі Джордан, калі слізэрынскія Бітакі хіляючыся адляцелі адно ад аднаго схапіўшыя за галовы.- Нажаль, хлопчыкі! Вам трэба было спачатку добра падумаць, перш чым спрабаваць падбіць гульца на Вогненнай Страле! А квафлам ізноў валодае Грыфіндор, ён у руках у Джонсан... да яе набліжаецца Флінт... торкні яму ў вока, Анджэліна!.. Гэта быў жарт, мадам Прафесар, толькі жарт... вой не... квафлам завалодал Флінт, ён ляціць да грыфіндорскіх колаў. Давай, Вуд, абараняй..!

Але Флінт забіў. На слізэрынскім баку адчуўся выбух радасці, а Лі настолькі смачна вылаяўся, што прафесарка МакГонагал зноўку паспрабавала адабраць ў яго чароўны мікрафон.

- Прабачце, мадам прафесар, прабачце! Больш не паўтарыцца! Вось, Грыфіндор лідыруе з лікам трыццаць на дзесяць і зноў атакуе...

Гэта была самая брудная гульня у якой толькі ўдзельнічаў Гары. Раз’юшчаныя тым, што грыфіндорцы з самога пачатку захапілі перавагу, слізэрынцы ўжо ня грэбалі аніякімі сродкамі, каб захапіць квафл. Боўл атакаваў Алісію сваёй бітай, потым апраўдываючыся, бы прыняў яе за Бладжэр. Джордж Візлі стукнуў яму ў адказ локцем у твар. Мадам Хуч зноўку прызначыла пенальці абедзвюм камандам, але Вуд ў чарговы раз уратаваў свае кольцы і разрыў у ліку павялічыўся да сарака на дзесяць на карысць Грыфіндору.

Сніч зноўку адляцеў. Малфой ўсё яшчэ працягваў туліцца да Гары, а той лятаў над полем, азіраючыся на Драко... трэба дачакацца разрыва больш пяцідзесяці ачкоў...

Кэці забіла гол. Пяцьдзесят – дзесяць. Фрэд і Джордж пачалі кружляць вакол яе падняўшы біты ўгору, на той выпадак, калі хтось са слізэрынцаў вырашыць адпомсціць. Боўл з Дэрыкам скарыстаўшыся іх адсутнасцю адзін за адным накіравалі Бладжэры ў жывот Вуду і той з перахопленным дыханнем колькі раз крутануўся на сваёй мятле, але ўтрымаўся.

Мадам Хуч мятала маланкі з вачэй.

- ВЫ НЕ ПАВІННЫ НАПАДАЦЬ НА НАГЛЯДЧЫКА, КАЛІ Ў ЯГО НЯМА КВАФЛА,- вішчала яна Боўлу і Дэрыку.- ГРЫФІНДОР Б’Е ПЕНАЛЬЦІ!

Анджэліна забіла квафл. Шэсцьдзесят на дзесяць. Праз імгненне-другое Фрэд Візлі шпульнуўшы Бладжэрам у Ворынгтана выбіў квафл з яго рук. Той перахапіла Алісія і адправіла ў слізэрынскія кольцы. Семдзесят на дзесяць.

Натоўп грыфіндорскіх прыхільнікаў ажно ахрып ад шалёнага равення... Грыфіндор вёў у матчы з перавагаю ў шэсцьдзесят ачкоў, калі зараз Гары зловіць Сніч, кубак у іх руках. Гары адчуваў на сябе погляды сотняў вачэй, калі на шалёнай вышыні ляцеў уздоўж поля. Малфой паскорыўшыся ляцеў за яго спіною.

І тут ён ўбачыў яго. Сніч блішчэў у якіхсці дваццаці футах над ім.

Гары імгненна набраў хуткасць, вецер засвістаў у яго вушах; ён ўжо працягнуў руку, каб схапіць мяч, але тут ўсведаміў, што запавольваецца...

З жахам на твары ён азірнуўся. Малфой, кінуўшыся наперад схапіў яго Вогненную Стралу за хвост і цягнуў яе назад.

- Ты...

Гары быў настолькі разлютаваны, што гатоў быў стукнуць Малфоя, але быў не ў стане да яго дацягнуцца. Драко задыхаўся ад напругі, але працягваў трымаць Вогненную Стралу, а яго вочы злосна зіхацелі. І ён дасягнуў мэты сваіх намаганняў... Сніч зноўку знік.

- Пенальці! Грыфіндор б’е пенальці! У жыцці не бачыла анічога падобнага!- вішчала мадам Хуч, маланкай падляцеўшы да Малфоя, які зноў трымаўся абедзвума рукамі за свой Німбус 2001.

- МАХЛЮЮЧЫ ПАДЛЮКА!- завыў у свой мікрафон Лі Джордан, адскокваючы з зоны дасягальнасці прафесаркі МакГонагал.- ТЫ БРУДНАЯ МАХЛЮЮЧАЯ КУР...

Ён замоўк на поўслове, але прафесарка МакГонагал нават не спрабавала яго супыніць. У гэты момант яна махала кулаком у напрамку Малфоя, яе капялюш зваліўся з галавы, а сама яна люта крычала.

Пенальці біла Алісія, але яна была настолькі раззлавана, што прамазала на колькі футаў. Грыфіндор пачаў губляць канцэнтрацыю, а вось слізэрынцы натхнёныя бруднай гульнёй Малфоя, зноў былі гатовы ірвануцца наперад.

- Слізэрын на гульне, Мантэгю імчыцца да кольцаў... ён забівае...- прастагнаў Лі.- Семьдзесят на дваццаць на карысць Грыфіндору...

Гары цяпер ляцеў настолькі блізка ад Малфоя, што іх каленкі стукаліся адна аб адну. Гары збіраўся любым чынам не дазволіць яму дабрацца да Сніча...

- Ідзі прэч, Потэр!- у адчаі ўз’енчыў Малфой, калі паспрабаваў развярнуць метлу, але быў заблакаваны Гары.

- Квафл атрымала Анджэліна Джонсан з Грыфіндору, давай, Анджэліна, ДАВАЙ!

Гары азірнуўся, усе слізэрынскія гульцы, акрамя Малфоя, нават іхны Ахоўнік, несліся да Анджэліны спрабуючы яе заблакаваць...

Гары крута развярнуў сваю Вогненную Стралу і прыхіліўшыся да ручкі настолькі нізка, што ажно лёг на яе, маланкай пусціў яе наперад у напрамку слізэрынцаў.

- ААААААААААААААААА!

Слізэрынцы разляцеліся хто куды, калі Вогненная Страла шалёна праляцела міма іх. Шлях Анджэліны быў зноўку вольны.

- ЯНА ЗАБІЛА! ЯНА ЗАБІЛААА! Грыфіндор лідзіруе восемьдзесят на дваццаць!

Гары ледзь не рынуўся галавой аб трыбуны, але паспеў крута затармазіць і развярнуўшыся зноў паймчаўся на сярэдзіну поля.

Тут ён ўбачыў нешта, што прымусіла яго сэрца шалёна забіцца. Малфой ляцеў да зямлі з урачыстым выразам на твары... у колькіх футах па над травой паблісківала золатам нешта маленькае.

Гары накіраваў Вогненную Стралу ўніз, але Малфой быў нашмат блізэй да Сніча.

- Давай! Шпарчэй! Шпарчэй!- крычаў хлопчык сваёй мятле. Ён быў ужо амаль ля Малфоя... Гары прыціснуўся да ручкі, каб ўхіліцца ад Бладжэра, які шпульнуў у яго Боўл... ён ляцеў міма ладыжак Малфоя... ён параўняўся з ім...

Гары кінуўся наперад, трымаючыся за мятлу толькі нагамі. Адной рукою ён адштурхнуў Малфоя, а другой...

- ТАК!

Ён накіраваў мятлу ўгору, падняўшы над галавой руку, пад узрушаны роў стадыёну. Гары ляцеў над натоўпам, адчуваючы дзіўны дзвон у вушах. Маленечкі залаты мяч быў шчыльна заціснуты ў яго кулаке і пытаўся вырвацца на волю штурхаючы па яго пальцам трапяткімі крылцамі, але Гары сціскаў яго моцна.

Да яго наблізіўся напалову аслеплены слязьмі Вуд, ён схапіў хлопчыка за шыю і моцна зарыдаў на яго плячы. Потым ён адчуў два моцныя ўдары, калі ў іх урэзаліся Фрэд з Джорджам. А пасля адчуў галасы Анджэліны, Алісіі і Кэці, якія спявалі:

- Мы выйгралі Кубак! Мы выйгралі Кубак!

Ператварыўшыся на спутаны клубок абдымкаў і лямантуючы ахрыплымі галасамі, грыфіндорская каманда апусцілася на зямлю.

Адна за другой хвалі пунсовага натоўпу рынуліся праз бар’еры на поле. Па іх спінах заляпалі нечыя рукі. Гары быў збянтэжана ўражаны гэтым шумам і колькасцю паляпваючых па яму рук. Затым ён і астатнія грыфіндорскія гульцы былі падняты на плечы натоўпу. Выціснуты на святло, ён ўбачыў Хагрыда з пунсовай ружачкай на яго барвовым футры:

- Ты пабіў іх, Гары! Ты пер’мог іх! Пач’кай, я збягу, раскажу Бакбіку!

Потым ён ўбачыў Персі, які забыўшыся на сваю ганарлівую шляхетнасць, скокаў сюды-туды, як той маньяк. Прафесарка МакГонагал рыдала яшчэ мацней за Вуда, выціраючы свае вочы вялізным грыфіндорскім сцягам. Праз натоўп прадраліся Рон і Герміёна. Але яны не маглі вымавіць анісловa і толькі стаялі ды ззяючы глядзелі на Гары, калі яго неслі да трыбунаў, дзе стаяў трымаючы ў руках вялізарны Квідытчны Кубак Дамблдор.

Калі б нават іх акружылі дэментары... Рыдаючы Вуд перадаў Гары Кубак, той падняў яго па над галавою і адчуў, што у гэты момант быў гатовы вызваць наймацнейшы ў свеце Патронус.

## *Прароцтва прафесаркі Трэлані*

Эйфарыя ад, нарэшце, выйгранага Кубка па Квідытчу доўжылася ў Гары ня менш за тыдзень. Здавалася, нават, надвор'е святкавала разам з ім. Набліжаўся чэрвень, дні сталі бесхмарнымі і гарачымі, а ў вучняў прачнулася стойкае жаданне шпацыраць, ці валяцца на траўніку прыхапіўшы з сабой колькі пінт гарбузовага соку. Гуляць ў простыя гульні, накшталт плювакаменчыкаў, альбо назіраць, ці не варухнецца летуценна гіганцкі кальмар на паверхні возера.

Але яны не маглі сабе гэтага дазволіць. Набліжаліся іспыты і замест таго, каб валэндацца на прыродзе, вучні сядзелі ў задушным замку, спрабуючы сканцэнтравацца ў той час, калі ў вокны дзьмуў летні ветрык. Нават Фрэд і Джордж сядзелі за працай, яны рыхтаваліся да іспытаў на Простую Рэзультатыўную Адзнаку Школьнай Чарадзейскай Адукацыі (П.Р.А.Ш.Ч.А.). Персі засеў рыхтавацца да Трыклятай Абароны Рэзультатаў Чарадзейскай Адукацыі (Т.А.Р.Ч.А.), самай высокай кваліфікацыйнай адзнакі, якую мог даць Хогвартс. Ён збіраўся атрымаць пасаду ў Міністэрстве Магіі, таму меў патрэбу атрымаць на іспытах самыя высокія адзнакі. Таму Персі стаў больш нэрвовым і даваў самыя суворыя пакаранні тым, хто па вечарах парушаў цішыню ў гасцёўне. Але на самой справе, адзіным чалавекам, які падзяляў трывогу Персі, была Герміёна.

Гары і Рон, якія ўжо кінулі пытацца яе, якім чынам у той атрымлівалася быць адначасова на колькіх занятках, не маглі сябе стрымаць, калі пабачылі яе графік праходжання іспытаў. У першым слупку можна было прачытаць:

***ПАНЯДЗЕЛАК***
*9.00 - Нумералогія*
*9.00 -Ператварэнні*
*Абед*
*13.00 - Замовы*
*13.00 – Старадаўнія руны*

- Герміёна?- асцярожна спытаўся Рон, бо ведаў што Герміёна ў апошнія дні была здольная на выбухі гневу, калі ёй нехта перашкаджаў.- Эээ... ці ты ўпэўнена, што правільна перапісала часы іспытаў?

- Што?- раздражнённа спыталася яна, зазірнуўшы ў свой графік.- Зразумала, так.

- Гэта ня мае сэнсу, але няўжо ты збіраешся быць на двух іспытах адначасова?- спытаў Гары.

- Не,- імгненна адказала Герміёна.- Хтось з вас бачыў мой падручнік «Нумералогія і Граматыка»?

- Так, я яе ўзяў, каб пачытаць перад сном,- прамовіў Рон, але вельмі ціха. Герміёна пачала рыцца ў грудзе пергаменту на стале, пытаючыся адшукаць кнігу, у гэтае ж імгненне ля вакна адчуўся шолах і ў гасцёўню заляцела Хэдвіг, нешта шчыльна сціскаючы ў дзюбе.

- Гэта ад Хагрыда,- прамовіў Гары, раскрываючы цыдулку.- Апеляцыя Бакбіка... будзе разглядацца шостага.

- У дзень апошняга іспыту,- заўважыла Герміёна, працягваючы шукаць падручнік.

- Разгляд адбудзецца тут,- працягваў чытаць Гары.- Будзе прысутнічаць прадстаўнік з міністэрства і... і кат.

Герміёна ўражана падняла вочы.

- Навошта яны вязуць на апеляцыю ката? Гучыць так, бы яны ўсё ўжо вырашылі!

- Так. Здаецца, што так,- павольна адказаў Гары.

- Яны гэтага не зробяць!- узвыў Рон.- Я столькі часу страціў шукаючы матэрыялы дзеля яго абароны, яны не павінны гэта праігнараваць!

Але ў Гары было жудаснае пачуццё, што меркаванне за Камітэт па знішчэнню небяспечных істот ужо склаў містэр Малфой. Драко, які быў надта падаўлены ў сувязі з перамогай Грыфіндора ў квідытчным фінале, у апошнія дні, здавалася, крыху аднавіў сваёй мінулую пыхлівасць. Гары выпадкова пачуў, як ён са смехам разважаў аб тым, што Бакбік павінен быць катаваны і цалкам быў задаволены сабой, прадчуваючы гэту падзею. Гары ледзь стрымаў сябе, каб па прыкладзе Герміёны не заехаць Драко па твары. А горшым за ўсё было тое, што у іх нават не было магчымасці наведаць Хагрыда, бо новыя меры бяспекі ў школе так і не былі зняты. Гары не адважваўся, нават, схадзіць па сваю Мантыю-Невідзімку схаваную пад статуей аднавокай вядзьмаркі.

*

Пачаўся тыдзень іспытаў і над замкам запанавала ненатуральная цішыня. У панядзелак трэццягодкі пакінулі кабінэт Ператварэнняў толькі ў абедзенны час, млявымі і бледнатварымі, параўноўваючы свае вынікі і скардзячыся на цяжкія заданні, накшталт ператварэння імбрычка на чарапаху. Герміёна надта раздражняла астатніх сваімі пустымі хваляваннямі наконт таго, што яе чарапаха больш нагадвала марскую, а не рачную. Але насамрэч яна магла клапаціцца значна менш за астатніх.

- У маёй замест хваста застаўся імбрычны носік, які жах...

- А ці бываюць чарапахі ў якіх падчас дыхання з носу ідзе пар?

- А ў маёй на панцыры застаўся арнамент у выглядзе вярбовага галля, думаеш гэта моцна паўплывае на адзнаку?

Пасля абеду яны рушылі здаваць іспыты па Замовах. Герміёна мела рацыю, прафесар Флітвік вырашыў рабіць іспыт па Ўзбадзёрваючым Замовам. Гары настолькі моцна хваляваўся, што перастараўся і Рон, які быў яго партнёрам на іспыце пачаў гістэрычна рагатаць і быў вымушаны сысці на гадзіну ў суседні пакой, каб супакоіцца і выканаць замову на Гары. Пасля вячэры ўсе навучэнцы паспяшаліся ў свае гасцёўні, каб не расслабляючыся пачаць рыхтавацца да заўтрашнім іспытам па Догляду за Магічнымі істотамі, Зеллеварству і Астраноміі.

Хагрыд, які праводзіў іспыт па Догляду за Магічнымі істотамі быў даволі моцна заклапочаным і лунаў думкамі дзесь надта далёка. Ён прывалок вялізную балею чарвямляваў і раздаў іх вучням. Прафесар Хагрыд прызначыў такое выпрабаванне, чый чарвямляў застанецца жывым праз гадзіну, той і здасі іспыт. Аднак ў сувязі з тым, что гэтыя істоты лепей адчувалі сябе, калі іх пакідалі ў супакоі, гэта быў самы лёгкі іспыт з

усіх. Вучні ціхінька сядзелі і займаліся сваімі справамі, а Гары, Рон і Герміёна скарыстаўшыся магчымасцю, падыйшлі да Хагрыда, каб крыху паразмаўляць.

- Бікі ў апош' час крыху маркоціць,- нахіліўшыся, быццам збіраўся праверыць, ці жывы яшчэ Гарын чарвямляў, ціха прамовіў ён.- А то, стольк' сядзець пад замком. І ўсё-ткі... Так ці 'накш... пась'заўтра ўсё у'святліцца.

Адбываўшыйся пасля абеду іспыт па Зеллеварству быў сапраўднай катастрофай. Як не стараўся Гары, але яго Канцэнтрат Збянтэжанасці, аніяк не жадаў гусцець. Снэйп, які з мсцівым задавальненнем назіраў за Гары, перад тым як вярнуцца за свой стол надрапаў у сваім журнале нешта надта нагадваючае нуль.

Апоўначы ў самай высокай вежы хогвартскага замку адбываўся іспыт па Астраноміі. А ўжо ранкам у сераду яны пайшлі здаваць Гісторыю Магіі. Адказваючы аб адбываўшыхся ў сярэднявеччы выпадках Палявання на Ведзьмарак, Гары запісаў у сваім пергаменце ўсё, аб чым даведаўся летась ад Фларыяна Фартэск'ю, адначасова з гэтым шкадуючы, што не мае магчымасці, сядзячы ў задушным класе паласавацца сваім ўлюбёным марозевам - шакаладны гарэшак. Пасля абеду было не лепш, яны правялі колькі гадзін у парніках здаваючы Зёлазнаўства і ўвечары вярнуліся ў грыфіндорскую гасцёўню з абгарэлымі шыямі, з тугою думаючы, што іспыты скончацца толькі заўтра.

Перадапошнім іспытам ў чацвер ранкам была Абарона ад Цёмных Мастацтваў. Іспыт прафесара Люпіна быў самым незвычайным з тых, у якіх яны колі-небудзь удзельнічалі. Ён больш нагадваў паласу перашкодаў і праводзіўся знадворку. Вучню трэба было перайсці бродам глыбокі вір, што кішэў грындзілоў; мінуць шэраг калдобін сярод якіх хаваліся чырвонакалпачнікі; прахлюпаць між куп'я сярод дрыгвы, ігнаруючы маны блукаючых агенчыкаў і, нарэшце, забрацца ў стары куфар, каб пазмагацца з новым богартам.

- Выдатна, Гары,- глуха прамовіў прафесар Люпін, калі хлопчык, усміхаючыся вылез з куфра,- Вышэйшы бал!

Гары акрылены саім поспехам, застаўся назіраць, як іспыт адолеюць яго сябры. Рон рабіў усё файна, ажно пакуль не трапіў на блукаючага агенчыка, які паспяхова завабіў яго па пояс ў дрыгву. Герміёна раскошна прамінула ўсе перашкоды, але як толькі яна забралася ў куфар з богартам, не мінула і хвіліны, як яна з лямантам выскачыла вонкі.

- Герміёна!- збянтэжана ўсклікнуў Люпін.- Што здарылася?

- П-П-Прафесарка МакГонагал!- цяжка дыхаючы адказала дзяўчо, кажучы на куфар.- Й-Яна сказала, што я праваліла ўсе іспыты!

Спатрэбілася колькі часу, перш чым яна супакоілася. Калі ж Герміёна, нарэшце, апанавала над сабой, яна разам з Гары і Ронам вярнулася ў замак. Рон злёгку пацяшаўся з Герміёнінага богарта, але раптам сціх, калі яны ўбачылі, што хтосьці чакае іх ля ўваходных дзвярэй.

Карнэліюс Фадж, які крыху ўзапрэў у сваёй паласатай мантыі, стаяў і глядзеў сабе пад ногі. Заўважыўшы Гары, ён усхамянуўся.

- Вітаю, Гары!- прамовіў ён.- Я спадзяюся ты ідзеш з іспыта? Гэты - перадапошні?

- Так,- адказаў Гары. Рон і Герміёна дагэтуль ніколі не бачыліся з міністрам па справах магіі і таму збянтэжана стаялі за Гарынай спіной.

- Выдатнае надвор'е,- сказаў Фадж, зірнуўшы на возера,- Але як шкада... як шкада...

Ён цяжка ўздыхнуў і паглядзеў на Гары.

- Я тут з адной вельмі непрыемнай місіяй, Гары. Камітэту па знішчэнню небяспечных істотаў спатрабаваўся сведка катавання шалёнага гіпагрыфа. Я якраз быў у Хогсмідзе, каб праверыць, як справы з росшукамі Блэка і гэта пасада была запрапанована мне.

- Ці гэта значыць, што апеляцыю ўжо разгледзелі?- выступіўшы наперад спытаўся Рон.

- Не, не, розгляд апеляцыі запланаваны на сёння,- адказаў Фадж з зацікаўленасцю зірнуўшы на Рона.

- Тады, як вы можыце лічыць сябе сведкам катаваня,- рашуча прамовіў Рон.- Гіпагрыфа ж яшчэ могуць апраўдаць!

Перш чым Фадж паспеў штось адказаў Рону, за спіной міністра з галоўных дзвярэй выйшлі два чараўніка. Адзін з іх быў настолькі стары, што здавалася быў гатовы рассыпацца на іх вачах, а другі быў велічны і дужы, з танюткімі чорнымі вусамі. Гары адразу зразумеў, што гэта прадстаўнікі Камітэта, бо стары зірнуўшы ў напрамку Хагрыдавай халупы прамовіў слабым голасам:

- Божа, мой, Божачкі, я ўжо занадта стары для падобных спраў... а другой гадзіне, ці не так Фадж?

Чарнавусы правеў сваім пальцам дзесьці ў раёне паса і Гары заўважыў, што той крануўся ляза вялізнай сякеры. Рон ужо раскрыў рота, каб нешта сказаць, але Герміёна моцна пхнула яго пад рэбры і хістнула галавою у напрамку уваходу.

- Навошта ты спыніла мяне?- раздражнённа спытаўся Рон, калі яны ўвайшлі ў Вялікую Залу на абед.- Ці ты іх бачыла? Яны ўжо і сякеру падрыхтавалі! Гэта не правасуддзе!

- Рон, твой бацька працуе ў міністэрстве. Табе нельга казаць падобнага яго босу!- адказала Герміёна, але пры гэтам сама выглядала ашаломленай.- Калі Хагрыд у гэты раз захавае раўнавагу і распавядзе ўсё належным чынам, мяркую, яны не пасмеюць катаваць Бакбіка....

Аднак Гары быў больш чым упэўнены, што Герміёна і сама ня верыла таму, што казала. Вучні, сядзеўшыя ў Вялікай Зале за сталамі захоплена разважалі аб тым, што пасля абеду нарэшце адбудуцца апошнія іспыты. Але перапоўніўшыся турботаю аб Хагрыдзе і Бакбіку сябры не ўдзельнічалі ў гэтым размовах.

Апошнім іспытам у Гары і Рона было Вяшчунства, а ў Герміёны – Маглазнаўства. Яны падняліся па мармуровых сходах. Пакінуўшы Герміёну на другім паверсе, Гары з Ронам самі падняліся ажно да семага, дзе ўбачылі шэраг вучняў, якія згрудзіліся на вінтавой лесвіцы, што вяла да кабінэта прафесаркі Трэлані і пыталіся ў апошнюю хвіліну запомніць штось з напісанага ў падручніку.

- Яна выклікае паасобку,- паведаміў ім Нэвіл, калі Гары з Ронам падыйшлі да яго і прыселі побач. Нэвіл трымаў на каленях свой падручнік Развуаляванне Будучыні, ён быў адчынены на старонцы прысвечанай варажбе з дапамогаю крышталёвага шару.- Хто-небудзь з вас бачыў, хоць нешта ў гэтым шары?- няшчасным голасам спытаўся ён.

- Ані,- рашуча адказаў Рон. Ён зірнуў на свой гадзіннік, Гары ведаў, што Рон глядзіць, колькі часу засталося да пачатку апеляцыі Бакбіка.

Чарга вучняў, чакаючых іспыту скарачалася вельмі павольна. Калі хтось ўжо здаўшы іспыт спускаўся па срэбнай лесенке ўсе адразу кідаліся да яго і шэптам пыталіся.

- Што яна пыталася? Ці здаў ты?

Але рашуча ўсе адмаўляліся адказваць на пытанні.

- Яна сказала, што ўбачыць ў сваім крышталёвым шары, калі я вам падкажу і са мною здарыцца няшчасце,- прапішчаў Нэвіл, спусціўшыся ўніз да Гары і Рона, якія ўжо дасягнулі пляцоўкі пад кабінэтам Трэлані.

- Вельмі зручна,- фыркнуў Рон.- Ці ведаеш, я пачынаю думаць, што Герміёна мела рацыю, яна,- Рон паказаў пальцам на люк,- папросту старая махлярка.

- Так,- гледзячы на ўласный гадзіннік адказаў Гары, было ўжо а другой дня,- Трэ, каб яна паспяшалася...

Парваці спусцілася па лесенке ззяючы ад гонару.

- Яна сказала, што з мяне атрымаецца вельмі добрая празорка,- паведаміла яна Гары і Рону.- Я столькі ўсяго ўбачыла... жадаю поспехаў!

І яна паспяшала ўніз па сходах да сваёй сяброўкі Лавендры.

- Рональд Візлі,- фамільярна прамовіў, цмяны голас па над іх галовамі. Рон скруціўшы морду у Гарыным напрамку падняўся па лесенке. Цяпер Гары быў адзіным, хто не прайшоў іспыт. Ён прысеў на падлогу спіной да сцяны і прыслухаўся да ціхага гудзення мух, а яго думкі былі недзе там, з Хагрыдам.

Нарэшце, прыкладна праз дваццаць хвілін, вялізныя ступакі Рона паказаліся з люку.

- Ну як?- падымаючыся з падлогі, спытаўся Гары.

- Трызненне,- адказаў Рон.- Я зразумела ж анічога не бачыў, таму нес першае, што прыйшло да галавы, хаця я не ўпэўненны што яна гэта заўважыла, але...

- Сустрэнемся ў гасцёўне,- прамармытаў Гары, калі голас прафесаркі паклікаў яго.

У пакоі нагары было яшчэ больш задушна чым раней. Фіранкі былі наглуха завешаны, ў каміне палаў агонь, а звычайны для кабінэта пах быў настолькі моцным, што Гары закашляўся. Праз безладна расстаўлены сталы і крэслы, Гары накіраваўся да стала, дзе ля вялізнага крышталёвага шара сядзела прафесарка Трэлані.

- Дабрыдзень, мой любы,- мягка прамовіла яна.- Калі на гэта будзе твая воля, зазірні ў шар... не спяшайся, вось... а потым скажы мне, што ты там бачыш...

Гары нахіліўся да шару і з ўсяе моцы пачаў глядзець у яго, імкнучыся ўбачыць там хоць штось акрамя віхуроў белай смугі, але ў яго анічога не атрымалася.

- Не?- далікантна спыталася прафесарка.- Што ты бачыш?

Задуха была невыноснай, а ноздры пякло ад паху духмянасцяў, якія даносіўся з каміна. Гары падумаў аб тым, што толькі што паведаміў яму Рон і таксама вырашыў прыкінуцца.

- Ну...- прамовіў ён,- я бачу цёмную постаць... ммм...

- На што яна падобна?- прашапатала прафесарка.- Не спяшайся, падумай...

Гары крыху паразважаўшы, супыніўся на Бакбіке.

- Гіпагрыфа,- рашуча адказаў ён.

- Няўжо!- прашапатала Трэлані, штось нядвайна нашкрабаўшы на скрутку пергамента, які ляжаў у яе на каленях,- Мой ты хлопчык, магчыма ты бачыш вынік сутычкі нашага беднага Хагрыда з міністэрствам магіі! Паглядзі... ці мае гіпагрыф галаву?

- Так,- рашуча прамовіў Гары.

- Ты ў гэтым упэўнены?- не супакойвалася прафесарка.- Упэўнены, мой любы? Зірні лепей, мо ён курчыцца на зямлі, ці якаясь постаць стаіць па над ім з сякераю ў руках?

- Не!- адказаў Гары, пачынаючы адчуваць лёгкую моташ.

- Крыві няма? Можа плачучы Хагрыд?

- Не!- паўтарыў Гары, з ўсяе сілы жадаючы найхутчэй пакінуць гэты пакой і яго задуху.- З ім ўсё добра, ён... ён улятае...

Прафесарка Трэлані з тугою уздыхнула.

- Добра, мой ты даражэнькі, думаю на гэтым мы і супынімся... канечне, ты мяне крыху расчараваў... але я ўпэўнена, што ты імкнуўся зрабіць ўсё як мага лепш.

Гары ўздыхнуў з палёгкаю, падняўся ногі, перакінуў праз плячо торбу і ўжо збіраўся сыходзіць, як раптам за яго спіною адчуўся нечый гучны і рэзкі голас:

- Гэта адбудзецца сёння ўвечары.

Гары развярнуўся. Прафесарка Трэлані здранцвеўшы сядзела на сваім крэслы і глядзела кудысь невідушчымі вачыма, прыадчыніўшы рот.

- П-прабачце?- спытаўся Гары.

Але прафесарка здавалася ня чуе яго. Яе вочы закаціліся. Гары стаяў і з непакоем глядзеў на яе. Трэлані выглядала так, бы з ёй вось вось пачнецца прыступ нейкай хваробы. Гары пачаў прыпамінаць, ці працуе зараз шпітальнае крыло... але тут яна зноў загаварыла, тым жа чужым, рэзкім голасам:

- Цёмны Лорд ляжыць адзінокі і маркотны, прыхільнікі зракліся яго. Адзіны каго ён мае - слуга, які дванаццаць год быў запалонены. Але сёння апоўначы слуга вырвецца на свабоду і адправіца шукаць свайго гаспадара, каб аб’яднацца з ім. З дапамогаю свайго слугі, Цёмны Лорд уваскрэсне і будзе ён яшчэ мацней і жахлівей, чым калісь. Сёння... апоўначы... слуга... вырвецца... шукаць... гаспадара...

Прафесарка Трэлані прынізіла галаву сабе на грудзі. З яе горла вырваўся нейкі крэхчучы гук і яна падняла галаву.

- Прабач, мой даражэнечкі,- сонна вымавіла яна.- Сёння такая спёка... я задрамала на хвіліну...

Гары, працягваў стаяць, вытарапіўшыся на яе.

- Штосьздарылася, мой даражэнечкі?

- Вы... вы толькі што паведамілі... што Цёмны Лорд уваскрэсне... яго слуга збіраецца вярнуць яго...

Трэлані цалкам здзіўлена глядзела на яго.

- Цёмны Лорд? Той, Чыё Імя Нельга Вымаўляць? Гэта нагадвае дурны жарт, мой даражэнечкі... уваскрэсне, насамрэч...

- Але вы самі толькі што пра гэта казалі! Што Цёмны Лорд...

- Думаю, ты таксама крыху задрамаў, любы мой!- адказала прафесарка.- Вядома, я б аніколі ў жыцці не дазволіла сабе прадказаць падобную лухцень!

Гары спусціўся ўніз па срэбнай лесенке, а потым па вінтавых сходах, разважаючы... што гэта было... рэальнае прадказанне, ці нейкі від эфэктнага заканчэння іспыту?

Праз пяць хвілін ён ужо бег міма троляў-ахоўнікаў да ўваходу ў Грыфіндорскую Вежу, у яго розуме працягвалі гудчаць словы прафесаркі. У супрацьлеглым кірунку рушылі іншыя вучні. Пасміхаючыся і жартуючы, яны ішлі на доўгачаканую волю. Калі ён дасягнуў Тлустай Пані і прайшоў праз адтуліну за яе партрэтаў у гасцёўню, ён ўбачыў, што тая амаль апусцела. Толькі Рон з Герміёнаю сядзелі ў сваім звычайным куточку.

- Прафесарка Трэлані, запыхаўшыся прамовіў ён,- толькі што сказала мне...

Ён рэзка супыніўся, паглядзеўшы на іх твары.

- Бакбік прайгаў,- слаба прамовіў Рон.- Мы атрымалі паштоўку ад Хагрыда.

На гэты раз ліст ня быў запырсканы слязьмі, але складася ўражэнне, што рукі Хагрыда так моцна калаціліся, калі ён пісаў яго, што прачытасць штось было вельмі цяжка.

*«Апеляцыя прайграна. Яны збіраюцца ажыцявіць катаванне на захадзе сонца. Вы ўжо нічым не можаце дапамагчы. Прыхадзіць ня трэба. Я не хачу, каб вы гэта бачылі.*

*Хагрыд»*

- Нам трэба ісці,- імгненна прамовіў Гары.- Нам нельга пакідаць яго аднаго, чакаць ката!

- Гэта будзе на заходзе сонца,- сказаў Рон, гледзячы праз вакно на надворак.- Нам ніхто не дазволіць пайсці туды... асабіста табе, Гары...

Гары апусціў галаву на рукі, абдумваючы нешта.

- Калі б толькі ў нас была Мантыя-Невідзімка...

- А дзе твая?- спыталася Герміёна.

Гары распавёў ёй аб тым, што быў вымушаны схаваць яе у праходзе пад статуей.

-... калі Снэйп пабачыць, што я зноў хаджу там, мяне чакаюць непрыемнасці,- дадаў ён.

- Маеш рацыю,- выпрастоўваючыся, сказала Герміёна,- калі ён пабачыць цябе... А як ты адкрываў праход у гарбе?

- Трэба... дакрануцца да яго палачкай і сказаць «Дысэндзіюм»,- адказаў Гары.- Але...

Герміёна не дачакалася пакуль ён скончыць, яна падыйшал да партрэта, адчыніла праход і кудысьці сыйшла.

- Спадзяюся, яна не пайшла за Мантыей?- гледзячы ёй ў след прамовіў Рон.

Але яна пайшла. Праз чвэрць гадзіны Герміёна вярнулася, трымаючы пад вопрадкай старанна складзеную срабрыстую Мантыю.

- Герміёна, што з табой тварыцца ў апошні час?- здзіўлена спытаўся Рон.- Спачатку стукнула Малфоя, потым дэманстратыўна пакінула прафесарку Трэлані...

Дзяўчына вельмі падахвочана зірнула на яго.

*

Разам з астатнімі яны спусціліся на вячэру, але пасля не вярнуліся ў Грыфіндорскую Вежу. Пад вопрадкай ў Гары была схавана Мантыя-Невідзімка і ён увесь час быў вымушаны трымаць рукі крыжом, каб схаваць камяк. Яны затаіліся ў Вестыбюле і сядзелі прыслухоўваючыся, пакуль не ўпэўніліся, што там больш нікога няма. Нарэшце яны пачулі, як сышлі апошнія людзі, ляпнулі дзверы. Герміёна высунулася з іх схованкі.

- Усё добра,- прашапатала яна,- нікога больш няма... апранаем Мантыю...

Прытуліўшыся як мага бліжэй адно да аднаго, каб ніхто іх не заўважыў і апрануўшы на сябе Мантыю, яны на дыбачках прамінулі Вестыбюль і, спусціўшыся па сходах, выйшлі на надворак. Сонца ўжо хавалася за Забаронены лес, пакрываючы золатам вяршаліны дрэў.

Яны дабраліся да халупы і пастукалі ў дзверы. Праз хвіліну Хагрыд адчыніў дзверы, ён быў бледны і яго ўсяго калаціла, Хагрыд азірнуўся шукаючы наведальнікаў.

- Гэта мы,- прасыкал Гары.- Мы пад Мантыяй-Невідзімкай. Пусці нас і мы яе здымем.

- Вы не ‘вінны былі прыходзіць!- прашаптаў Хагрыд, адходзячы ў бок, каб сябры маглі ўвайсці ўсярэдзіну. Палясоўшчык хутка зачыніў дзверы і Гары зняў Мантыю.

Хагрыд не плакаў і не кідаўся ім на шыі. Ён папросту выглядаў, як чалавек, які ня ведае дзе ён і што трэба рабіць. І гэтая яго разгубленнасць выглядала горш, чым яго слёзы.

- Гарбаты?- спытаўся палясоўшчык. Калі  ён пацягнуўся за імбрычкам, яго вялізныя рукі затрэсліся.

- Хагрыд, а дзе Бакбік?- нерашуча спыталася Герміёна.

- Я... ён знадвор’,- адказаў Хагрыд і заліў увесь стол малаком, пераліўшы яго праз край малочніка.- Я прывязаў ‘го ля гарбузовых градак. Там знадвор’ ён можа бач’ць дрэвы... падыхаці свеж’ паветрам... пакуль...

Рукі Хагрыда зноў моцна закалаціліся, ён выпусціў малочнік і ўся падлога залілася малаком.

- Я прыбяруся, Хагрыд,- спешна прамовіла Герміёна і прынялася за ўборку.

- Там у шафе ёсць ‘шчэ ‘дзін,- сядаючы прамовіў Хагрыд і выцер рукавом свой вялізны лоб. Гары азірнуўся на разгубленага Рона.

- І што, Хагрыд, няўжо аніхто нічым ня можа дапамагчы?- раз’юшчана спытаўся, Гары, які сядзе паблізу ад яго.- Дамблдор...

- Ён спраб’ваў,- адказаў Хагрыд.- Але Дамблдор не ў стане а’мяніць рашэннь Камітэту. Ён гаворыў ім, што Бакбік не шалёны, але ты ж веда’ш ’ны баяцца... Люцыюса Малфоя... ён пагражаў ім, я зар’з чакаю, калі прыйдзе кат Макнэйр, ён стары малфоеў сябрук... ён зробіць ўсё хутк’ і чыста... а я буду побач...

Хагрыд зглытнуў. Яго вочы шалёна забегалі па пакоі быццам ён аднекуль чакаў падтрымкі ці на кагось спадзяваўся.

- Дамблдор таксам’ прыйдзе, калі ’ны... калі яны бу’ць яго катаваць. Ён напісаў мне а’ гэтым з ранку. Каж’, хоча па’трымаць... падтрымаць мяне. Дамблдор вялікі чалавек...

Герміёна, якая корпалася ў шафе з посудам выдала кароткі, адразу задушаны енк. Яна ледзь стрымліваючы слёзы, вярнулася да стала, трымаючы ў руках новы малочнік.

- Мы таксама застанемся тут,- пачала яна, але Хагрыд закруціў сваёй калматай галавой.

- Вы вернеце’ ў замак. Я ’жо казаў, што не хачу, каб вы гэт’ бачылі. І ’шчэ, вы памята’це, што ня ‘вінны без дазволу быць па-з’  замку... Калі Фадж і Дамблдор забач’ вас, Гары будзе ч’каць вялікая бяда.

Маўклівыя слёзы сцякалі з вачэй Герміёны, але яна хавала іх ад Хагрыда, працягваючы мітусіцца за гатаваннем гарбаты. Яна ўзяла бутэльку малака, каб напоўніць малочнік і адразу ж ускрыкнула.

- Рон, мне... мне цяжка паверыць ў гэта, але тут у малочніку Скаберс!

Рон утаропіўся на яе.

- Што ты такое кажаш?

Герміёна падняла малочнік са стала, перавярнула яго і патрэсла сюды-туды. З апантаным піскам і моцна намагаючыся вярнуцца ўсярэдзіну, на стол выпаў пацук Скаберс.

- Скаберс!- бездапаможна сказаў Рон.- Што ты тут робіш?

Ён схапіў вырываючагася пацука за хвост і падняў яго да святла. Той выглядаў жудасна. Ён быў схуднеўшы, як ніколі раней, а на яго скурцы сям-там выпалі жмуткі

поўсці і паўсюль былі залысіны. Пацук курчыўся ў руках Рона, быццам спрабуючы вызваліцца.

- Усё добра, Скаберс!- прамовіў Рон.- Тут няма катоў! Ніхто не прычыніць табе шкоды!

Хагрыд выпростаўся, не адрываючы вочы ад вакана. Яго звычайна румяны твар, быў колеру пергамента.

- Яны ‘дуць...

Гары, Рон і Герміёна маланкай кінуліся да акна. Недзе здалёк група мужчын спускалася замкавымі сходамі. Наперадзе рушыў Альбус Дамблдор і яго сівая барада зіхацела ў праменні заходзячага сонца. Побач з ім рушыў Карнэліюс Фадж. А за імі крочылі стары камітэтчык і кат Макнэйр.

- Вы ‘вінны ‘сці,- сказаў Хагрыд, кожную цалю яго цела калаціла.- Ім нельг’ бачыць вас тут... хуценька, хуценька...

Рон запхаў Скаберса ў кішэню, а Герміёна падняла Мантыю.

- Ідзіце праз заднія дзверы,- прамовіў Хагрыд.

Яны рушылі за ім да дзвярэй, якія вялі ў сад. Гары адчуваў нейкую нерэальнасць таго, што адбываецца, асабліва калі ўбачыў Бакбіка. Той стаяў у колькіх футах ад іх, прывязаны да дрэва ля гарбузовых градак і здавалася разумеў, што адбываецца. Ён рэзка хістаючы сюды-туды галавой, нервова капаў кіпцюрамі зямлю.

- ‘сё добра, Бікі,- мягка прамовіў Хагрыд.- ‘сё добра, гэта Гары, Рон і Герміёна.- ён развярнуўся да іх і сказаў.- Усё. Вам трэб ‘сці.

Але яны не рухаліся.

- Хагрыд, мы не...

- Мы раскажам ім, што адбылося на самой справе...

- Яны не заб’юць яго...

- С’ходзце!- разлютаваўся Хагрыд.- Не хапала шчэ, каб і вы трапілі з-з’ мяне ў бяду!

У іх не было другога выбару. Герміёна накінула мантыю на сябе, Гары і Рона. Ля ўвахода ў халупу адчуліся галасы. Хагрыд паглядзеў на тое месца, дзе толькі што бачыў сяброў.

- Хут’ с’ходзьце,- прахрыпеў ён.- Ня слуха’це...

Ён развярнуўся да халупу і тут ў уваходныя дзверы пастукаліся.

Павольна, быццам здраньцвеўшы ад жаху, Гары, Рон і Герміёна рушылі вакол халупы. Калі яны апынуліся ля ўваходных дзвярэй тыя з моцным грукатам зачыніліся.

- Калі ласка, паспяшаемся,- прашапатала Герміёна.- Я... я не магу гэта вынесці...

Яны пачалі падымацца па травяністым схіле да замка. Сонца ўжо схавалася, неба было ясным, пурпурова-шэрага колеру, але на самым ўскрайку далягляду лунала лалава-чырвоная палоска.

Рон застыў.

- Рон, калі ласка,- прамовіла Герміёна.

- Скаберс... ён выслізнуў... з кішэні...

Рон нахіліўся, каб падабраць пацука і запхнуць яго назад. Але той быццам звар’яцеў. Ён шалёна пішчаў, круціўся і выгінаўся, спрабуючы кусіць Рона за руку.

- Скаберс, гэта я, ты ідыёта кусок, гэта Рон,- прасыкаў хлопчык.

Яны пачулі, як расчыняюся дзверы і аб нечым пачалі разважаць мужчынскія галасы.

- Ах, Рон, калі ласка, хутчэй, яны ўжо збіраюцца зрабіць гэта,- выдыхнула Герміёна.

- Добра... Скаберс, заставайся там...

Яны зноў пайшлі да замку. Гары з Герміёнаю імкнуліся не прыслухоўвацца да галасоў ззаду. Рон ізноў супыніўся.

- Я не магу ўтрымаць яго... Скаберс, затыкніся, яны нас пачуюць...

Пацук працягваў шалёна пішчаць, але рабіў ён гэта не настолькі гучна, каб мажліва было не чуць галасы, што даносіліся з Хагрыдава гароду. Яны аб нечым блытана і туманна гаманілі, потым запанавала цішыня, сярод якой яны раптоўна пачулі відавочны свіст і стук сякеры.

Герміёну загайдала.

- Яны... забілі яго!- прашаптала яна Гары.- Я... я ня... ня веру... яны... забілі яго!

## — РАЗДЗЕЛ XVII —

## *Кот, Пацук і Сабака*

Ад шоку Гарына галава спусцела. Сябры, стаялі пад Мантыяй-Невядзімкай, пахаладзеўшы ад жаху. Апошнія праменчыкі сонца кідалі крывавыя водсветы на пакрытую доўгімі ценямі зямлю. Тут за сваімі спінамі яны пачулі нечый дзікі вой.

- Хагрыд,- прамармытаў Гары. Не разумеючы, што ён робіць, Гары развярнуўся і кінуўся да халупы. Але Рон з Герміёнаю схапілі яго за абедзве рукі.

- Нам нельга гэтага рабіць,- сказаў Рон, які сам быў бялей за паперу.- Уяві, якія Хагрыда будуць чакаць непрыемнасці, калі даведаюцца, што мы былі ў яго...

Герміёна пачала дыхаць павярхоўна і адрывіста.

- Як... яны... маглі?- задыхаючыся вымавіла яна.- Як яны маглі гэта зрабіць?

- Годзе, пайшлі.- сказаў Рон, зубы якога, здавалася, моцна калаціліся.

Павольна, каб не выслізнуць з-пад Мантыі, яны рушылі да замка. Святло хутка знікала і да таго часу, як яны выйшлі на адкрытае месца, вакол іх ужо апусцілася густая цемра.

- Скаберс, сядзі на месцы,- сыкнуў Рон, прыціскаючы грудзі рукою. Яго пацук шалёна курчыўся. Рону раптоўна прыйшлося зрабіць перапынку, каб глыбей запхнуць яго ў кішэню.- Што з табой, дурная жывёла? Сядзі на месцы... АЁЙ! Ён кусіў мяне!

- Рон, цішэй!- імгненна прашапатала Герміёна.- Фадж можа аб’явіцца тут у любы момант...

- Ён... не жадае... заставацца... на месцы...

Пацук здавалася быў моцна напалоханы. Ён з усяе моцы выкручваўся, жадаючы асвабадзіцца з Ронавай рукі.

- Што з ім дзеецца?

Але здавалася Гары ведаў адказ на гэта пытанне... асцярожа, прыцiснуўшы сваё цела да зямлі і жудасна зіхоцячы ў цемры шырокімі жоўтымі вачыма, да іх набліжаўся... Крукшанс. Ці ён бачыў іх, ці краўся на віск Скаберса, хлопчык дакладна не ведаў.

- Крукшанс,- уз’енчыла Герміёна,- Псік, Крукшанс! Не, вэк адсюль!

Аднак кот працягваў набліжацца...

- Скаберс... НЕ!

Але было ўжо запозна... пачук праслізнуў паміж пальцамі, сціскаючай яго Ронавай рукі, кінуўся на зямлю і збег. У тое ж імгненне за ім кінуўся Крукшанс. І перш, чым Гары і Герміёна паспелі штосьці зрабіць, за імі следам, выбегшы з-пад Мантыі-Невідзімкі ў цемру пабег Рон.

- Рон!- праенчыла Герміёна.

Яна і Гары зірнулі адно на аднаго ды кінуліся следам. Мантыя-Невідзімка мяшала ім бегчы ў поўную сілу, таму яны скінулі яе і цяпер яна срэбнай паходняй лунала за імі. Гары і Герміёна чулі наперадзе грукат Ронавых ног і як той крычыць на Крукшанса.

- Вэк ад яго... вэк... Скаберс, ходзь да мяне...

Адчуўся моцны стук.

- Вось табе! Ідзі прэч, смярдзючы кот...

Гары з Герміёнай ледзь не спатыкнуліся аб Рона, паспеўшы супыніцца за цалю ад яго. Той качаўся па зямлі, але Скаберс зноўку быў запхнуты ў яго кішэню і таперча ўяўляў дрыготкі камячык, моцна прыціснуты двума рукамі.

- Рон... падымайся... ідзі назад пад Мантыю,- цяжка дыхаючы, прамовіла Герміёна.- Дамблдор ды... міністр... з'явяцца тут з хвіліны на хвіліну...

Аднак перш, чым яны маглі зноўку схавацца пад Мантыяй, нават раней чым яны паспелі ўздыхнуць на поўныя грудзі, сябры пачулі мягкі тупат вялізарных лап. Раптам нешта скочыла на іх з цемры. Гэта быў гіганцкі... бледнавокі... вугольна-чорны сабака.

Гары пацягнуўся за палачкай, але было запозна, сабака скокнуў і пхнуў у яго грудзі пярэднімі лапамі. Хістнуўшы ў паветры валоссем, Гары паваліўся на зямлю і ўбачыў па над сабою сабачыя іклы ў цалю даўжынёй...

Але сабакаў прыжок быў настолькі моцным, што ён пераскочыў праз ашаломленнага Гары ў якога скалася ўражанне, што яму паламалі ўсе рэбры. Хлопчык паспрабаваў выпрастацца, але зноўку адчуў рычанне, сабака падрыхтаваўся да новай атакі.

Рон падняўся на ногі. Сабака скочыў да яго адапхнуўшы Гары ў бок, яго сківіцы зачыніліся на выцягнутай уперад Ронавай руке. Гары кінуўшыся да іх, схапіў істоціну за поўсць, але той пацягнуў Рона за сабой, быццам той быў лялькаю з анучы...

Потым штосьць невядомае моцна стукнула Гары па твары і ён зноўку паваліўся на зямлю, пачуўшы, як Герміёна таксама павалілася і закрычала ад болю. Кроў засціла Гарыны вочы, ён намацаў палачку...

- Люмас!- прашапатаў ён.

Святло ўзнікшае на кончыку палачкі асвяціла тоўсты ствол дрэва, пагнаўшыся за Скаберсам яны апынуліся ля Лупцуючай Вярбы, галлё якой рыпела бы ад моцнага ветра і сям-там сцябала па зямлі, каб супыніць іх набліжэнне.

А недзе пад камлём яны заўважылі сабаку, які цягнуў Рона ў адтуліну між карэння. Хлопчык люта змагаўся, але яго галава і тулава ўжо зніклі з вачэй...

- Рон!- закрычаў Гары і паспрабаваў кінуцца ўслед, аднак цяжкая галіна жорстка лупанула ў паветры і ён быў вымушаны адскочыць назад.

Гары і Герміёна бачылі, як Рон адной нагой паспрабаваў зачапіцца за корань, каб супыніць спробу сабакі поўнасцю зацягнуць яго ў праход. Але тут паветра працяў жудасны трэск, падобны на стрэл, Ронава нага пераламалася і ў гэта ж імгненннe ён цалкам знік з вачэй.

- Гары, мы павінны бегчы за дапамогай...- залямантавала Герміёна. Яна таксама была ў крыві – Вярба дзеранула яе па плячы.

- Не! У нас няма на гэта часу, гэты сабака дастаткова вялікі, каб зжэрці Рона...

- А хіба мы зможам прайсці тут без старонней дапамогі...

Паблізу іх лупанула сціснуўшы лозіны, бы ў кулак, яшчэ адна галіна.

- Калі туды трапіў сабака, мы таксама зможам гэта зрабіць,- прамовіў Гары і прыняўся кідацца сюды-туды спрабуючы прайсці міма ашалелага, лупцуючага паветра і глебу галля, але ані на цалю не наблізіўся да каранёў, без рызыкі трапіць пад удары дрэва.

- Дапамажыце, дапамажыце хто-небудь,- у адчаі шапатала Герміёна, нясмела скочучы паблізу,- калі ласка...

Крукшанс кінуўся наперад. Ён як тая змяя праслізнуўшы між лупчуючага галля, націснуў сваёй лапай на нейкі вузлаваты сук на камелі.

Раптам дрэва знерухоміла, бы ператварылася на мармуровае. Нават лісця на ім перасталі дрыжаць.

- Крукшанс!- няёмка прашапатала Герміёна. Яна балюча схапіла Гары за руку.- Як ён даведаўся..?

- Ен сябра гэтага сабакі,- змрочна адказаў Гары, - я неяк бачыў іх разам. Ходзьма... трымай палачку на пагатове...

У лічаныя секунды яны дасягнулі прахода, але перш чым паспелі туды прайсці самі, у адтуліну кінуўся Крукшанс, паказаўшы ім свой руды бутэлькападобны хвост, следам за ім рушыў Гары. Ён ўніз галавою прапоўз колькі футаў, а потым слізгануў на дно даволі нізкага праходу. Ён убачыў ката, які бег наперадзе паблісківаючы сваімі жоўтымі вачыма ў святле Гарынай палачкі. Праз колькі секунд ў праходзе аб’явілася Герміёна.

- А дзе Рон?- перапужаным голасам прашапатала яна.

- Недзе там,- прамовіў Гары і перагнуўшыся напалам паспяшаўся следам за катом.

- А куды вядзе гэты праход?- задыхаючыся ад бега спыталася Герміёна.

- Ня ведаю... ён адзначаны на Мапе Паскуднікаў, але Фрэд і Джордж сцвярджаюць, што ім ніколі ніхто не карыстаўся. Ён вядзе па-за межы мапы, але хутчэй за ўсё выходзіць недзе ў Хогсмідзе...

Гары і Герміёна, трымаючы ў полі зроку кончык крукшансава хваста, рушылі сагнуўшыся амаль што напалам так хутка, як толькі маглі. Яны ішлі даволі доўга і на Гарыну думку столькі, колькі трэба было ісці да Мядовага Герцага. Усё аб чым мог думаць Гары, гэта быў Рон і тое, што з ім мог зрабіць сабака... хлопчык перавёў дыханне, якое ад доўгага руху было адрывістым ды цяжкім і крочыў далей...

Праход крыху расшырыўся, крута павярнуў і тут Крукшанс знік з вачэй, а недзе наперадзе праз невялічкую адтуліну Гары пабачыў пляму цмянага святла.

Яны з Герміёнаю супыніліся і аддыхаліся. Пасля гэтага, яны моцна сціснулі свае палачкі і падыйшлі паглядзець, куды яны трапілі.

Гэта быў значна неўпарадкаваны і пыльны пакой. Са сценаў звісалі аскепкі шпалераў, падлога была пакрыта плямамі, а па выглядзе мэблі здавалася, што нехта яе разбіў. Усе вокны ў пакоі былі забіты дошкамі.

Гары зірнуў на Герміёну. Та была моцна напалохана, але кіўнула ў знак згоды.

Ён выбраўся з праходу і азірнуўся. Пакой быў пустым, аднак дзверы з правага ад яго боку былі прыадчынены і вялі ў змрочны пярэдні пакой. Раптам Герміёна схапіла яго за руку. Яе вочы блукалі ўздоўж закалочаных вокнаў.

- Гары,- прашапатала яна,- здаецца я ведаю дзе мы. Гэта, Лямантуючая Халупа.

Гары паглядзел навокал. Яго вочы трапілі на драўлянае крэсла. З яго сям-там былі выдраны вялізныя кавалкі, а адна з ножак увогуле адарвана.

- Прывіды не маглі зрабіць падобнага,- павольна сказаў ён.

У тое ж імгненне яны пачулі рыпанне па над сваёй галавою. Нехта хадзіў па другім паверсе. Абодва зірнулі на столь. Герміёна так моцна сціснула Гарыну руку, што той перастаў адчуваць свае пальцы. Падняўшы бровы ён зірнуў на дзяўчынку, тая зноў кіўнула і адпусціла яго руку.

Як мага цішэй яны накіраваліся ў пярэдні пакой і ўбачылі трухлявыя сходы. Пакой быў пакрыты тоўстым слоем пылу і толькі на падлозе і сходах была бачна шырокая паласа некалі адпаліраванага дрэва. Здавалася ўражанне, што тут колькі хвілін таму валачылі нешта на другі паверх.

Гары і Герміёна рушылі ўздоўж паласы.

- Нокс,- прашапаталі яны і святло на кончыках іх палачак знікла. Гары і Герміёна ўбачылі прыадчыненныя дзверы. Крадком яны падыйшлі да іх і прыслухаліся. У пакоі чуліся нечыя крокі, ціхія стогны, а пасля глыбокае і гучнае варкатанне. Гары з Герміёнай у апошні раз перазірнуліся і кіўнулі адно аднаму.

Шыльна сціснуўшы палачку ў руце, Гары штурхнуў дзверы.

У шыкоўным ложку пад пакрытым пылам балдахінам ляжаў Крукшанс і гучна варкатаў, пазіраючы на Гары і Герміёну. Побач з ложкам на падлозе, сціскаючы рукамі нагу, якая была выгнута пад дзіўным вуглом, сядзеў Рон.

Сябры кінуліся паабапал яго.

- Рон... з табой ўсё добра?

- Дзе сабака?

- Гэта не сабака,- прастагнаў Рон, сціснуўшы ад болю зубы.- Гары, гэта была пастка...

- Што...

- Гэты сабака... насамрэч анімаг...

Рон паглядзеў кудысь праз Гарына плячо. Той развярнуўся і ўбачыў як з ценю выйшаў чалавек і з грукатам зачыніў дзверы.

На галаве мужчыны была купа брудных заблытаных валасоў па локаць даўжынёй. Васковага колеру скура настолькі плотна абцягвала косткі на яго твары, што той больш нагадваў чэрап і калі б не бляск глыбокапасаджаных вачэй, мужчыну мажліва было прыняць за мерцвяка. Ён ашчэрыў ва ўсмешцы жоўтыя зубы. Гэта быў аніхто іншы, як Сірыюс Блэк.

- Экспеліярмус!- прахрыпеў ён кіруючы на іх Ронаву палачку.

Палачкі Гары і Герміёны вылецелі з іх рук і ўзняліся ў паветра, дзе іх перахапіла рука Блэка. Ён наблізіўся да іх на крок. Яго вочы глядзелі на Гары.

- Я ведаў, што ты прыйдзеш на дапамогу свайму сябру,- прахрыпеў Блэк, голас як гучаў так, бы ён адвык ім карыстацца,- твой бацька зрабіў бы дзеля мяне тое ж самае. Ты смела кінуўся на дапамогу, а не пабег за настаўнікамі. Я вельмі ўдзячны... гэта значна спрашчае маю справу...

Ціхі кпін наконт яго бацькі, прагучаў ў Гарыных вушах так, быццам Блэк прароў гэтыя словы. У яго грудзях закіпела нянавісць не пакідаючы месца для страху. Першы раз у жыцці ён жадаў, каб ў яго руках апынулася палачка, але не дзеля абароны, а дзеля атакі... дзеля забойства. Ня разумеючы што робіць, Гары кінуўся наперад, але паабапал ад яго адчуліся рэзкія рухі і дзве пары рук схапіўшы затрымалі яго.

- Ня трэба, Гары!- змярцвелым шэптам прамовіла Герміёна. А Рон абярнуўся да Блэка.

- Калі вы вырашылі забіць Гары, вам спачатку трэба будзе забіць нас!- злосна сказаў ён, хаця намагаючыся стаяць на нагах, ён настолькі знясіліў, што з яго твару схаланула уся барва, і кажучы гэтыя словы ён моцна хістаўся.

Штось бліснула ў зацененых вачах Блэка.

- Кладзіся на ложак,- сказаў ён Рону,- інакш яшчэ больш пашкодзіш сваёй назе.

- Ці вы чуеце мяне?- саслабела прамовіў Рон, ён быў вымушаны чапляцца за Гары, каб застацца ў вертыкальным становішчы.- Вам прыйдзецца забіць нас траіх!

- Сёння адбудзецца толькі адно забойства,- адказаў Блэк і яго ўсмешка пашырылася.

- Што так?- выпаліў Гары, спрабуючы вырвацца з рук Рона і Герміёны.- У мінулы раз ты ня быў такім літасцівым? Хіба ты не забіў ўсіх тых маглаў, каб дабрацца да Пэцігру... гады ў Азкабане змягчылі тваё сэрца?

- Гары!- ўзлямантавала Герміёна.- Сціхні!

- ЁН ЗАБІЎ МАІХ МАМУ І ТАТУ!- заравеў Гары і з моцным высілкам вырваўся з рук сяброў і кінуўся наперад...

Ён забыўся пра магію... ён нават забыўся пра тое, што быў маленькім і хударлявым трынаццацігадовым хлапчуком у той час як Блэк быў высокім і дарослым мужчынам. Усё аб чым Гары мог зараз думаць, гэта пашкодзіць Блэку, як мага мацней. І яму было ўсёроўна, колькі шкоды ён атрымае наўзамен...

Гарына ўзрушанае атакаванне, магчыма, было настолькі бязглуздым, што Блэк не паспеў сваячасова скарыстацца палачкамі. Хлопчык адной рукою схапіў чэзлае запясце Блэка, каб адхіліць палачкі, а другой моцна ляпнуў таго ў галаву і яны абодва паваліліся да супрацлеглай сцяны...

Герміёна закрычала, Рон завыў, а з палачак, што тымала рука Блэка падняліся бруйкі асляпляльных іскраў, якія толькі на цалю не дасягнулі Гарынава твару. Гары адчуваў, як друзлая рука мужчыны шалёна выкручваецца, каб асвабадзіцца ад захопа, але хлопчык шчыльна трымаў яе, у гэты ж час іншай рукою шалёна калоцячы Блэка туды, куды толькі мог трапіць.

Тут вольная рука Блэка схапіла Гары за горла...

- Ані,- прашыпеў ён.- Я надта доўга чакаў гэтага...

Блэкавы пальцы сціскаліся мацней, Гары пачаў задыхацца, а яго акуляры з’ехалі на бок.

Хлопчык заўважыў, як быццам ніадкуль аб’явілася нага Герміёны і стукнула Блэка. Той хрыпя ад болю выпусціў Гары. Рон кінуўся на блэкаву руку, што сціскала палачкі, Гары адчуў глухі стук...

Ён высвабадзіўся з-пад клубка змагаючыхся цел і ўбачыў сваю палачку, што ляжала на падлозе. Гары нахіліўся , каб падабраць яе, але...

- Халера!

У бойку ўступіў Крукшанс. Ён глыбока ўсадзіў у Гарыну руку кіпцюры пярэдніх лапаў. Гары адштурхнуў яго, але той кінуўся да яго палачкі...

- НЕЕЕЕЕ!- зароў Гары і моцна пхнуў ката, Крукшанс пырхаючы адляцеў у бок. Гары падняў сваю палачку і развярнуўся...

- Сыйдзіце з дарогі!- крыкнуў ён Рону з Герміёнаю.

Іх ня трэба было перапрошваць два разы. Герміёна запыхаўшаяся і з пакрываўленымі вуснамі адскочыла ў бок. Рон адпоўз да ложка з балдахінам і сціскаючы абедзвюма рукамі паламаную нагу, цяжка дыхаючыся паваліўся на яго. Яго збляднелы твар набыў зялёнае адценне.

Блэк валяўся ля сцяны. Яго тонкія грудзі хутка ўздымаліся і апускаліся, мужчына пазіраў, як да яго набліжаецца Гары накіроўваючы палачку яму ў сэрца.

- Жадаеш забіць мяне, Гары?- прашапатаў Блэк.

Хлопчык супыніўся перад ім, па ранейшаму накіроўваючы палачку ў сэрца Блэка і зірнуў на яго зверху ўніз. Вакол левага вока Блэка быў ліловы сіняк, а з носу цякла кроў.

- Ты забіў маіх бацькоў,- прамовіў Гары, яго голас крыху дрыжаў, але палачка па ранейшаму цвёрда казала ў сваім кірунку.

Блэк ўтаропіў на яго свае запалыя вочы.

- Я не аспрэчваю гэта,- ціха прамовіў ён,- але ты ня ведаеш усіх падрабязнасцяў...

- Усіх падрабязнасцяў?- паўтарыў Гары, у яго вушах шалёна грукатала.- Ты прадаў іх Вальдэморту, гэтага мне хапае!

- Ты павінен выслухаць мяне,- прамовіў з настойлівасцю ў голасе Блэк.- Потым будзеш шкадаваць аб гэтым... ты чуў ня ўсё...

- Я чуў значна больш, чым ты ў стане сабе ўявіць,- адказаў хлопчык, яго голас моцна як ніколі ранней дрыжаў.- Ты чуў яе? Чуў маю маці... якая пыталася супыніць Вальдэморта, калі той збіраўся забіць мяне... і ўсё гэта здарылася з-за цябе...

Перш чым хтось з іх змог вымавіць слова, нешта рудое праслізнула міма Гары і скокнула на грудзі Блэку. Гэта быў Крукшанс, ён сеў над сэрцам мужчыны. Той заміргаў і паглядзеў на ката.

- Псік,- прамармытаў ён, спрабуючы адагнаць ката.

Але Крукшанс учапіўся кіпцюрамі ў яго вопрадку і не варушыўся. Ён павярнуў на Гары сваю выродлівую пляскатую пысу і паглядзеў на яго сваімі вялізнымі жоўтымі вачыма. Справа ад іх ціха плакала Герміёна.

Гары ўтаропіўся на Блэка і Крукшанса, што ўчапіўся ў яго і моцна сціснуў сваю палачку. Яму прыйдзецца спачатку забіць ката. Ён паплечнік Блэка і, калі кот жадае памерці абараняючы яго, Гары гэта не датычыцца... А то што Блэк спрабуе абараніць Крукшанса, значыць тое, што кот яму даражэй, чым былі Гарыны бацькі...

Гары падняў палачку. Зараз самы падыходзячы момант дзеля таго, каб зрабіць гэта, адпомсціць за маму і тату. Зараз ён заб'е Блэка. Ён павінен яго забіць. Гэта яго апошні шанец...

Беглі секунды, Гары застыў трымаючы палачку на пагатове, Блэк, трымаючы Крукшанса на грудзях, глядзеў на яго. З ложка чулася адрывістае дыханне Рона, а Герміёна сціхла.

Раптам адчуўся нейкі новы гук...

Скрозь падлогу пачуліся прыглушаныя крокі... на першым паверсе нехта хадзіў.

- МЫ ТУТ!- нечакана закрычала Герміёна.- ТУТ НАВЕРСЕ... ХУТЧЭЙ... ТУТ СІРЫЮС БЛЭК!

Блэк хітра варухнуўся і амаль спіхнуў Крукшанса, Гары сутаргава сціснуў сваю палачку... «Ты павінен зрабіць гэта зараз!»- чуў ён у сваёй галаве... але крокі ўжо былі на сходах, а Гары працягваў стаяць.

Дзверы адчыніліся фантанам чырвоных іскраў, Гары павярнуў галаву. У пакой з абяскроўленым тварам, трымаючы на пагатове сваю палачку, забег прафесар Люпін. Яго вочы зірнулі на Рона, што зноў ляжаў на падлозе, на Герміёну, што скруцілася побач з дзвярмі, на Гары, што стаяў кажучы сваёй палачкай на Блэка і нарэшце на самога Блэка, што сцякаючы крывёй скурчыўся ля Гарыных ног.

- Экспеліярмус!- пракрычаў Люпін.

Палачка Гары і дзве палачкі, што сціскала ў руке Герміёна зноўку ўзняліся ў паветра. Люпін спрытна схапіў іх і ўвайшоў у пакой, гледзячы на Блэка, на грудзях якога працягваў сядзець Крукшанс.

Гары раптоўна адчуў сябе спустошаным. Ён так і не зрабіў таго, што збіраўся. Яму не хапіла адвагі. Цяпер Блэк вернецца да дэментараў.

Адчуўся голас Люпіна, што дрыжаў ад нахлынуўшых на яго эмоцый:

- Дзе ён, Сірыюс?

Гары хутка зірнуў на Люпіна. Ён не разумеў, што прафесар меў на ўвазе. Пра каго ён пытаўся? Хлопчык зноў перавёў вочы на Блэка.

Той ляжаў з абыякавым тварам. На працягу колькіх секунд ён нават не варушыўся. Потым ён павольна падняў сваю хударлявую руку і паказаў ёй на Рона. Анямеўшы Гары азірнуўся на свайго сябра, што выглядаў зусім збітым з панталыку.

- Але...- прамармытаў Люпін, гледзячы на Блэка настолькі пільна, быццам спрабаваў прачытаць яго думкі,- чаму дагэтуль ён не паказаў сабе? Калі...- зрэнкі Люпіна расшырыліся, нібы ён бачуў за спіною ў Блэка штосьці, што не бачыў ніхто з прысутных...- калі толькі гэта быў ён... няўжо, вы памяняліся... не сказаўшы мне?

Працягваючы пільна глядзець ў вочы Люпіна, Блэк павольна кіўнуў.

- Прафесар Люпін,- гучна перапытаў Гары,- што тут..?

Але ён так і не скончыў пытання, бо тое што адбылося далей прымусіла словам засесці ў яго горле. Люпін апусціў палачку і ў наступны момант падскочыў да яго, схапіў за руку і падняў Блэка на ногі з-за чаго Крукшанс зваліўся на падлогу. Люпін і Блэк абняліся, як браты.

Гары перабываў ў шокавым стане і ў яго страўнік быццам сціснулі ў кулак.

- Я НЕ МАГУ Ў ГЭТА ПАВЕРЫЦЬ!- залямантавала Герміёна.

Люпін адпусціў Блэка і павярнуўся да Герміёны. Яна прыўзнялася з падлогі і вытарапіла на прафесара зшалелыя вочы.

- Вы... вы...

- Герміёна...

- Вы і ён...

- Герміёна, супакойся...

- Я нікому не распавядала гэта!- галасіла дзяўчынка.- Я пакрывала вас...

- Герміёна, калі ласка, выслухай мяне,- закрычаў Люпін,- я магу ўсё растлумачыць...

Гары адчуваў, што яго зноў пачало калаціць, але не ад жаху, а ад новай хвалі лютасці.

- Я давяраў вам,- крыкнуў ён Люпіну, яго голас некантралявана дрыжаў.- А вы ўвесь гэты час былі яго сябрам!

- Ты памыляешся,- адказаў прафесар,- дванаццаць год я ня быў яго сябрам, але зараз зноўку стаў ім... дазволь растлумачыць...

- НЕ!- пралямантавала Герміёна.- Гары, ня вер яму, ён дапамог Блэку трапіць ў замак, ён таксама жадае тваёй смерці... ён ВАЎКАЛАК!

Запанавала звонкая цішыня. Усе ўтаропіліся на прафесара Люпіна, які хай і быў даволі бледным, але захоўваў супакой..

- Не ўсё ў гэтым жыцці можна падагнаць пад свае стандарты,- прамовіў ён.- Баюся, што толькі адно з трох тваіх сцверджанняў правільнае. Я не дапамагаў Сірыюсу трапіць ў замак і вядома не жадаю Гары смерці...- па яго твары прабеглі дзіўныя дрыжыкі,- але ня буду адмаўляцца... так, я – ваўкалак.

Прыклаўшы гераічныя намаганні, Рон паспрабаваў выпрастацца, але зноўку паваліўся на падлогу, стогнучы ад болю. Люпін з заклапочаным тварам кінуўся да яго, але той цяжка дыхаючы прамовіў.

- НЕ ПАДЫХОДЗЬ ДА МЯНЕ, ВАЎКАЛАК!

Люпін супыніўся. З відавочным высілкам ён павярнуў галаву на Герміёну.

- Ці даўно ты здагадалася?- спытаў прафесар.

- Амаль год,- ціха прамовіла яна.- Калі рыхтавала сачыненне для прафесара Снэйпа.

- Ён будзе ўзрушаны,- халодна сказаў Люпін.- Ён прапанаваў гэта сачыненне, каб хтось сам здагадаўся, аб гэтым, па маіх сімптомах. Ты праверыла месяцовыя карты і высвятліла, што я заўжды хварэю падчас поўні? Ці зразумела гэта тады, калі заўважыла, што богарт, калі бачыць мяне, ператвараецца на поўню?

- І то і другое,- ціхутка сказала яна.

Люпін напята ўсміхнуўся.

- Сярод тых, каго я сустракаў, ты самая разумная вядзьмарка, свайго ўзросту.

- Ані,- прашапатала Герміёна,- калі б я была крыху разумнейшай, я б усім паведаміла хто вы!

- Але яны даўно ведаюць,- адказаў Люпін.- Ува ўсялякім выпадку настаўнікі.

- Дамблдор наняў вас ведаючы, што вы ваўкалак?- здзівіўся Рон.- Ён зшалеў?

- Некаторыя з настаўнікаў лічаць гэдак жа,- адказаў прафесар.- Дамблдору прыйшлося прыкласці значныя намаганні, каб пераканаць іх у маёй дабранадзейнасці...

- І ЁН ПАМЫЛЯЎСЯ!- пралямантаваў Гары.- УВЕСЬ ГЭТЫ ЧАС ВЫ ДАПАМАГАЛІ ЯМУ!- Гары паказаў на Блэка, які рушыў да ложка з балдахінам і паваліўся на яго схаваўшы твар у дрыготкай руцэ. Крукшанс ускочыў яму на калені і заваркатаў. Рон, цягнучы нагу, асцярожна амінул іх абодвух.

- Я не дапамагаў Сірыюсу,- адказаў той.- Дай мне магчымасць і я растлумачу. Вось...

Ён аддзяліў палачкі Гары, Рона і Герміёны адну ад адной і кінуў іх ўладальнікам. Гары ашаломлена злавіў сваю.

- Вось,- прамовіў прафесар, запіхваючы сваю палачку за пас,- таперча вы ўзброеныя, а мы не. Будзеце слухаць?

Гары ня ведаў што і думаць. Мо гэта быў нейкі выкрут Люпіна?

- Калі вы не дапамагалі яму,- спытаўся хлопчык разлютавана гледзячы на Блэка,- як вы даведаліся, што ён тут?

- З мапы,- адказаў Люпін.- Мапы Паскуднікаў. Я, як раз сядзеў у сваім кабінэце і разглядаў яе...

- Вы ведаеце, як яна працуе?- з недаверам спытаўся Гары.

- Зразумела ж ведаю,- адказаў прафесар, нецярпліва хістнуўшы рукой.- Я дапагаў чарціць яе. Я – Лунацік... так мяне ў школі клікалі сябры.

- Вы чарцілі..?

- Істотней іншае, я ўважліва назіраў за мапаю ў гэты вечар, таму што вырашыў, што ты, Рон і Герміёна, паспрабуеце збегчы з замка, каб наведаць Хагрыда, падчас катавання яго гіпагрыфа. І я меў рацыю, ці не так?

Ён пачаў хадзіць па пакоі сюды-туды, падымаючы нагамі маленькія фантанчыкі пылу.

- Ты магчыма скарыстаўся старою Мантыяй свайго бацькі, Гары...

- Адкуль вы ведаеце аб Мантыі?

- Колькі разоў я бачыў, як Джэймс знікае, апранаючы яе...- зноў нецярпліва хістнуўшы рукою адказаў Люпін.- Справа ў тым, што нават калі ты схаваўся пад Мантыяй, на Мапе Паскуднікаў цябе ўсё роўна бачна. Я назіраў, як вы рушылі да Хагрыдавай хаціны. Праз дваццаць хвілін вы пакінулі яе і накіраваліся да замка, але цяпер з вамі быў хтось яшчэ.

- Што?- здзіўлена спытаў Гары.- Не, з намі нікога больш не было!

- Я не паверыў сваім вачам,- працягваў Люпін, праігнараваўшы Гарыну заўвагу, як і раней мераючы пакой крокамі.- Я вырашыў, што мапа сапсавалася, бо як ён мог апынуцца сярод вас?

- Анікога з намі не было!- прамовіў Гары.

- А потым я ўбачыў яшчэ адну кропку, што хутка накіроўвалася ў вашым напрамку і была падпісана, як Сірыюс Блэк... Я бачыў як ён біўся з вамі і як павалок двух з вас да Лупцуючай Вярбы...

- Аднаго,- раззлавана сказаў Рон.

- Ані, Рон,- адказаў Люпін,- вас было двоя.

Ён перастаў хадзіць і яго вочы утаропіліся на Рона.

- Ці не мог бы я зірнуць на твайго пацука, Рон?- спакойна папрасіў ён.

- Што?- спытаўся Рон.- Што вы збіраецеся рабіць са Скаберсам?

- Анічога,- адказаў прафесар.- Так магу я на яго зірнуць, калі ласка?

Хістаючыся, Рон сунуў руку ў сваю мантыю і выцягнуў адтуль адчайна змагаючагася Скаберса. Рон схапіў яго за лысы хвост, каб той не ўцёк. Крукшанс падняўся на каленях Блэка і мягка зашыпеў.

Люпін наблізіўся да Рона. Ён пільна зірнуў на пацука і здавалася нават затаіў дыханне.

- Што здарылася?- зноўку спытаўся Рон, прыціснуўшы Скаберса да сябе, той выглядаў шалена перапалоханым,- Пры чым тут мой пацук?

- Ён не пацук,- нечакана прахрыпеў Сірыюс Блэк.

- Што вы маеце на ўвазе... вядома ж ён пацук...

- Ані,- ціха прамовіў Люпін.- Ён чараўнік.

- Анімаг,- дадаў Блэк.- Яго імя Пітэр Пэцігру.

## — РАЗДЗЕЛ XVIII —

### *Лунацік, Галахвост, Мягкалап і Рагач*

Мінула колькі секунд, перш чым, сябры зразумелі гэтае абсурднае сцверджанне. Нарэшце, Рон агучыў тое ж, што было ў думках самога Гары.

- Вы абодва зшалелі.

- Смехата!- ледзь чутна прамовіла Герміёна.

- Пітэр Пэцігру памёр!- дадаў Гары.- Ён забіў Пітэра дванаццаць год таму!

Хлопчык кіўнуў на Блэка, твар якога сутаргава тузануўся.

- Я жадаў гэтага,- ашчэрыўшы жоўтыя зубы, зараўеў той,- але малы Пітэр перайграў мяне... аднак у гэты раз падобнага не здарыцца!

Скінуўшы Крукшанса на падлогу, Блэк кінуўся да Скаберса. Калі яго вага навалілася на Ронаву нагу, той загаласіў ад болю.

- Сірыюс, НЯ ТРЭБА!- крыкнуў Люпін і, кінуўшыся наперад, адарваў Блэка ад Рона.- ЧАКАЙ! Ты не павінен рабіць гэта проста так... яны павінны зразумець... нам трэба растлумачыць ім усё...

- Мы растлумачым ім потым!- гыркнуў Блэк, пытаючыся вырвацца з рук прафесара, адной рукою ўсё яшчэ спрабуючы дацягнуцца да Скаберса, які вішчаў, як той падсвінак і, спрабуючы вырвацца ад Рона, абдрапаў таму твар і шыю.

- Яны... маюць... права... ведаць... усё!- запыхаўшымся голасам, адказаў Люпін, ўсё яшчэ пытаючыся стрымаць Блэка.- Рон, трымаў яго, як хатняга ўлюбёнца! Сёе-тое і я не разумею! А Гары... ты павінен распавесці яму ўсю праўду, Сірыюс!

Блэк супыніў свае спробы вырвацца, але яго запалыя вочы працягвалі ўважліва назіраць за пацуком, які быў моцна заціснуты ў пакусанай, падрапанай і зкрывавленай руцэ Рона.

- Добра,- адказаў ён, не адрываючы ад Скаберса вачэй,- распавядзі ім, калі жадаеш. Але рабі гэта хутчэй, Рэмус. Я жадаю здздейсніць забойства, за якое сядзеў...

- Вы абодва вар'яты,- хістаючыся прамовіў Рон, ён азірнуўся на Гары і Герміёну, чакаючы ад іх падтрымкі.- З мяне годзе. Я пайшоў.

Ён спрабаваў ісці толькі на здаровай назе, але Люпін выцягнуў сваю палачку і накіраваў яе на Скаберса.

- Ты павінен выслухаць мяне, Рон,- ціха сказаў ён.- Толькі працягвай шчыльна трымаць Пітэра.

- ГЭТА НЕ ПІТЭР, ГЭТА – СКАБЕРС!- залямантаваў Рон, ён паспрабаваў запхнуць пацука назад ў кішэню, але той шалёна змагаўся. Рон пахістнуўся і згубіўшы раўнавагу паваліўся, Гары злавіў яго і зноўку пасадзіў на ложак. Потым ігнаруючы Блэка звярнуўся да прафесара Люпіна.

- Ёсць сведкі, якія бачылі, як Пэцігру памёр,- сказаў ён,- поўная вуліца народу...

- Не бачылі, а лічылі што бачылі!- прамовіў Блэк, не спускаючы вачэй з курчашчагася ў Ронавай руцэ Скаберса.

- Усе лічылі, што Сірыюс забіў Пітэра,- адказаў прафесар,- Я сам так лічыў... пакуль сёння не ўбачыў Мапу. Справа ў тым, што Мапа Паскуднікаў ніколі не брэша... Пітэр жывы, Гары і зараз Рон трымае яго.

Гары зірнуў на Рона, калі іх вочы сустрэліся, яны быццам моўчкі сказалі адно аднаму: Блэк і Люпін з’ехалі з глузду. Іх гісторыя ня мае сэнсу. Як Скаберс можа быць Пітэрам Пэцігру? Пэўна Блэк усё-ткі звар’яцеў у Азкабане... але чаму Люпін падтаквае яму?

Затым пачала гаворыць Герміёна. Яе голас дрыжаў і не жадаў супакойвацца, а сама яна здавалася жадала пераверыць, ці ў глуздзе зараз прафесар Люпін.

- Але, прафесар Люпін... Скаберс ня можа быць Пэцігру... гэта не магчыма, я не...

- Чаму немагчыма?- спакойна спытаўся Люпін, быццам яны зараз былі на занятках і Герміёна знайшла нейкі недахоп ў эксперыменце з грындзілоў.

- Таму... таму што, калі Пітэр Пэцігру быў анімагам, аб гэтым бы ўсе ведалі. Мы вывучалі анімагію на занятках прафесаркі МакГонагал. Калі я рабіла хатняе заданне я даведалася, што... Міністэрства шчыльна сочыць за чараўнікамі, якія могуць ператварацца на жывёлаў, яны ўсе занесены ў рэестр, дзе ўказана іх імя і на якую жывёлу яны ператвараюцца, іх афарбаванне і прыкметы. Я пайшла да МакГонагал і яна паказала мне гэты рэестр, там было зарэестравана толькі сем анімагаў, якія жылі ў гэтым стагоддзі і Пэцігру сярод іх не было...

Толькі Гары паспеў захапіцца Герміёнінымі намаганнямі па выкананню хатніх заданняў, як Люпін пачаў рагатаць.

- Так, Герміёна!- адказаў ён,- але ў Міністэрстве анічога ня ведалі аб трох незарэестраваных анімагаў, што валэндаліся па Хогвартсе.

- Калі ты жадаеш распавесці ім ўсю гісторыю, Рэмус, паспяшайся і неадкладна пачынай,- прагыркаў Блэк, працягваючы ўважліва слядзіць за кожным рухам Скаберса,- я ўжо чакаў дванаццаць год і не жадаю чакаць далей.

- Добра... але ты вінен дапамагчы мне, Сірыюс,- адказаў той,- я ведаю толькі пачатак...

Люпін супыніўся. За яго спіною адчуўлася нейкае дзіўнае рыпенне. Дзверы ў пакой самі сабою адчыніліся. Усе пяцёра ўтаропіліся на іх. Люпін падыйшоў да дзвярэй і вызірнуў вонкі.

- Нікога...

- Гэта дом з прывідамі!- прамовіў Рон.

- Ані,- адказаў Люпін усё яшчэ здзіўлена пазіраючы на дзверы.- У Лямантуючай Халупе ніколе не было прывідаў... усё ляманты і крыкі, да якіх прызвычаліся мясцовыя жыхары, зроблены... мной.

Ён адштурхнуў з вачэй сівое валоссе, паразважаў хвіліну і пачаў сваё апавяданне:

- Усё пачалося з таго... што я стаў ваўкалакам. Нічога падобнага не адбылося, калі б мяне не кусілі... і калі б я ня быў гэткім авантурыстам...

Ён выглядаў спакойным, але стомленым. Рон збіраўся перабіць яго, але Герміёна сыкнула на яго і пільна ўтаропілася на Люпіна.

- Калі мяне кусілі я быў вельмі малым хлапчанём. Мае бацькі выпрабавалі ўсё, але ў тыя часы не было аніякіх лекаў. Тое зелле, што зараз гатуе дзеля мяне прафесар Снэйп, было вынайдзена не так даўно. Яно робіць мяне цалкам бяспечным. Я пачынаю прымаць

яго за тыдзень да поўні і пакуль я гэдак раблю... я магу ціхінька сядзець у сваім кабінэце і чакаць. Пакуль месяц не зменшыцца.

- Але тады мардоўнікавага зелля не існавала і я раз на месяц ператвараўся на сапраўдную пачвару. Нельга было і марыць аб тым, што я магу трапіць ў Хогвартс. Бацькі хутчэй за ўсё не пажадалі бы, каб іх дзеці вучыліся разам са мной.

- Але тут на пост дырэктара быў абраны Дамблдор, а ён спачуваў усім. Ён прыйшоў да маіх бацькоў і сказаў ім, што калі яны прымуць пэўныя меры засцярогі, ня будзе аніякіх прычын, каб я не мог вучыцца ў школе...- Люпін паглядзеў на Гары і ўздыхнуў.- Колькі месяцаў таму, я сказаў табе, што Лупцуючую Вярбу пасадзілі ў той год, калі я прыехаў у Хогвартс. Але справа ў тым, што яе пасадзілі, каб я быў сюды прыняты. І гэты дом...- прафесар маркотна абвёў пакой вачыма...- і праход, што вядзе да яго... усё гэта было пабудавана дзеля мяне. Раз на месяц я павінен быў пакідаць замак, каб пераварацiцца. А над праходам была пасаджана Лупцуючая Вярба, каб ніхто выпадкова не трапіў на мяне, калі я быў небяспечным.

Гары не мог бачыць, як гэта ўсё адбывалася, але зараз ў захапленні слухаў. Адзіным гукам, акрамя голаса Люпіна, што апавядаў гісторыю, быў напалоханы піск Скаберса.

- У тыя часы, мае пераварочванні былі... жахлівымі. Ператварацца на ваўкалака пакутліва балюча. А тут я быў яшчэ аддзелены ад людзей, якіх мог кусіць, таму замест іх я драпаў сябе самога. Сельскія жыхары, што чулі мае крыкі і ляманты вырашылі, што тут паселішча асабліва шалёных зданяў. Гэтую чутку пусціў Дамблдор... і нават зараз, калі шмат год Халупа маўчыць, мясцовыя жыхары не адважваюцца да яе падыходзіць...

- Але, калі не браць на ўвагу мае ператварэнні, я быў шчаслівым, як ніколі ў жыцці. Бо ў мяне аб’явіліся першыя ў жыцці сябры, трое самых найвыдатнейшых сяброў у свеце. Сірыюс Блэк... Пітэр Пэцігру... і зразумела ж твой Гары бацька – Джэймс Потэр.

- Гэтыя тры маіх сябра не маглі не заўважыць, што я кожны месяц кудысь знікаю. Я спрабаваў выдумляць разнастайныя гісторыя. Казаў, што хварэла маці і я быў вымушаны ехаць дамоў, каб адведваць яе...  З тугою і жахам я думаў аб тым, што, калі мае сябры даведаюцца аб тым кім я ёсць, яны пакінуць мяне. Але ж вядома, яны, як і ты Герміёна, аб усім здагадаліся...

- Але не кінулі. Замест гэтага, яны здзейснілі дзеля мяне тое, што зрабіла мае ператварэнні не толькі больш-менш ніштаватымі, але, зверх таго, яны сталі лепшым часам ў маім жыцці. Мае сябры сталі анімагамі.

- Мой тата таксама?- здзіўлена спытаўся Гары.

_ Зразумала,- прамовіў Люпін.- Яны выдаткавалі лепшыя часы жыцця на працягу трох год, каб высветліць, якім чынам гэта зрабіць. Твой бацька і Сірыюс на іх шчасце былі лепшымі навучэнцамі школы, таму што анімагічная трансфармацыя можа пайсці непапраўна жахліва... гэта адна з прычын па якой Міністэрства ўважліва сочыць за тымі, хто спрабуе гэтым займацца. Пітэр атрымаў ад Джэймса і Сірыюса ўсю тую дапамогу якую яны маглі даць яму. І вось нарэшце, на пятым годзе навучання ў іх атрымалася. Яны па ўласнаму жаданню маглі пераварочвацца на жывёлаў.

- Але якім чынам гэта дапамагло вам?- збянтэжана спыталася Герміёна.

- Яны не маглі скласці мне кампанію, як людзі, але рабілі гэта пад выглядам жывёлаў.- адказаў Люпін.- Ваўкалакі небяспечныя выключна для людзей. Яны ўпотай пакідалі замак

пад Мантыяй-Невідзімкай Джэймса. Пераварочваліся... Пітэр, які быў найменшым з нас, спакойна мог праслізнуць міма атакуючых галінак Вярбы і націснуць на вузел на яе камелі і тым самым абязрушыць дрэва. Потым яны праходзілі праз праход і далучаліся да мяне. Пад іх уплывам, я стаў менш небяспечным. Калі я быў сярод іх, маё цела працягвала быць ваўчыным, а вось мой розум значна менш.

- Пасцяшайся, Рэмус,- гыркнуў Блэк, ён працягваў пазіраць на Скаберса з выразам жахлівага голаду на твары.

- Я ўжо амаль скончыў, Сірыюс, амаль скончыў... Дык вось, мы былі вельмі ўзрушаны магчымасцямі, якія адкрыліся для нас, калі мы ўсе навучыліся пераварочвацца. Неўзабаве, мы пакінулі Лямантуючую Халупу і шлэндалі па начах па замку і вёсцы. Джэймс і Сірыюс ператвараліся на такіх буйных жывёлаў, што з лёгкасцю маглі стрымаць ваўкалака. Сумняваюся, што ў Хогвартсе быў калісь навучэнец, які ведаў бы тэрыторыю Хогвартса і Хогсміда лепш за нас... І вось праз колькі часу, мы вырашылі стварыць Мапу Паскуднікаў, якую падпісалі сваімі мянушкамі. Сірыюс – Мягкалап, Пітэр – Галахвост, а Джэймс – Рагач.

- А на якіх жывёл..?- пачаў было Гары, але Герміёна перабіла яго.

- Але ж гэта было вельмі небяспечным! Бегаць ў цемры разам з ваўкалакам! А калі б вы выслізнулі з-пад увагі астатніх і кусілі кагось?

- Думкі пра нешта падобнае дагэтуль пераследуюць мяне,- цяжка прамовіў прафесар.- Шмат разоў падобнае ледзве не здаралася. Але потым мы смяяліся над гэтым. Мы былі малымі і бязглуздымі... і захопленныя сваёй разумнасцю.

- Часам я адчуваў сябе вінаватым ў тым, што грэбаю даверам Дамблдора. Вядома ж... ён дазволіў мне вучыцца ў Хогвартсе, чаго б не зрабіў ніхто з папярэдніх дырэктароў. А ён нават ня ведаў, што я парушаю правілы, якія ён прызначыў дзеля бяспекі, маёй і навакольных. Таксама ён ня ведаў, што ўзяўшы з мяне прыклад, трое навучэнцаў, сталі нелегальнымі анімагамі.Але маі дакоры сумлення адступалі штораз, калі мы сядалі абмяркоўваць свае прыгоды на наступны месяц. І я зусім не змяніўся...- твар прафесара здранцвеў, а ў голасе аб’явілася агіда на сябе самога.- На працягу ўсяго году я змагаўся з сабой, разважаючы, ці павінен я сказаць Дамблдору, што Сірыюс – анімаг. Але так і не зрабіў гэтага. Чаму? Таму што я жахлівы баягуз. Гэта азначала бы маё прызнанне ў тым, што я пагрэбаваў яго даверам, калі вучыўся ў школе і павёў за сабою іншых... А давер Дамблдора для мяне усё. Ён пусціў мяне ў Хогвартс, калі я быў хлопчыкам і даў працу таму, каго пазбягалі ўсё яго сумленнае жыццё, таму хто ня меў магчымасці знайсці сабе аплачваемую працу з-за сваёй... асаблівасці. Таму я пераканаў сябе, што Сірыюс трапляе ў школу дзякуючы Цёмным Мастацтвам, якім навучыўся ад Вальдэморта, а тое, што ён яшчэ і анімаг ня мае да гэтага аніякага дачынення... такім чынам ў некаторай ступені, Снэйп быў правы наконт мяне.

- Снэйп?- нечакана спытаўся Блэк, упершыню за колькі хвілінаў адарваўшы вочы ад Скаберса, каб паглядзець на Люпіна.- Ён тут якім бокам?

- Ён тут працуе, Сірыюс,- цяжка ўздыхнуў Люпін,- настаўнікам.- ён зірнуў на Гары, Рона і Герміёну.- Прафесар Снэйп, вучыўся ў школе разам з намі. Ён з усёй сваёй моцай змагаўся супраць майго прызначэння на пасаду настаўніка па Абароне ад Цёмных Мастацтваў. На працягу ўсяго году, ён сцвярджаў Дамблдору, што мне не варта давяраць.

І ў яго былі на то свае прычыны... ці ведаеце, Сірыюс калісь пажартаваў з ім так, што той ледзь не загінуў і жарт быў з маім удзелам...

Блэк здзекліва рагатнуў.

- Ён заслужыў гэта,- яхідна прамовіў ён.- Снэйп крадком цягаўся вакол нас, імкнучыся высветліць, чым мы займаемся... спадзяваўся такім чынам дамагціся, каб нас вытурылі са школы...

- Северус надта цікавіўся тым, куды я штомесяц знікаю,- растлумачыў Люпін Гары, Рону і Герміёне.- Мы былі аднагодкамі і... эээ... моцна не любілі адно аднаго. Больш астатніх яму не падабаўся Джэймс. Думаю ён зайздросціў здольнасцям Джэймса на квідытчным полі... карацей, аднойчы ўвечары Снэйп убачыў, як мадам Помфры суправаджае мяне да Лупцуючай Вярбы, каб я мог пераварацiцца. Сірыюс вырашыў, што будзе вельмі пацешна, калі ён распавядзе Снэйпу, аб тым, што трэба націснуць сук на камелі доўгай палкай, каб ён змог пабачыць мяне. Вядома ж Снэйп паспрабаваў... і калі б ён дабраўся да Халупы, ён сустрэўся бы там з вялізным ваўкалакам... але твой бацька, калі пачуў аб тым што зрабіў Сірыюс, кінуўся за Снэйпам і з вялізнай рызыкай для жыцця выцягнуў таго вонкі... аднак Снэйп ўбачыў мяне ў другім канцы прахода. Дамблдор забараніў яму распавядаць аб гэтым, але з тых часоў ён ведае хто я...

- Дык вось чаму Снэйп ненавідзіць вас?- павольна прамовіў Гары.- Ён вырашыў, што вы ўдзельнічалі ў гэтым жарце?

- Маеш рацыю,- здзекліва халодным голасам сказала сцяна за спіною ў прафесара.

Северус Снэйп скінуў з сябе Мантыю-Невідзімку, яго палачка была накіравана на Люпіна.

## — РАЗДЗЕЛ XIX —

### *Слуга Лорда Вальдэморта*

Герміёна ўскрыкнула. Блэк ускочыў на ногі. Гары ўздрыгануўся, бы яго шыбанула токам.

- Я занайшоў гэта ля Лупцуючай вярбы,- прамовіў Снэйп і асцярожна, каб не адхілілася палачка, якую ён працягваў кіраваць у грудзі Люпіна, Снэйп адкінуў Мантыю-Невідзімку ў бок,- Яна вельмі згадзілася мне, Потэр, дзякую табе ...

Снэйп моцна запыхаўся, але яго твар свяціўся ад дрэнна хаваемага трыюмфу.

- Напэўна вам вельмі цікава якім чынам я даведаўся аб тым дзе вы?- паблісківаючы вачыма прамовіў ён.- Я быў у тваім кабінэце, Люпін. Ты забыўся зайсці ўвечары да мяне па сваё зелле і я вырашыў занесці яго сам. І вельмі добра, што зрабіў гэта... я маю на ўвазе добра для мяне. На стале ляжала адна ўжо вядомая мапа. Аднаго погляда на яе мне хапіла, каб ведаць ўсё, што мне трэба.Я бачыў, як ты прайшоў уздоўж калідора і пайшоў далей.

- Северус...- пачаў было Люпіна, але Снэйп перапыніў яго.

- Я шмат разоў паўтараў і паўтараў дырэктару, што гэта ты, Люпін, дапамог твайму старому сябруку Блэку трапіць ў замак. І вось ён доказ. Я нават не думаў, што ў цябе з’явіцца нахабства, выкарыстаць ваш стары штаб у якасці схованкі...

- Северус, ты робіш памылку,- імгненна працягнуў Люпін.- Ты ня ведаеш усёй гісторыі... я ўсё табе растлумачу... Сірыюс тут не дзеля таго, каб забіць Гары...

- Сёння ноччу Азкабан папоўніцца дзвума вязнямі,- прамовіў Снэйп і яго вочы фанатычна заблішчэлі.- Мне цікава, як Дамблдор адрэагуе на гэта. Ён па ранейшаму лічыць цябе, Люпін, цалкам бяспечным... ручным ваўкалакам...

- Ты ёлуп,- мягка адказаў той.- З-за школьнай крыўды ты гатовы запхнуць цалкам нявіннага чалавека назад у Азкабан?

БАЦ! Тонкая змеепадобная стужка вырвалась са Снэйпавай палачкі і абвіла прафесара Люпіна ад рота да ладыжак, той згубіў раўнавагу і паваліўся на падлогу, не ў стане паварушыцца. Блэк зароўшы кінуўся ў яго напрамку, але Снэйп тыцнуў яму палачкай між вачэй.

- Дай мне повад,- прашапатаў ён,- дай толькі повад і я клянуся, што зраблю гэта.

Блэк застыў на месцы. У гэты час немегчыма было дакладна сказаць, хто з мужчын палае да другога большай нянавісцю.

Гары стаяў здранцвёўшы, не разумаеючы што рабіць і каму верыць. Ён паглядзеў на Рона і Герміёну. Рон быў зазбянтэжаны і карысці ад яго было нешмат, бо ён з усёй моцы спрабаваў затрымаць курчашчагася ўва ўсе бакі Скаберса. Але Герміёна зрабіла крок ў напрамку Снэйпа і прамовіла вельмі слабым голасам.

- Прафесар Снэйп... ці... ці не здаецца вам, што нельга адмаўляць ім ў магчывасці вы... выказацца?

- Міс Грэйнджэр, вы і так амаль што выключаны са школы,- фыркнуў Снэйп.- Вы, Потэр і Візлі знаходзіцеся па-за межамі школы ў кампаніі забойцы і ваўкалака. Таму хоць раз у жыцці СТРЫМАЙЦЕ СВОЙ ЯЗЫК.

- Але ж... калі вы памыляецеся...

- ЗАМОЎКНІ, ДУРНОЕ ДЗЯЎЧО!- раптам ушчэнт ашалеўшы, крыкнуў Снэйп.- НЕ РАЗВАЖАЙ АБ ТЫМ, ЧАГО НЕ РАЗУМЕЕШ!- колькі іскраў выскочылі з палачкі Снэйпа, якую ён працягваў трымаць ля твара Блэка. Герміёна сціхла.

- Якое гэта салодкае пачуццё – помста,- ціха прамовіў Снэйп у твар Блэку.- Як я спадзяваўся быць тым, хто зловіць цябе...

- З табою зноў нехта пажартаваў, Северус.- гыркнуў Блэк.- Няхай гэты хлопец,- ён штурхнуў галавою ў бок Рона,- занясе свайго пацука ў замак... а я спакойна пайду...

- Да замку?- лісліва прамовіў Снэйп.- Мяркую, што табе няма сэнсу хадзіць так далёка. Дастаткова паведаміць аб цябе дэментарам і яны сстрэнуцца з табой ля Вярбы. Яны вельмі будуць рады сустрэчы, Блэк, так рады, што нават адаруюць цябе невялічкім пацалуначкам...

Апошнія барвы пакінулі твар Блэка.

- Ты... ты павінен выслухаць мяне,- прахрыпеў ён.- Пацук... паглядзі на гэтага пацука...

Але ў Снэйпавых вачах аб’явіўся шалёны бляск, якога Гары раней ніколі не бачыў, здавалася што той канчаткова звар’яцеў.

- Вы ўсё, рушце за мной,- ён пстрыкнуў пальцамі і канцы стужкі, што звязвала Люпіна падляцелі да яго рукі.- Я пацягну ваўкалака. Магчыма дэментары зробяць ласку і пацалуюць яго таксама...

Аднак перш чым ён змог апамятаць, Гары ў тры крокі перасёк пакой і заблакаваў дзверы.

- Прэч з дарогі, Потэр,- прагыркаў Снэйп,- у цябе і так ўжо досыць праблемаў. Калі б я не з’явіўся, ураташаць тваю скуру...

- Прафесар Люпін сто разоў мог забіць мяне,- прамовіў Гары,- я безліч часу правёў сам насам з ім, калі вучыўся абараняцца ад дэментараў. Калі ён дапамагаў Блэку, чаму ён не скарыстаўся гэткай магчымасцю, каб расправіцца са мной?

- Не пытайся ў мяне, Потэр, што тварыцца ў розуме ваўкалака,- прасыкаў Снэйп,- Прэч з дарогі.

- ВЫ НІКЧЭМА!- пралямантаваў хлопец.- ТОЛЬКІ З-ЗА ТАГО, ШТО ЯНЫ ЗДЗЕКВАЛІСЯ З ВАС У ШКОЛЕ ВЫ ІХ І СЛУХАЦЬ НЕ ЖАДАЕЦЕ...

- МАЎЧАЦЬ! Я НЕ ДАЗВОЛЮ ТАБЕ РАЗМАЎЛЯЦЬ СА МНОЙ У ПАДОБНЫМ ТОНЕ!- загаласіў Снэйп, зараз ён выглядаў яшчэ больш апантаным, чым калі-небудзь.- Які бацька, такі і сын! Потэр, я толькі што ўратаваў тваю шыю і ты вінен на каленях дзякваць мяне за гэта! А што калі б ён забіў цябе. Ты загінуў бы як твой бацька, які ў сваёй пыхе не змог уявіць, што Блэк дурыць яго... а зараз прэч з дарогі, ці я буду вымушаны прымяніць сілу. ІДЗІ ВЭК, ПОТЭР!

Гары разважаў не больш за дзелю секунды. Перш чым Снэйп паспеў зрабіць хоць крок ў яго напрамку, хлопчык падняў палачку.

- ЭКСПЕЛІЯРМУС!- прагаласіў ён... пры гэтым пачуўшы ня толькі свой голас. Грымнуў выбух, які сарваў дзверы з завесаў. Снэйпа ўзняло ў паветра і кінула аб сцяну. Ён скаціўся на падлогу, з-пад Снэйпавых валасоў засачыўся крывавы струменчык. Прафесар быў накаўтыяваны.

Гары азірнуўся і ўбачыў, што Рон з Герміёнаю адначасова з ім таксама паспрабавалі раззброіць настаўніка. Яго палачка апісаўшы высачэзную дугу, прызямлілася на ложак паблізу Крукшанса.

- Вам ня трэба было нападаць на яго,- гледзячы на Гары прамовіў Блэк.- Гэта павінен быў зрабіць я...

Гары пазбягаў яго вачэй. Ён дагэтуль ня быў упэўнены, што зрабіў правільна.

- Мы напалі на настаўніка... мы напалі на настаўніка...- скавытала Герміёна, напалоханымі вачыма гледзячы на знежывелага Снэйпа.- Вох, у якую ж вялізную бяду мы ўкляпаліся...

Люпін лежачы на падлозе змагаўся са сваімі путамі. Блэк хутка нахіліўся і дапамог яму. Той падняўся на ногі, паціраючы здранцвелыя рукі сям-там прасякнутыя лініямі..

- Дзякуй, Гары,- прамовіў ён.

- Я пакуль яшчэ не магу сказаць, што веру вам,- адкараскаўся Гары.

- Тады надыйшоў час прапанаваць вам сякія-такія доказы,- сказаў Блэк.- Хлопчык... дай ка мне Пітэра.

Рон шчыльна прыціснуў Скаберса да грудзей.

- Кіньце дурное,- слаба прамовіў ён.- Няўжо вы будзеце сцвярджаць, што вырваліся з турмы, толькі дзеля таго, каб дабрацца да Скаберса? То бок...- ён паглядзеў на Гары і Герміёну, чакаючы ад іх падтрымкі.- Добра, я веру, што Пэцігру можа ператварацца на пацука... але пацукоў міліёны... як вы здагадаліся, пасля стольких год у Азкабане, што гэта менавіта ён.

- Ці ты ведаеш, Сірыюс, а ён мае рацыю,- спытаўся Люпін, звяртаючыся да Блэка.- Як ты здагадаўся, што гэта Пітэр?

Блэк сунуў кіпцюрападобную руку сабе пад мантыю і выцягнуў адтуль пакамячаны кавалак паперы, распраміў яго і паказаў прысутным.

Гэта была фатаграфія сям'і Візлі, што летась была надрукавана ў Штодзённым Вяшчуне. На плячы ў Рона сядзеў Скаберс.

- Дзе ты яе дастаў,- спытаўся ашаломлены Люпін.

- Фадж,- адказаў Блэк.- Мінулым летам ён прыяжджаў у Азкабан з інспекцыяй і даў мне сваю газэту. На першай паласе я ўбачыў Пітэра... што сядзеў на плячы ў гэтага хлопца... Я адразу пазнаў яго... бо столькі раз бачыў, як той пераварочваецца. А подпіс абвяшчаў, што хлопчык збіраецца вяртацца ў Хогвартс... дзе вучыцца Гары...

- А, Божа мой, Божачкі,- мягка прамовіў прафесар Люпін зірнуўшы на фатаздымак і вяртаючы кавалак газэты Блэку.- Яго пярэдняя лапа...

- А што з ёй?- задзірліва спытаўся Рон.

- У яго адсутнічае адзін палец,- адказаў Блэк.

- Канечне ж,- выдыхнуў Люпін,- гэта ж відавочна... але бліскуча... ён адрэзаў палец?

- Так, перад тым, як пераварацiцца,- падцвердзіў Блэк.- Калі я загнаў яго ў кут, ён завішчаў, што я выдаў Лілі і Джэймса. І перш, чым я паспеў заклясці яго, ён сваёй палачкай ушчэнт разнёс частку вуліцы за спіною, забіўшы пры гэтым усіх, хто знаходзіўся бліжэй за дванаццаць футаў ад яго... і скокнуўшы, знік ў каналізацыі сярод іншых пацукоў...

- Хіба ты ня чуў, Рон,- спытаўся Люпін,- што самым вялікім кавалкам, што застаўся ад Пітэра быў яго палец?

- Здаецца, Скаберс папросту пабіўся з якімсь іншым пацуком, ці з ім здарылася нешта падобнае! Ён ў маёй сям'і ўжо шмат год...

- Дакладней, недзе дванаццаць.- дадаў прафесар.- А ты ніколі не разважаў, чаму ён жыве навстолькі доўга?

- Ну... ну, мы добра даглядалі яго!- адказаў Рон.

- Але ў дадзены момант, ён выглядае не надта добра.- прамовіў Люпін.- Ці не тады, выпадкова, ён пачаў худнець, калі пачуў, што Сірыюс збёг з-за кратаў..?

- Скаберс папросту баіцца гэтага шалёнага кашака!- Рон хістнуў галавою ў бок ложка, дзе працягваў варкочучы ляжаць Крукшанс.

Але Гары прыпомніў, што ўсё было зусім не так... Скаберс пачаў адчуваць сябе блага яшчэ да сустрэчы з Крукшансам... калі Рон вярнуўся з Егіпта... калі прайшло паведамленне, што Блэк вырваўся з Азкабану...

- Гэты кот зусім не шалёны,- прахрыпеў Блэк, працягнуўшы да Крукшанса руку і пагладзіўшы яго па пухнатай галаве,- наадварот, найразумнейшы з усіх катоў, што сустракаліся на маім шляху. Ён адразу здагадаўся, кім насамрэч ёсць Пітэр. І калі ўпершыню сстрэў мяне, таксама ведаў, што я не сапраўдны сабака. Гэта было яшчэ да таго як ён пачаў давяраць мне. Аднак, калі нарэшце мы знайшлі агульную мову, ён пачаў дапамагаць мне...

- Што вы маеце на ўвазе?- ледзь чутна спыталася Герміёна.

- Спачатку, ён паспрабаваў прынесці Пітэра да мяне, але калі гэта не атрымалася... ён скраў для мяне паролі да Грыфіндорскай Вежы... думаю ён выцягнуў іх з камоды ў кагось з хлопцаў...

Гары здавалася, што яго мозг пачало сціскаць пад вагай пачутага. Поўная лухцень... аднак...

- Але Пітэр, зразумеўшы, што адбываецца збег... гэты кот - вы па-мойму клічыце яго Крукшансам – распавёў мне, што ён пакінуў груду скрываўленых прасцін... магчыма добра кусіў сябе... зусім так, як тады, калі інсцэніяваў ўласную смерць...

Гэтыя словы прывялі Гары ў свядомасць.

- Але чаму ён сфальсіфікаваў сваю смерць?- разлютавана спытаўся ён.- Пэўна ён ведаў, што ты забеш яго, як забіў маіх бацькоў!

- Не,- прамовіў Люпін,- Гары...

- А цяпер ты з'явіўся, каб скончыць гэтую справу!

- Так, я прыйшоў забіць яго,- прамовіў Блэк і злосна паглядзеў на Скаберса.

- Тады я не павінен быў перашкаджаць прафесару Снэйпу!- закрычаў Гары.

- Гары,- паспешліва сказаў Люпін,- няўжо не зразумела? Увесь гэты час, мы лічылі, што Сірыюс аддаў тваіх бацькоў Вальдэморту, а Пітэр высачыў яго... але ўсё насамрэч было зусім наадварот і гэта відавочна... Лілі і Джэймсу здрадзіў Пітэр... а Сірыюс займаўся яго росшукамі...

- АЛЕ Ж ГЭТА ПОЎНАЯ ХЛУСЬНЯ!- пралямантаваў Гары.- ГЭТА ЁН БЫЎ НАШЫМ САКРЭТНЫМ АХОЎЦАМ! І ПЕРАД ТЫМ, ЯК ВЫ ПРЫЙШЛІ, ЁН САМ СКАЗАЎ, ШТО ЗАБІЎ ІХ!

Гары паказаў на Блэка, які павольна хістнуў галавою, яго запалыя вочы яскрава заззялі.

- Гары.. я насамрэч фактычна забіў іх,- прахрыпеў ён.- У апошні момант, я пераканаў Лілі і Джэймса, выкарыстаць замест сябе Пітэра ў якасці Сакрэтнага ахоўцы... І ведаю, што вінаваты ў гэтым... Той ноччу, калі яны загінулі, я завітаў у схованку Пітэра, каб пераверыць, ці з ім ўсё балазе, але, калі з'явіўся туды, Пітэра кудысь знік. І не было аніякіх прыкметаў барацьбы. Мне гэта не спадабалася. Я перапужаўся і адразу ж кінуўся да дому тваіх бацькоў. Калі я ўбачыў рэшткі дома, а сярод іх целы Лілі і Джэймса то зразумеў, што Пітэр мае дачыненне да іх згубы. Вось ў чым мае злачынства.

Яго голас сырваўся і ён адвярнуўся да сцяны.

- Годзе ўжо,- прамовіў Люпін і ў яго голасе з'явіліся сталёвыя ноткі, якіх Гары раней аніразу не чуў.- Ёсць толькі адзін надзейны спосаб даведацца, што там адбылося на самой справе. Рон, дай ка мне пацука.

- Што вы збіраецеся з ім рабіць?- напружана спытаўся хлопчык.

- Прымушу яго паказаць сябе,- адказаў Люпін,- калі ён сапраўдны пацук з ім анічога не здарыцца.

Рон павагаўся, затым перадаў Скаберса прафесару Люпіну. Пацук пачаў бесперапынна пішчэць і курчыцца, а яго маленькія чорныя вочкі вытарапіліся.

- Гатовы, Сірыюс?- спытаўся Люпін.

Блэк падняў палачку Снэйпа, што ляжала на ложку і падыйшоў да Люпіна, які трымаў змагаючагася з ім пацука, вільготныя вочкі якога здавалася запалалі агнём.

- Разам,- спакойна прамовіў Блэк.

- Добра,- адказаў прафесар, шчыльна сціснуўшы ў адной руцэ Скаберса, а ў другой палачку.- На лік «тры». Раз... два... ТРЫ!

Кончыкі абедзьвюх палачак ўспыхнулі бледна-блакітным святлом. На імгненне Скаберс застыў у паветры і пачаў шалёна круціцца ... Рон загаласіў... пацук супыніўся і зваліўся на падлогу. Яшчэ раз палачкі асляпляльна успыхнулі, а затым...

Гэта нагадвала фільм на паскоранай хуткасці аб росце дрэва. Галава пацука далёка ўзнялася па-над падлогай, лапкі выраслі і ў наступнае імгненне, на месцы Скаберса ўжо стаяў сцелячыся рабом і заламваючы сябе рукі мужчына. Крукшанс выпрастаўся на ложку пырхаючы і злосна енчучы, поўць на яго спіне ўзнялася ўгору.

Мужчына быў невысокага росту, не вышэй за Гары і Герміёну. Ён меў тонкае бесколернае валоссе, што атачала лысіну. Мужчына быў задрузлы, як той таўстун, што за кароткі час згубіў вагу. Яго скура была гэткай жа бруднай, як і поўсць Скаберса, а востры нос і маленькія слязівыя вочкі надавалі яго твару пацучыны від. Мужчына хутка і неглыбока дыхаючы аглядзеў прысутных. Гары ўбачыў, як яго вочы стрэлілі на дзвяры і вакно.

- Ну, здароўку, Пітэр,- ветліва павітаўся Люпін, быццам пацукі вакол яго толькі і робяць, што ператвараюцца на старых школьных сябрукоў.- Даўно не бачыліся.

- С-Сірыюс... Р-Рэмус,- нават зараз яго голас пішчаў, а вочы зноў стрэлілі на дзверы.- Мае сябры... мае старыя сябры...

Палачка Блэка засвяцілася ружовым, але Люпін схапіў сябра за запясце і папярэджваючы зірнуў на яго, а потым зноў павярнуўшыся да Пэцігру, загаварыў лёгкім і абыякавым тонам.

- Мы жадалі б крыху пабалакаць з табою, Пітэр аб той ночы, калі загінулі Лілі з Джэймсам. Ты магчыма прапусціў сія-тыя моманты, пакуль вічшаў там, на ложку...

- Рэмус,- цяхка дыхаючы прамармытаў Пэцігру і Гары заўважыў, як яго азызлы твар абляпілі кропелькі поту,- Ты ж ня верыш яму... Ён жадае забіць мяне, Рэмус...

- Мы здагадаліся,- халодна адказаў Люпін.- Пітэр, я б хацеў высветліць адно-два пытання, калі ты...

- Ён з’явіўся, каб другі раз паспрабаваць забіць мяне!- нечакана завішчаў Пэцігру кажучы на Блэка сярэднім пальцам, бо як заўважыў Гары, паказальнага ў яго не было.- Ён ужо забіў Лілі і Джэймса, а зараз збіраецца забіць мяне... Ты павінен дапамагчы мне, Рэмус...

Блэк зірнуў на Пітэра сваімі бяздоннымі вачыма, яго твар пачаў яшчэ больш нагадваць чэрап.

- Ніхто не заб’е цябе, пакуль не будуць высветлены ўсі пытанні,- сказаў Люпін.

- Высветліць пытанні?- правіскатаў Пэцігру, працягваючы шалёна зыркаць вакол сябе, яго вочы стрэлілі на вокны, потым на дзверы і зноў на вокны.- Я ведаў што ён прыйдзе за мною. Ведаў што ён вернецца. Я чакаў гэтага дванаццаць год!

- Ты ведаў, што Сірыюс вырвецца з Азкабана?- спытаўся Люпін і яго лоб пакрыўся зморшкамі,- Вырвецца, ня гледзячы на тое, што да яго гэтага ніхто не рабіў?

- Ён атрымаў ад Цемры сілы, аб якіх мы можам толькі марыць,- пранізліва галасіў Пітэр,- як, яшчэ ён мог гэта зрабіць? Мяркую, што Той Каго Нельга Менаваць, навучыў яго сякім-такім штукам!

Блэк зарагатаў, яго жудасны і невясёлы смех напоўніў увесь пакой.

- Ці ж гэта мяне вучыў сваім штукам Вальдэморт?- прамовіў ён.

Пэцігру уздрыгануўся так, бы Блэк шчоўкнуў перад яго тварам пугаю.

- Што, дрыжыкі прадзіраюць пры ўзгадке свайго старога гаспадара?- спытаўся Блэк.- Не вінавачу цябе ў гэтым! Яго хэўра не вельмі задаволена табою?

- Ня ведаю... пра што ты кажаш, Сірыюс...- прамармытаў Пітэр. Яго твар ззяў ад пота, а дыханне было хутчэй, чым гэта можна было сабе ўявіць.

- Ты хаваўся гэтыя дванаццаць год не ад мяне,- прамовіў Блэк,- ты хаваўся ад старых саўдзельнікаў і прыхільнікаў Вальдэморта. У Азкабане я чуў пра што яны гавораць, Пітэр... яны лічаць, што ты памёр, інакш табе прыйшлося адказваць перад імі... Я чуў, як яны крычаць ува сне. Здаецца яны лічаць, што здраднік падмануў іх... што Вальдэморт пайшоў да Потэраў па тваёй звестке... і там сустрэў згубу. І не ўся яго хэўра трапіла ў Азкабан, сёй-той чакае сваго часу, робячы выгляд, што зразумеў памылковасць сваіх дзей... Што будзе, калі яны даведаюцца, што ты жывы, Пітэр..?

- Ня ведаю, пра што ты кажаш,- зноўку прамовіў Пэцігру. Ён выцер свой твар рукавом мантыі і зірнуў на Люпіна.- Не слухай яго, Рэмус... ён звар’яцеў...

- Павінен прызнаць, Пітэр,- спакойна прамовіў прафесар Люпін,- што мне цяжка зразумець, чаму цалкавіта невіноўны чалавек пажадаў дванаццаць год насіць пацучынае аблічча.

- Невіноўны, але перапужаны!- вішчаў Пэцігру.- А калі б прыхільнікі Вальдэморта і перследавалі мяне, дык толькі за тое, што праз мяне трапіў у Азкабан адзін з іх лепшых людзей... шпіён – Сірыюс Блэк!

Блэк скруціў морду.

- Як ты смееш,- прагыркаў Блэк, быццам працягваў быць мядзведзепадобным сабакам.- Ці гэта я шпіён Вальдэморта? Ці можа гэта я спрадвеку сцяліўся перад тымі хто быў мацней і магутней за мяне? Не, гэта быў ты Пітэр... Я дагэтуль не ўцямлю, чаму я з самога пачатку не зразумеў, што ты здольны на гэта. Цябе ж заўжды падабаліся сябры, якія маглі бы паклапаціцца аб цябе? Спачатку гэты былі... я, Рэмус... і Джэймс...

- Я – шпіён... ці ты не здурнеў... ніколі... не ўяўляю, як ты толькі мог сказаць гэта...

- Лілі і Джэймс зрабілі цябе сваім Сакрэтным ахоўнікам, па маёй прапанове,- прасыкаў Блэк, настолькі злосна, што Пэціґру адскочыў назад.- Я меркаваў, што гэта ідэальны план... блефа... Што Вальдэморт абавязкова прымецца шукаць МЯНЕ і яму ніколі не прыйдзе на галаву, што яны пад аховай гэткай слабой і бяздарнай істоты, як ты... Напэўна гэта быў самы найвялікшы момант твайго няшчаснага жыцця, калі ты паведаміў Вальдэморту, дзе схованка Потэраў.

Пэціґру нешта разгублена замармытаў. Гары чуў асобныя словы накшталт «ненатуральна» і «бязглуздзе», але не мог не заўважыць яго папялова-шэрага твару і тое, як Пітэр працягваў стрэліць вачыма ў напрамку вакна і дзвярэй.

- Прафесар Люпін?- нясмела спыталася Герміёна.- Можна... можна задаць пытанне?

- Зразумела ж, Герміёна,- ветліва прамовіў настаўнік.

- Нуу... Скаберс... ой, то бок... гэты чалавек... ён спаў у адным пакоі з Гары, на працягу трох год. Калі ён працуе на Самі Ведаеце Каго, чаму дагэтуль ён не спрабаваў якімсь чынам пашкодзіць Гары?

- Вось!- пранізліва загаласіў Пэціґру, кажучы на Герміёну сваёй пакалечанай рукою.- Дзякуй! Бачыш, Рэмус? Я і валаска не крануў на Гарынай галаве! Калі я здраднік, чаму?

- Я скажу чаму.- апрамовіў Блэк.- ты ніколі анічога не рабіў таму, ад каго не чакаў хуткай аддзякі. Вальдэморт недзе хаваецца вось ужо дванаццаць год і кажуць, што ён увогуле напалову мёртвы. Хіба ты б здзейсніў пад носам у Альбуса Дамблдора забойства дзеля разбітага чараўніка, які страціў усю сваю ўладу? Ты павінен быў упэўніцца, што ён зноўку стаў самым крутым задзіракам на ўсёй дзіцячай пляцоўцы, перш чым вярнуцца да яго. Інакш навошта табе было трапляць у якасці ўлюбёнца ў сям'ю чарадзееў. Ты жадаў ведаць ўсі навіны. І калі б раптам твой стары гаспадар аднавіў свае сілы, ты мог бы бяспечна ўз'яднацца з ім...

Пэціґру колькі разоў адчыняў рот, але адразу зачыняў яго. Здавалася бы ён страціў мову.

- Эээм... Містэр Блэк... Сірыюс?- зноўку нясмела звярнулася Герміёна.

Блэк падскочыў і ўтаропіў свае вочы на Герміёну, быццам даўно не чуў, як да яго звяртаюцца ветліва.

- Калі вы не супраць, ці не адкажыце, як... збеглі з Азкабана без дапамогі Чорнай Магіі?

- Дзякуй!- вохнуў Пэціґру, адчайна ківаючы на Герміёны,- Вось! І я пра тое ж...

Але Люпін адным позіркам прымусіў яго замаўчаць. Блэк крыху пахмурна зірнуў на Герміёну, але не з-за таго, што раззлаваўся на яе. Здавалася ён абдумвае свой адказ.

- Я і сам ня ведаю гэтага,- павольна прамовіў ён.- Думаю адной з прычынаў, чаму я не з'ехаў з глузду было, тое, што я ведаў тое, што ані ў чым не вінаваты. Гэта не было шчаслівай думкай, таму дэментары не змаглі высмактаць яе з мяне... але менавіта яна

дапамагла мне захоўваць сябе ў глуздзе і разуменні кім я ёсць... дапамагала мне захоўваць сілы... а, калі я пачынаў адчуваць, што ціск ўзмацняўся... я пераварочваўся на сабаку. Вы пэўна ведаеце, што дэментары ня маюць вачэй...- Блэк зглынуў.- Яны адчуваюць напрамак да чалавека, адчуваюць яго эмоцыі... Яны разумелі, што мае пачуцці змяньшаліся... што іх было менш, чым звычайна ў чалавека, што яны станавіліся менш складаным. Яны меркавалі, што я як і астатнія вар'яцею і гэта не турбавала іх, а я папросту ў гэты момант быў сабакам. Я быў слабы, вельмі слабы і не меў надзеі адагнаць іх, ня маючы сваёй чараўдзейнай палачкі...

- Але тут я ўбачыў Пітэра на гэтым фатаздымку... я прачытаў, што ён ў Хогвартсе разам з Гары... найідэальнейшым месцы, каб пачаць дзейнічаць, калі адчуе, што Цёмныя Сілы зноў вяртаюць сваю моц...

Пітэр сядзеў ківаючы галавой і бясшумна крывячы морды, аднак нібы загіпнатыязаваны працягваў глядзець на Блэка.

-... як толькі Пітэр ўпэўніўся бы ў моцы сваіх былых паплечнікаў, ён нанёс бы ўласны ўдар... нарэшце даставіў бы ім Потэра. А калі ён аддаў бы ім Гары, хто з іх адважыўся бы сказаць, што Пэцігру здрадзіў Лорда Вальдэморта? Яго бы сустрэлі з гонарам...

- Цяпер вы разумееце, чаму я зрабіў гэта. Я быў адзіны хто ведаў, што ён яшчэ жывы...

Гары прыпомніў, як падчас начной размовы містэр Візлі казаў сваёй жонцы:

«Ахова паведаміла... што Сірыюс увесь час размаўляў у сне, і кожны раз... адно і тое ж: «Ён у Хогвартсе»«

- У маёй галаве быццам нехта запаліў агонь, і дэментары не маглі знішчыць гэта пачуццё... бо яно не было радасным... гэта была толькі дакучлівая думка... але яна дала мне моц і адчысціла мой розум. Аднойчы ноччу, калі дэментары адчынілі дзверы, каб прынесці мне ежу, я ператварыўся на сабаку і праслізнуў міма іх... Эмоцыі жывёлы занадта складаныя для іх разумення і гэта збіла іх з панталыку... Я быў худы... я схуднеў да такога стану, што лёгка праслізнуў праз краты... Працягваючы заставацца сабакам я паплыў на вялікую зямлю... Я рушыў на поўнач і ў сабачым абліччы пранік на тэрыторыю Хогвартса... пасяліўся ў Забароненым Лесе і не вылязаў адтуль за некаторымі выключэннямі... Напрыклад я наведаў адзін з матчаў па квідытчу... Гары, ты лятаеш як твой бацька...

Ён зірнуў на Гары і той у першыню не адвёў свае вочы.

- Павер мне,- прахрыпеў Блэк.- Павер. Я ніколі не здраджваў Джэймсу і Лілі. Я хутчэй памёр бы, чым ім здрадзіць.

І нарэшце Гары паверыў яму. Хлопчык бы страціў мову, таму кіўнуў у адказ галавою.

- НЕ!

Пэцігру паваліўся на калені, бы сваім кіўком Гары падпісаў яму смяротны прысуд. Не падымаючыся з кален ён, выдыгаючы і склаўшы рукі бы ў малітве, рушыў наперад.

- Сірыюс... гэта ж я... гэта Пітэр... твой сябра... ты ж не...

Блэк замахнуўся на яго нагою і Пэцігру адхістнуўся.

- На маёй мантыі і так хапае бруду, без тваіх дотыкаў,- адгыркнуўся Сірыюс.

- Рэмус!- правіскатаў Пітэр, цяпер прыніжаючыся перад прафесарам Люпіным.- Ты ж не паверыў яму... Калі б яны змянілі план, хіба, Сірыюс не сказаў бы табе?

- Не, Пітэр, калі б вырашыў, што я шпіён, не сказаў.- прамовіў Люпін,- Думаю менавіта таму, ты і не паведаміў мне, аб змене плана?- спытаўся прафесар па-над галавою Пэцігру.

- Прабач мяне, Рэмус!- сказаў Блэк.

- Няма за што, Мягкалап, стары дружа.- адказаў Люпін, падкасваючы рукавы.- І ты ў сваю чаргу прабач мне, што я лічыў шпіёнам цябе.

- Вядома ж,- прамовіў Блэк і на яго твары з’явілася прывідная усмешка, ён таксама падкасаў рукавы.- Мы заб’ем яго разам?

- Так, думаю, што так.- змрочна адказаў прафесар.

- Вы ж... вы ж не...- выдыхнуў Пэцігру, не падымаючыся ён развярнуўся да Рона.

- Рон... хіба ж я не быў тваім сябрам... тваёй любай жывёлінкай? Ты ж не дазволіш ім забіць мяне, Рон... ты ж на маім баку?

Але хлопчык паглядзеў на Пітэра з неперавершанай агідай.

- І я яшчэ дазваляў табе спаць у маім ложку!- прамовіў ён у адказ.

- Добры хлопчык... мой любасны гаспадар... – працягваючы паўзці да Рона, вішчаў Пэцігру.- Ты ж не дазволіш ім забіць мяне... я ж твой пацучок... твая жывёлінка...

- Калі пацуком ты быў лепей, чым чалавекам, гэтым ня трэба ганарыцца,- жорстка прамовіў Блэк. Бялеючы ад болю, Рон выхапіў сваю паламаную нагу з рук Пэцігру.Той развярнуўся, працягваючы стаяць на каленях, падкараскаўся да Герміёны і схапіў яе за мантыю.

- Любая дзяўчынка... разумная дзяўчынка.. ты.. ты ж не дазволіш ім... дапамажы мне...

Герміёна выцягнула прыпол сваёй мантыі з рук Пітэра і перапужана, рушыла да сцяны.

Пэцігру сеў на свае калені, яго бескантрольна калаціла, ён павярнуў галаву да Гары.

- Гары... Гары... ты так нагадваеш свайго бацьку... ты як ён...

- ЯК ТЫ МОЖАШ, ЗВЯРТАЦЦА ДА ГАРЫ?- зароў Блэк.- ЯК ТЫ МОЖАШ ГЛЯДЗЕЦЬ ЯМУ Ў ТВАР? ЯК ТЫ МОЖАШ УЗГАДВАЦЬ ПРЫ ІМ ДЖЭЙМСА?

- Гары,- шапатаў Пэцігру, шоргаючы ў яго бок з працягнутымі рукамі.- Гары, Джэймс не дазволіў бы забіць мяне... ён бы зразумеў... ён бы злітаваўся нада мной...

Блэк і Люпін падыйшлі да Пэцігру, узялі яго за плечы і адкінулі на падлогу. Ён сеў, дрыжачы ад жаху і ўтаропіўся на іх.

- Ты прадаў Лілі і Джэймса Вальдэморту,- прамовіў Блэк, якога таксама калаціла.- Ты не аспрэчваеш гэта?

Пэцігру расплакаўся. На яго жахліва было глядзець. Зараз ён нагадваў вялізарнага лысеючага малога, што скурчыўшыся ляжаў на падлозе.

- Сірыюс... Сірыюс, а што я мог зрабіць? Цёмны Лорд... ты не разумееш... ён мае такую зброю, якой ты і ўявіць не ў стане... Я перапужаўся, Сірыюс. Я ніколі ня быў гэткім адважным, як ты, Рэмус, ці Джэймс. Я не жадаў гэтага. Але Той Каго Нельга Менаваць прымусіў мяне...

- НЕ ХЛУСІ!- гыркнуў Блэк.- ТЫ ПАЧАЎ ПЕРАДАВАЦЬ ЯМУ ІНФАРМАЦЫЮ , ЯШЧЭ ЗА ГОД ДА СМЕРЦІ ЛІЛІ І ДЖЭЙМСА! ТЫ БЫЎ ЯГО ШПІЁНАМ!

- Ён... ён атрымліваў перамогу за перамогай!- задыхваючыся прамовіў Пітэр.- І... і чаго б я дасягнуў, калі адмовіўся служыць яму?

- Чаго б ты дасягнуў адмовіўшыся слыжыць, адному з самых злых чараўнікоў з тых, што існавалі на зямлі?- прамовіў Блэк з жахлівай лютасцю на твары.- Уратаваў бы нявінных людзей, Пітэр!

- Ты не разумееш,- праскуголіў Пэцігру.- Ён бы забіў мяне!

- ТЫ ПАВІНЕН БЫЎ ПАМЕРЦІ!- заравеў Блэк.- ПАМЕРЦІ, АЛЕ НЕ ЗДРАДЖВАЦЬ СЯБРОЎ, КОЖНЫ З ЯКІХ ЗРАБІЎ ГЭДАК ЖА, КАЛІ Б У НЕБЯСПЕЦЫ БЫЎ ТЫ!

Блэк і Люпін усталі разам плячом да пляча і паднялі свае палачкі.

- Ты павінен быў зразумець,- ціха прамовіў Люпін,- што калі цябе не заб'е Вальдэморт, гэта зробім мы. Бывай, Пітэр.

Герміёна закрыла твар рукамі і адвярнулася да сцяны.

- НЕ!- закрычаў Гары і падбегшы устаў між Пэцігру і выцягнутымі ў яго бок палачкамі.- Вы не павінны забіваць яго,- цяжка дыхаючы прамовіў ён.- Не павінны.

Блэк і Люпін збянтэжана паглядзелі на хлопца.

- Гары, гэты паразіта кусок з'яўляецца прычынаю твайго сіротства.- прагыркатаў Блэк.- Гэтая ліслівая брыда на ножках, не мыргнуўшы вокам, аддала б цябе на загубу. Ты чуў? Яго ўласная смярдзючая шкура была яму даражэй за тваю сям'ю.

- Я ведаю,- выдыхнуў Гары.- Мы павінны адвясці яго ў замак і передаць дэментарам. Няхай ідзе ў Азкабан... але ня трэба забіваць яго.

- Гары!- задыхаючыся прамовіў Пэцігру і кінуўся абдымаць яго калені.- Ты... дзякую табе... я не заслугоўваю падобнага... дзякуй...

- Вэк ад мяне,- выпаліў Гары, з агідай адштурхнуўшы ад сябе рукі Пітэра.- Я раблю гэта не дзеля цябе. Я раблю гэта таму, што мой бацька не пажадаў бы, каб яго лепшыя сябры сталі забойцамі... праз цябе.

Ніхто не варухнуўся і не вымавіў ані гука, акрамя Пэцігру, які захрыпеў і схапіўся за грудзі. Блэк і Люпін зірнулі адно на аднаго і адным рухам апусцілі свае палачкі.

- Ты адзіны, хто мае права тут штось вырашаць, Гары,- сказаў Блэк.- Але, я лічу... пасля таго што ён зрабіў...

- Ён павінен трапіць у Азкабан.- паўтарыў Гары.- Ён як ніхто заслугоўвае апынуцца там...

Пэцігру працягваў ціхінька хрыпець за яго спіною.

- Балазе.- прамовіў Люпін.- Гары, адыйдзі калі ласка ў бок.

Гары завагаўся.

- Я павінен звязаць яго,- сказаў прафесар.- Клянуся, толькі звязаць.

Гары ступіў у бок. З кончыка палачкі прафесара Люпіна стрэліла знаёмая тонкая стужка і праз імгненне, Пэцігру ўжо курчыўся на падлозе звязаны і з затычкаю ў роце.

- Але, калі ты паспрабуеш пераварацііцца, Пітэр,- рыкнуў Блэк, таксама накіраваўшы сваю палачку на Пэцігру,- мы заб'ем цябе. Згодзен, Гары?

Гары зірнуў на нікчэмную постаць на падлозе і кіўнуў так, каб Пэцігру мог яго бачыць.

- Добра.- нечакана прамовіў Люпін дзелавым тонам.- Рон, я не магу лекаваць косткі гэдак жа добра, як мадам Помфры, таму мяркуе будзе лепш, туга перавязаць тваю нагу, пакуль мы не даставім цябе ў шпітальнае крыло.

Ён паспяшаўся да Рона, нахіліўся і пастукаўшы па яго наге прамармытаў: «Ферула». Ронава нага ад бядра да пяткі перавязалася джгутом, як той шынаю. Прафесар дапамог яму выпрастацца. Рон асцярожна ступіў на нагу і не зморшчыўся ад болю.

- Так значна лепш,- прамовіў хлопчык.- Дзяк.

- А што рабіць з прафесарам Снэйпам?- ціхенька прамовіла Герміёна, пазіраючая зверху на яго ніцма ляжачую на падлозе постаць.

- З ім няма анічога сур'ёзнага,- паведаміў Люпін, схіліўшыся над Снэйпам і праверыўшы яго пульс.- Папросту вы крышачку перастараліся. Ён дагэтуль знепрытомлены. Хм... магчыма будзе лепей, калі мы ня будзем вяртаць яму прытомнасць пакуль не дабярэмся да школы. Мы можам даставіць яго туды і так.

- Прафесар прамармытаў: «Мобілкорпус». Да запясцяў, шыі ды каленяў Снэйпа быццам нехта прывязаў нябачныя дроты. Ён выпрастаўся, але яго галава гідка боўталася, як ў гратэскнай марыянэткі. Ён завіс у колькіх цалях па над зямлёю, яго млявыя ногі калаліся ў паветры. Люпін падняў з падлогі Мантыю-Невідзімку і надзейна запхнуў яе ў кішэню.

- Двое з нас павінны прыкаваць сябе да яго,- прамовіў Блэк, штурхнуўшы Пэцігру краем чаравіка.- дзеля большай надзейнасці.

- Я згодзен,- заявіў Люпін.

- І я,- сказаў, пракульгаўшы наперад, Рон.

Блэк выклікаў з паветра цяжкія кайданы і неўзабаве, Пэцігру зноўку стаяў на нагах. Яго левая рука, была прыкавана да правай рукі Люпіна, а правая, да левай рукі Рона. Той стаяў сціснуўшы зубы ад злосці. Сапраўднае аблічча Скаберса, ён прыняў за асабістую знявагу. Крукшанс лёгінька скокнуў з ложка і павёў усіх да выхаду з пакоя, зухавата падняўшы свой бутэлькападобны хвост.

## — РАЗДЗЕЛ XX —

### *Пацалунак дэментара*

Гары ніколі яшчэ не браў удзел у гэткім дзівосным шэсці. Крукшанс рушыў па сходах уніз, за ім разам ішлі Люпін, Пэцігру і Рон, нагадваючыя конікаў запрэжаных у тройку. Следам за імі плыў, стукаючы боўтаючымися нагамі аб кожную прыступку, прафесар Снэйп, які трымаўся ў паветры дзякуючы сваёй палачке, якая зараз знаходзілася ў руках у Блэка, што рушыў следам. Замыкалі шэсце Гары і Герміёна.

Вяртацца праз праход было вельмі цяжка. Люпіну, Пэцігру і Рону прыйшлося ісці бокам, а прафесар яшчэ і трымаў сваю палачку накіраванай на Пітэра. Гары мог бачыць, як яны нязграбна прасоўваліся уздоўж прахода. Наперадзе па ранейшаму ішоў Крукшанс. Гары рушыў адразу пасля Сірыюса, што працягваў кіраваць дрэйфаваннем Снэйпа, які ляцеў перад ім і штохвіліны стукаўся галавою аб нізкую столю. Прычым у хлопца склалася ўражанне, што Блэк і не думаў прадухіляць гэта.

- Ты ведаеш, што гэта значыць?- спытаўся Сірыюс у Гары з якім яны працягвалі павольна ісці ўздоўж прахода.- Ведаеш, што значыць арышт Пэцігру?

- Ты цяпер вольны,- адказаў хлопчык.

- Так...- згадзіўся Сірыюс,- але я пра іншае. Не ведаю ці казаў табе хто – я твой хросны.

- Так, я ведаю,- адказаў Гары.

- Ну... яшчэ твае бацькі, у тым выпадку, калі з імі штось здарыцца...- чапурыста прамовіў Блэк,- прызначылі мяне тваім апекуном.

Гары супыніўся. Ці правільна ён разумее словы Сірыюса?

- Вядома, я зразумею, калі ты пажадаеш застацца з дзядзькам і цёткай,- сказаў Блэк,- але... ну... калі мае імя будзе ачышчана... і калі ты сам пажадаеш... жыць у іншым доме...

У Гарыным падуздушшы быццам нешта выбухнула.

- Што..? Ты прапануеш жыць з табою?- спытаўся ён, выпадкова стукнуўшыся галавою аб каменчыкі, што сям-там тырчалі са столі.- І я магу не вяртацца да Дурслі?

- Ну, так. Я папросту меркаваў, што ты не захочаш,- хутка прамовіў Сірыюс.- Я усё разумею. Але калі ты не хочаш пакідаць...

- Ці ты сшалеў?- адказаў Гары крыху ахрыплым голасам.- Зразумела ж я жадаю пакінуць Дурслі! Ты маеш дом? Калі я магу пераехаць да цябе?

Сірыюс азірнуўся і паглядзеў на хлопца. Прафесар Снэйп зашкрабаў галавой па столі, але Блэка гэта не надта цікавіла.

- Ты жадаеш?- спытаўся ён.- Я цябе правільна разумею? Ты жадаеш жыць са мною?

- Так, вядома жадаю,- адказаў Гары.

Зхуднелы твар Сірыюса заззяў першай сапраўднай на Гарынай памяці усмешкай. Ён адразу ж адчуў значную розніцу, быццам бы з-пад маскі знясіленага чалавека вызірнуў нехта, на дзесяць год маладзейшы. На імгненне ён стаў падобным на мужчыну, што смяяўся на вяселлі Гарыных бацькоў.

Яны зноўку сціхлі і не размаўлялі адно з адным да самога канца прахода. Крукшанс хутка кінуўся наверх, пэўна дзеля таго каб націснуць лапай на вузлаваты сучок на камлі,

бо калі Люпін, Пэцігру і Рон падымаліся наверх не адчулася ані воднага гуку звар'яцелых галін Лупцуючай Вярбы.

Сірыюс прапусціў Снэйпа наперад, потым праз адтуліну выбраліся Гары і Герміёна. Нарэшце ўсе яны выбраліся на надворак.

Звонку панавала цемра і толькі недзе далёка свяціліся вокны хогвартскага замка. Не кажучы аніслова яны рушылі наперад. Пэцігру працягваў хрыпець і часам скуголіў. У Гарынай галаве ажно гуло. Ён нарэшце пакіне Дурслі. Ён будзе жыць разам з Сірыюсам Блэкам, лепшым сябрам яго бацькоў... ён быў ачмурэлы гэткімі абставінамі... Цікава што здарыцца з Дурслі, калі ён паведаміць ім, што збіраецца жыць разам са злачынцам, якога яны бачылі па тэлевізары?

- Адзін неасцярожны рух, Пітэр...- пагрозліва прамовіў Люпін недзе наперадзе. Яго палачка, як і раней была накіравана на грудзі Пэцігру.

Яны моўчкі ішлі ўздоўж траўніка, замкавыя вокны павольна павялічваліся. Снэйп ўсё яшчэ павольна ляцеў перад Сірыюсам, яго падбароддзе было апушчана на грудзі. Раптам...

Хмары ў небе расступіліся. На зямлі аб'явіліся цмяныя цені. Уся кампанія патанула ў месяцовым святле.

Снэйп натрапіў на Люпіна, Пэцігру і Рона, якія нечакана супыніліся. Сірыюс знерухомеў. Ён ускінуў руку, каб супыніць Гары і Герміёну.

Хлопчык убачыў постаць Люпіна. Той аслупянеў. Раптам, яго рукі і ногі затрэсла.

- А божачкі...- войкнула Герміёна.- Ён не прыняў свае зелле ўвечары. Ён не бяспечны!

- Цікайце!- прашапатаў Сірыюс.- Зараз жа, цікайце!

Але Гары ня мог уцячы. Рон быў прыкаваны да Пэцігру і Люпіна. Хлопчык скочыў наперад, але Сірыюс абхапіў яго і кінуў назад.

- Пакінь яго мне... БЯЖЫ!

Адчуўся жахлівы роў. Твар і цела прафесара Люпіна выцягнуліся. Яго плечы падаліся наперад. На целе і руках, якія ператварыліся ў кіпцюрыстыя лапы, вырасла поўсць. Поўсць на спіне ў Крукшанса ўздыбіўся і ён адскочыў убок...

Ваўкалак падняў сваю галаву і ляскнуў доўгімі сківіцамі, Сірыюс, што стаяў ля Гары – знік. Ён таксама пераварацiўся. Наперад скокнуў вялізны медзведзепадобны сабака. Калі ваўкалак рыўком асвабадзіўся ад кайданоў, сабака схапіў яго за шыю і пацягнуў кудысь убок ад Рона і Пэцігру. Яны счапіліся сківіцы да сківіц і пачалі драпаць адно аднаго кіпцюрамі...

Гары стаяў аслупянеўшы, надта зацікаўлены бойкай, каб заўважаць штось ячшэ. Крык Герміёны вярнуў яго да рэчаіснасці...

Пэцігру кінуўся да пакінутай на зямлі палачке Люпіна. Рон пахіснуўся на сваёй забінтаванай наге і паваліўся на зямлю. Раздаўся выбух і выбліск святла... Рон знерухомлена ляжаў на зямлі. Яшчэ выбух... Крукшанс узляцеў у паветра і зноўку грымнуўся на зямлю.

- Экспеліярмус!- прагаласіў Гары, накіраваўшы сваю палачку на Пэцігру, палачка прафесара Люпіна ўзляцела ў паветра і знікла з вачэй.- Заставайся на месцы!- крыкнуў Гары і кінуўся наперад.

Але было запозна. Пэцігру паспеў пераварацiцца. Гары ўбачыў як яго лысы хвост бліснуў у коле кайдана, які быў прычэплены да Ронавай рукі і пачуў мітусню ў траве.

Адчуўся вой і гыркатанне, Гары павярнуўшыся і ўбачыў, як ваўкалак уцякаў у бок Забароненага Леса...

- Сірыюс, ён збег, Пэцігру пераварацiўся!- залямантаваў Гары.

Сірыюс сцякаў крывёю, яго пыса і спіна былі пакрыты ранамі, але пачуўшы Гарыны словы ён усхамянуўся і праз імгненне знік, чуўся толькі ўсё сціхаючы гук яго лап па траўніку.

Гары з Герміёнаю кінуліся да Рона.

- Што ён зрабіў з ім?- прашапатала Герміёна. Рон ляжаў напаўзаплюшчыўшы вочы і крыху адчыніўшы рот. Ён бясспрэчна быў жывы, бо сябры маглі чуць яго дыханне, але ж ён здавалася не рэагуе на іх.

- Ня ведаю.

Гары азірнуўся. Блэк і Люпін зніклі... вакол не было анікога, акрамя Снэйпа, што дагэтуль знепрытомлены вісеў у паветры.

- Нам лепш адвезці іх у замак і сказаць каму-небудзь аб тым што здарылася,- Гары адштурхнуў валоссе з вачэй і паспрабаваў разважаць лагічна.- Хадзема...

Нечакана сярод цемры завыў і заскуголіў ад болю сабака...

- Сірыюс,- прамармытаў Гары, утаропіўшыся ў цемру.

Імгненне - другое Гары вагаўся, але Рону зараз яны анічым не маглі дапамагчы, а сабачае скуголенне, казала аб тым, што з Блэк трапіў у бяду...

Гары пабег, Герміёна рушыла следам. Вой здавалася ачуваўся дзесь паблізу ад возера. Яны кінуліся туды. Гары бег з шалёнай хуткасцю, не разумеючы, чаму яго пранізае холад...

Вой супыніўся. Гары і Герміёна выбеглі на бераг і ўбачылі... Сірыюс зноў пераварацiўся на чалавека. Ён стаяў на карачках, апусціўшы галаву паміж рук.

- НЕ,- стагнаў ён,- КАЛІ ЛАСКА... НЯ ТРЭБА...

І тут Гары ўбачыў іх. Дэментары, не менш за сотню, слізгалі да іх адзінай чорнай масай. Хлопчык азірнуўся навокал. Яго вантробы пранізала ільдзяным холадам, вочы пачала засцілаць смуга, а яны ўсё набліжаліся і набліжаліся з цемры, абкружаючы іх...

- Герміёна, думай аб чымсці сапраўды шчаслівым!- загаласіў Гары, падымаючы палачку. Ён жахліва замыргаў, каб ачысціць свой зрок і захістаў галавою, каб пазбавіцца ад слабых крыкаў, што гучалі ў яго розуме...

«Я адпраўляюся жыць да свайго хроснага. Я пакідаю Дурслі.»

Гары прымусіў сябе думаць аб Сірыюсе і толькі аб ім, а потым манатонна запеў:

- Экспекта патронум! Экспекта патронум!

Блэк ўздрыгануўся, паваліўся на спіну і ляжаў нерухома, смяротна бледны.

«З ім усё будзе добра. З яго здымуць абвінавачанні і я буду жыць разам з ім.»

- Экспекта патронум! Герміёна, дапамажы мне! Экспекта патронум!

- Экспекта...- зашапатала Герміёна,- экспекта... экспекта...

Але яна не магла вымавіць замову. Дэментары наблізіліся і зараз былі не больш чым у дзесяці футах ад іх. Яны стварылі вакол Гары і Герміёны суцэльную сцяну і працягвалі набліжацца...

- ЭКСПЕКТА ПАТРОНУМ!- залямантаваў Гары, спрабуючы перакрычаць енкі, што луналі ў яго вушах.- ЭКСПЕКТА ПАТРОНУМ!

Танюткі струменчык срэбра выляцеў з яго палачкі і бы туман завіс перад ім. У гэты ж момант, Гары адчуў, як Герміёна знепрытомеўшы, павалілася на зямлю. Ён застаўся адзін... зусім адзін...

- Экспекта... экспекта патронум...

Гары адчуў, як яго калені стукнуліся аб халодны траўнік. Вочы пазасцілала смуга. Ён прыкладаў вялізарныя высілкі, каб змагацца, каб памятаць... Сірыюс не вінаваты... не вінаваты...

«... з намі ўсё будзе добра... мы будзем жыць разам...»

- Экспекта патронум!- выдыхнуў ён.

У слабым святле свайго патронуса, хлопчык ўбачыў, як паблізу ад яго супыніўся адзін з дэментраў. Ён не мог прайсці праз воблака срэбнага туману начараванага Гары. З-пад плашча высунулуся мёртвая склізкая рука і зрабіла жэст, бы спарабуючы адштурхнуць патронус у бок.

- Не...- задыхаючыся вымавіў Гары,- не... Ён не вінаваты... экспекта... экспекта патронум...

Хлопчык адчуў, як дэментары сочаць за ім, чуў іх бразгочушчае дыханне, якое злосным ветрам лунала вакол яго. Бліжэйшы ад Гары дэментар здавалася разглядае яго. Потым істота падняла свае гнілыя рукі да твару і... зняла свой каптур.

Там дзе павінны былі быць вочы, Гары ўбачыў толькі пустыя вачніцы пакрытыя тонкай, шэрай, шалудзівай скурай. Але дэментар меў рот... шырока раскрытую дзіру, якая з перадсмяротным хрыпам ўсмоктвала ў сябе паветра.

Гары паралізавала жахам і ён не мог ані рушыць, ані гаварыць. Яго патронус замігцеў і знік.

Белая смуга асляпіла яго. Ён працягваў змагацца... экспекта патронум... Хлопчык анічога ня бачыў... ён адчуў у далечыні знаёмыя енкі... экспекта патронум... сярод смугі Гары намацаў ляжачага на траўніку Сірыюса і схапіў за руку... дэментары не атрымаюць яго...

І тут пара моцных, халодных рук схапіла Гары за шыю. Яго пераварочвалі дагары тварам... Гары адчуваў дыханне дэментара... ён будзе першым у чарзе... Хлопчык адчуў гніласнае дыханне... у яго вушах енчыла маці... гэты крык будзе апошнім, што ён калі-небудзь пачуе...

Потым праз смугу ў якой ён тануў, Гары быццам заўважыў срабрыстае святло, яно станавілася ярчэй і ярчэй... хлопец адчуў, як падае на траву...

Гары ляжаў тварам уніз, ён быў занадта слабы, каб варухнуцца, яго калаціла і нудзіла. Гары расплюшчыў вочы. Вакол яго трава ззяла ад асляпляльнага святла... енкі прыпыніліся, а холад адступіў...

Хтось адганяў дэментараў... кружляючы вакол яго, Сірыюса і Герміёны... Бразгочушчае смактанне аддалялася. Дэментары сыходзілі... вакол зноўку стала цёпла.

Сабраўшы апошнія кроплі сілы, Гары на колькі цаляў падняў твар і ўбачыў жывёлу аточаную святлом, якая скочыла праз возера прэчкі ад іх. Яго вочы засціў пот і ён бачыў усё вельмі размытым. Хлопчык паспрабаваў зразумець, што гэта была за істота... яна была бліскучай нібы аднарог. Змагаючыся сам з сабой, каб зноў не згубіць прытомнасць, Гары ўбачыў, як істота прыпыніла сваё галапаванне дасягнуўшы другога берага. Імгненне, Гары

бачыў, як жывёла асвятліла кагосьці, хто вітаў яе вяртанне... ён падняў руку каб прылашчыць яе... ён выглядаў дзівосна знаёмым... але гэта немагчыма...

Гары нічага не разумеў. Ён быў не ў стане аб нечым думаць. Хлопчык адчую, як апошнія сілы пакінулі яго. Галава стукнулася аб зямлю і ён страціў прытомнасць.

## — РАЗДЗЕЛ XXI —

## *Сакрэт Герміёны*

- Жахлівыя справы... я ў абурэнні... гэта цуд, што аніхто не памёр... спрадвеку падобнага не здаралася, гэта як... гром сярод яснага неба, якое шчасце, Снэйп, што вы былі там...

- Дзякую, міністр.

- Ордэн Мэрліна другой ступені, думаю так. А калі прыкласці напаганні і першай!

- Я сапраўды вам, шчыра дзякую, міністр.

- Ваша гідкая рана... мяркую, гэта справа Блэка?

- На самой справе, гэта былі Потэр, Візлі і Грэйнджэр, міністр...

- Не!

- Блэк зачараваў іх, я адразу ж гэта заўважыў. Калі меркаваць па іх паводзінах, гэта была Падманная Замова «Канфундус». Здаецца ён прымусіў іх лічыць, што можа быць невінаватым. Яны не адказвалі за свае паводзіны. З іншага боку, з-за іх умяшальніцва, у Блэка была добрая магчымасць збегчы... здаецца яны папросту вырашылі злавіць Блэка самастойна. Дагэтуль ім шмат што сходзіла з рук... баюся, гэта стала прычынай іх празмерна высокіх думак аб сабе... асабліва ў Потэра, якому дырэктар даў завялікую волю...

- А, ну так, Снэйп... Гары Потэр, вы ж ведаеце... мы заўжды заплюшчваем вочы на тое, што яго датычыцца.

- Але... ці заслугоўвае ён, гэткага спецыяльнага стаўлёння да яго асобы? Напрыклад я адношуся да яго, як да любога іншага вучня. Любы навучынец быў бы неадкладна выгнаны са школы... як мінімум за тое... што паставіў пад гэткую небяспеку сваіх сяброў. Глядзіце, міністр: ён дзейнічаў супраць ўсіх школьных правіл... і гэта ўлічваючы тое, што меры засцярогі былі прыняты, менавіта дзеля яго бяспекі, а ён... быў ноччу, па-за межамі школы, ды яшчэй і размаўляў пры гэтым з ваўкалакам і забойцам... Больш таго, у мяне ёсць падставы меркаваць, што ён, акрамя ўсяго, незаконна наведваў Хогсмід...

- Ну, ну... пагледзем, Снэйп, пагледзем... хлапчук хутчэй за ўсё, папросту зглупіў...

Гары ляжаў шчыльна заплюшчыўшы вочы і прыслухоўваючыся. Ён адчуваў найвялізную слабасць. Словы што ён чуў здавалася вельмі павольна ішлі ад вушэй да яго мозгу, таму зразумець што-небудзь было вельмі цяжка. Ён адчуваў сябе так, быццам яго рукі і ногі наліліся свінцом, а павекі былі настолькі цяжкімі, што было немагчыма расплюшчыць вочы... Гары жадаў толькі аднога, ляжаць ў гэтым далікатным ложку, заўжды...

- Што мяне здзівіла больш за ўсё, дык гэта паводзіны дэментараў... Снэйп, вы сапраўды ня ведаеце, хто адагнаў іх?

- Ані, міністр. Калі я апрытомеў, яны ўжо разыходзіліся на свае месцы, ля ўваходаў...

- Неверагодна. Я разумею – Блэка, а Гары, а дзяўчынку...

- Калі я дабег да іх, яны ўжо былі знепрытомленымі. Я першым чынам звязаў Блэка, а потым выклікаў насілкі і даставіў іх усіх у замак.

Яны сціхлі. У гэты момант Гарын мозг, здавалася пачаў працаваць крыху хутчэй і ў яго засмактала ў жываце з голаду...

Ён расплюшчыў вочы.

Навокал усё было злёгку размытым. Нехта зняў з яго акуляры. Хлопчык ляжаў у цёмным шпітальным крыле. У іншым кутку палаты, Гары заўважыў мадам Помфрэ, што стаяла спіной да яго, схіліўшыся над нечым ложкам. Гары прыжмурыўся. З-за рукой лекаркі, ён заўважыў рудыя валасы Рона.

Гары павярнуў галаву ў іншы бок. Праваруч яго ў ложку, асветленная месячным святлом ляжала Герміёна. Яе вочы таксама былі расплюшчаны. Герміёна ляжала, не

варухнуўшыся, бы скамянелая, але заўважыўшы, што Гары таксама ня спіць, прыціснула палец да вуснаў, а потым паказала на дзверы, што выходзілі ў калідор. Яны былі крыху прыадчынены і аддтуль былі чутны галасы Карнэліюса Фаджа і Снэйпа.

Мадам Помфры рушыла па палаце да Гарынага ложка. Ён павярнуў галаву і паглядзеў на яе. Лекарка несла яму самую агромістую плітку шакаладу, якую ён бачыў у сваім жыцці. Яна больш нагадвала невялічкі валун.

- О, ты прачнуўся!- жыва прамовіла яна і пачала невялічкім малаточкам разбіваць плітку на асобныя кавалкі.

- Як там Рон?- адначасова спыталіся Гары і Герміёна.

- Жыць будзе,- змрочна адказала лекарка.- А што датычыцца вас двух, вы застанецесь тут пакуль я не буду задаволена вашым станам... Потэр, ты куды сабраўся?

Гары сеў у ложку, апрануў акуляры і ўзяў у рукі палачку.

- Мне трэба пабачыцца з дырэктарам,- адказаў ён.

- Потэр,- супакойваючы яго, прамовіла мадам Помфры,- усё файна. Блэка схапілі. Ён зараз замкнёны ў адным з верхніх пакоеў. З хвіліну на хвіліну аб’явяцца дэментары, каб выканаць Пацалунак...

- ШТО?!

Гары, а следам за ім Герміёна скочылі з ложкаў. Але крык хлопца быў пачуты ў калідоры і ў наступнае імгненне ў палату ўварваліся Карнэліюс Фадж і прафесар Снэйп.

- Гары, Гары, што здарылася?- усклікнуў заклапочаны Фадж.- Ты павінен быць у ложку... вы далі яму шакаладу?- трывожліва спытаўся ён у мадам Помфры.

- Слухайце, міністр!- прамовіў Гары,- Сірыюс Блэк не вінаваты! Пітэр Пэцігру інсцэніяваў уласную смерць! Мы яго сёння бачылі! Вы не павінны дазваляць, каб Дэментары, выканалі над Сірыюсам...

Але Фадж толькі пакруціў галавой з лёгкай усмешкай на твары.

- Гары, Гары, у тваім розуме ўсё пераблыталася, ты перажыў моцныя выпрабаванні, так што зноўку кладзіся ў ложык. Зараз у нас усё пад кантролем...

- ВЫ НЕ РАЗУМЕЕЦЕ!- пралямантаваў Гары,- ВЫ СХАПІЛІ АНІТАГО ЧАЛАВЕКА!

- Калі ласка, міністр, паслухайце,- Герміёна паспяшалася ўстаць паблізу Гары і ўмольваючы, паглядзела Фаджу ў твар,- я таксама яго бачыла. Пэцігру, ён анімаг, ён прыкідваўся Ронавым пацуком і...

- Бачыце, міністр?- прамовіў Снэйп.- Абодва пад ўздзеяннем Канфундуса... Блэк добра папрацаваў з імі...

- НЯМА НАД НАМІ ЎЗДЗЕЯННЯ АНІЯКАГА КАНФУНДУСА!- зароў Гары.

- Міністр! Прафесар!- сувора сказала мадам Помфры.- Я раю вам неадкладна пакінуць палату. Потэр – мой пацент і ён не павінен хваляваццa!

- Я не занепакоены, я толькі спрабую сказаць ім, што насамрэч здарылася!- разлютавана прамовіў Гары.- Калі б яны выслухалі...

Але мадам Помфры нечакана запхнула ў Гарын рот вялізны кавалак шакаладу. Хлопец затыкнуўся і лекарка скарыстаўшыся магчымасцю паклала яго ў ложак.

- Калі ласка, міністр, гэтым дзецям патрэбен супакой. Пакінце...

Дзверы зноўку адчыніліся і ўвайшоў Дамблдор. З вялізным намаганнем, Гары праглынуў шакалад і зноўку падняўся на ногі.

- Прафесар, Дамблдор, Сірыюс Блэк...

- Дзеля ўсяго святога!- гістэрычна ўсклікнула мадам Помфры.- Гэта шпітальнае крыло, ці што? Дырэктар, я настойваю...

- Мае прабачэнні, Попі, але мне неабходна пагаманіць з містэрам Потэрам і міс Грэйнджэр,- спакойна прамовіў Дамблдор.- Я толькі што бачыўся з Сірыюсам Блэкам...

- Мяркую, ён распавёў вам тую ж казку, якую ўклаў у свядомасць Потэру?- з лютасцю прамовіў Снэйп.- Нешта аб пацуках і жывым Пэцігру...

- Так, менавіта гэта ён мне і распавёў,- адказаў Дамблдор і зірнуў на Снэйпа праз свае акуляры ў форме дзвюх паўмесацаў.

- А мае словы што, ня маюць аніякага сэнсу?- гыркнуў Снэйп.- Я ня бачыў у Лямантуючай Халупе аніякага Пітэра Пэцігру і нават якіхсьці прыкмет яго існавання.

- Таму, што вы ў той момант ужо былі без прытомнасці, прафесар!- шчыра прызналася Герміёна.- Вы аб’явіліся зарана і не ўбачылі...

- Міс Грэйнджэр, ЗАШЫЙЦЕ СВОЙ ЯЗЫК!

- Чакайце, Снэйп,- перапужана прамовіў Фадж,- У юнай ледзі пераблытанасць у розуме, нам трэба ўлічваць гэта...

- Я хацеў бы пагаманіць з Гары і Герміёнай сам-насам,- рэзка сказаў Дамблдор,- Карнэліюс, Северус, Попі... ці вы не маглі пакінуць нас.

- Дырэктар!- прабалбатала мадам Помфры.- Ім неабходна лекаванне! Ім неабходна адпачыць...

- Гэта не можа чакаць,- мовіў Дамблдор.- Я настойваю.

Мадам Помфры сціснула вусны і адыйшла ў свой кабінет напрыканцы палаты, моцна ляпнуўшы пры гэтым дзвярмі. Фадж выцягнуў з камізэлькі залаты гадзіннік на ланцужку і паглядзеў на яго.

- Дэментары ўжо павінны былі аб’явіцца, пайду стрэну іх. Дамблдор, спадзяюся пабачыць вас наверсе.

Ён падыйшоў да дзвярэй і трымаў іх адчыненымі дзеля Снэйпа, але той не варушыўся.

- Вы, спадзяюся, не паверылі аніводнаму слову з гісторыі Блэка?- прашапатаў ён, гледзячы ў твар Дамблдору.

- Я жадаю паразмаўляць з Гары і Герміёнаю, сам-насам,- паўтарыў Дамблдор.

Снэйп наблізіўся да дырэктара.

- Сірыюс Блэк паказаў свае здольнасці да забойства, яшчэ ў шаснаццаць,- задыхнуўся Снэйп,- ці не забыліся вы пра гэта, дырэктар? Не забыліся, што аднойчы ён паспрабаваў МЯНЕ забіць?

- Мая памяць, гэткая ж добрая, як і ў маладосці,- спакойна адказаў Дамблдор.

Снэйп развярнуўся на абцасах і рушыў праз дзверы, якія Фадж усё яшчэ трымаў расчыненымі. Дзверы зачыніліся і Дамблдор павярнуўся да Гары і Герміёны. Яны адначасова загаманілі.

- Прафесар, Блэк кажа праўду... мы самі бачылі Пэцігру...

- ... ён збег, калі прафесар Люпін ператварацыўся на ваўкалака...

- ... ён сам ператварочваецца на пацука...

- ... на яго пярэдняй лапе, ой, у сэнсе руке не хапае пальца, ён сам яго адрэзаў...

- ... і гэта Пэцігру напаў на Рона, а не Сірыюс...

Але Дамблдор падняў руку, каб спыніць іх славапад.

- Цяперча ваша чарга слухаць і прашу не перапыняць мяне, бо ў нас замала часу,- спакойна прамовіў ён.- Акрамя вашых слоў не існуе іншых доказаў у падтрымку гісторыі Блэка... тым больш, што словы двух трынаццацігадовых чараўнікоў анізашмат каго пераканаюць. Поўная вуліца сведкаў клялася, што на ўласныя вочы бачыла, як Сірыюс забівае Пэцігру. Я сам у свой час даваў у Міністэрстве паказанні наконт таго, што Блэк быў Сакрэтным Ахоўцам Потэраў.

- Яе можа падцвердзіць прафесар Люпін...- сказаў Гары, не ў сілах стрымліваць сябе.

- Прафесар Люпін зараз недзе глыбока ў Забароненым Лесе і не ў сілах штось паведаміць. А калі ён зноў ператварацiцца на чалавека будзе ўжо запозна і Сірыюс будзе горш чым мёртвы. Да таго дадам, што сярод чараўнікоў ваўкалакі маюць настолькі моцны недавер, што яго доказы будуць мець мізэрны ўплыў... да таго ж яны з Сірыюсам старыя сябрукі...

- Але...

- ПАСЛУХАЙ МЯНЕ, ГАРЫ. Зразумей мяне, ужо занадта позна. І ты сам бачыш, што версія падзей ад прафесара Снэйпа значна пераканаўчая за тваю.

- Ён жа ненавідзіць Сірыюса,- у адчаі прамовіла Герміёна.- І ўсё з-за таго дурнога жарта, што Сірыюс калісь сатварыў з ім...

- Сірыюс таксама вёў сабе ані як невіноўны чалавек. Ён напаў на Тлустую Пані... пранік ў Грыфіндорскую Вежу з нажом... без Пэцігру, жывога ці памерлага ў нас няма шанцу аспрэчыць прысуд Сірыюса.

- Але вы верыце нам.

- Так, я веру,- спакойна працягваў Дамблдор,- але я ня маю ўлады, каб паказаць астатнім праўду ці аспрэчыць загад Міністра па магічных справах...

Гары паглядзеў на гэты суворы твар і адчуў, як быццам зямля плыве з-пад яго ног. Ён абвыкся да думкі, што Дамблдор у стане вырашыць усё. Ён чакаў, што Дамблдор прама з паветра выне якоесь рашэнне. Але не... іх апошняя надзея згублена.

- Што нам зараз патрэбна больш за ўсё,- павольна сказаў Дамблдор і яго блакітныя вочы перамясціліся з Гары на Герміёны,- крыху больш ЧАСУ.

- Але...- пачала Герміёна. І тут яе вочы моцна пашырыліся.- АЕЙ!

- А зараз, слухайце уважліва,- прамовіў Дамблдор вельмі ціха, але вельмі выразна.- Сірыюс зачынены на восмым паверсе ў кабінэце прафесара Флітвіка. Гэта трынаццатае вакно зправа ад Заходняй Вежы. Калі ўсё атрымаецца вы зможаце ўратаваць не адно

нявіннае жыццё. Але абодва памятайце: «Вас аніхто не павінен бачыць.» Міс Грэнджэр, вы ведаеце закон і... ведаеце пра што ідзе гаворка... Вас... аніхто... не... павінен... бачыць.

Гары не мог зразумець, што тут адбываецца. Дамблдор павярнуўся на абсцасах, падыйшоў да дзвярэй і павярнуўся.

- Я збіраюся зачыніць дзверы пакою. Зараз,- ён зірнуў на гадзіннік,- пяць хвілінаў да апоўначы. Міс Грэнджэр, думаю трох круткоў павінна хапіць. Поспехаў.

- Поспехаў?- прамармытаў яго словы Гары, калі дзверы за Дамблдорам зачыніліся.- Трох круткоў? Аб чым ён казаў? Што мы павінны зрабіць?

Тым часам Герміёна штось нязграбна імкнулася намацаць за каўнерам сваёй мантыі. Нарэшце адтуль паказалася вельмі танюткі і неверагодна доўгі залаты ланцужок.

- Гары, ходзь сюды,- шпарка прамовіла яна,- Хуценька, хуценька!

Гары ў моцным здзіўленні кінуўся да яе. Герміёна цяпер трымала ланцужок у руках, а на яго канцы матляўся маленечкі, зіхатлівы пясочны гадзіннік.

- Ну..?

Яна накінула ланцужок і на яго шыю.

- Гатовы?- прашапатала яна.

- Што мы збіраемся рабіць?- спытаўся, неверагодна разгублены Гары.

Герміёна тры разы крутанула пясочны гадзіннік.

Цёмная палата растварылася. У Гары ўзнікла адчуванне, што ён вельмі шпыдка ляціць кудысь спіною наперад. Міма яго нясліся размытыя фарбы і абрысы, а ў вушах шалёна грукатала. Ён паспрабаваў закрычаць, але не пачуў ўласнага голасу...

Нарэшце ён адчуў пад нагамі цвёрдую глебу і ў яго атрымалася сфакусіяваць зрок...

Яны стаялі ў апусцелым Вестыбюле, мазаічная падлога якога асвятлялася залатымі праменчыкамі сонца, што ўрываліся туды праз адчыненыя дзверы галоўнага ўвахода. Ён ашалела павярнуў галаву да Герміёны і ланцужок разануў яго па шыі.

- Герміёна, што..?

- Сюды!- Герміёна схапіла Гары за руку і пацягнула праз увесь Вестыбюль да каморы дзе трымаліся разнастайныя прылады дзеля прыбірання. Яна расхінула дзверы каморы, штурхнула Гары кудысь сярод вёдзер і швабр, забралася туды сама і зачыніла дзверы.

- Што... як... Герміёна, што тут дзеецца?

- Мы перамясціліся ў часе,- прашапатала Герміёна, у цямрэчы здымаючы ланцужок з Гарынай шыі,- на тры гадзіны таму...

Гары намацаў сваю нагу і моцна шчыпануў сябе. Пякучы боль ўпэўніў яго ў тым што ён не знаходзіца ў нейкім неверагодным сне.

- Але...

- Шшш! Слухай! Хтось ідзе! Гэта напэўна... гэта напэўна мы!

Герміёна прыціснула вуха да дзвярэй.

- Крокі прайшлі праз Вестыбюль... так, думаю гэта мы, ідзем да Хагрыда!

- Ты зараз сцвярджаеш,- прашапатаў Гары,- што мы знаходзімся адначасова і тут і там?

- Так, адказала Герміёна, па ранейшаму прыціскаючы вуха да дзвярэй.- Упэўнена ў тым, што гэта менавіта мы... чутна не больш за тры пары ног... і крокі даволі павольныя, бо мы ідзем пад Мантыяй-Невідзімкай...

Яна сціхла, працягваючы ўважліва прыслухоўвацца да таго, што дзеецца звонку.

- Мы крочым уніз па сходах...

Дзяўчынка прысела на перагорнутае вядро, гледзячы надзвычай занепакоенна. Гары патрабаваў адказу на колькі пытанняў.

- Дзе ты набыла гэты пясочны гадзіннік?

- Гэта не песочны гадзіннік, гэта часакрут,- Прашапатала Герміёна,- мне дала яго на пачатку года прафесарка МакГонагал. Я карысталася ім на працягу ўсяго году, каб паспяваць на ўсе свае заняткі. Прафесарка прымусіла мяне паклясца, што я анікому пра гэта не распавяду. Каб я магла ім карыстацца ёй прыйшлося пісаць купу разнастайных лістоў у Міністэрства Магіі. Ёй трэба было даказаць Міністэрству, што я ўзорны вучань і ніколі не скарыстаюся ім анідзеля чаго акрамя вучобы... Я перакручвала яго на гадзіну таму і такім чынам паспявала наведваць колькі заняткаў адначасова, вось. Але...

- Гары, я не разумею, што ад нас жадае Дамблдор? Чаму ён сказаў нам вярнуцца на тры гадзіны? Якім чынам гэта дапаможа Сірыюсу?

Гары ўтаропіўся ў яе змрочны тварык.

- Пэўна ён жадае ўнесці сякія-такія змены ў тое, што адбываецца зараз,- павольна адказаў ён.- А што зараз адбываецца? Тры гадзіны таму, мы пайшлі да Хагрыда...

- Так,- прамовіла Герміёна. Тры гадзіны таму, то бок зараз, мы пайшлі да Хагрыда. І мы толькі што самі гэта чулі...

Гары надзьмуўся, здавалася ён адчуваў, як сціснуўся ад сканцэнтраванасці яго мозг.

- Дамблдор сказаў нам... сказаў, што мы можам ўратаваць не адно нявіннае жыццё...- і тут ён здагадаўся.- Герміёна, мы збіраемся ратаваць Бакбіка!

- Так, але... як гэта можа дапамагчы Сірыюсу?

- Дамблдор расказаў нам... ён расказаў дзе знаходзяцца вокны кабінэта прафесара Флітвіка! Сірыюс замкнёны там! Мы паляцім і ўратуем Сірыюса! Сірыюс сядзе на Бакбіка і... яны ўцякуць разам!

Гары не мог добра бачыць твар Герміёны, але і так разумеў, што яна перапужана.

- Калі ў нас атрымаецца зрабіць усё так, каб нас ніхто не ўбачыў гэта будзе цудам!

- Але мы ўсёроўна павінны паспрабаваць, ці не так?- прамовіў Гары, выпрастоўваючыся і прыціскаючы вуха да дзвярэй.

- Здаецца, там нікога няма... давай, хадзем...

Гары штурхнуў дзверы. Звонку анікога не было. Ціха і хутка, як толькі маглі, яны выбраліся з каморы, прайшлі праз Вестыбюль і спусціліся ўніз па каменных прыступках. Цені ўжо пачыналі падоўжывацца, а вяршыні дрэў Забароненнага леса ўсё больш і больш заласціліся праменнем заходзячага сонца.

- А калі хтось паглядзіць у вакно?- піскнула Герміёна адзіраючыся на замак за спіною.

- Мы зробім так, каб нас ніхто не заўважыў.- рашуча прамовіў Гары.- Трэба адразу бегчы да Забароненага леса. А там схавацца за дрэвамі і сачыць за тым што дзееца з-за іх...

- Добра! Але пойдзем вакол цяпліц!- ледзь дыхаючы сказала Герміёна.- Нам трэба добра бачыць дзверы Хагрыда, але так, каб мы самі нас не пабачылі! Мы пэўна ўжо дабраліся да хаціны!

Моўчкі абдумаўшы тое, што сказала яму Герміёна, Гары кінуўся з места, а дзяўчынка пабегла следам за ім. Яны ашалела прамінулі градкі з гароднінай, за імі цяпліцы, потым

супыніліся на хвілінку і зноўку прыпусцілі хутка, як толькі маглі. Агінулі пасаджаную на ўскрайку Забароненага леса Лупцуючую Вярбу...

Схаваўшыся ў ценю дрэў Гары азірнуўся навокал, праз імгненне да яго даплучылася цяжка дыхаючая Герміёна.

- Добра,- выдыхнула яна,- Цяпер трэба дабрацца да хаціны. Не трапь анікому на вочы...

Яны моўчкі прабеглі між дрэў, трымаючыся узлесся. Калі яны ўбачылі хаціну Хагрыда ў яе дзверы пастукалі. Гары і Герміёна хутка схаваліся за шырокім дубам і асцярожна вызірнулі з абодвух яго бакоў. Дзверы адчыніліся і на парозе аб'явіўся Хагрыд, бледны і калоцячыйся. Ён азірнуўся навокал і тут Гары пачуў уласны голас.

- Гэта мы. Мы пад Мантыяй-Невідзімкай. Пусці нас і мы яе здымем.

- Вы не 'вінны былі прыходзіць!- прашапатаў Хагрыд у адказ. Потым адыйшоў у бок і хутка зачыніў дзверы.

- Гэта самы дзівосны ўчынак, які мы калісь рабілі,- палка прамовіў Гары.

- Давай пакрысе рухацца,- прашапатала Герміёна.- Нам трэба падыйсці як мага бліжэй да Бакбіка!

Яны крадком рушылі міма дрэваў, пакуль не заўважылі знэрвыванага гіпагрыфа, што быў прывязаны да плота ля гарбузовых градак Хагрыда.

- Давай,- прашапатаў Гары.

- Не,- адказала Герміёна.- Калі мы вызвалім яго зараз, людзі з камітэта вырашаць, што Хагрыд адпусціў яго! Мы павінны дачакацца, калі яны прыйдуць і ўбачаць яго!

- Але тады нам застанецца не больш за шэсцьдзесят секунд,- адказаў Гары, падобнае, здавалася яму, амаль што немагчымым.

У гэты момант з хаціны адчуўся гук разбіваючагася парцаляну.

- Хагрыд выпусціў з рук малочнік,- прашапатала Герміёна,- зараз я знайду Скаберса...

Вядома, праз колькі хвілін яны пачулі здзіўлены віск Герміёны.

- Герміёна,- раптоўна спытаўся Гары,- а што калі мы зараз уварвемся туды і скрадзем Пэцігру..?

- Ані,- зжахалася Герміёна.- ты што не разумееш? Гэта будзе парушэннем аднаго з важлівых чарадзейскіх законаў! Лічыцца, што ніхто не мае права змяняць час, ніхто! І ці ты памятаеш, што сказаў Дамблдор, калі нас убачаць...

- Хто, акрамя нас саміх і Хагрыда нас можа ўбачыць!

- Гары, а што б ты падумаў, калі пабачыў сябе самога, урываючагася ў Хагрыдаву хату?- спыталася дзяўчынка.

- Я... я вырашыў бы, што з'ехаў з глузду.- адказаў ён.- Ці, што тварыцца штосьці звязанае з чорнай магіяй...

- Вядома ж! Ты нічога не зразумееш і мачыма паспрабуеш атакаваць сябе самога! Хіба ж гэта не відавочна? Прафесарка МакГонагал распавядала мне аб шмат якіх жахлівых выпадках, калі чараўнікі пыталіся ўмяшацца ў час... шмат хто з іх, нават забіў сябе самога ў будучым, ці мінулым...

- Добра!- адказаў Гары.- Гэта была толькі задума, я палічыў што...

Ён не паспеў скончыць, бо Герміёна штурхнула яго, паказаўшы на дзверы замка. Гары на колькі цаляў высунуў галаву з-за дрэва, каб лепей бачыць тое, што дзееца ля Галоўнага

увахода. Па каменных прыступках спускаліся Дамблдор, Фадж, стары камітэтчык і кат Макнэйр.

- Зараз мы выйдзем надворак!- ледзь чутна прамовіла Герміёна.

І сапраўды, не мінула і хвіліны, як дзверы ў сад расчыніліся і адтуль у суправаджэнні Хагрыда выйшлі сам Гары, Рон і Герміёна. Без сумневу, найдзіўнейшага адчування Гары не меў аніколі ў жыцці. Ён стаяў схаваўшыся за дрэвам і назіраў сябе самога сярод гарбузовых градак.

- ‘сё добра, Бікі, ‘сё добра...- супакоіў гіпагрыфа Хагрыд, а потым развярнуўся да Гары, Рона і Герміёны.- Усё. Вам трэб ‘сці.

- Хагрыд, мы не...

- Мы раскажам ім, што адбылося на самой справе...

- Яны не заб’юць яго...

- С’ходзце! Не хапала шчэ, каб і вы трапілі з-з’ мяне ў бяду!

Пасля чаго, Герміёна выцягнула з кішэні Мантыю і, устаўшы сярод гарбузовых градак, накінула яе на сябе, Гары і Рона.

- Хут’ с’ходзьце. Ня слуха’це...

У ўваходныя дзверы хаціны пастукалі. Гэта прыбыла каманда па катаванню. Хагрыд развярнуўся і рушыў назад ў дом, пакінуўшы дзверы ў сад прыадчыненымі. Гары ўбачыў плямкі прымінаемай травы і пачуў, як адступілі тры пары ног. Ён, Герміёна і Рон адыйшлі... але цяпер ён з Герміёнаю маглі, праз прыадчыненныя дзверы, чуць тое, што адбываецца ў хаціне палясоўшчыка.

- Дзе жывёла?- спытаўся халодны голас Макнэйра.

- Там... звонк’,- прахрыпеў Хагрыд.

Гары паспешліва схаваў галаву за дрэва, калі твар Міакнэйра высунуўся у вакно і паглядзеў на Бакбіка. Потым пачуўся голас Фаджа.

- Мы... эээ... Хагрыд, мы павінны прачытаць табе афіцыйнае апавяшчэнне аб пакаранні. Я зраблю гэта хутчэй. А потым ты і Макнэйр павінны будзеце яго падпісаць. Макнэйр, ты таксама павінен слухаць, такая працэдура...

Твар Макнэйра зноўку схаваўся за фіранкамі. Трэба было дзейнічаць ці зараз, ці ніколі.

- Чакай тут,- прашапатаў Гары Герміёне,- я сам усё зраблю.

Голас Фаджа адчуўся зноў. Гары выбег з-за дрэва, скочыў праз плот і наблізіўся да стаячага між гарбузовых градак гіпагрыфа.

«Згодна з пастановаю Камітэта па знішчэнні небяспечных істот, гіпагрыф Бакбік, які надалей будзе менавацца асуджаным, павінен быць катаваны шостага чэрвеня на заходзе сонца...»

Імкнучыся не мыргаць, Гары наблізіўся да гіпагрыфа і зірнуў у яго разлютаваныя памаранчавыя вочы, а затым прыхіліў галаву. Бакбік прыўстаў на свае лускаватыя калені, а потым зноўку падняўся на ногі. Гары наблізіўся да яго і прыняўся важдацца з вяроўкай, якой таго прывязалі да плота.

«... праз адсячэнне галавы. Катаванне будзе здзейснена, праз ката Вольдэна Макнэйра, прызначанага дзеля гэтага камітэтам...»

- Давай, Бакбік,- прамармытаў Гары,- мы прыйшлі дапамагчы табе. Хуценька...

- «...пра што, той падцвердзіць пісьмова». Хагрыд, а ты павінен падпісаць тут...

Гары з усяе моцы цярнуў за вяроўку, але Бакбік усадзіў кіпцюры ў зямлю і не рушыў.

- Ну, давайце скончым гэта па хуткаму,- адчуўся з хаціны пранізлівы голас старога камітэтчыка,- Хагрыд, я лічу, табе лепш будзе застацца ў хаце...

- 'ні, я... я жадаю быць з ім... я не хачу, каб ён знаходзіў' ў самоце...

З хаціны адчулася рэха крокаў.

- Бакбік, хадзема!- прасыкаў Гары.

Гары з усяе моцы пацягнуў за вяроўку, што была абвязага вакол шыі гіпагрыфа і той паволі, раздражнённа грукочачы крыллем, рушыў наперад. Да Забароненнага леса заставалася дзесяць футаў і іх цяпер было добра бачыць з задніх дзвярэй хаціны.

- Калі ласка, адну хвіліну Макнэйр,- адчуўся голас Дамблдора.- Ты таксама павінен падпісацца. Крокі супыніліся. Гары мацней пацягнуў за вяроўку, Бакбік злосна пстрыкнуў дзюбай, але пайшоў троху хутчэй.

З-за дрэва высунуўся збялелы твар Герміёны.

- Гары, шпарчэй!- аднымі вуснамі прамовіла яна.

Гары ўсё яшчэ чуў голас Дамблдора ў хаціне. Ён ўзмацніў ціск на вяроўку і Бакбік неахвотна перайшоў на рысь. Яны дасягнулі ўзлесся...

- Хуценька! Хуценька!- прастагнала Герміёна, яна выскачыла з-за дуба, падбяжала да Гары і схапіўшы за вяроўку таксама яе пацягнула. Дадатак вагі прымусіў гіпагрыфа рушыць яшчэ хутчэй. Гары азірнуўся, яны былі па-за межамі нечых вачэй, але таксама не маглі бачыць тое, што тварылася ў Хагрыдавым садзе.

- Стой!- прашапатала Герміёна.- яны могуць пачуць нас...

Заднія дзверы з грукатам адчыніліся. Гары, Герміёна і Бакбік, супыніліся і нават гіпагрыф, уважліва прыслухаўся.

Спачатку было ціха... А потым...

- Куды ён падзеўся?- спытаўся пранізлівы голас камітэтчыка.- Дзе жывёла?

- Ён быў прывязаны тут!- люта крыкнуў кат.- Я бачыў яго! Вось на гэтым вось месцы!

- Як незвычайна,- прамовіў Дамблдор і ў яго голасе пралуналі ноткі захаплення.

- Бікі!- хрыпла прамовіў Хагрыд.

Адчуўся свіст сякеры. Напэўна кат у разлютаванасці абрынуў яе на плот. Потым раздаўся Хагрыдавы вой, але на гэты раз яны маглі пачуць словы.

- Уцёк! Уцёк! Б'аславёна яго дзюбанька, ён УЦЁК! Пэўна сам ас'абадзіўся! Бікі, ты ж мой разумны хлап'анятка!

Бакбік пачаў цягнуць за вяроўку, збіраючыся павярнуцца да Хагрыда. Таму Гары і Герміёне прыйшлося настолькі ўзмацніць ціск, што іх пяткі закапаліся ў глебу.

- Нехта развязаў яго!- зароў кат.- Мы павінны абшукаць тэрыторыю, лес...

- Макнэйр, калі гіпагрыфа сапраўды нехта скраў,- ўсё яшчэ захоўваючы ў голасе ноткі радасці, заўважыў Дамблдор,- няўжо ты лічыш, што злодзеі павядуць яго кудысь пешшу? Але калі жадаеш, можаш абшукаць неба... Хагрыд, ці не знойдзецца ў цябе кубачка гарбаты. Ці куфля брэндзі.

- Та'... та' вядома ж, прафесар,- адказаў Хагрыд, голас якога аж аслабеў ад шчасця,- Хадземць, хадземць...

Гары і Герміёна ўважліва прыслухаліся. Яны пачулі адыходзячыя крокі, ціхія праклёны ката. Нарэшце запанавала цішыня.

- І што цяпер?- азіраючыся прашапатаў Гары.

- Нам пакуль што прыйдзецца перасядзець тут,- адказала ашаломленая Герміёна.- Нам трэба дачакацца, пакуль яны не вернуцца да замка. І пакуль Бакбік зможа спакойна падляцець да сірыюсава вакна. Гэта будзе не менш чым праз дзве гадзіны... як усё гэта цяжка...

Яна нервова паглядзела праз плячо ў глыбіню леса. Сонца пакрысе хавалася за даляглядам.

- Нам трэба змяніць схованку,- задумліва прамовіў Гары.- Мы павінны добра бачыць Лупцуючую вярбу, ці не будзем ведаць што адбываецца.

- Балазе,- адказала дзяўчынка і зручней схапіла вяроўку да якой быў прывязаны Бакбік.- Але памятай Гары, нас ніхто не павінен бачыць...

Яны зноўку пусціліся скрозь густы змрок па ўзлессі. Нарэшце яны дасягнулі алейцы дрэў з-за якіх мажліва было ўпотай назіраць за Вярбой..

- Глядзі, вунь Рон!- нечакана прамовіў Гары.

Праз траўнік бегла нейкая цёмная постаць, чый крык рэхам пранізаў начное паветра.

- Вэк ад яго... вэк... Скаберс, ходзь да мяне...

Потым знеадкуль у паветры матэрыялізаваліся яшчэ дзве постаці. Гары ўбачыў як ён з Герміёнаю пагналіся за Ронам, потым як Рон паваліўся на зямлю.

- Вось табе! Ідзі прэч, смярдзючы кот...

- Ага, а вось і Сірыюс!- сказаў Гары. З-пад каранёў Лупцуючай вярбы выскачыла постаць вялізнага сабакі. Ён сшыбіў на зямлю Гары і схапіў Рона...

- Адсюль, усё выглядае яшчэ горш, як лічыш?- прамовіў хлопец, гледзячы, як сабака зацягвае Рона між каранёў.- Ай... глядзі, мяне толькі што шыбанула галінкай... цяпер цябе... як жа ўсё гэта ДЗІЎНА...

Лупцуючая Вярба рыпела і атакавала іх сваім ніжнім галлём. Гары і Герміёна бачылі, як яны, падчас спробы прабрацца да камля атрымліваюць адзін за другім моцныя ўдары дрэва. Раптам Вярба замярла.

- Гэта Крукшанс націснуў на вузел,- прамовіла Герміёна.

- Так, мы пайшлі...- замармытаў Гары.- Мы ў праходзе.

У той жа момант, дрэва пачало рухацца ізноў. Праз колькі секунд, яны адчулі паблізу ад сябе нечыя крокі. Дамблдор, Макнэйр, Фадж і стары камітэтчык вярталіся да хогвартскага замку.

- Адразу пасля таго, як мы трапілі ў праход!- прамовіла Герміёна.- А калі б толькі Дамблдор мог пайсці з намі...

- Макнэйр і Фадж, пайшлі бы за ім і б’юся ў заклад,- з’едліва адказаў ёй Гары,- што Фадж імгненна загадаў бы Макнэйру забіць Сірыюса...

Яны глядзелі, як чацвёра мужчын рушылі да замку, а потым зніклі з іх вачэй. Колькі хвілін паблізу ад Вярбы нікога не было. І тут...

- А вось і Люпін!- прамовіў Гары. Яны ўбачылі як нехта збягае па каменных прыступках і імчыць да Вярбы. Гары паглядзеў на неба. Хмары цалкавіта засланялі месяц.

Падбегшы да дрэва Люпін схапіў нейкую паламаную галінку і націснуў ёй на камель. Дрэва супынілася і прафесар таксама знік ў шчыліне між карэння.

- Калі б ён захапіў з сабою Мантыю,- прамармытаў Гары.- Яна ж ляжала на яго вачах...

Ён павярнуўся да Герміёны.

- Калі я зараз выскачу і забяру яе, Снэйп не зможа яе атрымаць і...

- Гары, НАС АНІХТО НЕ ПАВІНЕН БАЧЫЦЬ!

- Як ты толькі можаш вытрымаць гэта?- у адчаі спытаўся ён у Герміёны.- Як можна папросту стаяць і назіраць за тым, што тварыцца?- Гары завагаўся.- Я пайду і забяру яе!

- Гары, НЕ!

Герміёна схапіла яго за вопрадку і пацягнула назад і зрабіла гэта вельмі сваечасова. У наступнае імгненне паблізу грыманула песня. Гэта быў Хагрыд, ён крочыў да замка спяваючы ўва ўсё горла, яго злёгку віхляла. У руке палясоўшчыка гайдалася вялізная бутэлька.

- Бачыш?- прашапатала дзяўчынка.- Разумееш, што магло б здарыцца, калі б ён нас заўважыў? Мы павінны дзейнічаць ўпотай! Не, Бакбік!

Гіпагрыф адчайна спрабаваў вярнуцца да Хагрыда, Гары таксама моцна ухапіўся за вяроўку, напружана стрымліваючы яго на месцы. Хагрыд віхляючы нехлямяжа крочыў да хогвартскага замку. Потым ён знік з вачэй. Бакбік прыпыніў свае змаганні і сеў, маркотна апусціўшы дзюбу.

Не мінула і дзвюх хвілінаў, як дзверы Галоўнага ўвахода зноўку адчыніліся і з іх выскачыў Снэйп, ён пасьпяшаў да Вярбы.

Гары сціснуў кулакі ўбачыўшы як прафесар Снэйп затармазіў ля дрэва і ўважліва азірнуўся навокал. Ён убачыў на зямлі Мантыю і падняў яе.

- Прыбяры ад яе свае брудныя рукі,- прагыркатаў сабе пад нос хлопец.

- Шшш!

Снэйп схапіў тую ж галінку, што да яго выкарыстоўваў Люпін, тыцнуў на сучок і накінуўшы на сябе Мантыю знік.

- Ну вось,- ціха падагульніла Герміёна,- цяпер мы ўсе там... і застаецца толькі сядзець і чакаць пакуль мы вернемся...

Яна узялася за канец вяроўкі, што была правязана за шыю Бакбіка і надзейна прымацавала яе да бліжэйшага дрэва. Потым села на сухую зямлю і абняла сабе за калені.

- Гары, я не разумею адно... чаму ў дэментараў не атрымалася схапіць Сірыюса? Я памятаю, як яны наблізіліся да нас, а потым я згубіла прытомнасць... іх было гэдак шмат...

Гары прысеў побач. Ён распавёў Герміёне, што бачыў на ўласныя вочы. Што калі бліжэйшы да іх дэментар, схіліўшыся, наблізіў да хлопца свой рот, нешта вялізнае і срэбнае праскакала па возеру і прымусіла дэментараў адступіць.

Калі Гары скончыў свой аповед Герміёна сядзела злёгку раскрыўшы рота.

- Але што гэта магло быць?

- Ёсць толькі адна рэч, якая магла прымусіць дэментараў адысці,- адказаў Гары,- сапраўдны, магутны патронус.

- Але хто яго мог выклікаць?

Гары нічога не адказаў. Ён зноўку падумаў аб чалавеку, якога бачыў на тым беразе возера. Гары лічыў што ведае хто гэта мог быць... але ж гэта немагчыма.

- Хіба ты не заўважыў, як ён выглядаў,- нецярпліва спыталася Герміёна,- Можа гэта быў хтось з настаўнікаў?

- Не,- адказаў Гары,- гэта быў не настаўнік.

- Але ён павінен быць сапраўды наймагутным чараўнікам, каб прымусіць дэментараў адступіць... Калі патронус быў настолькі яскравым, ён часам не асвятліў яго твару? Ці не бачыў ты хто..?

- Так, я яго бачыў,- павольна адказаў Гары.- А можа... толькі ўяўляў сабе, што бачыў. Мае думкі былі пераблытаны... і адразу пасля гэтага я згубіў прытомнасць...

- АЛЕ ХТО ТЫ ДУМАЕШ ГЭТА БЫЎ?

- Думаю...- Гары сглынуў сліну, разумеючы, што яго адказ будзе гучаць вельмі дзіўна.- Думаю гэта быў мой бацька.

Гары зірнуў на Герміёну. Яе дагэтуль прыадчынены са здзіўлення рот, цяпер расчыніўся поўнасцю. Дзяўчынка глядзела на яго адначасова з жахам і спагадай.

- Гары, твой бацька... ну... ён памёр,- ціха прамовіла яна.

- Так, я ведаю,- не губляючы спакою, адказаў хлопчык.

- Ты думаеш, гэта быў яго прывід?

- Ня ведаю... не... у таго было цела...

- Але тады...

- Магчыма мяне толькі трызніла,- адказаў Гары,- але... той каго я бачыў... ён нагадаў мне... ну, я маю фатаздымак...

Герміёна ўсё яшчэ працягвала глядзець на яго так, бы непакоілася аб яго глуздзе.

- Ведаю, гэта ўсё гучыць так, бы я сшалеў,- рашуча прамовіў Гары. Ён павярнуўся ў бок Бакбіка, які калупаў сваёй дзюбаю зямлю, напэўна шукаючы там чарвякоў. Але Гары толькі рабіў выгляд, што глядзіць на гіпагрыфа.

Насамрэч, ён разважаў аб сваім бацьку і яго старых сябрах... Лунаціке, Галахвосце, Мягкалапе і Рагачы... Вось бы ўсе чацвёра аказаліся сёння тут. Галахвост аб'явіўся перад ўсемі тады, калі ўсе лічылі, што ён памёр... дык чаму з яго бацькам не магло быць чагось падобнага? А што калі там на беразе возера быў сапраўды ён? Канечне, той чалавек стаяў занадта далёка, каб выразна бачыць яго...  але Гары быў ўпэўнены, што бачыў яго, за імгненне да таго, як страціць прытомнасць...

Па-над іх галовамі шамацела лістота раздзьмуваемая лёгкім ветрыкам. Па небе плыла поўня адчасу вызіраючы праз дзіры ў хмарах. Герміёна сядзела павярнуўшы галаву ў бок Лупцуючай Вярбы і чакала.

Нарэшце, калі ўжо мінула больш за гадзіну...

- Мы вяртаемся!- прашапатала Герміёна.

Яна і Гары ўскочылі на ногі. Бакбік падняў сваю дзюбу. Разам яна назіралі, як Люпін, Рон і Пэцігру нязграбна выкарасківаліся праз адтуліну між вяробовых каранёў. Следам за імі выплыў дзіўна лунаючы ў паветры знепрытомлены Снэйп. Апошнімі праз адтуліну выйшлі Гары, Герміёна і Блэк. Усе разам яны накіраваліся ў бок замка.

Гарына сэрца хутка закалацілася. Ён зірнуў на неба. Вось вось праз адтуліну ў хмарах павінен паказацца месяц...

- Гары,- прамармытала Герміёна, быццам здагадваючыся аб яго думках,- мы павінны заставацца на месцы. Нас ніхто не павінен бачыць. Мы ня ў стане зрабіць што-небудзь...

- Мы толькі зробім усё, каб не даць Пэцігру зноў уцячы,- спакойна прамовіў хлопец.

- Як ты спадзяешся адшукаць пацука ў цемры?-адрэзала Герміёна.- Мы ня можам дапамагчы. І мы вярнуліся, каб ўратаваць Сірыюса. Мы не павінны рабіць анічога больш!

- Ну добра!

Месяц выслізнуў з-за хмараў. Дзесь ў далечыні супыніліся маленечкія постаці. Потым, сябры ўбачылі нейкае варушэнне...

- Люпін,- прашапатала Герміёна.- Ён пераварочваецца...

- Герміёна,- раптам сказаў Гары,- нам трэба спяшацца!

- Нам нельга! Я ўвесь час кажу табе...

- Ані ўва што не лезці! Але зараз Люпін пабяжыць ў Лес, прама на нас!

Герміёна войкнула.

- Хуценька!- прастагнала яна і кінулася адвязваць Бакбіка.- Хуценька! Але куда нам ісці? Дзе мы будзем хавацца? Дэментары аб’явяцца тут з хвіліны на хвіліну...

- Назад да Хагрыда!- адказаў Гары.- Там цяпер анікога няма... шпарчэй!

Яны пабеглі так хутка, як маглі, а следам за імі галопам несся Бакбік. За сваімі спінамі, яны чулі выццё ваўкалака...

Хутка яны ўбачылі хаціну палясоўшчыка. Гары рвануў на сябе дзверы, прапусціў усярэдзіну Герміёну і Бакбіка, заскочыў сам і зачыніў за сабою дзверы. У хаціне забрахаў вялізарны дог - Фанг.

- Цішэй, Фанг,- прамовіла Герміёна і паспяшалася, каб пачухаць сабаку за вушамі,- гэта мы! Гары,- звярнулася яна да хлопца,- ён быў настолькі блізка ад нас!

- Так...

Гары вызірнуў у вакно, але даволі складана было зразумець, што там адбываецца. Бакбік быў шчаслівы зноўку вярнуцца ў халупу. Ён выцягнуўся перад комінам, у задавальненні склаў крылы і здавалася быў гатовы даць добрага храпака.

- Мяркую, што мне трэба зноў выйсці надворак,- павольна сказаў Гары.- Я не бачу таго, што адбываецца... і нам будзе цяжка зразумець, калі прыйдзе час...

Герміёна падняла галаву. Яна з недаверам паглядзела на хлопца.

- Я ня буду спрабаваць умешвацца,- хутка прамовіў ён,- Але, як мы інакш даведаемся, што адбываецца і даведаемся аб тым, што надыйшоў час ратаваць Сірыюса?

- Так... ну добра... Я пасяджу тут з Бакбікам... Але, Гары, будзь асцярожны... там ваўкалак... і дэментары...

Гары выслізнуў надворак і абыйшоў хаціну. Недзе здалёк ён пачуў нейкія ляманты. Дэментары ўжо набліжаліся да Сірыюса... і хутка да яго павінны падбегчы ён і Герміёна...

Гары зірнуў у бок возера, яго сэрца знавалася, збіраецца выстукваць у яго грудзях пошчак. Той хто даслаў Патронуса павінен быў аб’явіцца ў любы момант.

Дзелю секунды ён нерашуча стаяў ля Хагрыдавых дзвярэй. «Табе ніхто не павінен бачыць». Але Гары не жадаў, каб хтось убачыў яго. Ён сам жадаў бачыць... ён жадаў ведаць...

Дэментары былі ўжо там. Яны адусюль аб’яўляліся з цемры і слізгалі па азёрным беразе... супрацьлеглым ад таго, дзе зараз стаяў Гары... яму не прыйдзецца праходзіць скрозь іх...

Гары прыпусціў наперад. Ён не мог думаць ані аб чым акрамя бацькі... А калі гэта быў ён... сапраўды быў ён... Ён павінен ведаць гэта, павінен усё высвятліць...

Возера было ўсё бліжэй, але не было аніякіх прыкмет таго, што там нехта быў. На тым беразе ён бачыў малюткія выбліскі срэбра... ад яго ўласных спроб выклікаць Патронуса...

Гары ўбачыў куст, што рос на самым беразе. Ён кінуўся да яго і вызірнуў праз лістоту. На процілеглым беразе зніклі апошнія срэбныя выбліскі. Хлопца прасякнула жахлівае хваляванне... з хвіліны на хвіліну...

- Давай жа!- мармытаў ён ўглядаючыся ў цемру.- Ну дзе ты ёсць? Давай тата...

Але ніхто так і не аб’явіўся. Гары глянуў на кола дэментараў, што згруджалася вакол іх на іншым беразе возера. Адзін з іх спусціў з галавы каптур. Надыйшоў час аб’явіцца ратавальніку... але на гэты раз ніхто не прыйшоў ім на дапамогу...

І тут нечакана... Гары усё зразумеў. Ён бачыў зусім не свайго бацьку... Ён бачыў сябе самога...

Гары скочыў з-за куста і выцягнуў сваю палачку.

- ЭКСПЕКТА ПАТРОНУМ!- пралямантаваў ён.

З кончыка палачкі выбліснула срэбра. Але цяпер гэта была не бясформенная хмарка, а бліскучая, асляпляльна бліскучая срэбная жывёла. Гары прыжмурыўся, спрабуючы разглядзець што гэта. Жывёла нечым нагадвала каня. Яна моўчкі прыпусціла ад яго галопам па паверхні возера. Хлопчык заўважыў як Патронус схіліўшы галаву кінуўся на знатоўпеўшыхся дэментараў... ён кружляў і кружляў міма гэтых чорных зданяў і яны, знікаючы сярод цемры... адыйшлі прэчкі.

Патронус вяртаўся. Зноў ён нёсся па паверхні вады, але на гэты раз да Гары. І гэта быў не конь. І нават не аднарог. Гэта быў алень. Ён blішчэў бы поўня ў небе... і ён павяртаўся да яго...

Алень спыніўся на беразе. Ён біў капытамі па мягкай глебе не пакідаючы на ёй слядоў і глядзеў на Гары сваімі вялізнымі срэбнымі вачыма. Патронус павольна схіліў сваю рагатую галаву. І тут хлопец ўсё зразумеў...

- Рагач,- прашапатаў ён.

Але як толькі ён дакрануўся да жывёлы сваімі дрыготкімі пальцамі, алень знік.

Гары застаўся стаяць выцягнуўшы руку. Раптам яго сэрца шалёна закалацілася, бо за сваёй спіной ён адчуў тупат капытоў... ён развярнуўся і ўбачыў Герміёну, якая спяшалася да яго, цягнучы за сабою Бакбіка.

- Чым ты займаўся?- люта спыталася яна.- Ты сказаў, што пойдзеш толькі паглядзець!

- Я толькі што выратаваў нам жыццё...- адказаў Гары.- Ходзь сюды... за куст... я растлумачу.

Герміёна слухала аповед Гары і яе рот ад здзіўлення зноў раскрыўся.

- Цябе хтось бачыў?

- Ты што мяне не слухала? Я сам сябе бачыў, але прыняў за бацьку! Усё добра!

- Гары, я не магу паверыць у гэта... ты змог выклікаць Патронуса, які адагнаў усіх гэтых дэментараў! Гэта ж най-найвышэйшая магія...

- Я ведаў, што атрымаецца,- адказаў Гары,- бо ўжо рабіў гэта... разумееш аб чым я?

- Ну ня ведаю... Гары, паглядзі на Снэйпа!

Яны высунуліся з-за куста і паглядзелі на другі бераг возера. Снэйп ўжо вярнуўся да прытомнасці. Ён начараваў насілкі і падняў на іх постаці Гары, Герміёны і Блэка. Чацвёртыя насілкі, якія ўжо плылі ў паветры паблізу ад яго без сумневу неслі на сябе Рона. Потым сваёй палачкай ён пусціў іх перад сабою і накіраваўся разам з імі да замку.

- Так, амаль што час,- напружана прамовіла Герміёна зірнуўшы на гадзіннік.- Мы маем каля сарака пяці хвілінаў перш чым Дамблдор зачыніць дзверы нашай палаты. Гэтага хопіць, каб выратаваць Сірыюса і вярнуцца назад, перш, чым хтось зразумее, што мы адсутнічалі...

Яны прыняліся чакаць, назіраючы, як па возеры плывуць адлюстраванні хмарак і слухаючы, як пад ветрыкам нешта шапоча куст, за якім яны хаваліся. Бакбік знудоціўшыся зноў прыняўся калупаць чарвей.

- Думаеш ён ужо там?- спытаўся, гледзячы на гадзіннік, Гары. Ён падняў галаву на замак, адлічваючы вокны ў Заходняй Вежы.

- Глядзі!- прашапатала Герміёна.- Хто гэта? Хтось выйшаў з замка!

Гары ўзірнуўся ў цемру. Нейкі мужчына спяшаў да аднаго з выхадаў з фальварка. За яго пасам нешта блішчэла.

- Гэта Макнэйр!- адказаў Гары.- Кат! Ён ідзе па дэментараў! Герміёна, час...

Дзяўчынка паклала свае рукі на Бакбіка і Гары падставіўшы рукі дапамог ёй падняцца на спіну гіпагрыфа. Потым абапёршыся нагой на адну з ніжніх галінак куста, хлопчык падняўся сам і сеў на бакбікаву спіну перад Герміёнаю. Падцягнуўшы вяроўку, ён прывязаў яе з іншага боку аброжка нібы лейцы.

- Гатова?- шэптам спытаўся ён у Герміёны.- Табе лепш трымацца за мяне...

Ён штурхнуў гіпагрыфа пяткамі па баках.

Бакбік хутка ўзмыў у цемру. Гары сціснуў яго бакі каленямі і адчуў, як перад ім ўздымаюцца і апускаюцца вялізныя магутныя крылы жывёлы. Герміёна вельмі моцна сціснула яго за талію і хлопец адчуў, што яго пачало нудзіць.

- Вой не... мне гэта не падабаецца... вох, мне гэта сапраўды не да спадобы...

Гары прыпусціў гіпагрыфа. Яны павольна падняліся да верхніх паверхаў замку... Гары пацягнуў за левы бок вяроўкі і Бакбік развярнуўся. Хлопчык спрабаваў палічыць мільгаючыя міма яго вокны...

- Тпруу!- загадаў ён, з усяе моцы пацягнуўшы лейкі на сябе.

Гіпагрыф запаволіў рух і супыніўся на месцы і толькі працягваў падымацца і апускацца на фут-другі, каб заставацца ў паветры.

- Ён там!- прамовіў Гары, зазірнуўшы у вакно перад якім яны супыніліся і знайшоўшы там Сірыюса. Гары выцягнуў руку і калі Бакбік апусціў крылы, каротка стукнуў у шкло.

Блэк падняў галаву. Хлопчык ўбачыў, як у таго адпала сківіца. Ён ўскочыў з крэсла на якім сядзеў і падбегшы да вакна паспрабаваў адчыніць яго, але яно было закрыта.

- Пасунься!- клікнула Герміёна і, працягваючы трымаццца за Гары левай рукой, правай дастала палачку.

- Алагамора!

Акно нечакана адчынілася.

- Што... як..?- слабым голасам вымавіў Блэк, вытарапіўшыся на гіпагрыфа.

- Забірайся... у нас няма часу.- сказаў Гары, шчыльна абедзьвума рукамі сціскаючы Бакбіка за гладкую шыю, каб стрымаць яго на месцы.- Табе трэба цікаць адсюль... Хутка тут будуць дэментары... Макнэйр ужо пайшоў за імі.

Блэк схапіўся абедзвума рукамі за аконную раму і высунуў праз яе галаву і плечы. Яму пашанцавала, што ён быў настолькі схуднелым. У лічаныя секунды ён паставіў сваю нагу на спіну гіпагрыфа і праз імгненне ўжо сядзеў ззаду Герміёны.

- Добра, Бакбік,- крыкнуў Гары, хістнуўшы за вяроўку,- давай наверх, на Вежу!

Гіпагрыф ўзмахнуў сваімі магутнымі крыламі, яны зноў рэзка ўзняліся ў паветра і хутка былі ўжо на даху Заходняй Вежы. Бакбік з грукатам прызямліўся і Гары з Герміёнаю адразу асклізнулі з яго спіны.

- Сірыюс, тебе лепш паспяшацца,- запыхаўшыся прамовіў хлопец.- Яны ў любы момант могуць зайсці ў кабінэт прафесара Флітвіка і знайсці, што ты збег.

Бакбік пашкроб дах і рэзка ўскінуў галаву.

- А што з тым хлопцам... Ронам?- хутка спытаўся Сірыюс.

- З ім ўсё будзе балазе... зараз ён у цяжкім стане, але мадам Помфры кажа, што вылекуе яго. Давай... паспяшайся!

Але Блэк працягваў глядзець на Гары.

- Як я магу аддзячыць...

- ЦЯКАЙ ЎЖО!- разам крыкнулі Гары і Герміёна.

Блэк развярнуў гіпагрыфа дзюбай да адкрытага неба.

- Мы яшчэ пабачымся,- прамовіў ён.- Гары... ты сапраўдны сын свайго бацькі...

Сірыюс стукнуў пяткамі па баках гіпагрыфа. Гары з Герміёнаю адскочылі, калі Бакбік зноўку расправіў свае крылы... Ён ўзмыў у паветра... Гіпагрыф і яго вершнік пакрысе станавіліся ўсё менш і менш і, нарэшце, іх закрыла хмарамі, якія плылі вакол месяца... Сірыюс і Бакбік адляцелі прэчкі.

## — РАЗДЗЕЛ XXII —

### *Новая савіная пошта*

- Гары!- Герміёна, пазіраючы на гадзіннік пацягнула яго за рукаў.- У нас засталося дзесяць хвілінаў, каб незаўважна вярнуцца ў шпітальнае крыло... перш чым Дамблдор зачыніць дзверы...

- Добра,- пакутліва пазіраючы на неба, адказаў Гары,- хадзем...

Яны праслізнулі ў дзверы, што вялі з даху і пачалі спускацца па вузкай каменнай спіральнай лесвіцы. Калі яны былі ўжо ў самым нізе, Гары і Герміёна пачулі нейкія галасы. Яны прыцiснуліся да сцяны і прыслухаліся. Гэта размаўлялі Фадж і Снэйп, якія спяшаліся па калідоры ў які спускалася лесвіца.

-... адзіная надзея, што Дамблдор ня будзе чыніць аніякіх перашкод,- сказаў Снэйп.- Пацалунак. Ён будзе выкананы адразу?

- Так. Як толькі Макнэйр вернецца з дэментарамі. Гісторыя з Блэкам настолькі занепакоіла ўсіх. Не магу нават выказаць вам, як я чакаю таго моманту, калі змагу праінфармаваць Штодзённы Вяшчун аб тым, што мы яго нарэшце схапілі... Мяркую яны пажадаюць узяць у вас інтэрв’ю, Снэйп... а пасля таго, як юны Гары вернецца ў свой розум, спадзяюся ён таксама захоча распавесці Вяшчуну аб тым, што менавіта вы выратавалі яго...

Гары сціснуў зубы. Ён бачыў як пасміхаўся Снэйп, калі яны з Фаджам прамінулі месца іх з Герміёнаю схованкі. Нарэшце іх крокі сціхлі. Гары з Герміёнаю пачакалі колькі секунд, каб упэўніцца, што тыя насамрэч адышлі, а потым кінуліся бегчы ў супрацьлеглым кірунку. Яны падняліся па адных сходах, потым па другіх, выбеглі ў іншы калідор... і тут пачулі нейкае гігіканне наперадзе.

- Піўз!- схапіўшы дзяўчынку за руку, прамармытаў Гары.- Сюды!

Яны кінуліся ў пустую класу з левага боку і зрабілі гэта вельмі своечасова. Піўз здавалася несся ўздоўж калідора ў найбаявым настроі і гагатаў.

- Вох, які жах,- прашапатала Герміёна, прыціснуўшы вуха да дзвярэй.- Іду ў заклад, ён радуецца таму, што дэментары збіраюцца скончыць з Сірыюсам...- яна зірнула на гадзіннік,- Гары, засталося тры хвіліны!

Яны прыняліся чакаць, пакуль зларадасны смех Піўза не аддаліцца ад іх, выслізнулілі з класы і зноў кінуліся бегчы.

- Герміёна... а што здарыцца... калі мы не паспеем да таго моманта... калі Дамблдор зачыніць дзверы?- цяжка дыхаючы спытаўся Гары.

- Не жадаю думаць пра гэта!- прамармытала яна і зноў зірнула на свой гадзіннік.- Засталася хвіліна!

Яны дабеглі да канца калідора, што вёў да ўвахода ў шпітальнае крыло.

- Балазе... Я чую Дамблдора,- напружана прамовіла Герміёна.- Давай, Гары!

Яны пайшлі па крыле. Дзверы ў адну з палат адчыніліся і з іх паказалася спіна дырэктара.

- Я збіраюся замкнуць дзверы пакою.- пачулі яны дамблдораў голас.- Зараз, пяць хвілінаў да апоўначы. Міс Грэнджэр, думаю трох круткоў павінна хапіць. Поспехаў.

Дамблдор пакінуў палату і зачыніў за сабою дзверы, потым дастаў палачку і сабраўся замкнуць іх чароўным чынам. У адчаі Гары з Герміёнаю прыпусцілі да яго. Дамблдор падняў вочы, пад яго доўгімі срэбным вусамі паказалася шырокая ўсмешка.

- Ну?- ціхінька спытаўся ён.

- Мы ўсё зрабілі!- ледзь дыхаючы прамовіў Гары.- Сірыюс адляцеў, на Бакбіке...

Усмешка Дамблдора прамяніста заззяла.

- Выдатна. Думаю...- ён прыслухаўся да гукаў, што даносіліся з палаты.- Так, думаю вы ўжо адыйшлі. Заходзце... я вас замкну...

Гары і Герміёна праслізнулі ў пакой. Там не было анікога за выключэннем Рона, што неварухнуўшыся ляжаў на самым апошнімі ложку. За іх спінамі пстрыкнуў замок, Гары і Герміёна папляліся да сваіх ложкаў. Дзяўчынка на хаду заправіла часакрут пад мантыю. Праз імгненне са свайго кабінэту выйшла мадам Помфры.

- Дырэктар ужо сыйшоў? Цяпер мне можна заняцца сваімі пацыентамі?

Яна прыбывала ў надта благім настроі. Гары з Герміёнаю вырашылі, што будзе лепш, калі яны ціха з’ядуць свой шакалад. Мадам Помфры стаяла па над імі сочачы, каб яны скаштавалі ўсё да шчэнту. Але Гары было цяжка глытаць. Ён і Герміёна чакалі, уважліва прыслухаўшыся, іх нэрвы былі нацягнуты да краю... Калі яны прыняліся за чацвёрты кавалачак, аднекуль зверху да іх рэхам данёсся разлютаваны роў...

- Што гэта было?- з трывогаю спыталася лекарка.

Цяпер разлютаваныя галасы чуліся бліжэй і бліжэй. Мадам Помфры зірнула на дзверы.

- Аёечку... яны ж усіх перабудзяць! Яны разумеюць, што робяць?

Гары паспрабаваў зразумець аб чым кажуць галасы. Яны набліжаліся...

- Ён магчыма дызапарыяваў, Северус. Мы павінны былі пакінуць кагосьці ў пакоі разам з ім. Калі пра гэта даведаюцца...

- ЁН НЕ МОГ ДЫЗАПАРЫЯВАЦЬ!- равеў Снэйп дзесь вельмі блізка.- У ЗАМКУ НЕЛЬГА АПАРЫЯВАЦЬ! ЁН... ЗНІК... З... ДАМАМОГАЙ... ПОТЭРА!

- Северус... не кажыце лухты... Гары быў замкнёны...

БАМ.

Дзверы ў шпітальнае крыло з крукатам раскрыліся.

У палату завіталі Фадж, Снэйп і Дамблдор. З усіх прысутных толькі дырэктар быў у спакойным стане, больш таго, здавалася ён быў цалкам задаволены сабой. Фадж быў надта раззлаваны, а вось Снэйп прыбываў па-за сябе ад лютасці.

- КАЖЫ ПРАЎДУ, ПОТЭР!- прагыркатаў ён.- ГЭТА ТВАЯ СПРАВА?

- Прафесар Снэйп,- пранізліва загаласіла мадам Помфры.- Трымайце сябе ў руках!

- Паслухайце, Снэйп, будзьце разумным,- прамовіў Фадж,- дзверы былі зачынены, вы самі гэта бачылі...

- ГЭТА ЯНЫ ДАПАМАГЛІ БЛЭКУ ЗБЕГЧЫ, Я ВЕДАЮ!- галасіў Снэйп, кажучы на Гары з Герміёнаю. Яго твар быў скажоны ад злосці а з вуглакоў рота ляцела сліна.

- Супакойцеся ўжо!- гыркнуў міністр.- І не кажыце ерунды!

- ВЫ НЯ ВЕДАЕЦЕ ПОТЭРА!- правішчаў Снэйп.- ГЭТА ЁН, Я ВЕДАЮ, ГЭТА ЁН...

- Якім чынам ён мог гэта зрабіць, Северус,- спакойна сказаў Дамблдор.- Думай аб чым кажаш. Я сам замкнуў гэтыя дзверы, калі дзесяць хвілін таму пакідаў палату. Мадам Помфры, хтось з вучняў пакідаў свае ложкі?

- Вядома ж, не!- раз’ятрыўшыся адказала яна.- І я была з імі ад таго часу, як вы сыйшлі!

- Ну, вось чуеш, Северус,- працягваючы захоўваць спакой прамовіў Дамблдор.- Калі ты не будзеш сцвярджаць, што Гары з Герміёнаю могуць быць адначасова ў дзвюх месцах, баюся, я не бачу сэнсу, працягваць іх турбаваць.

Снэйп стаяў кіпянеючы са злосці, пазіраючы то на, цалкам шакаванага яго паводзінамі, Фаджа, то на Дамблдора, вочы якога зіхацелі за акулярамі. Потым ён развярнуўся і выляцеў з палаты так, што яго мантыя засвістала пад ветрам.

- Які ў вас неўраўнаважаны настаўнік, Дамблдор,- гледзячы ўслед Снэйпу прамовіў міністр.- На вашым месцы, я б уважліва прыглядзеў за ім.

- Ён ураўнаважаны,- спакойна адказаў Дамблдор,- але пакутуе з цяжкага расчаравання.

- Не ён адзін!- прапыхкаў міністр.- Штодзённы Вяшчун падыме мяне на смех! Мы заціснулі Блэка ў кут, але ён чарговы раз выслізнуў скрозь нашыя пальцы! А калі яны даведаюцца, што ў гэты ж дзень уцёк гіпагрыф, з мяне зробяць блазня! Ну... лепш я пайду і дакладу аб тым, што здарылася ў Міністэрства...

- І аб дэментарах таксама.- сказаў Дамблдор.- Спадзяюся іх выдаляць са школы.

- А, так, зразумела яны сыйдуць,- адказаў Фадж, разгублена чухаючы галаву.- Нават у кашмарах не сніў, што яны могуць выйсці з-пад кантролю і... паспрабаваць Пацалаваць нявіннага хлапчука... Не, сёння ж да ночы, я адпраўлю іх назад у Азкабан. Нам магчыма мае сэнс абмеркаваць, ці не паставіць дзеля аховы школы драконаў...

- Хагрыду гэта спадабаецца,- прамовіў Дамблдор, з усмешкаю зірнуўшы на Гары і Герміёну. Калі дырэктар і міністр пакінулі палату, мадам Помфры паспяшалася замкнуць дзверы. Нешта злосна мармычучы сабе пад нос, яна вярнулася ў свой кабінэт.

У дальнім кутку палаты нехта ціхінька застагнаў. Гэта прачнуўся Рон. Гары і Герміёна бачылі, як ён падняўся, паціраючы галаву і азіраючыся навокал.

- Што... што здарылася?- прастагнаў ён.- Гары. Чаму мы ляжым тут? Дзе Сірыюс? Дзе прафесар Люпін? Што тут адбываецца?

- Распавядзі яму,- папрасіў Гары ў сяброўкі і ўзяў сабе чарговы кавалак шакаладу.

*

Калі на наступны дзень па апоўдні Гары, Рон і Герміёна пакінулі шпітальнае крыло, яны ўбачылі амаль што цалкам пусты замак. З надворку стаяла спякота, іспыты ўжо прамінулі, таму усе хто меў дазвол, скарысталіся ім, каб апошні раз перад вакацыямі наведаць Хогсмід. Але, ані Рон, ані Герміёна ня мелі жадання туды ісці, таму разам з Гары пусціліся блукаць па фальварку, абмяркоўваючы незвычайныя падзеі мінулай ночы і задаючыся пытаннем дзе зараз Сірыюс і Бакбік. Прысеўшы на беразе возера і назіраючы за Вялізным кальмарам, што гультаявата размахваў па паверхні сваімі шчупальцамі, яны працягнулі размову, але Гары страціў яе ніць, бо зірнуўшы на супрацлеглы бераг ён адразу ж прыпомніў, што яшчэ ўчора ўночы туды да яго, па паверхні возера скакаў срэбны алень...

Ззаду на іх напоўз нечый вялізны цень, Гары, Рон і Герміёна паднялі галовы і ўбачылі Хагрыда, што выціраў свой узапрэлы лоб хусткаю памерам у добры абрус і глядзеў на іх моцна асавелымі, але ззяючымі вачыма.

- Ведаю, што я ня ‘вінен адчуваць с’бе шчаслівым пасля таго што а’былося ўночы,- прароў ён,- я пра то’, што Блэк зноўку ўцёк і таму падобна’... Але веда’це што?

- Што?- спыталіся сябры зрабіўшы выгляд, што іх гэта моцна цікавіць.

- Бікі! Ёе збёг! Ён на волі! Я свят'аваў гэта ўсю ноч!

- Супер!- прамовіла Герміёна, кажучы кулака Рону, які, здавалася, быў ужо гатовы разрагатацца.

- Га... я пэўн' не пры'язаў яго як трэб',- працягваў Хагрыд, шчасліва апусціўшы вочы.- Я хвальваўся, ранкам думаў... ці ня стрэў ён у лесе прафесара Люпіна, але той казаў мне, што ў ночы някога ня еў...

- Што?- ціха спытаўся Гары.

- Як? Вы нічог' ня чулі?- адказаў Хагрыд і ўсмешка на яго твары крыху паменшылася. Паблізу анікога не было, але Хагрыд сцішыў свой голас і прамовіў.- Эмм... Снэйп сяння ў ранку распавёў слізэрынцам... а тыя пэў' разняслі па ўсёй школе... прафесар Люпін – ва'калак, вось. І мінулай ноччу ён быў надвор'. Цер ён ужо пэў' збірае рэчы.

- Збірае рэчы?- трывожка спытаўся Гары.- Чаму?

- С'ходзіць.- адказаў Хагрыд, ён здавалася быў здзіўлены тым, што Гары ўвогуле задаў гэткае глупае пытанне.- Зволіўся, сяння ранкам. Кажа ня можа болей рызыка'ць.

Гары ўскочыў з места.

- Я да яго,- сказаў ён Рону і Герміёне.

- Але ён ўсё роўна звольніўся...

-... і ты ўсё роўна анічым яму не дапаможаш...

- Мне абыякава. Я павінен пабачыць яго. Сустракаемся тут.

*

Дзверы кабінэта прафесара Люпіна былі адчынены. Ён ужо паспеў запакаваць большась рэчаў. Ля яго старой валізы стаяў пусты акварыюм ў якім калісь сядзеў грындзілоў. Валіза была адчынена і амаль што цалкам запоўнена разнастайнымі рэчамі. Прафесар стаяў схіліўшыся над чымсьці, што ляжала на яго стале. Ён падняў вочы, толькі тады, калі Гары пастукаў у дзверы.

- Я бачыў, што ты ідзеш,- усміхнуўшыся прамовіў Люпін. Ён паказаў на скрутак пергаменту, на які ўважліва глядзеў. Гэта была Мапа Паскуднікаў.

- Я бачыў Хагрыда,- сказаў хлопец.- Ён кажа, што вы звальняецесь. Гэта ж не праўда?

- Баюся, што праўда,- адказаў прафесар. Ён пачаў выцягваць шуфляды са свайго стала і вытрахаць іх змесціва.

- Чаму?- спытаўся Гары.- Міністэрства ж ня думае, што вы дапамагалі Сірыюсу?

Люпін падыйшоў да дзвярэй свайго кабінэта і замкнуў іх.

- Не. Прафесар Дамблдор пераканаў Фаджа, што я пайшоў у Халупу, каб выратаваць цябе.- ён уздыхнуў.- Для Северуса гэта было апошняй кропляй. Думаю страта Ордэна Мерліна балюча ўдарыла па яго гонары. Таму ён... ну... выпадкова прагаварыўся падчас сняданку, што я ваўкалак.

- Але ці можна звальняцца толькі з-за гэтага!- прамовіў Гары.

Люпін коса ўсміхнуўся.

- Заўтра ж у школу пачнуць прылятаць совы ад бацькоў... Гары, яны не захочуць, каб у іх дзяцей выкладаў ваўкалак. А пасля таго, што адбылося ўчора ўночы, я сам так лічу. Я мог пакусаць кагось з вас... гэта не павінна паўтарыцца яшчэ раз.

- Але вы лепшы настаўнік па Абароне ад Цёмных Мастацтваў з тых, што ў нас выкладалі!- сказаў Гары.- Не сыходзьце!

Люпін паківаў галавою, але нічога не адказаў. Ён працягваў спусташаць шуфляды. Гары паспрабаваў прыдумаць яшчэ якісь добры аргумэнт, што прымусіў бы прафесара застацца, але тут Люпін спытаў яго:

- Дырэктар распавёў мне раніцай, што ўчора ў ночы ты выратавал шмат чыё жыццё. Я рады, што ты гэтулькаму навучыўся за гэты час. Раскажы мне аб сваім патронусе?

- Адкуль вы пра ведаеце, што я ім карыстаўся?- збянтэжана спытаўся Гары.

- А што яшчэ мусіла адагнаць дэметараў?

Гары распавёў яму аб тым, што адбылося. Калі ён скончыў, Люпін зноў усміхнуўся.

- Так, твой бацька заўжды пераварочваўся на аленя,- прамовіў ён,- ты меў рацыю. Таму мы і клікалі яго Рагачом.

Люпін закінуў у валізу апошнія колькі кніг, задзвінуў шуфляды і азірнуўся на Гары.

- Вось... я прынёс гэта ўчора з Лямантуючай Халупы,- сказаў прафесар і вярнуў хлопцу Мантыю-Невідзімку,- а ячшэ...- Люпін завагаўся, але аддаў Гары і Мапу Паскуднікаў.- Я больш не з’яўляюся тваім настаўнікам, так што не адчуваю сябе вінаватым у тым, што вяртаю Мапу табе. Мне ад яе няма аніякай карысці, а ты, Рон і Герміёна, мяркую, знойдзеце як яе ўжыць.

Гары ўзяў Мапу і ўсміхнуўся.

- Вы калісь казалі мне, што Лунацік, Галахвост, Мягкалап і Рагач паспрабавалі бы выцягнуць мяне са школы... і, што яны вырашылі бы, што гэта занадта вясёла.

- Так, таму што, мы гэдак бы і зрабілі,- адказаў Люпін, нахіляючыся, каб зачыніць валізу.- Больш таго, з упэўненасцю скажу, што Джэймс быў бы моцна расчараваны, калі б яго сын не знайшоў аніводнага з патаемных замкавых праходаў.

У дзверы пастукалі. Гары спешна запхнуў Мапу і Мантыю-Невідзімку ў кішэню.

Гэта завітаў прафесар Дамблдор. І ён зусім не здзівіўся ўбачыўшы Гары ў кабінэце.

- Твой транспарт чакае цябе ля брамы, Рэмус,- сказаў ён.

- Дзякуй, дырэктар.

Люпін падняў валізу і акварыюм з-пад грындзілоў.

- Ну... бывай, Гары,- усміхнуўшыся прамовіў ён.- Мне сапраўды было прыемна вучыць цябе. Упэўнены, што калісь мы абавязкова ўбачымся зноў. Прафесар, няма неабходнасці праваджаць мяне да брамы, я ўпраўлюся сам...

У Гары склалася ўражанне, што Люпін жадае сыйсці як мага хутчэй.

- Да пабачэння, Рэмус,- стрымана адказаў Дамблдор. Люпін перасунуў акварыюм, каб мець магчымасць пацісньць дырэктару руку. Потымківом канчаткова развітаўся з Гары і, хутка пасміхнуўшыся, пакінуў кабінэт.

Гары сеў на апусцелае крэсла і ўтаропіўся ў падлогу. Ён пачуў як грукнулі дзверы і падняў галаву. Дамблдор усё яшчэ быў тут.

- Чаму маркоцішся, Гары?- ціха спытаўся ён.- Пасля таго што адбылося ўчора ты павінен ганарыцца сабой.

- А які сэнс,- панура спытаўся Гары.- Пэцігру ўсёроўна ўцёк.

- Які сэнс?- спакойна працягваў дырэктар.- Самы найважкі ў свеце. Гары, ты дапамог раскрыцца праўдзе. Ты ўратаваў нявіннага чалавека ад жахлівага лёсу.

Жахлівы. Нешта заварушылася ў галаве хлопца. Будзе яшчэ мацней і жахлівей, чым колісь... Прароцтва прафесаркі Трэлані!

- Прафесар Дамблдор... учора падчас іспыту па Вяшчунству, прафесарка Трэлані зрабілася нейкай вельмі... вельмі дзіўнай.

- Насамрэч?- спытаўся Дамблор.- Эээ... ты маеш на ўвазе больш дзіўнай чым звычайна?

- Так... яе голас быў занадта глыбокім, а вочы закаціліся і яна сказала... яна сказала, што вальдэмортаў слуга апоўначы вырвецца на свабоду, каб вярнуцца да яго... а яшчэ яна сказала, што слуга дапаможа Вальдэморту вярнуць сваю моц,- Гары паглядзеў на Дамблдора.- А потым яна зноўку стала такой, як звычайна і не магла прыпомніць аб тым, што нешта казала. Што гэта было... можа яна зрабіла сапраўднае прароцтва?

Дамблдор паглядзеў на яго злёгку ўражаны.

- Ці ведаеш, Гары, гэта цалкам мажліва,- у задумленасці прамовіў ён.- Хто бы падумаў? У агульным цэлым, гэта ўжо другое яе сапраўднае прароцтва. Трэба будзе падвысіць ёй заробак...

- Але...- Гары з жахам паглядзеў на Дамблора, аднак той заставаўся спакойным.- Але... я супыніў Сірыюса і прафесара Люпіна, калі яны збіраліся забіць Пэцігру! Калі Вальдэморт зноўку вернецца, гэта будзе маёй віною!

- Ані,- спакойна адказаў Дамблдор.- Хіба досвед працы з часакрутам анічаму цябе не навучыў, Гары? Наступствы нашый дзей настолькі заблытаныя і шматгранныя, што прадказанне будучыні, гэта сапраўды вельмі цяжкая справа... І прафесарка Трэлані, блаславі яе Пан, відавочны гэтаму доказ. Ты зрабіў вельмі шляхетна выратаваўшы жыццё Пэцігру.

- Але, калі ён дапаможа Вальдэморту вярнуць моц..!

- Пэцігру абавязаны табе жыццём. Цяпер Вальдэморт будзе мець сярод сваіх паплечнікаў твайго даўжніка. Калі адзін чараўнік ратуе жыццё другога між імі ствараецца пэўная сувязь... і думаю Вальдэморт ня будзе надта задаволены, калі адзін з яго лёкаяў будзе вінен Гары Потэру.

- Я не жадаю мець аніякай сувязі з Пэцігру,- сказаў Гары,- ён прадаў маіх бацькоў!

- Гэта магія самага глыбіннага, самага неспасцігальнага ўзроўня, Гары. Але вер мне... прыйдзе час, калі ты будзеш шчаслівы з таго, што выратаваў яго жыццё.

Гары было цяжка ўявіць, што гэткі час калі-небудзь надыйдзе. Дамблдор зірнуў на яго так, бы ведаў аб чым ён думае.

- Я добра ведаў твайго бацьку, Гары, як у Хогвартсе, так і пасля яго заканчэння,- мягка прамовіў дырэктар,- і ўпэўнены, што ён бы таксама выратаваў Пітэру жыццё.

Гары паглядзеў на яго. Дамблдор ня будзе смяяцца з гэтага... Гары распавядзе яму...

- Ноччу... Я вырашыў, што гэта мой тата выклікаў Патронуса. То бок, калі я ўбачыў сябе праз возера... я вырашыў, што бачу яго.

- Памыліцца было бы даволі лёгка,- мягка адказаў Дамблдор.- Мяркую ты ўжо стаміўся чуць, як неверагодна ты падобны на Джэйса. За выключэннем вачэй... у цябе вочы тваёй маці.

Гары адказаўківом.

- Глупствам было думаць, што гэта ён,- прамармытаў хлопец.- У сэнсе... я ведаў што тата памёр.

- Думаеш, тыя каго мы любілі пасля смерці, сапраўды пакідаюць нас? Думаеш у часы самых найгоршых непрыемнасцяў мы не ўваскрашаем іх у нашай памяці яскравей чым калі-небудзь? Твой бацька жыве ў табе, Гары, і ён найвідавочна паказаў сябе, калі ты меў у ім патрэбу. Як яшчэ ты мог вызваць, менавіта гэтага Патронуса? Па Хогвартсе мінулай ноччу зноў праскакаў Рагач.

Гары спатрэбіўся час, каб зразумець аб чым той кажа.

- Ноччу Сірыюс распавёў мне аб тым, што яны сталі анімагамі,- з усмешкаю працягваў Дамблдор.- Неверагоднае дасягненне... і ў першую чаргу тым, што яны ўтоілі яго ад мяня. Больш таго, я прыпомніў незвычайную форму твайго Патронуса, які абрынуў містэра Малфоя, падчас матчу з Рэйвенкло. Такім чынам ты сапраўды ўчора бачыў свайго бацьку... бачыў у самім сабе.

Дамблор выйшаў з кабінэта, пакінуўшы Гары сам насам з блытанінаю ў думках.

*

Ніхто ў Хогвартсе, акрамя Гары, Рона, Герміёны і Дамблдора, ня ведаў таго, што адбылося той ноччу з Сірыюсам, Бакбікам і Пэцігру. Але ўжо да канца сэместра Гары пачуў шмат тэорый аб тым, што адбылося, але аніводная з іх не наблізілася да праўды.

Аб уцёках гіпагрыфа асабліва злаваў Малфой. Ён быў упэўнены, што Хагрыд знайшоў нейкі спосаб употай пераправіць Бакбіка ў бяспечнае месца, таму выглядаў звышабураным з таго, што яго з бацькам абдурыў нейкі палясоўшчык. Між тым, Персі больш выказваўся, наконт уцёкаў Сірыюса.

- Калі я ўладкуюся на працу ў Міністэрства ў мяне будзе шмат прапаноў, наконт пераробкі Законаў аб Магічных Спагнаннях!- казаў ён, але адзіным чалавекам, які слухаў яго... была яго дзяўчына Пенелопа.

Ня гледзячы на цудоўнае надвор’е, атмасферу ўсеагульнай весялосці і ведаючы, што ён зрабіў, амаль што немагчымыя рэчы, каб дапамагчы Сірыюсу вырвацца на свабоду, Гары ніколі яшчэ не адчуваў сябе напрыканцы навучальнага года ў настолькі благім настроі.

Вядома ён не быў адзіным, хто тужыў аб адстаўцы прафесара Люпіна. Усе хто вучыўся ў яго Абароне ад Цёмных Мастацтваў шкадавалі.

- Цікава, каго прызначаць выкладчыкам у наступным годзе?- змрочна спытаўся Шымас Фініган.

- Можа ўпіра?- выказаў надзею Дын Томас.

Але не толькі адстаўка прафесара Люпіна не выходзіла з галавы ў Гары. Ён амаль увесь час разважаў аб прадказанні прафесаркі Трэлані. Хлопчык турбаваўся аб тым, дзе зараз Пэцігру і ці не знайшоў ён ужо прытулак Вальдэморта. Аднак больш за ўсё яго прыгнятала неабходнасць вяртання да Дурслі. Усяго толькі поўгадзіны, хвалебныя поўгадзіны, ён лічыў, што адгэтуль будзе жыць разам з Сірыюсам... лепшым сябрам яго бацькоў... гэта было амаль тое ж самае, калі б яго тата насамрэч павярнуўся назад. Але цяпер адсутнасць якіхсь звестак аб Блэку было самай лепшай навіной, бо значыла тое, што той дастаткова добра схаваўся. Аднак Гары ня мог не маркоціцца аб тым, што яны маглі жыць разам, а цяпер гэта было амаль што немагчыма.

У апошні дзень сэместра яны атрымалі вынікі іспытаў. Гары, Рон і Герміёна атрымалі добрыя адзнакі па ўсіх прадметах. Гары быў надта здзіўлены тым, што здаў Зеллеварства. Ён меў падазрон, што Снэйп не заваліў яко, толькі дзякуючы ўмяшальніцтву Дамблдора.

Паводзіны Снэйпа ўвесь мінулы тыдзень моцна турбавалі хлопца. Ён нават не мог уявіць, што той можа зненавідзець яго, больш чым колісь, але ў Снэйпа гэта безумоўна атрымалася. Цяпер кожны раз, калі яны сустракаліся, у вуглах Снэйпава рота непрыемна пачыналі тузацца жолвы, а пальцы звесь час сціскаліся, быццам прафесар спрабаваў задушыць Гары.

Персі атрымаў вышэйшую адзнаку за Т.А.Р.Ч.А., а блізняты па колькі П.Р.А.Ш.Ч.А.ў кожны. Тым часам Грыфіндор, не без уплыву захапляльнай перамогі ў школьным Чэмпіянаце па Квідытчу, трэцці год запар выйграў спаборніцтва Дамоў. Таму святочны абед з нагоды заканчэння года праходзіў у Зале упрыхожанай ў пунцова-залатыя колеры. І самым шумліва святкуючым быў зразумела грыфіндорскі стол. Нават Гары, забыўшыся аб тым, што заўтра яму прыйдзецца вярнуцца да Дурслі, піў, еў і смяяўся разам з сябрамі па Доме.

*

Калі наступнаю раніцаю сябры селі на Хогвартс-экспрэс, Герміёна паведаміла Гары і Рону дзіўную навіну.

- Сёння перад сняданкам я заходзіла да прафесаркі МакГонагал. Я вырашыла кінуць заняткі па Маглазнаўству.

- Але ты ж здала свой іспыт з найвышэйшым балам!- прамовіў Рон.

- Так,- уздыхнула Герміёна,- але яшчэ адзін такі год я не вытрымаю. Часакрут ушчэнт выбіваў мяне з розуму і я вярнула яго прафесарцы. Без Маглазнаўства і Вяшчунства я зноў буду мець нармалёвы графік навучання.

- Я паверыць не магу, што ты не расказала нам пра часакрут.- сярдзіта сказаў Рон.- Мы ўсё-ткі сябры.

- Я паабяцала анікому не казаць пра яго.- строга адказала Герміёна. Яна азірнулася на Гары, што назіраў у вакно за тым, як Хогвартс хаваецца за гару. Толькі праз два доўгіх месяцы ён пабачыць яго зноў...

- Вох, кінь тужыць, Гары!- жалобна прамовіла яна.

- Са мной ўсё добра,- адказаў той.- Проста задумаўся аб сваіх вакацыях.

- Так,- сказаў Рон,- я таксама думаў аб іх. Гары, цябе трэба прыехаць і пажыць у нас. Я вырашу ўсё з мамай і татам і звяжуся з табой. Я цяпер ведаю, як карыстацца фэлетонам...

- ТЭЛЕФОНАМ, Рон.- перарвала яго Герміёна.- У наступным годзе табе трэба будзе заняцца Маглазнаўствам...

Але Рон не звярнуў на яе ўвагі.

- У летку адбудзецца Кубак Свету па Квідытчу! Вось я пра што, Гары? Прыяжджай да нас і мы зможам трапіць на яго. Тата дастане квіткі на працы.

Падобная прапанова імгненна ўсхамянула Гары.

- Так... Іду ў заклад, што Дурслі са здавальненнем дазволяць мне ад’ехаць... асабліва пасля таго, што адбылося з цёткай Мардж...

Адчуўшы сябе бадзёрлівей, Гары згуляў з Ронам і Герміёнаю колькі партыяў у выбухаючыя карты, а калі па вагоне прайшла вядзьмарка з вазочкам ласункаў, набыў сабе добры ланч з усяго, што не месціла шакаладу.

Аднак тое, што зрабіла яго па сапраўднаму шчаслівым адбылося па апоўдні...

- Гары,- гледзячы праз яго плячо, прамовіла Герміёна.- Што там такое за вакном?

Гары развярнуўся і зірнуў надворак. За ваконным шклом ці то паказвалася, ці то знікала нешта малюткае і шэрае. Гары выпрастаўся і ўбачыў, што гэта была маленечкая сава, якая нясла ў лапах паштоўку занадта вялікую для яе. Сава была настолькі малюткай, што пад струменнем ветра ад цягніка, яе перагортвала ў паветры і адносіла са шляху. Гары хутка апусціў акно, выцягнуў руку і злавіў птушку, якая нагадала яму надта пухнаты сніч. Гары зацягнуў яе ўсярэдзіну. Птушка кінула ліст на Гарына сядзенне і пачала гойсаць коламі па купэ, верагодна вельмі задаволеная сабой. Хэдвіг, быццам асуджаючы шчоўкнула дзюбай, а Крукшанс сеўшы пачаў сваімі вялікімі жоўтымі вачыма слядзіць за госцяй. Заважыўшы гэта, Рон злавіў саву і схаваў яе ў бяспечным месцы.

Гары ўзяў паштоўку ў рукі. Яна была накіравана яму. Ён разарваў капэрту і загаласіў:

- Гэта ад Сірыюса!

- Што?- усхвалявана спыталіся Рон і Герміёна.- Чытай уголас!

*«Любы Гары,*

*Спадзяюся, ліст дойдзе да цябе раней, чым ты апынешся ў сваіх цёткі з дзядзькам, бо ня ведаю, як яны ставяцца да савінай пошты.*

*Бакбік і я схаваліся ў надзейным месцы. Дзе не скажу, на той выпадак, калі сава трапіць ў чужыя рукі. Не надта спадзяюся на гэту саву, але гэта ўсё, што мне атрымалася набыць і здаецца яна рвецца выканаць сваю працу.*

*Мяркую, дэментары ўсё яшчэ шукаюць мяне, але хай не спадзяюцца знайсці мяне тут. Я планую ў бліжэйшый час трапіць на вочы сяму-таму з маглаў, як мага далей ад Хогвартса. Так што іх ахову з замка здымуць.*

*Наша сустрэча была вельмі кароткай, таму я не паспеў табе сказаць. Гэта я набыў дзеля цябе Вогненную Стралу...»*

- Га!- трыюмфуючы ўсклікнула Герміёна.- Вось! Я ж казала, што мятла ад яго!

- Так, але ці ён сурочыў Стралу?- прамовіў Рон.- АЙ!

Маленечкая скапа, што сядзела ў Ронавым кулаке і шчаслівa вухала ў задавальненні дзюбанула яго ў палец.

*«Крукшанс схадзіў дзеля мяне ў офіс Савінай пошты. Я скарыстаўшыся тваім імем запатрабаваў, каб яны перавялі табе колькасць залатых галеёнаў са сховішча нумар семсот адзінаццаць – майго ўласнага. Лічы гэта падарункам ад хроснага на трынаццацігоддзе.*

*Таксама хачу папрасіць прабачэнне, за тое, што магчыма напалохаў цябе ў тую ноч, калі ты ўцёк з дому твайго дзядзькі. У меня не было іншай магчымасці зірнуць на цябе, перад тым, як накіравацца на поўнач, але думаю, што толькі дадаў табе дадатковага непакою.*

*Прыкладаю да свайго ліста нешта, што зробіць твой наступны год у Хогвартсе крыху больш шчаслівым.*

*Халі будзе патрэба ўва мне, пішы. Твая сава знойдзе мяне.*

*Пазней напішу яшчэ.*

*Сірыюс»*

Гары зноўку з нецярплівасцю зазірнуў у капэрту. Там быў яшчэ адзін кавалак пергаменту. Гары хутка прачытаў яго і раптоўна адчуў як па яго целу разліліся цеплыня і задавальненне, быццам ён адным глытком выпіў цэлую пляшку вяршковага піва.

*«Гэтым лістом, я, Сірыюс Блэк – хросны бацька і апякун Гары Потэра, даю яму дазвол на наведванне Хогсміда па выходных днях»*

- Для Дамблдора падобнага дазволу будзе дастаткова!- шчасліва заўважыў Гары. Ён зноў зірнуў на сірыюсаў ліст.

- О, тут ёсць пастскрыптум...

*«Мяркую, твой сябра – Рон, пажадае пакінуць гэтую саву, бо праз мяне ён застаўся без пацука.»*

Ронавы вочы пашырыліся. У тое ж імгненне скапа ўзрушана вухнула ў яго кулаке.

- Пакінуць?- неўпэўнена прамовіў Рон. Ён на імгненне зірнуў на саву і да вялікага здзіўлення Гары і Герміёны сунуў яе пад мыску Крукшанса.

- Як ты лічыш,- спытаўся ён у ката,- гэта сапраўдная сава?

Крукшас заваркатаў у адказ.

- Мяне гэта задавальняе,- шчасліва прамовіў хлопец.- Я бяру яго.

Гары чытаў і перачытваў пергамент ад Сірыюса ажно пакуль яны не даехалі да Кінг Крос. Ён усё яшчэ сціскаў яго ў руках, калі разам з Ронам і Герміёнаю прамінуў праз бар’ер на платформе дзевяць і тры чвэрці. Гары адразу ж заўважыў барвянатварага дзядзьку Вернана. Ён стаяў на неблагой адлегласці ад містэра і місіс Візлі, насцярожана пазіраючы на іх і, калі Ронава маці вітаючыся абняла Гары, найгоршыя дзядзькавы падазроны здавалася падцвердзіліся.

- Я за...тэлефаную табе наконт Кубка Свету!- крыкнуў Рон, калі Гары развітаўшыся з ім і Герміёнаю пакаціў свой вазок з валізаю і клеткай з Хэдвік ў дзядзькаў бок. Той прывітаўся з хлопцам ў сваёй звычайнай манэры:

- Што гэта?- гыркнуў ён, кажучы на капэрту сціснутую ў Гарынай руцэ.- Чарговы бланк мне на подпіс? Табе трэба...

- Не, зусім не,- шчасліва прамовіў Гары.- Гэта ліст ад майго хроснага.

- Хроснага?- пырснуў сліной дзядзька Вернан.- Ты не маеш аніякага хроснага!

- Маю!- ззяючы прамовіў Гары.- Ён быў лепшым сябрам маіх таты з мамай. Яго судзілі за забойства, але ён збег з чарадзейскай турмы і зараз ува ўцёках. Ён надта жадае ведаць як я маюся... і чакае ад мяне лістоў... каб праверыць... ці шчаслівы я...

Шырока ўсміхнуўшыся перапалоханаму твару Вернана, Гары накіраваўся да выхаду з вакзалу. Клетка з Хэдвіг хісталася перад яго тварам. І хлопцу здавалася, што надыходзячыя вакацыі будуць значна лепшымі за ўсе папярэднія.

**Канец.**